# Частка першая

## I

Вышэй маста берагі рэчкі крутыя і высокія. Праўда, падымаюцца яны не ад самай вады, а воддаль, утвараючы пойму, пасярэдзіне якой у жоўтым наносным пяску і цячэ гэтая невялікая рэчка. Толькі на паваротах яна падмывае то адзін, то другі абрыў, вымываючы з зямлі тоўстыя карэнні, а часам і цэлыя счарнелыя ствалы дубоў.

Некалі тут стаяў лес. Стаяў ён, відаць, не вельмі даўно, бо і цяпер яшчэ на правым беразе захавалася некалькі магутных дубоў. Нібы асілкі, зняўшы шапкі, глядзяць яны ў прастор, упарта не жадаючы скарыцца старасці. Цёмнакарычневыя, нібы абпаленыя агнём лісты сіратліва трапечуцца на іх да самай вясны, покуль не надыходзіць час ім саступіць сваё месца новым, маладым. На левым, больш высокім, беразе ад лесу засталася толькі адна сухаверхая сасна. Яна стаяла ў калгасным двары, якраз насупраць канюшні, таму некалі шурпаты камель яе так быў выцерты жывёлай, што блішчэў, як наглянцаваны.

Гэты бераг быў пясчаны, і пясок з абрыву спаўзаў у рэчку, засыпаў яе. Рэчка мялела з кожным годам, на вачах у людзей.

А ніжэй маста, адразу-ж ад дарогі (дарога нібы мяжой была) пачынаецца заліўны луг, і берагі рэчкі тут нізкія, балоцістыя, улетку яны так зарастаюць травой, што і зблізку не відаць вады.

Луг цягнецца — як кінуць вокам, ажно да цёмнай паласы лесу, што віднеецца за якіх кіламетраў пятнаццаць, падпіраючы там небасхіл. З двух бакоў лугу па ўзгоркі падымаюцца вёскі.

З лугавога боку каля маста быў шырокі плёс.

Максім саскочыў з воза і спыніўся на мосце. Азірнуўся вакол. Палічыў дубы. Да вайны іх было восемнаццаць. Засталося толькі сем.

«Так, на ўсім вайна пакінула свае сляды».

Яму чамусьці раптам захацелася праверыць трываласць лёду на плёсе. Ён адбіў кавалачак мёрзлай зямлі, падышоў да парэнчаў. Але, убачыўшы ў лёдзе некалькі свежых прабоін, шыбнуў свой камяк убок. У палонках ледзь прыкметна калыхалася чорная вада. Толькі адзін камяк не прабіў лёду, мабыць, не з вялікай сілай быў кінуты. З-пад яго ва ўсе бакі, як павуцінне, разыходзіліся белыя трэшчынкі. «Як знаёма ўсё», — Максім адчуў нейкую прыемную цеплыню ў грудзях.

Так, усё вельмі знаёмае, але — дзіўнае пачуццё! — у той-жа час і нейкае не такое, якім было шэсць год назад. Напрыклад, вуліца ў роднай вёсцы здалася вузейшай, рэчка таксама, і адлегласць ад вёскі да яе нібы скарацілася.

Максім, абапёршыся на парэнчы, угледзеўся ў лёд і ўбачыў там сваё адлюстраванне. Было яно цьмянае, невыразнае і калыхалася.

— Але-е, нямала вады сплыло, — прамовіў ён уголас і рушыў за канём. — Но-о, ты! Парожні воз цягнуць не хочаш!

Конік, што быў спыніўся за мастом, чакаючы гаспадара, павольна рушыў далей. Затарахцелі, забрынчэлі пабітыя калёсы, падскокваючы на мёрзлых грудах. Максім ішоў узбоч, весела махаючы пугай.

— Але-ж і грэбелька!.. Няўжо цяжка было адрамантаваць? Як толькі яны ўвосень прабіраліся тут?

Недалёка ад маста — доўгая сажалка. У Максімавай памяці захавалася многа прыгод, звязаных з ёю. Гэта з даўніх часоў было любімае месца дзяцей, асабліва ў такую пару, бо замярзала яна раней, чым рэчка. І цяпер Максім пачуў звонкі дзіцячы смех і ўбачыў, як за кустамі мільгаюць заячыя шапкі.

Група хлапчукоў смела кружылася вакол шырокай палонкі, выпісваючы такія адмысловыя фігуры, што Максім ажно пазайздросціў.

Хлапчукі, убачыўшы яго, з'ехаліся адзін да аднаго і спыніліся, аб нечым зашапталіся. Ім стала крыху дзіўна: толькі ўчора Лескавец прыехаў дамоў, яшчэ і на вуліцы ні разу не паказаўся, не даў паглядзець на сябе і ўжо едзе ў лес.

— Што, трымае, хлопцы? — весела гукнуў ім Максім.

— Угу! Моцны ўжо! — азваліся яны.

Ён уподбег дагнаў каня, ускочыў на воз, ляснуў пугай.

— Но-о! Варушыся!

Конь ірвануў і раптам... выскачыў з аглобляў, нацягнуўшы лейцы, якія былі закручаны за драбіну. Церазсядзельнік перавярнуў сядзёлку.

Ззаду грымнуў выбух смеху, ды такі моцны, што, здалося, праваліўся лёд.

— Тпр-ру! Чорт! Смяротнік! — злосна прасіпеў Максім і, адчуваючы, як загараюцца вушы, твар, хутка саскочыў з воза і пачаў аглядаць, што здарылася.

«Стары пень! Не мог даць лепшай збруі. Праз такі хамут слон пралезе, не толькі што гэтая кусюлька. Ну, ну, стой смірна! А то я хутка... Што-ж тут зрабіць з такім хамутом?»

Яго злосныя думкі перапынілі хлапчукі. Яны нечакана з'явіліся перад ім. Чырвоныя твары іх былі сур'ёзныя, паважныя, нібы гэта зусім і не яны толькі што так гучна смяяліся.

— Мо дапамагчы, дзядзька? — ціха спытаў адзін з іх, але Максім убачыў, як ён хітравата падміргнуў сваім сябрам. Лескавец па абліччу пазнаў хлапчука і таксама з хітрасцю спытаў:

— Ты часам не Міхайлы Прымака сын?

— Яго. А што?

— То-та, бачу я — хітры, як бацька.

— А вы гужы перакруціце, яны доўгія, — сур'ёзна параіў другі.

Максім скарыстаў параду і хутка перапрог каня.

Але пакрыўджаны хлопчык рашыў адплаціць яму і, зрабіўшы выгляд, што не звяртае больш на Максіма ніякай увагі, пачаў весела расказваць сябрам:

— А то тут улетку было здарэнне... Адзін начальнік, каторы з раённых, ехаў, дык у яго конь таксама распрогся, за вярбу зачапіў, бо-ж гаспадар храпака задаваў. Дык вось хадзіў ён, хадзіў вакол таго каня... А мы з Сцёпкам гусей пасвілі, у кустах ляжалі. Бачым гэта мы, і я здагадаўся: не можа чалавек запрэгчы. Потым ён нас угледзеў і ідзе да нас... Я і кажу Сцёпку: скажам, што мы таксама не ўмеем запрагаць...

Максіму падабаўся хлопец, і ён, сядаючы на воз, весела засмяяўся.

Хвойнік быў кілометры за два ад рэчкі. Ён цягнуўся доўгай паласой па высокім узгорку і быў не намнога маладзейшы за Максіма. Лескавец помніў, як яго садзілі, каб затрымаць наступ пяску на ўрадлівыя палі, што ляжалі каля рэчкі, пад дубамі. За якіх год пяць хвойнік перарос «Максіма і яго аднагодкаў. А перад вайной гэта быў ужо добры калгасны лясок — любімае месца дзяцей. Ды і старэйшыя часта адпачывалі ў святочныя дні на ўзлеску, дзе побач з хвоямі параслі кучаравыя бярозкі. Паветра ў хвойніку ў летнія дні было духмянае і густое.

Восеньскімі раніцамі хвойнік напаўняўся вясёлым гоманам і галёканнем дзяцей. І колькі-б іх там не было — і з Лядцаў і з Дабрадзееўкі — усе праз гадзіну-другую выходзілі з поўнымі кошыкамі чырвоных рыжыкаў і слізкіх маслюкоў. А яшчэ ў хвойніку зграбалі ігліцу, якую клалі на подсціл, каб больш было гною, і накрывалі капцы бульбы.

Максім з радасным хваляваннем пад'язджаў да хвойніку. Нават і пра выпадак ля маста забыўся. Але на ўзлеску ён разгублена спыніў каня. Хвойніку амаль што не было. З боку вёскі цягнулася вузкая паласа нізкарослых, каржакаватых хвой, якія здалёк і стваралі ўражанне, што лясок стаіць някранутым. У сапраўднасці за імі, паабапал дарогі, ляжала вялікае ляда, заваленае сухім галлём. Большасць пнёў ужо счарнела, аблупілася кара на іх, некаторыя былі абколаты. Але нямала пнёў блішчэла жаўтлявымі лысінамі — дрэвы былі спілаваны зусім нядаўна.

Сіратліва стаялі адзінокія хвоі — альбо вельмі тонкія, альбо ніз-каслыя і сукаватыя, якія не былі прыгодны для будоўлі, а на дровы — іх цяжка калоць.

У Максіма сціснулася сэрца ад жалю і крыўды.

«Столькі лесу... Такое багацце... І так марна папсавалі... Навошта?..»

Ён доўга стаяў нерухома, аглядаючы ляда. Не падымалася рука ссекчы тут яшчэ хоць адно дрэўца. Хацелася павярнуць каня і ехаць назад, у вёску. Але што скажуць аднавяскоўцы? Ды і маці паабяцаў абавязкова адрамантаваць і ўцяпліць хляўчук для цялушкі. І ён пасля нядоўгага роздуму знайшоў, урэшце, маральнае апраўданне:

«Што зробіш?.. Вайна. І не такія багацці згінулі. А людзям трэба будавацца... Выберу, якім усёадно росту не будзе. Ды, нарэшце, адзін я вялікай парубкі не зраблю».

І ён паехаў далёка на край, пад Голае балота. Хвойнік тут быў пазнейшай пасадкі, а таму амаль някранутым. Сасонкі былі гнуткія і высокія. Максіму якраз і дарэчы былі такія жардзіны. Ён скінуў шынель, адпусціў рамень па гімнасцёрцы і, закурыўшы, пачаў выбіраць дрэўца. Доўга ён кружыў па хвойніку, задраўшы галаву і смокчучы люльку, якая пыхкала лёгкімі клубамі шызага дыму. Шмат разоў ён спыняўся каля сасонак, што былі ніжэйшыя ад іншых, гладзіў рукою кару, абламваў сухія сучкі, спрабаваў на вялікі палец лязо сякеры... Але ў гэты міг зноў да сэрца прыліваў жаль, і Максім ішоў далей.

Урэшце яму стала сорамна за ўласную мяккасць. Тады ён замахнуў з-за пляча сякерай, ахнуў і з сілаю апусціў яе на камель маладой хвойкі, якая аказалася ў гэты момант перад ім. Сякера больш чым на палову ляза ўвайшла ў дрэва. Сасонка спалохана ўздрыганулася, абцярушыла на плечы Максіму сухія іглiцы, галінкі. Ён секанyў у другі раз на вяршок вышэй і адкалоў тоўстую трэску. Бліснула белая рана. І тады зноў з'явілася тое самае пачуццё, якое ўзнікла, як толькі ён убачыў ляда. Максім падняў трэску, хвіліну патрымаў яе ў руцэ, паднёс да твару. Адчуў знаёмы горкі пах застыўшай смалы. Але ад гэтага мацней успыхнула злосць на самога сябе. «Ці такое не шкадавалі!» — і яшчэ двума ўзмахамі сякеры паваліў сасонку, пачаў абцярэбліваць. Спыніў яго вясёлы вокліч, што раптам прагучэў над самым вухам:

— Эге! Пазнаю бацькаву хватку!

Максім ажно ўздрыгнуў ад нечаканасці і хутка павярнуўся з узнятай сякерай. Перад ім стаяў старшыня калгаса Амяльян Дзянісавіч Шаройка — чалавек год пяцідзесяці пяці, з паголенай барадой і

кароткімі акуратна падстрыжанымі вусамі. Ва ўсёй постаці яго, не гледзячы на гады, была нейкая асаблівая дзябёласць.

Шаройка быў у новай ватоўцы, у баранняй шапцы, з бярданкай за плячыма.

— Ваюеш?.. Ну, здароў, здароў, брат, здароў, — ён падаў руку, потым зняў шапку, абняў Максіма і тройчы пацалаваў у шчаку. — Значыцца, зусім... Даўно пара, даўно, даўно. Трэба мірнае жыццё будаваць...

Максім усміхнуўся з яго прывычкі паўтараць адно і тое-ж слова; можа праз гэта яму і вясковая мянушка была Амелька Тройца.

— Прабач, што ўчора на чарку не прышоў. Позна прыехаў з раёна... Пасля чарговай галавамойкі.

Яны селі на паваленую сасну, не змаўляючыся, выцягнулі табакеркі: Шаройка — дзюралюмініевую, уласнай работы, Максім — трафейную, японскую, з чырвонага дрэва, інкруставаную.

Шаройка ўзяў Максімаву табакерку ў рукі, задаволена цмокнуў губамі.

— Але, гэта рэч... Рэч... Нічога не скажаш, рэч... А люльку не люблю... Смярдзіць. Куры мой, з уласнага гароду, першагатунковы. Адвык? Але-е, брат, цяжка прывыкаць будзе...

— Да чаго? — спытаў Максім.

— Як да чаго? Да ўсяго... Сякерай вось, напрыклад, махаць, у зямлянцы жыць...

Максіма пакрыўдзілі гэтыя словы.

— Я не з харомаў прышоў у зямлянку. Пяць год у зямлянках жыў. Ды, урэшце, зямлянка — з'ява часовая. Будзем і мы ў хаце. А вось вам, Амяльян Дзянісавіч, варта было-б пра гэта і памаўчаць. Вам павінна быць сорамна, што сям'я загінуўшага партызана, маці двух афіцэраў Совецкай Арміі дагэтуль жыве ў зямлянцы.

— Так, так! — Шаройка глядзеў у расчырванелы Максімаў твар і весела ўсміхаўся. — Пазнаю характар Антона Захаравіча. Бацька твой, бывала, яшчэ і не прывітаецца, а пачынае ўжо крытыкаваць. Што-ж, крытыка і самакрытыка — галоўнае ў нашым жыцці. Мяне крытыкай не пакрыўдзіш. Я люблю яе, люблю, брат. Толькі ты дарма гарачышся, Максім Антонавіч. Маці тваю ў крыўду не давалі. Каму-каму, а ёй першая дапамога была. Ды толькі, скажу табе, гордая яна старая. Спытай у яе, папрасіла яна хоць раз чаго-небудзь. А паспрабуй ёй прапанаваць — пакрыўдзіцца, гэта я, брат, пераканаўся. Далібог пакрыўдзіцца...

Цёплыя словы пра маці ўлашчылі Максіма, і ён ужо спакойна, нібы жартуючы, сказаў:

— А вы і рады былі гэтаму.

Шаройка адчуў гэтую раптоўную змену і, прапусціўшы заўвагу міма вушэй, зрабіў другі заход:

— Зноў-жа, сам ведаеш, якая там ні дапамога, — але такі цяжар, як хата, адной старой жанчыне не па сіле. Сынклета Лукічна гэта добра разумела. Іншая справа цяпер, калі гаспадар — такі асілак. Тут і дапамагчы радасна. Я ўжо думаў сёння. У нядзелю мабілізуем усё наша цягло, можам нават у суседа пазычыць, так, каб за адзін дзень увесь твой лес быў дома. А там і брыгаду перакінем. Грамадой, брат, гэта хутка...

Максім падзякаваў.

— Няма за што дзякаваць. Святы абавязак наш. А крытыкаваць — крытыкуй. Свежаму чалавеку яно відней усе нашы промахі. Крытыкуй, брат, крытыкуй... Толькі дзякуй скажу за гэта.

Максім паглядзеў на каня, які стаяў воддаль і падбіраў рэшткі кінутага сена.

— Скажаце ці не — справа ваша. А крытыкаваць ёсць за што... Вось... Ці бачылі вы, гаспадар, гэтага каня? За такія адносіны да яго я не ведаю, што зрабіў-бы... Далібог-жа... Вы прабачце, але-ж...

Твар старшыні на момант пацямнеў, знікла весялосць у вачах. Пальцы рукі праскакалі па рамню бярданкі, якую ён трымаў перад сабой, заціснуўшы між кален. Потым ён прыхінуўся шчакой да ствала і хвіліну памаўчаў.

— Та-ак, канешне... Не ведаючы, яно ўсё здаецца... А конь гэты — інвалід вайны. Надарваны, скалечаны... Іх, можа, палова такіх. Такія коні ў другім месцы даўно ўжо богу душу аддалі. А ў мяне за два гады, слава богу, толькі трое...

Максім перапыніў яго:

— А вы збрую бачылі на ім? Ад такой збруі любы конь ногі выцягне. Вы паглядзіце толькі.

Але Шаройка не скрануўся з месца, толькі нервова шчоўкнуў пальцам па рулі бярданкі. Уздыхнуў.

— Але-е-е, брат. Паказваць на недахопы, вядома, лягчэй, чым выпраўляць іх.

Максім зразумеў, што старшыня пакрыўдзіўся і, употай усміхаючыся, падумаў: «Вось яна твая любоў да крытыкі». Але адказаў больш лагодна:

— Справа ў тым, Амяльян Дзянісавіч, што крыўдна мне стала за свой калгас і за вас... Вы-ж стары, спрактыкаваны гаспадар. І раптам — на табе! Другі дзень жыву дома і толькі чую: Лазавенка ды Лазавенка. А хто такі Лазавенка? Мой аднагодак. Васька-Крук. Адкуль-жа

ў яго гэты вопыт? А, гавораць, яшчэ які год назад «Воля» была адсталым калгасам.

У вачах Шаройкі зноў заскакалі іскры смеху. Ён павярнуўся да Максіма, паклаў далонь яму на плячо.

— Людзі гавораць... А ты сам паглядзі. Людзі, брат, чужое заўсёды хваляць. У чужых руках... ведаеш прымаўку? Вось што... Але я суседа ганіць не буду. Проста скажу — малайчына Васіль... Гаспадарскі хлопец... Настойлівы... Ён часам і па стале можа стукнуць так, што і чарнільніца перакуліцца...

— Ён — па стале? — недаверліва здзівіўся Максім.

— А што ты думаеш? Не дарма-ж гавораць, ціхая вада грэблі рве... І рве... Рве, брат. А галоўнае, скажу табе, дапамога. Да яго і МТС і ўвесь раён. І ён там, як дома. А я? Я там пасынак. Беспартыйны. Шчыра табе кажу, даўно ўжо прашу, каб замянілі якім-небудзь героем з дэмабілізаваных — вось, як Васіль, ці ты вось, прыкладна...

— Ну-у! Я старшынёй быць не думаю.

— Канешне, з тваёй адукацыяй — і ў гной... Цяпер такіх, як ты, на любую пасаду — толькі давай.

Яны доўга яшчэ гутарылі даволі ўжо мірна. Толькі пад канец Максім не стрымаўся зноў.

— Вось яшчэ за хвойнік варта было-б камусьці галаву намыліць, — сказаў ён.

Шаройка ўсміхнуўся.

— Галоўныя віноўнікі пакараны... Немцы пачалі яго секчы. Дарогу праз балота масцілі. А нас — няшчасце прымусіла. Ведаеш-жа, нас вызвалілі перад самай зімой... І ўсё згарэла... З нечага трэба-ж было хоць якія там зямлянкі зляпіць. Ну, і секлі ўсе.

— А зараз? Глядзіце, колькі свежых пнеўі

— Зараз — канешне... Але...

— Ніякіх але, Амяльян Дзянісавіч. Парубку трэба забараніць і караць... Як да вайны... Помніце?

Твар старшыні расплыўся ад гарэзлівай ухмылкі.

— Што-ж, тады першага парубшчыка я злавіў...

Максіма гэтыя словы ашпарылі, нібы вар, ён ураз змяніўся з твару. Кроў хлынула ў галаву, застукала ў скронях.

Шаройка, відаць, зразумеў, што моцна закрануў яго за жывое, і хутка падняўся, працягнуў руку.

— Загаманіліся мы з табой. Працуй, а то хляўчук зусім заваліцца, покуль ты прывязеш рамонту. Але, дарэчы... Кажаш, не дапамагалі... А цялушачка? Глядзі, праз месяц-другі — свая карова, сваё малачко...

Максім нічога не адказаў, бо не дайшоў да сэнсу гэтых слоў — іншымі думкамі была занята галава.

— Ну, бывай... Я за балота, на азімыя падзіўлюся, — і Шаройка хутка закрочыў паміж дрэў, шырокаплечы, касалапы, як мядзведзь...

Максім стаяў і глядзеў яму ўслед, ажно покуль постаць яго не схавалася ў нізіне, за маладым бярэзнікам. Тады Максім перавёў позірк на паваленае дрэўца. Яно ляжала танюсенькае, бездапаможнае, вартае жалю. У парубшчыка сціснулася сэрца. А тут яшчэ ў гэты момант, як на злосць, над самай галавой застракатала сарока, быццам зарагатала з яго чалавечых турбот і хваляванняў. Гэта канчаткова сапсавала яму настрой. Ён схапіў сякеру і шпарка рушыў да каня.

2

Дамоў ён прывёз сухое ламачча ды трэскі, якія наскалваў з старых пнёў.

— А чаму-ж ты на хляўчук нічога не прывёз, сынок? — спытала маці, выгнаўшы дапамагчы яму скінуць з воза.

— Проста не мог, мама, — рука не паднялася. Там-жа нічога не засталося. Столькі высеклі!

Яна павярнулася і пяшчотна паглядзела на сына.

— І добра зрабіў. Я за гэты хвойнік так аднойчы палаялася з Амелькам, што ён і цяпер баіцца сустракацца са мной. Чужыя сякуць, а яму і справы няма. Што яму калгаснае дабро? Яму толькі сваё ўласнае і рупіць... Бач, якім парканам абгарадзіўся. Сабак цэлую зграю развёў...

Словы маці неяк ураз змылі ўвесь той непрыемны асадак на душы, што застаўся ад паездкі ў сасоннік.

Абедалі на скрыні, абабітай іржавай бляхай. Гэтая скрыня з лепшым набыткам больш двух год прастаяла ў зямлі.

Маці заслала яе чыстым вышываным абрусам. Нарэзала гару хлеба. На драўляны прамаслены кружок паставіла патэльню з яечняй. Потым аднекуль з-пад ложка дастала вялікую бутэль чарнічнай настойкі.

— Ды колькі іх там у цябе? — здзівіўся Максім.

Маці задаволена ўсміхнулася.

— Гэтая больш года чакала цябе. Леташняя яшчэ. Так настаялася ўжо, што проста чысты спірт... А колькі тае гарэлкі я ліла...

Ён выпіў шклянку і апетытна закусваў. Маці сядзела насупраць, падпёршы шчаку далоняй, і не зводзіла з сына вачэй.

— Еж, еж, сынок. А то худы ты нейкі.

— А ты, мама?

— Ды ты не глядзі на мяне! Дзе гэта ты бачыў, каб гаспадыня галодная была! Як гатавала, дык насмакавалася.

Калі Максім выпіў другую шклянку і расказаў аб сваёй сустрэчы з старшынёй і аб тым, што ў нядзелю лес на хату будзе ляжаць перад зямлянкай, маці ў адказ раптам ціха паведаміла:

— А я Машу сёння бачыла. На вуліцы спаткала.

Яна не прызналася, што хадзіла да яе знарок.

Максім насцярожыўся: за два дні маці ні разу не ўспамянула пра Машу, а тут так нечакана і, як здалося яму, недарэчы, загаварыла пра яе.

— Яна, бедная, ажно засаромілася. То, бывала, штодня заходзіла да мяне, а то — і слоў не знайшла... Ты схадзіў-бы, Максімка, да іх, праведаў-бы...

— Схаджу, схаджу, мама. Не ўсё-ж адразу, — ён хацеў хутчэй скончыць гэтую размову. Але маці не сунімалася.

— Яна-ж так чакала цябе!

— Так ужо і чакала? — жартаўліва ўсумніўся ён.

— Што ты, Максімка, бог з табой! Можа табе якія злыя языкі што нагаварылі? Не вер, нікому не вер. Маці павер. Маша не дзеўка, а золата. Дай божа мне мець такую нявестку. Яна-ж і так была для мяне, як дачка тая. Ды і не веру я, што ёсць у нас людзі, якія сказалі-б пра яе дрэннае слова. Гэта-ж такая сям'я! Сіраты, а як жывуць! Гэта-ж яны засталіся адны яшчэ перад вайной, як маці іх памерла. Саша і Пеця тады яшчэ малыя былі. Пры немцах яны ціха так жылі, непрыкметна. Тыя і ўвагі не звярталі — што возьмеш з сіратаў! Перабіваліся яны бедныя з бульбяніка на квас. Хлеб і той, можа, рэдка бачылі. А як прышлі нашы, іх — і Машу і Аляксандру — медалямі партызанскімі ўзнагародзілі. Усё сяло дзівілася... Ніхто-ж і не здагадваўся, што яны ўвесь час сувязнымі былі. А цяпер Саша вучыцца ў дзесятым класе. А Машу і ў сельсовет запрашалі і ў раёне нейкую добрую пасаду давалі — яна-ж восем класаў скончыла, — дык не-ж, не пайшла... У калгасе працуе. Я аднойчы нават паспрачалася з ёй з-за гэтага. А яна мне кажа: вось, цётачка, як стане наш калгас такі, як да вайны, тады я вучыцца паеду, а цяпер трэба працаваць. І як працавала! І арала, і касіла, і з цеслярамі рабіла. І вайну вяла з Амелькам. Мужчыны так не крытыкавалі яго, як яна. Звяно арганізавала. Вясной лён сеялі, а цяпер рэкордны ўчастак жыта пасеялі. Дакажу, кажа, што і мы не горшыя за людзей. Вось якая яна! А ты кажаш, Максімка...

Максім моўчкі, з цікавасцю выслухаў маці. Яна абудзіла ў ім добрыя пачуцці. Усхвалявана і радасна забілася сэрца. Маша! Сапраўды, чаму ён адцягвае сустрэчу?

Улетку саракавога года, калі ён ад'язджаў у марскі тэхнікум, яны, шчаслівыя і тады крыху яшчэ наіўныя, пакляліся ў жнівеньскую ноч, што будуць штодня пісаць лісты і чакаць адзін аднаго хоць дзесяць год. І яны выканалі сваю клятву. Праўда, пасля вызвалення пісалі яны ўжо не так часта, і пісьмы былі больш стрыманыя, сур'ёзныя. Можа гэта таму, што і самі яны выраслі, пасталелі. А можа час рабіў сваё — астывалі пачуцці. Але, калі Максім ехаў дамоў, то ўсю доўгую дарогу з Далёкага Усхода да Беларусі думаў пра Машу з ранейшай цеплынёй і пяшчотнасцю. А вось прыехаў — і чамусьці зноў не асабліва карціць хутчэй сустрэцца з ёю.

«Хопіць яшчэ часу», — спакойна разважыў ён у першы вечар.

Але пасля слоў маці яму зрабілася сорамна за сваю абыякавасць.

«Сёння-ж увечары схаджу», — падумаў ён, наліўшы трэцюю чарку. Маці паднялася, адышла і пачала корпацца ў печы, такой маленькай і нізенькай, што, каб заглянуць у яе, трэба было стаць на гліняную падлогу каленямі. Выцягнуўшы чыгунок і ўзяўшы яго фартухом, яна вярнулася назад.

— Так што, сынок, не крыўдзі Машы. Да яе колькі жаніхоў сваталася. І настаўнік, і Васіль... Васіль, кажуць, і цяпер яшчэ сохне па ёй. Усім адмовіла. Цябе аднаго чакала...

«Зноў Васіль... Усюды Васіль», — з крыўдай і. адначасова з зайздрасцю падумаў Максім.

Маша пісала яму аб гэтым сватаўстве. Тады ён не звярнуў увагі і адпісаўся вясёлым, бяскрыўдным жартам. Але зараз нейкае незразумелае раўнівае пачуццё заварушылася ў глыбіні душы.

Пасля абеду змораны, ап'янелы Максім лёг адпачываць і моцна заснуў. Прачнуўся ён позна ўвечары і нікуды не пайшоў — напісаў пару лістоў франтавым сябрам і зноў лёг спаць.

Раніцою Максіму стала ніякавата ад таго, што за два дні ён нікуды не схадзіў, не ўбачыўся ні з адным сябрам.

«Прыехаў і сяджу, як мядзведзь у бярлозе. Трэба сёння-ж усіх наведаць. А ў першую чаргу — схадзіць у Дабрадзееўку, у сельсовет, і ўбачыць гэтага свайго старога дружбака Васіля. Пазнаёміцца з сакратаром... Трэба-ж неяк і на ўлік брацца ўжо...»

Дарэчы быў дзень Сталінскай Канстытуцыі. Святочны дзень. Самы раз рабіць візіты. Максім паставіў на скрыню чамадан, у века якога знутры было прыладжана люстэрка, і пачаў галіцца.

І раптам у люстэрку ён убачыў, што маці, якая сядзела на нізенькім услончыку перад печчу і пякла бліны, непрыкметна выцірае фартухом вочы. Ён хутка павярнуўся.

— Ты плачаш, мама? Чаго?

Яна паглядзела на яго затуманенымі вачыма, паспрабавала ўсміхнуцца праз слёзы.

— Нічога, сынок. Бацьку ўспомніла. Як ён любіў гэты дзень! Гэтаж у яго было самае вялікае свята. Ні адно, здаецца, свята ён не святкаваў з такой радасцю. Аж маладзейшым рабіўся, — яна хвіліну памаўчала, схіліўшы галаву, потым схамянулася, выхапіла з печы падгарэлы блін і загаварыла зноў: — У гэты дзень ён і дома апошні раз быў. Прышоў змораны, брудны, але вясёлы такі. Баклажку спірту прынёс. Вельмі шкадаваў, што бліноў нельга было напекчы. Да рання прасядзелі мы з ім у цёмнай хаце. Ён мне аб Сталінградзе ўсё расказваў, цябе і Аляксея ўспаміналі. А на развітанне сказаў: — Ну, кажа, з табой, Сыля, адсвяткаваў, пайду цяпер з хлопцамі адсвяткую... А праз тыдзень... — маці ўсхліпнула.

Максіму шмат разоў пісалі пра гераічную смерць бацькі, але напамінак маці неяк асабліва ўзрушыў яго. Ён сцёр далоняй са шчакі мыла, падышоў і пяшчотна абняў маці.

— Не плач, мама, — а сам рукавом змахнуў слязу...

Каля крамы Максіма спынілі мужчыны, што стаялі там, павіншавалі з прыездам і жартамі дамагліся, каб ён паставіў па сто грамаў. Прышлося затрымацца. Потым падышлі новыя людзі і ўжо частавалі яго. Зразумеўшы, што гэтаму не будзе канца ў такі дзень, ён непрыкметна вышаў з крамы і шпарка пайшоў у напрамку Дабрадзееўкі, баючыся, што яшчэ хто-небудзь затрымае і, чаго добрага, зацягне ў хату. На вуліцы з ім віталіся дарослыя і дзеці. Ён ветліва адказваў, хоць многіх з моладзі не пазнаваў.

Ён быў ужо ў канцы вуліцы, як раптам сустрэўся з Машай.

Здарылася гэта вельмі нечакана для абаіх. Маша вышла з завулка, які між двух новых хат вёў на калгасны двор. У руцэ яе былі вілы. Апранута яна была ў стары залатаны кажушок, на нагах — буркі з бахіламі, на галаве — шэрая вязаная хустка.

Ад нечаканасці дзяўчына ажно адхіснулася назад. Твар яе спачатку пабялеў, потым заліўся чырванню.

Максім таксама спыніўся, з халаднаватай цікавасцю разглядаючы яе.

«Пастарэла», — і яму чамусьці стала шкада яе, захацелася прытуліць, прыласкаць.

Першая загаварыла Маша. Спытала:

— Ты-ы?.. — нібы не паверыла ўласным вачам.

Максім хутка падышоў, працягнуў руку.

— Я. Не пазнаеш?

Яна спачатку разгублена глянула на сваю далонь, выцерла яе аб кажушок, потым шчасліва засмяялася і моцна сціснула яго руку.

— З прыездам, Максім.

— Дзякую. Аднак... давай-жа хоць пацалуемся.

— Што ты! Глядзяць.

Сапраўды, аглянуўшыся, Максім убачыў, што ў бліжніх хатах у кожным акне да шыб прыліплі твары. Людзі з цікавасцю назіралі за іх крыху незвычайнай сустрэчай. Гэта збянтэжыла абодвух. Маша сарамліва апусціла вочы. Максім таксама некаторы час не мог знайсці патрэбных слоў, каб пачаць гаворку.

— Ты што... працавала? Сёння-ж свята.

— А мы ўжо скончылі. Невялічкая работка была... Рыхтуемся да вясны.

— Цяпер — да вясны?

— Але... А ты куды? — яна ясным, шчаслівым позіркам глянула яму ў твар.

— У Дабрадзееўку схаджу. Дамоўлюся наконт партыйнага ўліку.

Маша зноў апусціла вочы, прыдушыла ўздых, што ледзь-ледзь не вырваўся з грудзей, з лёгкім дакорам сказала:

— А калі-ж гэта мы сустрэнемся? Калі прыехаў і вачэй не паказваеш.

Ён моцна сціснуў яе шурпатую ад працы руку.

— Прыду, Машок, прыду...

— Калі?

— Сёння абавязкова.

У яе вачах зноў бліснула радасць.

— Значыцца, чакаць?

— Чакай.

— Ну, добра. Ідзі. Не будзем развітвацца. — Яна пяшчотна правяла рукой па яго грудзях, лёгенька адштурхнула. А адышоўшы некалькі крокаў, павярнулася і яшчэ раз напомніла: — Глядзі-ж, Максім...

Алеся чытала, калі Маша зайшла ў хату.

Яна стаяла на ўслоне на каленях, схіліўшыся над сталом, і рогам касынкі выцірала слёзы.

— Зноў, Алеся! Ну і дурніца! Хіба-ж так можна? Над кожнай кніжкай плакаць — слёз нахопіць.

Дзяўчына закрылася далоняй і, не адказваючы, чытала далей. Хвілін праз колькі, відаць, скончыўшы, яна, урэшце, адарвала ад кнігі

чырвоныя ад слёз вочы, паглядзела на сястру, з вачэй яе пырснулі іскрыстыя праменні захаплення. Маша скінула кажушок, развязала хустку і села каля Алесі, абняла яе за плечы, якія ўсё яшчэ ўздрыгвалі, але невядома — ці ад плачу, ці ўжо ад смеху.

— Дзіўная ты! Што гэта?

— «Тры сястры» Чэхава. Чытала?

— Чытала. Але, помніцца, не плакала. Шкада іх, але... Я толькі яскравей адчувала сваё шчасце...

— Вось... Шкада... Якое ў іх было жыццё, Машанька! Страшна. Глядзі, які смутак у словах Ірыны, калі яна паўтарае: «У Маскву! У Маскву! У Маскву!» А гэтыя вось заключныя словы, што Ольга гаворыць. Слухай, Машанька,—і Алеся пачала чытаць. Прачытаўшы, яна заплюшчыла вочы, шэптам паўтарыла апошнія словы і раптам імкліва абняла Машу.

— Як мне хочацца з такой-жа сілай напісаць пра наша жыццё. Каб з кожнага слова пырскала радасць, шчасце. Каб людзі чыталі — і ў іх выраслі крыллі.

— А ты паспрабуй.

Алеся паківала галавой і сур'ёзна адказала:

— Не-е... Не здолею. Ты-ж ведаеш, якія бездапаможныя мае вершы.

— Не бядуй. Калі-небудзь напішаш. Я веру ў твой талент. Аднак... Я цябе слухала. Цяпер ты мяне паслухай. Ведаеш, каго я толькі што сустрэла?

— Максіма?! — радасна ўсклікнула Алеся.

— Максіма.

— І што?

— Сёння да нас у госці прыдзе.

— Вой! А ў нас... Ці добра ў нас?— і яны пачалі прыдзірліва аглядаць кожную рэч у хаце.

Хата была новая. Мінулым летам яе збудавалі за дзяржаўны кошт. Пагабляваныя таўстыя бярвенні яшчэ былі жоўтыя і пахлі смалой. На вуліцу хата глядзела трыма шырокімі вокнамі. Праўда, у самой хаце яшчэ кідаліся ў вочы недаробкі: у перагародцы, што аддзяляла кухню, не было дзвярэй, другая перагародка, у чыстай палавіне, толькі была пачата — да бэлькі на столі і да падлогі былі прыбіты брускі. Але хата ўжо была па-гаспадарску абжыта: у ёй было чыста і ўтульна. Усюды пахадзілі руплівыя дзявочыя рукі. На вокнах — марлевыя фіранкі. Стол засланы чысценькім вышываным абрусам. Над крайнімі ад кута вокнамі — партрэты Леніна і Сталіна ў простых, але прыгожых рам-

ках, па-мастацку зробленых з пруцікаў маладых бярозак. Над сталом, у покуце, — палічка для кніжак; над ёю —' адрыўны каляндар.

Скончыўшы агляд, Алеся спытала:

— Ну, як? Сорамна не будзе?

— Думаю, не будзе.

— А цяпер падумаем, чым будзем частаваць гасця.

— Частаваць?

— Але-ж... Чаго ты здзіўляешся?

Маша як-бы збянтэжылася, ціха сказала:

— А можа няварта, Алеся? Што ён — здалёк?.. Толькі гаворкі будзе...

— Вось табе і раз! Хай пагавораць! А хто не ведае, што мы чакалі яго, як самага блізкага чалавека. І раптам за шэсць год чалавек першы раз зойдзе, як дарагі госць, а мы... Не, не!.. Калі ласка, і не гавары нічога. Хочаш — сама сустракай. А я так не магу.

Апошнія словы яе скарылі Машу.

«Гэта і добра, што мы пасядзім разам, і я прыгледжуся да яго, прывыкну», — падумала яна.

— Ну, добра... А сапраўды, чым-жа частаваць?

— Не гаруй, Маша! — супакоіла яе Алеся.—Знойдзем. Лічы. Поўлітэрку Зіна на карандаш дасць. Значыць, галоўнае будзе... Далей... Грыбы салёныя ў нас — пальчыкі абліжа, памідоры таксама. Гуркі ёсць, хлеб і бульба ёсць... А вось сала... Сала няма.

— Сала няма, — паўтарыла Маша і ўздыхнула.

— Глупства. Пазычым.

— Зноў — пазычым. Як ты лёгка пазычаеш!

— Машанька, мілая! А чаго нам сароміцца? Не пройдзе і года, як мы будзем самыя багатыя людзі. Вось як вырасціш па сто пудоў з гектара... А ты вырасціш—я веру ў гэта так, як, можа, не верыш ты сама. Вырасціш!

— На дзесяці гектарах? — Маша ўздыхнула.

— А ты хацела-б адразу на пяцістах?

— Каб разбагацець усім...

— Пакінь! Давай лепей падумаем, у каго пазычыць. Добра было-б у цёткі Сылі.

Маша засмяялася.

Нішто сабе! Яго-ж салам яго і частаваць будзем.

Але Алеся і не ўсміхнулася.

— Чакай... Гэта-ж я толькі разважаю... Вядома, адпадае... У Шаройкі? Ну яго к чорту, яшчэ адмовіць, прагнюка такі. Ён-жа ключы ад

кубла з сабой насіць, нават жонцы не давярае... У Клаўдзі? Добра? Значыцца рашылі! Я пайшла.

Яна хутка апранулася і вышла.

Маша колькі хвілін сядзела ў глыбокім роздуме. Потым узяла са стала маленькае люстэрка, паглядзелася і злёгку кранула пальцам ледзь прыкметныя маршчынкі каля вачэй. Уздыхнула.

«Дваццаць пяць год! Шэсць год чакала! Шэсць год! А вось гэтыя два дні былі самыя цяжкія. Чаму ён не прышоў адразу?» — і зноў цень задумення лёг на яе твары. Але праз момант яна схамянулася, пайшла да печы, дастала цёплую ваду і памылася. Пасля апранула святочнае плацце, запляла валасы ў дзве тоўстыя касы і села каля стала. Дастала з шуфляды яго пісьмы, знайшла апошняе і пачала ўдумліва чытаць. І так чытала, покуль не вярнулася Алеся. Маша ўзрадавалася і адразу-ж пачала выказваць свае думкі.

— А ведаеш, Алеся, я вельмі рада, што яго дэмабілізавалі. Не ведаю, як ён... Здаецца, ён крыху інакш думае... Але я рада... Помніш ён пісаў, што, калі яго пакінуць у арміі, я павінна рыхтавацца ехаць туды... Прызнаюся, тады мне зрабілася страшнавата. Не паехаць я не магла — ты разумееш... А паехаць... А вы як?

— Ну, мы як-небудзь пражылі-б...

— А ўсё-ж... Ды і я! Што-б я рабіла там, на Далёкім Усходзе, у ваенным гарадку? Вядома, я працавала-б, я знайшла-б работу. Але я люблю зямлю, мне хочацца працаваць на ёй...

Алеся вышла на кухню і, напяваючы, завіхалася там. Маша хвіліну пасядзела адна, задумліва пазіраючы ў акно, потым вышла да сястры — хацелася гаварыць.

— Ведаеш, пра што я думала зараз? Буду ўгаварваць Максіма, каб і ён застаўся ў калгасе. Навошта нам высокія пасады? Вунь — Васіль...

Алеся не адказала і заспявала:

Ля-я-цяць ву-у-ткі,
Ля-я-цяць ву-уу-ткі
І-і два гу-усі-і...

4

«Пастарэла, — думаў Максім, вышаўшы з вёскі ў поле. — У такім адзенні яна на звычайную вясковую бабу падобна».

Але яму тут-жа стала сорамна за такую думку.

«Глупства гэта. Пры чым тут адзенне? Не ў гэтым справа! Яна-ж столькі перанесла. І цяпер... У свята і то — адпачынку няма... Калі яшчэ тая вясна, а яна ўжо гной рыхтуе... Упартая», — і ён адчуў

гордасць за яе. Яму хацелася неяк узняць, апаэтызаваць Машу, калі, можа, і не так, як ён рабіў гэта ў першы год пасля развітання, то хаця-б вярнуць сабе тую радасную ўсхваляванасць, якую ён адчуваў яшчэ ў дарозе, думаючы пра яе. Чаму ўсё гэта знікла? Чаму ён неяк астыў, прыехаўшы дамоў? Зямлянка прыдавіла ці што?

Ён схапіўся за гэтую думку, як за ратавальны круг.

«А ўсё магчыма. Якая там можа быць рамантыка, калі перад табой такія празаічныя турботы! Ды і не юнак я ўжо. Спачатку вось трэба падумаць, як з гэтай праклятай зямлянкі хутчэй выбрацца, а потым ужо... Ды і наогул трэба абсталявацца, сябе да ладу прывесці — з работай уладзіць і ўсё іншае...»

Заспакоіўшы сябе, Максім закрочыў шпарчэй, глытаючы студзёны вецер. У паветры было па-зімоваму добра: бадзёры мароз, парывісты вецер, які час-ад-часу заносіў аднекуль здалёк пару-другую сняжынак — першых вестуноў і разведчыкаў зімы. Калі яны падалі на руку, на твар, здавалася: яшчэ хвіліна — і разарвецца хмара, сыпане белым пухам, і закружыцца ён у дзіўным карагодзе, пакрываючы зямлю мяккаю, пушыстаю коўдрай. Але вецер сціхаў, сняжынкі больш не ляцелі, і на палях нерухома ляжала позняя восень, шэрая, аднастайная. Толькі з аднаго боку, у далечыні, зеляне́ў клін азіміны, а з другога, за рэчкай, — цямнела сіняя паласа хвойніку — таго самага, у якім Максім быў учора. Ды ў лузе, што пачынаўся недалёка адгэтуль, паміж тоўстымі і нізкімі стагамі, бліскала на звівах маладым лёдам рэчка.

Ад Лядцаў да Дабрадзееўкі каля чатырох кіламетраў, калі лічыць ад цэнтра да цэнтра, ад крамы да крамы, як гаварылі вяскоўцы, а калі ад ускраін, то вядома, менш.

Максім і не заўважыў, як прайшоў гэтыя кіламетры. Думак хапіла на ўсю дарогу.

Толькі ў садзе на момант яго зноў апанавала тое-ж пачуццё, што напярэдадні ў лесе. Сад быў скалечаны не менш, чым хвойнік. Але праз хвіліну ён суцешыўся, убачыўшы, як руплівая рука чалавека ўмела залечвае раны на дрэвах і на зямлі. Усе старыя дрэвы, якія ўцалелі, былі старанна дагледжаны: абрэзаны сухія галінкі, ствалы абмазаны глінай і абкручаны саломай. Была зроблена падсадка. Кожнае маладое дрэўца абгароджана, каб зімою не папсавалі зайцы.

Максім успомніў сад свайго калгаса, які ён убачыў яшчэ ў той дзень, калі прыехаў, і падумаў, зноў з пачуццём зайздрасці:

«Але... адразу адчуваецца гаспадарская рука... Відаць, недарэмна яго хваляць... Што-ж, пабачым...»

Будынак сельсовета стаяў воддаль ад вёскі, між старым садам і поплавам. Да вайны ў ім змяшчаўся ветэрынарны пункт, а таму і быў ён збудаваны наводшыбе. У вайну з усіх грамадскіх будынкаў уцалеў толькі гэты. А таму адразу пасля вызвалення ў ім асталявалася і школа, якая працавала ў той час у тры змены, і сельсовет, і праўленне калгаса. Цяпер застаўся толькі сельсовет, ды ў прыбудове — малаказлівачны пункт.

Максім не спадзяваўся застаць у сельсовеце ў такі дзень каго-небудзь, аднак рашыў заглянуць. Нядрэнна пабачыць усё да таго, як сустрэнешся з мясцовымі кіраўнікамі. Глядзі — у гутарцы і зможаш выказаць якую-небудзь свежую, арыгінальную думку, да якой самі яны, абжыўшыся і звыкшыся, і не маглі дайсці. Ён любіў бліснуць такімі думкамі.

Але, наблізіўшыся да сельсовета, ён убачыў праз акно людзей і пачуў гучную гаворку. Адчуваючы, што хвалюецца, ён ненатуральна хутка і шумна зайшоў у памяшканне. Адчыніў адны дзверы, другія... І спачатку ўбачыў толькі чалавека, які стаяў тварам да дзвярэй, збоку ад стала. Чалавек гаварыў і спыніўся на поўслове. Позіркі іх сустрэліся. Незнаёмаму было год пяцьдзесят. Ён быў невысокага росту, хударлявы, з густой шапкай сівых валасоў і з вельмі густымі, сівымі брывамі. Гэтыя бровы неяк адразу кідаліся ў вочы, яны надавалі верхняй частцы твару суровы выраз. Але ніжэй гэты выраз змякчалі вусы. Звычайныя абвіслыя, яны былі не сівыя, як валасы і бровы, а рудыя, абкураныя. І вочы ў яго былі добрыя: светлыя, разумныя.

Максім здагадаўся: доктар, і спытаў па-ваеннаму коратка і гучна:

— Дазвольце?

— Калі ласка.

Ён пераступіў парог і тады адразу ўбачыў знаёмых. Яны амаль усе падняліся яму насустрач.

— Лескавец!

— Максім!

— Ах, чорт! Які бравы!

— Адны вусы чаго варты! Казак!

Першы яго абняў сваёй адзінай рукой Міхаіл Прымак — той самы, з сынам якога ён меў сустрэчу на грэблі. Потым паціснулі руку старшыня сельсовета Байкоў, дабрадзеевец дзядзька Міхей Вячэра, надзвычай высокі чалавек з лысай галавой і з хітрай усмешкай у вачах, Максімаў аднавяскоўвец Пятро Мурашка, яшчэ адзін малады хлопец з знаёмым аблiччам, але прозвішча якога Максім не мог успомніць, і падумаў: «Моладзь вырасла»...

Апошнім падняўся Васіль Лазавенка. Ён таксама толькі падаў руку, хоць Максім быў паімкнуўся абняцца. Але затое руку Васіль цiснуў моцна, доўга і, гледзячы ў вочы, радасна ўсміхаўся.

— Даўно пара, брат, даўно.

Максім убачыў пад расшпіленым шынялём яго ордэнскія калодкі і адразу спрактыкаваным вокам палічыў:

«Два Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны, дзве Звязды і медалі. Але... Шанцавала...»

Васіль схамянуўся і павярнуўся да чалавека, які ўсё яшчэ стаяў каля стала.

— Знаёмцеся. Наш сакратар партыйнай арганізацыі Ігнат Андрэевіч Ладынін.

Потым з-за стала падняўся чалавек з постаццю цяжкаатлета і шрамам на ілбе. Але рука яго была, як у жанчыны, малая і мяккая.

— Мяцельскі.

— Дырэктар школы, — дадаў Васіль.

Калі, нарэшце, усе прывіталіся і пазнаёміліся, Ладышін пастукаў алоўкам па стале.

— Таварышы, аб усім іншым пасля. Працягнем наш сход,— ён звярнуўся да Максіма. — У нас партыйны сход. Вы член партыі, таварыш Лескавец?

Максім палез у кішэню за партбілетам.

— Так. Нашага палку прыбывае. Што-ж... Добра. Будзем працаваць... — прыветліва ўсміхнуўся Ладынін. — Дык вось. Аб выкананні пастановы партыі і ўрада аб ліквідацыі парушэнняў Статута сельскагаспадарчай арцелі. Я гаварыў ужо: дрэнна ў нас з гэтым. Не давялі мы, як мае быць, справу да канца. Парушэнняў у нас яшчэ нямала ў кожным калгасе, нават і ў «Волі». Але асабліва іх многа ў «Партызане». Шаройка, напрыклад, думае, што гэта — часовая кампанія, адшуміць і сціхне. Ды і з прысутных тут хто-ні-хто, відаць, такой-жа думкі, — Ладынін кінуў кароткі позірк на Байкова. Старшыня сельсовета перасмыкнуў левай шчакой, падняў галаву і нервова пацёр аб калена кантужаную руку, потым пачаў спешліва скручваць цыгарку. — Людзі гэтыя глыбока памыляюцца. Пастанова гэта — праграма нашага пасляваеннага ўздыму. Трэба зразумець, таварышы, добра сабе ўсвядоміць, што мы пачалі вялікую бітву за поўны дастатак. Цяпер гэта той-жа фронт, той-жа пярэдні край. Помніце, што сказаў Сталін у сваім выступленні перад выбаршчыкамі?..

Максім слухаў і ўпотай вывучаў твары комуністаў.

Яны сядзелі моўчкі, нерухома, слухалі ўдумліва. Толькі Вячэра, зацягваючыся папяроскай, махаў далоняй перад тварам, разганяючы дым.

«Восем чалавек... на ўвесь сельсовет, на тры калгасы... Малавата... У дывізіёне ў нас больш ста было», — падумаў Максім.

Ладынін гаварыў аб тым, што павінна зрабіць партыйная арганізацыя, каб за зіму ўмацаваць калгасы.

— Наша задача дапамагчы кожнаму калгасу скласці перспектыўны план развіцця гаспадаркі — такі, які мы склалі ў «Волі». Людзі павінны ведаць, за што ім трэба змагацца, як яны будуць жыць цераз год, цераз два, у канцы пяцігодкі. Складаючы такія планы, трэба смялей браць курс на механізацыю і электрыфікацыю. Без гэтага мы не здолеем падняць ураджайнасць і развіць жывёлагадоўлю. Правільна гаварыў Лазавенка — машыны дзяржава дасць, успомніце пяцігадовы план... І таму проста немагчыма зразумець заяву, што нам яшчэ рана думаць аб такой раскошы, як электрастанцыя, калі ў нас яшчэ сорак сямей у зямлянках жывуць... А па чыёй віне, Сяргей Іванавіч, яны жывуць у зямлянках, дазвольце у вас спытаць?..

Байкоў усхапіўся з месца, зрабіў крок да дзвярэй, з размаху кінуў недакурак у куток.

— Што вы ўвесь час тыркаеце на Байкова?!

— А таму, што Байкоў выступіў супраць прапановы Лазавенкі...

— Бо Байкоў не жадае пасля адказваць за вашы фантазіі. У вашага Лазавенкі галава закружылася, — у старшыні сельсовета нервова задзёргалася павека на левым воку. Ён для чагосьці адчыніў дзверы ў суседні пакой, заглянуў туды і злосна ляпнуў імі.

Ладынін спакойна чакаў, ледзь прыкметна ўсміхаючыся. Прымак і Лазавенка іранічна пераміргваліся. Гэта не спадабалася Максіму. «Што яны навалiліся на яго?»

Яму было шкада Байкова. Ён ужо ведаў яго цяжкую партызанскую біяграфію — расказвала маці. Зімой сорак другога года фашысты расстралялі яго сям'ю. У роспачы ён павёў атрад на нейкую неабдуманую аперацыю, супраць правядзення якой падпольны райком пратэставаў. Ён не паслухаўся. Атрад панёс цяжкія страты. Бюро райкома вынесла Байкову вымову і змясціла з камандзіра. Атрад прыняў Антон Лескавец, бацька Максіма. Тады Байкоў паспрабаваў заліць сваё гора самагонкай і атрымаў яшчэ адну вымову, з апошнім папярэджаннем. Гэта ўтаймавала яго. Пасля, камандуючы групай падрыўнікоў, ён заваяваў легендарную славу, атрымаў два ордэны. Але ў часе апошняй блакады быў цяжка паранены, вывезены на самалёце ў савецкі тыл і больш года ляжаў у шпіталі, недзе на Урале.

... «Навошта цяпер крыўдзіць такога чалавека?» — падумаў Максім і рашыў, пры выпадку, выступіць у яго абарону.

— А мы зараз разбярэмся, Сяргей Іванавіч, у каго тут галава кружыцца, — сказаў Ладынін і, яшчэ раз пералічыўшы задачы, што стаяць перад партарганізацыяй, скончыў свой даклад.

Выступалі ўсе, акрамя Мурашкі. Цішыня, якая панавала ў часе выступлення Ладыніна, была паламана, нібы лёд на рэчцы. Гаварылі горача, спрачаліся, кідалі адзін аднаму пытанні, заўвагі, падказвалі, пра што сказаць яшчэ. Відаць, пытанне ўсіх хвалявала. Асабліва многа гаварылі аб справах у «Партызане» і ўсе пагаджаліся на думцы, што Шаройку трэба змяніць, і чым хутчэй — тым больш карысці будзе для калгаса.

Крытыкавалі Байкова. Ён маўчаў, панурыўшы галаву.

— На паседжаннях сельвыканкома, на сесіях мы прынялі нямала добрых пастаноў, а як яны выконваюцца — гэта старшыню сельсовета мала турбуе. Ён вельмі многа ходзіць па калгасах, залішне многа, а вынікаў ад гэтага нешта малавата, — гаварыў Вячэра.

Байкоў нервова кудлачыў рукой валасы і маўчаў, хоць па ўсім было відаць, што крытыку ён успрымае хваравіта і з шмат чым не згаджаецца.

Максім выступіў таксама. Расказаў пра свой калгас. Пасля заступіўся за Байкова.

— Мне, чалавеку новаму, з боку здаецца, што некаторыя таварышы маюць тэндэнцыю памылкі ўсёй арганізацыі ўзвальваць на аднаго чалавека.

Байкоў падняў галаву і, акрылены падтрымкай, загаварыў:

— У нас гэта могуць. Я аб гэтым даўно гаварыў...

— Няпраўда, Сяргей Іванавіч! — перапыніў яго Ладынін. — Мы ўмеем прызнаваць свае агульныя памылкі. Але на сваіх сходах... давайце дамовімся, таварышы, яшчэ раз, мы будзем крытыкаваць не наогул, а канкрэтна, называючы дакладны адрас. Ад гэтага будзе больш карысці. І давайце адкінем усе крыўды. Мы павінны ставіцца да крытыкі па-бальшэвіцку.

... Пасля разбіралі справу Мурашкі.

Прайшло чатыры месяцы, як ён вярнуўся з арміі. Але за ўвесь гэты час ён і не падумаў аб рабоце, не зарабіў у калгасе ніводнага працадня. Хадзіў, гуляў, «выбіраў нявесту». «Жанюся — тады адразу за ўсё адпрацую», — гаварыў ён, калі яму часам хто рабіў напамінак пра работу.

Ладынін дакладваў пра паводзіны Мурашкі з абурэннем. Максім бачыў, як доктар адразу перамяніўся: густыя бровы яго сышліся, утварыўшы адну лінію, маршчыны на ілбе сталі глыбейшыя.

— ...У такі адказны час, калі наша маленькая, але, я скажу, дружная, працавітая арганізацыя напружвае ўсе сілы, адзін з членаў яе спакойна прахалоджваецца. Ганьба і сорам! Мы гаворым аб умацаванні дысцыпліны ў калгасах, а таварыш Мурашка разваьвае яе. Усе гультаі на вас пальцамі тыркаюць. Вунь, бачыце, комуніст, і той не вельмі кідаецца да калгаснай работы, а што нам... Да мяне жанчыны прыходзяць скардзіцца на вас. Не было вас, яны працавалі, выбіваліся з сіл, каб мы ў арміі ні ў чым не адчувалі патрэбы; вярнуліся вы, і зноў яны вымушаны вас карміць. Сорам.

— Я чужога хлеба не ем!..

— Не, выходзіць, што ясі...

Максім падумаў:

«Але, стары — той... Пападзіся такому ў рукі — у рог сагне».

Мурашка паспрабаваў апраўдацца, пачаў гаварыць жартаўліва, з адмоўкамі.

— ...Няўжо за пяць год я не маю права якіх тры месяцы адпачыць?

«Па сутнасці, ён мае рацыю,— зноў падумаў Максім. — Няўжо і я не маю права адпачыць? Няўжо на другі-ж дзень трэба запрагацца ў работу?»

Але на пытанне Мурашкі адказаў Прымак.

— Не маеш! — злосна выгукнуў ён і падняўся, выхапіўшы з кішэні пусты рукаў. — Я вось які прышоў, са шпіталю, і на другі-ж тыдзень пайшоў у МТС. А ты — здаровы, як бык, са шчок кроў пырсне скора, і рашыў поўгода адпачынку сабе даць... Сароміўся-б у вочы людзям глядзець! За якія сродкі ты п'еш? Скажы сходу! Накраў у арміі, калі за старшыну быў? А-а? Выключыць яго, каб не ганьбіў вялікае званне...

Мурашка, які пачынаў гаварыць спакойна, з усмешкай, відаць, мяркуючы, што справа абмяжуецца таварыскай размовай накшталт тых, якія вёў з ім ужо не раз і Ладынін, — раптам пабялеў і паімкнуўся да Прымака.

— Ты... мне... Ты дакажы свае словы... — голас яго дрыжэў.

Падняўся Вячэра, адагнаўшы далонямі ад твару дым.

— Міхал Аляксеевіч троху пагарачыўся, але я разумею яго... Я сам не мог без абурэння глядзець на такія паводзіны члена партыі і даўно патрабаваў вынесці пытанне на сход.

У Лескаўца знікла жаданне выступаць у абарону свайго аднавяскоўца. Мурашку крытыкавалі бязлітасна: як гавораць — «не пакідалі

жывога месца». Асабліва моцна крытыкаваў Лазавенка, хоць гаварыў ён спакойна, стрымана, толькі пачырванелы твар выдаваў яго абурэнне.

Мурашка маўчаў, баючыся глянуць комуністам у вочы. Ён то рабіўся бялейшы за сцяну, то шыя яго пунцавела, на скронях надзьмуліся вены і было відаць, як пульсіруе жылка.

Усе, хто. выступаў пасля Прымака, прапанавалі даць яму вымову. Мурашка папрасіў слова.

— Таварышы, даруйце. Заўтра-ж іду на работу... І буду працаваць так... Ну, адным словам, так, як належыць комуністу. На любы ўчастак хай мяне ставяць — нідзе не падвяду...

5

З сельсовета ішлі ўчатырох: Максім, Ладынін, Лазавенка і Прымак. Другія разышліся крыху раней, а Байкоў застаўся пачытаць газеты.

Цяпер самалюбства Максіма было задаволена: усе гутарылі толькі з ім, звярталіся да яго.

— Вось так і ваюем, Максім Антонавіч. Час гарачы, цікавы, работы — непачаты край, а людзей мала. Кожнаму новаму чалавеку рады і таму балюча, калі вось такія, як Мурашка, з'яўляюцца ў нашых радах, — гаварыў па дарозе Ладынін.

Яны мінулі сад, вышлі на шлях.

Доктар прапанаваў:

— Зойдзем да мяне, пасядзім, пагутарым.

Лазавенка паспрабаваў адмовіцца, але Прымак адразу згадзіўся.

Будынак урачэбнага ўчастка стаяў на краі вёскі, каля саду. Тут, паабапал шляху з прысадамі старых ясакараў і ліп, да вайны размяшчаліся ўсе грамадскія будоўлі: сельсовет, больніца, школа, клуб, сельмаг. Цяпер-жа покуль што былі адноўлены толькі два будынкі: школа і ўрачэбны ўчастак. Гэтыя два будынкі былі цагляныя, а таму пажар не знішчыў іх цалкам. Далей пачыналася вёска. Роўная вуліца збягала з узгорку, на самай вяршыні якога стаяла школа, да рэчкі, што падковай абгінала вёску.

Максім крытычным позіркам акінуў хаты. Магчыма, зусім не жадаючы гэтага, ён пачаў прыдзірліва адносіцца да ўсяго, што было звязана з імем Васіля.

«Што-ж, хаты, як хаты», — заключыў ён, хоць і сам адчуваў, што крывіць душой. Хаты былі новыя, вялікія, амаль усе — з трыма вокнамі на вуліцу.

Іх сустрэла жонка Ладыніна — Ірына Аркадзеўна, жанчына поўная і прыветлівая. Маючы пяцьдзесят год, яна не страціла прываблівай

прыгажосці свайго твару, белага, асветленага цёплымі промнямі добрых блакітных вачэй. Не гледзячы на сваю паўнату, рухалася яна жвава і неяк мякка, бясшумна.

Доктар займаў два невялічкія пакоі. У першым стаяў стол, шафа, канапа і на ўсю сцяну, ад падлогі да столі, паліцы з кнігамі. Максім здзівіўся, убачыўшы гэтулькі кніг, ён ведаў, што пасля акупацыі кнігі былі найвялікшай каштоўнасцю і сабраць нават невялікую бібліятэку было нялёгкай справай.

Максіма папрасілі расказаць пра Маньчжурыю і Карэю, якія яму пашанцавала вызваляць.

Ён расказваў доўга і падрабязна аб прыродзе тых краін, аб звычаях, аб страшэннай галечы абрабаваных японскімі захопнікамі народаў. Відаць, расказ захапіў слухачоў, а іх увага і цікаўнасць у сваю чаргу натхняла Максіма. Ён нават пачаў ужо крыху любавацца самім сабой, сваім уменнем так расказваць. Нават Прымак, які і сам за вайну пабачыў нямала, пахваліў:

— Ты, брат, расказваеш, нібы пісьменнік...

І, мабыць, доўга яшчэ ён разказваў-бы...

Але раптам у калідоры застукалі — нехта шпарка бег, моцна грукаючы ботамі аб падлогу. І вось дзверы насцеж — і ў пакой уляцела дзяўчына.

Максім аслупянеў ад здзіўлення: так уразіла яго прыгажосць незнаёмкі.

Яна была ў белай пуховай шапцы і сінім лыжным касцюме, які па грудзі быў мокры і абмерзлы. У руках трымала бліскучыя канькі.

Ірына Аркадзеўна пляснула далонямі:

— Правалілася!

Дзяўчына звонка засмяялася, падарыла гасцям ясны, прыветлівы позірк і, кінуўшы канькі за грубку, знікла ў суседнім пакоі.

У Максіма дрогнула сэрца. Ён ажно глыбока ўздыхнуў, нібы перад гэтым доўга стрымліваў дыханне. Ладынін зірнуў на яго, каротка растлумачыў:

— Дачка, — і пачаў расказваць таксама пра Маньчжурыю, аб якой калісьці чытаў. Але Максім не слухаў яго. Ён слухаў іншае — прыглушаны вясёлы смех і шэпт за дзвярыма. Ён увесь быў у палоне позірку, які яна пакінула тут, у гэтым пакоі, і смеху, які гучэў там. Ні разу яшчэ жаночая прыгажосць не ўражвала яго так моцна. Ён паспрабаваў нават супакоіць сябе:

«А можа — нічога асаблівага? Проста ў такім незвычайным выглядзе, расчырванелая мільганула перад вачыма, і мне здалося, —

сапраўды, ён не ўправіўся запомніць яе твар і не імог яго ўявіць. — Супакойся, брат... Пачакай — пабачым...»

З-за дзвярэй пачуўся голас Ірыны Аркадзеўны:

— Ігнась, прынясі, калі ласка, спірт.

— Тата! Не трэба! Глупства! Я нават не прамокла.

Аднак Ладынін хутка падняўся і пайшоў у амбулаторыю, якая знаходзілася ў другой палавіне дома праз калідор. Прымак падмануў Максіму і Васілю.

— Што аслупянелі, халасцёж? Вось яна — дзявочая пекната! Мне вашы-б гады!

Лазавенка іранічна ўсміхнуўся.

— Чулі мы пра цябе ў нашы гады.

— Ну, зноў, відаць, брахні наслухаўся..-

— Ды не! Гавораць, што не ты сватаў, а цябе сваталі...

Прымак зарагатаў.

— Гэта цесць, халера на яго, такую хлусню распускае. Д'ябал стары!

Максім і гэтую жартаўлівую гаворку пачуў так сабе, між іншым.

Нарэшце дзяўчына вышла, і ён зноў на момант застыў ад захаплення. Яго заваражылі яе вочы — вялікія, мяккія, нібы зацягнутыя блакітнай смугой, — і яе вусны, ружовыя, прыпухлыя. Прыгожыя былі і яе крыху рудаватыя валасы. А модная, вішнёвага колеру, крэпдэшынавая сукенка, цесна аблягаючы гнуткі стан, рабіла яе яшчэ больш прыгожай. Максіму яна чамусьці нагадала рабіну, што стаяла некалі перад акном бацькавай хаты — таксама высокая, стройная, абвешаная буйнымі гронкамі ружовых ягад. Асабліва чароўнай была яна вераснёвымі раніцамі, калі толькі што ўзыходзіла сонца, пырскала ў вокны хаты праменнямі і аблівала рабіну чырвоным святлом.

Дзяўчына спачатку сказала ўсім:

— Дзень добры,— потым пачала проста па-сяброўску паціскаць рукі. Першаму — Васілю. Максім адзначыў гэта і падумаў: «Вось чаму ён тут сядзіць цэлы дзень».

Максіму яна сказала:

— Ліда.

Ён назваў сябе.

Яна варухнула брывамі.

— Вось які вы!

Ён здзівіўся: скуль яна ведае пра яго? Але не знайшоў, што сказаць, ды і не ўправіўся — Васіль спытаў яе:

— Дзе гэта вы, Ліда, нырнулі?

— Ды на гэтым вашым Голым балоце.

— А вы ажно туды забраліся?

— А дзе-ж больш пакатацца! Там — такі прастор! А, прызнаюся, я моцна такі спалохалася. Добра, што мелка і хлопцы хутка выцягнулі, — і яна пачала расказваць, як яна правалілася, як выцягвалі яе вучні, і як яна потым бегла два кілометры — «так бегла, што ўсе адсталі».

Максім не зводзіў з дзяўчыны вачэй. І голас у яе быў нейкі асаблівы, меладычны.

Калі іх запрасілі абедаць, Максіму пашанцавала сесці за стол побач з Лідай. Выбраўшы зручны момант, ён ціха спытаў у яе:

— Вы сказалі: «Вось вы які!». Дазвольце даведацца — які?

Яна паглядзела на яго, падумала і адказала без усмешкі:

— Прыгожы.

— Хачу папярэдзіць вас, што я не люблю кампліментаў. Я салдат, — сказаў ён.

— Тады не набівайцеся на іх

Ён змоўк, падумаўшы:

«У дачкі язычок бацькаў. За словам у кішэню не лазіць».

Час у Ладыніных праляцеў непрыкметна. Сцямнела. Калі Васіль і Максім вышлі, цемра хмарнай асенняй ночы пасля яркаасветленага пакоя асляпіла іх. Ажно зялёныя іскры пасыпаліся перад вачыма. Потым засталася адна суцэльная чарната, быццам у глыбокай яме.

Яны моўчкі пастаялі на ганку, каб звыкнуцца з цемрай.

У вышыні, над галовамі, аднастайна, сумна шумелі старыя голыя ліпы і таполі, якіх не кранууў пажар. Усе таполі (Максім прыкмеціў гэта яшчэ ўдзень) былі ўжо сухаверхія. І вось там, у мёртвых вершалінах, вецер не шумеў, а тонка і жалобна свістаў. А дзесьці ў другім канцы вёскі ўпарта і злосна крычала нечым пакрыўджаная авечка.

— Бэ-э-э...

Першым сышоў з ганка Максім, але адразу-ж наскочыў на груду нейкай цэглы, ледзь не ўпаў, моцна выцяў калена. Лаянка сама сарвалася з вуснаў.

— Давай руку, бо тут без прывычкі ногі паламаць можна.

Васіль знайшоў у цемры руку Максіма і шпарка пайшоў разам з ім па вузкай сцежцы, што вяла ад ганка на гасцінец.

— Але... Сцежкі-дарожкі ў дом гэты знаёмыя табе, — іранічна заўважыў Максім. Васіль здагадаўся, што ён мае на ўвазе, але зрабіў выгляд, што не разумее, і наіўна спытаў:

— А чаму яны павінны быць незнаёмымі? — і хвіліну памаўчаўшы дадаў: — Я іх вытаптаў, калі дом аднаўлялі. Я многа, брат, тут сцежак пратаптаў. За вайну ўсё было зарасло.

У Максіма знікла жаданне кпіць з яго, якое было з'явілася яшчэ за сталом у доктара. Васіль абяззбройваў яго сваім спакоем і разважлівасцю.

Хвіліну яны ішлі моўчкі, датыкаючыся адзін аднаго локцямі. Авечка ўрэшце змоўкла, ліпы засталіся ззаду. Было ціха.

Максім раптам папрасіў:

— Не сакрэт — раскажы пра свае планы на будучае. Асабістыя.

Васіль адказаў не адразу.

— Рыхтуюся быць старшынёй калгаса.

— Я сур'ёзна пытаюся.

— А я сур'ёзна адказваю. Добрым старшынёй добрага калгаса. Думаю, што нядоўга чакаць, калі калгасы нашы поўнасцю электрыфікуюцца, механізуюцца, стануць буйнымі фабрыкамі хлеба, малака, мяса. Кіраваць такім калгасам абы-хто не здолее. Да гэтага трэба падрыхтавацца, як належыць. Вунь дырэктар невялічкага раённага цагельнага заводзіка — тэхнік, ільназавода — інжынер. Іх вучылі, рыхтавалі. Дык ці не пара нам і старшынь рыхтаваць? Вось я і рыхтуюся... Буду завочна вучыцца.

— Але-е, — задумліва працягнуў Максім. — А цябе раптам возьмуць і не выберуць?

— Значыцца быў дрэнным старшынёй. Але гэта разважанне слабых. Роўназначнае таму, каб, напрыклад, студэнт падумаў: «А раптам, для мяне нахопіць месца?», і кінуў вучыцца, спалохаўшыся гэтай думкі.

— Аднак ты самаўпэўнены.

Васіль нічога на гэта не адказаў — памаўчаў хвіліну, потым спытаў:

— Ну, а ты з чаго рашыў пачаць?

— Я? З жаніцьбы.

— Разумна, — засмяяўся Васіль.

Ішлі па вуліцы. З хат праз вокны падала святло, а таму было тут святлей, чым па гасцінцы. Доўгія палосы з адбіткам рам наўкось перасякалі вуліцу, перакрыжоўваліся пасярэдзіне. Адны з іх былі святлейшыя, другія — цямнейшыя: дзе-нідзе яшчэ гарэлі не лямпы, а газоўкі, зробленыя з гільзаў дробнакаліберных снарадаў. У адной хаце такая «капцілка» чамусьці стаяла на акне і добра была відаць з вуліцы.

Васіль на момант прыпыніўся супраць яе, потым звярнуўся да сябра:

— Хутка «міргалкі» гэтыя электрасвятлом заменім...

Максім свіснуў:

— Фантазія Ладыніна. Табе не здаецца, што ён занадта многа гаворыць. Я люблю людзей, якія менш гавораць, а больш робяць...

— Ладынін якраз з ліку такіх людзей. У цябе дрэнная прывычка меркаваць аб людзях з першага пагляду.

У голасе Васіля пачулася крыўда за свайго партыйнага кіраўніка.

— Ладынін дваццаць год у партыі. Дай божа нам з табой пражыць такое жыццё...

— Я сказаў табе, як сябру, сваё першае ўражанне. Пажывем — пабачым...

— А я ўжо бачу... Мне куды лягчэй стала працаваць, калі ён прыехаў. А прайшло ўсяго якіх тры месяцы. Ты кажаш — многа гаворыць. А я думаю, што добраму большэвіку ўменне добра гаварыць нідзе і ніколі не шкодзіла. Вялікая справа — умець данесці да народа большэвіцкую праўду. Я вось адчуваю, што ў мяне гэта, можа, самае слабае месца. Часам так хочацца ад душы пагутарыць з людзьмі, а пачнеш і скамечыш, не ўмееш сказаць усяго, што адчуваеш і думаеш. А ты кажаш...

— Я маўчу і слухаю, — жартаўліва адказаў Максім.

Спыніліся перад вялікай хатай, што глядзела на вуліцу трыма вокнамі, два з якіх былі ярка асветлены, у трэцяе святло даходзіла аднекуль здалёк.

— А вось і мой дом. Сам не знайшоў-бы ўжо, праўда?

Максім вышаў з паласы святла, падняў галаву, пачаўшы чамусьці агляд зверху. Бялеў зусім новенькі франтон; гонтавы дах быў ужо крыху цямнейшы, але таксама яшчэ досыць выразна вырысоўваўся на фоне чорнага неба. Хата была зрублена з тоўстых, чыста пагабляваных бярвенняў. У Максіма зноў у глыбіні душы варухнулася зайздрасць. Злуючыся за гэта на сябе, ён сказаў:

— Але, і ўначы відно, што хата старшыні калгаса.

Васіль не стрываў.

— У нас поўвёскі такіх хат — зласліва адказаў ён.— А цябе я не разумею. Усё ты ставіш пад сумненне, з усіх кпіш. Ведаеш, скептыцызм не да твару...

— Ну, ну, ты пачаў ужо... І пажартаваць нельга.

У вялікім пакоі, куды яны зайшлі, стаялі два новыя сталы, накрытыя чырвонай матэрыяй, і вялікая шафа. Яшчэ не атынкаваныя сцены былі акуратна, з густам, абклеены плакатамі, дыяграмамі, табліцамі. Віселі ў новых рамках партрэты членаў Палітбюро. На адным стале, што быў прысунуты ў самы кут, стаяў радыёпрыёмнік.

— Вось тут покуль што і наша калгасная канцылярыя і наш клуб. Зайдзі ў звычайны дзень — тут штовечар поўна народа, — Васіль

уключыў прыёмнік, пакой запоўніла далёкая музыка. — А вунь у тым пакоі жыве старшыня, — ён адчыніў дзверы ў бакоўку. — Тут мой і кабінет. Старыя — праз калідор, у другой палавіне...

6

З пятага па сёмы клас Васіль і Максім вучыліся разам, з года ў год сядзелі на адной парце, сябравалі. Часам, праўда, і сварыліся, а то і зусім насы адзін аднаму разбівалі, але дзіцячая дружба іх ад гэтага толькі мацнела. На выпускным вечары яны ўпотайкі, схаваўшыся ў садзе, выпілі чацвяртушку гарэлкі, ап'янелі і кляліся, што будуць сябрамі на ўсё жыццё. У гэты-ж вечар, вяртаючыся з школы, Максім сілком вырваў Машу з гурту дзяўчат, затрымаў, каб усе адышлі, і заікаючыся ад хвалявання і бянтэжанасці, сказаў, што кахае яе, толькі адну яе, і паімкнуўся пацалаваць. Яна спалохалася, адпіхнула яго ад сябе, вырвалася і, дагнаўшы дзяўчат, гучна крыкнула:

— Дзевачкі! Максім п'яны!

Ён пачуў гэта і ад вялікай абразы, крыўды і сораму адстаў ад усіх, лёг у разору і праляжаў да рання. А потым амаль год не мог глядзець Машы ў вочы — сароміўся.

Пасля сямігодкі Васіль паехаў у сельскагаспадарчы тэхнікум, некуды за Жлобін. Максім пачаў хадзіць у восьмы клас. І вельмі хутка яны забылі на сваю клятву ў школьным садзе — інтарэсы іх і жыццёвыя дарогі разышліся. Нешта лісты па два напісалі адзін аднаму — і на гэтым усё, нават і на канікулах сустракаліся так сабе, між іншым, як і з усімі іншымі былымі аднакласнікамі.

Але ў тое лета, калі Максім скончыў дзевяць класаў і падаў заяву ў ваенна-марское вучылішча, дзе вучыўся яго старэйшы брат Аляксей, яны пасяоравалі зноў і пасябравалі пры некалькі дзіўных абставінах. Неяк пасля аднаго вечара, на »кім Максім не прысутнічаў, хлопцы перадалі яму, што «студэнцік гэты... Вася Лазавенка» ўвесь вечар круціўся каля Машы, ды такім красамоўным быў, што проста ўсе дзівіліся. У Максіма ўспыхнула новае незнаёмае пачуццё. Дзён праз колькі ён спаткаў Васіля і проста сказаў яму:

— Ты вось што... не вельмі круціся каля нашых дзяўчат, а то я магу паказаць, дзе ракі зімуюць. Падумаеш, студэнт! Бачылі мы такіх студэнтаў.

Васіль здзівіўся і пачаў даводзіць, што гэта неразумна і дзіка, што такі ўчынак не да твару камсамольцу.

Максім груба перапыніў яго:

— Ты мне філасофію не разводзь. Я ведаю яе не горш за цябе.

Тады Васіль здзіўлена паглядзеў на яго і сур'ёзна спытаў:

— Пачакай, ды ты што, кахаеш Машу?

— А табе якая справа?

— Вось дзівак! То ты адразу-б і сказаў так. А то лаяцца пачаў... Я, брат, ніколі не дазволю сабе адбіваць дзяўчыну ад сябра.

З гэтага пачалося іх другое, юнацкае сяброўства. І перапісваліся яны пасля гэтага акуратна.

Васіль проста з тэхнікума (ён канчаў у тое лета трэці курс) пайшоў у знішчальны батальён. Абараняў Жлобін, Гомель, адступіў з Чырвонай Арміяй, стаўшы байцом-пехацінцам. Ён прайшоў праз усю вайну. Вырас з радавога да капітана, камандзіра роты. Тройчы быў ранены, атрымаў дзевяць узнагарод.

Максіма ў ваенна-марское вучылішча не прынялі, і ён, наперакор жаданню бацькоў, на злосць усім, паехаў у марскі тэхнікум. З тэхнікума, з першага курса, ён трапіў у супрацьтанкавую артылерыю.

Пасля першага-ж бою, у якім батарэя панесла вялікія страты, камандзір прызначыў яго за старшыну, і ён ажно два гады мусіў займацца гаспадарчымі справамі. Старшына ён быў вынаходлівы: усё мог здабыць, усё атрымаць і даставіць раней за другіх, абвесці «вакол пальца» любых інтэндантаў. Яму падабалася, што на пярэднім краі, у батарэі і нават у дывізіёне, да яго з павагай адносіліся не толькі салдаты, але і афіцэры. З многімі з іх, вышэйшымі за сябе па званню, ён быў за «панібрата»: дастаўляў ім лішнія сто грамаў, лепшыя папяросы, якія звычайна прызначаліся для самага высокага армейскага начальства, лепшую бялізну. Калі ў яго часам хто пытаў, адкуль у яго, маладога хлопца, такая «гаспадарская жылка», ён з гонарам адказваў: «Ад бацькі перадалася. Мой бацька быў лепшы старшыня калгаса».

Але, не гледзячы на ўсё гэта, ён, як і многія армейскія старшыны, праклінаў сваю пасаду і рваўся ў бой, пад агонь, да гармат.

Ён зайздросціў, калі яго сябры, сержанты, малодшыя лейтэнанты рабіліся героямі, атрымлівалі ўзнагароды. Яго-ж за ўвесь час узнагародзілі толькі двума медалямі.

На трэцім годзе вайны Лескаўца паслалі ў ваеннае вучылішча. Курсантам ён быў недысцыплінаваным — атрымаў не адно спагнанне. Але пасля камандзір узвода з яго быў смелы. За першы-ж бой у Прусіі ён быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны. Неўзабаве яму прысвоілі званне старшага лейтэнанта. У вайне з Японіяй ён ужо камандаваў батарэяй і атрымаў яшчэ адзін ордэн. Яму шанцавала: кулі міналі яго, за ўсю вайну толькі аднойчы яго лёгка кантузіла.

— У сарочцы ты нарадзіўся, Лескавец, — жартавалі франтавыя сябры.

Ён намерваўся пажыццёва застацца ў арміі, і таму нечаканы загад аб адлічэнні яго ў запас здзівіў і пакрыўдзіў яго: няўжо камандаванне лічыць яго слабым афіцэрам?

Лазавенка дэмабілізаваўся ўлетку сорак пятага года са шпіталю. У той час яшчэ амаль палова Дабрадзееўкі жыла ў зямлянках, хоць многія ўжо мелі зрубы. А на калгасным полі быў нізкі ўраджай. Нехапіла нават засыпаць насенныя фонды. Кіравала калгасам добрасумленная, але хваравітая жанчына — Наталля Сядая; у партызанскім атрадзе ў час блакады ў яе загінулі муж і двое дзяцей. У райком, куды дні праз тры пасля прыезду Васіль прышоў брацца на партыйны ўлік, яму адразу сказалі:

— А мы табе ўжо і работу знайшлі, як толькі даведаліся, што ты прыехаў.

Сказаў гэта вясёлы тоўсты чалавек, які сядзеў у кабінеце сакратара райкома. Васіль даведаўся, што гэта старшыня райвыканкома Нікалай Лявонавіч Бялоў.

— Выбірай: або маім намеснікам, або загадчыкам зямельнага аддзела. Адно з двух, — рашуча прапанаваў Бялоў.

Васіль разгубіўся ад нечаканасці.

— Чаму адразу так высока?

— Браток ты мой, кадры, кадры! — выгукнуў Бялоў.— А ты-ж трохі не аграном, афіцэр, герой... Выцягнеш, не бойся. Дапаможам.

— Дай чалавеку падумаць, — перапыніў старшыню сакратар райкома Макушэнка Пракоп Пракопавіч, і звярнуўся да Васіля: — Падумайце, маючы на ўвазе гэтую прапанову.

Дома Васіль расказаў аб усім бацьку.

Шасцідзесяцігадовы Міна Лазавенка задумліва пачухаў патыліцу і сказаў:

— А чаго табе, сыне, лезці туды? Ты-б лепей вось узяўся за свой калгас, ды падняў-бы яго, на ногі паставіў. А туды яшчэ паспееш.

Прапанова бацькі і здзівіла і ўзрадавала яго. Здзівіла, бо ён не чакаў пачуць яе ад банькі: стары ганарыўся, што сын — афіцэр, герой і, здавалася Васілю, павінен быў заганарыцца, што яму адразу прапануюць такія высокія пасады. А вышла наадварот.

Васілёва жаданне пайсці старшынёй такога адсталага калгаса спадабалася райкому. Толькі Бялоў сустрэў гэта не зусім прыхільна.

Васілю было цяжка вырашыць — з чаго пачаць. Задач было многа, усе яны былі цесна звязаны адна з адной і ўсе іх належала неадкладна і ўмела рашыць, каб узняць калгасную гаспадарку, забяспечыць багаты працадзень. Васіль успомніў ленінскае вучэнне аб ланцугу і

галоўным звяне. Але самае цяжкае знайсці яго, гэтае звяно, за якое належыць ухапіцца, каб выцягнуць увесь ланцуг.

Была восень, і ён паставіў на першае месца адбудову вёскі, каб да вясны вывесці калгаснікаў з зямлянак у светлыя і прасторныя хаты. І вельмі можа быць, што іменна гэта і забяспечыла яму далейшы поспех.

Ён працаваў ціха, без шуму, без лаянкі, ніколі не рашаў унутрыкалгасныя пытанні самадумна — заўсёды склікаў праўленне, агульныя сходы. Гэта неяк адразу актывізавала людзей, з'яднала іх, зацікавіла справамі калгаса. Калгаснікі, як і да вайны, пачалі радавацца кожнаму поспеху і балюча перажываць кожную няўдачу. Упартасць старшыні, яго спакойная настойлівасць і бязлітаснасць да гультаёў натхнялі іх. Ён дамогся, што чатырох гультаёў выключылі з калгаса. Потым абурыўся супраць дзейнасці ўпраўляючага банкам, які прымушаў людзей, жадаючых атрымаць дзяржаўны крэдыт на пабудову дома, прыходзіць да яго па пяць — дзесяць разоў. Рабіў ён гэта, каб атрымаць хабар. Бялоў, не разабраўшыся як след, узяў упраўляючага пад сваю абарону. Справа дайшла да абкома. Упраўляючага знялі з работы і выключылі з партыі, а Бялову запісалі вымову.

Васіль абвясціў у калгасе ўдарны месячнік, мабілізаваў людзей і за месяц нарыхтаваў патрэбную для адбудовы колькасць лесаматэрыялу. Але як яго перавезці больш чым за дваццаць кіламетраў? Коні, якія меліся ў калгасе, былі заняты на сельскагаспадарчых работах. Галоўным чынам на нарыхтоўцы ўгнаенняў. Сарваць такую работу было нельга — ад гэтага залежаў будучы ўраджай. Ды і коней трэба было шкадаваць — не перагружаць да сяўбы.

Васіль паехаў у абласны цэнтр і два дні хадзіў па ўстановах — спрабаваў купіць машыну. Дарэмна. У той час яе нялёгка было набыць. На трэці дзень ён рушыў да сакратара абкома і проста папрасіў:

— Дапамажыце.

Сакратар ацаніў настойлівасць маладога кіраўніка. Дапамог. Паклікаў дырэктара лесапільнага завода, які, дарэчы, аказаўся ў абкоме, і прапанаваў яму ўзяць шэфства над калгасам.

Дырэктар згадзіўся, здавалася, з энтузіязмам.

— Усё зраблю, Павел Сцяпанавіч.

А па дарозе на завод нездаволена бурчэў:

— Багадзельня ў мяне ці што? Свой завод яшчэ ў руінах. Хто цягне — на таго і кладуць.

Лазавенка паглядзеў на яго скоса, усміхнуўся.

— Што для вас, Лаўрэн Карнеевіч, дзве машыны з дванаццаці?

— Дзве? — дырэктар ажно падскочыў. — І не думайце, і не спадзявайцеся. Адну.

— Пяцьдзесят сем'яў у зямлі, Лаўрэн Карнеевіч. Паслухайце толькі, як жывуць людзі...

— Сам ведаю! — адрэзаў той, аднак машыны даў.

Васіль так арганізаваў работу гэтых машын," што за

поўмесяца яны вывезлі лес на ўсе пяцьдзесят дамоў. І яшчэ на грамадскія будынкі навазілі. У раёне здзіўлена круцілі галовамі. Дырэктар завода не паверыў і прыехаў з парторгам паглядзець сам. Васіль скарыстаў гэты прыезд. Хутка сабраў калгаснікаў. Яны падзякавалі гасцям за машыны і папрасілі мацаваць дружбу. А канкрэтнай просьбай было — дапамагчы ім напілаваць дошак. На развітанне дырэктар з ласкавым дакорам сказаў:

— Ну і хітры ты чалавек, Васіль Мінавіч.

Праз месяц з дапамогай шэфаў Васіль набыў для калгаса трохтонку. Машына яшчэ больш акрыліла калгаснікаў, бо цану ёй добра ведалі — да вайны іх было ў калгасе ажно дзве.

Адначасова ішла падрыхтоўка да сяўбы. Усю зіму Васіль паўтараў агратэхніку. Не выпускаў з калгаса ўчастковага агранома. Ён рашыў адразу-ж узяцца за аднаўленне травапольнага севазвароту.

Дзяржава дала насенную пазыку.

За трактар давялося пазмагацца. Дырэктар МТС Крыловіч стаў на дыбкі.

— У цябе лепшыя ў раёне коні, валы.

Васіль дамогся свайго — заключыў з МТС умову. Дырэктару сказаў:

— Не хочаш, каб былі непрыемнасці, забяспеч мяне ўсім неабходным. Не забывай на перадплужнікі, лушчыльнік, культыватар.

— Не забуду. Але пагляджу, як ты будзеш разлічвацца са мной.

— А я і не думаю разлічвацца з табой. Разлічымся з дзяржавай.

Яго заслухалі на бюро райкома і паставілі калгас у прыклад астатнім.

Вясной ён прапанаваў калгаснікам мерапрыемствы, якія павінны былі хутка ўзняць эканоміку калгаса: пасеяць вялікі гарод — у два-тры разы большы, чым сеяўся да вайны, адваяваць у балота 50 гектараў асушаных, але за вайну забалочаных, тарфянікаў. Сход быў бурны. Скептыкаў набралася больш, чым Васіль меркаваў.

Але супраць выступалі, галоўным чынам, гультаі, якія ведалі, што і гарод і асабліва веснавая асушка патрабуюць надзвычай напружанай працы. І сапраўды, працаваць давялося так, як, магчыма, многія не працавалі за ўсё сваё жыццё.

Але праца такая не згінула марна: вынікі былі большыя, чым нават чакалі. Гарод і добра дагледжаны сад далі багаты ўраджай. Усё лета вазілі гуркі, памідоры, капусту на калгасны рынак.

У калгасную касу паступіла каля поўмільёна рублёў і амаль усе іх, па пастанове агульнага сходу, адлічылі ў непадзельны фонд — на будаўніцтва, на пашырэнне гаспадаркі.

...— Жывём яшчэ небагата, як бачыш, — гаварыў Васіль сябру, калі яны ішлі ў школу, дзе меўся адбыцца вечар, прысвечаны дню Сталінскай Канстытуцыі. — Але, галоўнае,— людзі вераць, што хутка будзем жыць, як мае быць... А гэта вялікая сіла, такая вера. Людзі ў нас цудоўныя. З такімі людзьмі можна горы зрушыць... Адным словам, пажывеш — пабачыш...

7

— А ўсё-ж гэта свінства, якому і назвы няма. — Алеся злосна адкінула ад сябе падручнік па трыганаметрыі. — Пераварваць не магу гэтую нудную трыганаметрыю. Косінус, сінус, тангенс, катангенс... Надта ён задаецца...

Маша, якая сядзела з другога боку століка і таксама чытала, падняла галаву, і невясёлая ўсмешка на кароткі момант асвятліла яе твар.

— Хто? Тангенс?

Алеся спачатку не зразумела, потым, зразумеўшы, абурылася:

— Не прыкідвайся, калі ласка. Я-ж бачу. Ты добрую гадзіну глядзіш у адну старонку.

Маша глянула ў кнігу і пачырванела, пераканаўшыся, што гэта сапраўды так.

— Максім твой, вось хто! Разгубіў ён, відаць, там, на сопках Маньчжурыі, усё сваё сумленне.

— Алеся!

— Што Алеся? Мне балюча, крыўдна. Гэта абражае мяне! Так рыхтаваліся, так чакалі!

Маша стрымала ўздых, прыкусіла губу і паківала галавой.

— Ты вельмі сурова асуджаеш яго. Трэба-ж зразумець. Там столькі сяброў, родзічаў, і ўсіх ён не бачыў шэсць год. Адзін, другі пакліча... І паспрабуй пасля ад іх вырвацца, асабліва, калі ўсе вып'юць... Трэба-ж разумець...

— Не суцяшай ты сябе, калі ласка... Не люблю я гэтай тваё пакорлівасці. Каму трэба твая знешняя спакойнасць? Я-ж добра ведаю, што ў цябе на душы. Чалавек павінен умець не толькі стрымліваць свае

пачуцці. Ён павінен умець і абурацца, пратэставаць, лаяцца, калі гэта трэба. Я вось не магу маўчаць! І я з ім яшчэ пагутару!

— Ну, ну! Пачала... Дазволь ужо мне самой з ім пагутарыць.

— Убачыш — і зноў раскіснеш.

— Вось ты як думаеш пра мяне, — пакрыўдзілася Маша.

— Пра цябе я добра думаю, а вось пра яго...

Пакінь, Алеся, — нездаволена зморшчылася Маша.

— Кінула.

Алеся зноў разгарнула падручнік, хутка прагартала некалькі старонак, потым хвілін на пяць паглыбілася ў адну з іх і раптам ціха заспявала:

— Косінус — сінус — сінус... І катангенс — тангенс — тангенс...

Маша папрасіла:

— Ды хопіць табе. Якая кепская прывычка — спяваць усё, што трапіць на язык.

— Я гукі люблю. Ты паслухай, якая тут алітэрацыя. Кос-с-сінус-с-сінус... Сыплецца. І раптам ка-тан-генс,— яна па-дзіцячаму радасна і весела засмяялася. — А ты кінь свайго Вільямса — гэта не для сённешняга вечара. Давай лепей вершы чытаць — і тут-жа ўздыхнула. — Як я зайздрошчу табе, што ты з такой цікавасцю можаш чытаць Вільямса, Лысенку. А для мяне проста пакуты — хімію ці вось гэтую трыганаметрыю вучыць.

Алеся выцягнула аднекуль з-пад стала томік любімага паэта, разгарнула наўгад, прачытала:

Хачу неспакойнаю хмарай грымець, Маланкамі ўвесь апавіты...

Задумліва паўтарыла, падняўшы вочы, смакуючы кожны гук.

— Якую ўладу мае чалавек над словам: так проста, звычайна і словы звычайныя. Чаму я не магу папісаць так? Я-ж адчуваю гэта розумам, сэрцам.

Алеся чытала доўга, нястомна.

Не сустрэліся ні разу мы з табою за вайну, А твае лісты з маімі стрэчу мелі не адну.

Маша паднялася.

— Я выйду. У мяне галава баліць.

Сястра правяла яе засмучаным позіркам і, калі яна вышла, цяжка ўздыхнула.

На двары — цёмна і ціха. Толькі вецер даносіць шум недалёкага хвойніку. Вецер — марозны, калючы.

Галава сапраўды балела. Проста гарэла ўсё. Гэта ад таго, што яна так напружана доўга думала. Ёй хацелася апраўдаць Максіма, каб супакоіцца і самой. Але апраўданняў, акрамя таго, якое яна выказала

сястры, не было «Тры дні, як дома, і не мог зайсці. Чаму? Чым растлумачыць? А так пісаў... Здаецца аб усім ужо дамовіліся. Нічога не было няяснага. Шэсць год чакала, шэсць год жыла аднымі надзеямі, верыла, кахала ўсім сэрцам... Састарылася, — яна горка ўсміхнулася. — А цяпер што-ж, Максім Антонавіч, можа, трэба пачынаць спачатку?»

Маша жахнулася гэтай думкі і сурова дакарыла сябе:

«Дурніца!.. Усялякае глупства надумаеш. Прыдзе — не дзе дзенецца... Загуляў хлопец. Няхай пагуляе, пакуль халасты», — і ёй зрабілася весялей ад гэтай жартаўлівай думкі.

Яна пайшла на гарод. Вочы звыкніся з цемрай і адрознілі яблыні ў канцы саду — іх толькі некалькі ўцалела ад пажару. Яна падышла да адной, ласкава пагладзіла халодную, шурпатую кару і рушыла далей. Зноў завалодалі трывожныя думкі.

«А можа яму хто нагаварыў на мяне? Ёсць-жа злыя языкі...»

Непрыкметна яна вышла на поплаў. Пад нагамі зазвінеў тонкі лядок. Маша схамянулася, спалохана азірнулася па баках і хутка пайшла назад.

Каля хаты яна сустрэла брата: ён вяртаўся з Дабрадзееўкі, з вечара.

Пятру ішоў пятнаццаты год, але быў ён рослы і дужы. Вайна перашкодзіла хлопцу вучыцца. Пасля вызвалення ён палічыў сябе перарасткам і адмовіўся пайсці ў пяты клас. Цяпер вучыўся ў вячэрняй школе і працаваў у калгасе, зарабляў за год больш працадзён, чым нават Маша. Старэйшую сястру ён паважаў і любіў — яна з маленства была яму за маці. Яны разам увайшлі ў хату.

Алеся ляжала на ложку, пад коўдрай, і чытала, прымацаваўшы лямпу над галавой. Угледзеўшы брата, яна хітравата прыжмурылася.

— Нішто сабе, маладзы чалавек. Гадзіна ночы. Відаць, Галачка затрымала? Маленькая, а такая дасціпная, саладуха гэтая...

Пятро пачырванеў.

— Зноў пачынаеш. Я на вечары быў, з хлопцамі. Які вечар быў! Чаму вы не прышлі? Доктар цікава даклад зрабіў. Вось гаворыць, дык гаворыць! Пастаноўка была. Ліда доктарава песні спявала. А пасля — танцы... Косця Бульбешка на новым баяне іграе. Эх, баян! Ну, брат ты мой, і танцы былі! — хлопец захапіўся і наіўна расказваў аб усім. — Да сёмага поту танцавалі. Нават старая Гарбыліха пусцілася... Але лепш за ўсіх танцавалі Максім наш і Ліда доктарава. Яны ўвесь вечар разам танцавалі... Каб вы бачылі!..

Злосны крык Алесі перапыніў яго.

— Ну і дурань ты! — і ў расказчыка паляцела падушка.

Здзіўлены Пятро зlавіў яе на ляту і застыў з ёю, не разумеючы, чым абурыў сястру. Разгублена павярнуўся да Машы. Старэйшая сястра стаяла моўчкі, прыцiснуўшыся спіною да печы. Твар яе быў бледны, пальцы рук нервова церабілі махры хусткі. Але Пятро нічога гэтага не бачыў і дакорліва сказаў ёй:

— Вось, дзівуйся. Я гаварыў табе, што яна хутка звар'яцее. Хай больш пачытае кніг!

Маша ласкава, па-мацярынску ўсміхнулася:

— Не звяртай на яе ўвагі. Вячэрай. Яна задачы не рашыла.

8

Ужо гэтыя першыя сустрэчы адразу акрылілі Максіма. Знікла тое адчуванне неасэнсаванай трывогі, якая часам з'яўлялася ў дарозе, калі ён думаў аб сваёй новай, цывільнай дзейнасці. Цяпер-жа здавалася, што ён ужо досыць паспяхова пачаў яе, гэтую дзейнасць. І ад гэтага было лёгка і светла на душы. Ён нават у думках пагразіў Васілю:

«Нічога, браце, як-небудзь і мы не адстанем. Таксама не лыкам шытыя. І тут не пуста», — ён пастукаў пальцам сябе па ілбе.

У тую ноч ён доўга не мог заснуць. Перад вачыма стаялі вобразы новых знаёмых, з якімі ён сустрэўся за дзень, успаміналіся размовы.

Але часцей за ўсё з'яўляліся два вобразы — двух дзяўчын. Адна — у старым кажушку, з віламі, з запэцканымі рукамі; непрыкметна выцірае руку аб кажух і збянтэжана ўсміхаецца: «Глядзі-ж, Максім...» Другая — у сінім лыжным касцюме, расчырванелая; яе звонкі, жыццерадасны смех напаўняе пакой, і ўсё навокал звініць ад гэтага смеху. З вачэй праменяцца жартлівыя іскры. «Вось вы які!» «Які?» «Прыгожы...»

І, заснуўшы, ён усё яшчэ бачыў яе, гэтую другую.

Назаўтра ён пайшоў у госці да сястры, якая была замужам у суседняй вёсцы.

А дзён праз колькі, ідучы раніцою ў раённы цэнтр, ён спаткаўся з Алесяй. Дзяўчына з пацёртым цыратавым партфелем, напакаваным кнігамі, бегла ў школу і дагнала яго.

— Няўжо Саша? — здзівіўся ён. — Яна ці не яна?

Алеся нават не ўсміхнулася ў адказ, сур'ёзна прывіталася.

— Дзень добры. Максім Антонавіч.

— Значыцца, яна. Аднак, якой ты стала прыгажуняй! Ай-я-яй! Якое хараство! Ведаеш, у цябе і закахацца не грэх. Далібог. Мабыць, усе твае аднакласнікі сохнуць па табе. Добрыя хлопцы ёсць? — ён падміргнуў ёй, яна адвяла позірк убок. — Ну, ты не чырванеей. Я ў

твае гады таксама чырванеў... Аднак, вось табе наглядны прыклад дыялектыкі... Вучыш дыялектыку? Колькасць, гады, перайшла ў якасць — у прыгажосць. Тыгж была такая рудая, кірпатая, — ён задраў пальцам свой нос, зморшчыўся.— Я помню, як ты гароды вытаптвала... Але... што ты такая сур'ёзная? Паважная, як акадэмік... Аб чым задумалася?

— Я — аб чым? Таксама аб дыялектыцы. Аказваецца, не ўсё цячэ і змяняецца. Вось ты, напрыклад, які быў ёлуп, такі і цяпер...

Максім на момант сапраўды ажно аслупянеў.

— Што-о?

— Тое самае... Вунь паляцела! — яна засмяялася і шпарка пайшла наперад.

— Гэта цябе ў дзесяцігодцы так навучылі? Так?

Яна павярнулася, гучна адказала:

— Уяві, што так!

— Я вось зайду у школу, раскажу, як ты з дарослымі... Чорт вазьмі!.. Комсамолка!

— Зайдзі, зайдзі, буду вельмі рада!

Калі яна адышла на значную адлегласць, ён раптам адчуў, што ў яго спацеў лоб, хоць проста ў твар дзьмуў калючы халодны вецер...

«Які быў... Ах, чартоўка... Ёлуп... Пачакай-жа... Аднак, што гэта азначае? Маша як сустрэла, якімі вачыма глядзела. «Глядзі-ж Максім...» А гэтая! Чакай-жа», — ён пагражаў, аднак сустракацца з ёй у другі раз у яго не было ніякага жадання.

У райкоме яго папрасілі зайсці да першага сакратара. Максім крыху ведаў гэтага чалавека. Да вайны Макушэнка быў дырэктарам суседняй сямігодкі і часам заглядваў у дабрадзееўскую школу — на «дзень дырэктара» ці прадстаўніком на экзамены. У вайну Пракоп Пракопавіч партызаніў: спачатку быў камандзірам атрада, які ён арганізаваў у першыя-ж дні акупацыі, пасля — камісарам брыгады.

У кабінеце сакратара Максім убачыў Васіля. Той сядзеў каля акна, насупраць стала, і сустрэў яго хітрай усмешкай чалавека, які адчуваў сябе тут, як дома.

Макушэнка падняўся з-за стала, накульгваючы, зрабіў пару крокаў насустрач Максіму, моцна пацiснуў руку і, не выпускаючы яе, спытаў:

— Значыцца, сын Антона Захаравіча? Сын майго добрага друга... Та-ак...

Хвіліну яны разглядалі адзін аднаго. У сакратара быў сухі, чыста выгалены твар з шрамам на правай шчацэ; блізарукі позірк блакітных вачэй. Апрануты быў Макушэнка ў старанна выпрасаваны чорны

гарнітур; такі-ж чорны гальштук быў завязаны ўмела і прыгожа. І Максім падумаў, што прафесіянальнае, настаўніцкае, трымаецца ў Макушэнкі вельмі моцна.

Ён запрасіў Максіма сесці і сеў сам, насупраць, за сталом.

— Значыцца, да мірнай працы? До-обра!.. Сёння трэці афіцэр бярэцца на ўлік. У гэтым, скажу вам, вялікі палітычны сэнс. Упэўненасць наша, сіла, — Макушэнка паклаў далонь на газеты, што акуратна былі складзены на краі стала. — Я вось чытаў толькі што... Не падабаецца ім прапанова аб усеагульным скарачэнні ўзбраенняў. Кіслыя ў іх фізіяноміі пасля прамовы Молатава. І становішча незайздроснае: не могуць пакуль што яшчэ катэгарычна сказаць «не» — баяцца, вельмі свежы яшчэ ў народаў успаміны аб перажытым, ну, а сказаць «так» — значыцца, пасля выкрыць сябе... Чыталі? Дыскусію пачалі аб правілах аднагалоснасці.

— Не падабаецца ім права вета, — адгукнуўся Васіль. — Ім хочацца самім усё вырашаць. А так, што не пачнуць — абавязкова праваляцца.

Сакратар падняў галаву, у вачах прамянілася ўсмешка. Максім падумаў, што Макушзнку, пэўна, шчыра любілі дзеці: вучні любяць настаўнікаў, у якіх так прыветліва і весела смяюцца вочы.

Максіму хацелася таксама сказаць што-небудзь аб палітыцы, але ён дні тры ўжо не чытаў газет і таму баяўся сказаць неўпапад.

Вопытны настаўнік, Макушэнка, відаць, разгадаў жаданне Лескаўца і хутка і неяк зусім непрыкметна змяніў тэму — пачаў распытваць, дзе служыў, ваяваў. Тут Максім адразу апынуўся на вышыні: аб тым, што бачыў, ён умеў расказаць.

— Люблю паслухаць і пачытаць аб далёкіх краях. Географ, — усміхнуўся ён.

Максім адзначыў у ім яшчэ адну прыемную якасць — уменне выслухаць чалавека да канца.

— Ну, а дома як сустрэлі? — спытаў сакратар, калі Лескавец скончыў расказваць. — Зруб пачалі рабіць?

— Зруб? — Максім здзівіўся..— Матэрыял яшчэ ў лесе, таварыш сакратар.

Твар Макушэнкі адразу перамяніўся — гнеўна пачырванеў, пацямнелі вочы. Сашчапіўшы пальцы, ён нервова пацёр далонямі, дакорліва паглядзеў на Лазавенку.

— Та-ак... А на бюро Шаройка далажыў, што ўвесь лес перавезены і рубіць пачалі... Не схлусіць — не дыхне. Ну, і чалавек! А ты, Васіль Мінавіч, што глядзеў? Член райкома.

Васіль падняўся.

— Я прапаноўваў Шаройку машыну, на сельвыканкоме гаварыў...

— Мала гаварыць, Лазавенка, асабліва з Шаройкам.

Падняўшыся, Макушэнка абышоў вакол доўгага стала, што быў прыстаўлены да пісьмовага, утвараючы з ім літару «Т», І спыніўся перад Максімам.

— Ну, добра, прыехаў... На ўлік возьмем. Дом дапаможам збудаваць... А далей што? Думаў?

— Не, яшчэ не думаў, — прызнаўся Максім.

— Варта было падумаць ужо.

Сакратар абышоў стол з другога боку, вярнуўся на сваё месца і пачаў корпацца ў шуфлядзе стала.

Васіль адышоў і сеў у куток на дыване. Адтуль зноў усміхнуўся Максіму. Макулінка падняў галаву.

— Даўно член партыі? Год? Так, моладзь... Але добрая моладзь, залатая...

Ён знайшоў нейкую паперку, уважліва прачытаў і раптам зноў падняў на Максіма вочы, напоўненыя жывой цікаўнасцю.

— Значыцца, не думаў яшчэ аб рабоце? Так... А як думаеш, старшынёй калгаса здолеў-бы?

— Я? — здзіўлена спытаў Максім.

— Ты. Бацька твой шэсць год быў старшынёй. Вось і прадоўжыў-бы пачатае ім...

— Не рыхтаваў сябе для такой дзейнасці.

— А ты на сябра свайго зірні, вось ён перад табой. Таксама, здаецца, не рыхтаваў сябе...

Максім усміхнуўся.

— Гэта ён вам сказаў, што не рыхтаваў? А я чуў ад яго іншае.

— Рыхтуюся зараз, Пракоп Пракопавіч, — весела адгукнуўся Васіль.

— Правільна... На практычнай рабоце... Найлепшая вучоба, — зазначыў сакратар.

— Падрыхтаванаму — лёгка рыхтавацца, — не згаджаўся Максім.

— Ты — аб тэхнікуме? За вайну, брат, усё забыў. Але вучуся— успамінаю. Адным словам, давай, Максім... Разам будзем працаваць, дапамагаць адзін аднаму.

— Мяне калгаснікі не выберуць, гаспадарыць не ўмею.

— Нічога, навучышся.

— Сапраўды, падумай, таварыш Лескавец. Паглядзі, узваж, — па-сяброўску проста параіў сакратар. — Вядома, работа нялёгкая, але пачэсная. Набудзеш вопыт, потым на вучобу пашлём. Падвучышся.

Выйнаўшы ад сакратара, яны зайшлі ў чайную.

У пярэднім вялікім пакоі было цесна і накурана, усе столікі былі заняты. Васіль правёў Максіма ў бакоўку. Там стаялі толькі два сталы, засланыя чыстымі сурвэткамі, і не было ніводнай душы.

— Гэта што?.. Зал для начальства? — Максім спытаў насмешліва, панура. Наогул ён быў маўклівы, задумлівы. Васіль, наадварот, быў радасна ўзбуджаны і не пакідаў угаворваць сябра:

— Слухай, згаджайся. Толькі ў свой калгас, замест Шаройкі. Цябе там выберуць пад апладысменты. І тады мы з табой маглі-б размахнуцца... Каб ты ведаў, якія ў мяне планы! Мы сёння з Пракопам Пракопавічам па тэлефону з Мінскам гаварылі... Наконт электрастанцыі, каб крэдыт далі... Ды і наогул, я табе скажу, у нас ёсць дзе размахнуцца па-сапраўднаму... І гароды, і сады, і жывёлагадоўля. Лугоў вунь колькі... Адным словам, я табе раю...

— Што-ж, памяркую, — з абыякавым выглядам адказаў Максім, а сам падумаў: «Але не спадзявайся, што я да цябе буду потым з паклонамі хадзіць... «Мы з табой...» Мы і без цябе чаго-небудзь ды варты».

9

Некалі да калектывізацыі Шаройка штогод атрымліваў прэміі за лепшага ў раёне каня, за лепшую свінаматку, за найвышэйшы ўраджай бульбы. Гаспадарка ў яго была невялікая — серадняцкая, — але ўзорная. Адзін конь, але такі, што слава аб ім ішла далёка. Дзве «галанкі» выклікалі зайздрасць усіх гаспадынь у наваколлі. І хата — адна з лепшых: пад бляшаным дахам, на тры пакоі, з добрымі гаспадарчымі прыбудовамі. Але толькі ў сваёй вёсцы ведалі, чаго ўсё гэта каштавала і самаму Амяльяну і яго жонцы Ганне. Дзень і ноч спіны не разгіналі. На паласе начавалі ў жніво, у гумне абедалі ў часе малацьбы. Быў нават выпадак, што Ганна ў полі нарадзіла.

Цяжка было Амяльяну Дзянісавічу развітвацца з такой гаспадаркай. Ажно пачарнеў увесь, покуль ішла калектывізацыя. І ўсё адцягваў на далей. Усё прыслухоўваўся і прыглядаўся. Да таго часу цягнуў і слухаў, пакуль не пачуў, што Антон Лескавец падкулачнікам яго на калгасным сходзе назваў.

А праз гады два-тры ўжо на кожным вяселлі, на кожных хрэсбінах, за кожнай выпіўкай людзі чулі ад Шаройкі:

— Не памыляецца той, хто не жыве. Але... Хто не жыве. Жывы чалавек заўсёды памыляецца. Вось возьмем мяне... У калгас не хацеў ісці, баяўся... Ці-ж не дурань бі.iv? Падумайце толькі... Кажане, тады многія не разумелі? Яно так, вядома... Але-ж былі людзі, што разумелі

і паперад усё бачылі... Бачылі, што без калгаса не будзе нам жыцця. Марнелі-б кожны на сваёй палосцы, ды кулакоў расцілі-б...

Няўрымслівы, гарачы Антон Лескавец часта не стрымліваўся і гаварыў яму ў вочы:

— А з цябе першага кулак вырас-бы...

Шаройка баяўся з ім спрачацца, ніколі не выдаваў сваёй крыўды і заўсёды згаджаўся...

А што ты думаеш, Антон Захаравіч, усё магло быць. Ён, калгас, і характар чалавечы ламае, псіхалогію, як гавораць вучоныя, перарабляе. І я вось адчуваю, што зусім другім чалавекам зрабіўся. Зусім, брат, перамяніўся.

А потым пастулова і Лескавец забыў пра яго «зацяжное» ўступленне ў калгас, перастаў папракаць. І зноў Шаройка набыў славу лепшага гаспадара, ужо калгаснага. Чатыры гады перад вайной ён быў брыгадзірам, і брыгада яго заўсёды была першай. Гэтага не мог не цаніць старшыня калгаса Антон Лескавец. Праўда, і ва ўласным доме ў Амяльяна Дзянісавіча парадак быў не горшы. Але хто цяпер мог папракнуць яго гэтым? У багатым калгасе — заможныя і калгаснікі. Не адзін ён такі ў вёсцы! І аб сям'і яго ніхто дрэннага слова не мог сказаць. Працавітая і шчырая была сям'я. Усе дзёці паспяхова канчалі школу і ўсе чацвёра адзін за адным выязджалі на вучобу ў горад. А ад гэтага яшчэ больш вырастаў аўтарытэт бацькі.

... Загад аб эвакуацыі жывёлы Лескавец прывёз уначы. Па дарозе з раённага цэнтра дамоў старшыня абдумваў план эвакуацыі. Назначыў пагоншчыкаў. Кандыдатуру адказнага за ўвесь калгасны статак узгадніў яшчэ ў райкоме. Таму, не заехаўшы нават дамоў, ён накіраваўся да Шаройкі.

Амяльян Дзянісавіч спаў на вышках, на сене, апрануты і з бярданкай, як і многія другія калгаснікі ў тыя дні, калі ў наваколлі ўжо лавілі варожых парашутыстаў. Дачка паклікала яго. Ён злез, як заўсёды, не спяшаючыся, пры святле месяца абабраў з суконнай паддзёўкі сена, санліва прывітаўся, прапанаваў закурыць. Лескавец адмовіўся — не было часу — і адразу-ж, нават не прысеўшы, пачаў гаварыць аб справе.

— Цябе назначаем адказным. Чалавек ты разумны, гаспадарлівы. І райком падтрымаў...

Шаройка адказаў не як звычайна, — падумаўшы, разважыўшы, а адразу, нават не даўшы Лескаўцу скончыць:

— Не, дзякую, таварыш старшыня. У мяне свая гаспадарка, дзеці. Ды і чалавек я, — ён пашукаў апраўдальнага слова, — стары, слабы...

Антон Лескавец ажно задыхнуўся ад раптоўнага прыліву злосці і крыўды за сваю памылку. Ён павольна нахіліўся да Шаройкі і доўга маўчаў, потым працягла выдыхнуў яму ў твар:

— Су-укін сын! — і больш нічога не сказаўшы, павярнуўся і шпарка вышаў з прасторнага, абнесенага высокім парканам Шаройкінага двара.

Адказным за статак ён паслаў сваю старэйшую дачку Кацярыну.

Шаройка застаўся ў вёсцы.

Восень і зіму ён пражыў без прыгод, параўнаўча спакойна, калі наогул можна гаварыць аб нейкім спакоі ў той страшны час. Гаспадарыў на сваім надзеле, дапамагаў жанчынам, і яны рады былі, што ў вёсцы застаўся хоць адзін сапраўдны гаспадар-мужчына, чулы і добры чалавек. Але нечакана, калі ён ужо зусім супакоіўся і пачаў забываць на сваю актыўную дзейнасць у калгасе, гітлераўцы прапанавалі яму стаць старастам, ён адмовіўся. Яго арыштавалі, усыпалі шомпалаў, тыдні тры пратрымалі ў склепе. Ён перапалохаўся і даў згоду на ўсё, што ад яго патрабавалі. Змардаваны, схудалы, збіты, вярнуўся ён у вёску і пабыў старастам адзін тыдзень, покуль крыху падужэў, А потым знік — уцёк у лес, адаслаўшы дочак у дальнюю вёску, да родзічаў, і пакінуўшы ў хаце адну старую Ганну. Партызан знайшоў ён тыдні праз два і вельмі здзівіўся і нават крыху спалохаўся, убачыўшы камандзірам атрада Антона Лескаўца. (У вёсцы ўсе гаварылі, што ён эвакуіраваўся разам з райкомаўскімі работнікамі.)

Шаройка расказаў аб усім шчыра, успомніў і статак, прызнаў сваю віну і пакаяўся. Лескавец выслухаў і сказаў, як заўсёды гаварыў у жыцці, шчыра і проста ў вочы:

— Цёмны ты чалавек, Шаройка. Не веру я цяпер табе.

Але ў атрадзе пакінуў — пры гаспадарчым узводзе. Толькі паставіў суровую ўмову: адлучыцца куды-небудзь хоць на адну гадзіну самавольна — будзе лічыцца здраднікам. Шаройку падабаліся яго абавязкі: — ціха, бяспечна, і галодным ніколі не бываеш, не тое, што ў баявых узводах, — і ён выконваў іх вельмі добрасумленна, так добрасумленна, што ў асцярожнага Лескаўца падазрэнні не слабелі, а раслі. Але хутка Антон Лескавец гераічна загінуў, а Шаройка пасля аднаго цяжкага бою, калі брыгада панесла вялікія страты, застаўся пры штабе брыгады намеснікам начальніка па забеспячэнню.

Безумоўна, што пасля вызвалення, калі ў вёсцы не было амаль ніводнага дарослага мужчыны, лепшай, чым Шаройка, кандыдатуры на старшыню калгаса знайсці было нельга. Жанчыны выбралі яго. Цяжкія былі тыя гады. З усёй вёскі нейкім цудам уцалела толькі трынаццаць хат і па нейкаму дзіўнаму супадзенню ў адноўлены

калгас сабралі трынаццаць скалечаных коней. «Чортава дзюжына» гаварылі людзі прымхлівыя.

Шаройка ўзяўся за працу з аганьком. Не быў-бы лепшы гаспадар! Калгас з дапамогай дзяржавы станавіўся на ногі. Часам па асобных кампаніях выходзіў на першае месца ў раёне і ніколі не быў на апошнім, займаючы ўвогуле «залатую сярэдзіну», як любіў гаварыць Шаройка. Але хутчэй за калгасную расла асабістая гаспадарка старшыні. Яму шанцавала: у яго сям'і нікога не забілі, не скалечылі. Два сыны яго служылі ў арміі і даслужыліся: адзін — да капітана, другі, малодшы, да лейтэнанта, абодва мелі ўзнагароды. Дзве дачкі адразу-ж пасля вызвалення паехалі ў горад канчаць вучобу. Трэба-ж было стварыць ім умовы! І «добры гаспадар» не спаў у шапку. Хату сабе збудаваў амаль што першы ў вёсцы, лепшую за тую, што згарэла. Узяў цялушку з таго парадзелага статка, якое Кацярына Лескавец вярнула з усходу. Што-ж, людзі спачатку не крыўдзіліся, не папракалі: сам партызан, сыны — героі. Але хутка Шаройка купіў другую карову і засеяў прысядзібны ўчастак на жонку сына, якая прыехала аднекуль з Урала і ніякага дачынення да калгаса не мела. І чым далей, тым больш людзі пазнавалі ў ім таго Шаройку, якога яны ведалі гадоў семнаццаць назад, да калектывізацыі. У чалавека адраджалася старое, што, здавалася, даўно ўжо адышло ў нябыт.

Максім не вярнуўся з раённага цэнтра разам з Лазавенкам. Там, у чайной, сустрэлі яны старога дружбака, які працаваў дырэктарам школы ў аддаленым сельсовеце. Максім паехаў да яго і загуляў.

У нядзелю на досвітку Шаройка забег да Сынклеты.

— Што? Максіма Антонавіча няма яшчэ? Ай-я-яй! Вось загуляў хлопец! Але-ж няхай пагуляе. Заслужыў. А мы сёння нядзельнік арганізавалі. Лес вам вывезем. Усё цягло мабілізавалі, машыну ў «Волі» пазычылі.

Сынклета Лукічна так здзівілася, што нават не падзякавала, толькі сказала:

— Гавораць людзі — раскралі яго там, лес наш.

— Э-э, лес мы знойдзем, дарагая Сынклета Лукічна, знойдзем... знойдзем!..

Ён сам абходзіў прызначаных людзей, ветліва запрашаючы ўдзельнічаць у нядзельніку. Ахвотнікаў ехаць набралася больш, чым трэба было. Але Шаройка не прамінуў і хаты Кацубаў. Зайшоў ён, як ніколі жвава, вясёла пацёр рукі.

— Маразіць, а сняжку няма. Добрай раніцы ў хату. Аляксандра Паўлаўна ўсё чытае, усё чытае...

Алеся падазрона насцярожылася, упершыню пачуўшы такі паважны зварот да сябе. Шаройка сеў каля стала, агледзеў хату, пахістаў кульгавы стол.

— Што гэта ты, Маша, добрага стала не закажаш? У такой хаце і такі стол. Пара абжывацца, пара, пара... А то на такім стале і пісаць няёмка.

Алеся здзівілася яшчэ больш.

Маша, якая поркалася каля грубкі, схавала ўсмешку, Яна зразумела, чаму старшыня зрабіўся такі добры і лагодны.

Ён толькі прысеў на край услона і адразу-ж падняўся.

— Я да вас на хвіліначку. Не жадаеш, Маша, за лесам Антонісе з'ездзіць?— Ён знарок не назваў імя Максіма.

— Пецька паедзе, — адказала Алеся.

— А-а!

— Ён даўно пайшоў ужо.

— А я штось не прыкмеціў яго на двары, і думаю, дай зайду. А то Маша яшчэ пакрыўдзіцца, — ён хітра прыжмурыўся. — Ну, добра, я пайшоў. Паснедаю — і ў лес таксама.

Калі ён выгнаў, Маша засмяялася.

Ты чаго? — спытала здзіўленая Алеся, адарваўшыся ад кнігі.

— Вясёлае ў нас жыццё пачалося.

Яна і сама добра не ведала прычыны, што выклікала смех! Проста чамусьці адразу стала на душы лёгка і радасна і захацелася пасмяяцца. Бывае часам такое!

— Не разумею, — паціснула плячыма Алеся. — Асабіста мяне ён абурыў. Я ледзь вытрымала, каб не ляпнуць яму: не сунь носа не ў сваё проса.

— Хопіць, што ты Максіму ляпнула. Дурніца! Даравацъ табе не магу гэтага. Як я цяпер сустрэнуся з ім?

— Хай будзе чалавекам, а не...

— Ну... Ты сабе лепей дай параду не сунуць носа ў чужыя справы.

10

Яшчэ здалёк, з канца вуліцы, Максім убачыў каля сваёй зямлянкі коней і людзей.

«Што такое?» — здзівіўся і нават на момант устрывожыўся ён. Але, падышоўшы бліжэй, убачыў, як людзі скатваюць у штабель бярвенні, і ўсё зразумеў. Шаройка выканаў сваё абяцанне.

«Вось гэта па-мойму: сказаў — зрабіў. Як-жа гэта я забыў?» — яму стала няёмка, што пакуль ён гуляў, людзі працавалі на яго.

Абапал зямлянкі ляжалі штабялі сухога сасновага бярвення. Да аднаго яшчэ пад'язджалі фурманкі, мітусіліся людзі.

Максіма сустрэлі шумна, вясёла.

— Здароў, Максім Антонавіч. Прымай работу!

— Глядзі, колькі наварочалі, пакуль ты гуляў!

— Ну, Максім, з цябе, брат, магарыч!

— Ён і не сніў, мабыць, што яго хата сёння дома будзе.

— Тут не хата, а добрых дзве з усімі прыбудовамі.

— Калгас!

— Аднаму на поўгода хапіла-б вазіць.

— Амяльян Дзянісавіч пастараўся!.. Ён калі захоча, з-пад зямлі...

— Вось іменна, калі захоча, — ціха азваўся нехта за спіною ў Максіма.

— Ну, хлопцы, узялі апошнія!

Максім скінуў шынель, узяў самы цяжкі дубовы кол, падхапіў ім камель тоўстага бервяна.

— А ну вазьмі, хлопцы! Так-так! Узялі! Узялі! — гучна камандаваў Іван Мурашка, і Максім дзівіўся, адкуль столькі спрыту ў гэтага хлопца.

— Яшчэ раз! — грымеў бас Андрэя Грыбача.

— Ды разок! —спяваў тонкі хлапечы голас.

— Гоп!

— Пайшла!

— Ляжы, мілка, пакуль цесляры не патурбуюць.

Бярвенні былі сухія, звонкія. Ударыш — увесь штабель гудзіць, нібы далёкі звон. Пахлі яны смалой, лясной прэласцю, ігліцай, што прымерзла да вуглаватых камлёў з белымі елачкамі падсочкі.

Максім ап'янеў ад работы. Ён крычаў разам з усімі, камандаваў па-гаспадарску смела і гучна, перабягаў з месца на месца. Пад руку трапіўся кол з маладой сасонкі, толькі што ссечаны у лесе, кара на ім аблузалася, і Максім запэцкаў рукі і гімнасцёрку ў ліпучую смалу. Але затое, як пахла яна, гэтая свежая смала! Жывым лесам. Сапраўды можна ап'янець, як п'янееш вясной, у маладым хвойніку, калі ён абсыпаны жоўтым квеценню.

Хутка рос другі штабель. Разгружалі апошнія фурманкі.

Сынклета Лукічна тупала вакол, з ціхай мацярынскай радасцю і гонарам глядзела, як спрытна працуе сын і адначасова баялася за яго: яшчэ надарвецца. Бач, як хапае! Адзін калоду падымае. Трэба папярэдзіць, каб не надта натужваўся.

Потым яна ўспомніла аб другім і спалохана пляснула далонямі.

«Божачка мой! Людзей-жа пачаставаць трэба. А я і не падумала. Не вялікі цяжар пачаставаць. Слава богу, ёсць чым. Але дзе?»

Убачыўшы, што Максім на момант адарваўся ад работы, каб выцерці пот, яна падбегла да яго, паклікала ўбок.

— Максімка, людзей-жа пачаставаць трэба. Цалюткі дзень па марозе стылі...

— Безумоўна, мама.

— А дзе, сынок? У зямлянцы — колькі змесціш? У каго параіш? Можа ў Машы? Хата ў іх цяпер, што клуб той...

Максім ссунуў на лоб шапку, закрыўшы казырком вочы, і задумліва пачухаў патыліцу.

— Ну, што ты выдумала! У Машы. Чорт ведае, што падумаюць...

І тут, нібы з зямлі перад імі з'явіўся Шаройка — вынырнуў аднекуль з-за зямлянкі, з гароду.

— А-а, і сам гаспадар дома! Здарова, Максім Антонавіч. Што задумаўся?

Максім моцна сціснуў руку старшыні.

— Добры дзень, Амяльян Дзянісавіч. Ад усяго салдацкага сэрца дзякую вам.

— Ну, што ты! Абавязак, брат. Я сваё слова моцна трымаю.

— А задумацца вось маці прымусіла. Дзе людзей пачаставаць?

— І-і-і... Гэта ўжо дарэмна! Які можа быць пачастунак! Гэта ў вас ад Антона Захаравіча. Бацька быў хлебасол на ўвесь раён. А табе раю пачаставаць усіх нас на наваселлі і на вяселлі. Там дарэчы будзе.

Максім паглядзеў на маці. Яна ўздыхнула.

— Але-ж так прынята... Такі звычай...

— Яшчэ што скажыце, Сынклета Лукічна! Цяпер колькі мы гэтых дамоў перавазілі — штодня п'яныя былі-б... Справа іншая, што вось Максімаў прыезд не адсвяткавалі. Гэта так. Але за тое, што ён тры дні недзе гуляў — яму спагнанне. Сёння святкуем у мяне. Не, не, не! І слухаць не хачу. Што-ж у аддзяку пакрыўдзіць мяне хочаш? Глядзі, брат...

## 11

Дом Шаройкі быў збудаваны па тыповаму праекту, які быў дасланы ў калгас. Але ўнутры Шаройка спланаваў яго па-свойму.

У другой палове, праз калідор, — прасторная светлая кухня. Пярэдняя — разбіта на пакоі: прадаўгаватую залу з трыма вокнамі і дзве маленькія бакоўкі — спальні. У зале усё зіхацела чысцінёй. Нядаўна пабеленыя сцены, старанна вымытая жоўтая падлога, новая мэбля, крыху нязграбная, цяжкая, але зробленая навечна — уся дубо-

вая. На сценах — партрэты і без ладу наклееныя плакаты: «Адбудуем родную вёску» і «Усе, як адзін, падпішамся на пазыку». На стале, засланым абрусам з адмысловымі ўзорамі, роўнымі слупкамі ляжалі кнігі, вучнёўскія сшыткі, стаяў адкрыты патэфон: ад бліскучай галоўкі яго на чорнай крышцы адлюстроўваўся зайчык. Усё гэта Максім ахапіў адным позіркам, з парога, і чамусьці іменна гэта і запомнілася найбольш яскрава.

Ён прышоў адзін. Маці наогул адмаўлялася ісці, а потым паабяцала падыйсці пазней.

Агледзеўшы хату, Максім пажартаваў тымі-ж словамі, якія абурылі Васіля Лазавенку:

— Але, адразу відаць, што хата старшыні.

Гаспадар і госці засмяяліся.

— Амяльян Дзянісавіч — чалавек гаспадарлівы, — сказала Мар'я Ахрэмчык, кума Шаройкі.

— У цябе, Максім Антонавіч, будзе не горшая, — Шаройка сеў побач, разгладзіў вусы, — Цяпер куранёў не будуюць. Народ наперад глядзіць, каб хата як хата была. Каб праз якую пяцігодку, другую і электрычнасць не сорамна было правесці.

— Ого, кум, махнуў! — усклікнуў брыгадзір Лукаш Бірыла. — Дабрадзееўцы вунь праз год мараць...

— Марыць можна!

Лукаш не адступаў.

— А што ты думаеш? Праз год не праз год, а праз два — глядзі і зробяць. Размах у іх — о-го-го. Ды і тэмпы цяпер не тыя. Помніш, калі ў дваццаць другім пажар у нас трыццаць хат выкаціў, усю аднавочку... Колькі будаваліся? Тры гады. Бо кожны сам сабе поркаўся. А цяпер, лічы, што дабрадзееўцы за год усю вёску нанава пабудавалі. Ды хаты якія! Харомы!.. Сіла, брат... Калгас!

— Та-ак, сіла вялікая, — многазначна працягнуў Максім і скасавурыўся на Шаройку. Няёмка было, прышоўшы ў госці, крытыкаваць гаспадара, хоць і карцела сказаць і аб тых дванаццаці сем'ях, якія ўсё яшчэ жылі ў зямлянцы, і аб конях, і аб хамутах, ды і сад не прамінуць, параўнаць з садам у «Волі». Але іменна таму, што ўсё прасілася на параўнанне з «Воляй», ён змаўчаў.

Пра што ні гаварылі — усё так ці інакш датычыла спраў у калгасе. Максім заўважыў, што Лукаш Бірыла ўвесь час намагаецца ў замаскаванай форме — намёкамі, жартамі — укалоць гаспадара.

— Вы тут паціфончык, паціфончык... Што-небудзь вясёленькае, — мітусіўся Шаройка. — А я на кухню — баб падганю.

— Глядзі, каб цябе бабы не падагналі, — адразу-ж адгукнуўся Лукаш і хітра падміргнуў Максіму.

Лескавец падышоў да стала, пачаў заводзіць патэфон і раптам спыніўся. Адчыніліся дзверы адной бакоўкі, і адтуль вышла дзіўная жанчына. Модная, высокая прычоска, падпёртая бліскучымі шпількамі, напудраны твар, яркавішнёвыя губы і дарагая аксамітавая сукенка — усё гэта, здалося, адразу-ж гучна крыкнула: «А вось і я! Глядзіце, якая я!»

Максім не адразу пазнаў у жанчыне старэйшую дачку Шаройкі, сваю аднагодку, з якой некалі таксама вучыўся. А калі пазнаў, ледзь-ледзь не зарагатаў.

«Ну і пудзіла! Толькі ў каноплі — вераб'ёў пужаць».

Яна кінула ў пакой кароткі позірк і, нібы нікога больш не ўбачыўшы, падышла да яго, паважна працягнула руку.

— З прыездам, Максім Антонавіч.

Ён далікатна паціснуў яе мяккую руку.

— Дзякую, Паліна Амяльянаўна. А я вас ледзь пазнаў. Быць вам багатай.

— А хіба зараз я бедная? Ды і наогул я лічу, што нам пара і слова гэтае выкінуць з нашага лексікона. Бе-е-днасць! — пагардліва працягнула яна. — Архаізм!

— О, безумоўна! — узнёсла ўсклікнуў Максім, а сам падумаў: «Ну, здаецца, давучылася да ручкі».

У гэты момант з кухні прынеслі сталы з закускамі. Смачна запахла смажанінай. Над горамі мяса ў гліняных місках падняліся слупы пары. Асобна на важкай патэльні прынеслі цалюткага парася, бліскучага ад тлушчу, з жоўтай, патрэсканай на спіне, скуркай. Нават з хвосцікам хрэну ў ашчэраных зубах.

— Уга! — з захапленнем і здзіўленнем чмокнуў Бірыла і старанна выцер далоняй вусы.

Шаройка бегаў сам на кухню, прыносіў відэльцы, нажы, хлеб, перастаўляў на стале талеркі з закуссю з аднаго месца на другое і раз-по-разу пазіраў на ходзікі, нібы чакаў кагосьці вельмі важнага. Максім так і падумаў, што чакаюць галоўнага госця, для якога ўсё гэта і рыхтавалася. Гэтая думка крыху закранула яго гонар: Шаройка-ж гаварыў, што будуць святкаваць іменна яго прыезд, значыцца ён — галоўны госць. Але раптам гаспадар спыніўся пасярод хаты, развёў рукамі, нахіліў галаву і запрасіў:

— Прашу да стала, дарагія госці. Пачнём. Больш чакаць няма каго.

Тады Максім задаволена аглядзеў прысутных. Гасцей было нямнога — чалавек дзесяць, І ўсе такія, якіх ён яшчэ шэсць год назад клікаў дзядзькамі і цёткамі. Крайняй ад парога на нізенькім зэдліку сядзела Сынклета Лукічна. Яна была ў шаўковай хустцы, якую сын прывёз ёй у падарунак з Маньчжурыі; ружовасць хусткі ценем лягла на твар, і ён здаваўся памаладзелым.

Максім падняўся і падышоў да маці, каб сесці за сталом побач з ёю. Але Шаройка спыніў яго.

— Не, не, не!.. Віноўніку — ганаровае месца. Вось сюды, — ён паказаў на покут.

Максім усміхнуўся і паклікаў маці.

— А то, як у песні, усе па пары, усе па пары...

— А ваша дзе пара? — гучна і, здалося яму, нават злосна, спытала Паліна. — Дзе Маша? Мы вас чакалі з Машай.

— Та-ак, Машы няма? — Шаройка разгублена агледзеўся, нібы Маша была і раптам нечакана правалілася скрозь падлогу. — Э-э, Максім Антонавіч, што-ж гэта вы!

А я думала, што ў вас ужо ўсё аформлена. Завочна, як кажуць. Гэта-ж усё сяло гаварыла, што ты Машу забіраў туды... Ды вось, слава богу, сам прыехаў, — праспявала сваім густым басам Бірыліха.

— Маша — дзяўчына хоць куды. Першая работніца ў калгасе, — задумліва і сур'ёзна сказаў Бірыла.

Максім стаяў і разгублена азіраўся на гасцей.

Ён бачыў, што прысутныя здзіўлены, што Машы няма, і зусім сур'ёзна патрабуюць, каб ён запрасіў яе. Але як гэта зрабіць, калі ён ні разу яшчэ не быў у яе, жывучы другі тыдзень дома. І ў дадатак — гэтая чартоўка Алеся, яе нечаканы наскок...

Ён адчуваў, як яму робіцца горача, а ў душы расце злосць на гэтую фанабэрыстую малпу Паліну. Але раптам ён сустрэў позірк маці і падумаў:

«Яны добра дружаць, за дачку ўжо лічыць... Вось і няхай разаб'е гэты лёд...»

— Мама, ідзі запрасі яе. Ад майго імя. Ну, і само сабой зразумела, ад імя гаспадароў.

Сынклета Лукічна паімкнулася была нешта сказаць, але сумелася і моўчкі накіравалася да дзвярэй, неяк адразу згорбіўшыся, пастарэўшы. Ды ніхто гэтага не заўважыў. Хто іх ведае, якія ў іх адносіны! Відаць, такія ўжо, што і маці можна паслаць запрасіць дзяўчыну. Ды к таму-ж усе добра ведалі пра шчырую дружбу Сынклеты Лукічны з будучай нявесткай.

Сынклета Лукічна вышла з хаты ў густую цемру вуліцы і, аглянуўшыся, нібы баючыся, што нехта падслухае яе, цяжка ўздыхнула. Пругкі марозны вецер ударыў у твар. І можа ад яго, ад ветру, заслязіліся вочы, на момант захлынула дыханне. Яна пастаяла крыху, змахнула слязу і пайшла павольней на аганёк у хаце Кацубаў. Упершыню ішла яна туды з такой неахвотай, з такім цяжарам на душы.

Сынклета Лукічна ведала, што Маша адмовіцца ад запрашэння і больш таго — абавязкова пакрыўдзіцца, абразіцца і, можа нават, на яе: як яна, старая дурніца, адважылася прыйсці з такім запрашэннем? Але-ж не выканаць даручэнне сына адразу-ж пасля яго звароту маці таксама не магла. Што тады падумае пра яе Максім?

Сынклета Лукічна ўздыхнула яшчэ раз.

«Сынок, сынок! Ці-ж ты не разумееш, што так рабіць нельга? Абразіш ты дзяўчыну».

Яна падышла да хаты і заглянула праз акно — ці дома Маша? Хайбы не было яе дома — было-б лягчэй, не давялося-б ні гаварыць з ёю, ні хлусіць сыну. А ці-ж яна магла яму схлусіць?

Але Маша была дома. Яна хадзіла па хаце, хутаючыся ў цёплую хустку і гаварыла нешта энергічна, узрушана, гучна, бо і праз двайныя шыбы голас яе далятаў на вуліцу. За сталом сядзела Алеся.

Сынклета Лукічна адышла ўбок, каб, барані божа, не пачуць, пра што яны размаўляюць. Ні разу ў жыцці яна не падслухоўвала чужыя размовы.

Яна ўзышла на ганак з разьбянымі слупкамі-калонкамі і з лавачкамі па баках. Прысела і сядзела доўга. Каб яна ведала, што ў гэты момант у хаце гаварылі пра яе сына, яна, пэўна, так і не адважылася-б зайсці.

А ў хаце сапраўды гаварылі пра Максіма. Удзень да Машы прыбегла работніца фермы комсамолка Гаша Лескавец, стрыечная сястра Максіма, са скаргай. Раніцою Шаройка прышоў на ферму і забраў чацвёра гусей і лепшае парася. Сказаў, што ўсё гэта — для частавання героя.

Нізенькая таўстая Гаша качалася па пакоі, як футбольны мяч, і абурана страчыла, нібы з кулямёта:

— Што-ж гэта такое атрымліваецца? Тыдзень без года, як выпіла пастанова, столькі гаварылі аб ёй, столькі гаварылі і ўсё забылі ўжо, усё па-старому. Зноў Шаройка расцягвае калгаснае дабро. Мне не шкада гусей. Гусей многа, іх усёадно плануем прадаваць. Вось і хай заплацяць па рыначнай цане. А парасё? Толькі завялі свінаферму, першы прыплод... Мы гэтых адзінаццаць парасят на руках насілі, як

дзяцей. І раптам — на табе! Ды самае лепшае! Самае прыгажэйшае! Героя частаваць! — перакрыўляла яна Шаройку. — Скажы, калі ласка, які герой! Пару медаляў павесіў і герой! Ды лопне ён і герой, калі столькі з'есці! Гаша раптам зразумела, што нагаварыла лішняе, успомніла, кім з'яўляецца для Машы Максім, і кінулася да яе, абняла: — Ты даруй мне, Машанька. Я, дурная, нагаварыла, чаго і не трэба! Алеж нельга так! Скажы ты ім. Максіму скажы. Хіба яму гэта трэба! Хіба ён такі чалавек? Ды і цётка Сыля супраць гэтага будзе. Скажы, каб ён забараніў гэта рабіць, адмовіўся ад такога вечара. Хай Шаройку будзе сорамна. Мы яго тады яшчэ раз на чыстую ваду выведзем. А так — толькі размовы будуць і для Максіма будзе непрыемна...

Цяжка было ў Машы на сэрцы гэтыя апошнія дні, калі прыехаў Максім. Дрэнна яна адчувала сябе перад людзямі. Становішча яе было надзвычай крыўднае, абразлівае. Людзі думаюць адно, пра вяселле ўся вёска гаворыць, а на самай справе — нейкае непрыемнае непаразуменне. І раптам, нібы ў насмешку, такая прапанова. Маша, спакойная, разважлівая Маша, не стрымалася. Яна груба адхіліла ад сябе сяброўку і сурова сказала ёй:

— Ты яму — стрыечная сястра, ты ідзі і скажы.

Гаша была дзяўчына шумлівая і сварлівая. Яна заўсёды была рада выпадку палаяцца.

— Ага, вось як!— злосна і, здавалася, радасна крыкнула яна. — Гаварыць аб парушэннях статута ты добра гаворыш, а як да справы — дык у кусты. А-а? Жаніха баішся закрануць? Харошанькай хочаш быць? Добра-ж, я — пагавару, дзе трэба. Я да доктара схаджу! — крыкнула яна і, моцна ляпнуўшы дзвярыма, выскачыла з хаты.

Тады толькі Маша зразумела, што зрабіла памылку. Яна хацела вярнуць Гашу, але той і след прастыў.

Алеся апетытна сёрбала суп і з-пад ілба назірала за сястрой, якая ўсё гэта расказвала. Алеся час-ад-часу ўсміхалася, але неяк дзіўна — аднымі вуснамі, а вочы былі сур'ёзныя і задумлівыя. Маша прыкмеціла адну з такіх яе ўсмешак і спынілася, уражаная:

— Ты смяешся?

— Вельмі-ж па-мядзведжаму ўжо ў гэты раз Шаройка залез у калгаснае дабро. Грубая работа. Раней ён рабіў гэта чысцей.

— А цяпер яму няма чаго хітрыць. Ён ведае, што старшынёй яму засталося быць нядоўга і, відаць, пранюхаў, што Максім думае працаваць, калі не ў калгасе, то ў раёне. Вось і падлізваецца. І дом — у адзін дзень, і сустрэча, як сапраўднаму герою. Апраўдацца яму лёгка будзе. У каго хопіць сумлення сказаць што-небудзь супраць сына Антона Лескаўца? Я ўжо ўяўляю, як Шаройка будзе апраўдвацца

перад сходам, — Маша стала насупраць Алесі, разгладзіла ўяўляемыя вусы, абаперлася кулакамі аб стол, надзьмула шчокі.— Хто такі Максім Лескавец? Сын Антона Захаравіча Лескаўца, які шэсць год быў старшынёй нашага калгаса, які... І пайшло, і пайшло...

Яны абодве засмяяліся.

Маша адышла, прытулілася плячыма да гарачай грубкі.

— Але самае крыўднае, што Максім ідзе на яго вудачкі... Крыўдна і прыкра...

Алеся перакуліла міску і выліла рэшткі супу ў лыжку, як гэта робяць дзеці, калі страва ім прыйшлася да спадобы.

— Ах, смачны суп... А гэта таму, што ён дурны, твой Максім.

— Мой?!.

— А чый-жа?! І табе трэба неадкладна сустрэцца з ім і ўправіць яму мазгі. Што гэта за такая далікатнасць? Два тыдні жывуць на адной вуліцы і не могуць сустрэцца. Ды я яго-б ужо сем разоў сустрэла.

Маша задумалася. Сапраўды чаму ёй самой не сустрэцца і не пагутарыць? Хіба пасля сямігадовай дружбы, пасля тых пісем, якія яны пісалі адзін аднаму, яна не мае права на гэта?

У дзверы пастукалі.

Сёстры многазначна пераглянуліся, і Алеся шпарка пабегла адчыняць.

Зайшла Сынклета Лукічна. Маша збянтэжылася і пасля прывітання доўга маўчала, не ведаючы, аб чым начніц, гаворку, пра што спытаць, як трымаць сябе. Да гэтага яны сустракаліся так проста і шчыра, па некалькі разоў на дні хадзілі адна да адной. А цяпер... было прыкметна, што і Сынклета Лукічна адчувае сябе ніякавата, хвалюецца і таксама не ведае, як пачаць гаворку. Яна села каля стала, узяла ў рукі кнігу, заглянула ў другую, разгорнутую, заўважыла:

— Адразу відаць, каму што рупіць. У Машы — «Агранамія», у Сашы — вершы... — і зноў змоўкла.

Размову пачала Алеся і пачала, як кажуць, з лабавой атакі.

— А мы думалі — Максім, — нібы зусім абыякава, гартаючы кнігу, сказала яна.

— А мне вы ўжо і не рады? — паспрабавала пажартаваць Сынклета Лукічна, узрадаваная, што размова пачалася ў патрэбным ёй кірунку.

— Што вы, цётка Сыля! — прамовіла Маша, нездаволена глянуўшы на сястру.

— А я па даручэнню сына.

— А ён ужо дома? — хітра спытала Алеся, хоць добра ведала, што ён вярнуўся.

— У Шаройкі. Вечар там. Частуюць яго. І вось ён паслаў мяне, каб я цябе, Машанька, запрасіла... Там усе патр...

— Што-о? — Маша не дала ёй скончыць.

Яна працягнула гэтае слова ціха, здзіўлена, і Сынклета Лукічна спалохана змоўкла.

Маша адарвалася ад грубкі разам з гэтым працяглым «што-о...», хвіліну пастаяла нерухома і, раптам, адчуўшы нейкую дзіўную слабасць, села на ложак. У першы момант у грудзях зрабілася холадна, а потым усё нутро заліла балючая гарачыня. У скроні застукала кроў. Яна сашчапіла пальцы і моцна прыціснула далоні да грудзей. І можа ад гэтага стала цяжка дыхаць.

У адзін момант яна ўспомніла, як некалькі дзён назад уяўляла яго прыезд, сваю першую сустрэчу з ім.

— Максім прыехаў! — прынясе ў хату радасную вестку якая-небудзь дасціпная, цікаўная суседка ці не менш цікаўная дзяўчынка. (Так яно і здарылася потым.) Безумоўна, ён спачатку зойдзе да маці. Але праз поўгадзіны, ну, хай праз гадзіну, ён абавязкова прыдзе да яе, вось сюды, у гэтую новую светлую хату, якую збудавала ім дзяржава. Яна будзе адна, апранутая для сустрэчы па-святочнаму. (Яна жадала, каб у гэты момант нікога не было ў хаце, ні Пятра, ні Алесі.) Яна знарок стане спіною да дзвярэй, будзе глядзець у акно, або ў кнігу, нібы яна нічога не ведае, нікога не чакае і не бачыць яго. Ён ціха пакліча:

— Маша!

Яна павернецца.

— Максім!

Яны пойдуць адзін аднаму насустрач павольна, але яна не стрымаецца, яна кінецца і імкліва абдыме яго. Пасля яна будзе глядзець яму ў вочы — які ён стаў, — гладзіць яго шчокі, жартаўліва краtаць вусы.

— Максім!

Магчыма, што яна заплача. Хіба сорамна ў такі момант заплакаць? Яна-ж шэсць год чакала яго.

Чакала...

Маша схамянулася і ўспомніла другое: як яна, апранутая па-святочнаму, чакала яго ў дзень прыезду, і як яны з Алесяй рыхтаваліся да яго прыходу. Сорам, абраза і крыўда напоўнілі яе сэрца.

І вось, нарэшце, ён успомніў пра яе. Не, яму напомнілі... І... прыслаў маці запрасіць... Куды? На вечар... да Шаройкі... Маша падняла галаву, сустрэла нецярплівыя позіркі Сынклеты Лукічны і Алесі і зразумела, што яна занадта доўга маўчыць, што ад яе чакаюць адказу.

Яна паднялася, наблізілася да стала і, хаваючы хваляванне, ціха, але выразна сказала:

— Скажыце вашаму сыну, што ён... — яна пашукала патрэбнага слова, не знайшла і, махнуўшы рукой, адвярнулася да акна.

Сынклета Лукічна апусціла галаву і доўга моўчкі перабірала складкі спадніцы. Потым вінавата сказала:

— Машанька, родная. Хіба-ж я... — і таксама не скончыла — праслязілася.

Маша схамянулася і хутка падышла да старой.

— Не трэба, цётка Сыля... Даруйце мне,— і ў самой на расніцах заблішчэлі слёзы.

## 13

Замест снегу, якога чакалі з своеасаблівай сялянскай тугою, заходні вецер прыгнаў дождж. Ён пайшоў нечакана, пад раніцу, калі яшчэ не адлёг мароз. Усё — зямля, дрэвы, стрэхі — пакрылася звонкай ледзяной коркай.

Маша занепакоілася: абліваха можа пашкодзіць пасевы азімых. Яна прагартала кніжкі сваёй небагатай сельскагаспадарчай бібліятэчкі, але нічога аб гэтай бядзе не знайшла. Трэба распытаць у старых. Праўда, пасля таго, як яна па-сур'ёзнаму стала цікавіцца аграноміяй, яна пераканалася, як часта практычныя веды старых мудрацоў, накшталт Шаройкі, разыходзяцца з навукай. Аднак і ў практыкаў ёсць вельмі многа карыснага. Маша не грэбавала іх парадамі, нават завяла асобны сшытак і запісвала іх, а пасля параўноўвала з тым, што вычытвала ў кнігах і рабіла пэўныя вывады.

Але сёння ёй не хацелася ісці ў канцылярыю, дзе звычайна ў непагоду збіраліся калгаснікі. Яна баялася сустрэцца з Максімам. Як некалькі дзён назад яна прагнула гэтай сустрэчы, так цяпер не хацела. Яна саромілася прызнацца сабе, што баіцца. Не, не, яна не баялася! Гэта было нейкае іншае пачуццё, больш складанае і, можа, таму больш пакутлівае. Нельга сказаць, што ёй было вельмі балюча. Хутчэй — было сорамна перад людзьмі. Што цяпер будуць гаварыць аб іх адносінах? Каго будуць абвінавачваць — яго ці яе?

Аднак турботы за пасевы заглушылі ўсе іншыя пачуцці. Такі ўжо ў яе характар. За калгаснае заўжды душа балела, кожную страту ў калгаснай гаспадарцы перажывала, як сваю асабістую. І праз гэта — як часта і непрымірыма спрачалася, лаялася з Шаройкам! Яна ведала, што за гэта Амелька амаль ненавідзіць яе, хоць вонкі нянавісць яго ніколі не вырываецца: заўжды ветлівы, спакойны, слухае ўважліва, часта згаджаецца, нават раіцца. Маша ніколі не плаціла яму такім-жа

пачуццём. Наадварот, яна адчувала да яго нейкую своеасаблівую павагу і часта абараняла ад незаслужаных абвінавачванняў.

У канцылярыі сапраўды было многалюдна. Мужчыны, відаць, расказвалі анекдоты, якія не прызначаліся для жаночай паловы, бо адразу змоўклі. Яе паважалі: не кожны і мужчына столькі робіць, як яна, і не кожны так дбае аб калгасе. Але да яе непакою за пасевы азімых аднесліся з бяскрыўднай сялянскай ironiяй. Шаройка заўважыў настрой большасці і таксама скептычна ўхмыльнуўся, ашчэрыўшы здаровыя, белыя, як у дзяўчыны, зубы.

— Я, Паўлаўна, гляджу на цябе і ўсё здзіўляюся. У каго ты ўдалася? І бацька твой і маці былі такія спакойныя людзі. За ўсё жыццё нікому вады не замуцілі. Вось Антон Лескавец, дык той і спаў, а людзей турбаваў... А таму, калі Максім — у бацьку, то гэта зразумела...

Маша, не жадаючы, каб пачалі гаварыць пра Максіма, перапыніла старшыню:

— Вы. Амяльян Дзянісавіч, заўжды адказваеце зусім не тое, аб чым у вас пытаюць.

— А-а, ты аб жыце? Нічога яму не стане. Першы раз хіба? І пры дзядах нашых і пры бацьках...

— Вось і дрэнна, што мы па дзедаўскіх законах жывем. Дзяды збіралі па дваццаць пудоў з дзесяціны — і рады былі. А цяпер вунь нашы суседзі па сто збіраюць.

Шаройка зразумеў, якіх суседзяў яна мае на ўвазе, і, нездаволена перасмыкнуўшы вусамі, адказаў:

— Па сто не па сто, але і ў нас не па дваццаць... А які
год быў! Што ты хацела ў такі год?

— Засуха, — каротка выдыхнуў нехта з калгаснікаў.

— Засуха ў нас — гэта яшчэ нішто, а вось вайна што нарабіла.

— Адным словам, не адразу Масква будавалася.

— Паўлаўна, запрасі ты лепей нас на вяселле, а то потым у спешцы забудзеш.

Маша ўспыхнула і адразу пакінула Шаройку, павярнулася да калгаснікаў.

— Паклічу ўсіх, нікога не забуду.

— А пачырванела дзеўка,— заўважыў Лукаш Бірыла.

Яна адчула, што шчокі загарэліся яшчэ мацней.

Маша, не ўздумай толькі з свае хаты ў зямлянку ісці. Мы для цябе будавалі.

— Ты яго ў прымакі бяры.

— Пойдзе ён! Гэты чорт — у бацьку.

Людзі разважалі сур'ёзна, без лішніх жартаў, і Машы ўдалося схаваць сваю збянтэжанасць. Але размова зноў балюча паласнула па сэрцы, і яно заныла, зашчымела. З канцылярыі Маша рушыла праз гароды ў поле — не магла стрымацца, каб не паглядзець па азімыя.

За гародамі — адразу малады хвойнік.

Хрусцела пад нагамі ледзяная корка. Панура абвіслі да самай зямлі абледзянелыя галінкі хвоек. Дыхаў лёгкі ветрык — і ўвесь лясок жаласліва звінеў, раняючы долу вясёлкавыя сасулькі. Яны разбіваліся, зямля пад хвоямі была пакрыта дробнымі пацеркамі лёду, але не празрыстага ўжо, а белага.

За хвойнікам — адзін з азімых кліноў калгаса. У канцы яго, на мяжы з зямлёй «Волі», — насенны ўчастак, на якім Маша з групай камсамольцаў узялася вырасціць стодваццаціпудовы ўраджай.

Столькі сіл яна аддала гэтаму ўчастку! Шаройка падтрымліваў толькі на словах, прыгожа распісваючы яе задуму на сходах ды на нарадах у раёне. А калі да справы дайшло, дык ён усё не мог ніяк перакінуць з другога кліна трактар, даць радковую сеялку. Амаль апошнім засеяла звяно свой участак. І ўсё-такі, не гледзячы на гэта, усходы пайшлі дружныя, вясёлыя, перагналі ўсе суседнія, дзе жыта было пасеяна па-старому, без мінеральных угнаенняў, без дадатковай апрацоўкі. Але нядоўга Маша радавалася сваім участкам. Пазнаёмілася з Вільямсам, з планамі Васіля па асваенню травапольнага севазвароту ў «Волі» і задумалася. Трыста гектараў сее іх калгас зерневых, а яе ўчастак — дзесяць. Не, гэта не тое, што трэба, каб падняць усю гаспадарку, даць дастаткова хлеба дзяржаве, зрабіць заможнымі калгаснікаў. Тут трэба іншае — тое, што робіць Васіль. Але для гэтага трэба, каб не Шаройка кіраваў калгасам...

Маша выпіла з хвойніку.

Усходы палеглі, прыліплі да зямлі, прымерзлі. Куды знікла тая густая, вабіўшая вока, рунь, якая пушыстым зялёным дыванам засцілала зямлю ўсю восень!

У Машы ажно пахаладзела пад сэрцам. Яна нахілілася, растапіла далоняй ледзяную корку, расправіла пальцамі некалькі кволых жытнёвых сцяблінак.

Схамянуў яе трэск у хвойніку. Праз момант адтуль, нагнуўшыся, вылез Васіль Лазавенка са стрэльбай. Прывітаў яе добрай, сяброўскай усмешкай.

— Турбуешся, гаспадыня? Пазнавата. Цяпер ужо відно, што за дзень растане. Бачыш, вецер павярнуў. А я на досвітку выбег і людзей паслаў разбіваць корку. Хлопцы мае ўжо і прыладу вынайшлі, каб рабіць гэтую работу коннай цягай.

Маша пайшла яму насустрач, першая падала руку.

— Што-ж гэта ты на заняткі не з'яўляешся? Учора новы аграном прыехаў. Разумны хлопец. Малады, але... Ты нешта перастала хадзіць на заняткі. Двойчы ўжо не была...

— Усё часу не было неяк...

— А-а, разумею, — прамовіў ён.

Яны не прыкмячалі, што ціха ішлі паўз хвойнік у напрамку лугу-

— Калі вяселле?

Машу паласнула гэта, нібы нажом: «Зноў вяселле»... Аднак яна ўпотайкі зірнула на яго: пытае ён сур'ёзна ці жартам? Васіль задумліва глядзеў некуды ўдалеч, кусаючы губу. Гэта сведчыла, што ён не толькі не мае намеру жартаваць, а нават усхваляваны. І яна коратка адказала:

— Хутка.

— Люблю вяселлі. Толькі каб вяселле было, як мае быць... Не люблю, калі гэта робіцца — абы адбыць... Такая ўрачыстасць бывае раз у жыцці і помніцца павінна ўсё жыццё. Мая старая і зараз расказвае аб сваім вяселлі — заслухаешся. — Ён паглядзеў на дзяўчыну і ўсміхнуўся.

Маша слухала яго са здзіўленнем, ніколі раней яна не чула ад яго гэткіх слоў і лічыла чалавекам сухаватым, не па гадах сур'ёзным, сумным у жыцці.

— Асабліва прыемнае — на тройцы, з шамкамі, з гармонікам, з песнямі... Ззаду віхрыцца снег... Дыханне захоплівае. Адчуванне такое, нібы ляціш наперагонкі з уласным шчасцем. У народзе шлюб адвеку быў вялікім святам... Запросіце — лепшую тройку прыганю.

— Прызнаюся, не ведала, што ты такі паэт, — усміхнулася Маша. — Як Алеся мая!

Васіль крыху збянтэжыўся і, мабыць, каб захаваць гэта, пачаў закурваць.

Прыкурыў, расцёр згарэўшую запалку, абцёр пальцы аб ватоўку і прадоўжыў сваю думку:

— Вяселле і радзіны яшчэ... Мяне, напрыклад, заўжды абурала, калі нараджэнне чалавека праходзіць непрыкметна. Гэта-ж падзея!..

Маша здзіўлялася ўсё больш і больш...

«Колькі год сябруем, і я не ведала, што ён такі... дзіўны...»

— Калі ў мяне народзіцца першае дзіця, я такі пір закачу...

Ён з усмешкай паглядзеў на Машу, відаць, чакаючы, што яна адкажа на гэта жартам. Але Маша нават не ўсміхнулася, і гэта зноўтакі збянтэжыла яго.

Хвіліну цягнулася нялоўкая цішыня. Ён растлумачыў яе па-свойму.

— Ты даруй за тое недарэчнае сватаўство... Павер, я тут ні пры чым. Гэта задумала маці... Неразумна, праўда? Безумоўна, неразумна... Але з нашага боку таксама дзіка... Няўжо мы, дарослыя людзі, сябры, не маглі пагаварыць па-даросламу?

Ён раптам прыпыніўся, павярнуўся да Машы і ціха прамовіў:

— Хоць, уласна кажучы, якая карысць з гэтага была-б? — і пайшоў далей, на хаду адламаў ад хвоі сухую галінку, пачаў церушыць яе пальцамі. — Але ведаеш, мне ўсё-такі даўно хацелася пагаварыць з табой так вось... па-сяброўску... Ведаеш... Як гэта прасцей сказаць табе? Ну-у, — ён на момант сумеўся, кінуў галінку наперад і адначасова з узмахам рукі сказаў: — Усё-такі я кахаў цябе...

— Кахаў?! — Маша паўтарыла гэтае слова так, што нельга было зразумець, спытала яна ці пацвердзіла.

— Але... І пачуццё гэтае даўняе. Я зразумеў яго яшчэ на фронце. Ведаеш, калі ляжыш у зямлянцы ці ў акопе... Мокра часам, холадна, час цягнецца мар-рудна... І пачынаеш успамінаць што-небудзь самае раднае, такое, ведаеш, светлае з мірнага жыцця... І мне часцей за ўсё ўспаміналася ты. Ці ў шпіталі... Гэта страшна — ляжаць, прыкаваным к ложку. Ліха ведае, якія думкі лезуць у галаву! Але я ўспамінаў цябе, і было лягчэй. Я думаў пра цябе гадзінамі і забываўся на ўсё. Я таму і пісьмо табе напісаў у той-жа дзень, як прачытаў, што нашы вёскі вызвалены. Дзякую, што адказвала... Атрымліваў іх, твае пісьмы, і цяплей рабілася на душы.

— А Насця? — з хітрай дзявочай цікаўнасцю спытала Маша. — Яна пісала табе часцей.

Васіль уздыхнуў.

— Не магу маніць ні сабе, ні тым больш ёй. Не ляжыць душа. Шкада мне яе... Яна шчырая, праўда, занадта ўпартая... Ды гэта, магчыма, і добра... Я ёй шчыра сказаў. Пакрыўдзілася. Поўгода не размаўляе... Уся аддалася рабоце... Нават гуляць перастала хадзіць.

Яны дайшлі ў канец хвойніку. Далей у балоцістай нізіне рос алешнік. За ім пачынаўся луг, бліскала звілістая істужка рэчкі.

— Загаварыліся мы з табой, Маша. Бывай, я да стагоў. Гавораць, вашы каровы наведваюцца. У пятніцу заняткі. Прыдзеш?

— Абавязкова.

Ён шпарка пайшоў праз алешнік, а яна доўга стаяла і глядзела яму ўслед. Праўда, думала яна не аб ім. Яна зноў падумала пра свае адносіны з Максімам, і на гэты раз яны ўявіліся зусім не такімі ўжо складанымі.

Гэта было звычайнай з'явай у яго рабоце: паклічуць да аднаго хворага, а лячыць даводзіцца некалькіх. А часам і няма каго лячыць, а ўсёадно з другой вёскі да цямна не вырвешся. Бо ён заходзіў у хату не толькі, як урач. Пагутарыць з людзьмі, расказаць ім і даведацца ад іх аб жыцці, думках і настроях — усё гэта было неадрыўнай часткай яго ўрачэбнай дзейнасці. Ён ведаў, што часам чалавека лечаць не адны лекі, а і добрае, цёплае слова і нават справядлівы дакор.

Ладынін толькі што скончыў выслухваць хворую дзяўчынку, як на парог — жанчына.

— Я да вас, таварыш доктар. Штось старой маёй нездаровіцца, на спіну скардзіцца... Можа-б вы зайшлі паглядзелі? Калі ласка...

«Ну, пачынаецца... Зноў на ўвесь дзень», — а на душы добра, радасна ад прадчування карыснай работы і сустрэч з новымі людзьмі.

У старой — нічога асаблівага, магчыма, што недзе крыху прастудзілася, таму і баліць спіна.

Але Ладынін не спяшаўся адыходзіць. Сядзеў каля стала, пісаў рэцэпт, употай азіраў гаспадыню і хату. Гаспадыня — маладая, дужая жанчына. А ў хаце не прыбрана: падлога брудная, рэчы раскіданы. А доктар усё жыццё змагаўся за ўзорную чысціню ў сялянскіх хатах, у дварах і на вуліцах.

— У вас сям'я вялікая?

— Дачка. У трэці клас ходзіць.

— Нішто дзяўчынка. Піянерка? Так, так...

— А што, доктар?

— Ды вось гляджу, што брудна ў вас.

Густая чырвань заліла твар жанчыны. Але адказала яна дзёрзка і злосна:

— А каму яна трэба гэтая чысціня? Быў муж, дык ззяла ўсё навокал, а цяпер... — у вачах удавы заблішчэлі слёзы. — Толькі ў працы і знаходзіш уцеху, а праца мая ад цёмнага да цёмнага, на ферме...

Ладынін адразу памякчэў; была ў доктара адзіная слабасць — добрасумленнаму працаўніку многае мог дараваць. Голас яго стаў пабацькоўску ласкавы, спакойны.

— Але... як вас? Давайце знаёміцца, калі так...

— Клаўдзя Хацкевіч.

— Па бацьку?

— Кузьмова.

— Дык вось, Клаўдзя Кузьмічна, у роспач кідаюцца толькі слабыя. А вы, я думаю, не з слабых. Ці можна вам забываць галоўнае — у вас такая дачка! Яе трэба расціць, вучыць, вывесці ў людзі, зрабіць

сапраўдным чалавекам. А вы перад ёй бруд апраўдваеце, перад вучаніцай... Ды навесці парадак у хаце — гэта-ж просты абавязак такой дзяўчынкі. Я сёння-ж зайду ў школу і перад усім класам пасаромлю вашу дачку.

— Ой, што вы, доктар! — маці шчыра спалохалася і папрасіла: — Не рабіце гэтага. Далібог-жа, больш не будзе... Хоць знарок заходзьце.

— І зайду, я чалавек неспакойны, знаёмых не люблю прамінаць.

Праз хвіліну Ладынін непрыкметна перавёў размову на іншую тэму.

— Ну, а на ферме як справы?

Клаўдзя махнула прасціраддам; яна, ні на хвіліну не спыняючы размовы, спрытна прыбірала ў хаце: заслала на стол абрус, падмяла каля грубкі трэскі, прывяла ў належны парадак падушкі на ложку.

— Раней мы гаварылі: не горш, як у людзей... А цяпер нават і Шаройка наш так не адказвае... Бо ў людзей лепш. Я вось неяк пабыла на ферме ў «Волі», дык ажно душа зайшлася. Хораша так усюды, чыста...

— Чыста? — доктар нібы здзівіўся.

Яна зразумела яго хітрасць і пачырванела.

— Нібы вы не былі там? Я-ж ведаю, не адзін раз заходзілі... Вядома — чыста. Няма чаго душою крывіць. Што бачыла, тое і кажу.

— А ў вас вусім дрэнна?

— Не сказаць, што зусім, але-ж можна, каб было лепей.

— Дык ад каго гэта залежыць? Ад вас-жа саміх.

— Ад тых, што на ферме працуюць?.. Можа і ад нас, Але я так думаю, што больш ад кіраўнікоў.

— Ад якіх кіраўнікоў?

— Ад розных. І ад вас у тым ліку.

Клаўдзя ў сваю чаргу хітра прыжмурылася.

Такі нечаканы адказ здзівіў Ладыніна, хоць ён ужо здагадваўся, аб чым яна скажа далей. Прыкінуўся крыху абураным, крыху здзіўленым.

— Непарадкі на вашай ферме залежаць ад мяне? Цікава.

— Не на адной ферме, ва ўсім калгасе. Вы парторг у сельсовеце, так? А колькі разоў вы былі ў нас на калгасным сходзе? Пару разоў даклады зрабілі. А на ферму пі разу не заглянулі.

— Я кароў не лячу. — Ладынін знарок падліваў масла ў агонь, бо яму падабалася гэтая рашучая і смелая жанчына.

— Вы людзей лечыце. Дык лячыце ад усіх хвароб. І галоўнае, усіх аднолькава. А то ў вас так атрымліваецца: дзе густа, дзе пуста. Калі «Воля» ў перадавіках, дык ім усё, а мы адстаючыя, дык нам — дулю

пад нос. Там і сельсовет, там і школа, туды і дапамога, туды і кіно, а ў нас што? А потым параўноўваюць, крытыкуюць...

Ладынін сагнаў з твару ўсмешку. Разважанні такія ён чуў не раз і часцей за ўсё ад Шаройкі і, хоць прызнаваў, што доля праўды ў гэтым ёсць, аднак адносіўся да гэтай тэорыі «сынкоў і пасынкаў» насцярожана, ведаючы, як часта такой тэорыяй прыкрываюць сваю ўласную бяздзейнасць.

А яна, расчырванелая, з закасанымі рукавамі, азірала хату — дзе яшчэ што трэба прыбраць — і прадаўжала:

— У людзей агітатары працуюць, асабліва цяпер перад выбарамі. А тут разумнага слова не пачуеш. Прызначылі нам агітатара Дзядкова. Вы-ж самі прызначалі... А што ён робіць, цікавіліся вы? Ён і носа ні разу не паказаў.

— Трэба ён табе, гэты агітатар! Ты сама добрая агітатарцы, — упершыню за ўсю размову адгукнулася з печы старая. — Чалавеку, можа, часу няма, а ты... гаранку варыш...

— Не ваша справа, мама! Маўчыце! — рашуча загадала Клаўдзя.

Ладынін нездаволена адзначыў:

«Але-е, суровая жанчынка».

Аднак развітаўся ён з ёй з пачуццём задавальнення. Жанчына зацікавіла яго. Такія людзі заўжды помняцца доўга... Але з усяго Ладынін адзначыў самае галоўнае, што падабалася яму ў жанчыне: гарачае яе жаданне, каб іх калгас быў не горшым за другія, каб і яны дасягнулі таго, што суседзі, а то і зусім перагналі іх. Яна верыла, што зрабіць гэта можна.

«Трэба толькі падхапіць, распаліць, правільна накіраваць гэтае жаданне. Трэба мне часцей наведвацца да іх».

Ён ішоў па вуліцы вёскі, а перад ім, нейкім цудам абагнаўшы яго. з хаты ў хату ляцела вестка, што доктар робіць падворны абход — правярае чысціню. Жанчыны паспешліва прыбіралі ў хатах, у сенцах, у дварах.

Гэтая мітусня не схавалася ад вока Ігната Андрэевіча, бо не ўпершыню ён бачыў яе. Ён не меў намеру рабіць абход, але цяпер нельга было не зайсці хоць у поўдзесятак хат. Людзі сустракалі з шчырай ветлівасцю. Дзед Яўмен Кацуба спыніў на вуліцы, сам еапрасіў да сябе.

— Штось ты, таварыш сакратар, двойчы мінаеш маю хату. Зайдзі, будзь ласкаў.

— Нездаровіцца каму, дзед, у сям'і?

— Ды не, у сям'і, слава богу, усе здаровыя. Проста так... Хочацца мне з добрым чалавекам чарку выпіць.

Сказаў шчыра і проста. Ладынін усміхнуўся:

— Не праміну. Але скончыўшы работу. У мяне парадак такі: скончыў дзела — гуляй смела.

— Мой парадак! — ухваліў дзед.

Ладынін пазбягаў такіх пачастункаў. Вядома, пераважная большасць людзей запрашае ад шчырага сэрца. Аднак ёсць і такія (асабліва тут, у Лядцах), што робяць гэта з благім намерам: каб выманіць такую даведку, за якую можна было-б схавацца ад калгаснай работы ці атрымаць палёгку ў падатках. Былі ўжо такія выпадкі ў яго нядоўгай пасляваеннай практыцы. А таму Ладынін надзвычай асцярожна прымаў запрашэнні. Бо вельмі-ж няёмка, прыкра, абразліва робіцца самому, калі пачынаеш разумець, што чалавек запрасіў з карыслівай мэтай. Доктар нават ад запрашэнняў Шаройкі адмаўляўся. Хітры чалавек! Такому пакладзі пальцы ў рот — у міг адкусіць. Вось і зараз ён нечакана, павольнай гаспадарскай хадою вышаў з завулка. Убачыў — і не пайшоў насустрач, а пачакаў, пакуль падыйдзе Ладынін. Прывітаўся з абыякавасцю занятага чалавека. Але ў Ладыніна нарадзілася падазронасць, што Шаройка сустрэў яго зусім невыпадкова.

— Лечыце? — спытаў ён, каб з чаго-небудзь пачаць размову. У руках у яго — ужо капшук з самасадам, і ён, не чакаючы адказу, адразу-ж прапанаваў: — Закурвайце.

Ладынін адарваў ладны кавалак газеты і, скручваючы цыгарку, адказаў на пытанне:

— Лячу, — і, успомніўшы словы Клаўдзі, дадаў: — Адразу ад усіх хвароб...

— Гм... цікава. І даўно ў нас?

— Гадзін з адзінаццаці.

Шаройка падняў крысо ватоўкі, выцягнуў стары кішанёвы гадзіннік-цыбуліну, шчоўкнуў крышкай.

— Што-ж, пара абедаць. Зойдзем, можа, да мяне?

— Не, дзякую. Я меў намер заглянуць на вашу ферму, пацікавіцца, як вы выканалі рашэнне сельвыканкома.

— А-а, — многазначна працягнуў Шаройка. — Калі ласка. Дарэчы, мы стаім каля хаты загадчыка фермы. Хвіліначку, я паклічу...

Ён зайшоў у двор, хоць можна было паклікаць з вуліцы.

Ладынін усміхнуўся:

«Дзіцячая хітрасць... Дагаворацца ў адно слова хлусіць».

Яны не спяшаліся выходзіць. Ладыніну стала няёмка стаяць на вуліцы і чакаць, і ён, стрымліваючы абурэнне, пайшоў у напрамку фермы адзін.

«Трэба гэтага паважанага гаспадара запрасіць на адкрыты сход і так прапясочыць, каб зразумеў, што такое сапраўдная крытыка», —

ён ведаў, што Шаройка заўсёды згаджаецца з любой крытыкай, але пасля ўсёадно робіць па-свойму.

Яго дагнаў адзін загадчык фермы, Карней Лескавец. (У Лядцах амаль палова вёскі — Лескаўцы.) Плячысты, ладны мужчына, з буйнымі, правільнымі, нават прыгожымі, але нейкімі застыглымі рысамі твару, з кучаравымі валасамі, якія выбіваліся з-пад шапкі і закрывалі шырокі лоб. Апрануты ён быў па-летняму: картуз, лёгкі плашч-дажджавік, вузкаваты ў плячах, расшпілены, пад ім — непадпяраваная гімнасцёрка.

— А дзе старшыня? — спытаў Ладынін.

— Там, — адказаў Карней, неазначальна махнуўшы рукой назад.

— Дзе там? Сюды ён збіраецца прыйсці?

— Не ведаю.

Гэтае «не ведаю» ўзарвала Ладыніна. Ён рэдка злаваўся, але тут не вытрываў. Так глянуў і так панізіў голас амаль да шэпту, што загадчык фермы адразу перамяніўся: застыглыя рысы твару ўмомант набылі жывую рухавасць.

— Ідзіце і скажыце, што я не маю намеру гуляць у ката і мыш... А вам раю ў другі раз не хлусіць... Чорт ведае, што такое!

Яны дагналі Ладыніна надзвычай хутка. Шаройка ажно расчырванеўся і задыхаўся. Цяпер з-пад пракураных вусоў яго лезла ўгору і збіралася каля вачэй у дробныя змаршчакі ліслівая ўсмешка.

— Прабачце, таварыш Ладынін, бабы затрымалі. Адной — тое, другой — другое. Хвіліны супакою няма. З цёмнага да цёмнага, як вавёрка ў коле, круцішся...

Ладынін у адказ спытаў:

— Вы ў машынах разбіраецеся, Шаройка?

— У машынах? — здзівіўся ён і насцярожыўся. — На заводах не працаваў, але ў сваіх машынах — у малатарні, у сеялцы, ды і ў камбайне троху, нават у трактары... Без гэтага цяпер нельга...

— Дык вось ёсць такі тэрмін: «халасты ход».

— А-а, — зразумеўшы, працягнуў Шаройка. — Ёсць, ёсць такі ход і ў людзей. Ёсць... Што-ж, старасць... Я даўно ўжо гаварыў. Адстаў, састарыўся, жыццё пераганяе. Новыя людзі выраслі...

У гэты момант яны праходзілі каля зямлянак. Як знарок, каб кідацца ў вочы, палова з усіх наяўных у вёсцы зямлянак, знаходзілася ў адным месцы, адна каля адной: чатыры з аднаго боку вуліцы, пятая насупраць іх, з другога, журботна глядзела на сяброўак адзіным вокам-шкелцам, якое ледзь-ледзь узвышалася над зямлёю. А побач стаялі добрыя новыя хаты — ажно светла рабілася ад жоўтых смалістых бярвенняў, ад шырокіх вокнаў.

У Ладыніна кожны раз сціскалася сэрца, калі ён праходзіў каля гэтых зямлянак.

Не многа яшчэ разоў яму давялося быць у Лядцах за тры месяцы работы (хапала спраў па абсталяванню пункта, па наладжванню амбулаторнай работы і інш.), але і за гэты кароткі тэрмін ён ужо не аднойчы наведваў кожную з дванаццаці зямлянак, добра ведаў людзей, якія жылі ў іх. І цяпер, ідучы міма, не. стрымаўся:

— Скажыце, Шаройка, у вас спакойна на сэрцы, калі вы праходзіце вось тут?

— Балючае месца, таварыш Ладынін, правільна. Але ўсяго адразу...

— У першую чаргу павінна быць балюча за людзей, — сярдзіта перапыніў Ладынін. — А ў вас гэтага не відно. Дзе бярвенне, якое вы абяцалі на сельвыканкоме?..

— Дарога...

— Што дарога?

— Чакаем саннай дарогі...

— А калі яе не будзе яшчэ месяц-два?..

— Ну, што вы!.. Вось-вось ляжа...

— Дарога-дарога... Змаглі-ж вы за адзін дзень перавезці лес Лескаўца... Чаму не робіцца гэта для другіх?..

— Зробім...

— А вы ведаеце, як у нас называюць людзей, якія не выконваюць свае абяцанні?

— Чуў.

У хлявах на ферме былі ўсё тыя-ж непаладкі, аб якіх дзён дзесяць назад гаварылі на паседжанні сельвыканкома. Нават не была адрамантавана страха ў цялятніку, не былі заменены гнілыя страпілы, якія пад цяжарам снегу на страсе маглі абваліцца. Ладынін помніў, што іменна аб гэтай страсе з абурэннем гаварыў старшыня сельсовета. Цяпер, убачыўшы яе, Ладынін абурыўся сам:

— А гэта што, таксама дарога перашкодзіла?

— Гэта страха дзесяць год стаяць будзе і чорт яе не возьме! — Шаройка першы раз адказаў са злосцю.

Ладынін здзіўлена паглядзеў на яго. Але не паспеў нічога сказаць, як Клаўдзя, нібы з зямлі, неспадзявана апынулася перад імі.

— Я сёння абвалю яе, каб вочы не мазоліла. У цялятнік боязна зайсці. Таго і глядзі, што прыдушыць. Дагаспадарыліся, — яна з такой дзіўнай іроніяй праспявала апошняе слова, што Шаройка ажно збялеў. Ладынін усміхнуўся: «Малайчына! Вось яна якая!» — і, успомніўшы яе папрок, сказаў Шаройку:

— Слухайце, таварыш Шаройка, давайце склікаем сёння агульны сход. Пагутарым з людзьмі аб выбарах, ды і аб гаспадарчых справах слова скажам.

Старшыня калгаса згадзіўся з маўклівым, але прыкметным нездавальненнем.

15

Сход скончыўся далёка за поўнач.

Аднак, не гледзячы на такі позні час, мужчыны не спяшаліся разыходзіцца: абкружылі стол і доўга гутарылі, засыпалі Ладыніна пытаннямі. У людзей абудзілася прагная цікавасць да ўсяго: да міжнароднай палітыкі, да выбараў, да Пастановы аб ліквідацыі парушэнняў Статута, да перспектыўнага плана калгаса «Волі», аб якім расказваў Ладынін.

Задаволены Ігнат Андрэевіч адказваў адразу ўсім. Ён таксама не спяшаўся пакідаць школы, дзе праходзіў сход, хоць балела галава, гудзела ад напружання, ад табачнага дыму.

У баку ад людзей стаяў Шаройка. Абпальваў вусны і пальцы аб недакурак, зацягваўся нервова, прагна. На скронях, на шыі сінімі шнурамі напяліся вены. Ускудлачыліся сівыя пасмы валасоў. Брыгадзір Бірыла аб нечым пытаўся ў яго — ён дрэнна чуў і разумеў.

Упершыню яму так дасталася. Не думаў ён, што яго, лепшага гаспадара, могуць так разнесці. І хто? Усе маўчуны загаварылі, якія ніколі раней і рота не разяўлялі. «Сіла», — з зайздрасцю думаў ён, гледзячы на Ладыніна.

Спачатку ішло ўсё, як мае быць. На сход збіраліся добрых тры гадзіны: прызначылі ў сем, а пачалі а палове адзінаццатай.

Шаройка сядзеў каля Ладыніна і, зноў набыўшы сваю незалежнасць, паважнасць, бясконца, але стрымана на гаварыў, умела выстаўляючы сваю гаспадарчую спрактыкаванасць. Скардзіўся на людзей:

— Вось, калі ласка, таварыш Ладынін. І так кожны раз. Колькі крыві папсуеш, покуль сход склічаш. Пасіўнасць, — і ў душы радаваўся, заўважаючы, што Ладынін нервуецца, злуе.

І сход пачаўся, як заўсёды. Доўга і туманна гаварыў аб працоўнай дысцыпліне сам Шаройка. Пасля выступілі штатныя прамоўцы: брыгадзір, рахункавод, загадчык фермы. Да іх далучыўся яшчэ адзін прамоўца — Максім Лескавец, які гаварыў добрых хвілін сорак, а канкрэтнага нічога не сказаў. А больш, як ні прасіў старшыня сходу, — ніхто ні слова. Тады зусім неяк непрыкметна кіраваць сходам узяўся сам Ладынін.

— Што-ж, таварышы, так больш ніхто нічога і не мае сказаць? А вось цікава, таварыш Шаройка, заатэхнік карову вам вярнуў?

Людзі хіснуліся, сціх гоман у задніх радах.

— Хоць гэта і не мае дачынення да дысцыпліны, але я скажу, — падняўся Шаройка.

Ладынін перапыніў яго:

— Не! Гэта мае непасрэднае дачыненне!

Шаройка адказаў, што заатэхнік згадзіўся заплаціць

за карову грашыма.

— Ведаем мы гэтую плату! Хай верне карову! Нам ферма трэба! — адгукнулася адразу некалькі жанчын. І пад гэты-ж шумок — з задніх радоў:

— А старшыня думае вярнуць калгасную карову?

Шаройка не пачуў гэтага — пачаў тлумачыць нешта зусім іншае. Ладынін зноў перапыніў і паўтарыў пытанне:

— Народ пытае, таварыш Шаройка, а калі вы вернеце карову?

Шаройка ўтаропіў на яго цяжкі позірк.

— Народ?

— Так, народ.

— Якую карову?

— А гэта вам лепш ведаць.

— Я не браў ніякай каровы.

— А лысая? — зноў гукнулі аднекуль з-за грубкі.

— Мне яе далі.

— Хто?

— Райзо.

— З калгаснага статка, які вярнуўся з усходу? У мяне і зараз яшчэ ногі не загаіліся, — злосна скавала Клаўдзя Хацкевіч, якая сядзела ў першым радзе.

Ладынін з ухвалаю кіўнуў ёй галавой.

З Клаўдзі і пачалося. Яна выступіла першая і гаварыла так, што калгаснікі не раз перапынялі яе апладысментамі, крыкамі.

Усё ўспомнілі, усё ўзважылі і падлічылі. Не прамінулі і апошняга — парсюка і гусей, якія Шаройка ўзяў на пачастунак Лескаўцу. Максім згараў ад сораму. Паспрабаваў выступіць — сустрэлі смехам.

Ён раззлаваўся, хацеў было перакрычаць смех і галёканне. Але Ладынін сурова бліснуў з-пад калматых брывей вачыма:

— Сядзь і маўчы!

Хто-ні-хто з ліку тых, у каго былі асабістыя рахункі з Шаройкам, нагаварыў лішняе, беспадстаўнае. У такіх выпадках Шаройка чыр-

ванеў так, што, здавалася, вось-вось з яго поўных шчок пырсне кроў, і неяк абыякава-расцягнута падтакваў:

— Та-ак, та-ак...

Выступіла Маша. Яна смела адмяла ад Шаройкі ўсе лішнія абвінавачванні, гаварыла нават аб яго станоўчых якасцях, здавалася, апраўдвала, але ў той-жа час прывяла мноства дадатковых фактаў парушэння Статута і зрабіла гэта, у супрацьлегласць папярэднім выступаючым, спакойна, разважліва, пераканаўча. Патрабавала, каб яшчэ раз былі правераны памеры сядзіб. Яе слухалі без адзінага выкрыку, без смеху, без пытанняў з месца. Яна ўроўнаважыла пачуцці людзей, у якіх балела душа за калгас.

Ладыніну не ўсё спадабалася ў яе выступленні, асабліва яе халаднаватая разважлівасць. Але ўвогуле ён высока ацаніў яе ўменне гаварыць так проста і пераканаўча (не ўсе гэтым валодаюць) і нават здзівіўся ўвазе, з якой барадачы слухалі яе, дзяўчыну.

Сам ён гаварыў мала, хвілін дзесяць, але затое прачытаў вельмі дакладную пастанову, якую пісаў, слухаючы выступленні. Не да густу была гэта канкрэтная пастанова Шаройку: моцна біла яна па яго ўласнай гаспадарцы, жорсткі рахунак прад'яўляў яму сход.

Ён не апраўдваўся. Толькі папрасіў, каб яго тут-жа вызвалілі ад абавязку старшыні.

— Не апраўдаў... Адстаю... Пастарэў... Што-ж, — разгублена развёў ён рукамі.

Ладынін крыху баяўся, што сход неадкладна задаволіць яго просьбу. Ён ведаў пра размову Макушэнкі з Лескаўцом, але аб згодзе Максіма нічога не ведаў. Выбары маглі-б прайсці стыхійна. А ў такіх выпадках нярэдка бываюць памылкі. Але яму не давялося стрымліваць сход...

— Не спяшайся! — сказаў стары з сярэдняй лаўкі Шаройку. — Хутка справаздачны будзе... Там і дамовімся канчаткова. А сёння позна. Пара спаць...

— А покуль што вярні ў калгас усё, што ў пастанове запісана, — весела выгукнула Клаўдзя.

— Вы начаваць будзеце, ці каня запрэгчы? — ветліва спытаў Шаройка ў Ладыніна, калі людзі, нарэшце, пачалі разыходзіцца і ў класе засталося толькі некалькі чалавек.

— Дзякую. Я пешшу пайду.

— Пазнавата. Цёмна.

— Вы пераначавалі-б, Ігнат Андрэевіч, — прапанавала Маша.

— Не, не... Галава трашчыць, — ён сціснуў пальцамі скроні, зморшчыўся. — Не прагуляюся — не засну.

— Мы правядзем вас да хвойніку, — сказаў Максім.— Пойдзеш, Маша?

«Застацца з ім, адзін на адзін? І так нечакана, непадрыхтавана. Але што падумае Ігнат Андрэевіч, калі адмоўлюся?»

Па вёсцы ішлі моўчкі.

Вільготны сівер балюча біў у твар рэдкімі шрацінамі граду. Ногі слізгалі па ім, нібы па рассыпанай грэчцы, і трашчаў ён пад ботамі гэтак-жа, як грэчка. Адзін за адным згасалі агеньчыкі ў вокнах: людзі паспешліва лажыліся, бо недалёка было да світання. У адным акне ўжо весела гулялі, распісваючы шыбы пунцовымі ўзорамі, языкі полымя — палілася ў печы.

— Ранняя гаспадыня, — заўважыў Максім і зноў прапанаваў, хоць былі ўжо на краі вёскі. — Пераначавалі-б...

Ладынін з шумам удыхнуў у сябе паветра.

— Добра. Ураз праветрыла. — І адразу-ж, як толькі мінулі апошнюю хату, спытаў: — Максім Антонавіч, ты хоць памылкі свае разумееш?

— Памылкі? — ён здзівіўся, што непрыемнае слова гэтае Ладынін паставіў у множным ліку. — Не, не разумею я сваю памылку, — падкрэсліў ён адзіночны лік. — Наогул штосьці проста недарэчнае. Адкуль я мог ведаць, чыё гэта парася ці гусі, д'ябал іх ведае... Мяне запрасілі... Сусед, блізкі чалавек, старшыня калгаса... Існуюць-жа нормы этыкі, таварыш Ладынін... Не мог-жа я прыйсці і спытаць: а чыё гэта ў вас парася, ці не з калгаснай фермы? Дзіка,— ён засмяяўся штучным, сілком выціснутым с сябе, смехам.

— Гэта цяжка зразумець. Мне Маша да сходу расказала — я сам нічога не зразумеў. Цяпер толькі прасвятляецца. Ды я ў цябе не аб гэтым пытаю. Тут у цябе памылкі покуль што няма, хоць можа быць. Я пра сённешняе пытаю...

— А што сёння?

— Ты не ведаеш?.. Вось гэта і самае страшнае. А сёння ты без павагі да людзей паставіўся... Каб ты паважаў народ, як гэта патрабуецца ад комуніста, не мог-бы ты выступіць з такой прамовай. Згадзіся — суцэльная пустата. Сорак хвілін — і ніводнай акрэсленай думкі, ніводнага жывога слова. Такая абстрактная, беспрадметная агітацыя нам непатрэбна... Карысці ад яе не будзе...

— Ну, ведаеце... — паспрабаваў запярэчыць з ноткамі абурэння Максім.

Але Ладынін не даў яму дагаварыць.

— А выкрык? Гэта ўжо зусім... Крычаць на сходзе?.. П'яным трэба быць — не менш... За такія справы, ведаеш...

— Што-ж, прыцягвайце да партыйнай адказнасці, — Максім адчуваў, як закіпае ў глыбіні грудзей злосць і намагаўся задушыць яе.

— Не гарачыся, — спакойна адказаў Ладынін. — Я проста на правах старэйшага раблю табе заўвагі. І калі ты разумееш гэта інакш — яшчэ адну памылку робіш,— і тут-жа, у адзін момант, не даўшы Максіму нічога адказаць, звярнуўся да Машы і ні то жартам, ні то сур'ёзна спытаў: — А ты, Марыя Паўлаўна, з якой рады брала Шаройку пад абарону?

Машы стала радасна ад такога папроку, бо ад вымовы, якую Ладынін рабіў Максіму, і яна сябе адчувала ніякавата. Яна прыкрыла шарсцяной пальчаткай усмешку, хоць ніхто-б яе ў цемры і так не ўбачыў, і адказала:

— Але-ж, калі перагнулі... Я не люблю, калі пачынаюць гаварыць няпраўду...

— А ў мяне такое ўражанне, што ўсё-ткі мала мы яго крытыкавалі...

— Нішто сабе мала, — засмяялася Маша.

Максім ішоў моўчкі.

Мінулі хвойнік. Узышлі на ўзгорак, з якога ўдзень, як на далоні, відаць Дабрадзееўку. Цяпер-жа з таго боку, у цемры ночы, ім сумотна міргнуў адзінокі агеньчык.

— Відаць, мне запалілі маяк. Чакаюць... Ну, бывайце... Дзякую, сябры, — шчыра развітаўся Ладынін, моцна паціснуўшы ім рукі.

Ідучы назад, доўга маўчалі. Максім соп, нібы нёс вялікі цяжар. У яго, відаць, быў насмарк. Гэта смяшыла Машу: «Злосць высвіствае»...

Не хаваючыся, яна ўглядалася з боку ў яго твар, хоць у цемры нічога ўбачыць было нельга. З сэрца яе зваліўся камень, які яна насіла з дня яго прыезду. Не было і пачуцця разгубленасці (а яна баялася, што яно з'явіцца пры сустрэчы). Усё раптам стала на сваё месца і хацелася засмяяцца голасна, звыкла, на ўсё начное поле. Але яна стрымала сваё жаданне і голасам блізкага чалавека жартаўліва спытала:

— Што ты сапеш, як мех кавальскі?

Ён адказаў не адразу.

— Засапеш, — і пасля доўгай паузы: — ад такой сустрэчы...

— Ад якой?

— Ад такой... Рваўся, на крыллях ляцеў, а тут... замест пышак — шышкі...

— А ты адны пышкі адразу хацеў? Іх трэба зарабіць.

— А я што, не зарабіў? — крыкнуў ён і ўдарыў далонямі па грудзях, па шынялю, пад якім зазвінелі ордэны і медалі. — Я крывёй сваёй...

— За гэта табе павага і любоў...

— Ад каго?

— Ад народа.

— Ад народа!.. Гэта я без цябе ведаю... І ты мне маралі не чытай... На сябе спачатку паглядзі. Я табою шэсць год жыў... А ты?.. Як ты сустрэла мяне?.. Два тыдні на вочы не паказвалася. А з другім па хвойніку туляешся...

Маша аслупянела ад здзіўлення і нечаканасці, спынілася пасярод дарогі. Ён зрабіў два крокі, покуль заўважыў, што яна адстала, і таксама спыніўся, павярнуўся да яе.

Абраза, крыўда, роспач, здавалася, вырваліся з сэрца, прычынілі пякучы боль і гарачым, салёным камяком захраснула ў горле. Маша задыхнулася. Яна ступіла да яго, нібы хіснулася, працягнула руку і схапіла пальцамі за гузік шыняля.

— Ты-ы...

Хацелася крыкнуць у адказ такое-ж абразлівае, але камяк у горле яшчэ больш распухаў.

— Ты-ы...

Максім зразумеў, што са злосці нагаварыў лішняе.

— Чакай, Маша...

І раптам халоднай хваляй усё адхлынула назад, і яна зусім спакойна сказала:

— Я, калі чакала цябе, думала — ты такі... незвычайны... як-быў... разумны. А ты... ты проста... дурань... Эх ты! — і, адступаючы, незнарок рванула за гузік, ён лёгка адарваўся, лязгнуўся аб лядок дарогі.

Яна шпарка пайшла наперад.

— Маша!..

Яна пайшла яшчэ шпарчэй.

— Маша! Будзеш каяцца!

Яна пабегла.

Спынілася на ганку роднага дома. Прыціснулася ілбом да дзвярэй; настылы ад марозу востры прабой урэзаўся ў скронь. Яна не адчувала гэтага. Упершыню за шмат год выплакала ўсё, што накіпела на сэрцы.

Тымчасам Ігнат Андрэевіч прышоў дамоў. Агеньчык сапраўды гарэў у яго пакоі. Ён ціха пашкрабаў у шыбу; пачакаў — маўчаць. Пастукаў гучней у адно акно, потым — у другое і зразумеў, што Ірыны Аркадзеўны няма дома. Яна звычайна ў любы час ночы адчыняла яшчэ да таго, як ён пастукае, — чула і пазнавала крокі. Давялося добра пагрукаць, покуль дабудзіўся Ліды.

— Ну, і зайздрошчу я твайму сну, Лідуша, — сказаў ласкава Ігнат Андрэевіч, зайшоўшы ў пакой.

Дачка засмяялася, хутаючыся ў халат, і па-дзіцячаму, кулачком, праціраючы заспаныя вочы.

— Дзе мама?

— А ты яе не бачыў? У Лядцах.

— Даўно?

— А першай гадзіне паехала... Яна абяцала знайсці цябе і добра прабраць... Гэта-ж проста немагчыма, тата!.. З раніцы да раніцы! У твае гады, з тваім здароўем.

— У мае гады з маім здароўем можна ўсё, Лідуша. Старыя — цягавітыя, — ён заціснуў у далоні яе галаву з ускудлачанымі валасамі, пацалаваў у лоб. — Ідзі ты спаць, покуль сон не прайшоў. Я сам знайду перакусіць...

Было пяць гадзін зімовай ночы.

А ў сем гадзін яго разбудзіў настойлівы, трывожны стук у шыбу. Па звычцы Ігнат Андрэевіч нават не спытаў, хто гэта. І толькі ўпусціўшы чалавека ў пакой, пачаў запальваць лямпу.. Высокі малады мужчына з энергічным тварам і разумнымі светлымі вачыма збянтэжана камечыў у руках шапку, чакаючы, покуль доктар звернецца да яго першы. Ладынін успомніў, што ўдзень сустракаў яго ў Лядцах, аднак спытаў:

— Здалёк?

Чалавек далікатна ўсміхнуўся, яўна падумаўшы:

«Разумею, доктар, ваша неспакойнае жыццё, але... што зробіш...».

— Ад Ірыны Аркадзеўны. Просіць вас...

— Што там у яе?

Мужчына пацiснуў плячыма.

— Не магу сказаць... Прасіла захапіць усё неабходнае. Шукаў вас у Лядцах, думаў вы заначавалі...

— А што неабходнае? Што неабходнае? Не магла напісаць,— доктар, як і кожны чалавек, якога толькі што паднялі з цёплай пасцелі, меў не зусім добры настрой і таму бурчэў.

Узяўшы лямпу, накіраваўся ў амбулаторыю.

— Бачыце, я лічу, справа ў тым, што жонка мая перанесла ленінградскую блакаду, — сказаў чалавек, ідучы за ім па цёмным калідоры. — Сэрца.

— А-а! — у Ігната Андрэевіча ўраз знікла санлівасць, дрэнны настрой, галаўны боль. — З гэтага-б вы, друг мой, і пачыналі. На кані?

— Але! Як-жа інакш!

Ён сабраўся літаральна за тры хвіліны і па-маладому, ускочыўшы на воз, сказаў незнаёмцу:

— Ганіце хутчэй.

У таго спалохана ёкнула сэрца, і ён, едучы міма школы разбудзіў бестурботна спаўшага Мяцельскага грамавым «Но-о-о!..».

Роды былі цяжкія. За ўсю сваю дваццацігадовую акушэрскую работу Ірына Аркадзеўна не помніла другога такога выпадку і ні разу яшчэ так не хвалявалася. У першую чаргу яе ўразіла тое, што парадзіха не крычала. Пакусала да крыві вусны, пальцы рук, але не вымавіла ніводнага слова. Ірына Аркадзеўна спалохана прасіла: — Крычыце, родная мая, крычыце. Нельга маўчаць. Раіса глядзела на яе непрытомным позіркам і ківала галавой. У яе было слабае сэрца, але надзвычай моцная воля. Яна двойчы была паранена ў час блакады і ні разу не войкнула пад нажом хірурга і закрычаць цяпер лічыла ганьбай. У нейкі крытычны момант у яе пасінелі пазногці і пульс упаў да мінімума.

Ірына Аркадзеўна не на жарт перапалохалася. А тут яшчэ — нязвыклая, жудасная цішыня. Ні разу яшчэ пры родах не было такой цішыні. Маці парадзіхі без аднаго слова, без аднаго ўздыху, спрытна выконвала усё, што ёй загадвалі. У кухні няспынна, аднатонна рыпела ўсё адна і тая-ж масніца — хадзіў муж. Чуваць было, як недзе на печы мурлыкаў кот. А ў шыбу стукала галінка бярозы, нібы прасілася ў хату.

Крычаць парадзіху прымусіў Ігнат Андрэевіч; ён верыў старому акушэрскаму правілу: больш крыку — мацнейшыя патугі. Наогул яго прыезд адразу ажывіў хату, напоўніў мітуснёй, крыкам, жывым чаканнем радасці.

Калі на свет з'явілася добрая дзяўчынка, выклікаўшая слёзы замілавання ў бабулі і ў бацькі, Ладынін пажартаваў:

— Шанцуе табе, бабка Ірына, чацвёртыя роды ты тут прымаеш — і чацвёртая дзяўчынка.

— Слава богу, — адгукнулася маці Раісы. — Кажуць людзі, гэта добрая прыкмета...

Мыючы рукі, Ігнат Андрэевіч зноў адчуў страшэнную зморанасць. Зноў разбалелася галава. Выпіўшы чарку з шчаслівым бацькам, ён

адчуў, што можа заснуць за сталом. Па сутнасці, ён спаў з расплюшчанымі вачыма, бо не чуў, што расказваў Сакавітаў. Голас яго далятаў аднекуль здалёк, цурчэў, булькатаў ручаём, наганяючы сон.

Але раптам Ладынін устрапянуўся, падняў галаву і пільна паглядзеў на Сакавітава.

— Чакайце, як вы сказалі?

Той здзівіўся і незразумеў, што менавіта з таго, што ён гаварыў, раптам зацікавіла ўрача. Здаецца, ён нічога такога не сказаў.

— Хто вы па прафесіі?

Сакавітаў здзівіўся яшчэ больш: добрых дзесяць мінут гаварыў ён пра сваю прафесію.

— Інжынер-гідратэхнік, — больш прымітыўна пачаў тлумачыць ён, — па гідразбудаваннях... Вядома, плаціну Днепрагэса я не будаваў. Але перад вайной працаваў, нядоўга, праўда, на Ніве-два. Ведаеце? Ля Кандалакшы. У вайну, вядома, больш разбураць давялося, чым будаваць. Але пасля перамогі наша сапёрная часць збудавала ў Германіі пару добрых плацін. Для немцаў, дапамагалі ім...

— Слухайце, вы даўно ў нас? — Ладынін ажно нахіліўся да яго, нібы збіраўся сказаць нешта вельмі таямнічае.

— Тыдзень. Сваякоў наведаць прыехаў.

— І за гэты час не паказаліся на людзі? Не зайшлі? Слухайце... прабачце, як ваша імя... Сяргей Паўлавіч? Дарагі, Сяргей Паўлавіч, загляніце на гадзінку як-небудзь неўзабаве. Вельмі патрэбна ваша парада і дапамога.

17

У марозны і ветраны дзень Сакавітаў, Ладынін і Лазавенка ішлі па берагу замёрзлай Гразліўкі.

Сакавітаў быў у доўгім скураным паліто, у паляўнічых ботах, з кійком у руках. Высокі, спрытны, ён смела скакаў цераз іржавыя лугавыя раўчакі, лёд на якіх трашчаў і ламаўся. Васіль у лёгкай ватоўцы, са стрэльбай ні на крок не адставаў ад яго. Ладынін з цяжкасцю паспяваў за імі.

Яны доўга стаялі на грэблі, каля маста, потым прайшліся ўніз ад Дабрадзееўкі, вярнуліся назад. Спыніўшыся зноў на грэблі, закурылі.

— Пабудаваць, вядома, можна і тут, — Сакавітаў паказаў пад ногі. — Блізка, зручна і прыгожа: за садам — электрастанцыя, возера. Але гэта ўляціць у капеечку, як кажуць. Земляных работ тут — астранамічная лічба кубаметраў. Ды ў дадатак яшчэ ўвесь гэты ваш лужок апыніцца пад вадой, сотня гектараў сенажаці...

Лазавенка нахмурыўся.

— А ўсё-ж, колькі тут работы? Можна падлічыць, напрыклад, у чалавекаднях?

— Паспрабуем. Але здаецца мне — аднаму калгасу гэта будзе не па сіле.

— Вы нашу сілу не мералі.

— Уяўляю.

— Ну, а двум-тром калгасам? — спытаў раптам Ладынін.

— Двум-тром? Тады няма патрэбы будаваць тут. Ёсць на рэчцы месца, дзе, здаецца, сама прырода знарок стварыла ўсе ўмовы для будаўніцтва гідрастанцыі.

Ладынін і Лазавенка адначасова спыталі позіркамі.

— Каля Лядцаў. Асабліва зручная мясціна насупраць іх калгаснага двара. Там будаўніцтва яе будзе ў тры разы танней.

— Ідэя! А, Васіль? — узрадавана спытаў Ладынін. Але Лазавенка не падтрымаў яго захаплення.

— Значыцца, наша станцыя ў «Партызане», за чатыры кілометры?

— Чаму «ваша»? — здзівіўся Ладынін. — Агульная, міжкалгасная... «Волі», «Партызана», «Зоркі». Можам нават украінцам прапанаваць...

— Ну, гэта, Ігнат Андрэевіч, прыгожая палітыка... А як ажыццявіць... з такімі суседзямі?.. Не веру я...

Ладынін здзіўлена агледзеў яго з галавы да ног, нібы ўбачыў упершыню.

— Не пазнаю цябе... Адкуль яны ў цябе, такія прыватніцкія настроі? Ці не ты марыў аб механізаваным буйным калгасе?

Сакавітаў стаяў, глядзеў на іх і моўчкі ўсміхаўся.

— Улічыце, што магутнасць такой станцыі адразу пакрые выдаткі на яе, — заўважыў ён.

Васіль прыкурыў новую папяроску ад свайго недакурка, зацягнуўся дымам.

— Не чакаў, не чакаў ад цябе, — прадаўжаў нездаволена Ладынін. — Сам ты гаварыў аб дапамозе суседзям, аб агульным росце. І раптам... Які ў табе індывідуаліст яшчэ сядзіць!

Васіль раптам усміхнуўся, шырока, прыветліва.

— Ніякага індывідуаліста няма, Ігнат Андрэевіч. Пойдзем, будзем глядзець. Але ведайце, у «Партызане» будуць супраць — я ўпэўнены.

— Нічога не робіцца само сабой, паважаны Васіль Мінавіч. Усё павінна быць падрыхтавана.

Яны пайшлі да Лядцаў і хадзілі там цэлы дзень. Падняліся кіламетраў на дзесяць уверх па рацэ, на украінскую тэрыторыю, агледзелі берагі, затокі, пойму, прасякалі ў колькі месцах лёд — мералі глыбіню.

Ладынін здзіўляўся нястомнасці Сакавітава. Той, чым далей ішоў, тым больш жвавым і вясёлым рабіўся: лёгка прасякаў палонкі; насвістваючы вясёлыя мелодыі, скакаў па мёрзлых купінах, расказваў анекдоты.

Ладынін, улучыўшы момант, калі яны крыху адсталі, паказаў Васілю на інжынера:

— Вось каго прываражыць-бы нам. Гэты хутка збудаваўшы ўсё, што трэба.

— Мне здаецца, што ён ускладняе, — адказаў Васіль. — Я ўвесь час уяўляў, што ўсё гэта значна прасцей.

— Памылкова ўяўляў.

Доктар так натаміўся за гэты дзень, што ледзь дабрыў дадому, хоць чалавек ён быў не з ліку слабых і непрывычных да хадзьбы. Ён не верыў Сакавітаву, што той не стаміўся. Але інжынер даказаў гэта: увечары прышоў з Лядцаў у Дабрадзееўку, да Ладыніных, — пагуляць у шахматы.

Ёсць сем'і, якія валодаюць зайздроснай сілай прыцягваць да сябе людзей. З года ў год у доўгія зімовыя вечары збіраюцца ў іх суседзі, сябры, вядуць бясконцыя гутаркі на ўсе тэмы жыцця.

Кватэра Ладыніна заўсёды была такім своеасаблівым клубам, дзверы яе былі адчынены для ўсіх. Але натуральна, што збіралася галоўным чынам вясковая інтэлігенцыя.

Вечары пачыналіся заўсёды амаль аднолькава, канчаліся па-рознаму.

У пачатку Ігнат Андрэевіч і Мяцельскі садзіліся гуляць у шахматы. Дырэктар школы, спакойны чалавек, з постаццю асілка і тварам дзяўчыны — пяшчотным, чырвонашчокім, гуляў моўчкі. Ладынін, абдумваючы ход, не насвістваў, а неяк дзіўна выдыхаў матывы народных песень. У гэты час іншыя крыху сумавалі. Васіль звычайна чытаў. Байкоў і Ірына Аркадзеўна расказвалі адзін аднаму пра розных дзівакаватых, незвычайных людзей, з якімі ім давялося ў жыцці сустрэцца.

Ліда і жонка Мяцельскага — Ніна Аляксееўна, маленькая, ціхая жанчына, падобная на прыгожую ляльку, зачыняліся ў спальні і пад акампанемент гітары развучвалі новыя песні. Ад Ніны Аляксееўны часам цяжка было пачуць слова, усе пачуцці яна вельмі красамоўна выказвала сваімі чаруючымі ўсмешкамі. Але спявала яна цудоўна. У апошні час да іх стаў далучацца Максім Лескавец, які пачаў наведвацца да доктара ўсё часцей і часцей. Ладыніны звычайна запрашалі піць чай, і тады пачыналася самая вясёлая частка вечара: спрэчкі, вясёлыя расказы, жарты, часам — калектыўныя спевы.

Сакавітаў у першы-ж такі вечар заваяваў агульную ўвагу. У шахматы ён абыграў абодвух «дабрадзееўскіх чэмпіёнаў» — Ладыніна і Мяцельскага. Пасля цудоўна чытаў напамяць Маякоўскага.

Ліда, ведаючы, што ад Васіля і бацькі нялёгка будзе выведаць усяго, пачала распытваць у яго пра гідрастанцыю. Сяргей Паўлавіч з ахвотай расказаў, дзе лепей будаваць, якія патрэбны будуць сілы, як будзе планавацца і выкарыстоўвацца энергія кожным калгасам.

Ліда здзівілася, што ні бацька, ні Лазавенка не перашкаджаюць яму, а нават самі задаюць пытанні.

Сакавітаў захапіўся.

— Цераз год-паўтара вы не пазнаеце свае калгасы. Вы недастаткова ўяўляеце сілу электрычнасці. У горадзе ўся работа, якую яна выконвае, за выключэннем асвятлення і трамвая, захавана ад нашага вока. Тут-жа ўсё будзе на вачах.

І раптам яго спыніў уздых і сумны голас:

— «Мечты, мечты, где ваша сладость!»

Байкоў сядзеў каля грубкі, прытуліўшыся да яе спіной, доўга слухаў і нарэшце не вытрымаў.

— Голас вялікага скептыка Байкова! — без усмешкі пажартаваў Ладынін.

— Не скептыка, а рэаліста, — старшыня сельсовета пацёр кантужаную руку. — Вы, Ігнат Андрэевіч, не ведаеце гаспадарчага становішча калгасаў. Вы мераеце па «Волі»... Дык хай «Воля» і будуе... Спачатку трэба паставіць калгасы на ногі...

Супраць яго абурыліся Ліда і Мяцельскі.

— А па-вашаму электрастанцыя зваліць іх з ног?

— Электрастанцыі не падаюць з неба. Яе трэба пабудаваць, а для гэтага трэба...

— Пад вашым кіраўніцтвам яе не пабудуюць ніколі.

— Вам лёгка глядзець збоку, ды разважаць, — Байкоў пакінуў сваё месца каля грубкі і нервова хадзіў па пакоі, размахваючы здаровай рукой.

Сакавітаў спакойна заўважыў:

— Калі жыць, пазіраючы назад, вы, магчыма, маеце рацыю, але калі глядзець наперад... у комунізм... то, ці не лепей ставіць калгасы на ногі такім шляхам?..

— Вы забылі, Сяргей Іванавіч, што гаварыў Ленін. Успомніце, — параіў Мяцельскі.

Лазавенка маўчаў і, магчыма, іменна гэтая акалічнасць патушыла спрэчку. Ігнат Андрэевіч непрыкметна накіраваў размову ў другое, агульнае рэчышча — аб комунізме, аб шляхах і поступах да гэтага

светлага заўтра. Нагаварылі многа. Ліда, як звычайна, гарачылася. Мяцельскі спакойна адбіваў усе яе наскокі. Сакавітаў падтрымліваў то аднаго, то другога, бо сцвярджалі яны адну і тую-ж сутнасць, толькі што ў рознай форме.

Лазавенка ўвесь вечар быў маўклівы, задуменны і гэта дало падставу Ніне Аляксееўне, якая і сама не надта многа сказала, спытаць у яго:

— Скажыце, Лазавенка, чаму вы такі маўклівы?

Васіль крыху здзіўлена паглядзеў на яе і сур'ёзна адказаў:

— Закахаўся.

— А-а!.. У яе?— маленькая жанчына позіркам паказала на Ліду.

— Не.

— Не-е?.. Дурань! Яна — песня. У яе нават я закахана.

Пытанне аб электрастанцыі абмеркавалі на партыйным сходзе. Рашэнне было покуль што кароткае: усім комуністам, усяму актыву весці агітацыю за яе будаўніцтва. Трэба было, каб ідэя электрыфікацыі завалодала калгаснікамі ўсіх калгасаў сельсовета.

Пасля партсхода правялі нараду агітатараў. Сакавітаў зрабіў даклад: проста і цікава расказаў пра выгоды электрыфікацыі.

— Ну, а цяпер трэба бліжэй да практычнай справы, — сказаў Ладынін пасля нарады.

Ён, Лазавенка і Сакавітаў сядзелі ў сельсовеце, курылі.

— Так, так, — неадкладна, — падтрымаў інжынер.

Ладынін і Лазавенка пераглянуліся, нібы змоўшчыкі:

— Сяргей Паўлавіч, вазьміцеся давесці справу да канца, — нечакана прапанаваў Васіль.

— Я? — Сакавітаў здзівіўся, петым засмяяўся. — Значыцца, кось, кось, а потым за грыву. Хітруны вы! — і сур'ёзна: — Не, дарагія таварышы. Мяне чакае родны Ленінград. Мне там ужо і месца падрыхтавана. Цікавая работа.

— Добра, Сяргей Паўлавіч, — згадзіўся Ладынін. — Да канца — гэта Васіль залішне хапіў. Дапамажыце паставіць справу на ногі, як гаворыць Байкоў. Вы — спецыяліст, аўтарытэт...

Сакавітаў задумаўся.

Ладынін і Лазавенка моўчкі глядзелі на яго. Маўчанне цягнулася доўга. Нарэшце інжынер падняўся.

— Што з вамі зробіш? У Мінск з'езджу, дапамагу аформіць праект і ўсё іншае...

Васіль таксама падняўся і паціснуў яму руку.

— Калі зможаце паехаць?

— А хоць — заўтра.

Адвячоркам, пасля работы, ідучы дамоў, мужчыны заходзілі ў краму. Невялікая будынінка гэтая стаяла ў самым цэнтры, на рагу двух вуліц вёскі, якія тут пачыналіся і ішлі пад простым кутом адна да адной. Але не толькі адным гэтым вызначалася цэнтральнае месца крамы, але, можа, у большай меры, суседствам школы, сельсовета і-вольніцы. Крама стаяла па самым узгорку. Ад яе былі добра відаць вуліцы, стрэхі Лядцаў, сіняя паласа лесу, а лепш за ўсё — звілістая істужка рэчкі, луг, зарэчныя балоты, невялічкі бярозавы гаёк, сіратлівыя купкі альховых кустоў, шлях з тэлефоннымі слупамі і далей, за балотам, на пясчаных узгорках, — хвойнікі. Усё, што ляжала каля рэчкі і за ёю, было як на далоні.

Заходзілі з сякерамі, з віламі — хто чым рабіў удзень, з тым і ішоў. Другія ішлі проста з дому, пагутарыць з людзьмі, паслухаць і жарты, і сур'ёзныя размовы. Садзіліся на бочках, на скрынях, на кучах пустых мяшкоў, а смялейшыя на прылаўках; там было не зусім бяспечна: часам за непрыстойны жарт можна атрымаць лінейкай па спіне. Што цягнула сюды людзей — тлумачылі па-рознаму. Жонкі, напрыклад, бачылі толькі адну прычыну: крамшчыцай працавала маладая ўдава, прыгажуня Соня Гальчук, чырвонашчокая, з тонкімі брывямі і чорнымі, як у цыганкі, вачыма, баявая і вясёлая. Усе жанчыны былі ў змове супраць яе, але паасобку кожная, прыходзячы ў краму, адносілася з хітрай павагай: верылі ў яе цудадзейную сілу прываражыць любога мужчыну.

Брыгадзір Міхей Вячэра, славуты сваёй начытанасцю, асабліва геаграфічнымі ведамі, растлумачыў Ладыніну прычыну гэтага так:

— Традыцыя гэта, Ігнат Андрэевіч. Перад вайной у такую пару мы штодня сыходзіліся ў сельмазе. Бо штодня што-небудзь новае прывозілі. І штодня добрая палова калгаснікаў што-небудзь куплялі. Сумуюць людзі па таварах, таварыш Ладынін. Ідзеш і думаеш: а раптам Гольдзін прывёз што-небудзь. Як-жа тут прамінеш?

Ладыніну падабалася такое тлумачэнне, ён і сам стаў зазіраць сюды, асабліва, калі народа збіралася пабольш (яму гэта было відаць з акна), ён браў свежыя газеты і неўпрыкметкі пераводзіў размову на іншыя тэмы. Без яго пра сур'ёзныя справы звычайна тут не гаварылі, а проста расказвалі незвычайныя здарэнні і розныя прыгоды, якія ўсе добра ведалі, аднак слухалі з цікавасцю, жартавалі з Соняй, бяскрыўдна кпілі адзін з аднаго, а галоўным чынам — з хлопцаў-халасцякоў.

— Дзядзька Міхей, раскажы, як паліцай Лупейка без штаноў уцякаў.

І адразу смех:

— Хо-хо-хо-о-о...

— Ну, што тут расказваць. Усе ведаюць.

— Ды раскажы...

Міхей Адамавіч, не спяшаючыся закурваў, хітравата ўсміхаўся і пачынаў:

— Расказ кароткі... Данеслі нам хлопцы, што ў немцаў на нашым маслазаводзе да ліха масла ды яек сабралася. Прышоў я да Макушэнкі. Дазволь, гавару. Пракоп Пракопавіч... Давай, кажа, толькі асцярожна, і, калі можна, захапі крыху яек і масла. Запрэглі мы па пары коней лепшых, расселіся на дзве фурманкі ў форме паліцаяў ды без супынкі ад лесу да Дабрадзееўкі гадзіны за дзве і прыскакалі. Ну, вядома, адразу ў школу, дзе паліцаі. Дваіх на месцы захапілі... А гэты, сабачы сын, Лупейка, відаць, па патрэбах за хлявом сядзеў. Пачуў стрэлы — і дай бог ногі, па гародах — на паплавы. Дабег да рэчкі, і тут ад страху яго кацялок пусты і зварыў, што, не скінуўшы штаноў, рэчку перайсці нельга.

— Хо-о-охо... Ха-ха-а-а, — раскацiста грымеў смех.

— Скінуў ён штаны... А нам падказалі людзі. Мы спачатку не ўбачылі яго... Хлопцы мае наўздагон з кулямёта чаргу. Кінуў ён штаны на гэтым беразе, а сам на той... Эх, як пайшоў ён, браткі мае, нібы воўк той загнаны. На любым рысаку не дагнаў-бы. Так на поўным ходзе і ўкаціў без штаноў у Каменку... Там гарнізон нямецкі стаяў... А дзень быў святочны, цёплы. Справа ў жніўні была. На вуліцы поўна жанчын, дзяўчат. Вы спытайце ў бабкі Грачыхі з Каменкі, як яна спалохалася, убачыўшы яго. Хрысціцца пачала: свят, свят...

Брат крамшчыцы Грышка Лазавенка ад смеху скаціўся за прылавак Соня пачаставала яго лінейкай, дапоўніўшы прычыну для смеху.

— Грышкава каманда брала потым гэтыя штаны ў палон, — засмяялася Соня.

Семнаццацігадовы Грышка, які лічыў сябе ўжо зусім дарослым чалавекам, ледзь не кінуўся на сястру з кулакамі.

— Чакай, Міхей! Канец гэтай аперацыі дакажа дзядзька Сямён. Сямён Лявонавіч, давай, брат, наперад.

Сямён — кульгавы, глухаваты чалавек год пяцідзесяці. У маладасці ён гадоў дваццаць пасвіў статак, а ў калгасе быў пастаянным конюхам. Чалавек ён — маўклівы, стрыманы, і гаварыў больш з коньмі, чым з людзьмі. Пачуўшы, што ад яго патрабуюць, ён збянтэжана адступіў да дзвярэй.

— Ну што ось гэта вы, хлопцы? — распяваючы кожнае слова, працягнуў ён. — Найшлі ось з чаго смяяцца.

— Давай, давай, Сямён...

Ён махнуў рукой і вышаў з крамы.

Тады расказваць пачала Соня, стрымліваючы смех.

— Гэта-ж яго паліцаі сілком прымусілі працаваць на маслабойцы. Дроў падвезці, напілаваць, накалоць. Ці там адвезці што. Ну, партызаны і засталі яго ў час налёту там. Спатрэбілася ім на штосьь вяроўка, адзін з іх і загадаў: «Дзед, давай вяроўку! Ды хутчэй, сімулянт кульгавы... Бач, раз'еўся на людскім масле»... Хлопец быў чужы, не ведаў... Сямён наш і пакульгаў. Дахаты яму ісці далёка, а на вуліцы поўна баб. Ён — да іх... «Бабачкі, дайце вяроўку хутчэй», — а ў самога губы дрыжаць, і твар, як палатно... «Нашто табе вяроўка?» — пытаемся мы, я таксама стаяла там. «Вешаць будуць мяне...» Тут яго Акуліна пачула, ды ўголас. А за ёю і ўсе мы... «За што, дзядзька Сямён? Што ты зрабіў? Мы ўсе пойдзем Міхея за цябе прасіць»... А ён як мацюкнецца, век ад яго такога не чулі, як закрычыць... «Цыц, чортавы бабы! За тое, што я, ось, сукін сын, на фашыстаў раблю... Ось за што!»

— І прынёс, браткі, ён мне вяроўку, — дапоўніў Міхей. — Мы ўжо ад'язджалі, каля саду дагнаў. «На, гаворыць, вешай, Міхей». «Што?» — пытаюся. «Мяне». Узлаваўся я. Што ён, думаю, за бандытаў нас лічыць, ці звар'яцеў стары?.. Пайшоў, крычу, к чорту, а то перавешу па спіне пугаўём, не пагляджу і на старасць...

— Але пасля як ні прымушалі яго зноў ісці на маслабойню... білі паліцаі і ў камендатуру цягалі — не пайшоў. Нават на рамонт дарогі ні разу за ўсю акупацыю не вышаў, хоць і даставалася яму за гэта...

Часцей за ўсё апавядальнікам выступаў сам старшыня сельпо Гольдзін. Гэты маленькі вяртлявы чалавек, з пратэзам вока, нейкім цудам упраўляўся пабыць усюды. Хай на працягу адной гадзіны ў вёсцы будзе пяць здарэнняў, але пасля акажацца, што ён усюды быў сведкай. Ды не толькі ў вёсцы, але і ва ўсім раёне не было таго здарэння, пра якое-б ён не ведаў.

Расказваў ён усё адны і тыя-ж партызанскія анекдоты — аб фашыстах, аб Гітлеры, аб Еве Браўн, але кожны раз дадаваў да іх нешта сваё, новае, і вось гэта «сваё» і было самым цікавым і смешным.

Калгаснікі любілі гэтага вясёлага чалавека, але з яго гандлёвай дзейнасці кпілі штодня.

— Сяргей, дай Гольдзіну закурыць, а то, бачыш, вушы ў старшыні сельпо папухлі.

— Гэта значыцца, што ў мяне няма чаго закурыць? Дрэнна вы ведаеце Хаіма Гольдзіна. Не было яшчэ тае хвіліны, каб я быў без папярос. Я і ў партызанах...

— Што там было — мы ведаем... А вось зараз у тваіх кішэнях пуста, — хітрыў Міхей.

Гольдзін выхопліваў з кірзавай сумкі, з якой ніколі не разлучаўся, пачку «Казбека».

— Калі ласка... У кішэнях няма, але ў сумцы заўжды.

Да папярос цягнуліся мазолістыя пальцы, і каробка ўмомант пусцела.

— Бач, для сябе ты знаходзіш, а для пайшчыкаў...

— Гольдзін, ты ў Сямёна самасад закупі. На год гандляваць хопіць. Адразу план выканаеш...

— Ты-б хоць гэты цуда-хамут замяніў другім... А то ён ужо вочы ўсім намазоліў...

— Атрох з Выселкаў, падпіўшы, браўся нашу краму ў сажалку зацягнуць...

— А ён можа...

— Глядзі, Гольдзін...

— Смейцеся, смейцеся... Праз месяц такі зруб прывязу — пальчыкі абліжаце...

— Доўга ты яго рубіш...

— Ды ад зруба да крамы з тваімі тэмпамі, што ад Сямёна да Уліты.

Адзін толькі чалавек ніколі не прысутнічаў на гэтых сходках, пазбягаў нават заходзіць у такі час у краму, — Васіль Лазавенка. Ён не аднойчы абурана гаварыў Ладыніну і Гольдзіну:

— Што за дурная прывычка збірацца ў краме і мянташыць языкі. Лепей-бы каля гаспадаркі што зрабілі...

Ладынін хаваў у вусы ўсмешку і маўчаў. Гольдзін, як заўсёды, згаджаўся:

— Я таксама думаю так, Васіль Мінавіч.

Васіль злаваўся.

— Ну, і двудушны ты чалавек, Гольдзін. Ты-ж там — першы завадатар... Вось забяру калгасную будыніну, гандлюй тады — дзе хочаш...

— Не дазволяць, — мякка заўважаў Гольдзін, пакорліва схіляючы галаву...

— Хто?

— Калгаснікі...

Васіль зайшоў у краму ў самы разгар жывой і цікавай гутаркі. Брыгадзір трактарнай брыгады Міхайла Прымак расказваў цікавыя моманты з часоў калектывізацыі.

Васіль купіў карабок запалак, закурыў, неяк непрыкметна для сябе сеў на вагі і пачаў слухаць, скупа ўсміхаючыся. Але Ладынін раптам прыкмеціў дзіўную змену ў настроі слухачоў: яны ўраз страцілі цікаўнасць, пачалі гаварыць аб іншым, купляць розныя дробязі ў Соні і неўпрыкметак па адным пакідаць краму. І калі амаль нікога не засталося, прастадушны і шчыры Прымак засмяяўся.

— Сілё-он!.. Ні слова не сказаў і ўсіх разагнаў. У цябе, Вася, як у суровага свёкра...

Ладынін нахмурыўся.

З крамы вышлі разам. Па гасцінцу пайшлі ўніз, праз школу і бальніцу да рэчкі.

У апошні час яны прагульваліся тут удвух часта — вельмі зручнае месца для задушэўных, шчырых размоў. Цяпер-жа доўга ішлі моўчкі.

Зноў у паветры кружыліся рэдкія сухія сняжынкі, пушыстымі цёплымі зоркамі садзіліся на рукі і ўмомант раставалі. Неба захутала суцэльная нерухомая хмара. Здавалася, што ў паветра нехапае сілы зрушыць яе.

— Што гэта ты людзей разагнаў? — спытаў урэшце Ладынін.

— Я? Я слова не вымавіў.

— А людзі разышліся.

— Значыцца, пара было разнесціся.

— Ды не. Праз цябе.

— Што-ж, спалохаліся мяне ці што? Збіраюцца-ж у маёй хаце штовечар і, здаецца, ніхто не баіцца.

— Тут ведалі, што ты супраць гэтых збораў.

— І правільна.

— Па-першае, я не лічу гэта правільным. Каму якая справа, дзе людзі збіраюцца пагутарыць, пажартаваць? Але самае галоўнае, што мяне хвалюе: чаму разышліся? Прысутнічаю я, стары чалавек, урач — і нічога. А з табою-ж звычайна ўсе калгаснікі на «ты»... І раптам, твая маўклівая прысутнасць прымушае іх, нібы вучняў, разбегчыся. Што гэта: найвялікшая павага ці што іншае? Вось над чым я задумаўся.

Васіль іранічна ўсміхнуўся.

Ладынін хвіліну ішоў моўчкі. Яны абышлі лужыну з пабітым белым лёдам і, не згаварваючыся, звярнулі з гасцінца на вузкую дарожку, што праз сад вяла ў поле.

— Ты не ўсміхайся. Гэта вельмі сур'ёзна. Я назіраў у апошні час за табой, і ў мяне з'явілася думка аб тых добрых кіраўніках, якія, ап'янелыя ад поспехаў, ад павагі да іх, раптам пачынаюць адрывацца ад людзей, станавіцца над імі і кіраваць з большай вышыні, чым ім належыць.

— Не бойцеся, Ігнат Андрэевіч, я такім кіраўніком не буду.

— Прыемная ўпэўненасць. Але давай будзем самакрытычнымі. Скажу шчыра: мне не зусім падабаецца празмерная настойлівасць тваіх выступленняў на сходах — што-б людзі ні гаварылі, а ты сваё... А нарады, якія ты даеш брыгадзірам? Яны робяцца падобнымі на ваенныя загады...

Васіль адчуў, як моцна застукала сэрца, гарачай хваляй хлынула да твара кроў. Словы Ігната Андрэевіча спалохалі яго. Увесь час яго толькі хвалілі, ставілі ў прыклад. І раптам такі папрок ад чалавека, якога ён вельмі любіў і паважаў, якому нельга не верыць.

Ладынін пачакаў пярэчанняў з боку Васіля і, не дачакаўшыся, зразумеў, што ўразіў яго надзвычай моцна.

— Ты прабач... я проста папярэджваю. Чалавек ты з розумам цвярозым, самакрытычным і ўсё зразумееш. Прасачы за сабой... Усе прызнаюць, што твая сіла ў шчыльнай сувязі з калектывам. Але я пачынаю баяцца, што гэтая сувязь у цябе можа стаць аднабокай. Ты калектыву звычайна стараешся паднесці ўсё ў гатовым выглядзе... У гэтым таксама ёсць небяспека... Падумай...

Васіль задумаўся. Не, і зараз ён не мог не паверыць гэтаму спрактыкаванаму чалавеку, старому бальшэвіку! Без падстаў ён не мог так гаварыць. Аднак прыняць усё, што ён сказаў, было цяжка. Васіль адчуваў, што яму давядзецца нямала падумаць, каб разабрацца ва ўсім гэтым...

— Я чаму пра гэта?.. Вось гаворым аб агітацыі за электрастанцыю, аб перадвыбарчай... Наогул аб агітацыі. І ты разумееш, што мы з табой абавязаны быць першымі агітатарамі. Мы павінны ўмець агітаваць не толькі на сходах, але ўсюды — у краме, на двары, у хаце... А калі ад нас будуць разбягацца людзі... што атрымаецца?

Ладынін хвіліну памаўчаў, потым прапанаваў:

— Ведаеш што? Вазьмі на сябе кіраўніцтва агітацыйнай групай у Дабрадзееўцы?

— Я? А Мяцельскі?

— Мяцельскага, яго жонку і Ліду я перакінуў у Лядцы. Там, брат, непачаты край.

— Цяжка мне будзе, Ігнат Андрэевіч!

— Нялёгка. Але затое карысна і для справы і для цябе. Будзеш і ты шукаць людзей, а то ты палюбіў, каб толькі цябе шукалі.

19

Васіль ведаў: карысці калгасу будзе нямнога, калі агранамію будзе вывучаць адзін ён. Каб падняць гаспадарку, павысіць ураджайнасць,

трэба ўзброіць ведамі для пачатку хаця-б сваіх бліжэйшых памочнікаў: брыгадзіраў, звеннявых, загадчыка фермы, членаў праўлення. Таму, як толькі закончыліся палявыя работы, ён узяўся за арганізацыю такой вучобы. Сваю школу ён назваў сціпла: агранамічны гурток. Але сваіх памочнікаў ён абавязаў рэгулярна наведваць заняткі гэтага гуртка. Спачатку гэта выклікала маўклівае супраціўленне з боку асобных актывістаў. Нехта нават тайком паскардзіўся ў раён, абвінаваціўшы старшыню ў насаджэнні ваеннай дысцыпліны. Васіль адмахнуўся ад пустых размоў і настойліва дамагаўся аднаго: прышчапіць людзям любоў і цікавасць да вучобы. Дапамагла яму ў гэтым раённая газета. Рэдактар яе Прыпецень пабыў на адных занятках і распісаў добры пачын дабрадзееўцаў на цэлую паласу сваёй газеты. Потым прышоў на дапамогу Ладынін. Ігнат Андрэевіч параіў пашырыць праграму і сам пачаў чытаць слухачам лекцыі па статуту сельскагаспадарчай арцелі, па міжнароднай палітыцы і аб вопыце перадавікоў калгаснай гаспадаркі. Сціплы гурток ператварыўся ў сапраўдную агранамічную школу. Слава аб ім прайшла па раёну. Старшыня калгаса «Перамога», з суседняга сельсовета, Дзяргай, сам часта прыязджаў на заняткі і рашэннем праўлення абавязаў двух сваіх брыгадзіраў рэгулярна наведваць іх. З «Зоркі» прыходзілі дзве сястры Дудко, Ліза і Вера, хоць старшыня іх, Піліп Раднік, адносіўся да вучобы скептычна. З «Партызана» заняткі наведвалі чатыры дзяўчыны на чале з Машай Кацуба. Людзей набралася больш, чым Васіль спачатку меркаваў, А добрага спецыяліста-агранома не было. Покуль што ён спраўляўся сам. Але ўсё часцей і часцей слухачы пачалі задаваць такія пытанні, на якія яму, не звярнуўшыся да літаратуры, адказаць было цяжка. Спроба дамовіцца з участковым аграномам нічога не дала. Агране быў стары практык, але чалавек без аўтарытэта, у калгасах яго не любілі за яго паводзіны ў часе акупацыі. Таму, як толькі Васіль даведаўся, што да іх назначаецца новы ўчастковы аграном, адразу-ж паехаў у раён і сустрэўся з ім.

Павел Паўлавіч Шышкоў — амаль аднагодак Лазавенкі. На вайну ён пайшоў з другога курса сельскагаспадарчага інстытута. Страціўшы на вайне левую руку, ён вярнуўся назад у інстытут і скончыў яго.

Яны спадабаліся адзін аднаму з першага знаёмства, і Васілю без асаблівай цяжкасці ўдалося сагітаваць Шышкова пасяліцца ў яго калгасе. Кватэры яму ён не стаў шукаць, а пасяліў у сваім доме ў тойжа бакоўцы, дзе стаяў і яго ложак.

За тры дні яны сталі сябрамі і ведалі адзін аб адным больш, чым, напрыклад, ведалі аб Васілю людзі, якія пражылі разам з ім амаль усё жыццё. Размовы іх у гэтыя першыя дні зацягваліся да пяці-шасці

гадзін раніцы. Толькі пачуўшы рыпенне калодзежнага жураўля, яны схамяналіся і, дакараючы адзін аднаго, лажыліся спаць.

... Слухачоў набралася многа. Больш чым на любых папярэдніх занятках. Прышлі нават тыя, што раней ніколі не прысутнічалі. Асабліва многа было дзяўчат. Васіль разумеў: многіх прыцягнула сюды простая дзявочая цікаўнасць — пабачыць зблізу і паслухаць маладога агранома. «Толькі пра хлопцаў і думаюць», — але ў душы быў рад такой мнагалюднай аўдыторыі. Здзівіла яго ў той вечар нечаканае сяброўства Машы і Насці: яны сядзелі побач і мірна гутарылі. Ды і не аднаго яго гэта здзівіла. Ён бачыў, як шэпчуцца дзяўчаты, кідаючы на іх насмешлівыя позіркі.

Ён разумеў, чым выклікана змена ў адносінах Насці да Машы, і злаваўся.

«Дурніца, зноў, відаць, спадзяецца! Ліха ведае, што за дзяўчына!»

... Дзіўныя адносіны былі паміж імі. Насця Рагіна карысталася славай прыгажуні на ўвесь сельсовет. Гібкая, з чорнымі брывямі на белым, з тонкімі пяшчотнымі рысамі твары, з рудаватай, але прыгожай доўгай касой, — яна закружыла галаву не аднаму хлопцу. Яшчэ калі ёй было ўсяго шаснаццаць год, і яна толькі што скончыла сямігодку, да яе сватаўся настаўнік. Пасля вызвалення ў Дабрадзееўцы доўгі час стаяў на адпачынку артылерыйскі полк. Дык амаль усе маладыя афіцэры былі закаханы ў яе. А адзін маёр сватаўся па ўсіх правілах, да бацькоў прыходзіў. Насця смяялася, жартавала, не аднаму паабяцала чакаць. Але, калі полк выехаў, і яе пачалі засыпаць лістамі, яна не адказала ні на адзін ліст. А раптам сама першая пачала пісаць Васілю Лазавенку, які ў той час ляжаў у шпіталі. Яна была гады на чатыры маладзей за яго, і да вайны яны, мабыць, ні разу нават не пагутарылі па сур'ёзнаму. Хіба так калі, выпадкова, ён перакідваўся словамі з вясёлай дзяўчынкай. Таму перапіска гэтая здзівіла яе сяброўак. Толькі старыя жанчыны ўхвалілі яе.

— Насцю не правядзеш. Кавалеры гэтыя былі, ды і няма іх. А гэта — свой чалавек.

Два гады янэ бамбардыравала здзіўленага Васіля супярэчлівымі лістамі: то жартаўлівымі, то пяшчотнымі, то дакорлівымі, — «са слязою». Ён адказваў стрымана. А прыехаўшы і пачуўшы, што ўсе, у тым ліку і бацькі іх, лічаць яго Насціным жаніхом, шчыра сказаў ёй: «— Не магу крывіць душой, Насця. Не знайшлося ў маім сэрцы месца для цябе і не веру я, што ў цябе гэта сур'ёзна. У цябе проста нейкая забава, а не каханне.

Страшэнна абразіла Насцю гэтае прызнанне.

Пасля гэтага яна нават унікала сустрэч з ім адзін на адзін. А спаткаўшы Машу, праз зубы выцадзіла:

— Ненавіжу цябе ўсёй сваёй душой. Ты стаіш у мяне на дарозе.

Яе адносіны да Машы змяніліся з прыездам Максіма.

... Аграном расказваў пра значэнне севазвароту. Гэтую тэму не раз кранаў і Васіль. Але розніца паміж іх лекцыямі была відавочная. Павел Паўлавіч пачаў, праўда, крыху здалёк, але падвёў да галоўнага ўдала, умела. Гаварыў ён проста, цікава, з шматлікімі прыкладамі і нават жартамі. І ўся яго постаць, уся манера трымацца выяўляла ў ім здольнага дакладчыка і педагога. Ён спакойна хадзіў каля стала, то набліжаючыся да пярэдняга раду слухачоў, то адыходзячы да сцяны, на якой вісеў схематычны план зямель аднаго з калгасаў, у якім севазвароты былі ўжо асвоены. У руцэ — запэцканая чарнілам лінейка. Ён зрэдку ўзмахваў ёю, лёгка стукаў па халяве бота, ці, раптам павярнуўшыся, праводзіў лінейкай па плану. Потым, не скончыўшы сказа, звярнуўся да слухачоў, з маўклівым запытаннем: — А як па-вашаму? Так паступова ён ператвараў лекцыю ў жывую гутарку, уцягваючы ў яе амаль усіх слухачоў. І сам захапіўся: яго бледны твар расчырванеўся, вочы загарэліся.

Васіль і зайздросціў Шышкову за ўменне так добра, дакладна расказваць і ў думках дакараў за тое, што ён яўна крыху пазіруе.

На сцяне замест плана чужога калгаса з'явіўся план зямель «Волі». Сінімі лініямі былі паказаны межы палёў дзевяціпольнага севазвароту.

— Тое, што вы зрабілі ў гэтую восень, дапаможа калгасу без асаблівых цяжкасцей асвоіць севазварот,— Шышкоў гаварыў і канцом лінейкі абводзіў палі ў самым далёкім кутку плана.

Нехта з старых прамовіў.

— Воўчае поле.

Так называлася гэтае ўрочышча — ладны кавалак зямлі, гектараў восемдзесят. Было да яго ад вёскі добрых кілометры чатыры, а магчыма што і з гакам, як гаварылі старыя. З незапомных часоў далі людзі гэтаму полю такую назву. Большасць яго да калгаса пуставала, бо ў Дабрадзееўцы не было недахопу ў зямлі. Пасля арганізацыі калгаса яго засявалі, але з неахвотай, наперад ведаючы, што ўраджай на ім будзе нізкі. Толькі ў апошнія гады перад вайной, калі ў калгасе па сур'ёзнаму заняліся севазваротамі, на яго пачалі глядзець, як на ўсе іншыя палі. У той год, калі пачалася вайна, увесь гэты кавалак зямлі быў засеян шматгадовымі травамі. Безумоўна, у час фашысцкай акупацыі ніхто з сялян і не падумаў сеяць у такой далечы, бо і каля самай вёскі зямля пуставала. У першыя гады пасля вызвалення ў калгасе таксама нехапала сілы падняць гэты далёкі заляжалы дзірван.

З гэтага травянога поля Лазавенка і рашыў пачаць навуковае земляробства. Ён дамовіўся з МТС узараць гэтае поле ўвосень з перадплужнікамі. МТС лічылася адной з перадавых у вобласці. Не гледзячы на недахоп трактараў, яна ўжо два гады ўзапар перавыконвала план работ, але араць гэтыя восемдзесят гектараў з перадплужнікамі дырэктар згадзіўся толькі пасля сур'ёзнай размовы ў райкоме. Ён нібы адчуваў, што гэты дзірван стане для станцыі і асабіста для яго пробным каменем.

Араць пачалі ў прысутнасці брыгадзіра трактарнай брыгады і Васіля. Усё ішло добра, але як толькі Васіль адышоў, схаваўся ў хвойніку, перадплужнікі набылі выгляд сродкаў супроцьпаветранай абароны. Васілю пра ўсё расказаў пастух.

Ніколі і нішто не абурыла Лазавенку так, як гэтае ашуканства. Брыгадзіра, свайго школьнага сябра, аднавяскоўца і нават родзіча Фёдара Лазавенку ён патрабаваў аддаць пад суд. Суда той унікнуў, але з работы былі звонены і ён і трактарыст. Дырэктара МТС Крыловіча слухалі на бюро абкома і запісалі вымову. Цяпер узаранае поле ляжала чорным, хвалістым застыглым возерам, чакала вясны.

... Шышкоў гаварыў аб ролі брыгад у асваенні севазвароту. і раптам Насця перапыніла яго. Яна спытала грубавата з яўным выклікам:

— Што гэта ў вас, брыгада ды брыгада? А звяно дзе?

Шышкоў схамянуўся ад нечаканага запытання і ад праніклівага насмешлівага позірку яе прыгожых вачэй.

— Звяно? Якое звяно?

— Якое! — яна засмяялася, пераможна агледзеўшы дзяўчат. — Наша звяно.

— Ах, ва-аша! — жартаўліва працягнуў ён. — Што-ж вы прапануеце? Замацаваць за вашымі звеннямі палі ў севазвароце?

— Я ў вас пытаюся, а не прапаную, — усмешка знікла з яе твару, яна нахмурылася. — Вы — аграном.

— Дык вось, як аграном, скажу вам па шчырасці: саматужніцтва, з якім працуюць зараз звенні, не толькі не дапаможа, але будзе перашкаджаць нам асвоіць травапольны севазварот.

— Вось як!

Насця паднялася, на шчоках у яе з'явіліся непрыгожыя пунцаватыя плямы.

— Значыцца, вы супраць звенняў?

Шышкоў таксама адчуў, што чырванее. Ён ведаў, што пасля ранення ў яго незаўсёды хапала сілы заціснуць у кулак свае нервы, і

насцярожыўся, прыслухоўваючыся да штуршкоў пульса на шыі. Але напружанасць раптам знікла. Ён збянтэжыўся пад яе позіркам.

— Я ведаю, куды вы гнеце. Я чула вашу размову раней. Толькі не выйдзе ў вас нічога! Звяна свайго я вам не дам чапаць. А настаўнікаў такіх мне не трэба!

Яна сарвала вялікую шарсцяную хустку з пляча, накінула на галаву, махнуўшы ёй так, што хліпнула лямпа, і дэманстратыўна выйшла.

— Не дзеўка, а агонь, — заўважыў хтосьці са старых.

— Яна? — спытаў Шышкоў, калі ў час перапынку яны з Васілём зайшлі ў бакоўку.

— Яна.

Аграном засмяяўся.

— Здзіўляюся, як ты вытрымаў націск такой дзяўчыны. Ведаеш, адны вочы чаго варты! Глянула — нібы аўтаматнай чаргой прашыла.

За перагародкай смяялася, шумела моладзь, працаваў прыёмнік, заглушаючы размову гучнай музыкай.

— Будуць табе вочы! Яна цяпер такі тарарам падыме! Дзе яна магла падслухаць нашу размову?

— І ты спалохаўся?

— Я не з ліку палахлівых... Але, сапраўды, не перагнуць-бы нам з табой. Мне здаецца, рана яшчэ падымаць гэтае пытанне.

— А мы яго не будзем падымаць. Яго падыме жыццё.

20

Аднойчы ў час заняткаў разгулялася завіруха. Вецер завыў у коміне, застукаў акяніцамі, па шыбах пасыпаўся сухі снег.

Заняткі скончылі раней, каб слухачы з іншых вёсак маглі дайсці дадому, покуль не перамяло дарог. У хаце хутка апусцела. З моладзі адна Маша, не спяшаючыся, задумліва хуталася ў хустку, разглядаючы на сцяне новы агранамічны плакат. У гэты вечар яна была чамусьці адна. Васіль падышоў да яе, спытаў:

— Ты адна?

— Як бачыш. Алёна хворая, у Рашы карова павінна цяліцца на ферме. Да Дуні жаніх прыехаў.

Васілю не спадабалася, што прыезд жаніха Маша лічыць прычынай, каб не наведваць заняткі, але ён ветліва змаўчаў. Аглянуўшыся на Шышкова, ён ціха прапанаваў:

— Чакай. Я правяду цябе.

Сумная ўсмешка — такая, што кранула Васіля за сэрца, скрывіла яе вусны. Але адказала яна ціха, мякка, ласкава:

— Не трэба, Вася. Я сама, — і дакранулася да яго рукі.

— Не, не! Што ты!

На вуліцы, каля палісаднікаў, ужо ляжалі касыя сумёты.Ісці было цяжка, і яны, покуль ішлі па вуліцы, маўчалі. Але ў полі дарогі не перамятала, снег нясло ўздоўж няспыннай сыпучай плынню і нямаведама, дзе ён затрымліваўся. Не шумелі, а, здавалася, гудзелі, трывожна, жалобна, ад бязлітасных удараў ветру старыя сухаверхія бярозавыя прысады.

Яны пайшлі побач, не кранаючыся адзін аднаго. Васіль сказаў, каб пачаць размову:

— Дарэмна вы адразу не наладзілі снегазатрымання. Бачыш, колькі вільгаці зносіць.

Маша не адказала і ўздыхнула.

Праз некалькі крокаў ён спытаў:

— Як табе падабаецца аграном?

— Нічога. Толькі, здаецца мне, крыху задаецца.

— Ну, што ты! Рысуецца, справа іншая. Але гэта ад маладосці. А так — хлопец разумны.

— А што ён на звенні нападае?

— Не падабаецца яму арганізацыя работы нашых звенняў. Гаворыць, пры такім саматужніцтве ні травапольны севазварот нельга асвоіць, ні, як належыць, механізаваць палявыя работы.

— А ты як думаеш?

— Ведаеш, шмат у яго разважаннях слушнага.

Маша зноў змаўчала. Гэта насцярожыла Васіля, і ён зусім неспадзявана для яе раптам спытаў:

— Слухай, Маша, што за недарэчнасць у вас з Максімам?

Маша ажно ўздрыганула ад нечаканасці. Даўно хацелася ёй расказаць пра свае душэўныя пакуты чалавеку сур'ёзнаму, разумнаму, які зразумеў-бы ўсё з поўслова і не паспачуваў-бы — не! — больш за ўсё яна баялася слязлівага спачування, — а сказаў-бы што-небудзь простае і бадзёрае, магчыма, даў-бы добрую, разумную параду. Дагэтуль яна гаварыла пра свае пачуцці толькі з Алесяй. Але малодшая сястра адносілася да яе перажыванняў па-юнацку легкадумна: то абуралася і сыпала на галаву Максі ма праклёны (а Машы было прыкра і балюча слухаць, што яго лаюць), то раптам гаварыла:

— Плюнь ты на яго. Ці мала добрых людзей? Свет клінам на ім сышоўся, ці што?

Плюнь! Лёгка параіць гэта другому! А калі яна, нават і пасля таго, як ён абразіў яе, сэрцам адчувае, што не можа не кахаць яго. Як складана ўсё ў жыцці!

Таму, як толькі Васіль спытаў, яна адразу падумала: «Вось каму... Ён адзін зразумее», — і лёгка і проста пачала расказваць.

Васіль слухаў моўчкі... Толькі, калі яна расказала, як Максім груба абразіў яе, ціха вылаяўся:

— Дур-рань.

Калі ён хваляваўся, то пачынаў прыкметна картавіць.

— Ты разумееш, як гэта цяжка страціць веру ў чалавека. Для мяне ён заўсёды быў самым добрым, разумным, чулым. Я ведала, што ён гарачы, нястрыманы. Але, можа, за гэта я і пакахала яго. І цяпер... Я не ведаю, як думаць пра яго цяпер, — яна памаўчала, потым шчыра прызналася: — А наогул цяжка, Вася. Проста на сэрцы гарыць. Шэсць год... Шэсць год я жыла марамі аб простым чалавечым шчасці — аб сям'і. Яшчэ зусім нядаўна, помню, марыла... — відаць, на нейкі кароткі момант забыўшыся, яна шчасліва засмяялася. — Бачыш, якія крамольныя думкі былі ў сакратара комсамольскай арганізацыі.

Яна засаромілася: як гэта яна ні з таго, ні з сяго выказала яму ўсё тое, што хавала нават ад Алесі?

Васіль доўга маўчаў, і Маша з незразумелай баязлівасцю чакала, што ён скажа.

— Ведаеш што?.. Я пагавару з ім.

— Ты? — яна падумала. — Не трэба, Вася. Што ён зноў падумае пасля гэтага?

— Ну, калі ён сапраўды страціў усю сумленнасць, тады, вядома... Я пагавару з ім, як комуніст з комуністам...

Ісці назад было цяжка.

Снег залепліваў вочы. Дарога, якая зусім нядаўна здавалася роўнай і цвёрдай — хоць каціся па ёй, цяпер была ўся ў касых сумётах. Ногі коўзаліся па сухім спрасаваным снезе.

Васіль насунуў вушанку на вочы і ішоў, гледзячы пад ногі. Ён думаў пра Машу і адчуваў, як у душы расце злосць на Максіма. Ён не заўважаў, што досыць гучна лаецца, падмацоўваючы словы энергічнымі жэстамі рук.

— Певень фанабэрысты! Адрасціў вусы, як паўлін хвост (яму яшчэ пры першай сустрэчы не спадабаліся Максімавы вусы), а ў галаве пуста. Завошта абражаеш дзяўчыну, вар'ят ты гэткі? Ты яе падэшвы не варты. Думаеш, усе такія, як ты. Чакай, я пагавару з табой...

Я дабяруся... І ў імя нашай дружбы... будучай, калі ты станеш чалавекам... я табе ўпраўлю мазгі так...

Раптам яму здалося, што ён збіўся з дарогі, ён хутка падняў галаву і ад нечаканасці ажно адхіснуўся. Літаральна за крок перад ім стаяў чалавек. Васіль яшчэ больш здзівіўся, калі пазнаў Максіма. Той

нахіліўся да яго, заглянуў у твар і засмяяўся страшна, непрыемным смехам.

— А-а, шчаслівы закаханы! Правёў? Што-ж начаваць не застаўся?

Васілю здалося, што нехта схапіў яго за горла, ёгі глытануў марознае паветра так, што кроў застукала ў скроні.

Голас Максіма з насмешлівага стаў злосным:

— Свіння ты, а не друг.

Пасля гэтых яго слоў у Васіля неяк адразу адлягло ад сэрца.

— А ты — дурань.

— Вы — разумнікі тут, мацЬ вашу... Прарокі дамарошчаныя! — і, лаючыся, ён абмінуў Васіля і шпарка пайшоў сваёй дарогай. Дарэмна Васіль спрабаваў яго спыніць.

— Максім! Пачакай... Давай пагаворым сур'ёзна.

Праз хвіліну цемра і завіруха праглынулі яго постаць.

«Як недарэчна атрымалася. Сапраўды, зноў мае падставы падумаць ліха ведае што. Галоўнае — пра Машу. Трэба заўтра-ж сустрэцца і ўсё растлумачыць. Аднак які певень! Вось яны якія жывучыя, перажыткі...»

А «пакрыўджаны», «абражаны» Максім у гэты момант ішоў і насвістваў вясёлы матыў. Уся яго лаянка, абурэнне былі нічым іншым, як кароткай успышкай і нават крыху пазёрствам. Праўда, у грудзях варушылася лянівая рэўнасць, закранутае самалюбства. Але зверху над усім гэтым былі прыемныя ўспаміны аб вечары, які ён правёў у доктара.

## 21

У гарачыя летнія дні, калі, часам, цяжка выкраіць час пачытаць газету, Лазавенка часта думаў: зімой возьме месяц адпачынку, даручыўшы кіраўніцтва намесніку, зачыніцца і будзе па-сур'ёзнаму займацца вучобай, будзе чытаць дзень і ноч, каб за месяц прачытаць столькі, колькі належыць прачытаць за год.

Вучобай ён заняўся сапраўды сур'ёзна. А з намеру ўзяць адпачынак сам жартаваў: работы і зімою было не менш, чым улетку.

Ішло будаўніцтва. Будавалі адразу некалькі хат, свіран і клуб. Яшчэ часам на небасхіле можна было адшукаць зорку, над хатамі толькі што пачыналі падымацца ў марозную сінь неба слупы дыму, а ўжо ва ўсіх канцах Дабрадзееўкі стукалі, нібы дзятлы, сякеры, звінелі пілы. На прытаптаны снег ляцелі жоўтыя трэскі. Гаспадыні выходзілі і збіралі іх на падпалку.

Васіль абходзіў будоўлі. Пад нагамі рыпеў снег. Звінелі галасы вучняў. Дзеці ніколі не пра мінаці вялікага няскончанага зруба, які

нагадваў літару Г. У чатырох яго аддзяленнях, перагароджаных капітальнымі сценамі, вельмі зручна было гуляць у схованкі.

Васіль глядзеў і ўсміхаўся.

«Для іх клуб ужо існуе».

Ён сам часцей, чым другія, наведваў гэтую вялікую будоўлю, якая ў апошні час стаяла мёртвай — нехапала цесляроў, хоць ён і паставіў на будаўніцтва кожнага, хто толькі быў здатны трымаць сякеру.

Па Васілёвай ініцыятыве клуб пачалі, як народную будоўлю. Арганізоўвалі нядзельнікі. На першыя — вышлі камсамольцы, моладзь, потым паступова ўцягнуліся ўсе: паважныя гаспадары, якія ў пачатку аднесліся да гэтай задумы з насмешкай, жанчыны, настаўнікі. Усё ішло добра, покуль трэба было выконваць агульныя работы, якія не патрабавалі рук майстра, — секчы і вывозіць лес, адпушчаны дзяржавай, падрыхтаваць пляцоўку, выкапаць катлаван для падмурка, прывезці цэглу і гліну. Але калі дайшлі да галоўнага — зрубіць і аддзелам, вось тут і выявілася, што нестае сіл. Нельга было спыніць будаўніцтва дамоў для калгаснікаў, памяшканняў для жывёлы. Аднак і клуб ніяк нельга было аднесці да ліку другарадных збудаванняў — Васіль гэта добра разумеў. Клуб патрэбны быў не толькі адной «Волі»; у цэнтры сельсовета ён быў патрэбны ўсім чатыром калгасам. Таму Васіль цераз сельвыканком зрабіў спробу папрасіць дапамогі ў суседзяў. Піліп Раднік, «хітры мужычок», як яго называлі, многазначна ўсміхаўся і заўсёды абяцаў:

— Падтрымліваю душой і сэрцам. Але, братка Васіль Мінавіч, трэба падумаць. Трэба параіцца з членамі праўлення. Справа сур'ёзная.

Васіль злаваўся, ведаючы, што гэты самы Раднік, які выстаўляе сябе такім абаронцам прынцыпу калгаснай дэмакратыі, часам па два месяцы не склікае праўлення і калгасам кіруе, як дырэктар.

Шаройка адказваў больш шчыра:

— Нашым людзям у ваш клуб хадзіць не з рукі, дарага абутак будзе каштаваць.

Васіль штодзень падоўгу прастойваў перад няскончаным зрубам. Дзе ўзяць сродкі, каб наняць цесляроў? Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што ідэя хутчэй скончыць клуб не мела падтрымкі ў членаў праўлення. Яны не прынялі прапанову Ладыніна ўзяць крэдыт.

— Не будзем браць, Ігнат Андрэевіч, — адразу запярэчыў Міхей Вячэра. — І так, дзякуй дзяржаве, усю вёску ў крэдыт адбудавалі. А я так думаю, што дзяржава — не бяздонная бочка. Ды і нам... Браць яно, ведаеце, лягчэй, чым аддаваць.

— Не па сваёй сіле пачалі. Не разлічылі, — каротка, як заўсёды, уставіў брыгадзір будаўнічай брыгады Іван Гоман. — Гэтакую махіну на такенькі калгас! Можна было-б і пачакаць.

Васіль узлаваўся. Яго проста абуралі размовы аб тым, што клуб не па калгасу вялікі і дарагі, што на першы выпадак хапіла-б якой-небудзь звычайнай прасторнай хаты.

— Праз якія два-тры гады ён малы будзе, не толькі што... І самі вы будзеце прасіць будаваць большы, бо сорамна перад суседзямі стане. Будзем будаваць!

Члены праўлення ўжо добра ведалі свайго старшыню, яго настойлівасць, і супраціўленне іх было пасіўнае. Але іменна гэтая пасіўнасць і абурала Васіля. Няхай-бы лепш яны спрачаліся, даказвалі, як гэта яны часта рабілі, калі размова ішла пра гаспадарчыя пабудовы.

Недалёка ад клуба, насупраць урачэбнага пункта, хутка вырастала новая будыніна. Старшыня сельпо Гольдзін нарэшце выканаў сваё абяцанне пайшчыкам: прывёз гатовы зруб пад сельмаг. На пабудове яго працавала сталая брыгада цесляроў райспажыўсаюза.

Васіль з зайздрасцю паглядаў на гэтую ладную — шэсць чалавек! — групу добрых майстроў. Эх, яму-б зараз такую брыгаду! У яго ўжо не раз мільгала «крамольная» думка — сагітаваць Гольдзіна і брыгадзіра адарвацца дзён на пяць ад сельмага і папрацаваць у калгасе — падагнаць канцы. Ён ведаў: у раёне за гэта не пагладзяць па галаве ні яго, ні Гольдзіна. Ну, і няхай! Але затое, як было-б добра да дня выбараў скончыць усе тры хаты, у якіх яшчэ да маразоў зрабілі печы, і ўсяліць людзей.

Каля сельмага Васіль штораніцы сустракаў Гольдзіна. Той мітусіўся сярод рабочых, спрабаваў што-колечы дапамагчы ім, але, відаць, больш перашкаджаў. Убачыўшы Васіля, ён здалёк шумна вітаўся і ішоў насустрач з нязменным пытаннем-воклічам:

— Будуем, Васіль Мінавіч?

— Хто будуе, а хто глядзіць, — хмура адказваў Васіль, у якога, калі ён глядзеў на няскончаны зруб клуба, заўсёды псаваўся настрой.

Гольдзін разумеў пачуцці старшыні калгаса і няшчыра ўздыхнуў, хоць душа яго ў гэты момант спявала. Каб ён не так баяўся Васіля, ён пэўна сказаў-бы: «А ці даўно быў той час, Васіль Мінавіч, калі ты штодзень смяяўся над маімі тэмпамі?» Але ён вельмі паважаў гэтага надзвычай сур'ёзнага маладога чалавека (Васіль быў год на пятнаццаць маладзейшы за Гольдзіна). І яму ўвесь час хацелася рабіць старшыні калгаса толькі прыемнае.

Аднойчы, калі Васіль ад магазіна рушыў на калгасны двор, дзе будаваўся прыёмнік-цялятнік, Гольдзін дагнаў яго:

— Слухай, Васіль, што я табе скажу? Скончым магазін — перакінем брыгаду на клуб. Толькі, каб гэта было шыта-крыта. Не дай божа даведаецца мой начальнік!..

Васіль не стрымаў усмешкі.

— А калі гэта будзе? Праз год?

— Даю адсекчы галаву — праз месяц.

Многа спраў у старшыні калгаса. А зімні дзень кароткі.

Будоўлі трэба наведаць з самай раніцы яшчэ і таму, што цесляры маюць прывычку выходзіць на работу са спазненнем. А прыдзеш туды, у хату ці ў цялятнік, дзе прыемна пахне смольнай стружкай, на збудаваным пасярод цагляным падмурку гарыць агонь, і з'яўляецца звычайнае чалавечае жаданне: пасядзець, пакурыць, пагутарыць. Але дома ўжо чакаюць брыгадзіры — трэба даваць нарад. Добра, што канцылярыя ў яго доме: маці не выпусціць, покуль не паснедаеш.

А там — пабыць у кузні, у свірне, дзе сартыруюць насенне, праверыць, як брыгадзіры падрыхтавалі брыгаду ў лес, наведацца ў поле, паглядзець, як выконваюцца ўказанні агранома аб пабудове снегазатрымальных загарожаў.

У полі — холадна. Вецер усходні, калючы. Пазёмка. Рухаецца ўся снежная роўнядзь, цячэ, нібы ўспененая рака. Але шум, які ўтвараецца гэтай няспыннай плынню сухога снегу, своеасаблівы: ледзь чутны, музычны.

Васіль звярнуў з бальшака і пайшоў наўпрасцяк. Снег быў неглыбокі, нароўны, ляжаў грабеністымі дзюнамі. Сляды хутка запаўняліся снежным пылам.

«Мала снегу, мала», — думаў Васіль.

Ён падышоў да маладога бярэзніку. Тут снегу значна больш. У глыбіні ляску зусім зацішна. Толькі звіняць наскрозь прамерзлыя, застыглыя галінкі бяроз.

Ісці было цяжкавата, горача. Але якраз у гэтым і была асалода такой прагулкі. Лёгка ўзнікалі нечаканыя, добрыя думкі, трапныя гаспадарчыя рашэнні. А часам з'яўлялася жаданне заспяваць, але не вядомую песню, а сваю, якая расказвала адразу аб усім: аб бязмежжы снягоў, аб гэтых беленькіх маладых бярозках, аб слядах, якія раптоўна трапіліся на вочы, аб сваім настроі, можа, нават аб сваім каханні...

Добра і памарыць аднаму ў полі. Аб будучым. Аб сваім і будучым калгаса, аб будучым усёй краіны. Такія мары немагчыма адарваць адна ад адной.

Ён цвёрда ўпэўнены: недалёка той час, калі комунізм стане явай. Васіль не раз задумваўся над тым, як гэта будзе праходзіць у іх калгасе.

«У наступным годзе — на першы план ураджай. Чаго-б гэта ні каштавала, а давесці да даваеннага — дванаццаць цэнтнераў укругавую. Потым з года ў год павышаць, каб да канца пяцігодкі — па дваццаць... Адначасова заняцца трэба фермамі».

Ён успомніў словы Сталіна, якія перад гэтым чытаў, рыхтуючыся да заняткаў:

«Будучая сельскагаспадарчая комуна ўзнікне тады, калі на палях і ў фермах арцелі будзе дастатак зерня, жывёлы, птушкі, гародніны і ўсялякіх іншых прадуктаў, калі пры арцелях завядуцпа механізаваныя пральні, сучасныя кухні — сталоўкі, хлебазаводы...».

«Вось так, па гэтаму плану. Вядома, усё гэта патрабуе вялікага будаўніцтва. За электрастанцыяй — радыёвузел, потым элеватар, электрыфікаваныя канюшні і кароўнікі. На полі — поўная механізацыя. Каб не адзін трактар фырчэў, а цэлая трактарная брыгада працавала, камбайны... — і раптам уся гэта радасная гармонія думак парушаецца пытаннем, якое разам з іншымі пытаннямі (аб звеннях, аб рабочай сіле) узнікае не ўпершыню: — На чатырохстах гектарах ворыўнай зямлі?».

Так, зямлі мала. Паспрабуй на такім кавалку — увядзі ўсе навуковыя севазвароты, выкарыстай усе навейшыя машыны. І людзей мала, каб усё гэта адразу падняць. Будзе не раз яшчэ, як з клубам тым. Але, працы хопіць, адпачываць не прыдаецца...

Васіль раптам спыніўся. Кроў ударыла ў твар. Парубка. Сляды, якія ён заўважыў яшчэ даўно і палічыў за сляды паляўнічага, пачалі пятляць. Далей — у трох месцах вытаптаны снег. І больш нічога. Злодзей сабраў і схаваў нават абцярушаныя галінкі. Але Васіль адразу знайшоў замаскаваны пянёк пад кучкаю снегу, змешанага з пілавіннем.

Каму і на што спатрэбіліся гэтыя тры маладыя бярозкі?

Васіль гучна вылаяўся.

— Знайду — дзесятаму закажа, як секчы.

Столькі ён паваяваў з парубшчыкамі калгаснага лесу. «Ну, ад мяне ты не схаваешся. Прыструню Дончыка — ён цябе з-пад зямлі выкапае», — Іван Дончык быў калгасным леснікам.

За бярэзнікам — адразу поле, пад цёплай коўдрай снегу — пасеў азімага жыта, з якім звязаны лепшыя надзеі на ўраджай будучага года. Але далей ад бярэзніку, на ўзгорку, зямля амаль голая, вятры здзьмуваюць снег у гаёк і на паплавы. Яшчэ да таго, як лягла зіма. Васіль хадзіў тут з Шышковым, і яны распрацавалі сістэму загарожы для снегазатрымання.

І раптам ён убачыў: усе гэтыя загарожы з лазовых плятнёў, з жэрдак і сасновага голля, якое спецыяльна прывезлі з лясніцтва, пастаўлены не там, дзе ім належала стаяць, а ў нізіне, каля самага бярэзніку, дзе снег добра затрымліваўся і без гэтага.

Крыху воддаль працавала група моладзі, пераважна — дзяўчаты. Яны цягнулі загарадзь далей, на ўзгорак. Двое юнакоў на конях падвозілі ім матэрыял. Моладзь працавала хутка, дружна, але шумна: смяяліся, штурхалі адзін аднаго на галлё, у снег.

Васіль не ведаў, каго брыгадзір паслаў сюды. Цяпер, пазнаўшы, адразу зразумеў, у чым справа. Працавала ўсё звяно Насці. Сама яна ў чырвоным кажушку, у белай хустцы здалёк вылучалася сярод дзяўчат і сваёй постаццю і сваёй жвавасцю і спрытам у рабоце.

«Пачакай, чортава лялька!» — ён адчуваў, як расце яго злосць, стукае ў грудзі, у скроні, шукаючы выхаду.

Дзяўчаты ўбачылі яго і прыпынілі работу.

Васіль чуў, як адна з іх, нібы спалохаўшыся, выгукнула:

— Насця! Старшыня!

Звеннявая сустрэла яго неазначальнай усмешкай. Але ў позірку яе быў яўны выклік: пачынай, але ведай, што я за словам у кішэню не палезу. Шчокі яе, абпаленыя марозам, былі чырвоныя, пагрубеўшыя, а лоб — белы-белы, і пад ім яскрава вырысоўваліся нахмураныя чорныя бровы.

— Што гэта такое? — спытаў Васіль яшчэ на хаду, кіўнуўшы галавой назад.

— Добрыя людзі спачатку вітаюцца, Васіль Мінавіч, — Насця пераможна агледзелася на сяброўак. Яны маўчалі, з цікавасцю чакаючы паядынку паміж імі.

— Я пытаю, што гэта такое? — ён не прыкмеціў, як павысіў голас.

— Ты сам не бачыш, што гэта такое? — і яе голас задрыжэў таксама.

— Вам брыгадзір расказаў?..

— Расказаў.

— Дык якога чорта!..

Наперад высунулася нізенькая, рудая курносая дзяўчына — Наташа Гоман.

— Вы не лайцеся, таварыш старшыня. А то мы таксама ўмеем лаяцца.

Яна заўсёды, як верны ардынарац, была пры Насці і засланяла яе сабою ад усіх нападаў. Васіль не любіў яе за гэта.

— Вы спачатку разбярыцеся. Там — участак нашага звяна. Мы далі слова на абласной нарадзе. А гэта вам не абы што...

— Значыцца, па-вашаму, на ваш участак трэба ўсё? А на астатняе калгаснае поле...

— Аб астатнім хай другія думаюць! Людзей у калгасе многа.

Новая хваля абурэння захлынула Васіля. Вось яно — тое, аб чым гаварыў Шышкоў: адраджэнне нейкіх своеасаблівых уласніцкіх настрояў. Васіль больш не мог стрымліваць сябе і пачаў абурана крычаць, наступаючы на спалоханую дзяўчыну:

— Хто гэта другія, ты мне скажы? Хрысціна Раднікова ці што? А можа Іван Манах?

Пры напамінку аб прыдуркаватым, фанатычна-рэлігійным аднаасобніку ў таго-сяго бліснулі маладыя жартаўлівыя ўсмешкі. Але большасць дзяўчат глядзелі на Наташу зласліва. Заўважыўшы гэтыя позіркі, Васіль пачаў астываць. Разгубленая Наташа глядзела на Насцю, просячы яе дапамогі. Але тая не зводзіла вачэй з старшыні, у куточках яе вуснаў застыла незразумелая ўсмешка — нібы яна думала аб нечым сваім, запаветным і зусім не чула таго, што ён гаворыць. Потым раптам устрапянулася.

— Хто? Другія звенні. Чаму ты не арганізоўваеш больш звенні? Хочаш заціснуць звеннявую работу? Аграномa свайго недапечанага слухаешся? Вышэй за ўсіх узляцець хочаш? Глядзі, галаву зламаеш.

Наіўная пагроза гэтая канчаткова супакоіла Васіля, нават развесяліла. Не адказваючы Насці, ён звярнуўся да ўсіх.

— Вось што, гаварыць будзем увечары на праўленні. Усіх запрашаю. А зараз — за работу. Усё перарабіць, як я пакажу. Без налічэння працадзён за пераробку. Так, так! — рашуча пацвердзіў ён, прыкмеціўшы, як пры апошніх яго словах хто-ні-хто заварушыўся. — Адказным за работу назначаю, — ён абвёў доўгім позіркам групу моладзі і спыніўся на курносым хлапцу ў ватоўцы, падпяразанай флоцкім рамнём, — цябе, Федзя.

Ад Васілёвага позірку не схавалася, як пабялела Насця, як гнеўна раздзьмуліся яе ноздры.

Ён павярнуўся і закрочыў назад, у бок бярэзніку, дзе густа зелянелі загарадзі з сасновых лапак. За ім рушыла ўсё звяно. Толькі звеннявая і яе верны ардынарац засталіся стаяць на месцы, у кругу вытаптанага снегу.

Калі яны ўжо адышлі на значную адлегласць, Насця злосна крыкнула:

— Эй ты, дырэктар! Дойдзеш да лядцоўскага поля, не забудзь на ўчастак сваёй зазнобы!

Больш трапнага, каб дапячы яму, яна, відаць, прыдумаць не магла.

Васіль нават не аглянуўся.

І гэта канчаткова вывела Насцю з стану роўнавагі. Яна зразумела недарэчнасць свайго становішча і, не ведаючы, на кім спагнаць злосць, спагнала яе на Наташы.

— А ты чаго стаіш? Чаго ты стаіш, як пень сярод поля? — яна адчувала, што словы гэтыя больш датычацца яе самой і яшчэ больш злавалася. — Чаго ты, цягаешся за мной як хвост? Ідзі з імі! Ідзі!

Наташа паглядзела на яе спачатку здзіўлена, потым — са злосцю, крутанула галавой і рашуча сказала:

— Ну, і пайду, — і засмяялася: — Камандзір без войска!

Яна пайшла і працавала разам з усімі да вечара, толькі старалася не сустракацца позіркамі са старшынёй.

А Насця кружным шляхам, па паплавах, па глыбокім снезе, ішла да вёскі, кусала хустку і плакала, як дзяўчынка, — наўзрыд.

Васіль амаль да вечара працаваў з моладдзю. Кіраваў, паказваў, дзе і як найлепей паставіць загарадзі, каб больш снегу затрымалася на полі, і сам насіў галлё, жэрдкі. Працавалі дружна, з запалам. Аб тым, што здарылася, не гаварылі. Але старшыня цвёрда намерыўся сур'ёзна пагаварыць пра гэта на паседжанні праўлення, скарыстаць гэты выпадак, каб яшчэ раз ударыць па парушальніках дысцыпліны.

22

Насця паскардзілася на Васіля ў райвыканкоме, і Бялоў, які ўвесь час падтрымліваў яе, як лепшую звеннявую, сам прыехаў, каб «управіць мазгі» «дабрадзееўскім палітыкам», як ён называў Ладыніна і Лазавенку. На абодвух ён даўно ўжо «вастрыў зуб».

Старшыня райвыканкома ў першую чаргу заехаў у сельсовет.

Байкоў толькі што вярнуўся з свайго чарговага паходу па калгасах, натаміўся і ў душным, цесным кабінеціку сваім драмаў над разгорнутымі на стале газетамі.

Разбудзіў яго раскацісты, нібы гром, голас Бялова ў суседнім пакоі.

— Малюеш? Давай-давай. Бацьку свайго прапішы яшчэ разок. Ён зноў хаваўся ад мяне, — гаварыў старшыня райвыканкома Косці Радніку, загадчыку хаты-чытальні, сыну старшыні калгаса «Зорка».

Байкоў падхапіўся, прыгладзіў далонямі валасы, працёр вочы, навёў парадак на стале.

— А-а! Улада дома, дзякуй богу! — выгукнуў Бялоў, адчыніўшы дзверы ў кабінет. — Што ты ззяеш, як імяніннік?

Байкоў сумеўся і пацёр сваю кантужаную руку.

— Толькі што прышоў з «Зоркі», Мікалай Лявонавіч.

— А я ў цябе не пытаю, адкуль ты прышоў. Лепей скажы, як лес возіш?

— Возім.

— Возім, а ён стаіць на месцы, халера на яго. Бачыў зводку? Ніжэй залатой сярэдзіна спусціўся. Вось табе і — возім! Колькі сёння ў лесе? Не шукай у паперах, па вачах бачу — не ведаеш. А яшчэ — возім! На райвыканкоме будзем слухаць. Сорамна, Байкоў! Ты — стары работнік. А разляпіўся... Не ведаеш, што пад носам у цябе робіцца. Што ў цябе тут Лазавенка куралесіць? Паразганяў звенні, павыганяў лепшых звеннявых.

— Лазавенка — звенні? — у Байкова ад здзіўлення акругліліся вочы.

— Ага. не ведаеш! — радасна выгукнуў Бялоў і адарваўся ад грубкі. — Вось ён, твой стыль работы. З Раднікам штодзень у схованкі гуляеш, а ў «Волю» — заглянуць баішся. Слова Лазавенку не можаш сказаць. Мне, брат, даўно гаварылі, што ты іх баішся, як агню, Лазавенку і гэтага доктара вашага медыцынскіх навук. Саромся! Стары работнік.

У апошнім яго папроку была доля праўды, Байкоў гэта адчуваў. Сапраўды, ён амаль ніколі не заглядваў да Лазавенкі, не правяраў яго работы, не дапамагаў парадамі, як рабіў гэта ў адносінах да другіх старшынь. І не таму, што калгас быў перадавы не толькі ў сельсавеце, але і ў раёне. Хутчэй таму, што адчуваў: Лазавенка перарос яго, Лазавенка ўмее кіраваць гаспадаркай так, як ён, Байкоў, не сумеў-бы, хоць і працаваў да вайны доўгі час старшынёй калгаса. Сапраўды, ён нібы баіцца, яго часам палохае размах Лазавенкі. А раптам што-небудзь у яго атрымаецца не так? У каго тады спытаюць? У яго, у старшыні сельсовета, у першую чаргу. Дык лепей няхай яны самі, без яго.

Байкоў уміг падумаў пра ўсё гэта, і, як-бы жадаючы паказаць, што нялёгка яму працаваць з такімі людзьмі, уздыхнуў:

— Вучоныя...

Старшыня райвыканкома, крута павярнуўшы размову, зноў-жа накінуўся на яго:

— Вучоныя!.. Вучоныя таму, што вучацца. А мы з табой разложым газеты і дрэмлем над імі. А ў кнігу заглянуць — нас за вушы не прыцягнеш. Вось падгонім лесанарыхтоўкі, сам праверу, як старшыні сельсоветаў вучацца.

Ён падышоў да акна, пастукаў пальцам у раму і раптам зусім нечакана спытаў:

— А што, бачыў, якога жарабка мне Сільчанка падарыў?

— Падарыў? — усумніўся Байкоў і задаволены тым, што Бялову нарэшце надакучыла «чытаць мараль», паспешліва падышоў і стаў поплеч, любуючыся жарабком.

— За дванаццаць тысяч, каб яму добра ікнулася. Стары друг, а ні капейкі не ўступіў.

— Добры конь, — пахваліў Байкоў.

— Што — добры? Ды ты такога каня яшчэ не бачыў. Ты выйдзі — паглядзі. Ідзем, ідзем!

Яны вышлі ў суседні пакой, дзе Косця Раднік размалёўваў насценную газету і, не адрываючыся ад работы, расказваў сакратару сельсовета Галі Бандарчук, што такое каханне, у яго, Косцевым, разуменні. Галя размову такую разумела па-свойму і прыкметна чырванела. Гэтая яе чырвань не схавалася ад дапытлівага вока Бялова.

— Што, у любоў гуляеце, покуль начальства справамі займаецца?

Галя ўспыхнула ружай. Косця, каб схаваць сваю збянтэжанасць, сам перайшоў у атаку.

— Таварыш старшыня райвыканкома, даўно хацеў да вас звярнуцца. Чаму Байкоў не дае грошай на папаўненне бібліятэкі? У мінулым годзе не выкарысталі па бюджэту і ў гэтым...

Байкоў кінуў на свайго падначаленага знішчальны позірк.

«Яшчэ і ты, каб на цябе ліха! Без цябе мала турбот!»

— Чаму не даеш? — спытаў Бялоў.

Старшыня сельсовета збянтэжана развёў рукамі.

— Заўтра-ж дай грошы — і ніякіх размоў. Зразумеў? А што ў цябе дзяжурных ніколі няма? Давай пашлі каго-небудзь за Лазавенкам і Ладынінам.

На двары ён доўга хваліў жарабка, распісваючы яго якасці, пяшчотна гладзіў яго, стукаў па крыжы, прымушаў Байкова пагладзець на яго з усіх бакоў.

Потым гэтак-жа нечакана, як аб кані, ён спытаў:

— Скажы, Апанас Моўчан дома?

— А дзе яму быць у такі час!

— Ідзем — яблыкамі пачастуе. Стары гэта — той. Дастане такіх, нібы толькі з яблыні. У яго ёсць асаблівы сакрэт іх захавання. Да вайны, помню, у красавіку частаваў свежымі яблыкамі. І нават у першы год пасля вызвалення, калі ў нас з табой было па кукішу ў кішэні, у яго — калі ласка, яблычкі і мядок. Сёння ўспомніў і — разумееш? — усю дарогу адчуваў пах свежых яблык. Ажно ў ноздрах казытала...

Для Байкова гэта было навіной, ён ніколі не цікавіўся, у каго што ёсць, і пах яблык і мёду яму ніколі не казытаў ноздры. А гэтага

старога Маўчана ён, чалавек просты з адкрытай душой, не любіў за хітрасць.

Ішлі цераз сад.

Церушыў рэдкі сняжок. Пушыстыя сняжынкі павольна, нібы танулі, спускаліся на зямлю, на дахі, на заінеўшыя дрэвы. Паветра, здавалася, заледзянела. Ад кожнага, нават далёкага, гуку яно звінела, нібы метал, па якому ўдарылі. А гукаў было многа. У вёсцы, наперабой, стукалі сякеры, шоргала прадоўжная піла. За садам чуліся дзіцячыя галасы, смех. Паміж дрэў было відаць, як там, над сажалкай, бераг якой, што ад поля, быў высокі, абрывісты — у паветра ўзляталі постаці хлопцаў. Бялоў убачыў і здзіўлена спыніўся.

— Што за чартаўшчына?

— Гэта настаўніца, дачка Ладыніна, лыжны трамплін зрабіла і навучае школьнікаў...

— Хм, проста цікава паглядзець і на трамплін і на настаўніцу. Мне расказвалі пра яе. Што за яна такая? Назад будзем ісці — абавязкова зойдзем.

А праз момант ён ужо гаварыў аб другім, захапіўшыся выглядам саду.

— Вучыся гаспадарыць, Байкоў, — паказаў ён на абмазаныя і абвязаныя маладыя дрэўцы.

Цесляры на рыштаваннях клуба яшчэ больш узрадавалі яго.

— Усё-такі будуе! Ах, малайчына! За адно будаўніцтва дарую яму ўсё, хоць насаліў ён мне і нямала. Мне-б такога загадчыка аддзела калгаснага будаўніцтва. А то ў мяне нейкі цюхай-махай. Ты чым дапамагаеш яму будаваць клуб?

Байкоў паціснуў плячыма.

— Усім, Нікалай Лявонавіч, арганізаваць, напрыклад...

— Арганізаваць!.. Арганізаваць ён і без цябе ўмее. Ты яму грашыма дапамажы. Давай уключы ў бюджэт тысяч трыццаць на хату-чытальню.

— Ды вы-ж сказалі.

— Што я сказаў?.. Забудзь тое, што я некалі сказаў. Сорам нам будзе на ўсю рэспубліку, калі мы не дапаможам такой справе. Зразумеў? Вось так і дзейнічай!

Яны падышлі да клуба.

— Здарова, арлы!

— Добрага здаровечка, Нікалай Лявонавіч!

Старшыню райвыканкома ведаў кожны чалавек у раёне, стары і малы: ён яшчэ да вайны гады чатыры працаваў тут. Яго любілі. Любілі за весялосць, за прастату, за гаспадарлівае вока. З кожным ён мог

пагаварыць на любую тэму, да ўсіх ставіўся аднолькава проста — заглядваў на вяселлі і радзіны. Ён і палаяць мог неяк асабліва, моцна, прачула, але без абразы, і пахваліць — умела, проста і шчыра.

У адзін міг, не гледзячы на свае дзевяноста кілаграмаў, ён узлез на рыштаванні, пацiснуў цеслярам рукі. Пагаварыў з імі аб іх справе, аб зімовых прыкметах, па якіх людзі прадказваюць ураджай. Гэта яго была любімая тэма з самага пачатку зімы. Яго радавала, што ў кожнай вёсцы раёна амаль усе старыя мудрацы зычылі добры ўраджай. Такіх ён слухаў з прыемнасцю. Калі-ж сярод іх трапляўся скептык, ён яго тут-жа перапыняў:

— Дажыў ты, бацька, да сівай барады, а жывеш нейкімі дзікімі забабонамі. Глупства ўсё гэтыя твае прыкметы! У навуку трэба верыць... Папрасі ўнука, каб ён табе Вільямса ці Лысенку пачытаў. Адразу на вярсту паразумнееш.

Ад клуба ён перайшоў да сельмага, адтуль — у бліжэйшы з дамоў, дзе стукалі сякеры. У доме, які быў мала што няскончаны, горача палілася часовая печ, зробленая з жалезнай бочкі; трубы былі выведзены ў акно. Цесляры насцілалі падлогу, пячнік клаў печ. Прыемна пахла сухой сасной і сырой глінай. Каля печніка завіхалася радасна ўсхваляваная гаспадыня, Хадора Дабрадзей. Яна прыкметна разгубілася, калі зайшоў Бялоў, і не ведала, куды падзець запэцканыя ў гліну рукі.

— Калі ўсяляешся, гаспадыня? — спытаў Бялоў.

— Думка — да выбараў, Нікалай Лявонавіч.

— Разумная думка. На наваселле, канешне, з радасці забудзеш паклікаць?

— Што вы, Нікалай Лявонавіч! Каго-каго, а вас — у першую чаргу.

— Чаму мяне? Старая, а падхалімнічаеш. Нябось, раней за ўсіх — Лазавенку.

— Яго, як сына, а вас, як бацьку.

— Хітрая. Недарэмна табе такую хароміну адгрохалі.

З хаты Бялоў накіраваўся на калгасны двор.

Ён даўно забыў і на свайго жарабка і на яблыкі. Цяпер яго больш за ўсё цікавілі саманныя кароўнікі, канюшні, жалабкі для вады ад новай студні ў канюшню.

— Малайчына! Няма да чаго прычапіцца. Але за звенні ўсёадно не дарую. Шкада. Добры гаспадар, а з заскокамі.

Каля свірна яны сустрэлі Васіля.

— Ага, на лаўца і звер бяжыць.

Байкоў напомніў, што іх чакае Ладынін, і яны ўсе разам вярнуліся ў сельсовет.

Бялоў сеў за стол, на старшынскае месца, моцна абапёрся рукамі.

— Што-ж гэта вы, чалавека ў Мінск паслалі, а я не ведаю?..

— Я дамаўляўся з вамі, Нікалай Лявонавіч. У Макушэнкі ў кабінеце, — адказаў Васіль.

— Я ведаю... Але чалавека я павінен быў пагледзець, ці не? А то ваш Сакавіты там шуму нарабіў, а я не ведаю, што за ён, нават прозвішча забыў. Вы дзе іх адкапваеце такіх?

— А якога шуму?

— Учора, да намесніка старшыні Совета Міністраў дайшоў, той званіў мне ў яго прысутнасці.

— Ну, і што? — зацікавіўся Васіль.

— А нічога. Будзем будаваць гідрастанцыю. Справа сур'ёзная, гонар для ўсяго раёна, але на асаблівую матэрыяльную дапамогу не спадзявайцеся. Поўная вам дэмакратыя і незалежнасць. З суседзямі дамаўляйцеся самі. Толькі не рабіце заскокаў, не перагінайце, — ён падняўся і раптам у адзін момант ператварыўся ў суровага начальніка, нават голас яго стаў іншы: — Што вы тут накуралесілі са звеннямі? Палітыкі дамарошчаныя!

Ладынін і Лазавенка пераглянуліся; доктар схаваў у вусны ўсмешку, Васіль зрабіў выгляд, што нічога не разумее.

— А што такое, Нікалай Лявонавіч?

— Ты мне прастаком не прыкідвайся. Са звяном Рэгінай?

— А-а... Нічога асаблівага... Сямейная размова...

Бялоў стаў каля дзвярэй, загарадзіўшы іх сваёй магутнай постаццю. У Васіля заіскрыўся ў вачах смех.

— Сямейная! Глядзіце... Я палохаць не люблю. Аднак скажу шчыра: за такую размову па галаве не пагладзім. Так і ведайце.

— Вы спачатку, таварыш Бялоў, разбярыцеся, у чым справа, — спакойна заўважыў Ладынін.

— Я разабраўся. Дзяўчына прышла да мяне са слязамі.

— Не ўсякім слязам трэба верыць, — уставіў Васіль...

— Вось-вось... Настрой ваш адразу вылазіць вонкі. Сапраўды трэба разабрацца, ад каго гэта выходзяць такія старыя навінкі. Антызвеннявыя настроі мне граміць не ўпершыню. Але ў вас ён самы небяспечны. У перадавым калгасе, які мы ставілі ў прыклад па арганізацыі звеннявой работы, і раптам — старшыня адхіляе ад работы лепшую звеннявую. Ты разумееш, што ты робіш? — звярнуўся ён да Васіля. — На цябе глядзіць увесь раён. А ты...

—А я буду ламаць і крышыць усё, што мне перашкаджае падымаць усю гаспадарку. Я не намераны маліцца на лепшых звеннявых і на звенні, як вы робіце ў адносінах да Міхальчук, — як ён ні намагаўся, але яму не ўдалося захаваць спакой; ён узлаваўся. — Яе

звяно вылезла з рамак брыгады і, мабыць, вылезе з калгаса, ператворыцца ў самастойную арганізацыю. Звяно дае рэкордны ўраджай, а ў калгасе сярэдні ўраджай — сем цэнтнераў з гектара. Мне такія звенні непатрэбны!

Бялоў выслухаў яго да канца, стоячы каля дзвярэй. Адказ Васіля выклікаў у яго супярэчлівыя пачуцці: абурэнне кіраўніка і адначасова нейкае своеасаблівае захапленне смеласцю і рашучасцю старшыні калгаса. Відаць, перамагло апошняе пачуццё, бо ён падумаў: «Ах, чорт адчаянцы! Недарэмна ты столькі ордэнаў нахапаў...» — і, вярнуўшыся да стала, лагодна сказаў:

— Добра. Я разбяруся.

23

Зіма нібы злавала на сваё спазненне.

Разгуляліся завірухі, ганялі хмары снегу па полі, па гародах, намяталі такія сумёты на вуліцах, у дварах, што раніцой было цяжка адчыніць дзверы і каліткі.

«У такія дні толькі на печы ляжаць», — гаварылі старыя, і хто-ніхто намагаўся здзейсніць гэтую прымаўку. Але Лазавенка і Ладынін нікому не давалі адлежвацца. Працы хапала на ўсіх і ў гэтыя непагодлівыя зімовыя дні.

Набліжаліся выбары. Ужо быў вылучан кандыдат у дэпутаты — сакратар райкома Пракоп Пракопавіч Макушэнка. Кандыдатуру былога партызанскага камісара, партыйнага кіраўніка аднадушна падтрымалі ўсе працоўныя раёна.

Два разы ў тыдзень Мяцельскі, яго жонка і Ліда павінны былі ісці ў Лядцы, на свае агітацыйныя ўчасткі. Ладынін не хацеў прызнаваць ніякія прычыны ўважлівымі, з-за якіх-бы зрываліся чарговыя гутаркі.

Часам Мяцельскі прасіў:

— Ігнат Андрэевіч, нос высунуць нельга. Куды ў такое надвор'е?

— На вайне, як на вайне, дарагі Рыгор Усцінавіч, — адказваў доктар словамі самога Мяцельскага. — У нас з вамі — пярэдні край.

Ліда ішла ў Лядцы з вялікім задавальненнем. Яна любіла сваю работу агітатара не менш, чым і работу ў школе. А невялічкая прагулка ад Дабрадзееўкі да Лядцаў і назад была для яе вялікай прыемнасцю. Яна прывучыла Мяцельскіх хадзіць на лыжах і вяла іх звычайна кружной дарогай, цераз паплавы, бярэзнік і поле.

Мяцельскі ішоў і бурчэў:

— Вы нас замучыце, Лідзія Ігнатаўна. Вы мне канчаткова сапсавалі жонку. Прывучылі да канькоў, да лыж. Гэта — жанчыну, якая да трыццаці год ні разу не станавілася на канькі і якая праз пяць...

— Грыша! — не давала яму скончыць Ніна Аляксееўна і радасна смяялася. Муж глядзеў на яе, расчырванелую, прыгожую, і таксама радаваўся. А Ліда ў душы зайздросціла іх шчасцю.

«Слаўныя якія яны...»

— Ніначка, які ён у цябе буркала. Вечна бурчыць. Я з такім мужам і дня не пражыла-б. Загадай яму змоўкнуць, а то наглытаецца ветру і схопіць запаленне лёгкіх. — Яна вырывалася наперад і так ляцела, што вецер свістаў у вушах, а Мяцельскія заставаліся далёка ззаду. Каля вёскі яна іх чакала і на адным і тым-жа месцы выслухоўвала просьбы Ніны Аляксееўны.

— Ліда, мілая, давай сёння сабяром усіх у адну хату, з твайго і майго ўчастка. А то ў мяне сёння так галава баліць...

Быў-бы гэта хто другі, Ліда нізашто не выканала-б такой просьбы, а Ніне даравала ўсё: яе наіўную хітрасць, яе сарамлівасць і дзіцячую бянтэжлівасць перад дарослымі.

Мяцельскія любілі яе гэтак-жа шчыра, як і яна іх.

Наогул яе любілі ўсе: вучні, настаўнікі, калгаснікі. Асабліва вучні. Любілі за прастату, за тое, што яна, здавалася ім, ведала ўсё на свеце і свае лекцыі па геаграфіі і батаніцы ператварала ў нейкія дзіўныя казкі, у цікавейшыя падарожжы. Яна не ўяўляла, што такое дрэнная дысцыпліна на лекцыях. На яе лекцыях вучні сядзелі стаіўшы дыханне. Яна смяялася над жахам некаторых настаўнікаў, які апанаваў іх, калі яны першы раз убачылі, як яна, выкладчыца геаграфіі, катаецца з сваімі вучнямі на каньках, бегае навыперадкі. Яна прынесла ў школу многа новага, свежага, цікавага, ажывіла пазакласную работу. Перапіска з уральскімі піонерамі, гурткі, экскурсіі, спаборніцтвы, турніры — усё гэта з'явілася ў школе па яе ініцыятыве.

Два толькі чалавекі не любілі яе: выкладчыца рускай мовы Шаройка і фізрук школы Патрубейка. Не любілі за крытыку. Фанабэрыстай, самалюбівай Паліне Шаройка Ліда з першага дня пачала папраўляць вымаўленне рускіх слоў. Шаройка маўчала, але ад злосці ажно сохла і скончыла тым, што папрасіла пераводу ў другую школу, адмовіўшыся ўказаць прычыны.

Ліберальны Мяцельскі не раз прасіў Ліду:

— Лідзія Ігнатаўна, злітуйцеся вы над ёю. Вы яе ў труну ўгоніце.

— Не магу, не магу. Ад яе пісьменнасці залежыць пісьменнасць вучняў. Хай вучыцца, а то, гавораць, за сем год яна не прачытала ніводнай сур'ёзнай кніжкі.

Мешкаваты, непаваротлівы Патрубейка ўсю фізічную падрыхтоўку зводзіў да таго, што вучыў дзяцей хадзіць і бегаць.

Ліда да слёз смяялася.

— Фёдар Кандратавіч, ды яны ўмеюць бегаць лепш за вас. Вы хоць-бы самі прабеглі. Хоць для вас карысць была-б.

Ён злаваўся, але намагаўся палепшыць свае ўрокі.

Ліда не сунімалася:

— Фёдар Кандратавіч, ды вы-ж народжаны бягун! Як вы сёння бегалі! Ай-яй. Але прашу вас: у наступны раз рабіце гэта далей ад школы. Вы мне ледзь не сарвалі ўрока, усе вучні палезлі глядзець у вокны, як вы бегаеце. Гэта-ж такая навіна!

Патрубейка бегаў па настаўніцкай, перакульваў крэслы, скідваў са сталоў сшыткі, кнігі, крычаў:

— Вам, Лідзія Ігнатаўна, відаць, мала сваіх гадзін. Бярыце мае, я вам уступаю. Бярыце і бегайце, і скачыце і хадзіце хоць на галаве. Звальняйце мяне, Рыгор Усцінавіч, зараз-жа. Я больш не працую.

Але праз пяць хвілін ён на ўсё забываўся і пачынаў гаварыць ёй кампліменты. Але, урэшце, узлаваўся і ён надоўга.

Была ў школе «тэхнічка», бабка Уляна. Працавала яна ў школе год трыццаць. У сорак першым годзе, калі прышлі фашысты, бабка схавала амаль усе дарагое школьнае абсталяванне. Цяпер яна ўсё гэта адкопвала, знаходзіла і амаль штодня што-небудзь прыносіла ў школу: адзін дзень — глобус, другі дзень — пачарнелыя карты, потым — цэленькі мікраскоп, электрамашыну і шмат іншага. І вось аднойчы яна прынесла дзве пары добрых баксёрскіх пальчатак. Магчыма, што яны былі і не школьныя, бо старыя настаўнікі не помнілі, каб хто бачыў іх у школьным спартыўным зале да вайны. Але бабка Уляна ўсеадно прынесла іх у школу. Нават мікраскоп выклікаў меншую сенсацыю, як гэтыя пальчаткі! У настаўніцкай яны пераходзілі з рук у рукі, іх разглядалі, як нейкае дзіва. Нарэшце адна пара іх дайшла да Ліды. Яна адразу надзела іх на рукі. І як на злосць, другая пара ў гэты момант аказалася на руках Патрубейкі.

Ліда пажартавала:

— Сустрэнемся, Фёдар Кандратавіч?

Ён падняў свае важкія кулакі і жартаўліва рушыў на яе, выклікаючы смех настаўнікаў. Яна зрабіла крок яму насустрач, і раптам... у два разы цяжэйшы за яе мужчына, нібы мяч, адляцеў назад, спатыкнуўся аб табурэт і з усяго размаху пляснуўся на падлогу.

Настаўнікі перапалохаліся, а больш за ўсіх сама Ліда. А ў Шаройкі ўпершыню вырваўся істэрычны крык:

— Вось яна да чаго даводзіць, ваша мяккацеласць, Рыгор Усцінавіч!

Безумоўна, яна, не хто іншы, напісала ананімнае пісьмо ў РайАНА і напісала так, што ў загадчыка, які законна лічыў Дабрадзееўскую

школу адной з лепшых і калектыў настаўнікаў самым моцным і дружным, уздыбіліся валасы. Ён паказаў пісьмо Макушэнку, і яны ўдвух прыехалі ў школу. Сакратар райкома заехаў да Ладыніна і, высветліўшы, у чым справа, весела пасмяяўся.

З дарослымі Ліда ўмела гаварыць гэтак-жа проста, як і з дзецьмі. У яе гутарках была тая непасрэднасць, дзякуючы якой расказчык у першыя-ж хвіліны завалодвае ўвагай слухачоў. Праўда, была ў яе адна дзіўная асаблівасць, якую спачатку не разумеў нават Ігнат Андрэевіч, — ідучы да людзей, яна часта не ведала, пра што будзе гутарыць.

— Пра што людзі захочуць паслухаць, пра тое і раскажу, — парыравала яна напады бацькі, калі ў таго часам з'яўляўся намер праверыць план яе чарговай гутаркі.

І сапраўды, яна ніколі не навязвала сваім слухачам тэмы. Спачатку гаварылі яны. Яна толькі ўмела, заўвагамі, пытаннямі, накіроўвала гэтую агульную размову і слухала, што цікавіць іх і што хвалюе. Пачыналася гаворка аб міжнародных справах — яна непрыкметна ўключалася ў размову і праз некалькі хвілін завалодвала агульнай увагай. Хвалявалі людзей непарадкі ў іх калгасе — яна тут-жа пачынала гутарку аб Статуце сельгасарцелі, аб працоўнай дысцыпліне. Разгаварыліся жанчыны аб дзецях-сіратах — яна расказала аб вялікім клопаце Савецкай дзяржавы, Сталіна аб дзецях і тут-жа прапаноўвала жанчынам арганізаваць паездку жаночай дэлегацыі ў дзіцячы дом, дзе выхоўваліся дзеці-сіраты.

А часцей яна чытала сваім слухачам апавяданні, вершы, паэмы. Чытаць яна ўмела так, што прымушала жанчын смяяцца, плакаць, радавацца разам з героямі.

Агітавала яна не толькі словамі, але і справамі, чула адносячыся да кожнага чалавека. Быў на яе ўчастку ў Дабрадзееўцы інвалід Айчыннай вайны Раман Дабрадзей. Чалавек гэты мог хадзіць на мыліцах, але яму цяжка было сядзець і ён перажываў сваё калецтва, як страшную трагедыю.

Першы раз ён сустрэў Ліду даволі няветліва. Насмешліва аглядзеў яе, маленькую, прыгожую, у ладна падагнанай беласнежнай куртцы з пясцовых скурак і спытаў:

— Агітаваць прышла, паненка?

Гэтае недарэчнае «паненка» непрыемна кальнула дзяўчыну, абразіла, але яна ветліва адказала:

— Пагаварыць прышла.

— Пагаварыць? Ну, што-ж, давай пагаворым. Толькі гаварыць буду я, а ты паслухай.

Ён доўга расказваў пра свае ваенныя прыгоды, нудна скардзіўся на сваё калецтва, на тое, што яго забываюць. Пачаў лаяць урачоў раённай вольніцы, старшыню сельсовета. Ліда цярпліва слухала, толькі зрэдку задаючы для праяснення кароткія пытанні. Яе ўважлівасць, відаць, кранула і абяззброіла яго. Ён раптам змоўк і здзіўлена паглядзеў на дзяўчыну. Тады загаварыла яна.

— Добры вы чалавек, Раман Іванавіч. Мужны чалавек, калі верыць вашым расказам, а не верыць нельга, бо іх пацвярджаюць вашы баявыя ўзнагароды. Але вось слухала я вас і думала, як гэта здарылася, што такі мужны чалавек так апусціўся, стаў такім ныцікам?..

— Ну, ну! — пагражаюча папярэдзіў ён, крануўшы рукой мыліцу.

Ліда і брывом не павяла.

— ... І ніякага апраўдання вам не знайсці. Вы не адзін аддалі сваё здароўе за радзіму, за шчасце вашых дзяцей... Мільёны людзей жыццё аддалі... А колькі такіх, як вы? А ёсць і ў больш цяжкім становішчы. Але вельмі мала бачыла я такіх маладушных.

— Слухай, ты...

— Я вас слухала. Паслухайце мяне... Хто вас пакрыўдзіў, чаго вам нехапае? Вы хаця-б падумалі, што ў вас трое дзяцей, трое вучняў совецкай школы. Мы іх выхоўваем цвёрдымі, мужнымі, выхоўваем на франтавым гераізме іх бацькі, а вы сваім ныццём разбураеце ўсё гэта. Які вы прыклад паказваеце ім? А ў што вы ператвараеце жыццё сваёй жонкі? Яна чатыры гады вас чакала, расціла дзяцей. Вы ведаеце, як яна жыла гэтыя гады?

— Я ведаю, ты мне не расказвай...

— Цяпер яна працуе дзень і ноч, каб зрабіць жыццё багатым, прыгожым, светлым, каб і вы, Раман Іванавіч, не ведалі турбот, спакойна лячыліся, каб дзеці вашы вучыліся... А адкуль тая прыгажосць і светласць жыцця будзе, калі вы ўвесь час так скуголіце?..

Ён ляжаў на ложку, ніцма, і ўсё ніжэй і ніжэй схіляў галаву, усё часцей дыхаў.

Ліда скончыла гаварыць гэтак-жа нечакана, як і пачала, пабаяўшыся, што занадта расхвалюе яго. Доўга стаяла цішыня. Нарэшце ён падняў галаву і пад вусамі ў яго схавалася ўсмешка.

— Ну, і піла вы, Ігнатаўна.

Яна ўсміхнулася яму ў адказ і зусім іншым голасам спытала:

— Раман Іванавіч, вы чыталі кнігу «Як гартавалася сталь»?

— Я чытаў яе, калі вы, Ігнатаўна, яшчэ пешшу пад стол хадзілі.

— А мы давайце прачытаем яшчэ раз. Я прачытаю вам яе.

Яна прыйшла ўвечары, калі ўся яго сям'я была ў зборы, і пачала чытаць. Чытала гадзіны тры пры такой цішыні, што, калі рабіла паузы, то было чуваць, як недзе ў запечку звінела ажыўшая муха.

Скончыла чытаць — кнігу забрала з сабой. У першы вечар Дабрадзей не прамовіў ні слова, нават не развітаўся, калі яна выходзіла. На другі вечар ён папрасіў:

— Ігнатаўна, а ці нельга кніжачку пакінуць у нас?

— Заўтра — калі ласка, і другія магу прынесці, — ёй хацелася аб самым галоўным і хвалюючым прачытаць самой.

На чацверты вечар яна скончыла чытаць.

Жонка Рамана і двое старэйшых дзяцей усе гэтыя тры апошнія гадзіны чытання плакалі і смяяліся адначасова. Сам Раман маўчаў, але калі Ліда пачала развітвацца, працягнуў руку, і, моцна паціснуўшы, стрымана сказаў:

— Вы маглі-б, Ігнатаўна, склікаць людзей на гутаркі ў мяне. І кніжачак, калі можна... вось такіх...

Праз некалькі дзён у вёску прыехала кіноперасоўка. Карціну паказвалі ў вестыбюлі школы. Людзей было поўна. Ідучы з кіно, Ліда сказала бацьку:

— Тата, ёсць добрая ідэя. Для інвалідаў і ўсіх тых, хто не змог прыйсці, заўтра ўдзень пракруціць карціну ў хаце Рамана Дабрадзея.

... Ліда прыйшла да Дабрадзея, калі паказвалі ўжо апошнюю частку. Скончылі, сарвалі коўдру з акна, і яна ўбачыла, што Раман Іванавіч, гэты, здавалася, чэрствы чалавек, выцірае слёзы. Яна хацела была непрыкметна выйсці, але ён убачыў, спыніў, папрасіў падыйсці і абодвума рукамі сціснуў яе маленькую руку.

— Ну, Ігнатаўна, колькі жыць буду — не забуду... Вялікае вам дзякуй.

... У Лядцах яна таксама хутка заваявала агульную любоў, асабліва сярод жанчын.

Але раптам здарылася нешта незразумелае і нечаканае: амаль усе сталыя жанчыны, нібы змовіўшыся, перасталі хадзіць на яе гутаркі.

Ліда разгубілася, нават спалохалася. Бацьку яна аб гэтым не адважылася расказаць і сама настойліва і ўпарта шукала прычыну. За які тыдзень нават маці заўважыла, што яна пачала худзець.

— Што з табой, Ліда? У цябе неспакойна на душы?

— Нічога, мама.

А на душы, сапраўды, было вельмі неспакойна. «Што здарылася? У чым я памылілася?»

Яна проста пакутвала і сама адчувала, што губляе свой імпэт, сваё натхненне, што гутаркі яе робяцца вялымі і нецікавымі. Ужо не толькі

жанчыны, але і мужчыны пачалі пазяхаць у час гутаркі, а хто сядзеў бліжэй да дзвярэй, часта непрыкметна выходзіў. Ад гэтага яна яшчэ больш гублялася.

Нарэшце прычына выявілася. Аб ёй здагадалася спрактыкаваная ў мудрых жыццёвых з'явах Ніна Аляксееўна. Неяк яна правяла гутарку самастойна. Пасля, ідучы дамоў, употайкі ад мужа, паведаміла:

— Здаецца, Лідачка, я здагадалася, у чым тут справа. Максім!.. Вінаваты ва ўсім Максім... Жанчыны ўпэўнены, што з-за цябе ён пакінуў Машу, што ты прываражыла яго і, вядома, абураны. Машу любяць, шкадуюць. Яна — сірата і чалавек самых найлепшых душэўных якасцей...

Ліда была страшэнна ўражана. Яна спынілася сярод заснежанага поля і, цяжка дыхаючы, доўга глядзела на сяброўку, хоць у густым змроку вечара бачыла адну яе белую хустку.

— Не можа быць, — урэшце прашаптала яна.

— Чаму не можа? А я ўпэўнена, што гэта так.

— Але-ж гэта... гэта проста дзікасць нейкая...

— Нічога дзікага няма, Лідачка. Ёсць ад чаго абурацца.

— Не, не!.. Ну, добра, хай так... Але-ж пры чым тут я? Я ніводным словам, ніводным рухам...

— А яны бачаць іншае. Ты часта прыходзіш у Лядцы... Кожны раз ён сустракае нас, ты весела размаўляеш з ім, жартуеш...

— Што-ж мне рабіць цяпер? Не хадзіць? Папрасіць бацьку, каб вызваліў. Не-не! Ні слова бацьку! Буду хадзіць, покуль не дакажу, што яны памыляюцца.

Сапраўды, Лідзе цяжка было зразумець, што не ўзлюбілі яе лядцаўскія жанчыны іменна праз гэта. Але цяпер яна раптам успомніла адзін выпадак, адну размову — і ўсё зрабілася верагодным.

Неяк скончыўшы гутарку, яна вышла ў двор і раптам пачула ззаду ўедлівы жаночы голас:

— Бач, беленькая, як кошачка. Такая любога прываражыць.

Тады яна не надала гэтаму ніякага значэння, толькі ўсміхнулася. А цяпер... Яна абурылася, узлавалася. Узлавалася на жанчын, на бацьку, што паслаў яе сюды, на Ніну Аляксееўну, на сваю пясцовую футру, якую вырашыла ўжо ніколі не апранаць, і больш за ўсё, вядома, — на Лескаўца. Яна распытала пра адносіны Максіма і Машы, і страшэнна абурылася, калі даведалася пра яго ўчынак, балюча перажывала Машына гора.

«Пачакай-жа, я з табой пагутару!» — пагразіла яна Максіму.

Магчымасць пагутарыць з'явілася неўзабаве.

Ліда была адна дома. Сядзела на канапе, падкурчыўшы пад сябе ногі і накрыўшы іх усё той-жа пясцовай футрай. Вечарэла. Згушчаўся змрок. Ужо цяжка было чытаць, і яна адлажыла кнігу ўбок, задумалася. Думкі перапыніў стук у дзверы. Ёй вельмі не хацелася, каб хто прышоў да яе. Хацелася пабыць адной, пасядзець у цемры, не запальваючы лямпы, падумаць, памарыць. У іх доме такая магчымасць выпадае не часта.

«Можа не адгукацца? А раптам да бацькі? Хворы?»

Зайшоў Максім Лескавец.

«Ага, ты!» — ёй здалося, што яна са злой радасцю крыкнула гэтыя словы, хоць у сапраўднасці толькі падумала.

Злосць на яго, якая за колькі дзён была патухла, зноў успыхнула.

— Добры вечар, Ліда Ігнатаўна.

— Добры вечар, Максім Антонавіч.

Здавалася, усё, як мае быць. Але ён адразу адчуў нешта нядобрае і насцярожыўся: яна не сказала звычайнага «распранайцеся» і «сядайце», яна нават не паварухнулася— так і засталася сядзець у кутку канапы цёплым камочкам. Як яму раптам захацелася сесці побач, узяць яе рукі, прыгарнуць яе, маленькую. Але...

— Кніжку вашу прынёс, Ліда Ігнатаўна. Дазвольце паглядзець і выбраць другую.

Ён падышоў да кніжных паліц, наўздагад сунуў кніжку на адну з іх. З другой паліцы гэтак-жа наўздагад выцягнуў другую кніжку і не меў рашучасці падыйсці да акна і прачытаць яе назву.

— Вось дарэчы, што вы прышлі, — сказала Ліда пасля хвіліны маўчання, — я сядзела і думала пра вас.

— Пра мяне? — няшчыра здзівіўся Максім. — А мне, грэшнаму, здавалася, што ніхто ў свеце не думае пра мяне,— ён хацеў быў сесці на свайго любімага канька, які не раз вывозіў яго, — звесці ўсё да жарту. Не вышла. Ліда не адказала, а пасля кароткай паузы спытала такім голасам, што ён уздрыгнуў пры першым-жа слове:

— Слухайце, Лескавец, вы сур'ёзна закахаліся ў мяне?

Каб на галаву яму нечакана вылілі вядро вады, вось тут, у гасцях у доктара, гэта, мусіць, здзівіла-б і збянтэжыла яго менш, чым такое запытанне. Здаецца, ніколі ў жыцці ён не трапляў яшчэ ў больш цяжкае становішча. Куды знікла яго красамоўнасць, знаходлівасць! Ён стаяў і міргаў вачыма.

— Гавораць, што з-за мяне вы пакінулі дзяўчыну, якая шэсць год вас чакала? Шэсць год! Страшна падумаць!..

— Ліда Ігнатаўна...

— Шэсць год!.. Вы падумалі?..

— Ліда...

— І пасля гэтага вы рашылі, што цяпер вам, як таму рамантычнаму Дон-Жуану, кінуцца на шыю ўсе дзяўчаты... Якая нахабная, якая тупая самаўпэўненасць! Вы думалі... — не скончыўшы спакойна пачатага сказа, яна раптам адным рыўком спусціла ногі з канапы (футра звалілася на падлогу) і амаль крыкнула: — Вы думалі, што і я кінуся ў вашы абдымкі? А я — бачыць вас не хачу!.. І раю вам: радзей трапляйцеся мне на вочы! Геро-ой!

Ён нейкі момант пастаяў моўчкі, аглушаны ўсім тым, што пачуў. Потым шыбануў кніжку на стол, злосным рухам насунуў шапку на вочы.

— Ну, што-ж... — і, не развітаўшыся, вышаў. А Ліда ледзь стрымалася, каб не свіснуць яму ўздагон, па-хлапечаму гучна, задзірыста.

24

Магчыма, што гэта быў самы моцны ўдар з усіх, якія Максім калі-небудзь атрымліваў, і трапіў ён у самае балючае месца. Пасля гэтага прыкрага выпадку з Лідай ён страціў сваю душэўную роўнавагу.

«Не дзяўчына, а ведзьма», — лаяў ён Ліду і ў той-жа час адчуваў, што захапленне ёй не толькі не змяншаецца, а нават расце. Аднак, ад гэтага не было лягчэй, «на сэрцы шкрэблі кошкі». А тут яшчэ дзён праз колькі яму добра такі дасталася на партыйным сходзе за тое, што ён не наведвае палітзаняткі і не вучыцца самастойна.

Максім узлаваўся.

Ды што гэта, на самай справе? Чаго яны хочуць ад яго? Аднаму не падабаецца, што ён зрабіў, другому — што сказаў... Ды што ён хлапчук ім, вучань, якога трэба школіць на кожным кроку? Ён — афіцэр, кавалер двух ордэнаў. «А ўсё з-за яго, — ён упэўніў сябе, што арганізатарам усёй гэтай змовы супраць яго з'яўляецца не хто іншы, як Васіль. — А яшчэ друг... Чакай-жа... прыдзе час — я табе прыпомню ўсё гэта... Перадавы чалавек, комуніст, а з-за дзяўчыны гатоў з'есці таварыша... Эх вы... Кіну ўсё да д'ябла і паеду... З маімі заслугамі, з маёй галавой і рукамі — усюды сустрэнуць з абдымкамі, з дарагой душой... А вы тут... Навучыцеся спачатку людзей цаніць...»

Але крыху пазней ён задумаўся над сваімі паводзінамі. Асабліва моцна ўстрывожыўся ён, калі зразумеў, што і маці асуджае яго ўчынкі, яго стаўленне да Машы.

Другая падзея прымусіла яго яшчэ больш сур'ёзна зірнуць на самога сябе, перагледзець свае погляды, жаданні, уяўленні.

На надзвычай мнагалюдным калгасным сходзе абмяркоўвалі пытанне: каму даць выдзеленыя райвыканкомам дамы, якія павінны

былі быць збудаваны за кошт дзяржавы. Пытанне гэтае было не першым, перад ім адбылася сустрэча выбаршчыкаў з сваім кандыдатам.

Пасля нядоўгай прамовы сакратара райкома, многа было сказана простых, але гарачых, ад шчырага сэрца, слоў удзячнасці роднай партыі, таварышу Сталіну. Час ужо быў позні. Аднак людзі, відаць, не маглі стрымаць сваіх пачуццяў і перад тым, як перайсці да практычнага вырашэння гэтага, другога, пытання, пачалі гаварыць зноў.

Шаройка здзіўляўся актыўнасці сваіх калгаснікаў. Не дзіва, калі выступіў Бірыла, Клаўдзя Хацкевіч, Маша Кацуба. Але-ж пачалі гаварыць тыя, хто, можа, за ўсё сваё жыццё ні разу не падняўся на сходзе, хіба толькі выкрыкваў асобныя рэплікі адкуль-небудзь з-за печкі.

Раптам папрасіў слова дзед Яўмен Лескавец, бацька двух загінуўшых на фронце сыноў. Ён падняўся, высокі, белы, як снег, абапёрся на бярозавы кій.

— Што мне сказаць вам, дзеці? — спытаў і абвёў усіх позіркам. — А сказаць хочацца. Вялікае гора мы перажылі. Ой, вялікае... Многа я бачыў за свае семдзесят год. Але такога не бачыў. Каюся я сёння перад вамі. Паглядзеў я тады на галавешкі, што засталіся ад нашых хатак, і думка мая стала чорная. Сем разоў гарэў я на сваім вяку, сем разоў будаваўся. Па-рознаму будаваўся. Было, што і тры гады будаваў сваю хатку на тры сляпыя акны і за два збудоўвалі. Не схлушу, было, што і за год, калі сыны мае, як тыя дубы. — Дзед на момант змоўк; недзе ў зале ўсхліпнула жанчына. — А тут глядзеў і думаў: ой, не скора мы вылезем з зямлі! Можа і захварэў ад гора. Поўгода пралежаў у дачкі ў Рэчыцы. Прышоў дамоў — а ўнукі ў новую хату ўбіраюцца. Поўвёскі зрубаў стаіць, а ў Дабрадзееўцы, скажу вам, цуды ўбачыў. І даўся я дзіву: адкуль у людзей такая сіла? Думаў, думаў і зразумеў. Не самі будаваліся мае ўнукі, як некалі будаваўся я, адзін-на-адзін з сваім горам... Не адны будавалі сваю хату сіраты Паўла Кацубы... Уся вялікая наша маці-Расія савецкая 'памагала нам, бацька наш Сталін паклапаціўся пра нас, дзяцей сваіх... Вось таму дазвольце мне сёння ад усіх вас пакланіцца нашаму партыйнаму дэпутату..,

Дзед пакланіўся. Макушэнка падняўся і заапладыраваў. Нібы сотні галубіных крылаў з размаху ўдарылі ў нізкую столь класнага пакоя. Максіма апанавала нейкая незвычайная радасць, стала светла на душы пасля дзедавых слоў.

Гаварылі другія. Цёпла гаварылі, усхвалявана.

Нарэшце, пачалі вырашаць — каму-ж пабудаваць дамы. Амаль хорам сход выгукнуў тры прозвішчы: Павел Сарока, Ганна Акуліч, Іван Канцавы.

Макушэнка задаволена кіўнуў Ладыніну. На нарадзе партыйнай групы, на якую былі запрошаны Маша і Шаройка, дамовіліся, якія кандыдатуры варта падтрымаць ім, актыву, комуністам. Калгаснікі назвалі іх, і гэта радавала партыйных кіраўнікоў.

Ганна Акуліч стаяла ў калідоры (усе ў класе не змяшчаліся), лузгала семячкі, якія прывезла з сваёй чарговай паездкі на Украіну, частавала жанчын. Пачуўшы сваё прозвішча, уздрыгнула: прывыкла, што па сходах яе заўсёды лаялі.

— Хату табе даюць, Ганна, — сказала суседка.

Ганна не паверыла сваім вушам і спалохалася яшчэ больш, але невядомая сіла пацягнула яе наперад. Цесна было, але людзі давалі ёй дарогу. Так яна вышла на сярэдзіну, да партаў, за якімі сядзелі пераважна мужчыны — і апынулася тварам у твар з прэзідыумам. Сэрца ў жанчыны так стукала, што ёй здавалася — удары яго чуваць усім, і яна засунула за кажушок руку і прыціснула яе да грудзей.

За сталом прэзідыума падняўся Шарошка, уталопіў на яе позірк. І ёй захацелася зноў схавацца за спіны людзей. Але яна толькі апусціла вочы.

— Таварышы калгаснікі! — пачаў Шаройка. — Я прапаную яшчэ адну кандыдатуру, на якую вы чамусьці забылі. А забываць на такіх людзей наша партыя, наш Савецкі ўрад не дае нам права. Наша вялікая памылка і ў першую чаргу мая, я на ўвесь голас кажу аб гэтым, што мы да гэтага часу не збудавалі дом гэтай сям'і. Што гэта за сям'я? Сям'я Антона Лескаўца. Вось бачыце, мы апускаем вочы, адчуваючы сваю віну перад Сынклетай Лукічнай. Бо хто для нас Антон Лескавец? Шэсць год ён кіраваў нашым калгасам, зрабіў яго лепшым у вобласці. А прышлі ворагі на нашу зямлю — ён першы з вёскі ўзяўся за зброю, стаў мужным партызанскім камандзірам пад кіраўніцтвам нашага дарагога таварыша кандыдата ў дэпутаты Пракопа Пракопавіча.

Макушэнка паморшчыўся.

«Эх, душонка падхалімская! Па нарадзе слова не сказаў, а вынес усё на сход».

Сакратару было непрыемна. Можа, нікога ён не любіў так горача, як Антона, і нічыю смерць не перажываў так цяжка. Безумоўна, сям'я яго варта самага чулага клопату. Але справядлівасць патрабуе, каб дамы пабудаваць многасямейнаму інваліду Сароку і дзецям Акуліч. Сакратар баяўся, што яго выступленне супраць прапановы Шаройкі пакрыўдзіць Сынклету Лукічну. Ці зможа яна зразумець яго правільна? У глыбіні душы закіпала злосць на Шаройку.

«Даўно мог-бы калгасам збудаваць. Колькі разоў я гаварыў табе? А ты падводзіў мяне, нягоднік... А зараз табе выгадна паказаць сябе добрым».

Шаройка працягваў, упершыся кулакамі ў стол:

— Два сыны яго — афіцэры, героі, усю вайну са зброяй у руках баранілі нашу дарагую Радзіму, вызвалілі нас ад супастата. Вунь паглядзіце — усе грудзі ў ордэнах.

Максім сядзеў за першай партай, побач з ім — маці. Быў ён у шынялі і ніякіх ордэнаў не было відаць, але маці глянула на яго грудзі.

— Не павінны мы забываць і таго, што дачка Антона Лескаўца ратавала калгасны статак, пагнаўшы яго на ўсход...

— Які ты не захацеў гнаць! — выгукнула Клаўдзя.

Шаройка нават не глянуў у яе бок. Маша пастукала алоўкам аб графін — яна вяла сход.

— І раптам мы забываем такую сям'ю... і называем каго?.. Чалавека, якога на мінулым сходзе мы хацелі выключыць з калгаса...

— Ты хацеў, ды мы не захацелі! — зноў не стрымалася Клаўдзя.

Шаройка павярнуўся да Машы.

— Таварыш старшыня, навядзіце, калі ласка, парадак.

Яго просьба чамусьці выклікала агульны смех.

Шаройка павысіў голас.

— Гультайку, спекулянтку... якая мае сорак працадзён за год.

— А ў сына сто сорак! А хлопцу — пятнаццаць год!— выгукнуў нехта ад дзвярэй.

— З-за сына яна і ў калгасе ўтрымалася. Адным словам, я даю адвод... А сход хай вырашае, толькі, таварышы калгаснікі, падумаць трэба і даць гэтую, я сказаў-бы высокую ўзнагароду таму, хто сапраўды яе заслугоўвае.

Звычайна сварлівая, неўгамонная Ганна маўчала, і толькі, калі Шаройка скончыў, не сказала, а прашаптала:

— Амелька, родненькі, далібог дзень і ноч буду працаваць. На хатку збірала я, таму і ездзіла.

Яе словы паласнулі Макушэнку па сэрцы. Ён злосна скамечыў аркуш паперы, на якім рабіў нататкі.

«Эх, і дам я табе зараз, гора-кіраўнік ты няшчасны», — падумаў ён пра Шаройку.

— Хто жадае выступіць яшчэ? — паўтарала пытанне Маша. Людзі маўчалі, нібы вінаватыя; мужчыны, якія ведалі, што за імі рашаючае слова, не падымалі галоў.

Хітрая і ўедлівая Параска Корж прапанавала:

— Скажы ты, Машачка.

Маша адчула, што чырванее.

Маўчанне зацягнулася. Макушэнка намерыўся было ўжо ўзяць слова, але раптам паднялася Сынклета Лукічна.

— Добра гаварыў Амяльян Дзянісавіч аб маім нябожчыку Антону Пятровічу, аб маіх сынах і дачцы. Дзякуй яму за гэта. Але несправядлівую прапанову ён вынес, як і шмат што старшыня наш робіць несправядліва. Жыла я адна, не спяшалася з хатай, ды і Шаройка тады забываў на мяне. Цяпер прыехаў сын, слава богу, здаровы, не ранены, не скалечаны. Хутка другі прыедзе, калі не зусім, то ў водпуск, ёсць у нас грошы, не буду таіць, і сілы, а ў Ганны — куча дзяцей, ім вучыцца трэба...

Макушэнка не стрымаўся, выгукнуў:

— Малайчына, Лукічна! — і заапладыраваў. Яго дружна падтрымалі ўсе, акрамя Шаройкі. Ды Максім пачаў плёскаць са спазненнем. Ніхто не заўважыў, як ён пачырванеў, змяніўся з твару. Калі выступаў Шаройка, ён падумаў:

«Але, было-б дарэчы атрымаць домік... А чаму не? Заслужана», — і ў душы падзякаваў Шаройку.

Нечаканае выступленне маці нанесла яму моцны ўдар.

«Чаму гэта зрабіў не я? Я павінен быў зрабіць гэта. Няўжо маці больш свядомы чалавек, чым я?» — гэта быў першы сапраўды крытычны погляд на самаго сябе.

З таго вечара ён адкінуў думку аб тым, каб некуды паехаць, пашукаць цяплейшага месца. Не, цяпер яму хацелася працаваць тут, дома, разам з Ладынінам, з Васілём, давесці ім, што ён варты значна большага, чым яны зараз думаюць аб ім.

25

Нахадзіўшыся па марозе, Васіль пасля абеду прылёг, не распранаючыся, закурыў. За перагародкай было ціха. Толькі зрэдку шалясцела папера ды шчоўкалі лічыльнікі — рахункавод Карней Карнеевіч рыхтаваў гадавую справаздачу.

На вуліцы гулялі дзеці — каталіся на каньках, на лыжах. Раптам яны ўсе разам аб нечым закрычалі і гурбой прабеглі міма акна, але разабрацца, аб чым яны крычаць, было нельга.

Зарыпелі дзверы — нехта спешліва ўбег, задыхаўшыся. І адразу-ж за перагародку прасунулася галава ў шапцы, паднятыя, але незавязаныя вушы якой віселі, як два крылы. Суседскі хлапчук на ўвесь голас крыкнуў:

— Дзядзька Васіль! Цуда прывезлі! — і знік яшчэ больш нечакана, чым з'явіўся.

Васіль апрануўся, як некалі па трывозе. Вышаў. На сярэдзіне вёскі, пад узгоркам, схіл якога пачынаўся якраз каля хаты старшыні, стаяў гусенічны трактар і за ім узвышаўся невялікі лакамабіль. Вакол ужо сабраўся ладны натоўп дзяцей і дарослых.

У Васіля радасна забілася сэрца.

«Нарэшце!»

Ад натоўпу насустрач яму ішоў чалавек у скураным паліто, са стрэльбай — парторг лесакамбіната Палякоў. Убачыў Васіля — здалёк заўсміхаўся, замахаў рукой. Падышоў бліжэй — сказаў:

— Прымай, старшыня.

... Васіль разумеў, што для ажыццяўлення поўнай механізацыі і электрыфікацыі ўсёй гаспадаркі — трэба пэўная база.

І ён з першых-жа дзён свайго прабывання на пасадзе старшыні пачаў набываць машыны. Купіў малатарню,, дзве сеялкі, аўтамашыну. Цяжка яшчэ было ў той год. з машынамі, неймаверных намаганняў каштавала пакупка кожнай з іх. Але Васіль ездзіў у абласны цэнтр, у Мінск, стукаўся ўсюды, патрабаваў, прасіў — і дамагаўся свайго. У адным месцы яму прапанавалі цыркулярку— купіў і яе. А калі прывёз дамоў, то сустрэў досыць моцную апазіцыю з боку членаў праўлення і калгаснікаў:

— А рухаць чым будзем яе? Упяклі грошы для таго, каб іржавела на складзе.

Рухаць? Аб гэтым Васіль і думаў, калі купляў і малатарню, і цыркулярку, і дамаўляўся аб іншых машынах. Улетку, калі нарыхтоўвалі торф на ўгнаенне і на паліва для калгаснікаў, Васіль прапанаваў нарыхтаваць тысячу тон для патрэб калгаса. Сход адказаў абураным гулам, як не адказваў яшчэ ніколі. Людзі працавалі з выключнай напружанасцю — дзень і ноч. У суседніх калгасах і паловы не рабілі таго, што рабілі ў «Волі». Васіль гэта ведаў, разумеў. Слабая дысцыпліна ў суседзяў была яму папярок горла, бо нямала яшчэ знаходзілася такіх, якія ў цяжкую часіну ківалі на гэтых суседзяў.

— Вунь людзі не душацца так, а жывуць, слава богу, не горш за нас.

Васіля злавалі такія размовы. На сельвыканкоме, на партыйных сходах, на нарадах у раёне ён заўжды выступаў з самай бязлітаснай крытыкай і Шаройкі і Радэка. Іменна за гэта «спакойныя суседзі» і не ўзлюбілі яго.

Торф гэты з'явіўся пробным каменем. Усіх спалохала лічба, названая старшынёй. Нават Міхай Вячэра, першы Васілёў памочнік, актывіст, выступіў супраць.

— Навошта нам столькі торфу таго, Мінавіч?

— Саліць будзем! — кідалі з задніх радоў жартаўнікі.

— На працадні будзем раздаваць.

— Не, гандляваць будзем! А што вы думалі — добрая камерцыя!

Васіль перачакаў, покуль усе накрычаліся ўволю. Спакойна адказаў:

— Зразумейце, калі мы па-сур'ёзнаму думаем будавацца, узнімаць гаспадарку, нам трэба тэрмінова набыць рухавік... лакамабіль... Гэта адзін наш ратунак, покуль збудуем электрастанцыю... Без яго, без сваёй цыркуляркі — руху нам уперад не будзе.

І торф нарыхтавалі, ён ляжаў вялізнымі штабялямі на балоце, пры ім нават асобнага вартаўніка трымалі, бо суседзі не саромеліся цішком «пазычаць» яго.

Але набыць лакамабіль аказалася нялёгкай справай. У Магілёве іх яшчэ не выраблялі, завод толькі аднаўляўся, а тыя, што ўцалелі ў вайну, цаніліся на вагу золата. Васіля нават спрабавалі адгаварыць ад гэтай задумы:

— Кінь ты... Зразумей, нарэшце, і тое, што лакамабіль — устарэлая тэхніка. Ім некалі яшчэ кулакі карысталіся, каб пабольш крыві з сялян высмактаць...

— Няхай сабе ўстарэлая, а нам яна будзе вельмі дарэчы, гэтая тэхніка. Акрамя работы, ён выканае ў нас яшчэ ролю прапагандыста, — адказваў Лазавенка.— Чаму ты здзіўляешся? Гэта будзе першая чарга нашай электрастанцыі. Паставім дынама-машыну, дадзім святло. На ферму, у хаты. Глядзіш — і загарыцца яно ў душах, у свядомасці людзей. А для такога будаўніцтва людзей трэба падрыхтаваць, паказаць ім карысць яго...

Васіль доўга шукаў хоць які-небудзь старэнькі лакамабіль і, нарэшце, знайшоў. Падказаў адзін добры чалавек — ляснік.

Быў да вайны ў суседнім лясніцтве добры пасёлак, дзе жылі рабочыя і служачыя і знаходзілася кантора эксплаатацыйнага ўчастка. У вайну пасёлак гэты, у якім паспрабаваў быў размясціцца нямецкі гарнізон, партызаны спалілі. Вось тут, у руінах аднаго мураванага будынка, знайшоўся лакамабіль. Будынак быў узарваны, але сцены яго, відаць, тады ўцалелі, толькі столь і дах абваліліся і засыпалі машыннае аддзяленне. Лакамабіль ляжаў на баку, пагнуты і скалечаны. Але, што было дзіўна, на рабочых частках яго і нават на катле, знутры і на паверхні, захаваўся тоўсты пласт засохлага масла, якое не дало іржы з'есці метал. Пасля вайны нехта па-гаспадарску навёў тут парадак: расчысціў і збудаваў над машынай паветку. Аказалася — гэта справа рук ляснічага Зяновіча. Ён расказаў, што лакамабіль узрываў яго цесць, стары механік, аб якім гаварылі, што рухавік свой ён любіць

больш, чым жонку. Відаць, гэтая любоў да машыны і загубіла яго: стары загінуў у часе выбуху. Абставіны — невядомы, але, калі ўлічыць, як ён перад гэтым дагледзеў машыну, можна аб многім здагадацца.

Нікому нічога не сказаўшы, Васіль паехаў да ляснічага. Зяновіч махнуў рукой:

— Ужо, брат, глядзелі не раз. Дарэмна. Стары ўсё-такі не разлічыў, відаць: пагнула машыну.

Але аб тым, каб прадаць, і слухаць не захацеў, як ні ўгаварваў яго Васіль.

— Ну, добра, — нарэшце сказаў ён. — Бярыце. У арэнду за тое, што адрамантуеце. Цераз год — паўтара, калі вам будзе непатрэбны, вярніце.

Тады Васіль звярнуўся да шэфаў. Дырэктар і парторг завода ведалі, як доўга і настойліва ён шукаў лакамабіль і дапамаглі яму адрамантаваць машыну. Рамантавалася яна доўга. Васіль у гэты час будаваў памяшканне. Будаўніцтва «сілавой», як празвалі калгаснікі гэтую новую нескладаную будоўлю, ні ў каго не выклікала нараканняў — не так, як торф. Людзі будавалі з радасцю, бо разумелі, што ў гаспадарцы кожная будыніна спатрэбіцца. Хіба толькі зрэдку нязлосна бурчэў Іван Гоман:

— Курачка яшчэ ў кубле і яйка яшчэ тое — дзе яно, а ён і ўдзень і ўночы спакою не дае, нібы ў Гомана дзесяць рук. Хацеў-бы я ўбачыць, каб ён гадоў дзесяць пабыў у нас за старшыню, от-жа што-б ён тады прыдумаў будаваць... Можа, завод ужо які, ці што...

Сашка Лазавенка, насмешнік і задзіра, сур'ёзна здзіўляўся.

— Гэ, дзядзька Іван, а хіба ты не чуў? Яны-ж з доктарам надумалі ў нас збудаваць атамны завод. Начамі сядзяць, выдумляюць. Ну, і жытуха, я вам скажу, тады будзе!.. Пакладзеш які кілограм гэтай самай энергіі сярод вуліцы і такую цеплыню яна будзе прамяніць, што куды тому сонцу... І зімы не будзе. У Лядцах — зіма, а ў нас — грушы цвітуць, бабы мандарыны сеюць... У адных трусіках усе ходзяць і загараюць...

Брыгада рагатала, Гоман круціў галавой.

— Але-ж і язык у цябе!.. Каб ты сякерай так цясаў, як ім...

А ў Васіля была новая турбота: набыць дынамамашыну. Зноў ён ездзіў, пісаў, пасылаў рахункавода, прасіў і патрабаваў. Галоўная цяжкасць цяпер была ў тым, што нехапала сродкаў — усе іх з'ядала будаўніцтва.

Дырэктар Крыловіч, галоўны механік Чурыла і галоўны аграном Маслоўская (яна-ж сакратар партыйнай арганізацыі) праглядалі план работы МТС. Яны праглядалі яго ўжо не першы раз. Заўтра плап павінен быць у райкоме, а неўзабаве будзе вынесен на абмеркаванне Совета МТС.

Нямала за сваё жыццё Крыловіч паскладаў такіх планаў, але ні над адным з іх ён не сядзеў так доўга, так удумліва, і ні адзін з ранейшых не меў столькі варыянтаў. Не вельмі складаная рэч — план, быў час, калі дырэктар лічыў яго простай фармальнасцю. Быў, але больш не будзе. Крыловіч гэта разумеў добра. Пара пакінуць ківаць на тое, што трактары старыя, зношаныя і мала іх, а трактарысты маладыя, нявопытныя. Вунь якіх дзесяць прыгажуноў прыслалі! І трактарысты пакрыху збіраюцца даваенныя. Ён усведамляў свае памылкі, згаджаўся з крытыкай. Але крыўда за вымову, якую ён атрымаў з-за Лазавенкі, усё яшчэ варушылася ў глыбіні душы. Чорт ведае з-за чаго чалавек падняў такую бучу! З-за перадплужнікаў. Другім калгасам не было магчымасці абы як узараць, а яму давай перадплужнікі. А ці не вельмі тлуста будзе, паважаны таварыш старшыня? Чым ты лепшы за другіх? А галоўнае — ён пачынае яшчэ вучыць Крыловіча. Ды ты яшчэ без штаноў бегаў, калі Крыловіч ведаў карысць перадплужнікаў... Ну, добра, хай нават Крыловіч не дагледзеў, сапраўды не дагледзеў. Мог-жа ты прыйсці да мяне і пагутарыць, як чалавек з чалавекам? А то адразу — у райком, у абласную газету, у абком. Не, яўны кар'ерыст, выскачка! Бачылі такіх: любой цаной у героі вылезці хочуць!

Крыловіч стаяў перад картай раёна, што вісела на сцяне, каля акна. Хацеў быў паглядзець землі зусім другога калгаса, а ўбачыў «Волю» і забыўся на ўсё, у галаву палезлі гэтыя непрыемныя думкі.

Франц Ульянавіч, вы зноў брыгаду Прымака перавялі? З якой рады? — раптам спытала Маслоўская; яна сядзела каля стала і праглядала план.

Крыловіч хутка павярнуўся. У механіка Чурылы, які спакойна сядзеў каля грубкі — грэў спіну — і смактаў патухшую люльку, у маршчынах пад вачыма зайграла ўсмешка.

— Не забывайце, што Лазавенка зноў шум падыме.

— Лазавенка! Лазавенка! — Крыловіч са злосцю перасунуў нагой зэдлік. — Нагнаў вам страху гэты Лазавенка. Гарлахват ваш Лазавенка! Выскачка...

— Ну, гэта вы дарэмна... Мне не зразумела ваша злосць... Лазавенка — лепшы старшыня...

— А калі ён лепшы, то хопіць яму і Махоткі, хай на дзядзьку не спадзяецца, а сваё цягло лепей выкарыстоўвае. Прымак хай падымае калгасы адсталыя.

— Гнілая тэорыя, Франц Ульянавіч. Вы забылі, што Прымак прасіўся ў Дабрадзееўку.

— Ведаю я, чаму ён просіцца туды. Каб быць і дома і замужам. Свае людзі, свае чэрці...

— Ва ўсім вы бачыце толькі дрэннае. Проста непрыемна. Няма нічога благога, што Прымак будзе працаваць у сваім сельсовеце. Наадварот. Больш ведае зямлі, больш зацікаўлены ва ўздыме ўраджайнасці. А галоўнае — іх дамоўленасць з Лазавенкам, іх своеасаблівы дагавор.

— З якога гэта часу старшыні пачалі дамаўляцца з брыгадзірамі за спіной у дырэктара МТС? — Крыловіч згроб у адну кучу паперы, што былі раскіданы па ўсім стале і з размаху кінуў іх у скрынку. Ён, відаць, хацеў сказаць гэтым: усё, гаварыць нам больш няма аб чым, ад свайго рашэння я не адступлюся.

Але Маслоўская не здавалася. Гэтая пажылая, ужо з сівымі пасмамі валасоў на скронях, жанчына заўжды спакойна і ўпарта даводзіла і справу, і размову да канца. Яна ўздыхнула.

— Што-ж, давядзецца мне зноў выступаць на бюро супраць вас.

Крыловіч застыў на месцы, утаропіў на яе позірк і цяжка задыхаў. Твар яго прыкметна чырванеў, а шыя сінела — на ёй уздзьмуваліся вены.

— Ну, ведаеце, Алёна Астапаўна, — выдыхнуў нарэшце ён, — я вам скажу... Працаваць, дык давайце працаваць дружна...

Невядома, чым скончылася-б іх размова пры адзіным маўклівым сведку, каб раптам у пакой не ўваліўся Лазавенка.

Ён быў у кажуху, у валёнках, з марозу — халодны, чырвонашчокі, вясёлы.

Крыловіч ажно разгубіўся ад нечаканасці: пачаў даставаць з скрынкі паперы і класці назад на стол. Маслоўская засмяялася.

— Але-ж і лёгкі ты на ўспамін, Васіль Мінавіч!

Васіль прывітаўся і, кінуўшы позірк на стол, спытаў:

— Плануем?

Чурыла, прадчуваючы цікавую размову, дастаў бензінку і пачаў распальваць люльку, акружаючы сябе воблакам шызага дыму. Механік сам ніколі ні з кім не спрачаўся, але паслухаць, як спрачаюцца другія, — было яго слабасцю.

Размову спачатку вялі Васіль і Маслоўская — звычайную размову знаёмых людзей у першыя хвіліны сустрэчы: аб надвор'і, аб рабоце, аб

навінах. Крыловіч дэманстратыўна ўглыбіўся ў паперы і не прымаў у ёй ніякага ўдзелу. Васіль з усмешкай кіўнуў Маслоўскай і, кашлянуўшы, даволі дыпламатычна пачаў:

— Франц Ульянавіч, я да цябе з нізкім паклонам і вялікай просьбай ад усіх калгаснікаў «Волі».

Крыловіч падняў галаву і, прыплюснуўшы адно вока, нацэліўся на Васіля, у позірку яго была насцярожанасць: не падклаў-бы ты, друг, яшчэ якую-небудзь свінню.

— Вядома мне, што ў МТС ёсць запасная дынамамашына. Пазыч яе калгасу на два-тры месяцы...

Крыловіч раптам адкінуўся на спінку крэсла і прыглушана зарагатаў.

— Ага, прышла каза да воза, — ён задаволена пацёр сваю бліскучую лысіну. — Прышла, прышла...

Васіль здзіўлена пацісну́ў плячыма.

— Прычым тут каза і воз, Франц Ульянавіч. Здаецца калгас не зарака́ўся звяртацца за дапамогай у машынна-трактарную станцыю? — ён знарок назваў МТС поўнасцю, каб падкрэсліць, што звяртаецца ён з просьбай не асабіста да яго, Крыловіча, а ў дзяржкаўную ўстанову, галоўны абавязак якой — дапамагаць калгасам.

— Ды навошта табе дынамамашына? Ці не збудаваў ты там ужо свой Днепрагэс?— дырэктар усё яшчэ смяяўся, праўда, ужо бязгучна: смяяліся толькі яго маленькія вочкі і густыя зморшчыны пад імі.

На жартаўлівае пытанне яго Васіль адказаў сур'ёзна:

— Не. Толькі пачынаем будаваць. Вядома, не Днепрагэс, але звычайную калгасную гідрастанцыю... А цяпер покуль што маем лакамабіль...

— У вас — лакамабіль?—спытаў Чурыла, выцягнуўшы з рота люльку. — Дзе вы яго ўзялі?

— Добрыя людзі пазычылі. А другія — дапамаглі адрамантаваць.

— Пазычылі? — недаверліва спытаў Крыловіч і раптам ўзлаваўся, стукнуў далоняй па стале. — Ну, то яны добрыя людзі... А Крыловіч — паганы. І дынамамашыну я табе не дам. Самім трэба.

Чурыла спакойна выцягнуў з рота люльку.

— Самім вядома, покуль што не трэба.

Крыловіч бліснуў у яго бок гнеўным позіркам.

— Вы, чорт вазьмі, усе лепей за дырэктара ведаеце, што трэба, а што не трэба. Сядайце тады на маё месца і кіруйце!..

Чурыла закрыўся ад яго густым воблакам табачнага дыму; люлька яго пыхкала, як паравоз, і сіпела.

— Значыцца, не дасі? — спытаў Васіль.

— Не дам!

— Ну што-ж, «іду на вы», — Васіль энергічным рухам насунуў глыбей на галаву шапку. — Так і запішам: дырэктар МТС, комуніст Крыловіч ухіляецца ад... і так далей... — сказана гэта было з хітрасцю: ён добра ведаў слабае месца Крыловіча. Сапраўды, той пасля гэтых слоў ажно падскочыў.

— Ад чаго ўхіляецца? Ад чаго?

— Ад усяго.

— Ад чаго ўсяго?.. Ты мне не пагражай?.. Што трэба я табе даю, а гэта — маёмасць МТС.

— Не забудзь, Лазавенка, — сказала Маслоўская, — і аб тым, што з-за нейкіх асабістых рахункаў Крыловіч адмаўляецца паслаць да вас брыгаду Прымака...

— Улічым і гэта, — і Васіль, не развітаўшыся (бо ведаў, што яшчэ вернецца), хутка вышаў з цеснага, пракуранага кабінета.

У райкоме яму не ўдалося адразу трапіць да Макушэнкі, той быў заняты з прадстаўніком абкома. Васіль схадзіў па справах у райза, у банк, потым зноў вярнуўся ў райком.

— А вас Крыловіч шукаў, — паведаміла яму машыністка.

Васіль усміхнуўся і пачаў чакаць. Хвілін праз колькі ў прыёмную ўвайшоў Крыловіч.

— Чакаеш? Гарыш нецярпеннем зноў змяшаць Крыловіча з граззю? А вось табе, — ён употайкі, каб не ўбачыла дзяўчына, паказаў Лазавенку з кішэні фігу.

Васіль засмяяўся.

— Ідзём, аформлю табе дынамамашыну. Чорт з табой! Не думай толькі, што Крыловіч — жыла, кансерватар і ўсё іншае...

«Малайчына», — з удзячнасцю падумаў Васіль аб Маслоўская добра ведаючы, што раптоўны паварот Крыловіча — яе заслуга.

Сапраўды, пасля таго, як ён вышаў, паміж дырэктарам МТС і галоўным аграномам адбылася бурная размова. А размовы такія паміж імі заўсёды прыносілі плённыя вынікі, бо, не гледзячы на гэтыя частыя сутычкі, яны адносіліся адзін да аднаго з павагай, цанілі адзін аднаго ў рабоце.

— Якія вы гарачыя ўсе сталі, нервовыя! А што з вас будзе, калі вы маіх год дажывеце? — бурчэў Крыловіч, калі яны вышлі з райкома на вуліцу і па сцежцы наўпрасцяк, праз гароды, рушылі да МТС, будынкі якой чарнелі каля чыгункі.

— У тваіх гадах мы будзем зусім спакойныя, — адказаў Васіль.

— Спакойныя! Дажывеш — пабачыш...

— Дажывем і ўбачым... Тады не будзе прычыны за грудзі брацца.

— А-а, — зразумеўшы, згадзіўся Крыловіч і ў голасе яго з'явіліся ноткі смутку. — Вы, чэрці, дажывеце, вядома... А Крыловіча і добрым словам не ўспамянеце, а ён пачаў змагацца за комунізм, калі вас яшчэ на свеце не было.

— Нічога, Франц Ульянавіч, дажывеш і ты...

— Дажывеш з вамі... Штодзень прымушаеце хвалявацца, не адзін, дык другі. Чуеш, адышка якая?..

— А ты не хвалюйся.

— Ну, нічога, я і хвалюючыся да комунізма дажыву.

Яны дайшлі да МТС. Крыловіч таямніча падміргнуў Лазавенку.

— А цяпер ідзем, я табе нешта пакажу.

У доўгім драўляным гаражы, што быў прыбудаваны да цаглянай майстэрні, стаялі, як салдаты на парадзе — пад адну лінію, дзесяць новенькіх гусенічных трактараў. Здавалася, што яны яшчэ пахлі свежай фарбай і неастыўшым металам. У поўзмроку гаража блішчэлі іх стальныя гусеніцы.

Васіль доўга не мог адарваць позірку ад гэтай магутнай тэхнікі. Крыловіч з боку назіраў за ім і радасна ўсміхаўся, задаволены эфектам.

— Бачыў? Толькі ўчора атрымалі. Цяпер і за севазвароты ёсць з чым узяцца. Можаш радавацца: адзін з гэтых прыгажуноў будзе ў тваім калгасе. Задаволены? То-та... І не думай аб Крыловічу так блага, як ты думаў дагэтуль...

«Сілавая» задыміла. Дымок гэты быў відаць здалёк.

І ў першыя дні ў Лядцах і Радніках можна было часта назіраць такую з'яву: сустрэнуцца два калгаснікі на вуліцы, прывітаюцца і абавязкова паглядзяць у бок Дабрадзееўкі.

— Дыміць? — спытае адзін.

— Дыміць, — адкажа другі.

— Але, дыміць. І добра, брат, дыміць.

— А ўчора ўвечары бачыў?

— Бачыў. Ад Пракопавага гумна відно.

— Мой Мішка ўжо і верш напісаў «Зарава над Дабрадзееўкай». Зарава! Ха! Вунь куды махнуў!..

Будынак «сілавой» нізкі, прыплюснуты, з боку нагадваў баржу. Ад яго размашыста крочылі да школы і далей па вуліцы на калгасны двор невысокія белыя слупы. Здавалася, што гэта — дужыя хлопцы, і цягнуць яны за тоўстыя кашлатыя канаты — заінеўшыя драты — гэтую баржу некуды ўгору, на грэбень белай хвалі.

Святло далі ў першую чаргу на калгасны двор, у школу, у медпункт і на будоўлі. Нястача дроту, ізалятараў і нават лямпачак не

давала магчымасці выкарыстаць на асвятленне ўсе дваццаць кіловат, што давала гэтая з выгляду зусім маленькая дынамка. Васіль прыняў адразу прапанову Ліды Ладынінай даць святло ў хаты інвалідаў. Ад вулічных ліхтароў ён адмовіўся катэгарычна:

— Нам карысць трэба, работа, а не ілюмінацыя. У нас і так ніхто не блудзіць.

Таму ўсіх вельмі здзівіла, калі манцёр пачаў шчодра вешаць лямпачкі вакол няскончанага зруба пад клуб.

Васіль растлумачыў сваю задуму на паседжанні праўлення.

— Дзень зімовы кароткі і цесляры працуюць не больш пяці-шасці гадзін. А чаму-б ім не працаваць дзесяць гадзін? Працавалі-ж улетку.

Іван Гоман абурыўся.

— Дня табе мала. А потым і ночы стане мала. Чым надточыш тады? Не будзем працаваць! За дзень намахаешся — рук падняць не можаш...

Васіль ураз астудзіў гэтага вяртлявага чалавека.

— Не будзеш — не трэба. Паставім за брыгадзіра другога і будзем працаваць без цябе.

Уступіць месца брыгадзіра Гоман не мог ні пры якіх абставінах і таму адразу-ж даў «задні ход» пад рогат цесляроў і стрыманыя ўсмешкі членаў праўлення.

Да «сілавой» з боку прыбудавалі паветку, і пад ёй зазвінела цыркулярка — то каротка, радасна, на высокім тоне, то прыглушана, доўга, жаласліва — нібы скардзілася, што ёй цяжка пілаваць такое вялізнае бервяно.

На лакамабіль і цыркулярку прыязджалі паглядзець старшыні суседніх калгасаў. «Выпадкова, едучы ў лес», заглянуў у калгас і Свірыд Зязюля — старшыня самага вялікага і багатага калгаса ў раёне. Дагэтуль Зязюля, сустракаючыся ў раёне, вітаўся з Васілём ледзь прыкметным кіўком галавы і толькі адзін раз, у кабінеце Макушэнкі, падаў руку. Ён агледзеў усё з выглядам рэвізора, усюды зрабіў заўвагі і даў гаспадарчыя парады, частку з якіх Васіль пасля скарыстаў. Аб усім ён гаварыў нібы між іншым і нават крыху скептычна, але Васіль бачыў, што ў душы стары (Зязюля меў год шэсцьдзесят) чаму-ні-чаму зайздросціць. Васіль запрасіў яго паабедаць, паставіў поўлітэрку, хоць у думках папракаў сябе за тое, што ўпершыню робіць гэта не па шчырасці, а з разлікам: «Такі сябра заўсёды спатрэбіцца, у яго насенне гатунковае можна выменяць, ды і насенне траў ёсць».

Зязюля, даведаўшыся ў гутарцы, колькі праўленне «Волі» пастанавіла браць з суседніх калгасаў і чужых калгаснікаў за распілоўку бярвенняў, здзівіўся і дакарыў Васіля:

— Дурань ты, брат ты мой! У два разы даражэй — не было-б дорага. На гэтым цяпер, ведаеш, як зарабіць можна?!

Васіля ажно перасмыкнула ад гэтых яго слоў. «На нястачы людзей?» — ледзь не спытаў ён злосна, аднак стрымаўся, падумаў: «Вунь ты які гаспадар! А цябе хваляць... Не, не паеду я да цябе за насеннем, знайду без цябе... А паглядзець на гаспадарку прыеду абавязкова, хоць ты, старавер барадаты, і не запрашаеш»...

## 27

Пагаварыць з Максімам па-шчырасці Васілю не ўдавалася; той пасля нечаканай сустрэчы ў полі ўпарта пазбягаў спаткання адзін-на-адзін.

Васіль намерыўся было пагаварыць аб усім гэтым на партыйным сходзе, дзе павінна была абмяркоўвацца кандыдатура будучага старшыні «Партызана». Але Ладынін, з якім ён параіўся перад сходам, адгаварыў яго ад гэтай задумы.

— Справа, Мінавіч, вельмі складаная, у ёй трэба, як мае быць, разабрацца, а не проста так — з наскоку. Да таго-ж улічы, што народ наш да разгляду такіх спраў не падрыхтаваны; баюся, каб не растлумачылі гэта па-свойму: лаянка паміж двума супернікамі. І пачаў яе ты... Нядобра атрымаецца, асабліва на такім сходзе. Я разбяруся ў гэтым сам і пагавару спачатку з ім адзін. Ты скажы другое: як думаеш, справіцца? Макушэнка даўно папярэдзіў: прыглядзецца, праверыць, абмеркаваць.

— Прыглядаўся і я, Ігнат Андрэевіч, але добра не разабраўся, хоць ён і сябра мой з маленства. За адзін яго ўчынак у адносінах да Машы я з яго тры скуры спусціў-бы, каб да сівых валасоў помніў. Хочацца ўсыпаць яму і за фанабэрыю яго дурную, за самалюбства. Але ў той-жа час сілы і энергіі ў яго хапае. Каб толькі накіраваць гэтую энергію ў патрэбным кірунку, то ён горы звярнуў-бы.

— Што-ж, давай паспрабуем накіроўваць. Я думаю, у нас сілы таксама хопіць: не такія характары ламалі і выкоўвалі новыя. Трэба толькі штодзённы, неаслабны кантроль і разумная, таварыская крытыка. Значыцца, падтрымаем?

— Што-ж, у добры час.

У Лядцах рэкамендацыю партыйнага сходу большасць калгаснікаў сустрэла з прыемнасцю.

— Дай божа, каб кіраваў так, як бацька яго. А што малады, дык гэта нічога. Лазавенка таксама малады, а Шаройка вунь стары, а карысці з яго, як з таго казла...

Толькі ў сям'і Кацубаў вестка гэтая выклікала спрэчкі. Пеця быў гарой за Максіма: афіцэр, ордэнаносец, «такі гультаям паблажкі не дасць». Алеся была супраць:

— Нічога з яго не выйдзе. Не ў бацьку пайшоў.

Маша слухала і маўчала, у самой яе думка аб яго абранні была супярэчлівая: і хацелася, каб за старшыню быў ён — а раптам гэта зробіць яго сапраўдным чалавекам!— а яна жадала яму толькі найлепшага. І была трывога за калгас — а калі ён не здолее падняць яго, калі звіхнецца?

Сход пачаўся спакойна. Справаздачу Шаройкі выслухалі моўчкі і крытыкавалі яго ўжо спакойна, стрымана — у мінулым часе. Дарэмна Ладынін і Байкоў намагаліся разварушыць сход.

Гэтак-жа спакойна прайшлі і выбары старшыні. Калгаснікі самі назвалі Лескаўца. Толькі калі пачалі абмяркоўваць кандыдатуру будучага старшыні, ад дзвярэй малады, задзірысты голас спытаў:

— А каня ён умее запрэгчы?

Там, ззаду, пракаціўся кароткі смех. Хваля яго не закранула пярэдніх радоў. Наперадзе засмяялася адна Алеся Кацуба,— засмяялася звонка, весела. Яна сядзела за асобным столікам, у кутку: яе і другога дзесяцікласніка, Паўла Лескаўца, папрасілі весці пратакол. Максіма гэты яе смех непрыемна кальнуў, ён прыкметна пачырванеў, скоса зірнуўшы на яе.

Больш жвавасці ўнесла заўвага Клаўдзі Хацкевіч.

— Скажы, жаніцца ты думаеш? — сур'ёзна спытала яна Максіма. — А то за бабамі будзеш бегаць, а на калгасныя справы забудзеш. Я вашага брата ведаю!

Тут ужо засмяяліся ўсе, маладыя і старыя. Пасыпаліся жарты.

— Ого, яна ведае нашага брата!

— Бяры, Клаўдзя, лейцы ў рукі: будзь за свaццю.

— А як-жа, цікава ёй за сваццю быць! Яна ў нявесты цэліць!

Максім заўважыў, што і Маша смяецца разам з усімі,— спакойна, нават не пачырванеўшы.

Выбралі праўленне. Першай у склад яго назвалі Машу. Ладынін радаваўся за яе, назіраючы, з якой аднадушнасцю і павагай за яе галасавалі. Адначасова ён здзівіўся колькасці галасоў за Шаройку: мала чаго нехапіла, каб і ён зноў трапіў у праўленне.

«Моцныя-ж, брацец, у цябе корані, — падумаў Ігнат Андрэевіч. — Давядзецца карчаваць».

У сувязі з тым, што брыгадзіра Лукаша Бірылу выбралі за намесніка старшыні, а інвалід Сяргей Кацуба сам папрасіўся, каб яго вызвалілі ад гэтай пасады, бо яму цяжка хадзіць, узнікла пытанне аб

новых брыгадзірах. Усе разумелі, што лягчэй яго вырашыць тут, на агульным сходзе, а не на паседжанні праўлення. Але і для сходу гэта аказалася досыць-такі нялёгкай задачай.

Адзін — адмаўляўся сам, выстаўляючы ўважлівыя прычыны, другі — выклікаў моцныя пярэчанні сходу.

Ладынін кіўнуў Машы.

— Вазьміцеся вы, Марыя Паўлаўна.

Жанчыны, нібы чакалі гэтага сігналу, — адразу падтрымалі:

— Правільна!

— Лепшага брыгадзіра не знайсці!

— За ёй мы ўсе — хоць у ваду і ў агонь!

— Расступіся, мужчыны, — дарогу жанчыне!

— Хопіць вам камандаваць! Цяпер мы вамі пакамандуем!

Як заўсёды, без жартаў не абыходзіліся.

Ад «паважных гаспадароў» выступіў калгасны каваль Сцяпан Прымак.

— Мы ўсе паважаем Машу. Ніхто, канешне, не можа сказаць супраць яе і слова, а хай хто паспрабуе — я таму язык на кавадла і трыццаціфунтовым молатам... Ведай, лайдак, што гаварыць. Але Маша — чалавек мяккі, з усімі ласкавая, далікатная, а народ у нас цяжкаваты. Ў нас — не тое, што ў Дабрадзееўцы. У нас другога покуль добра па галаве не дзеўбанеш, дык ён не паварушыцца...

— А першага цябе!

— Чыя кароўка мычала-б, а твая маўчала-б!..

— Святы Сцяпан заступнік!

Каваль махнуў на жанчын рукой:

— Ат!.. Хіба вас перакрычыш, калі ў вас глоткі, як той мех у маёй кузні!..

Ладынін зноў звярнуўся да Машы:

— А як думае сама Марыя Паўлаўна?

Маша паднялася, павярнулася тварам да калгаснікаў. Жанчыны весела заківалі ёй галовамі: згаджайся. Яна пашукала дзяўчат свайго звяна: што скажуць яны? З дзяўчат яна нікога не знайшла, а раптам убачыла Васіля. Старшыня «Волі» сядзеў каля сцяны, сярод мужчын. Позіркі іх на момант сустрэліся. Ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся, кіўнуў галавой. Машы здалося, што ён сказаў: згаджайся. І гэта вырашыла. Прыкметна пачырванеўшы ад хвалявання, яна адказала:

— Я — як народ... Толькі каб у сваёй брыгадзе...

Калі пачалі назначаць другога брыгадзіра, выступіў

Шаройка. Усім кінулася ў вочы, як ён згорбіўся, пастарэў і стаў ніжэйшы ростам. І голас яго змяніўся.

— Таварышы калгаснікі! Здорава вы мяне пабілі. Што-ж, правільна білі, я крытыку заўсёды слухаў... Няздатны, значыцца, быў я на старшыню, адстаў, пастарэў. Але мне хочацца, — ён павысіў голас, падняў галаву і глянуў на людзей, — мне хочацца паправіць сваю памылку. Пяць год я быў брыгадзірам да вайны. Хто скажа, што я тады дрэнна працаваў? Дык чаму-ж выдумаеце, што я цяпер горш буду працаваць?.. Я лічу, што брыгадзірам я спраўлюся. Сіл сваіх не пашкадую!.. Паверце майму слову...

Выступленне яго зрабіла ўражанне: ніхто не пажартаваў і ніхто не выступаў супраць. У Ладыніна ўражайце гэтае было раздвоенае: прыемна, што чалавек сам просіць работу — цяжкую работу, але непрыемна, што чалавек гэты — Шаройка; штосьці няшчырае было ў яго словах, асабліва ў апошніх — узнёслых: «Сіл сваіх не пашкадую!..»

«Чаму-ж ты шкадаваў іх, калі старшынёй быў?»— так і хацелася спытаць. — Больш дбаў аб уласнай гаспадарцы, чым аб грамадскай?» Ладынін цвёрда намерыўся выступіць супраць. Але, папярэдзіўшы яго, выступіў Максім. Старшыня калгаса падтрымаў просьбу Шаройкі.

Ладынін ажно крактануў ад прыкрасці.

«Ах!.. Прываражыў цябе гэты Шаройка... Не хочацца мне ў першы-ж дзень ударыць па твайму аўтарытэту. Што-ж, няхай пабудзе Шаройка... Паглядзім, што з гэтага атрымаецца...»

Час быў позні. Даўно ўжо ішла другая палова ночы. У нізкім класным пакоі нехапала паветра, хоць дзверы ў халодны калідор не зачыняліся ні на хвіліну. Лямпы, што віселі пад столлю, хліпалі, капцелі. Пачала задыхацца і лямпа на стале прэзідыума. Ладынін колькі разоў прасіў калгаснікаў не курыць, але просьбы яго былі дарэмныя (ён і сам гэта разумеў): праседзець усю ноч не курыўшы — было-б звыш сіл. Едкім дымам самасаду прапахла ўсё: валасы і вопратка людзей, парты і сцены.

Людзі не разыходзіліся. З прэзідыума здавалася нават, што іх стала больш. Заднія, хто стаяў у калідоры, праціснуліся наперад, занялі два крокі прасторы паміж сталом і першымі партамі, якія дагэтуль пуставалі. А некаторыя з маладых хлопцаў зайшлі і за стол прэзідыума і селі там на падлогу. Адзін з іх, за спіной у Ладыніна, прываліўся да сцяны і заснуў.

Калгаснікаў не менш, чым выбары старшыні і праўлення, цікавіла другое пытанне, якое выносілася на сход па просьбе старшыні «Волі» Васіля Лазавенкі.

Яму першаму і было дадзена слова.

— Аб чым буду я гаварыць — вы ведаеце з парадку дня. Але пытанне такое для калгаснікаў «Партызана» неспадзяванае, гэта я ведаю. Неспадзяванае яно таму, што ваш былы старшыня і слухаць не хацеў, каб выносіць гэтае пытанне на сход.

— Я і зараз буду супраць! — рашуча заявіў Шаройка. — Нежыццёвая справа! Не-э!..

Васіль зрабіў кароткую паузу і адказаў, павысіўшы голас:

— Не, хлусіш, Амяльян Дзянісавіч! Справа, якая падказана самім жыццём, не можа быць нежыццёвай. Справа вельмі жыццёвая! Калгаснікі «Волі» адзінадушна пастанавілі: не адкладваючы, як кажуць, справы на доўгі час, пачаць будаваць гідраэлектрастанцыю на нашай Гразліўцы. Мы склалі праект. Па ім, так дазваляе рэчка, станцыю можна будаваць толькі вось тут, — Васіль махнуў рукой на акно, — каля вашага калгаснага двара.

— Ага, таму ты і прышоў да нас! — выгукнуў нехта з дымнага змроку.

— Не, не таму я прышоў да вас! Заўтра я пайду да раднікаўцаў і, магчыма, нават і да нашага украінскага суседа — да гайнаўцаў.

— Ого, махнуў! За мяжу! Размах у цябе, Мінавіч, большэвіцкі! — голас добры, у ім — захапленне і радасць.

— Я прышоў таму, што сілаю некалькіх калгасаў мы збудуем станцыю значна хутчэй. Я падлічыў — за год, не больш. А гэта значыць, што мы хутчэй уздымем нашы гаспадаркі. Бо электрастанцыя — гэта не толькі святло ў хатах, на ферме, гэта — малацьба, млын, цыркулярка, нарыхтоўка кармоў... Адным словам — усё... Я звяртаюся да вас і таму, што было-б проста неразумна будаваць такую гідрастанцыю, якая задавальняла-б патрэбы толькі аднаго невялікага калгаса. Неразумна і невыгодна. Мы павінны збудаваць станцыю з добрым запасам магутнасці...

Васіль бачыў, як Шаройка нешта шаптаў свайму суседу, быламу загадчыку фермы Карнею і той адразу-ж запытаўся:

— Скажы, Лазавенка, а хто гаспадаром будзе такой электрастанцыі?

Васіль ажно сумеўся ад такога недарэчнага пытання; ён пацінуў плячыма.

— Калгасы.

— Які калгас? Ваш? А мы ў вас пайшчыкамі будзем? Так?

— Усе калгасы будуць мець аднолькавае права...

— Ты добры гаспадар, Лазавенка, і ведаеш, што, дзе многа нянек, там дзіця заўсёды мурзатае.

Людзі весела варухнуліся ў дымным поўзмроку пакоя, але ніхто не засмяяўся.

Ладыніна здзіўляла гэтая напружаная маўклівасць калгаснікаў. Па ўсім відаць, цікавасць да будаўніцтва ў людзей выключная. Але чаму такая пасіўнасць у абмеркаванні? Ён успомніў, як перад сходам Ліда гаварыла Лазавенку:

— Ды вас на руках будуць насіць пасля вашай прапановы.

«Шкада, што не ўзялі яе, няхай-бы пабачыла, як нас носяць», — з усмешкай падумай Ладынін. — Але жарты жартамі, а пара разбіць гэты лёд».

Прадаўжаў гаварыць Карней:

— ...станцыя, значыцца, будзе на нашых гародах, вада залье нашу зямлю, той лужок, дзе кожная наша баба градку пад капусту мае... А гаспадаром яе будзе добры сусед... І мы павінны ісці да яго і кланяцца за кожны гэты самы кіловат энергіі...

— Глупства! — абурыўся Васіль.

— Не, не глупства! Мы так не жадаем! Давайце мы самі будзем будаваць яе, гэтую станцыю. А вас пайшчыкамі запрашаем...

— Калі ласка, — згадзіўся Васіль. — Толькі будаўніцтва пачынаць неадкладна...

Слова папрасіў Шаройка.

— Справа не ў тым, хто будзе гаспадаром, а хто пайшчыкам. Уся справа ў тым, ці зможам мы зараз з нашымі сіламі пачаць такое будаўніцтва? Не можам! Бо калгас наш яшчэ не дарос да такой будоўлі. Для гэтага трэба грошы, а ў нас іх — кот наплакаў. Мы не маем нават сродкаў, каб набыць малатарню, новыя плугі, не гаворачы ўжо аб аўтамашыне, якая нам патрэбна вось так, — ён правёў далоняй па шыі,— да зарэзу... А колькі ў нас сямей у зямлянках...

Ладынін не стрымаўся і іранічна -заўважыў:

— Добра, калі Шаройка пачынае крытыкаваць Шаройку.

Прыціхшая зала заварушылася, весела зашумела.

— Цікава, як вы думаеце, чаму ў «Волі» ўсё гэта ёсць?

Шаройка нібы і не пачуў рэплікі і пытання Ладыніна.

Аднак аб беднасці свайго калгаса больш не сказаў ні слова.

— Каб пачаць такое будаўніцтва, трэба спачатку падвесці пад яго базу добрую, а не проста так сабе... Паважаны Васіль Мінавіч, мабыць, забыў на свой клуб, які ён пачаў будаваць. Пачаць пачаў, а скончыць — сіл нехапае. Дык гэта клуб!.. А гэта гідрастанцыя! Адным словам, хай мяне не зразумеюць так, што я супраць электрастанцыі! Не! Я ўсёй душой. Але, як кажуць, рад-бы ў рай, ды грахі не пушчаюць...

Людзі зноў засмяяліся. Шаройка злосна аглянуўся і сеў, выцершы рукавом ватоўкі пот з ілба.

Васіль выступіў зноў:

— Таварышы! Дзяржава дае нам крэдыт. Нарэшце, усе першапачатковыя грашовыя затраты «Воля» бярэ на сябе. Ад вас патрабуюцца, галоўным чынам, рабочыя рукі...

Сход маўчаў — чакаў чарговага прамоўцы.

Пасля гаварылі Сакавітаў і Ладынін. Інжынер гаварыў каротка. Выступленне сакратара міжволі зацягнулася. Вельмі хацелася давесці людзям тую велізарную карысць, якую дасць ім электрычнасць. Але, скончыўшы гаварыць, ён зразумеў, што аднаго такога сходу мала, каб ідэя будаўніцтва гідрастанцыі завалодала калгаснікамі «Партызана» так, як яна завалодала людзьмі ў «Волі». Акрамя ўсяго іншага, трэба пераканаць людзей, што ў іх хопіць сіл на такое будаўніцтва. Не цяжка сабраць большасць галасоў і прыняць пастанову: моладзь падтрымае. Але якую адказнасць будзе потым адчуваць увесь калектыў і кожны чалавек паасобку? Як будзе ажыццяўляцца гэтая пастанова?

Цікава, што скажа Лескавец? Слова старшыні многа значыць.

Ладынін нецярпліва пазіраў на яго. Максім не спяшаўся. Гэтая яго празмерная паважнасць не падабалася Ладыніну. Для бурнага калгаснага сходу яна была зусім недарэчы. Паназіраўшы за Лескаўцом больш, Ладынін ужо цвёрда ведаў, што ён скажа. І не памыліўся.

— Я думаю, што прыняць канкрэтнае рашэнне сёння, як таго дамагаецца таварыш Лазавенка, мы не можам. Нам трэба ўзважыць нашы сілы і магчымасці, падумаць, што і як, абмеркаваць... Такія справы не вырашаюцца адным узмахам... Вось так...

Ён гаварыў доўга, абгрунтоўваючы сваю прапанову, хоць гэта было зусім непатрэбна. Адразу стала відаць, што большасць згодна з ім.

Васіль Лазавенка быў злосны. На Лескаўца, на Ладыніна, па сябе. З-за сходу ён сарваў агранамічныя заняткі. Прасядзеў у табачным чадзе ўсю ноч. А вынікаў — ніякіх. Яго не магла задаволіць цягучая, як гума, кампрамісная пастанова: перанесці пытанне аб гідрастанцыі на наступны сход. А калі ён будзе наступны сход? А трэба неадкладна пачаць нарыхтоўку і вывазку лесу, каб да вясны матэрыял ляжаў на месцы будоўлі. Аднаму калгасу гэтага не падняць. Непрыемна было ўспамінаць настрой, з якім ішоў на сход. Ён, праўда, не думаў, як Ліда, што іх пачнуць на руках насіць, але ў душы спадзяваўся, што прапанова будзе сустрэта з радасцю. Таму ён не ўтрымаўся і пасля сходу сказаў Максіму:

— Няважна ты пачынаеш сваю дзейнасць. Доўга, відаць, яшчэ калгасам будзе кіраваць Шаройка, а не ты.

Максім успыліў.

— Я бачу — табе хочацца кіраваць нашым калгасам. Ды не толькі нашым. Ты не супраць і украінскага суседа прыхапіць... Дзеяч сусветнага маштаба!..

— Глупства!

— Глупства? Я ведаю, чаго ты хочаш, — кіраваць калгасам-гігантам... Я памятаю, што ты аднойчы казаў... Забыў?

— Не, не забыў.

— Табе, відаць, і гідрастанцыя для гэтага патрэбна. Каб хоць ускосна... Гігантаман!

— Дурань ты, браце, пасля гэтага! — Васіль адвярнуўся, даючы зразумець, што ён не жадае больш і гаварыць.

Максім не на жарты абурыўся.

— Таварыш Ладынін! Я патрабую разабраць нашы адносіны на партыйным сходзе. Я не першы раз чую ад яго падобную абразу. А з-за чаго?..

— Пакіньце, Лескавец! Што вы, як пеўні... Сорамна — змораным голасам адказаў Ладынін. — Падумайце лепш добра аб яго прапанове. Сур'ёзна, па-партыйнаму, выкінуўшы з галавы ўсю лухту, якую вы зараз пачалі верзці...

Васіль, не развітаўшыся, вышаў на вуліцу і там чакаў Ладыніна і Байкова.

Была адліга. Са стрэх падалі буйныя кроплі. Дарога была цёмная і слізкая.

— Я — злосны, як пііпаўскі воўк, — сказаў Васіль, калі яны, нарэшце, закрочылі насустрач моцнаму заходняму ветру, што прынёс адлігу. — На душы такі нагар. Ну, чорт з ім! Не хочуць — не трэба. Пабудуем без іх!

Ладынін сціснуў локаць яго рукі.

— Не гарачыся, Мінавіч. Будаваць будзем разам. Я табе скажу: сённешні сход прынёс больш карысці, чым той, на якім адразу прынялі-б тваю прапанову. На поўмесяца хопіць размоў і самых гарачых спрэчак. А мы павінны ў гэты час не драмаць. Галоўнае: пераканаць, што ў іх хопіць сіл і паказаць, адкуль узяць гэтыя сілы і сродкі.

Байкоў ішоў крыху ззаду і маўчаў. Сход зрабіў пераварот і ў яго душы: знік яго скептычны настрой, цяпер і ён быў за электрастанцыю.

28

Машы выпала дзяжурыць апошнія гадзіны. Усё падрыхтаваўшы, члены камісіі разышліся адпачыць якіх пару гадзін перад, магчыма,

больш, чым сутачнай напружанай і адказнай работай. Маша засталася адна. Пачаўся той дзень, дата якога макамі гарэла на шматлікіх плакатах па ўсёй краіне. Пачалося свята. Маша адчувала яго сэрцам. З часу звароту Максіма ў яе ні разу яшчэ не было такога светлага радаснага настрою; ён завалодаў усёй яе істотай, напоўніў кіпучай энергіяй, якую яна не ведала, куды падзець.

Нячутна ступаючы мяккімі валёнкамі, яна вышла з настаўніцкай у цёмны вестыбюль, па чарзе абышла класы. Усюды палілася ў грубках. Весела трашчалі сухія дровы. Водсвет полымя цераз паддувала, цераз шчылінкі ў дзверцах падаў на падлогу пучкамі. Гэтыя дзіўныя снапы святла трапяталіся, нібы жывыя.

Грубкі дыхалі гарачынёй. Густое паветра пахла елкай.

«Ап'янець можна ад такога водыру», — шчасліва падумала Маша.

У адным класе дзверцы грубкі былі адчынены зусім, і гарачае полымя дагараючых дроў аддавала пакою ўсё сваё чырвонае, трапяткое святло. Па баках, каля дзвярэй і каля вокнаў, быў мяккі поўзмрок, а супрацьлеглая сцяна была ярка асветлена. На сцяне — вялікі плакат: Сталін у поўны рост, за ім — у празрыстай дымцы — вежы Крэмля, блакіт неба. Маша доўга не магла адарваць вачэй. Ружаваты водсвет полымя калыхаўся і па колеру нагадваў ранішні золак, калі толькі што ўзыходзіць сонца, і над роснымі палямі трымціць, калышацца вось такое-ж ружова-празрыстае мроіва. Машы на момант здалося, што Сталін са сваёй шчырай бацькоўскай усмешкай ідзе проста да яе. І ёй вельмі захацелася прывітаць яго і падзякаваць яму за ўсё, што ён зрабіў для народа і асабіста для яе, для іх сям'і.

Убачыўшы, што з аднаго боку плакат адклеіўся ад сцяны, яна падышла і пяшчотна прыгладзіла яго. З яловых галінак, што зялёным вянком аздаблялі плакат, пасыпаліся на падлогу маленькія іголачкі.

«Так хутка высахлі! — здзівілася Маша. — Трэба свежых»...

Яна вышла ў калідор, дзе, ведала, засталіся яловыя лапкі, прынесла іх у клас і доўга і любоўна ўпрыгожвала дарагі партрэт.

Потым ёй захацелася ўсё агледзець яшчэ раз, усё праверыць, хоць гэтым цэлы вечар займалася камісія. Яна ўключыла святло. Ярка ўспыхнулі лямпачкі. Гледзячы на іх, па-дзіцячаму прыжмурыўшыся, яна з удзячнасцю думала пра Васіля.

Працуючы, яна спявала, ціха, часам без слоў — адну жыццерадасную мелодыю, і, прыслухоўваючыся да ўласнага голасу, не пазнавала яго.

Пасля таго, як яна канчаткова пераканалася, што ўсё на сваім месцы, усё, як належыць падрыхтавана, ёй раптам захацелася выйсці, адыйсціся да сельмага і з узгорку паглядзець на залітую святлом

школу. Але покуль яна апраналася, лямпачкі пачалі цьмець і праз хвіліну патухлі. Электрастанцыя спыніла работу.

«Хаця-б ён не праспаў», — падумала Маша аб механіку, хоць добра ведала, што аб гэтым паклапоціцца Васіль.

Яна падышла да акна. З глыбіні марознага неба прыветліва міргалі зоркі. На снезе цераз усю дарогу, ажно да саду ляжаў доўгі цень ад школы: дзесьці над заснежанымі гародамі ўзыходзіў месяц.

Машы ўспомніўся запіс у Алесіным дзённіку (учора ён выпадкова трапіў ёй у рукі):

«У чым паэзія нашага жыцця?»

Яна не прачытала адказ — пасаромелася, хоць ёй вельмі хацелася гэта зрабіць.

Цяпер захацелася адказаць самой.

Толькі яшчэ дзе-ні-дзе ў вёсцы замільгалі праз замёрзлыя шыбы агеньчыкі. Ні ў адной хаце яшчэ акно са двара не запылала чырванню ад полымя ў печы. Не пахла дымам, не рыпеў снег пад нагамі. Нават маўчалі яшчэ спрадвечныя будзільнікі — пеўні. Панавала цішыня. І раптам яе парушыла гучнае рыпенне дзвярэй. На ганку з'явілася Алеся ў кажушку, захутаная ў белую вязаную хустку. Яна весела скочыла з ганка на снег, і ён запішчэў, засмяяўся, зазвінеў пад яе нагамі на ўсю вёску.

Дзяўчына ажно спынілася на момант. Потым махнула рукой, засмяялася і пабегла па вуліцы. Каля такога-ж новага дома, у якім ужо гарэла святло, яна спынілася, хвіліну пачакала, пазіраючы на вокны.

Мароз залазіў пад кажушок, кусаў за шчокі; зліпаліся ноздры, цяжка было дыхаць. Але цела напаўнялася бадзёрасцю. Хацелася сарвацца з месца і бегчы, бегчы ўперад, у поле, насустрач наступаючаму дню, насустрач святу. А тут мусіш чакаць. Алеся ўзлавалася, яе дзявочая гордасць запратэставала: чаму павінна чакаць яна, а не ён?

— Ну, і дам! — яна пастукала кулаком аб кулак і вельмі павольна, нібы вартавы, рушыла назад. Адышлася крокаў за пяцьдзесят, павярнулася.

Супакоілі яе зоркі. Раптам адна з іх пакінула сваіх сябровак і паляцела ў бездань, начарціўшы на небе свой шлях доўгай агністай лініяй, за ёю — другая... Гэта — нібы разведчыкі, бо за імі неўзабаве цэлы рой зорак сарваўся, быццам з нябачаных галін і агнявымі пырскамі ўпаў недзе за сасоннікам. Алеся ні разу за сваё жыццё не бачыла такой прыгожай з'явы, і зоркі прываражылі яе, яна не зводзіла з іх вачэй, нібы чакала, што зараз усе яны сарвуцца з сваіх месц і закружаць у іскрыстым карагодзе.

Стрэлілі дзверы. Загаласіў снег. З двара таго дома, каля якога яна чакала, вышаў юнак. Убачыў яе — весела выгукнуў:

— Добрай раніцы, Алеся!

— Сануля! — адказала яна. — Я поўгадзіны чакаю цябе.

— Поўгадзіны?! — ён паўтарыў гэта такім радасным голасам, што яна тут-жа ў душы даравала яму тыя пяць хвілін, якія ён прымусіў яе чакаць.

— Пайшлі хутчэй! Якое я зараз бачыла дзіва! У хвойнік упаў цэлы рой зорак.

— У хвойнік! Рой зорак! — іранічна прамовіў Павел. — І чаму дзіва? Звычайная з'ява: метэоры...

Яна перапыніла.

— Паўлік, дарагі,-хоць у імя свята пазбаў ты мяне ад сваіх вучоных астранамічна-матэматычных разважанняў

— А ты мяне — ад сваіх вершаў.

— Адразу відзён сухар: у такі дзень — без вершаў!.. Хіба можна!

— Чытай чужыя, толькі не свае.

Яна засмяялася.

Вышлі ў поле. Незнарок, ад душэўнай прастаты і шчырасці, узяліся за рукі. І снег пад іх нагамі не галасіў ужо, а спяваў. А збоку, з вышыні на іх глядзеў стары, шчарбаты месяц і, вядома, зайздросціў іх маладосці, іх шчасцю.

Алеся спытала:

— Слухай, Паша, як ты думаеш, у чым паэзія нашага жыцця?

Да яе пытанняў, заўжды нечаканых і дзіўных, Павел адносіўся насцярожана, бо яна не аднойчы ўжо ставіла яго, выдатніка, «школьнага Ньютона» ў нялоўкае становішча. Можа таму, ён адказаў жартам:

— Для мяне — у рашэнні алгебраічных задач.

— Я сур'ёзна пытаю.

Ён падумаў.

— Для нас з табою зараз у тым, што мы падняліся ў чатыры гадзіны раніцы і, бязмежна шчаслівыя, радасныя, як дзеці, бяжым па марозу, па звонкаму снегу на выбарчы ўчастак, каб прагаласаваць першы раз у сваім жыцці...

Ён сказаў усё гэта з аднаго выдыху, нібы прадэкламаваў вершаваную страфу. Алеся засмяялася:

— О-о! Ды ты амаль паэт! — і пасля кароткай паўзы дадала:

— Шкада толькі, што ты не бяжыш, а цягнешся, як чарапаха, хоць на буксір цябе бяры. Чаму ты ўвесь час запавольваеш хаду? Давай прабяжым!

Але ён, сумеўшыся раптам, не адгукнуўся на яе прапанову.

— Будзеш лаяць?

— А што? — насцярожылася яна.

— Мушу сказаць табе, што мой неспакойны дзед вышаў раней за нас.

Алеся спынілася і так бліснула на яго вачыма, што ў яго, хоць ён і не мог убачыць іх выразу, ёкнула сэрца.

— Эх ты, формула алгебраічная! — і яна рашуча загадала: — Дагнаць і перагнаць!

— Няёмка, Алеся.

— Саромішся? Як-жа: дзед убачыць цябе з Кацубавай Сашай, якую твая шаноўная маці не надта паважае за яе характар! Кавалер саламяны! Можаш ісці, як хочаш. Я сама...

Ён змаўчаў і мусіў падпарадкавацца яе жаданню. Як заўсёды. У яго ніколі не знаходзілася рашучасці пярэчыць ёй. Уздыхнуўшы, ён прыгадаў словы, якія аднойчы сказала маці:

«Што гэта яна, Паўлік, верх над табою бярэ, Кацубіха гэтая? У каго толькі яна ўдалася ў іх? Маша — залаты чалавек, а гэта — вярціхвостка нейкая».

Эх, мама, мама! Нічога ты не ведаеш. Ды і ніхто не ведае. І яна, Алеся, мусіць, лічыць яго проста добрым, шчырым сябрам — аднакласнікам, які заўсёды прыходзіць ёй па дапамогу, нават не спыняецца і перад тым, каб на кантрольных па алгебры ці стэрэаметрыі паслаць ёй шпаргалку. А каб яна толькі ведала, чаго гэта каштуе яму, сакратару школьнай комсамольскай арганізацыі, ворагу ўсіх шпаргалак!

Дзед Яўмен пачуў галасы, па бадзёраму звону крокаў здагадаўся, што даганяюць яго маладыя і, зразумеўшы, што яму не пераспаборнічаць іх, падрыхтаваўся да абароны свайго права на пяршынства.

— Добрай раніцы, дзядуля, — ласкава прывіталася Алеся, калі ямы неўзабаве нагналі старога. Павел сарамліва хаваўся за яе спіной.

— Да раніцы яшчэ, унучка, ой-ёй колькі.

Ён спыніўся, загарадзіўшы дарогу, каб пазнаць іх. Пазнаў і здзівіўся.

— Э-э, ды тут свае, а я быў спужаўся. Думаю, калі трапяцца якія... абгоняць дзеда і дзякуй не скажуць.

— Не хітруйце, дзядуля. Усёадно ваша пяршынства загадала вам памянуць яго добрым словам, — і Алеся, саступіўшы з вузкай зімовай дарогі, рашуча абышла яго.

Дзед абурыўся.

— Будзеш ты шкадаваць пасля, калі парвеш са мной дружбу. На парог дома тады не з'яўляйся. На пушачны выстрал не падпушчу...

Алеся зарагатала.

— Не бойцеся, дзядуля. Мы пойдзем хутчэй, але першы бюлетэнь пакідаем вам. Чэснае комсамольскае.

— Во! Гэта голас! А дражніцца са старымі непрыгожа камсамолцы, — ласкава дакараў ён дзяўчыну.

Тады і Павел смела абмінуў дзеда і са спакойным сумленнем, задаволены, рушыў за сваёй вясёлай спадарожніцай.

Першым з членаў камісіі прышоў Лазавенка. Маша за колькі хвілін да яго прыходу, адчуўшы зморанасць, прылегла на канапе і задрамала. Васіль зайшоў бясшумна, убачыў яе сонную і спыніўся каля дзвярэй, не зводзячы з яе ласкавага позірку... Маша адчула яго, гэты позірк, і расплюшчыла вочы.

— Ты, Васіль?..

У вестыбюль школы зайшлі першыя выбаршчыкі.

Вартаўнік Сямён пачаў з імі гаворку.

— Огось, якія вы раннія. Не дарма кажуць: маладыя, ды раннія.

Васіль выглянуў у дзверы, паглядзеў, хто прышоў, неазначальна працягнуў:

— Але-е... А старшыні яшчэ няма? Добра спіцца з жонкай...

— Вася! Што з табою? — Машу непрыемна ўразіла яго грубасць.

Ён усміхнуўся, шчыра, даверліва:

— Зайздрошчу, Маша. Прыгожа жывуць Мяцельскія. Я часта бываю ў іх, назіраю. Нельга не пазайздросціць. Сына чакаюць... Чаму ты думаеш, што я не здолеў-бы жыць так прыгожа?..

— Я думаю? Дзівак ты, Вася...

Яна сама не прыкмячала таго новага, што з'явілася ў яе адносінах да Васіля.

Адна Ніна Аляксееўна ўсё бачыла, усё разумела і па сакрэту перадавала Лідзе.

Васіль моцна пастукаў указкай у сцяну, за якой была кватэра дырэктара школы.

Адтуль пачуўся адказны стук і глухое «іду-у!»

Неўзабаве прышоў Мяцельскі, Ліда Ладыніна і амаль адначасова — усе іншыя члены камісіі. З імі прышоў Ігнат Андрэевіч. Крыху пазней — старшыня сельсовета Байкоў. А ў вестыбюлі ўжо гудзелі дзесяткі галасоў, рассыпаўся малады смех. Нехта паспрабаваў ужо лады на гармоніку, але яго, мусіць, спынілі: пачакай, хлопча, рана яшчэ.

Асабліва стала шумна пасля таго, як электрастанцыя дала святло. Ладынін сказаў камісіі некалькі цёплых слоў. Мяцельскі з неўласцівай

яму маруднасцю, суха і сумнавата праверыў, як члены камісіі засвоілі свае абавязкі. Усе, у каго толькі меліся гадзіннікі, раз-по-разу пазіралі на іх. А ў каго не было сваіх, тыя глядзелі на ходзікі, што рытмічна адстуквалі хвіліны на сцяне настаўніцкай.

Нарэшце, камісія ў поўным сваім складзе рушыла ў класы, да сталоў і кабін. У вестыбюлі яе прыветліва сустрэлі выбаршчыкі, якіх набралася ўжо добрая сотня.

— Давайце, пачынайце хутчэй! — прапанаваў малады голас, уласніку якога, відаць, вельмі хацелася хутчэй выкарыстаць сваё вялікае права, магчыма, упершыню.

Мяцельскі перакуліў урну, паказаў членам камісіі і пасля гэтага старанна засяргучыў яе.

— Ну, цяпер усе па сваіх месцах! — скамандаваў ён.

Ліда, як сакратар камісіі, першая залезла за стол.

З аднаго боку ад яе сеў Косця Раднік, а Машы давялося сесці з другога, плячо ў плячо. Рукі іх адначасова працягнуліся за спісамі, і яны паглядзелі адна на адну. Ліда раптам аберуч узяла Машыну руку і моцна-моцна пацiснула.

— Харошая вы мая!

Маша зазірнула ў глыбіню яе прыгожых вачэй, і гарачая радасць заліла ёй грудзі: колькі яна ўбачыла ў іх шчырасці, дабраты, сяброўства!

Ігнат Андрэевіч уключыў у настаўніцкай прыёмнік. Школу запоўнілі ўрачыстыя гукі Гімна Савецкага Саюза.

Мяцельскі, схамянуўшыся, шырока адчыніў дзверы класа.

— Таварышы выбаршчыкі! Дазвольце павіншаваць вас з днём выбараў. Прашу прыступіць да падачы галасоў.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ;

### I

Чатыры сасны засталіся стаяць пасярод лесасекі. Тры — так, што краналі адна адну галлём, а чацвёртая — воддаль, каля маладога бярэзніку. І была яна, гэтая сасна, самай прыгожай і высокай з усіх сваіх сясцёр. Здавалася, яе кашлатая шапка краналася цяжкай зімовай хмары, што нерухома вісела над лесам. Нібы свечка, быў яе ствол: знізу — цёмнакарычневы, з тоўстай парэпанай карой, а зверху, каля галля, — гладкі і залаты. Яе сяброўкі, што ляжалі штабелямі бярвенняў, падаючы, не кранулі яе, не абламалі галін, не абдзерлі кары.

Лесасека ад дарогі ішла ў глыб лесу. Там кіпела работа. Адна за адной падалі долу сосны, галасілі пілы, фыркалі коні, гучна падганялі іх ездавыя, тралюючы бярвенні на дарогу. Гарэлі вялікія кастры.

Маша размашыста, па-мужчынску, абцярэблівала толькі што паваленае дрэва. Дзве дзяўчыны з яе брыгады разразалі яго.

— Дзень добры гаспадыням! — з-за лаўжа, з боку бярэзніку, вышаў Васіль Лазавенка, махнуў пугай, прыветліва ўсміхнуўся. Каўнер яго кажушка і бровы заінелі, а валёнкі па самыя калені былі ў снезе.

— Нізкі паклон гаспадару, — жартаўліва пакланілася Дуня Акуліч. А Маша раптам адчула, як у яе гараць шчокі і моцна б'ецца сэрца. Але гэта — ад работы.

Васіль паціснуў ім рукі. Яго рука была цёплая і мяккая.

— Пашкадавалі? — кіўнуў ён на сасну-прыгажуню, што засталася стаяць пасярод лесасекі.

— Але... Пакінулі, — неазначальна адказала Маша.

Ён усміхнуўся.

— Дзівачкі. Дай, Дуня, пілу... Ідзем, Маша, усёадно заканчваем, не пакінуць-жа нам такое багацце чужому дзядзьку.

Маша моўчкі пайшла за ім. Ідучы, ён ударыў пілой аб прытаптаны снег, сагнуў яе. Сталь многагалосна, працягла і прыгожа заспявала, ён аглянуўся на дзяўчыну; у позірку яе было вясёлае захапленне.

— У імя стварэння новай, карыснай чалавеку, прыгажосці няварта шкадаваць нават і такой незвычайнай сасны. Яна свой век аджыла. Ды яна і не памрэ, жыццё яе будзе прадаўжацца, — Васіль задраў галаву, глянуў угору і з захапленнем выгукнуў: — Эх! Але-ж і выгнала яе, нібы само сонца за галлё цягнула!..

Ён скінуў кажух, застаўся ў ватоўцы, падпяразанай шырокім афіцэрскім рамнём. Узяўшы з рук Машы сякеру, абышоў вакол сасны.

— Куды-ж мы яе пусцім? На бярэзнік?

— Многа паламае, Вася...

— Тады давай — на дарогу, хоць вецярок на бярэзнік.

Маша зняла рукавіцу і правяла далоняй па шурпатаму камлю. Цяпер у яе не было ўжо таго пачуцця, якое было, калі яна доўга хадзіла з дзяўчатамі вакол гэтай сасны, доўга любавалася ёю і пашкадавала, пакінула.

Васіль папляваў у далоні, размахнуўся і ўдарыў сякерай па камлю, каля самага снегу. Лязо ўвайшло ў дрэва, сасна загудзела, перадаючы меладычны звон з камля ў верхавіну.

Пачалі пілаваць. Васіль адразу ўзяў хуткі тэмп. Маша папярэдзіла, не спыняючыся:

— Павольней, Вася, зморышся.

— Я? — І спыніўся.

Маша засмяялася:

— Мая Алеся нават бульбу чысціць у рытм... Без рытму, кажа, праца не паэзія, а пакута...

Далей пілавалі спакойна, рытмічна. Але калі дайшлі да сэрцавіны, таўшчыня сасны амаль не давала піле разгону, і белая нітка разрэзу паглыблялася вельмі павольна, амаль непрыкметна. Маша адчувала, што Васіль пачынае пакрыху здаваць: робіць рыўкі, залішне прыціскае пілу. Але яна вырашыла не спыняцца, покуль ён не спыніцца першы: хай ведае, на што яна здатна! А яна можа, не адпачываючы, дапілаваць да канца. Яе апанаваў вясёлы задор.

«Цягні, цягні, дружа. Гэта табе не паперы падпісваць...»

Але раптам яна ўспомніла аб яго ранах і адразу спынілася.

— Адпачнем, Вася.

— Ты-ты... д-думаеш я... змарыўся?

— Не храбрыся, Вася... Пасля трох раненняў...

Гарачая хваля ўдзячнасці і нейкага іншага пачуцця,

якому ён і назвы не знаходзіў, захлынула яго. Яму хацелася ў адказ сказаць ёй такія-ж ласкавыя словы, але ён не мог знайсці іх. Таму з'явілася крыху дзіўнае жаданне: узяць і пацалаваць яе руку. Вось гэтую расчырванелую, шурпатую ад працы руку, якой яна абаперлася аб сасну. Ён ледзь стрымаў сваё жаданне і то толькі таму, што ўспомніў: за імі назіраюць цікаўныя вочы дзяўчат. Не, няхай гэта незвычайна, няхай здасца ёй дзівацтвам, але калі-небудзь ён усё-такі пацалуе яе працавітыя рукі з таой-жа ўдзячнасцю, з якой некалі пацалаваў рукі санітаркі Тані, якая вынесла яго, раненага, з поля бою.

— Аб чым ты задумаўся? — Маша глядзела на яго і ўсміхалася, нібы чытала яго думкі.

— Ды так... А дзе старшыня ваш? Паехаў?

— Максім? Не-э... Трэці дзень напару з Мурашкам працуе. Ды так працуе, што ўсе дзіву даюцца... Удвух за добрую брыгаду выразаюць. Усіх на спаборніцтва выклікаў.

— То-та, бачу я, за тры дні вы зрабілі больш, чым пры Шаройку за месяц...

— Хто — мы? Не паклёпнічай на сумленных людзей, Вася. Забі лепш сякеру, а то будзе цiснуць.

Ён падняўся і забіў лязо сякеры ў разрэз. Піла пайшла лягчэй. Пілавінне пачало адлятаць струменямі і сыпалася на валёнкі. Хвіліна — і сасна, рыпнуўшы, хіснулася ўбок. Яны хутка выхапілі пілу, адскочылі назад і, стаўшы побач, назіралі, узняўшы галовы. Нейкі момант сасна стаяла нерухома, нібы раздумвала, куды ёй лепей упасці, потым крутнулася на пні і пачала павольна хіліцца ўбок. Маша назірала за яе верхавінай і ў апошні раз пашкадавала прыгажуню: вельмі неахвотна яна падала! Але потым, быццам зразумеўшы непазбежнасць свайго лёсу, дрэва набрала хуткасць і са страшэннай сілай ударылася галлём аб зямлю, аб пні. Угору ўзляцела воблака снежнага пылу, ён пасыпаўся на вопратку, на твар, на рукі.

Маша засмяялася. Васіль глянуў на яе і таксама ўсміхнуўся.

— Цяпер не шкада? Гэта заўсёды так... Мы адпілуем самае доўгае бервяно і зробім з яго якую-небудзь галоўную бэльку, якая-б гадоў сто трымала ўсю нашу станцыю. А мы з табой будзем хадзіць і любавацца...

— Сто гадоў? — Маша зноў засмяялася, але тут-жа схамянулася і глянула назад. Дзяўчаты стаялі гуртам каля агню і назіралі за імі.

Ёй здалося, што ўсе яны весела падміргвалі.

— Ну, давай адпілуем тваё бервяно.

Васіль адмераў пілой даўжыню, пачаў вытаптваць снег.

— А ну, весялей, весялей! — нібы з-пад зямлі перад імі вырас Максім. Ён быў у адной гімнасцёрцы, без рамня, шапка па-заліхвацку ссунута на патыліцу, на лоб звіслі пасмы потных валасоў.

— Што, калега, засумаваў па фізічнай працы? Але, брат... рукі ў цябе інтэлігенцкія...

Васіль пацiснуў яго руку і нічога не адказаў, але падумаў:

«Невядома, хто з нас больш засумаваў. Пабачым, ці надоўга хопіць твайго запалу», — і сказаў аб іншым:

— Ты чаго распрануўся? Прастынеш...

— Не турбуйся. Я чалавек загартаваны. Вучу, браце, людзей працаваць. І сваіх, і тваіх... Учора з Мурашкам абласны рэкорд пабілі... Сёння карэспандэнт з газеты быў, здымаў...

— А табе вельмі хочацца трапіць у газету?

— А ты што думаў? Аднаму табе гэтага хочацца? — Максім папляваў у далоні, схапіўся за ручку пілы. — А ну, Маша, давай пакажам, як мы працуем!

2

Дзяўчаты з Машынай брыгады жылі ў лесніка Сувігі. Леснічыха, цётка Тацяна, шчырая, гаманкая жанчына, варыла ім абед, і яны працавалі без лішніх клопатаў. Угаварылі дзяўчаты Машу спыніцца ў лесніка, каб бліжэй было хадзіць на работу. Але ў першы-ж вечар, пасля цяжкага працоўнага дня на марозе, ім раптам захацелася схадзіць у бліжэйшую вёску, у калгасны клуб — «паглядзець, як тут танцуюць». У Машы не было асаблівага жадання хадзіць за тры кілометры, і танцавала яна з невялікай ахвотай, але адставаць ад сяброўак было няёмка.

Аднак, у той дзень Маша адмовілася ісці на танцы. Яна адчувала зморанасць, і ёй хацелася пабыць адной, паляжаць у цёплым, падумаць. Сапраўды, адразу-ж, як толькі дзяўчаты вышлі, яна забралася на гарачую печ і неўзабаве заснула. І сасніла дзіўны сон: Васіль цалаваў яе. Яна прачнулася спалоханая і ўстрывожаная, моцна калацілася сэрца. Што за недарэчны сон? Чаму — Васіль? Чаму ў апошні час яна пачала часта думаць аб ім? Не, не, Васіль проста добры таварыш, з якім можна шчыра пагутарыць, параіцца. А яна па-ранейшаму кахае Максіма. Няхай у апошні час яны сустракаюцца, як чужыя, і гавораць толькі аб калгасных справах, аб тым, аб чым і належыць гаварыць старшыні і брыгадзіру, але-ж яна бачыць, што яму сорамна за свае ўчынкі. Колькі часу прайшло, як ён ужо не наведваецца вечарамі ў Дабрадзееўку, не заходзіць да доктара! Яна-ж усё гэта бачыць, усё прыкмячае. Ды не адна яна: яе сяброўкі сочаць ва. кожным яго крокам і аб усім расказваюць ёй. Але чаму яна пачала думаць аб ім так спакойна, разважліва, як думаюць пра тое, што ўжо ніколі не вернецца?

Маша цяжка ўздыхнула...

Гаспадыня паліла ў печы, чарон награваўся і рабілася горача. Больш выразнымі сталі пахі. Пахла цыбуляй, якая доўгімі пляцёнкамі вісела на жэрдачцы над печчу, і сухімі рамонкамі, якіх нідзе не было відаць, але пах якіх быў даволі моцны. Цьмяна гарэла лямпа. За сталом, стоячы каленямі на канапе, унук лесніка чытаў верш:

Смяюцца з сонцам побач людзі,
А сонца — госць штодзённы іх...

Маша ведала маці гэтага хлопчыка — бясстрашную партызанскую разведчыцу і сувязную — Галю Кардаш. Сустракалася з ёй у атрадзе

Антона Лескаўца. Галя загінула ў апошні дзень перад самым вызваленнем: разведвала нямецкія мінныя палі каля Сожа, была заўважана фашыстамі, уцякала і падарвалася на міне.

Бо што было, ўжо больш не будзе,
Ні марных сноў, ні бед ліхіх.

Галасок хлопчыка быў звонкі, чысты і хвалюючы.

«Што было, таго не будзе... І ты, мой хлопчык, ніколі не будзеш адчуваць сябе сіратой, як не адчувала гэтага я, Алеся, Пеця».

Яна саскочыла з печы, узяла том Горкага, які прывезла з сабой і чытала вечарамі, часам адна, а часам услых — дзяўчатам і леснічысе.

Раскрыла ў тым месцы, дзе было закладзена істужкай, прачытала:

«Всё в Человеке — всё для Человека». Задумалася. Потым, перагарнуўшы некалькі старонак назад, пачала чытаць горкаўскага «Чалавека» спачатку.

«Так шествует мятежный Человек — вперёд и — выше!» — скончыла і чамусьці адразу аглянулася на Валодзю. Ён злавіў яе позірк і спытаў:

— Цёця Маша, чаму вы шэпчаце, калі чытаеце? Напамяць вучыце?

За акном фыркнуў конь. У хату зайшоў Максім. Маша здзівілася, нават крыху ўстрывожылася: што яго прымусіла ў такі позні час прыехаць з вёскі?

— Ты адна?

— Не, удвух... Вось — з Валодзем, — яна палажыла далонь на галаву хлопчыка.

Максім зняў шапку, прысеў на ўслон каля акна.

— Чаму з дзяўчатамі не пайшла? — спытаў, і Маша зразумела, што прыехаў ён без усялякай прычыны і супакоілася; з прыемнасцю, нават з нейкай дзіўнай радасцю, пачала назіраць за яго разгубленасцю.

— Старая я за дзяўчатамі бегаць... Папрацавала — спіна баліць... Вось толькі з печы злезла...

Яна сказала гэта без усмешкі, але ён не мог не адчуць горкай іроніі яе слоў і, пачырванеўшы, грубавата адказаў:

— Ну-у... старая. Больш-бы такіх старых...

— Ды і не маладая...

Ён адчуваў сам, што бянтэжыцца ўсё больш, разумеў недарэчнасць свайго становішча і знайшоў выхад з яго ў тым, што раззлаваўся: усхапіўся, зрабіў крок да печы, крута павярнуўся.

— Што ты заладзіла — старая, старая... Смешна слухаць тваё бабскае ныццё. Сур'ёзна пагаварыць не можаш...

«З якога часу ты пачаў сур'ёзна гаварыць?» — Маша ўбачыла, што ў кухні насупраць прыадчыненых дзвярэй стаіць цётка Тацяна, абапёршыся на чапялу, і дакорліва ківае галавой, і ўсміхнулася. Гэтая ўсмешка яшчэ больш узлавала Максіма — ажно твар яго пакрыўся плямамі. Але ён стрымаў сябе: адсунуў шапку і асцярожна сеў бліжэй да стала. Застукаў пальцамі па кнізе.

— Ты чаму Дуню адпусціла?

— Ёй перадалі, што маці захварэла.

— Захварэла!.. Ведаю я гэтых хворых! Захацела на нядзелю дачку з лесу выцягнуць. Гультаі!..

Маша таксама павысіла голас.

— Дуня — комсамолка. Сама папрасілася ў лес. Не мерай усіх на адзін аршын, таварыш старшыня!

— «Таварыш старшыня»! Хутка, відаць, адзін «таварыш старшыня» застанецца ў лесе.

Маша ўздыхнула. Яна разумела, што ён прыехаў не за тым, каб даведацца, чаму паехала дамоў адна з калгасніц. Не ў Дуні справа. З іншым намерам ён ехаў сюды. Але з якім?.. Ёй захацелася спакойна і сур'ёзна растлумачыць яму, што калгас — не вайсковая часць і старшыня — не камандзір, каб кожны калгаснік асабіста дакладваў яму аб тым, куды адлучаецца. Гэта было-б занадта, Дуня спыталася ў яе, у брыгадзіра, у сакратара комсамольскай арганізацыі, — і гэтага дастаткова. Але яна не сказала, разумеючы, што тлумачэнне такое занадта закране яго самалюбства, і ён зноў узлуецца. Яна нахілілася на стол і ціха, амаль шэптам спытала:

— Ты толькі з-за гэтага і завітаў?

Ён не ведаў, як разумець яе нечаканае пытанне, і разгубіўся, адразу знік яго ваяўнічы, наступальны запал.

— Заўтра ідзіце ў пяцьдзесят трэці квартал, павáліце дубы, — сказаў спакойна, лагодна і, памаўчаўшы, дадаў:— Вам бліжэй адгэтуль...

У гэты момант у хату зайшоў Васіль, ён гучна прывітаўся з гаспадыняй, шумна паціраючы рукі:

— Эх, салонікі варацца. Вось дарэчы... А то я, цётка Тацяна, галодны, як воўк.

Маша падумала: «Ну вось... Зноў сарвалася... Так, відаць, нам ніколі і не ўдасца пагаварыць адзін-на-адзін». Яна ўзняла вочы і сустрэла позірк Максіма. Позірк быў злосны, асуджаючы. Тады яна зразумела, якая прычына яго прымусіла прыехаць. Ён ведаў, што Васіль паехаў у лясніцтва і што назад будзе вяртацца паўз хату лесніка. А таму, не ўбачыўшы яе сярод дзяўчат, ён і прыляцеў знянацку. Абраза зноў абпякла ёй сэрца... Дагэтуль ён так думае аб ёй? А яна

хацела... Маша ўзлавалася і на яго і на сябе. На сябе за тое, што хвіліну назад пашкадавала, што Васіль перашкодзіў ім пагутарыць. Цяпер яна была рада яго прыезду.

Ён стаяў у дзвярах, заінелы, з расчырванелым вясёлым тварам.

— А-а... Не перашкодзіў?

Максім падняўся яму насустрач, засунуўшы на хаду рукі глыбока ў кішэні шыняля.

— Давай без далікатнасці! Перашкодзіў! Інтэлігент!

Усе адчулі сябе няёмка. Маша апусціла вочы ў кнігу.

«Да будут прокляты все предрассудки»... Яна ажно ўздрыгнула, прачытаўшы гэтыя словы, што адразу трапіліся на вочы і былі як-бы яе адказам на абразу, якую зрабіў ёй Максім сваёй падазронасцю.

Васіль адвярнуўся і, распрануўшы кажушок, павесіў яго і шапку на ласіныя рогі, што былі прыбіты да сцяны паміж вокнамі.

Хлопчык, відаць, таксама адчуў гэтую няёмкасць, бо хуценька сабраў свае кніжкі і шмыгнуў на печ.

— А я сёння ў цудоўным настроі,— раптам абвясціў Васіль. — Дамогся і выпісаў яшчэ шэсцьдзесят кубаметраў лесу, пачуў цікавую навіну, прагаладаўся і ў дадатак да ўсяго купіў «чакушку»... пагрэцца, — ён дастаў з кішэні кажушка чацвяртушку гарэлкі, паставіў на падаконнік. Потым пачаў расказваць, як яму давялося пахадзіць, каб выпісаць дадатковую колькасць лесу, як ён палаяўся з Бяловым з-за крэдыту.

— Не разумею, што за чалавек. То бывае залішне шчодры, то раптам капейкі не выпрасіш...

— А мне ён падабаецца, — заўважыла Маша.

— Ды і я яго паважаю, чалавек ён цікавы, вясёлы, гаспадар добры... Толькі неарганізаваны нейкі... Спрачаюся я з ім пры кожнай сустрэчы...

Звычайна маўклівы, Васіль гаварыў амаль бесперапынна. Маша разумела яго. Пасля таго, як Максім раптам прышоў да яго і запрасіў на сход, на якім калгаснікі «Партызана» аднагалосна (нават Шаройка і Карней Лескавец) прагаласавалі за сумеснае будаўніцтва гідрастанцыі, ён пранікся да Максіма павагай, пачаў адносіцца чула, даравАў яму ўсе яго грубаватыя жарты, стараўся дапамагчы ў авалодванні складанымі абавязкамі старшыні і неяк у размове з Ладыніным упэўнена заявіў:

— А ведаеце, Ігнат Андрэевіч, старшыня з яго з цягам часу будзе добры.

Сакратар партарганізацыі адказаў тады:

— У гэтым я не сумняваўся. Інакш мы яго не рэкамендавалі-б... Але пакуль што мне не падабаецца адно. Чаму ён стаў пазбягаць нас? Прыходзіцца лавіць яго, як таго Радніка.

Цяпер Васіль вельмі баяўся, каб недарэчны выпадак гэты зноў не сапсаваў іх узаемаадносін. Але, кажуць, дзе каротка, там рвецца.

Зайшла леснічыха — прынесла салёныя гуркі, хлеб, міску гарачай бульбы, над якой падымаўся слуп белай пары. Ставячы ўсё гэта на стол, яна акінула насмешлівым позіркам хлопцаў, падміргнула Машы.

— Значыцца, гэта тыя самыя супернікі?

У Максіма ўраз сталі круглымі вочы.

— Не сунь, цётка, носа, куды не трэба. Не твая справа!

— Бач ты, які калючы! Пажартаваць нельга. Глядзі, у маёй хаце хвост не задзірай, а то я табе...

Васіль зарагатаў:

— Цётка Таццяна — жартаўніца. Я з ёй другі год ваюю. Яна мяне ўсё жаніць збіраецца.

— І жаню!— рашуча заявіла леснічыха, і, відаць, каб насаліць Максіму, дадала: — За добрага чалавека прыемна і сватаць.

Максім змоўк і сядзеў нахмураны.

Васіль разліў гарэлку ў дзве шклянкі (Маша адмовілася выпіць). Падчапіўшы гурок відэльцам, ён зняў яго другой рукой, адкусіў амаль палавіну і зноў пачаў расказваць:

— Цікавую навіну пачуў у лясніцтве. Калгаснікі са Снежына казалі, што ўчора па радыё вялікую пастанову аб сельскай гаспадарцы перадавалі. Дакладней я даведаўся ад ляснічага, што гэта пастанова пленума ЦК. Адным словам — наша праграма. — Ён паглядзеў на Машу, на Максіма. — Словам, нам трэба, як кажуць, закасваць рукавы. Я вось ехаў і думаў... Ведаеце, мне здаецца, што, захапіўшыся электрастанцыяй, мы аслабілі падрыхтоўку да вясны... Асабліва ў вас... Не крыўдуйце, я ў парадку таварыскай крытыкі. Ты вось тут, Максім, у лесе рэкорды ставіш. Усё гэта добра. А мінеральныя ўгнаенні «Партызан» вывозіць дрэнна. Пазаўчора на бюро райкома гаварылі... Па-мойму, камандзір павінен быць на самым адказным участку...

Лескавец задыхаў часцей звычайнага, цяжкім, доўгім позіркам паглядзеў на Васіля.

— Слухай, Лазавенка, што я табе даўно хацеў сказаць... Я ў твае справы не ўмешваюся, хоць мне, можа, таксама шмат што не падабаецца ў цябе. І я хачу папрасіць цябе: не ўмешвайся, калі ласка, і ты ў справы нашага калгаса. У сваіх памылках мы разбярэмся самі. Ды і кіраўнікоў хапае бяз цябе.. Штодзень упаўнаважаныя бываюць...

Васіль апусціў вочы, старанна запрацаваў сківіцамі, перажоўваючы хлеб. Маша кінула дакорлівы позірк на Максіма.

Хвіліну цягнулася напружаная цішыня. Нарэшце Васіль, праглынуўшы апошні кавалак, выцер хустачкай вусны і проста адказаў:

— На жаль, браце, выканаць тваёй просьбы не магу. Па-першае, характар у мяне не такі, ты-ж ведаеш, па-другое, я — комуніст, і, у дадатак — член райкома. Давядзецца табе прымірыцца, нічога не зробіш, — Васіль развёў рукамі.

— Ну што-ж... Вайна — вайне.

Маша абурылася.

— Якая вайна? Табе хочуць дапамагчы, а ты... Ваяка!.. Сорамна слухаць.

Максім павярнуўся да яе, нервова перасмыкнуў вусамі.

— Ты што, думаеш, у нас з табой горш варацЬ кацялкі, чым ва ўсіх гэтых «ахвотнікаў» дапамагчы?

— Табе хочуць дапамагчы не нейкія там «ахвотнікі», а партыйная арганізацыя, райком. Зразумей гэта, галава,— Васіль гаварыў спакойна, з цікавасцю сочачы за выразам Максімавага твару, на якім вельмі красамоўна адлюстроўваліся ўсе яго думкі і перажыванні. — Ды, нарэшце, кожнаму чалавеку — калгасніку, настаўніку — ты павінен дзякаваць за карысную параду. Інакш кіраваць нельга.

Відаць, не маючы больш што сказаць і адчуваючы недарэчнасць таго, што нагаварыў, Максім падняўся, прабурчаўшы:

— Не бойся, дзякаваць за дапамогу ўмею і я, але...— і пачаў корпацца ў кішэні свайго шыняля, што вісеў на тых-жа ласіных рагах, побач з кажухом Васіля. Дастаў папяросы, і доўга прыкурваў ад лямпы, нахіліўшыся над сталом так блізка да Машы, што яна адчула своеасаблівы, знаёмы яшчэ з таго далёкага даваеннага часу, пах яго валасоў. Потым падняў галаву і раптам усміхнуўся добрай, шчырай усмешкай, забыўшыся на сваё «але». Васіль таксама ветліва змаўчаў — не спытаў, што значыла яно.

— Дык, гаворыш, лаялі за ўгнаенне. Нічога, вывезем і ўгнаенне. Не ўсё адразу. Праўда, Маша?

— Ёсць справы, якія трэба рабіць адначасова, — павучальна адказала яна.

Максім засмяяўся.

— Аднак вы сталі такімі сур'ёзнымі мудрацамі, што з вамі хоць па канспекту размаўляй.

Размова набыла зусім іншы характар — стала больш непасрэднай, агульнай. Управіўшыся каля печы, зайшла цётка Тацяна і далучылася да гутаркі. Расказвалі розныя здарэнні, мясцовыя навіны. Потым у

сувязі з нечым лесьнічыха прыгадала бацьку Максіма — Антона Лескаўца — і ўсе ўспомнілі нядаўна пераžытае — вайну. Загаварылі аб ёй — аб партызанскіх і франтавых справах. Пасуравелі твары. Старая ўспомніла дачку і праслязілася. Валодзя, пачуўшы, што гавораць пра вайну і партызан, хуценька саскочыў з печы і сеў побач з бабуляй.

Васілю пара было ехаць. Праўда, ноч была месячная, светлая, дарога — добрая, аднак не блізкая. Але яму цяжка было пакінуць гэтую цёплую, утульную хату, дзе так прыемна пахла цыбуляй, травамі і хлебам і дзе за сталом, хутаючы плечы ў мяккую шарсцяную хустку, сядзела Маша. Ён выгнаў, дагледзеў каня. Конь ляніва хрумстаў пад паветкай авёс. Мацнеў мароз. Неба, якое з вечара было хмарнае, цяпер мігцела мільёнамі зорак. Лес цёмнай сцяной абступаў хату. За гэтую сцяну падалі зоркі. Гучна трэскаліся ад марозу дубы. Лазавенка не супраць быў згадзіцца на запрашэнне лесніčыхі застацца пераначаваць, але Максім... Ён можа чорт ведае што падумаць. Васіль на хвіліну задумаўся над сваімі адносінамі да яго. Дзіўныя яны, гэтыя адносіны. — дзіўныя сваёй супярэчлівасцю. У душы ён любіць Максіма, паважае, цэніць за няўрымслівы характар, за гарачы тэмперамент, за настойлівасць. Але разам з тым часам такая злосць апаноўвае, што кулакі сціскаюцца. Як давесці гэтаму дзіўнаму чалавеку, што ўсе яму жадаюць самых лепшых поспехаў у рабоце, у жыцці, і ніхто не мае намеру станавіцца яму на дарозе, як ён, дзівак, часам думае?

«Але трэба пайсці развітацца і ехаць».

Задумаўшыся, ён на нейкі час затрымаўся на ганку і раптам пачуў у лесе на шляху скрып снегу, але не пад палазамі — пад лыжамі. Вось ужо чутна, як лыжы стукаюць аб дарогу. Ідуць двое рознымі стылямі; адзін бяжыць, другі едзе, моцна рыўкамі адштурхоўваючыся палкамі. Размаўляюць.

— Зойдзем, Лідуша. А раптам хто-небудзь з нашых тут...

— Ды не-ж, тата. Усе яны ў Краўцах. Я-ж даведвалася.

— Ведаеш, у зімовы вечар цяжка мінаць такі прыветлівы аганёк.

— Скажы, што ты зусім стаміўся, — тады справа іншая.

— Дарэмна ты такой думкі пра мяне.

Васіль саскочыў з ганку і пайшоў ім насустрач.

... Калі яны зайшлі ў хату, Максім і Маша ажно ўсхапіліся з месц ад здзіўлення і, уражаныя, утаропіліся на іх.

Ладынін засмяяўся:

— Здзіўляецеся? Я сам здзіўлены. Але хто добра ведае маю дачушку, той не здзіўляецца. Вось Лазавенка, напрыклад. Для яе гэта звычайная прагулка.

Ён быў у ватоўцы, у ватніх штанах і ў валёнках, якія змерзліся і стукалі аб падлогу, быццам драўляныя. Шапка яго, бровы і вусы пабялелі ад інею. Ліда была ў новым яркаружовым — ажно ў хаце ўсё паружавела, калі яна зайшла, — лыжным касцюме і ў прыгожай пуховай шапцы, з дарожным мяшком за плячыма.

Шчокі яе былі чырвоныя ад марозу, а вочы ззялі радасцю і задавальненнем.

— Бачыш, увесь штаб тут, а ты не хацела заходзіць, — доктар прывітаўся з леснічыхай, потым з Машай. А Ліда першаму паціснула руку Максіму і паціснула неяк асабліва моцна — як добраму сябру, якога доўга не бачыла. Сапраўды яны не сустракаліся даўно ўжо — ад той прыкрай размовы. Максім пазбягаў яе, а калі і даводзілася спаткаць, то вітаўся афіцыйна — кіўком галавы. Але ў душы ён увесь час быў удзячны ёй за тое, што аб размове ніхто трэці не ведае, нават Ніна Аляксееўна, — ён пераканаўся ў гэтым.

Цяпер у яго неяк прыемна ўстрапянулася сэрца.

— Гавораць, Лескавец, вы горы тут варочаеце?

— Не, Лідзія Ігнатаўна, толькі бярвенні. Дазвольце, — ён дапамог зняць ёй мяшок.

Васіль у гэты момант цішком перамаўляўся з леснічыхай — заказваў вячэру. Ладынін пераабуваўся ў сухія валёнкі, якія дала яму гаспадыня.

— Аднак раскажыце, як вы трапілі да нас.

— Проста. Сталі на лыжы і пайшлі. Самае цяжкае было сагітаваць бацьку.

— Не хваліся. Не было-б патрэбы — не дапамагла-б твая агітацыя. Але калі ў кішэні такая навіна і мне карціла хутчэй пагутарыць з гаспадарамі...

Ладынін дастаў з кішэні «Правду», падаў Максіму. Той хутка разгарнуў яе на стале, пачаў чытаць вачыма.

— Чытай уголас, — папрасіла Маша, не жадаючы побач з ім нахіляцца над газетай.

Ён пачаў чытаць пастанову Лютаўскага пленума Цэнтральнага Камітэта партыі. Ліда схадзіла на кухню, абула чаравікі, якія былі ў яе мяшку, і, вярнуўшыся, перапыніла яго:

— Сумна вы чытаеце, Лескавец. Такі дакумент трэба чытаць як добрую паэму. Дайце мне.

Сапраўды, яна чытала хораша. Нават Валодзя слухаў яе, стаіўшы дыханне. Прачытаўшы нейкую частку, яна спынялася, падымала галаву і адным позіркам прымушала ўсіх выказаць свае думкі, абмеркаваць прачытанае.

— Адным словам, лес лесам, таварышы. Безумоўна, трэба і на станцыю нарыхтаваць і дзяржаўнае заданне па вывазцы выканаць і, як можна хутчэй. Але цяпер, — гаварыў Ладынін да Васіля і Максіма, — вам, старшыням, трэба быць у сваіх калгасах, там зараз галоўны ўдар. Угнаенне, рамонт інвентара, збруі, падрыхтоўка насення, дагаворы з МТС... Адным словам, усіх спраў не пералічыш і ўсе яны тэрміновыя і галоўныя. А ў цябе, Максім Антонавіч, атрымалася, як з той світкай. Тут нацягнуў — там парвалася. Гной возяць дрэнна, каваль не працуе. На конях Шаройка ў госці ездзіць...

Максім пачырванеў.

— Вы самі прапанавалі мне ехаць у лес.

— Калі Шаройка з Карнеем тут самагонку пілі... А цяпер, калі тут Маша, комуніст Мурашка, і работа наладжана, як мае быць, табе, кіраўніку, трэба быць у калгасе. Ты гаспадар, твой абавязак думаць пра ўсё адразу...

— Заўтра ўвечары старшыня і я вернемся дамоў, — раптам упэўнена заявіла Маша. — Тут застануцца мае дзяўчаты і за кіраўніка — Мурашка.

Максім здзіўлена паглядзеў на яе, аднак нічога не сказаў.

— Перш за ўсё, таварышы, нам трэба кожнага калгасніка пазнаёміць з гэтым дакументам. Каб людзі адчулі і зразумелі ўсю веліч гэтай сталінскай праграмы.

Лазавенка маўчаў, толькі часта пераглядваўся з Лідай, і гэта крыху закранала Машу. Моўчкі слухала і лесніčыха, падпёршы шчаку рукой і не зводзячы вачэй з Ліды. Толькі, калі пілі чай, старая не вытрымала і выказала сваё захапленне дзяўчынай:

— Якая ты прыгожая! Мабыць, хлопцы б'юцца за цябе.

Ліда зарагатала:

— Нават і не глядзяць, цётка.

— Ой, не хлусі. Праўда, біцца зараз з моды вышла. Вось некалі за мяне часта біліся, дурні.

— Дык хіба зараз тыя хлопцы, цётка? — пажартавала Ліда і паказала на Максіма і Васіля. — Вось яны... яшчэ гадоў па дзесяць не жэняцца...

Чыталі і размаўлялі да поўначы, покуль не вярнуліся з танцаў дзяўчаты.

Лазавенка і Лескавец паехалі начаваць у Краўцы. Ладыніну цётка Таццяна пасцяліла на цёплай ляжанцы, а Лідзе і Машы прапанавала нікеляваны ложак з мяккім матрацам.

Лёгшы пад коўдру, Ліда скурчылася і ласкава прыціснулася да Машы. Галава яе прыемна пахла духамі.

3

У двух сумежных пакоях сельсовета не было дзе ўпасці яблыку: амаль усе калгаснікі «Волі» прышлі на адкрыты партыйны сход. Сесці ўсім не было на чым, і таму сядзелі, галоўным чынам, толькі прадстаўнікі «Партызана» і «Зоркі», якія прышлі раней і да якіх дабрадзееўцы паставіліся, як да гасцей. Але Ладынін з самага пачатку адчуў хітрасць у гэтай незвычайнай ветлівасці гаспадароў: ім хацелася, каб прадстаўнікі адстаючых калгасаў селі тварам у твар з прэзідыумам, а не хаваліся за чужымі спінамі.

Да пачатку сходу было шумна. Але як толькі Ладынін падняўся — усе сціхлі і стала чуваць, як з даху падаюць буйныя кроплі. Унутраныя рамы даўно былі выстаўлены, і ўсплёскі кропляў аб лужыну, што ўтварылася за дзень пад прызбай, былі даволі выразныя, іх пачуў нават глухаваты вартаўнік Сямён, які драмаў, покуль шумелі, і прачнуўся, калі раптам стала ціха.

Даклад Ігнат Андрэевіч рабіў сам. Пытанне было вялікае і надзвычай адказнае — задачы партарганізацыі ў сувязі з пісьмом земляробаў рэспублікі вялікаму Сталіну. Ладынін ведаў, якое агромністае значэнне будзе мець гэты сход, калі ён пройдзе на належным ўзроўні. Трэба было паставіць пэўныя задачы не толькі перад кожным камуністам і агітатарам. Трэба было дамагчыся, каб пачуццём адказнасці за лёс будучага ўраджаю пранікніся члены праўлення, брыгадзіры, усе калгаснікі. З гэтай мэтай Ладынін і склікаў адкрыты партыйны сход. Ён вырашыў яшчэ раз сур'ёзна пагаварыць аб выніках зімовай працы — падрыхтоўцы да сяўбы, а, галоўным чынам,— аб будучым этапе барацьбы за ўраджай — аб правядзенні самой веснавой сяўбы. Пісьмо Сталіну натхніла людзей. Абавязак комуністаў — падтрымаць, падняць гэтае высакароднае натхненне. Але не ўрачыстымі прамовамі, як Ладыніну раілі некаторыя таварышы, а шчырай размовай аб недахопах, прынцыповай крытыкай.

Безумоўна, раней, чым пачаць гаварыць аб недахопах, трэба было сказаць аб станоўчым, аб дасягненнях, даць прыклады, па кім раўняцца. Такія прыклады былі ў «Волі». Але Ігнат Андрэевіч гаварыў у гэты раз аб іх надзіва стрымана. Ён пачаў заўважаць што ў асобных дабрадзееўцаў з'явілася пачуццё самаўпэўненасці, заспакоенасці: «Мы, моў, цяпер усё можам, нам цяпер усё ні па чым!» Яно праяўлялася ў своеасаблівай ганарлівасці, у нядобрых кпінах з суседзяў і вось у гэтай хітрай гасціннасці — пасадзіць адстаючых каля самага стала прэзідыума. Трэба было вытруціць гэтае пачуццё ў зародку ў кожным чалавеку, як ён вытруціў яго ў душы іх старшыні — Лазавенкі. Таму Ладынін даволі стрымана хваліў «Волю», хоць па-

хваліць было за што. Няхай лепей калгаснікі скажуць самі. Скажуць справай. А ён і ім пакажа на недахопы, на тое, што ў іх недароблена, не дагледжана.

І Ладынін сапраўды зрабіў некалькі закідаў і праўленню «Волі». Сцяна дабрадзееўцаў калыхнулася, пракаціўся стрыманы гул здзіўлення.

— Што? У нас замокнуў попел? Не можа быць!

— Як-жа не можа... Нібы ты не ведаеш... Штодзень хадзіў паўз гэты попел!

— Машына райсаюза скінула ўгнаенне не на тым полі, а не я! — закрычаў у апраўданне шафёр калгаса Ягор Кардаш. — Няхай старшыня бярэ на сябе гэтую віну!..

Васіль моўчкі ўсміхаўся.

Больш за ўсё Ладыніну давялося гаварыць аб «Партызане». Справы там ішлі лепш, чым пры Шаройку. Вырасла актыўнасць калгаснікаў, умацавалася дысцыпліна, а гэта сакратар лічыў галоўным, бо ўсё залежыць ад таго, як. будуць працаваць людзі. Праўда, мала людзей падняць, запаліць, трэба пасля гэтага іх правільна, умела весці, разумна кіраваць імі. Лескавец з душой, з аганьком узяўся за працу, — і гэта падняло людзей. За тры месяцы ён ажно прыкметна схуднеў. Ён умеў, як некалі і яго бацька, паказаць асабісты прыклад у рабоце. Быў настойлівым, патрабавальным да людзей і да сябе. Позна лажыўся і рана ўставаў, як і належыць добраму гаспадару. Але ён залішне многа ездзіў па раённых і абласных арганізацыях, часта без асаблівай патрэбы, за дробязямі. У калгасе ён таксама прагнуў усюды паспець, усё ўбачыць сам, нібы не давяраў людзям, ва ўсё ўмешваўся, часам падмяняючы брыгадзіраў, загадчыка фермы, рахункавода. А таму яго намаганні не давалі тых вынікаў, якіх ён жадаў. Яго не хапала на ўсё, ён распыляўся і за дробязямі не бачыў галоўнага. Ладыніну было вядома, што ён так загрузіў сябе работай, што не мае часу пачытаць газету, а Лазавенка ў гэтыя-ж напружаныя дні прачытвае сотні старонак розных кніг.

Сакратар партарганізацыі нястомна сачыў за дзейнасцю Лескаўца, папраўляў яго памылкі, падказваў правільныя рашэнні найбольш складаных пытанняў. Ведаючы яго няўрымслівы, гарачы характар, Ігнат Андрэевіч рабіў гэта спачатку асцярожна, далікатна, звычайна адзін-на-адзін у шчырай гутарцы, або на закрытым партсходзе. Але, урэшце, вырашыў ва ўвесь голас і ва ўсю сілу фактаў «прапясочыць» Лескаўца на адным з адкрытых сходаў, пры людзях, паглядзець, як гэта на яго падзейнічае. Хай падумае пасля, паварушыць мазгамі! І ён рабіў гэта ў сваім дакладзе.

— ...Прыкладаў бясплανавасці, стыхійнасці ў рабоце Лескаўца і ўсяго праўлення «Партызана» колькі хочаш... Вось вам самы свежы. Учора ўся Дабрадзееўка назірала, як калгаснікі з Лядцаў везлі сена з лугу, які знаходзіцца недзе за трыццаць кіламетраў. Везлі на санях па пяску, словам, не везлі, а цягнулі цягам. Ледзь жывыя былі і коні і людзі. А тры вазы сена недзе і зараз ляжаць у Слюдзянцы. А ўсё таму, што і Лескавец і Бірыла, і паважаны брыгадзір Шаройка ўспомнілі аб гэтым сене, якое, дарэчы, спецыяльна пакідалася на час палявых работ, толькі тады, калі пачала раставаць дарога. Гэта называецца «далі адпачыць коням». Аб чым думалі раней? — невядома...

— Лес вазілі, — буркнуў Шаройка.

Ладынін насмешліва паглядзеў на яго. Шаройка ўціснуў галаву ў плечы, нахіліўся.

— Пры вас, Шаройка, і лес ні разу не вывозілі і гной заставаўся ў хлявах...

— І поле пуставала, — дадаў нехта з дабрадзееўцаў.

— Мне думаецца ўсё гэта ад таго, што таварыш Лескавец, як я гаварыў, часам займаецца не тым, чым павінен займацца старшыня...

Максім сядзеў збоку, каля акна, паміж Шаройкам і сваім намеснікам Бірылам. Быў ён знешне спакойны, сядзеў, закінуўшы нагу на нагу, кідаў позіркі ў бакі, усміхаўся, нібы гаварыў: «Любуйцеся, які я!..» Сапраўды, дабрадзееўскія дзяўчаты не зводзілі з яго вачэй. Але чырвань шчок і вочы, у якіх гарэлі нейкія дзіўныя зялёныя агеньчыкі, выдавалі яго хваляванне.

Ладынін гаварыў да ўсіх, але ўпотай назіраў за ім. Часта пазірала на яго і Маша; яна баялася, што Максім не вытрымае і якім-небудзь недарэчным выгукам, пярэчаннем перапыніць Ігната Андрэевіча. А ёй хацелася апладыраваць кожнаму слову сакратара, бо ўсё, што ён гаварыў, было справядлівым, аб гэтым не раз думала яна сама. Але ў той-жа час ёй было шкада Максіма: ніхто лепей за яе не ведаў, як балюча ён успрымае такую крытыку. Яна бачыла больш, чым Ладынін, і больш чытала на яго твары. Вось ён непрыкметна зашпіліў шынель, потым расшпіліў яго і раптам у нейкі міг, які ніхто не заўважыў, аднаго гузіка не стала: Максім схаваў яго ў кішэню.

— Няўжо абавязкова самаму старшыні ездзіць кожны раз у Сельгасснаб за кожнай парай лейцаў, ці за жалезам для кузні? Такую работу мог-бы з поспехам выканаць любы калгаснік. А Лескавец ездзіць сам. А ў калгасе ў гэты час цэлы дзень прастойвае трыер, які быў дадзены на нейкіх два дні. Трыер забралі, і частка насення засталася неачышчаным...

— Колькі таго насення! — не вытрымаў Бірыла.

— Мы не маем права, таварыш Бірыла, пасеяць нядобраякасна ні аднаго гектара. Аб гэтым запісана ў пісьме правадыру, якое вы падпісалі...

Маша ўбачыла, як Максім расшпіліў каўнер гімнасцёркі і выцер шыю бруднаватай хустачкай.

—... Нельга працаваць па-ранейшаму, без агранамічных ведаў. А Лескавец не вучыцца і людзей не прымушае вучыцца. Відаць, таварышы з «Партызана» на чале з сваім старшынёй думаюць, што яны змогуць пражыць «агранамічным» аўтарытэтам Шаройкі. Памыляюцца... І таму я сёння з абурэннем гавару аб выпадку з галоўным аграномам МТС Маслоўскай. Чалавек прыехаў, каб дапамагчы ў падрыхтоўцы да сяўбы, прачытаць лекцыю... А Лескавец, пасадзіўшы яе ў халоднай канцылярыі пачакаць яго «парачку хвілін», знік на цэлы дзень... Што гэта, тактыка Радніка, таварыш Лескавец?

Піліп Раднін, старшыня калгаса «Зорка», неспакойна каўзануўся на лаве.

— Ты што, Піліп, прыліп, што адрываеш штаны ад лаўкі? — іранічна заўважыў Міхей Вячэра, які сядзеў побач.

Скончыў Ладынін свой даклад — Лескавец адразу-ж падняўся і хутка расправуў шынель, кінуў яго на падаконнік.

Грымнуў смех.

— Ото-ж, ажно горача стала хлопцу!..

— Яшчэ-б не!.. Тут і кашулю скінеш, не толькі што...

— А ён ужо расшпіліў яе!.. Глядзіце!..

— Але, браце Максім, гэта табе не за лейцамі ездзіць...

— Ажно вусы абвіслі... Падкруці для выгляду!..

Ладынін зморшчыўся — не падабаліся яму такія жарты. А Машы было проста балюча ад іх, можа, нават больш, чым самаму Максіму.

Байкоў званіў алоўкам па графіне.

— Цішэй, таварышы! Ды менш курыце! Накурылі — ажно дыхаць нечым.

Максім быццам-бы не чуў усіх гэтых жартаў. Моўчкі пастаяў, пачакаў, покуль усталяваўся парадак, потым папрасіў у старшыні сходу слова.

— Тут сакратар наш, Ігнат Андрэевіч, таварыш Ладынін, — ён, відаць, не прадумаў пачатак сваёй прамовы і таму награмаджаў словы без усялякага ладу, — у сваім дакладзе так наваліўся... адным словам, давёў, што ў тым, што сельсовет займае восьмае месца па раёну, а не першае, віноўны толькі адзін чалавек: Лескавец...

— Ты гавары за свой калгас... За сельсовет табе ніхто нічога не гаварыў, — перапыніў яго дырэктар МТС Крыловіч.

— Не, выбачайце, калі ўвесь даклад быў пабудаваны на мне, то дазвольце мне сказаць... Ну, добра, Лескавец не ўмее кіраваць, Лескавец дапускае грубыя памылкі, ездзіць, а толку няма... Адным словам... Лескавец не абапіраецца на калгасны актыў... актыў у яго — адзін Шаройка... Што мае таварыш Ладынін да Шаройкі — я не ведаю... Адным словам, выходзіць, што Лескавец — гэта Шаройка нумар два...

Зноў усе засмяяліся, акрамя Машы; яна моўчкі кусала вусны і не падымала вачэй. Ладынін дакорліва паківаў галавой:

— Дарэмна, Максім Антонавіч, — і падумаў: «Балюча рэагуе. А, можа, гэта і добра».

Максім, мабыць, не пачуў ці не зразумеў, што сказаў сакратар, бо перапытаў:

— Што?

— Нічога, нічога... Гавары.

— Але... таварыш Ладынін прагледзеў адну розніцу... Шаройка не хацеў працаваць старшынёй... Амяльян Дзянісавіч настойліва прасіўся, каб яго вызвалілі...

Тут ужо і Маша не вытрымала, каб не засмяяцца.

Не разумеючы, чым выкліканы смех, Максім павярнуўся да прэзідыума. Шаройка ўпотайкі тузаў яго за гімнасцёрку.

— ... Я-ж сам згадзіўся пайсці працаваць. Я не прашу, каб мяне вызвалялі... Не! Я хачу працаваць!

— Цудоўна! Малайчына! — Ладынін радасна бліснуў вачыма з-пад калматых брывей.

У Машы таксама стала святлей на душы. Яна глядзела на Максіма так, нібы ўбачыла яго ўпершыню. Ён стаяў каля акна расчырванелы, з гарачымі вачыма, памаладзелы і стройны ад таго, што быў туга перацягнуты рамнём, за які трымаўся рукамі, і разгублена азіраўся, відаць, зноў не разумеючы, за што яго раптам пахваліў Ладынін. Потым, мабыць, зразумеў і чамусьці ўзлаваўся — пачаў злосна шыбаць словы:

— Хачу! Але я згодзен: Лескавец не ўмее кіраваць... Не ўмее, бо працуе ўсяго тры месяцы... А хто мяне навучыў, хто дапамог? Чаму таварыш Ладынін не сказаў, як партыйная арганізацыя дапамагла мне? Не бачу я ад яе дапамогі...

Гэта была няпраўда. Ладынін выслухаў яе спакойна, але Лазавенка не вытрымаў і абурыўся. Заўсёды стрыманы, спакойны, ён усхапіўся з месца, сурова адсек:

— Няпраўда! Дзве трэці ўсёй партыйнай работы мы праводзім у вашым калгасе... У цябе лепшыя агітатары...

— Мне агітатары не дапамогуць своечасова пасеяць.

— Ах, вось як! Тады — безумоўна, — Васіль быў так уражаны, што аглянуўшыся на Ладыніна, нічога не адказаў, развёў рукамі, уздыхнуў і сеў.

— Глыбока памыляешся, Максім Антонавіч, вельмі глыбока, — спакойна заўважыў Ладынін.

— Мне трэба насенне гароднiны, якога ў мяне няма. Мне трэба трактар, а мне прыслалі разбітае карыта, — ён кінуў гэтыя словы Крыловічу. — Якая гэта дапамога, як я магу спадзявацца на яе, калі ён не дайшоў кілометр да калгаса і трэці дзень стыне ў полі? Табе добра агітаваць, — цяпер ён наступаў на Васіля, — калі табе вунь які прыслалі, толькі з канвеера. Люба паглядзець... Вядома, ты пасееш першы... А я тыдзень да Крыловіча езджу, прашу конную сеялку... Тут не хацеў-бы, а станеш гастралёрам. Вось вам свежыя факты, Ігнат Андрэевіч, калі яны вас цікавяць...

— А вы ў брыгадзіра трактарнай брыгады спытайце, чаму стаіць трактар, — са спазненнем прапанаваў Крыловіч.

Максім не адказаў. Запал і злосць яго раптам пачалі астываць: у нейкі момант ён зразумеў, што пачынае гаварыць недарэчнасці. Пакрыху збаўляючы тон, пачаў расказваць аб тым, што зроблена, як калгас падрыхтаваўся да сяўбы. Міхал Прымак пасля заўвагі дырэктара МТС дастаў з кішэні блакнот, вырваў лісток і напісаў:

«Фр. Ул.! Калі вы будзеце зноў ківаць на мяне, я выступлю перад калгаснікамі так, як выступаў на нашым апошнім сходзе. Я сароміцца не буду. Вы добра ведаеце, па чыёй віне стаіць Мігай. М. П.»

Крыловіч прачытаў паперку і, прыкметна пачырванеўшы, акуратна згарнуў яе і палажыў у адтапыраную кішэню гімнасцёркі, набітую іншымі паперкамі, патрэбнымі і непатрэбнымі.

Лескавец скончыў нечакана, на поўслове.

Нехта з дабрадзееўцаў ажно з другога пакоя выгукнуў:

— А абавязацельствы вашы якія?

Максім падняўся і разгублена глянуў на прэзідыум, пасля назад, на людзей. Яму стала ніякавата ад таго, што ў запале ён забыў, якое незвычайнае пытанне абмяркоўваецца. Ён не рыхтаваўся да выступлення. Шукаючы падтрымкі, глянуў на Шаройку, потым на Машу, ціхім, няўпэўненым голасам перапытаў:

— Абавязацельствы?

— Але!..

— А мы паслухаем, што скажуць перадавікі, — шукаў ён выхаду з няёмкага становішча.

— Правільна! Раўняйся па нас! — выгукнуў усё той-жа малады задорны голас.

— Абавязацельствы нашы — у пісьме таварышу Сталіну, — Васіль падняў са стала газету. — Вось тут, таварыш Лескавец. Але, дазвольце мне слова, — павярнуўся ён да Байкова і, падняўшыся, зноў звярнуўся да Максіма:

— Я хацеў-бы адказаць табе на твой папрок, які ты Зірабіў усёй партарганізацыі. Але аб гэтым мы пагаворым пасля, на другім сходзе. Я ўпэўнены, што ні адзін чалавек не падтрымлівае тваёй думкі, — ён зрабіў паузу, як-бы чакаючы, што яму адкажуць, але людзі напружана маўчалі. Тады ён зрабіў крок да стала, палажыў далоню на газету, другой рукой прыгладзіў непакорлівыя валасы.

— Таварышы! Калгаснікі калгаса «Воля» перапоўнены пачуццём шчасця: іх абавязацельствы занесены ў пісьмо ад усяго нашага беларускага народа найлепшаму яго другу і правадыру вялікаму Сталіну... Гэта найвялікшы гонар для нашага калгаса... І мне хочацца расказаць, як мы будзем выконваць гэтыя свае ганаровыя абавязацельствы.

— Давай, давай, Васіль Мінавіч! — загаманілі дабрадзееўцы.

— ... Тым больш, што хто-ні-хто сумняваецца ў нашых магчымасцях. Вось, напрыклад, таварыш Раднік не верыць, што на нашых землях можна вырасціць па сто пудоў з гектара...

— Не веру! — рашуча пацвердзіў свае сумненні маўклівы Раднік. — На тваёй зямлі? Не веру!

Васіль змоўк, у куточках вуснаў яго затаілася ледзь прыкметная ўсмешка.

— Не верыш? Што-ж, паслухай, што мы зрабілі і што будзем рабіць дзеля таго, каб нашы абавязацельствы не былі пустымі словамі...

Ён доўга і падрабязна гаварыў аб асваенні севазвароту, аб угнаеннях, апрацоўцы глебы і падкормцы — аб усім тым вялікім комплексе мерапрыемстваў, якія ўжо былі праароблены ў калгасе. Яшчэ больш — аб тым, што будзе рабіцца вясной, улетку, які будзе догляд пасеваў, як будзе вырошчвацца кожная культура і які запланаваны ўраджай на кожным полі, на кожным паасобным участку.

Усё гэта было добра вядома дабрадзееўцам і тым, хто наведваў заняткі агранамічнага гуртка. Але слухалі яго з нейкай асаблівай увагай. Людзі нават не варушыліся, не курылі, шыкалі на тых, хто кашляў. Толькі Маша дрэнна даходзіла да сэнсу яго апошніх слоў. Свае думкі апанавалі яе.

«А мы? Што скажам мы? Няўжо так і прамаўчым? — яна пільна ўзіралася ў твар Максіма, жадаючы адгадаць яго думкі, але рысы яго

твару былі нерухомыя — ён уважліва слухаў, толькі зрэдку выціраў лоб хустачкай. — Няўжо мы не здольны вырасціць такі-ж ураджай, як у «Волі»? Ці ў нас зямля не такая? Ці не аднолькава будзе свяціць сонца і ісці дажджы? Не, выступлю і скажу за сваю брыгаду. Мы зможам вырасціць такі-ж ураджай. А калі...— у душным пакоі ёй на момант стала холадна ад гэтай думкі, — калі не зможам?.. Значыцца, я ашукаю партыйны сход... — Яна хутка зірнула на партрэт правадыра. — Можа лепей змаўчаць? Каб гэта залежала толькі ад мяне, я ночы не спала-б... А то ў брыгадзе шэсцьдзесят працаздольных, розныя людзі, па-рознаму ставяцца да працы. Не, людзі добрыя. Хіба не аб гэтым самым гаварылі яны на апошнім брыгадным сходзе? Усе сыходзіліся на тым, што трэба змагацца за такі ўраджай, як у «Волі». Не, людзі падтрымаюць...»

Маша схамянулася ад воплескаў. Агледзеўшыся, яна ўбачыла добрую, сціплую ўсмешку Васіля і пачала таксама гучна, па-дзіцячаму шырока разводзячы рукі, біць у далоні. Яна радавалася за Васіля, у яе ажно вочы напоўніліся гарачымі слязамі захаплення.

За акном шугануў вецер, моцна ўдарыў у бляшаны дах. Па шыбах нібы нехта сыпануў гарохам; шарыкамі жывога срэбра пакаціліся па шклу буйныя кроплі дажджу.

— Дождж?!— здзіўлена і радасна прашапталі людзі.

Маша схамянулася, адарвалася ад сваіх думак.

«Дождж».

— Да раніцы, бадай, увесь снег змые, — прамовіў нехта са старых.

«Вось яна і прышла вясна», — і раптоўна ўсе хістанні, усе сумненні зніклі. Маша рашуча папрасіла слова.

Дождж ішоў спорны і цёплы. І адразу запахла сырой адталай зямлёй і яшчэ нейкім своеасаблівым пахам, якому няма назвы, але аб якім звычайна гавораць: «пахне вясной». Ноч — хоць вока выкалі. Толькі ззаду, у Дабрадзееўцы, праз заслону дажджу свяціліся вокны хат і адзінокія электрычныя ліхтары — каля «сілавой», урачэбнага пункта, на калгасным двары.

Наезджаная за зіму дарога яшчэ крыху трымала, але ў многіх месцах яе парэзалі ўжо напорлівыя веснавыя раўчакі. Вада журчэла збоку ў канавах.

Яны ішлі, як салдаты ў разведцы, — адзін за адным, з той толькі розніцай, што камандзір — Лескавец — ішоў самым заднім. Маша аглядвалася, бачыла іскры з яго люлькі — ён няспынна курыў. «Хвалюецца і злуецца». Сама яна таксама ўсё яшчэ не магла супакоіцца пасля выступлення і нават, здавалася ёй, хвалявалася больш, чым там, на сходзе. Трывожыла думка: ці вырасце ў іх такі ўраджай, як у «Волі»?

Яна ўспамінала ўсю работу, якую прарабілі ў брыгадзе, рыхтуючыся да вясны. Недаробак было шмат, і яны непакоілі. Суцяшаў толькі брыгадны клін азімага. На ім яны зрабілі і зробяць усё, што робяць на сваім участку жыта дабрадзееўцы. Дарэчы, іх поле мяжуе з лепшым участкам «Волі», і ўсё ў іх будзе аднолькавае. А вось ярына... Яе яшчэ трэба пасеяць. Тут будзе цяжэй. У іх нават не ўся плошча пад вясновы пасеў пазяблена. І гною менш, і насенне горшае, і коні слабейшыя, і трактар трапіўся нейкі няўдалы... Ад гэтых думак яшчэ больш стала трывожна на сэрцы.

«Як я людзям у вочы гляну, калі не выканаю таго, што паабяцала?». Ёй захацелася пагаварыць з Максімам, адстаць, пайсці побач і шчыра пагаварыць. Але яна баялася, што ён не зразумее і зноў можа абразіць яе пачуцці якім-небудзь грубым адказам. Ішлі моўчкі. Толькі Клаўдзя Хацкевіч нешта ціха расказвала дзяўчатам і сама гучна смяялася.

— Ну, бабы, падымай спадніцы!. Будзем скакаць! — прагучэў яе вясёлы голас.

Дарогу перарэзаў раўчак.

Мурашка пасвяціў кішанёвым ліхтарыкам.

— Ну, гэта што! — і першы спрытна окочыў.

— Табе лёгка гаварыць — што! А вось як нам?— бурчэла Клаўдзя. — Дзе там Максім? Ты, чарцяка, у паляўнічых ботах, а я табе ў бахілах павінна дарогу пракладваць. Камандзір павінен быць наперадзе свайго войска!

Максім не адгукнуўся. Маша адчувала, што ён стаіць за спіною ў яе і чула, як смокча люльку: гэта быў смешны гук — цмокае, як малое дзіця. Хутка іх прымусіў спыніцца і згрудзіцца новы раўчак, які журчэў і булькатаў гучней за ўсе папярэднія.

Мурашка зноў пасвяціў і свіснуў.

Лукаш Бірыла пачаў кіем мераць глыбіню і мацаць, дно — дзе зручней перайсці.

Люлька засіпела каля самага Машынага вуха.

— Ты што, таксама вырашыла мне нос уцерці? — сказаў ён ціха, але Машу так непрыемна ўразілі гэтыя словы, што яна на момант разгубілася.

— Зразумей, Максім...

— Ты думаеш, адна ты разумееш, а ў мяне і галавы няма і замест сэрца — камень. Так? Я сам мог сказаць...

— Я табе не перашкодзіла... Я сказала за сваю брыгаду.

— Не перашкодзіла!..

У іх размову, якую яны вялі амаль шэптам, нечакана ўмяшаўся Шаройка, які стаяў ззаду, але якога яны не бачылі.

— Эх, Максім Антонавіч, куранят лічацо увосень. Хто ведае, ці яно падсушыць, ці яно падмочыць. Сказаць лёгка... А мы лепей цішком ды моўчкі... Так яно лепей.

— «Цішком ды моўчкі»! — зняважліва хмыкнуў Максім.

Шаройка адступіў некуды ў цемру. Маша задаволена ўсміхнулася.

Максам наўпрасцяк, хутка і шумна, перайшоў раўчак і пайшоў першы, больш не спыняючыся і не адказваючы на жарты Клаўдзі, якія яна кідала ўздагон.

4

У небе спяваў жаўранак. Людзі, пачуўшы гэты дзіўны спеў, спыняліся і, задраўшы галовы, ссунуўшы зімовыя шапкі на патыліцы, намагаліся адшукаць яго ў яркім вясновым блакіце, які сляпіў вочы. Набягалі слёзы, іх змахвалі далонямі і зноў углядваліся.

— Вунь ён, ву-унь!

— Але... Як камячок... На адным месцы вісіць.

— Толькі крыллямі трапеча.

Дарослыя гаварылі і радаваліся, як дзеці.

Жаўранкавым спевам звінела ўсё навокал у гэты

незвычайны дзень, першы такі ясны і цёплы пасля зімы. Хоць быў канец сакавіка, а сонца пякло, як у маі, і «украінскі» ветрык, як тут называлі вецер з поўдня, прыносіў не халодную вільгаць прадвесня, а духмяную цеплыню сапраўднай вясны, водыр разагрэтай сонцам зямлі.

Адразу, набрынялі буйныя почкі старой вярбы, што расла пад абрывам, схіліўшыся над самай вадой. Здавалася, яшчэ адна хвіліна, адзін момант — і пырснуць гэтыя почкі маладым зялёным лісцем.

Васілю здалося, што гэта здарыцца зараз, на яго вачах, і ён на хвіліну змоўк, нават стаіўся, чакаючы цуда. Магчыма, аб нечым блізкім да гэтага думаў і Ладыінін, бо ён таксама моўчкі пільна глядзеў на вярбу, на хуткую плынь вады. Рэчка выйшла з берагоў, паднялася трохі не на ўзровень абрыву, заліла нешырокую пойму, камель старой вярбы, ажно да самага галля, і нават некалькі галінак было ў вадзе. На поўдзень, за паваротам, дзе пойма пашыралася, і на поўнач, за мастом, дзе ажно да самай Дабрадзееўкі рэчка заліла луг, віднеліся шырокія і спакойныя прасторы вады, па якіх, не ведаючы, нельга было вызначыць, дзе праходзіць рэчышча. А тут, у гэтай вузкай гарлавіне, сціснутай высокімі абрывістымі берагамі, на адным з якіх стаялі старыя дубы, а на другім — сосны, — паводка рвалася наперад, як

раз'юшаная. Вада падмывала пясчаны бераг, вірылася вакол вярбы. Імкліва праплывалі, кружачыся, трэскі, галінкі, тарфяны, гной — рэшткі зімовых дарог.

Таўстая галіна вярбы цягнулася ўгору, узвышалася над берагам. Васіль нахіліўся над абрывам і адламаў галінку з вясёлымі кучаравымі «коцікамі». Панюхаў і засмяяўся.

— Вябра пахне малаком...

Ігнат Андрэевіч здзіўлена паглядзеў на свайго маладога сябра.

— Ну-у, гэта фантазія жывёлавода!

— Сур'ёзна. Між іншым, я заўважыў гэта ўпершыню, калі быў яшчэ вучнем... Помню з мяне смяяліся... Асабліва, гэты... д'ябал. — Васіль кіўнуў галавой назад, у бок Лядцаў, але слова «д'ябал» сказаў па-сяброўску ласкава. Наогул у яго быў незвычайны настрой — сапраўды вясновы. Грудзі напаўняліся нейкім бурлівым захапленнем. Свярбелі далоні рук — хацелася працаваць, галёкаць і смяяцца разам з моладдзю. Ён павярнуўся ад рэчкі. За якіх крокаў сто ад таго месца, дзе яны стаялі, хлопцы з чатырох калгасаў з жартамі і смехам складалі ў вялікія штабялі жоўтыя бярвенні. Старэйшыя мужчыны скаблілі іх. Бярвенні ляжалі тут на ўсёй пляцоўцы — ад рэчкі і амаль да самага калгаснага двара. Покуль трымалася санная дарога, іх хутчэй вывозілі з лесу, а цяпер, усё прадвесне, скаблілі і прыводзілі да ладу.

З другога боку, на пясчаным узгорку, вялікая група дзяўчат і жанчын ускрывалі кар'ер, з якога будаўнікі будуць браць грунт для земляной часткі плаціны.

Яшчэ далей, каля вёскі, і мужчыны і жанчыны працавалі на дарозе, якой яшчэ не было, але якая павінна будзе звязаць стары шлях з стогадовымі бярозамі, што ішоў адсюль на Украіну, з будаўнічай пляцоўкай.

— Кіпіць работа, Ігнат Андрэевіч!

— А-а? — Ладынін адвёў позірк ад рэчкі. — Прыгожая мясціна. Дуб які прыгожы! Волат! А работа яшчэ не так закіпіць...

Лазавенка раптам засвістаў нейкую вясёлую мелодыю.

Ладынін здзіўлена, хаваючы ў вусы хітраватую ўсмешку,назіраў за ім.

— Баюся, Ігнат Андрэевіч, што палявыя работы спыняць будаўніцтва.

— А мы сёння павінны цвёрда дамовіцца і запісаць... Будзем змагацца, каб не было ніводнага дня перапынку. Справа не толькі ў тэмпах. Баюся іншага: спынім мы работы на якога поўмесяца — і Сакавітаў сапраўды выедзе. Чакай тады, покуль «Сельэлектра» прышле свайго інжынера. Гэты чалавек не можа сядзець без работы і не

можа адарвацца, пакінуць яе, калі работа ідзе добра, калі кожны працоўны дзень ставіць яму задачы на наступны дзень...

Яны ішлі да штабеляў. Лазавенка раптам спыніўся, прыслухаўся.

— Ты чаго? — спытаў Ладынін.

Васіль весела кіўнуў галавой:

— Гудзіць!

Недзе вельмі далёка, за Лядцамі, а, можа, нават і за Дабрадзееўкай, гудзеў трактар.

— Працуе. Сёння засеем першыя гектары. Ігнат Андрэевіч, трэба сур'ёзна пагаварыць з Лескаўцом. Якога ліха ён не пачынае! У «Партызане» ёсць мясціны вышэйшыя, чым у нас... А глядзіце, як сохне зямля. Нельга адкладваць ні на адзін дзень. Хай заўтра-ж пачынае. Выбарна... Хопіць яму слухаць Шаройкавы парады!..

— Пагаворым і моцна пагаворым...

З рэчкі даляцеў вясёлы выгук:

— Ого-го!

Хлопцы ад штабеляў кінуліся на бераг глядзець.

— Пецька, бяжым, нехта топіцца!

— Але... Не тым-бы голасам ён крычаў, каб тапіўся!

Ладынін і Лазавенка таксама пайшлі да рэчкі.

На самай сярэдзіне разліву, дзе праходзіла рэчышча і дзе плынь была асабліва хуткая, круцілася невялікая лодка. У ёй сядзела трое. На карме — інжынер Сакавітаў з рулявым вяслом у руках і з даўгой жардзінай, якая ляжала ў яго на каленях. На носе лодкі — сярэдніх год жанчына ў зімовым паліто, у белай шароцянай хустцы, якая прыемна маладзіла яе твар. Гэта — Гайная, Кацярына Васільеўна, старшыня суседняга украінскага калгаса «Дружба». Яна сядзела нерухома, з акамянелым тварам — як статуя.

Трэцім — быў Максім Лескавец. Без шапкі, у адной гімнасцёрцы, ён з усяе сілы працаваў вёсламі. Сакавітаў намагаўся зруляваць да берага, у невялікую затоку каля калгаснага двара, выбітую за многія гады жывёлай, але плынь цягнула лодку да супрацьлеглага берага, і яна круцілася на адным месцы.

— У Гайнай душа ў пятках, — заўважыў Пецька Кацуба, і хлопцы дружна зарагаталі.

— Сяргей Паўлавіч! Рулюйце да таго берага, там спакойна. А адтуль — наперарэз, — раілі хлопцы.

— Максім Антонавіч! Давай да маста, тут вам не сыйсці, — крычаў Лукаш Бірыла, з прыкметнай трывогай за свайго старшыню, і, не ўхваляючы, бурчэў: — Чэрці. Жартачкі знайшлі. Выкупацца захацелі. Гэтая Гайная, як сякера, — ураз на дно пойдзе...

Але лодка раптам, нібы сарваўшыся з якара, хутка і роўна пайшла ў патрэбным кірунку.

Кацярына Васільеўна першая выскачыла, пацягнулася, па-мужчынску развёўшы рукі, а потым зусім па-жаночаму выцерла махрамі хусткі твар.

Убачыўшы Васіля і Ладыніна, засмяялася.

— Ну, і нагналі мне страху вашы інжынеры. Захацела, старая дурніца, паплаваты. Сядзела і ўспамінала, каму я Доўжна засталася на цім свіце. Здароў, Васілёк жытнёвы! Добры дзень, доктар.

— Дзень добры, Кацярына Васільеўна. Нешта ты вясну палохаеш.

— У мане ангіна, дарагенькі, шчоб яна скісла. Жыцця не дае...

Сакавітаў і Максім з дапамогай хлопцаў выцягвалі на бераг лодку.

Васіль з іранічнай усмешкай глядзеў на Гайную. У душы ён крыху недалюбліваў гэтую шумную жанчыну з яе робленай прастатой, старамоднымі, нейкімі бабскімі, зваротамі да людзей, нават старэйшых ад яе, — «саколік», «дарагенькі». Недалюбліваў за ўпартасць і за тое, што яна залішне хвалілася сваім калгасам. Год назад Гайная сама прыехала ў Дабрадзееўку і прапанавала Васілю заключыць соцумову. Але калі справа дайшла да праверкі спаборніцтва, яна ўпарта не хацела пагадзіцца з тым, што «Дружба» адстала, што гаспадарка ў яе развіваецца аднабакова. Давялося складаць вельмі аўтарытэтную камісію, былі сакратары райкомаў, аграномы, старэйшыя калгаснікі, але і з яе заключэннем яна не згадзілася і прадаўжала ўпарта стаяць на сваім.

— Да Кіева дайду, а не згаджуся! Вы паглядзіце, якія ў мяне каровы!

Сапраўды, каровы былі адменныя. Догляду за імі яна аддавала асаблівую ўвагу і ўсе галіны невялікай гаспадаркі падначальвала малочнай ферме. Усё, што рабілася ў калгасе, рабілася дзеля кароў. Дарэмна Васіль спрабаваў гаварыць ёй аб яе памылцы — аб разрыве паміж «двума цэхамі», аб тым, што адставанне паляводства не дасць магчымасці далей развівацца і жывёлагадоўлі.

— Будзь ласкаў, не чытай ты мне мараляў. Сваіх дарадчыкаў поўны раён, спакою від іх не маю, а яшчэ ты... У мяне самы лепшы луг, я сваім лугам тры такія фермы пракармлю. У цябе такіх кароў цераз дзесяць рокіў не будэ. А ты даказваеш!..

— Не бачыла ты сапраўдных кароў, Кацярына Васільеўна.

Яна ўзлавалася і ледзь не выгнала яго з канцылярыі пры маладой настаўніцы. З таго часу Васіль махнуў рукой і не ездзіў да яе доўгі час, ажно покуль Ладынін не параіў яму прапанаваць Гайнай удзельнічаць у будаўніцтве гідрастанцыі.

— Шчо ты, Васілёк, кветка лугавая, дывішся на мэне, як кіт на сало?

Васіль засмяяўся.

— Папрыгажэлі вы, цётка Кацярына! Памаладзелі.

— Усёадно табе застарая.

— Аднак на лодачцы вы катаецеся з маладымі. Прыпамятаюць яшчэ вам гэтую рачную прагулку, — сказаў ён з сур'ёзным выразам на твары.

Гайная ўтаропіла на яго здзіўлены позірк.

— Ад каго?

— Ад жонкі Сяргея Паўлавіча.

Сакавітаў падышоў і стаяў збоку, закурваючы. Усміхаўся. Васіль па-змоўшчыцку падміргнуў яму.

— Прамахнуўся, галубок. Раіса — мая хрэсніца...

— Вялікая справа — хрэсніца! Аднак адкуль у вас столькі хрэснікаў?

— Ты шчо, дарагенькі, жаніўся?..

— Чаму?

— Раней ты быў больш сур'ёзны... Менш аб грышных справах думаў.

— Вясна.

— Ды ўжо-ж... А хрэснікаў... Каб ты ведаў колькі іх у мяне. Я тількі за цю війну, можа, сотню пэрэхрыстыла...

— Вы? — із дзівіўся Ладынін, ведаючы, што Гайная ў вайну была ў партызанах.

— Царква ў нас была толькі ў Піўнях, а папом там быў наш партызан. А я ўвесь час сувязь з ім трымала. А з чым да папа ісці, каб немцы ды паліцаі не чапляліся? Вось я і насіла і вадзіла да яго дзяцей. Такія траплялiся хрэснікі, што вядзеш, вядзеш яго, а куды не гаворыш... А ўбачыць ён папа, вырве руку, шмыгане за дзверы або зусім праз акно — і толькі бачылі яго, адны пяткі бліскаюць...

— Прызнайся, што схлусіла на хаду, — засмяяўся Васіль.

Гайная накінулася на яго:

— Далібог-жа, праўда. Але што з табой, малаверам, гаварыць! Ты сам сабе раз у год верыш!— і, махнуўшы на яго рукой, звярнулася да Ладыніна, выраз твару яе і голас перамяніліся, яна стала сур'ёзнай, паважнай, як належыць кіраўніку, які ведае сабе цану. — Ігнат Андрэевіч, ёсць у мяне просьба да цябе. Захварэў адзін мой «хрэснічак», гарыць хлопец, як свечка, а фельчарыца, вы-ж ведаеце, якая ў нас — молада-зелена... А да раёна... Дзе ён наш раён!

— Добра, Кацярына Васільеўна, — перапыніў яе Ладынін. — Я паеду. Але на чым?
— За мной прыедуць, дарагенькі. Лепшага каня прышлюць.
Васіль уздыхнуў.
— У вас-жа ўрач у Барку. Пяць кілометраў усяго.
— А я, можа, не хачу таго. Я Ігната Андрэевіча паважаю.
— Добрая павага! Чалавеку няма ні дня, ні ночы. Хоць разарвіся на часткі.
— Чорствая ў цябе душа, галубок. Калі дзіця хварэе — за сто вёрст паедзеш.
— Пакінь Лазавенка! Я не люблю адвакатаў, — нахмурыўся Ладынін і сярдзіта адышоў убок.
Гайная насмешліва спытала ў Васіля:
— З'еў, голубе?
Максім Лескавец у гэты момант быў каля калгаснікаў, дыміў сваёй люлькай, лазіў па штабелях, жартаўліва спрачаўся з маладымі хлопцамі.
— Старшыня! У цябе не люлька, а самавар!
— Прымацуй да не кормазапарнікі!.. Карысць будзе!..
— А хто гэта, чэрці, так скобліць? — ён стукнуў нагой аб бервяно. — Толькі поўбока аблуплена, як у казы.
— Гэта Карней усё пра ферму думае.
— Пра малачко!..
— Баіцца, што Клаўдзя без яго з каровамі не зладзіць.
Былы загадчык калгаснай фермы Карней Лескавец чырванеў, сціскаў кулакі, але маўчаў — толькі зіркаў па баках і сапеў. Чалавек ён быў гультаяваты, і моладзь яго недалюблівала.
Гайная спынілася супраць штабялёў і, відаць, ужо забыўшыся на размову з Васілём, зноў хвалілася перад ім.
— Вунь мае арлы як варочаюць! — Хлопцы з калгаса кацілі ў штабель бервяно. — Пахвалі хоць раз, гаспадар! А то табе — усё дрэнна... А як він гарна співає!— яна задрала галаву і, прыставіўшы да ілба далонню, паглядзела ў неба. — Дэ він?
Жаўранак нястомна звінеў. Па небе плылі белыя хмаркі. З абсмаленых бярвенняў празрыстымі кроплямі сцякала смала. Людзі скідалі ватоўкі, шынялі і працавалі ў адных стракатых кофтачках і сарочках.
— Ой, хутка сохне маці-зямелька, — спявала Гайная.— Хутка. Давядзецца, нам спыніць пабудову на час палявых работ. Не выцягнем.
— Вось яны, Мінавіч, капітулянцкія настроі! — заўважыў Ладынін. — Не, шаноўная Кацярына Васільеўна, мы і сабраліся сёння, каб

абмеркаваць: як зрабіць так, каб работы на будаўніцтве не спыняліся ні на адзін дзень, — Ладынін употай зірнуў на Сакавітава, той стаяў і моўчкі глядзеў некуды ў далеч, за рэчку, паглыбіўшыся ў свае думкі.

— Ой, цяжка будзі — уздыхнула Гайная.

— Вось гэта і добра, што цяжка, — усміхнуўся Ладынін.

Падышоў Лескавец і, даведаўшыся, у чым справа, упэўнена заявіў, пераможна глянуўшы на Васіля:

— Мае пятнаццаць чалавек будуць працаваць без адрыву!

— Ты, галубок, сеяў хоць раз?

Максім пачырванеў.

— Пасееш — дазнаешся, чаго варта ў такі час кожна людына, асабліва цяпер пасля вайны.

— Толькі не палохайце, Кацярына Васільеўна! Мы не з палахлівых. Сеялі і ведаем, — Васіль прамовіў апошнія словы з своеасаблівым націскам, сярдзіта. — Я падлічу і дакажу вам, што на сяўбе ў вас штодзень гуляе палова людзей.

— Навучыўся ты падлічваць чужых людзей.

— За суткі вада спала на сем сантыметраў, — раптам, перапыніўшы іх спрэчку, паведаміў Сакавітаў і задумліва працягваў: — Увойдзе рэчка ў берагі — вынесу праект у натуру і... прасіце спецыяліста «Сельэлектра»... Я сваю справу зрабіў. Чым мог — дапамог. Больш не магу! Работа, кватэра — усё гатова... Во колькі атрымаў за зіму пісем — ён паляпаў далонямі па раздзьмутай кішэні, хоць там былі зусім не пісьмы, а паперы з разлікамі будаўніцтва.

З-за штабеляў выехала фурманка, на возе плячо ў плячо сядзелі два чалавекі і мірна гутарылі. Лазавенка засмяяўся:

— Глядзіце, Байкоў і Раднік памірыліся. Скончылася гульня ў ката і мышку.

Па прапанове Ладыніна ўсе селі тут-жа, на бярвеннях, і Васіль Лазавенка абвясціў паседжанне міжкалгаснага совета адкрытым.

## 5

З поля Маша вярнулася позна. Аднак не пайшла адразу ў хату. Узышла на ганак і апусцілася на лавачку, прыціснулася да яшчэ цёплай сцяны. На нейкі момант зморанасць скавала ўсё цела, яна сядзела абыякавая да ўсяго, што рабілася навокал, слухала і не ўспрымала гукаў. Даўно ўжо сцямнела, хоць за рэчкай на паўночным захадзе неба было светла-блакітнае, без зорак, з ружовай паласой над даляглядам. Рэдкія зоркі мігцелі над галавой. Было душна. Над вуліцай яшчэ вісеў пыл, падняты статкам. А вёска была напоўнена гукамі. Каля

школы гулялі дзеці ў схованкі, крычалі і весела смяяліся. Потым хлапчука, відаць, пакрыўдзілі, і ён голасна заплакаў.

— Я ма-а-ме скажу-у!..

Зазыўна мычэлі непадобныя каровы, гаспадыні якіх, відаць, затрымаліся на гародах. На калгасным двары жаласліва іржала жарабё: кабыл выгналі на начлег, а маладняк пакінулі — баяліся ваўкоў. Галасіста, ажно далёка на паплавах адгукалася рэха, гагакалі гусі. Звінеў малады дзявочы смех, радасны і прываблівы. А ахрыплы жаночы голас злосна гукаў:

— Федзя, а Федзя! Колькі я цябе буду клікаць! Ну, паганец, не прыходзь дамоў! Я табе дам!

Забрынчэла і змоўкла балалайка. А ў кустах каля рэчкі заскрыпеў дзяркач, і пачыналі бязладны «канцэрт» жабы. Недзе каля Дабрадзе-еўкі заспявалі дзяўчаты. І гэты далёкі спеў схамянуў Машу, вывеў з стану задумлівасці. «Спяваюць... Гэта Насціна звяно з поля вяртаецца. З праполкі. Ужо з праполкі...»

Маша адарвалася ад сцяны і пацерла далонямі каленкі, якія нылі ад стомы, уздыхнула і думкі паплылі, як заўсёды, — імклівыя, напружаныя!

Ох! Якая гэта цяжкая работа — брыгадзірам! Цэлы дзень на нагах, ад цямна да цямна. А вынікі... У «Волі» пачалі палоць ужо, а ў іх... У іх яшчэ раннія не пасеяны, а колькі бульбы, проса, гародніны... Праўда, у яе брыгадзе справы значна лепшыя, чым у другіх. Але хіба можа выцягнуць увесь калгас адна яе брыгада? Ды і не такія яны ўжо лепшыя і яе справы. Не трэба забывацца, што яна давала абяцанне на партыйным сходзе... Пры думцы аб гэтым ёй заўсёды рабілася горача. Але хіба зраўняешся з «Воляй», калі яны кожную культуру пасеялі ў самыя дакладныя агранамічныя тэрміны? А вясна вунь якая — сухая, ніводнага дажджу. У полі ад пылу дыхаць нельга, на ўзгорках вятры выдзьмулі зямлю, і зерне ляжыць на паверхні, сохне і не прарастае. У такую вясну на якія два дні пасееш пазней — і на два цэнтнеры атрымаеш менш. Але чаму яны так адстаюць? У чым прычына? Яна ведала: прычын многа, яны агульныя, аб іх многа пішуць у газетах, гавораць на сходах. І яна не ўдумвалася ў іх сутнасць. Яе цікавіла адно пытанне, і яна кожны раз пасля такіх думак вярталася да яго. У чым сіла Васіля? Чаму ў «Волі» такі парадак, такая арганізаванасць, такі, як гаворыць Алеся, рытм у рабоце? Раней, пры Шаройку, яна адказвала на гэтае пытанне проста: сіла гэтая ў тым, што старшыня душой хварэе за калгасную гаспадарку, а не думае аб уласнай нажыве, як Шаройка.

Але Максіма нельга папракнуць, што ён не турбуецца за калгаснае дабро, а дбае аб сваім. Маша ўпэўнена, што ў яго не меншае жаданне зрабіць свой калгас передавым, чым у Васіля. Сапраўды, ён проста, як кажуць, «гарыць на рабоце», асабліва пасля таго адкрытага партыйнага сходу. Дык чаму-ж яго добрыя намеры не прыводзяць да такіх-жа добрых вынікаў?

Ёй вельмі хацелася, махнуўшы рукой на бабскія перасуды, схадзіць да Васіля, распытаць усё па-сяброўску, параіцца, папрысутнічаць на нарадах, на паседжанні праўлення, пахадзіць з ім па полі. Ёй здавалася, што, каб яна ведала гэты сакрэт, яна знайшла-б, як перадаць яго Максіму, і прымусіла-б яго кіраваць так, як кіруе Лазавенка.

У душы яна злавалася на Васіля за тое, што ў апошні час ён рэдка наведваецца, не цікавіцца справамі іх калгаса.

«А яшчэ член райкома».

Яна не ведала аб размове, якая адбылася паміж ім і Максімам, калі апошні пасля ўсіх сваіх запэўненняў усё-такі зняў з будаўніцтва гідрастанцыі людзей.

А тут яшчэ хвароба Ігната Андрэевіча...

«Не, не! Так далей нельга! Трэба нешта рабіць. Раённыя прадстаўнікі нас абмінаюць, лічаць «сярэднімі, моцнымі»... А на самай справе, сярэдзіна гэтая — небяспечная»...

На другім баку вуліцы пачуліся галасы. Маша пазнала Максіма і Шаройку. Праз хвіліну ў доме Шаройкі скрыпнула брамка і сонна адгукнуўся сабака.

У Машы ёкнула сэрца, а пасля сціснуліся кулакі.

«Вось яна, гэтая прычына... Зноў павёў, каб напаіць... Карыстаецца яго слабасцю... і муціць ваду... Хоча даказаць, што вышэй узняць калгас нельга, чым узняў ён, Шаройка. Як Максім не разумее. Як можна не разумець!..»

Згушчалася цемра. На небе загараліся новыя зоркі. Паступова заціхала вёска. Толькі недалёка плакаў хлапец, відаць, той Федзя, якому маці добра задала, што доўга не ішоў дахаты. За домам, у хляве, жавала жвачку і цяжка ўздыхала цёлка. Маша ласкава падумала аб ёй: «Цяжка табе? А ты хутчэй цяліся. Табе будзе лягчэй і нам добра. А то мы ўсю вясну на посным сядзім».

Паўз хату прайшла жанчына. Мінуўшы ганак, спынілася, угледзелася.

— Ты, Маша?

Маша пазнала голас, уздрыгнула.

— Я.

Сынклета Лукічна паднялася на ганак, села побач.

— Адна сядзіш? — і, магчыма, зразумеўшы недарэчнасць свайго запытання, папраўілася — спытала ласкава і шчыра: — Змарылася? — і паклала руку па плячо, абняла. Ад гэтай ласкі Машы стала шкада сябе, пад горла падкаціўся салёны камячок.

— Змарылася, — шчыра прызналася яна. І, памаўчаўшы, дадала: — Змарылася, цётка Сынклета... Бегаеш, бегаеш...

— А я засумавала па табе. Даўно ўлад я не сядзела з табой вось так, не гутарыла, як некалі... Помніш?.. Бачу штодзень і ўсё зводдалі. І крыўдна мне... Чаму гэта ты мяне абходзіш, на работу не загадваеш? Няўжо я лішняя ў калектыве стала? Ці можа, думаеш, рабіць развучылася?

— Ну, што вы, цётка Сыля! Я думала, вам пры сваёй хаце работы хапае. Нам вось усім калгасам збудавалі, а вы самі... Трэба і прыглядзець, і рабочых пакарміць...

— Ды няма іх зараз, рабочых... Ён-жа, як толькі зняў людзей са станцыі, так і са сваёй хаты разагнаў усіх — і сваіх калгаснікаў і свата Ягора з Ясакараў. «Не хачу, — кажа, — каб пальцамі паказвалі...» — яна памаўчала і, уздыхнуўшы, сказала: — Цяжка і яму, Машачка. Не ведаю, калі і спіць. Бегае дзень і ноч. Злуецца.

— А толку мала.

Сынклета Лукічна доўга маўчала. Ёй было крыўдна за сына. Адна яна, маці, ведала, як ён працуе, хвалюецца. Але і Машу ёй не хацелася пакрыўдзіць і, падумаўшы, яна лагодна згадзілася:

— Малавата. Але-ж не ўсё адразу, Машанька...

— Зараз зноў пайшоў да Шаройкі.

Плечы ў маці перасмыкнуліся, як ад нечаканага дотыку халоднага.

— Сябра знайшоў, парадчыка... Покуль ён не кіне слухаць Шаройку, толку ніколі не будзе.

Сынклета Лукічна хвіліну памаўчала, потым таксама раптам загаварыла суровым голасам:

— А я, Маша, і цябе абвінавачваю. Ну, прабегла кошка паміж вамі. Я ведаю, што вінаваты і ён... Маладыя, гарачы... Але-ж ты дзяўчына. Няўжо ты не можаш дараваць? Ты-ж ведаеш: ён горды, і сам цяпер, можа, ніколі першы не загаворыць...

— Ён горды, а я, па-вашаму, не гордая? Не, цётка Сынклета, я таксама гордая: прасіць не пайду, — яна сказала гэта і сама спалохалася сваіх слоў.

Сынклета Лукічна ўздыхнула і зняла руку з пляча дзяўчыны.

— Гордасці ў нас ва ўсіх многа, а вось розуму часам нехапае.

— Вы не крыўдуйце на мяне, цётка Сыля. Я з вамі, як з маці роднай — ніколі душой не крыўлю.

На руку Машы ўпала гарачая мацярынская сляза, але дзяўчыне здалося, што ўпала яна не на руку, а на сэрца — так яно балюча сціснулася. Хацелася чым-небудзь суцешыць старую, але не знаходзіліся патрэбныя словы. І яны доўга сядзелі моўчкі, прытуліўшыся адна да аднае.

— Ды я таксама шчыра, — нарэшце сказала Сынклета Лукічна. — Я толькі аб тым, каб як адарваць яго ад гэтага... ад Амелькі...

— Нічога, хутка ён зразумее, — упэўнена сказала Маша і сама паверыла ў гэта.

Адчынілася акно і з яго высунулася Алеся.

— Гэта ты, Маша, тут?

— Ну, я пайду, Машанька. Добрай ночы табе. Дык глядзі не забывай на мяне — кліч на работу.

Алеся сядзела за сталом, аблажыўшыся кніжкамі, падпёршы куламі шчокі. Яна пільна паглядзела на Машу, калі тая зайшла, вочы яе іскрыліся. Наогул, уся яна была нейкая ззяючая, чысценькая, з мокрымі валасамі, у прыгожай сукенцы з кароткімі рукавамі. Маша часта ў апошні час любавалася ёй і думала: «Якая яна раптам стала прыгожая!»

На падлозе спаў Пеця (на ляжанцы, дзе ён спаў зімой, было горача). Ён ляжаў, шырока раскінуўшы рукі, ссунуўшыся галавою з падушкі на сяннік. Спаў ён у тым адзенні, у якім працаваў; з доўгіх абтрапаных штанін выглядалі чорныя, парэпаныя ступні ног, рукавы кашулі былі закасаны. На руках, на шыі, на твары — засталіся бруднымі плямамі сляды пылу.

Маша стала на калені і ласкава паклала яго галаву на падушку, пагладзіла валасы.

— Вось ён які, твой слаўны рыцар! Палюбуйся. Загадала памыцца — раскрычаўся на ўсю хату: «Добра табе ў цяньку з кніжкай сядзець. Пайшла-б папрацавала ў полі, дык ведала-б». Фу, — Алеся пакрыўджана фыркнула. — Быццам я не працавала?

Алеся мела падставы пакрыўдзіцца на брата, бо працавала не менш, чым ён: уставала раней за яго, паліла ў печы, гатавала снеданне і абед, покуль Маша раздавала нарады на работу, бегла за восем кілометраў у школу, вярнуўшыся са школы — працавала на сваім гародзе і, у дадатак да ўсяго, — старанна рыхтавалася да экзаменаў, да якіх заставаліся лічаныя дні.

Але ў сэрцы Машы было больш ласкі да Пеці, асабліва сёння, і яна лагодна сказала:

— Не крыўдзіся на яго. Ён сёння чатыры нормы выканаў. Каб усе так працавалі!..

Аднак Алеся ўжо «разышлася»: падхапілася з-за стала, прабегла па пакоі і села на ложак, замахала рукамі.

— І дзесяць нормаў не даюць права лажыцца ў пасцель у такім выглядзе! Няўжо цяжка памыцца?

— Ды ён двойчы купаўся ў рэчцы!

— Ты яго, калі ласка, не абараняй. Ты таксама добрая! Я штовечар грэю ваду для вас і штораніцы выліваю. Як ты ходзіш? Сорам! Чаму ты носіш гэтае стар'ё і шкадуеш апрануць добрае плацце? На які час ты іх хаваеш?

— На работу? У пыл? Для чаго гэта трэба? — паціснула плячыма Маша.

— Каб быць прыгожай.

— Ад адзення не папрыгажэеш.

— Няпраўда! — не здавалася Алеся. — Помніш у Чэхава? У чалавека павінна ўсё быць прыгожае: твар, голас, адзенне. А ў цябе? Бровы выгаралі, нос аблупіўся, а спадніца... — Алеся саскочыла з ложка, спынілася перад Машай, крытычна агледзела з галавы да ног, кісла паморшчылася.

Маша адчувала, што яе пачынае злаваць гэтае чарговае дзівацтва сястры, але намагалася стрымацца.

— Ты гной не возіш і маеш усе магчымасці апрануцца, як належыць брыгадзіру лепшай брыгады.

— Пакінь, калі ласка!

— Не пакіну! Пераварваць не магу твайго Лескаўца, але за адно яго паважаю: ідзе чалавек — люба паглядзець, ніколі не шкадуе апрануць самае лепшае. Ты павінна хадзіць так, каб хлопцы позіркаў не маглі адвесці.

— Ну, ведаеш... не да гэтага мне...

Алеся тэатральна развяла рукамі і прысела.

— Скаж-ы-це, калі ласка, якая бабулька! Не да гэтага! Глупства! Адно няўдалае каханне — і ты павесіла нос. Саромся!

Машу рассмяшылі гэтыя яе па-дзіцячаму наіўныя словы, і злосць адразу змянілася жартаўлівым настроем.

— Адным словам, з сённешняга дня я бяру над табой «парфюмерна-касметычнае шэфства». Не дарма маці Паўліка пагражае яму, што ў горадзе я стану самай страшнай модніцай, — Алеся засмяялася і пайшла да скрыні, што стаяла паміж ложкам і грубкай, падняла века.

— Вось. Я купіла табе самае лепшае мыла, самага Гольдзіна прасіла прывезці, адэкалон, крэм... робіць скуру эластычнай, мяккай, белай.

— Навошта гэта непатрэбная раскоша?

— Не раскоша, а гігіена. Ездзіш у райцэнтр, а плакацік у акне цырульні прачытаць не можаш.

Маша шчыра смяялася, як не смяялася ўжо даўно і ад паўнаты пачуццяў з мацярынскай пяшчотай абняла Алесю.

— Мілая мая! Сумна нам будзе без цябе, калі ты паедзеш...

— У Маскву, — падказала Алеся.

— Усёадно куды.

— Не ўсёадно, а ў Маскву. У Маскву!

Магчыма, ні разу яшчэ пасля цяжкага працоўнага дня Маша так старанна і з такім задавальненнем не мылася. Яна цёрла рукі, твар, валасы духмяным мылам, пырскалася вадой і смяялася. Алеся ліла ёй цёплую ваду на галаву і прадаўжала сур'ёзна разважаць:

— Жарты жартамі, а я сур'ёзна думала над гэтым. У нас у класе цэлы дыспут быў... Уцягнулі ў яго настаўніц і хлопцаў, якія на дзіва кансерватыўныя ў гэтым пытанні... Самі, чэрці, вачэй не зводзяць з Ніны Бяловай, якая апранаецца прыгажэй за ўсіх, а даказваюць зусім іншае... Ведаеш, аб чым я мару? Убачыць цябе ў плацці з якога-небудзь пан-аксаміта, крэпдэшыне, файдэшыне, ці яшчэ з якога-небудзь шына... І каб пашыта было не нашай «масцярыцай на ўсе рукі» Лізай, а сапраўды добрым майстрам...

Маша забыла на ўсе свае турботы і пакутлівыя перажыванні. Ёй было лёгка, радасна і прыемна, быццам яна скінула цяжкі груз з плячэй. Павячэраўшы, яны ляглі ў ложак, і Алеся доўга чытала Лермантава, чытала з пачуццём, па-мастацку.

Лишь Терек в теснине Дарьяла
Гремя нарушал тишину;
Волна на волну набегала,
Волна погоняла волну;

Маша зачаравана слухала, заплюшчыўшы вочы, і ўяўляла невядомую, дзіўную прыроду і незвычайных людзей, створаных паэтам. Непрыкметна ўяўленне перайшло ў дзівосны сон: яна сама блукала сярод казачных гор. Алеся асцярожна патушыла лямпу.

## 6

Сонца толькі што паказалася з-за сасонніку. Вялікі пунсовы шар імкліва каціўся насустрач адзінокай ранішняй хмарцы, якая, нібы спалохаўшыся, што спазнілася, хутка падала ўніз, за далягляд, і таяла там у полымі ўсходу. Полымя гэтае, праглынуўшы хмарку паступова бляднела, гасла — рассейвалася.

Заблішчэла раса; пад праменнямі сонца маладая рунь і трава сталі алюмініева-белымі, на выгляд — зыркімі і сухімі, толькі дзе-ні-дзе па іх праляглі ярказялёныя мокрыя сцежкі — сляды чалавека ці жывёлы. Статак яшчэ быў на выгане, каровы прагна хапалі ля агароджы траву, нездаволена мычалі, увішныя цёлкі залазілі ў пасевы. Пастухі крычалі, ляскалі пугамі. Радасна віталі новы дзень птушкі: звінелі ў вышыні жаваранкі, мітусіліся каля шпакоўніц у садах і над стрэхамі шпакі і няспынна лёталі то высока ў небе, то над самай зямлёй імклівыя ластаўкі.

З комінаў падымаліся ў ранішні блакіт неба амаль празрыстыя слупкі дыму: гаспадыні палілі ў печах наспех, сухім галлём.

У Дабрадзееўцы ў гэты час на калгасным двары было поўна народа: калгаснікі, атрымаўшы ад брыгадзіраў нарад, па адным і групамі накіроўваліся ў поле. Але на вуліцы Лядцаў было яшчэ пуста, толькі жанчыны з заспанымі вачыма беглі з вёдрамі да калодзежаў.

Працаваў толькі адзін чалавек — Шаройка. Праўда, не адзін ён, а ўся яго сям'я, — садзілі бульбу за сваёй хатай у маладым садзе, у якім вішні і асобныя яблынькі ўжо стаялі ў белай пене густой квецені. Сам Амелька араў; старая Ганна надзвычай спрытна раскідала свежы, відаць, толькі што вывезены з хлява, гной; Паліна, заспаная, злосная, няроўна кідала ў разору бульбу і раз-по-разу выцірала аб квяцісты фартух запэцканыя зямлёй рукі. Шаройка, праходзячы міма, нездаволена касіўся на дачку і, нарэшце, не вытрымаў, прасіпеў:

— Ты раўней можаш кідаць? Інтэлігенцыя!

Конь хадзіў даволі борздка, але Шаройка ўвесь час шэптам, нібы крадучыся, злосна падганяў яго, тузаючы за лейцы:

— Но-о, ты! Каб цябе ваўкі разарвалі!..

Пажадаўшы калгаснаму каню такой «прыемнасці»,

Ён азіраўся ў бакі. І раптам, аглянуўшыся, ажно ўздрыгнуў і выпусціў ручкі плуга: за тры крокі ад яго, абапёршыся на паркан (паўз яго сядзібу праходзіў завулачак да рэчкі, які Шаройка заўжды праклінаў), стаяла Сынклета Лукічна.

— Добрай раніцы, сусед.

— А-а, — працягнуў ён замест адказу на прывітанне і схапіў лейцы. — Тпрру-у! Каб... Добрага здаровечка, Лукічна, добрага... А раніца — душа спявае!..

— Ды ўжо-ж... Асабліва за работай.

Шаройка замітусіўся, як злоўлены злодзей.

— Ды тут, бачыш, пару сотачак... Дай думаю, покуль на калгасную работу... Бо ўдзень, ведаеш, дыхнуць некалі... А пад рыдлёўку — колькі спіну пагнеш, а так — дзесяць мінут і — мый рукі...

Сынклета Лукічна глядзела на яго сурова, ва ўпор, і ён хаваў свае вочы — глядзеў пад ногі, чысціў пугаўём плуг.

— Што ты мне зубы загаварваеш, Амелька? Добрыя дзве гадзіны працуеш ужо і яшчэ вунь на колькі хопіць... Дзве сотачкі!..

— Гадзіны?! — Шаройка, які дагэтуль гаварыў амаль шэптам, закрычаў здзіўлена, абурана. — Гэта табе, Лукічна, не іначай злы язык нашаптаў, бо сама ты такой несправядлівасці сказаць не магла. Ды дзве гадзіны назад яшчэ цёмна было... Цёмна, брат, цёмна..

— А ты з цёмнага і працуеш, — сурова адказала жанчына.

Шаройка аглянуўся на жонку і дачку, якія стаялі воддаль, каля мяшка з бульбай, і махнуў рукой.

— Ат, з цёмнага дык з цёмнага... Людзей не пераканаеш... І я не краду. Не... На сваім працую. А на каня я атрымаў дазвол Максіма Антонавіча, — і нечакана зусім іншым голасам — ласкавым, сяброўскім спытаў: — Спіць яшчэ гаспадар?

— Спіць.

Ён глянуў на Сынклету Лукічну з надзеяй, што напамінак аб сыне змякчыць яе душу. Але тое, што ён убачыў у яе вачах, ледзяной хваляй ударыла яму ў сэрца і нарадзіла жаданне схавацца, або праваліцца скрозь зямлю. Словы, нібы град, балюча ўдарылі яму ў твар:

— Слухай, Амелька, калі ты яшчэ хоць адзін раз заманіш яго выпіваць, так і ведай — дзесятаму закажаш... Я знайду на цябе ўправу, бессаромны ты чалавек. Я да райкома дайду, а словам маці ўсюды павераць. Ты за поўлітэрку хочаш купіць дазвол цэлую ноч на калгасным кані апрацоўваць свой незаконна захоплены гектар? Ты хочаш пачастункамі прываражыць яго да дачкі?.. Я цябе наскрозь бачу і ведаю, чым ты дыхаеш... Ох, і паскудны ты чалавек!

Покуль ён сабраў свае думкі і адважыўся падняць вочы, яе ўжо не было каля паркана. Сынклета Лукічна ішла па завулку ў бок рэчкі, выпраміўшыся, горда падняўшы галаву.

Пакінуты конь абгрызаў маладую яблыню. Убачыўшы гэта, Шаройка з усёй сілы ўдарыў каня пугаўём, а пасля страшэнна вылаяў ні ў чым не вінаватых жонку і дачку. Паліна заплакала і, шыбануўшы кошык і сарваўшы фартух, пабегла ў хату. Участак у садзе застаўся недасаджаным.

## 7

За раніцу Маша абышла амаль усё поле брыгады і нават, як заўсёды, заглянула на ўчастак «Волі» — каб параўнаць. Раннія пасевы дружна набіралі сілу, кусціліся, гусцелі і былі не на многа горшыя,

чым у суседа. Больш познія далі ўсходы рэдкія, кволыя. Зямля прасіла дажджу.

Маша з болем у сэрцы думала аб участках у першай і трэцяй брыгадзе, на якіх ярына пасеяна толькі ўчора і будзе сеяцца невядома колькі яшчэ дзён.

Дапамагчы-б ім. Але чым? І так з яе брыгады па загаду Лескаўца перакінулі ў брыгаду Шаройкі лепшых коней.

«Не, трэба пагаварыць з людзьмі, каб за два дні скончылі бульбу, і ўсё-такі дапамагчы ім»... — вырашыла яна і накіравалася ў той бок, дзе віднеліся людзі, коні і фурманкі. Амаль уся яе брыгада працавала на пасадцы бульбы. Мужчыны развозілі гной, складзены на полі яшчэ зімой, рассявалі калійную соль, падвозілі бульбу, хлопцы хадзілі за плугамі, а жанчыны і дзяўчаты садзілі бульбу. Працавалі дружна, весела — з гоманам і жартамі. Яе сустрэлі ветліва; хто не бачыўся раніцой — вітаўся, моладзь зноў-такі жартавала:

— Маша, ты нас павінна прэміраваць!

— Медалямі з бульбіны, — засмяялася Маня Лобан, — нізенькая курносая дзяўчына, па мянушцы «Каза».

— Сама ты бульбіна, Каза. Вунь і нос на сонцы спёкся! — адсек ёй Грышка Грошык, лепшы ў вёсцы балалаечнік і насмешнік.

Дзяўчына сарамліва закрыла хусткай нос.

Падышоў пажылы калгаснік Лявон Гайны.

— Ты ім, Маша, чарцям, па тры працадні скінь. Яны толькі ля дзевак завіхаюцца.

— А табе зайздросна, га? — закрычалі хлопцы ў адзін голас.

— Ён сам з Ганны вачэй не зводзіць.

— Ды жонка яму штодзень па пасме валасоў вырывае. Вунь аблысеў ужо.

— Мы яшчэ ёй раскрыем твае грахі. Чакай!

Лявон палахліва агляну ўся — ці далёка жонка?

Хлопцы зарагаталі.

— Ну, і языкі, каб вам...

Маша прайшла па ўчастку.

— Мала гною, мужчынкі.

— Марыя Паўлаўна, што ты! Ніколі столькі не лажылі.

— Бо ніколі не змагаліся за такі ўраджай... Ой, бачу, падвядзеце вы... А мы слова далі...

— Ні разу не падвялі, Маша, і не падвядзём, можаш быць упэўнена. Ды што мы — ворагі самі сабе, ці што?

— Ого, каб нам вырасціць такі ўраджай? Які працадзень быў-бы!

— Вырасцім, толькі давайце больш гною, асабліва там, у нізіне, — яна паказала рукой. — Вывезіце туды ўсю гнойную жыжу з ямы каля канюшні.

— Нехапае цягла, таварыш брыгадзір.

Мужчыны па адным падыходзілі да яе, абкружалі.

— А я хацела пагаварыць з вамі, каб заўтра скончыць.

— Усю бульбу? — старэйшы сярод мужчын, дзед Яўмен Лескавец, паківаў галавой. — Не па плячу задачу задаеш, дачка.

— Дзядуля, самі-ж вы гаварылі, што большэвікі ўсё могуць.

— Гаварыў і цяпер скажу... І яно, вядома, можна, — стары акінуў позіркам мужчын, як-бы шукаючы падтрымкі: — Можна... Але коні... Прыстаюць... Бо гэта-ж не машына. Трактар і той вунь стаіць.

— Трэба карміць у баразне, таварышы. Абавязкова, — не параіла, а патрабавала Маша. — Буду правяраць. А то ўчора жонка Усціна замест таго, каб прынесці траву коням, панесла сваёй карове.

— У Лазавенкі жыта косяць на корм. Знарок сеялі для гэтага. Зялёны канвеер, — заўважыў Пеця, брат Машы.

— Але, браткі, жыта — у калена, ранняе. Я ўбачыў, дык у мяне сэрца зайшлося: такое багацце, а яны косяць.

— Затое ў іх коні — ажно крыжы раздваіліся, і каровы па вядру малака даюць.

— Але каб касіць такое дабро... Жыццё пражыў, а не чуў.

— А што ты чуў за сваё жыццё, дзядзька Усцін? — бліснуўшы вачыма, спытаў усё той-жа Грышка Грошык.

Усцін, маленькі чалавечак, з барадаўкай на шчацэ, у зімовай шапцы адчуў хітрасць у гэтым пытанні і пагразіў хлопцу пугай.

— Дык скончым заўтра, мужчыны? — весела спытала Маша.

Некалькі чалавек з старэйшых паважна пераглянуліся, як-бы раячыся позіркамі. Маладзейшыя зноў адказалі жартамі:

— Будзем старацца, таварыш камандзір!

— Касцямі ляжам на гэтым полі, а зробім...

— Дзяўчаты падводзяць. Трэба іх падцягнуць, Маша!

— Не зводзяць з нас вачэй...

— З цябе? Ох, і прыгажун! Ото-ж, я гляджу... усе яны ссохліся па табе...

Андрэй Акуліч, рудаваты хлапчына з тварам густа ўсыпаным вяснушкамі, збянтэжыўся і схаваўся за спіну дзеда Яўмена.

Маша ведала, што гэта не проста жарты, пустое зубаскальства, гэта — добры, малады, задорны адказ на яе пытанне. Яна была ўпэўнена, што гэтыя аматары жартаў і насмешак ніколі не падвядуць у рабоце. Такія, як яе брат Пеця, як гэты смешны Андрэй, ноч будуць

працаваць, а зробяць, што паабяцалі. І таму настрой у яе стаў, як гэтая сонечная раніца, — светлы, звонка спявала кожная струна душы, адгукалася радаснымі акордамі. Яна з прыемнасцю ўдыхала вільготны пах узаранай зямлі. Вецер, парывісты і цёплы, зрываў з яе галавы касынку. Маша прытрымлівала яе рукой, жмурылася ад сонца і шчыра смяялася разам з усімі.

Каля жанчын, якія, выкарыстаўшы перапынак у рабоце, таксама сабраліся ў адным месцы, яна затрымалася, нядоўга. Ёй не спадабалася, што яны з залішняй цікаўнасцю разглядалі яе. Яна ў душы лаяла Алесю і сябе за тое, што тая сагітавала, а яна, дурніца, згадзілася ў рабочы дзень надзець плацце, якое дагэтуль насіла толькі ў свята. Колькі цяпер сярод жанчын будзе перасудаў і здагадак! На цэлы дзень размоў хопіць. Аднак, адышоўшы, яна вырашыла знарок штодзень убірацца вось так, па-святочнаму. У такім выглядзе яна падабалася сама сабе.

Адгэтуль Маша накіравалася да трактара. Ён павінен быў узараць плошчу пад грэчку і ўжо каторы дзень адным загонам араў участак двух брыгад. Але сёння трактар з самай раніцы стаяў. Маша не пачула яго роўнага гудзення, калі толькі прачнулася і вышла з хаты. І гэта непакоіла яе ўсю раніцу, яна імкнулася хутчэй схадзіць на поле і даведацца, у чым справа. Узараць тут трэба было неадкладна, бо ўчастак гэты не быў узняты пад зябліва.

Трактар стаяў у нізіне, каля балотца, абкружанага альховымі кустамі. Крыху далей на ўзгорку віднеліся бочкі з вадой і газай — месца запраўкі.

Маша падышла непрыкметна.

Пад маторнай часткай ляжаў — адны ногі віднеліся ў сініх спартыўных тапках — брыгадзір трактарнай брыгады Міхайла Прымак. Ён стукаў ключом, свістаў і час-ад-часу нараспеў лаяўся даволі сакавітымі і моцнымі словамі. Маша ледзь не зарагатала. Трактарыст, Адам Мігай, моцны, камлюкаваты і маўклівы хлопец, — нешта старанна кляпаў з другога боку. Убачыўшы яго, Маша ўспомніла адзін цікавы выпадак. Неяк яшчэ ў мінулым годзе, Адам сустрэў яе ў Дабрадзееўцы і без усялякай прычыны, без усякай папярэдняй размовы, нечакана прапанаваў:

— Выходзь за мяне замуж, Маша, — сказаў і сам збянтэжыўся.

Павярнуўшыся і ўбачыўшы дзяўчыну, трактарыст моўчкі падышоў і пачаў штурхаць нагой брыгадзіра.

— Што там у цябе, першы чалавек на зямлі?

— Вылазь! — гукнуў Мігай.

Прымак хутка вылез і, ніколькі не збянтэжыўшыся, прывітаўся:

— А-а, калега па пасадзе… Добрай раніцы.

— Добры дзень.

— Ох, дзень-дзянёк! — ён паглядзеў на сонца і пачаў выціраць аб паклю руку.

— Стаім?

— Стаім. Але не пытай такім магільным голасам. Стаім, але не падаем духам. Правільна, Адам? Мы цябе, Маша, не падвядзём. І ты на нашага гвардзейца не крыўдуй, — Прымак кіўнуў на машыну. — Гэта герой. Дай божа нам з табой так паслужыць працоўнаму народу, як паслужыў ён. Я на ім араў яшчэ ў трыццаць чацвёртым годзе. А паглядзі колькі ён наварочаў за вясну!

Вецер заносіў назад пусты рукаў яго сіняга зашмальцаванага піджачка. Прымак засунуў рукаў у кішэню.

— А наагул, Маша, ерунда атрымліваецца. У «Волі» «Націку» няма чаго рабіць ужо — не для яго аб'ёмы, а тут — вось, калі ласка… А я брыгадзір, камандзір трох машын… А які я да ліха камандзір? Пазваніў Крыловічу, каб перакінуць «Пацi» ў «Партызан» — ні блізка… Нейкі вар'яцкі прынцып. Ні д'ябла не разумею. То ён бачыць яе мог Лазавенку, то раптам зрабіўся лепшым сябрам і абаронцам. Хацеў зрабіць гэта без яго — Лазавенку муха ў нос уляцела. Выходзіла-б ты замуж, Маша, няхай-бы яны .памірыліся хутчэй…

Адам, які стаяў, абапёршыся на кола, і ўважліва слухаў брыгадзіра, пры гэтых словах у момант знік за трактарам.

Маша ўспыхнула. Ніколі яшчэ і ніхто ўзаемаадносіны Васіля і Максіма не тлумачыў іх адносінамі да яе. Яна ўзлавалася.

— Не вярзі глупства, Міхайла. Скажы лепей, калі трактар пойдзе?

— Трактар пойдзе цераз гадзіну. Не больш. Шкада, што ты сёння такая майская, а то дапамагла-б падняць нам адну штуку.

— Давай.

— Не, не. Не дазволю, — ён адхіліў яе рукой, а потым узяў ключ і пачаў адвінчваць гайку. — Ведаеш, а Лазавенка — крылаты чалавек. Разумнік! Чаго варта адно яго жаданне кіраваць такім калгасам, у якім працаваўшы не адзін які-небудзь скалечаны «ХТЗ», а цэлая трактарная брыгада, а то і дзве. Вось-бы мне ў такі калгас! Вось дзе-б я даў разгарненне, далібог, даў-бы Адам, далі-б?

— Угу! — каротка адгукнуўся трактарыст.

— А то адна брыгада на два сельсоветы! Дай другому калгасу такі карабель, як у «Волі», а яму там і рабіць нечага, — ён паглядзеў на Машу і раптам засмяяўся: — Папрасі мяне быць за свата, мігам арганізую…

Яна махнула на яго касынкай:

— З табой гаварыць — пуд солі трэба з'есці. А я яшчэ не снедала.

— Вось гэта дарэмна. Падштурхні там Лескаўца, каб хутчэй за гаручым паслаў. З сённешняга дня будзем працаваць па дваццаць гадзін у суткі.

Старшыню калгаса яна сустрэла каля яго двара. Максім стаяў каля зямлянкі і глядзеў на свой няскончаны дом. На чыстых, абгабляваных бярвеннях свяціліся бурштынам рэдкія сучкі, залітыя смалой. Над белым, нібы толькі-што старанна вымытым, гонтавым дахам папіскваў, паварачваючыся пад подыхам ветру, бляшаны флюгярок. Слепа глядзелі ў сонечны дзень пустыя праймы вокан. Ад таго, што два з тых вокан, якія выходзілі на вуліцу, мелі ўсё, каб прыняць раму, а трэцяе толькі адзін падаконнік, не зусім падагнаны яшчэ, — ад гэтага неяк асабліва адчувалася недарэчнасць таго, што ў доме не стукалі сякеры, не гаманілі рабочыя. Навокал у беспарадку валяліся бярвенні, дошкі, шалёўка. Моцна пахла сасной.

Максім стаяў, засунуўшы ў кішэні рукі, жмурыўся ад сонца і смактаў люльку, якая, відаць, ужо даўно патухла.

Маша зразумела яго пачуцці, і ёй стала шкада яго.

«Трэба сказаць яму, што дарэмна ён разагнаў рабочых. За дом ніхто благога слова не сказаў-бы... А вось што да Шаройкі наведваецца... А ў калгасе да самай позняй восені хопіць работы. Ды няўжо з-за гэтага старшыні калгаса ў зямлянцы жыць? Трэба будзе на праўленні сказаць...»

Убачыўшы Машу, Лескавец выняў з рота люльку і выбіў яе аб галянішча бота. Прыветліва ўсміхнуўся.

— Як справы, Маша?

— Канчаем бульбу.

— Канчаем?

— Заўтра думаю скончыць.

— Заўтра? — ён шчыра здзівіўся. — Жартуеш?

— А ты сам ідзі паглядзі.

— Малайчына! Ніколі не думаў, што ў цябе такія арганізатарскія здольнасці, — ён толькі цяпер прыкмеціў, што яна ў новым плацці, і пранікліва разглядваў яе з галавы да ног. Машы ажно няёмка стала, і яна сама мімаволі зірнула на свае ногі.

— А ты маладзееш.

— А чаму мне старэць?— ёй стала весела, і яна не стрымала ўсмешкі.

— Але... — ён уздыхнуў, на ілбе ў яго з'явіліся дробныя зморшчынкі. — Але... А наогул, старэем, Маша. Чорт яго ведае як ляціць жыццё. Проста не ўгонішся...

«Што праўда — то праўда», — падумала Маша.

— Не можаш ахапіць усяго, робіш глупства, а пасля...— на момант ён завагаўся — ці гаварыць гэтае апошняе слова? — каешся...

Гэта быў крок да прымірэння. Але ў Машы нават не дрогнула сэрца, толькі на яе светлы настрой нібы ўпаў цень — у душы зноў варухнулася крыўда і абраза за ўсё тое, што яна перажыла з-за яго.

«Ці не ты зноў маці падсылаў?» — падумала, але тут-жа адагнала гэтую думку: ёй было цяжка абвінаваціць у няшчырасці Сынклету Лукічну, старая сказала-б ёй усю праўду, як тады, калі яе паслалі ад Шаройкі. Каб не адказваць на галоўнае, Маша задумліва паўтарыла яго словы:

— Жыццё ляціць. Сапраўды, — і, нібы схамянуўшыся: — але адстаюць ад яго толькі слабыя.

Прадоўжыць размову ім перашкодзіў Шаройка. Ён з'явіўся нечакана, і ў Машы ўжо выпрацаваўся своеасаблівы рэфлекс пры яго з'яўленні — пачуццё насцярожанасці, прадчуванне нечага благога.

Шаройка прывітаўся і выцер далонню пот з ілба і шыі, у яго быў такі выгляд, быццам ён толькі-што прабег некалькі кілометраў.

— Ну, брат, не людзі, а Нехрысці... Хоць кол на галаве цяшы. Цэлую раніцу з хаты ў хату бегаю, нібы паштальён той. Проста распанеў народ: да васьмі спяць, да дзесяці снедаюць. Акунька зноў яшчэ толькі блінцы пячэ, мабыць, да абеду будзе ў печы паліць.

Максім пачырванеў, гнеўна бліснуў вачыма і рашуча сунуў у кішэню люльку, якую пачаў быў набіваць.

— Я ёй памагу выпаліць! — і рушыў на вуліцу.

— Максім! — Маша паклікала яго такім суровым голасам, што ён мімаволі спыніўся і, павярнуўшыся, сустрэў яе яшчэ больш суровы позірк, у якім былі асуджэнне, дакор. — Шаройка зводзіць старыя рахункі, а цябе нацкоўвае глупствы рабіць. Саромся!

Яна ведала, што ён можа зрабіць. Быў ужо адзін такі выпадак, калі ён, зайшоўшы ў хату да гаспадыні, якая позна поркалася, схапіў вядро і заліў у печы.

Аб гэтым здарэнні доўга расказвалі з рознымі дадаткамі, кпілі. Але ў Машы яно выклікала не смех, а балючае пачуццё крыўды за чалавека.

— Э-эх, Марыя Паўлаўна, — не прамовіў, а неяк праскрыпеў Шаройка.

Тады і Максім, які быў на момант разгубіўся, устрапянуўся.

— Ты мне не ўказвай!

— Не забывай на Гаўрыліху! Ганьба! Калі ты зробіш яшчэ такое глупства, я першая...

Маша не скончыла, але па голасе і па выразу яе твару Максім вельмі добра зразумеў, што тады яна зробіць і... спыніўся: пераступіў з нагі на нагу, моцным ударам адкінуў пустую банку з-пад кансерваў, выцягнуў з кішэні люльку, аглянуўся і сеў на бярозавую калодку, насупраць акна зямлянкі, апусціў вочы.

Хвіліну цягнулася няёмкая цішыня. Потым Шаройка цяжка ўздыхнуў

— Эх, работка, работка, каб ёй добра было... З цёмнага да цёмнага, як той маятнік, далібог, як маятнік, ва ўсе бакі... А ў падзяку...

— Якая работа — такая і падзяка, — Маша з нянавісцю глядзела на яго, ніколі яшчэ яе абурэнне супраць Шаройкі не было такім моцным і гнеўным, як у гэты раз. Яна ледзь стрымлівала сябе, каб не выказаць яму ўсяго, што думала аб ім, што гавораць аб ім жанчыны ў полі.

Максім рашуча пастукаў люлькай аб калодку і голасам камандзіра загадаў:

— Таварыш Кацуба! Перадасі сёння «Вярблюда», «Яснага», «Чайку» ў брыгаду Шаройкі.

«Зноў Шаройку трох лепшых коней?» — Машы ажно дыхаць стала цяжка. Яна спытала амаль шэптам:

— Гэта чаму-ж?

— Ваша брыгада, сама ты гаворыш, заўтра канчае бульбу, а ў іх — непачаты край...

— А па чыёй віне?

— Мы зараз не будзем разбірацца, па чыёй віне, — Максім павысіў голас. — Па нашай, агульнай... Трэба думаць аб усім калгасе.

— Я думаю аб усім калгасе. Скончым — зробім і за іх, калі Шаройка не мог арганізаваць... А сёння я коней не дам.

— Агнём буду выпальваць гэтыя прыватніцкія настроі!

— Выпалі іх спачатку ў Шаройкі і ў... сябе.

Шаройка моўчкі ўздыхаў і дакорліва ківаў галавой: як табе, моў, не сорамна, Маша, абражаць мяне, старога і паважанага чалавека.

Максім захлынуўся ад злосці, але гаварыць стаў цішэй:

— Покуль я старшыня, я кірую калгасам. А то ў нас і так чорт нагу зламае... Кожны хоча быць за кіраўніка. Шаройка! Забярэш коней!

— Коней я не дам! — рашуча, расцягваючы словы, паўтарыла Маша.

— Правільна, Машанька, — з дзвярэй зямлянкі выглянула Сынклета Лукічна, якая, безумоўна, чула ўсю іх размову.— Не давай! Амелька будзе па начах сваю сядзібу апрацоўваць... Нахапаўся і на дачку і на

сына... А пасля на чужых конях хоча ў перадавікі выйсці... Пасароміўся-б, сынок, — дакорліва звярнулася яна да Максіма.

Той паглядзеў на маці і, не знайшоўшы, што адказаць, махнуў рукой і хутка пайшоў са двара. Шаройка, уздыхаючы, пакрочыў за ім следам.

— Барсук,— зняважліва прашаптала ўздагон яму Сынклета Лукічна.

8

Больш Маша не магла цярпець і чакаць. Яна забылася нават паснедаць. А ходу запаволіла толькі каля дабрадзееўскага саду. Ужо тут яна ўбачыла і адчула, з асаблівай сілай, як ніколі раней, розніцу паміж сваім калгасам і «Воляй». Тут на ўсім была відаць клапатлівая, гаспадарская рука, дбайнае вока і, здавалася, усё звінела працай: сад, палі, будынкі. Можа ад таго было такое адчуванне, што, сапраўды, паветра звінела, білася ў сцены — ажно рэха кацілася, — ад работы рухавіка і цыркуляркі. Над «сілавой» узляталі ў блакітнае неба пасмы дыму, то празрыста-белыя, то чорна-сінія. Адчуванне такое было яшчэ і ад таго, што ўсюды працавалі людзі, быццам было іх у «Волі» шмат больш, чым у «Партызане». Але Маша ведала, што ў «Волі» людзей менш, менш працаздольных на кожны гектар ворыўнай зямлі. Аднак палявыя работы не спынілі тут усіх іншых работ. Акрамя таго, што брыгада «Волі»; няспынна працавала на будаўніцтве гідрастанцыі, адна, без другіх калгасаў, людзей у Лазавенкі хапала на ўсё. Вось двое старых мяняюць агароджу вакол саду. Здымаюць старыя, счарнелыя жэрдкі і робяць агароджу з беленькіх, адна ў адну, штакецін. Ад гэтага мяняўся адразу навакольны выгляд: сад за агароджай рабіўся нейкім запаветным месцам. Маша нават не адважылася пайсці па сцежцы, цераз сад, па якой хадзілі раней. Яна пайшла дарогай, у абход. Малады хлопец ехаў па садзе на двухколцы з пажарнай бочкай, ззаду ішоў садоўнік і падтрымліваў гумавы шланг. Каля «сілавой» стаялі фурманкі, на іх грузілі дошкі. Стукалі сякеры і звінелі пілы ў клубе, палавіна якога была ўжо накрыта гонтай. Маша ажно не стрымалася, падышла бліжэй і праз акно пацікавілася, што зроблена ў сярэдзіне клуба. Насцілалі падлогу і столь. Над яе галавой прагучэў знаёмы голас Івана Гомана.

— Заходзь, Паўлаўна, будзем кіно паказваць. З цябе і білета не патрабуем.

«Не, трэба дапраўды-такі прыйсці сюды на дзень, на два і павучыцца, як яны арганізуюць работу», — думала яна, праходзячы міма новага будынка сельмага, вокны ў якім, праўда, яшчэ былі забіты

крыж-на-крыж дошкамі. Аднолькава выглядала і гэтая вуліца, што збягала з узгорку, на вяршыні якога стаяў сельмаг, уніз да поплаву. Школа і медпункт былі абнесены такой-жа прыгожай дашчатай агароджай, перад будынкам — газоны, маладыя прысады, каля школы — роўная пляцоўка з валейбольнай сеткай. На школьным участку працавала група вучняў, звінелі дзіцячыя галасы, смех. Кіравала работай Ліда. Яна здалёк убачыла Машу і пайшла ёй насустрач, пляскаючы далонямі, каб абтрусіць з іх зямлю.

— Добры дзень, Машанька. Даўно ты не была ў нашым запаведніку. Бачыш, абгарадзіліся? — вочы яе прамяніліся.— Як ты загарэла і... папрыгажэла!

Сама Ліда была бронзавая ад загару. Машу заўсёды неяк кранала яе хараство, глядзела яна ёй у твар, і сэрца напаўнялася прыемнай гарачынёй, гонарам за чалавечую прыгажосць. І цяпер яна не зводзіла з настаўніцы вачэй. Ліда ажно сумелася.

— Чаму ты глядзіш на мяне так? Запэцканая я? — яна агледзела сябе, абтрусіла зямлю з падола шаўковай сукенкі. — Ведаеш, па маёй прапанове школьны ўчастак зрабілі накшталт вопытнага поля калгаса. Лазавенка ўгнаенняў навазіў, якім я нават назвы не ведаю, адзін Шышкоў разбіраецца. Бачыш: чаго мы толькі не пасеялі! Пшаніцу, бульбу, кветкі, агрэст, кавуны і нават, — Ліда таямніча прашаптала: — вінаград, сапраўдны, мічурынскі «рускі канкорд». Штодзень варожым над кожным квадратным метрам: Шышкоў, Лазавенка, я і Ніна Аляксееўна... Мяцельскі зямлі не любіць і нічога не разумее, хоць і вырас у вёсцы. Ды яго зараз нічога не цікавіць, акрамя Ніны і будучага сына. На крок не адыходзіць ад яе... Стане яна з ганка сыходзіць — бяжыць падтрымліваць. Смешна. На педсовеце я яго крытыкую, а ён сядзіць і ўсміхаецца гэткай, ведаеш, найшчаслівейшай усмешкай. Я не вытрымала, разрагаталася... За мной — усе настаўнікі, акрамя, вядома, Шаройкі: яна не дазваляе сабе смяяцца з начальства.

Расказваючы, смеючыся, Ліда непрыкметна завяла Машу за агароджу школьнага ўчастка і пачала паказваць пасевы.

— Бачыш, кавуны як узышлі? Цудоўна, праўда?

Вучні палолі градкі. Калі яны падышлі, дзяўчынка з блакітнымі лентамі ў касічках паскардзілася:

— Лідзія Ігнатаўна, а Коля зноў культурную расліну вырваў.

— Коля!

— Ды я незнарок, Лідзія Ігнатаўна.

— Ідзі ты лепей рыхтуй тычкі. Сякеру вазьмі ў настаўніцкай.

Хлапчук у падкасаных штанах пацягнуў дзяўчынку, якая скардзілася, за касу, радасна падскочыў і, як на крылах, паляцеў да школы. Маша з цікавасцю глядзела на выдатныя пасевы, асабліва на палоскі пшаніцы і ячменю, і ў душы яе замест светлай радасці нараджалася... злосць. Раптоўна ўзнікшае, незразумелае пачуццё гэтае спалохала яе. Каб заглушыць яго, яна сказала:

— А ў нас паважаны аграном за ўсю вясну і двух разоў не быў...

Ліда кінула на яе здзіўлены позірк і, відаць, адразу ўсё зразумела.

— Ты да нас?

— Але, да Ігната Андрэевіча. Як ён адчувае сябе?

— Дзякую. Нічога ўжо. Сёння да вас намерваўся ісці, але мы з маці не пусцілі. Ідзем да яго. Ён будзе рады, што ты прышла.

Ігнат Андрэевіч сядзеў, аблакаціўшыся на стол. Твар яго быў бледны пасля хваробы, яшчэ больш пасівелі галава і бровы. Апрануты ён быў у просценькі пiджачок з белага палатна — такія звычайна носяць садоўнікі. Вопратка гэтая падавала яму нейкі дзіўны выгляд, рабіла на шмат год старэйшым. Сядзеў за сталом стары, маленькі, беленькі, моршчыў Шырокі лоб і хмурыў калматыя бровы, якія то сыходзіліся над пераноссем, то нечакана разыходзіліся. Калі бровы яго разыходзіліся, тады і маршчыны на ілбе разгладжваліся, і твар рабіўся маладзейшым і святлейшым.

Ліда села на канапу, адкінуўшыся на спінку, і ніводным рухам, ніводным словам не ўмешвалася ў размову — нібы і не было яе ў пакоі. Маша, нервова перабіраючы пальцамі махры настольніка, пачала расказваць ціхім, роўным голасам, быццам добрая вучаніца на экзамене. Ладынін раз-по-разу стукаў пальцамі па скрыначцы з табакай (ён не ўправіўся схаваць яе, калі дачка зайшла) і коратка гаварыў:

— Т-так...

— Я казала ўжо на праўленні, што трэба абмераць прысядзібныя ўчасткі, што ў нас разбазарана грамадская зямля. Па прапанове Шаройкі вырашылі зрабіць гэта пасля пасяўной. Тады, моў, у пакаранне абрэжам з пасевам. Але-ж гэта проста хітрасць, Ігнат Андрэевіч, каб адцягнуць, замяць. А ўсім вядома, што ў Шаройкі і ў яго родзічаў ды дружбакоў, многія з якіх наогул не працуюць у калгасе, лішняя зямля... У людзей на сэрцы накіпела... А Лескавец гэтага не разумее. Шаройка ў яго — першы дарадчык... Зноў-жа з нормамі і з працаднямі. На розных лёгкіх дапаможных работах, куды Шаройка сваіх ставіў, проста ні за што налічваюць працадні. Першая брыгада, можна сказаць, сарвала сяўбу, а Лескавец, замест таго, каб патрабаваць

ад Шаройкі, імкнецца выцягнуць яго, апраўдаць... Перакідвае з другіх брыгад лепшых коней у яго брыгаду. Забірае людзей...

Ігнат Андрэевіч адчыніў скрыначку, адарваў ражок газеты і скруціў цыгарку. Ліда ледзь прыкметна паківала галавой, моўчкі працягнула руку і забрала скрыначку, схавала ў сваю кішэню. А калі ён падняўся і, прайшоўшыся разы са два па пакоі, адчыніў акно, яна таксама паднялася і моўчкі зачыніла яго. Ігнат Андрэевіч нечакана спыніўся перад дачкой з нахмуранымі брывамі, і Машы здалося, што ён будзе ёй вымаўляць, але ён ласкава папрасіў:

— Пашлі, калі ласка, Ліда, вучня, хай пакліча Лазавенку. Ён ішоў у «сілавую».

Ліда выйшла.

Ладынін хвілін колькі моўчкі хадзіў па пакоі.

— Але, справы дрэнь. Я так і адчуваў... Выпраўляць трэба неадкладна, прызнаўшы, што мы самі ва ўсім вінаваты. Так, так, і ты таксама, Маша. Чаму маўчала раней? Чаму не падказала? Нельга адкладваць такія рэчы, трэба выкрываць, крытыкаваць, настойліва, прынцыпова! — ён раптам затаварыў палымяна, адсякаючы кожнае слова энергічным узмахам рукі! — Выпалваць пустазелле трэба з коранем! А мы, лібералы гэтакія, згадзіліся пакінуць Шаройку за брыгадзіра. Гэта — наша першая памылка...

— Другая — аслабілі агітацыйную работу, — нечакана прадоўжыла Ліда, з'явіўшыся ў дзвярах. — Пайшлі па прынцыпу: вясна — час работы, а не гутарак. Не разумею, навошта было таварышу Ладыніну аслабляць агіткалектыў «Партызана». Пашкадаваў дачку і Мяцельскага...

Ладынін здзіўлена глядзеў на яе з добрай усмешкай на твары.

— Ах ты!.. Ты-ж сама прасілася!

— А ты павінен быў не згаджацца. Адным словам, тата, у мяне з'явілася жаданне папрацаваць у брыгадзе Машы. Ніякая падрыхтоўка да экзаменаў, ніякі вясновы настрой не перашкодзіць мне штодзень бываць у Лядцах. Так што назначай Міхею Вячэры новага агітатара. Пабурчыць, праўда, стары, але нічога.

— Добра, дачка.

Зайшоў Васіль Лазавенка, моцна, да болю, пацiснуў Машы руку і адразу весела звярнуўся да Ладыніна:

— Слухаю вас, таварыш сакратар, — і асекся, убачыўшы ў вачах доктара гнеўныя агеньчыкі.

— Садзіся і дакладвай, таварыш намеснік сакратара, як ідзе сяўба ў «Партызане».

Васіль зірнуў на Машу.

— Я думаю, вам вядома ўжо...

— А я хачу пачуць ад цябе, — у голасе Ігната Андрэевіча з'явіліся незнаёмыя ноткі.

Васіль, перасмыкнуўшы плячыма, сеў да стала і пачаў, нібы панапісанаму:

— У мінулым годзе «Партызан» на гэтую-ж дату займаў пяцьдзесят другое месца ў раёне. У гэтым — дваццаць першае, а ў раёне восемдзесят чатыры калгасы. Зрух, рост, і, трэба сказаць, нядрэнны. Калгас падняўся да ліку моцна сярэдніх, сказаў Бялоў на паседжанні райвыканкома. І таму, мне здавалася, не было патрэбы «біць трывогу». Прызнаюся, я нават усумніўся аднойчы: а ці не завышаюць яны зводку? Шаройка гэта ўмеў рабіць. Не, нічога. Байкоў праверыў — усё дакладна, як мае быць... Радасна за Лескаўца, — Васіль зноў зірнуў на Машу, але яна глядзела некуды пад стол: ёй было няёмка за тое, што гаварыў Лазавенка, і за яго самога таксама было неяк сорамна, бо ніколі яна не чула, каб ён гаварыў так афіцыйна, такімі сухімі лічбамі. Не спадабалася ёй чамусьці і тое, што за вясну ён паружавеў, нават, здавалася, папаўнеў і быў так інтэлігентна апрануты: добры светлы гарнітур, шаўковая «украінка», жоўтыя чаравікі.

Лазавенка хацеў прадаўжаць, але Ігнат Андрэевіч перапыніў яго:

— Слухай, а ці думаў ты калі-небудзь, чаму «Партызан» не можа заняць, напрыклад, другое месца. Якія прычыны перашкаджаюць гэтаму?

— Другое? — Васіль скептычна ўсміхнуўся. — «Воля» займае чацвёртае, Ігнат...

Ён не скончыў. Ладынін з размаху грымнуў кулаком па стале.

— Зноў «Воля»? Зноў у цябе адраджаецца гэтае агіднае зазнайства? «Воля», «Воля»!.. Мы ведаем, чаго варта «Воля»... Але не забывай, што ты комуніст... Што мы з табой адказваем перад партыяй за ўвесь сельсовет.

— Я не забываю, Ігнат Андрэевіч, — ціха прамовіў Васіль і раптам зусім нечакана таксама павысіў голас да крыку, падхапіўшыся з табурэткі:

— Я не забываю! Але мне надакучыла! Пайшлі яны к чорту! Два гады я цягну іх за вушы, дапамагаю, чым магу. «Партызану» аддаваў увагу як і ўласнаму калгасу. Цяпер там комуніст, такі-ж, як я. Дык чаму яму можна дараваць усё, а мне нельга дараваць простай чалавечай слабасці? Так, я ганаруся сваім калгасам і буду ганарыцца! Так — «Воля»! І не абвінавачвайце мяне ў зазнайстве, калі ласка!..

Ён хадзіў ад стала да дзвярэй і размахваў рукамі са сціснутымі кулакамі. Ніхто з прысутных ніколі не бачыў яго такім узрушаным, і

ўсе, здзіўленыя, моўчкі слухалі. Нават Ладынін, які вельмі не любіў такіх нервовых успышак і ўжо самаго сябе ўпікаў за сваю невытрыманасць, не перапыняў яго.

— Мне надакучыла!.. Я цягнуў іх угору, а яны цягнуць мяне ўніз. Колькі кляліся, білі кулакамі ў грудзі і Лескавец, і Раднік, і Гайная, што не спыняць работы на гідрастанцыі!.. А што атрымалася? Сакавітаў складае чамаданы, ніякія ўгаворы не дапамагаюць.. К чорту такіх суседзяў і памочнікаў! Мы самі пабудуем гідрастанцыю! — ён усё больш павышаў голас.

— Брава, Лазавенка! — нечакана насмешліва праспявала Ліда і запляскала ў далоні. — Радуюся, што вы ўмееце так абурацца!

Яна падхапілася з канапы і закрочыла па пакоі з другога боку стала, замахала рукамі, перадражніваючы яго:

— Мы пабудуем гідрастанцыю і пасля прымусім іх усіх скакаць пад нашу дудку!.. Бо мы — гэта я...

Маша засмяялася.

Васіль раптам спыніўся, змоўк і здзіўлена глядзеў на Ліду. Яна таксама спынілася насупраць яго, але не сціхла.

— Бо мы — гэта я, Васіль Лазавенка... А нам зусім не хочацца, каб суседзі раслі, уздымаліся... А раптам возьмуць ды і перагоняць нас?.. Нам выгадней паказваць сябе на фоне слабых...

Васіль так збялеў, што Маша, глянуўшы на яго, спалохалася. Ён адступіў ад Ліды, як ад нечага небяспечнага, асцярожна сеў на канапу, абмяк, выцер рукавом пот. Потым нахіліўся, тыркнуў пальцам сабе ў грудзі, шэптам спытаў:

— Я — не хачу, каб суседзі ўздымаліся? — і павярнуўся да Ігната Андрэевіча. — Я?..

Маша ў думках лаяла Ліду: хіба можна так абражаць яго, кідаць такія беспадстаўныя абвінавачванні?

«Замнога ты ўжо бярэш на сябе», — няпрыязна падумала аб Лідзе і неяк непрыкметна палажыла сваю руку на Васілёву, якой ён абапіраўся аб стол.

— Супакойся, Вася. Ліда Ігнатаўна жартуе.

— Жартуе? — ён раптам засмяяўся крыху злосным, але шчырым смехам. — Добры жарт. Ну, шчасце ваша, што вы Лідзія Ігнатаўна, ды ў дадатак яшчэ Ладыніна. Аднак помніце, — ён пастукаў пальцам па стале і нельга было зразумець — зрабіў ён гэта сур'ёзна, з пагрозай, ці жартаўліва.

Ліда пачырванела і ўсміхалася збянтэжана, вінавата.

Васіль павярнуўся да Машы, удзячліва ўсміхнуўся ёй.

— Прабач, Маша, што я нагаварыў тут пра вас рознага глупства, — і, звярнуўшыся да Ладыніна, дадаў: — Нервы, Ігнат Андрэевіч. Не падумайце, што я сапраўды такой думкі. Не!.. На самай справе я сам думаў ужо, чым можна дапамагчы і «Партызану» і «Зорцы». І дапамагу! Як вы глядзіце на такую справу? — ён нахіліўся над сталом.

9

«Газік» хутка праскочыў цераз пераезд (дзяжурная прапусціла адну райвыканкомаўскую машыну і закрыла шлагбаум), крута павярнуў на шлях, што ішоў уздоўж чыгункі, і адразу-ж забуксаваў, трапіўшы ў глыбокую, разбітую машынамі, каляіну, поўную густой вясновай гразі. Матор злосна фыркаў, колы распырсквалі гразь, і яна ляцела Бялову на боты. Ён падсунуўся бліжэй да шафёра і, павярнуўшыся да Макушэнкі, які сядзеў на заднім сядзенні, засмяяўся.

— Ты, Пракоп, хітрун. Я думаў, ты з-за сціпласці залез туды.

— А ты думаў, буду садзіцца пад тваю гразь?

— Пад маю?

— Наглядная работка твайго дарожнага аддзела...

Машына рванулася і зноў забуксавала.

— Дарма ты наваліўся на дарожнікаў. Яны зрабілі нямала.

— Але вось гэтая дарожка пад самым, як кажуць, носам райкома і райвыканкома — ганьба і для іх і для нас з табой. Ты чуў, як калгаснікі нас успамінаюць, калі даязджаюць да гэтага месца? Раю паслухаць.

— Не ўсё адразу. Усяму свая чарга. І так паглядзі, колькі зрабілі за тры гады! Вунь зернесклад — люба паглядзець! — ён паказаў рукой на доўгі цагляны будынак з шыферным дахам. — А ў сорак пятым, помніш? — усе пастаўкі хлеба вунь у якой будыніне змяшчаліся.

Сакратар райкома, не ўхваляючы, паківаў галавой.

— Захапляешся ты, Лявонавіч, сваімі дасягненнямі. Не забывай: гэта шкодная хвароба...

— Ну, брат, і прыбядняцца не буду, як ты. Мы — трэці раён у вобласці. І нам няма патрэбы выкрываць, выносіць на людзі нашы недахопы, як гэта зрабіў ты на абласной канферэнцыі. Недахопы — яны ва ўсіх ёсць. Паміж сабой мы, вядома, павінны не забывацца на іх, але...

Машына ўскочыла ў яміну, і Бялоў стукнуўся ілбом аб пярэдняе шкло... Узлаваўся на шафёра.

— Ты што, першы раз едзеш, ці што?

Хлопец пачырванеў і паехаў павальней, хоць пасля гэгэтай апошняй яміны дарога пачалася роўная, сухая. Засіпелі шыны.

— Перад партыяй хітрыць нельга, Нікалай Лявонавіч. На нашых недахопах, як і на нашых дасягненнях, павінны вучыцца другія.

Бялоў зморшчыўся, адвярнуўся. Але Макушэнку добра быў відаць яго твар у маленькім круглым люстэрку.

— Ты гэта гаворыш так, быццам Бялоў калі хітрыў. Я — дваццаць гадоў у партыі.

Макушэнка змаўчаў, апанаваны нейкімі сваімі думкамі.

Паабапал дарогі ляжала старое ляда з рэдкімі рэшткамі струхнелых пнёў. Далей, з правага боку, шырокай гладдзю бліскала паміж альховых кустоў балота, залітае вясновай вадой. Наперадзе, за які кілометр, пачынаўся сасоннік.

— Вось дзе наша багацце, Нікалай Лявонавіч. Трэба абавязаць Краўчанку падняць гэтую цаліну балотным плугам.

Бялоў маўчаў. Машына набліжалася да сасонніку.

— А на дарожку ты не забывай і мне напамінай. А то высахне, і мы зноў забудзем да восені. Трэба ў першыя-ж дні, іяк толькі адсеемся, заняцца ёй.

Пачаўся сасоннік, і дарога адразу стала пясчанай. Матор зноў пачаў сярдзіта чмыхаць, страляць; пад шынамі ручаём цёк сухі, як прысак, пясок.

Бялоў павярнуўся назад, пранікліва паглядзеў Макушэнку ў твар.

— Слухай, Пракоп Пракопавіч, я чалавек просты і люблю рубіць з-за пляча. Але твайго выступлення на апошнім бюро не разумею.

На твары сакратара райкома на міг адбілася здзіўленне, ён ледзь прыкметна перасмыкнуў плячыма і пачаў папраўляць гальштук, які і так быў завязаны беззаганна.

— Ты плячыма не паціскай, а скажы шчыра па-партыйнаму: нездаволены?..

— Чым? Зямельным аддзелам і аддзелам калгаснага будаўніцтва — так. Я-ж сказаў на бюро...

— Не. Наогул... — Бялоў павярнуўся да сакратара тварам і паказаў пальцам на сябе.

— Каб гэта было так, як ты думаеш, то запэўняю цябе, што я не пасароміўся ўжо даўно-б сказаць аб гэтым на ўвесь голас.

— Тады навошта ты яго так распясочыў? Чакай. Я працую старшынёй райвыканкома дванаццаць год, з рознымі сакратарамі працаваў, і амаль з усімі жыў дружна...

— Розная дружба бывае, Лявонавіч. Я хачу каб у нас з табой была сапраўдная, партыйная дружба.

— Я разумею. Але, ведаеш, выпрацаваўся ўжо нейкі этыкет. Сакратар і старшыня аб усіх недахопах, рознагалоссях дамаўляюцца паміж сабой.

Макушэнка цмокнуў языком, паківаў галавой.

— Этыкет не зусім партыйны, Нікалай Лявонавіч. Аднак, калі ласка, дамовімся сам-па-сам. Але калі справа ідзе аб шляхах развіцця раёна, — прабач, буду гаварыць, крытыкаваць любога работніка на любым партыйным паседжанні і сходзе. І дрэнны будзе той работнік, які за гэта пакрыўдзіцца.

Бялоў адвярнуўся, сеў проста; твар яго набыў звычайны выраз — вясёлую рухавасць. Пасля доўгай паузы, сказаў:

— Я, Пракоп, за крытыку ніколі не крыўдзіўся.

Сонца было якраз насупраць, і сваімі яркімі майскімі праменнямі біла ў твары, сляпіла вочы. Тут, на сухім пяску, сярод сасонніку, абсыпанага жоўтай квеценню, яно здавалася асабліва пякучым.

— Эх, дожджык, — уздыхнуў Бялоў, узіраючыся ў зацягнуты туманнай смугой край неба. — Падводзіць, Пракоп Пракопавіч.

— Але, сухаватая вясна. Трэба хутчэй канчаць сяўбу.

— Іменна хутчэй. А для гэтага трэба штурмаваць усімі наяўнымі сіламі. Выклікаць адстаючых старшынь па бюро і даваць ім, як кажуць, у косці, каб адчулі і зразумелі. Вось я зараз Рыгаровічу прадзьму мазгі так, што доўга помніць будзе...

Бялоў не бачыў, з якой усмешкай слухаў яго сакратар райкома.

— А пад вечар дабяруся да Дубадзела... А цябе не разумею. У такі гарачы час першы сакратар едзе ў адзін калгас. І ў які калгас? У адсталы? Не. У калгас, які выбіўся ў добра сярэднія, за які цяпер можна асабліва не турбавацца... Ведаеш, Лескавец мне падабаецца больш, чым гэты твой прафесар Лазавенка. Працоцкі хлопец, энергічны... Я неяк заязджаў да яго, паглядзеў і ўзрадаваўся.

— А табе не здалося, што ён падобны на некаторых нашых раённых таварышаў, — хітра ўсміхаючыся, спытаў Макушэнка. — На энергічных работнікаў, але якіх трэба трымаць пад кантролем і папраўляць, а інакш наламаюць дроў.

Бялоў спачатку непрыкметна зірнуў на шафёра, потым павярнуўся да Макушэнкі і разважліва прамовіў:

— Кантраляваць, Пракоп Пракопавіч, трэба ўсіх. Без партыйнага кантролю любы разумнік можа памыліцца.

— Вось я і паеду, пажыву, прыгледжуся да маладога старшыні, дапамагу яму, а там, глядзі, і сам павучуся чаму-небудзь.

— Але ў раёне без малога не сотня калгасаў. І калі ў кожным быць па тры дні...

— Але ў раёне, Нікалай Лявонавіч, не адзін толькі сакратар. Давай падлічым нашых кіруючых работнікаў! На кожны калгас хопіць. Адным словам, бачу я нам трэба будзе як-небудзь сур'ёзна пагаварыць аб стылі кіраўніцтва. Час пачаць барацьбу супроць гастралёрства.

— Правільна! — згадзіўся Бялоў. — Але калі гаварыць наогул аб стылі, дык мне хочацца з табой паспрачацца. Не ўсё мне падабаецца і ў тваёй працы.

— Вось гэта і добра, — засмяяўся Макушэнка, задаволена паціраючы рукі, — што табе хочацца паспрачацца.

Машына выехала на высокі ўзгорак, з якога добра была відаць Дабрадзееўку. На краю хвойніку дарога раздвайвалася. Шлях з тэлефоннымі слупамі ўзбоч вёў у Дабрадзееўку, прасёлачная, цераз узлесак бярозавага гаю, — у Лядцы.

— Цябе проста ў «Партызан»? — спытаў Бялоў.

— Не, заедзем да Ладыніна. Праведаем старога.— Хвіліну памаўчаўшы, Макушэнка дадаў: — Шкада, што ён захварэў у такі гарачы час. Быў-бы ён здаровы, за адзін сельсовет можна было-б не турбавацца...

10

— Мне — дапамогу?— Маша ўбачыла, як адразу змяніўся твар Лескаўца. Ненатуральна выцягнулася шыя, на якой раптоўна напяліся вены — быццам яму стала цяжка дыхаць. Ён стаяў, абапёршыся нагой на тоўстае бервяно і курыў люльку. Пачуўшы такую нечаканую навіну, выхапіў люльку з рота, зняў нагу з бервяна, выпраміўся, не зводзячы вачэй з сакратара райкома.

Макушэнка сядзеў на другім бервяне побач з Лукашом Бірылам і, здавалася, цалкам быў заняты тым, што круціў цыгарку з самасаду, якім пачаставаў яго Бірыла. Толькі адна Маша, якая стаяла збоку, бачыла, як пільна ўпотайкі сочыць сакратар за Лескаўцом, і здагадвалася, што Макушэнка разумее яго пачуцці, яго душэўны стан не горш, чым разумела гэта яна.

Магчыма, адзін стары Лукаш быў абыякавы да гэтага паведамлення. У адказ на ўсхваляванае Максімава пытанне, Макушэнка заўважыў, як-бы між іншым, не пады маючы галавы:

— Не табе. Калгасу.

Максім пераступіў цераз бервяно, махнуў люлькай, засыпаўшы ўсіх табачным попелам, іскрамі.

— Не трэба мне такой дапамогі! Не так дапамагаць трэба! Дапамога добрага суседа! Лазавенка славу сваю хоча павялічыць!.. — ён,

відаць, хацеў вылаяцца, але ўспомніў аб Машы, павярнуўся да яе, са злоснай іроніяй спытаў: — Гэта што... ты папрасіла такую дапамогу?

Упершыню Маша разгубілася пад яго позіркам і не ведала, што адказаць. Раптоўная думка, што сапраўды атрымліваецца, быццам яна сама выпрасіла гэтую дапамогу, якую паабяцаў Лазавенка, збянтэжыла і нават спалохала яе. У іншым святле ўяўляла яна цяпер сваё ранішняе наведванне да Ладыніна. Ці мела яна права адна, ні з кім не параіўшыся, не паспрабаваўшы выправіць становішча ўласнымі сіламі, бегчы да сакратара партарганізацыі?

Сапраўды, ёсць-жа нейкі гонар, нейкі своеасаблівы калгасны патрыятызм... А раптам здарыцца, што ўвесь калгас сустрэне гэтую дапамогу вось так, як сустрэў старшыня?

«Не, не, глупства ўсё гэта! Я абавязана была расказаць аб усім Ладыніну. А дапамогі я не прасіла. Але калі дапамогуць — дзякуй скажу і, веру, усе скажуць гак».

Нібы ў падтрымку яе думкі, пачуўся спакойны голас сакратара райкома:

— Я не разумею, Лескавец, чаму ты гарачышся. Табе дапамога не трэба, а калгасу яна, магчыма, трэба. Ты ў калгаснікаў спытай, парайся. Чаму ты ўсё вырашаеш сам?

— Праўда, Антонавіч, — нечакана адгукнуўся Бірыла,— давай параімся з людзьмі. Дапамога суседа — не ганьба. Сёння — яны нам, заўтра — мы ім.

Максім злосна махнуў рукой і адышоў убок, на бераг рэчкі, стаў над самым абрывам, шырока расставіўшы ногі і задуменна ўтаропіўшы позірк на ваду.

Бірыла ўздыхнуў:

— Эх, маладосць!

Макушэнка ўсміхнуўся, ласкава, спакойна. Смачна зацягнуўся дымам цыгаркі.

— Канчайце хутчэй сяўбу ды бярыцеся за станцыю.

Сакратар, Маша і Бірыла падняліся і таксама наблізіліся да ракі.

— Але... работкі тут, таварыш Макушэнка, хопіць. Колькі чалавек працавала больш месяца — і так што ніякіх слядоў не відаць яшчэ, — гаварыў Бірыла, аглядваючы пляцоўку.

— Чаму-ж! Сляды ёсць.

Яны пайшлі па беразе... Заходзіла сонца. Вялізны вогненны шар выкаціўся з-за дабрадзееўскіх ліп, верхавіны якіх былі відны з-за ўзгорку, і каціўся па лузе, па мяккай, залатой ад праменняў траве. Гарэлі чырванню зарэчныя дубы і ў гэтым дзіўным святле выглядалі нейкімі казачнымі дрэвамі гіганцкіх памераў. Наадварот, хаты вёскі,

якія былі ўжо ў цені ад узгорку і сасонніку, здаваліся маленькія. А ў вышыні над імі рассцілаўся бяскрайні і светлы прастор. Было ціха. Не варушыўся ніводзін лісток вярбы, ніводная травінка. Паветра было нерухомае, душнае, празрыстае над лугам, дымнае ад пылу над вёскай і полем.

Максім дагнаў іх, амаль па-ваеннаму спытаў:

— Я вам не патрэбны, таварыш Макушэнка?

— Калі ласка... Калі ў цябе справы — ідзі займайся імі. І вы, таварышы, не саромейцеся, — звярнуўся ён да Машы і Бірылы. — Я адзін паблукаю тут. Прыгожа ў вас. Я — лірык, у маладосці некалі вершы пісаў.

Макушэнка пайшоў па беразе ўверх па цячэнню і далёка за вёскай, у кустах, нечакана напаткаў Сакавітава. Інжынер ляжаў у густой траве, глядзеў на ваду і задуменна кусаў сцяблінку травы.

Макушэнка зводдаль употайкі паназіраў за выразам яго твару і падумаў з усмешкай: «Б'ю ў заклад, што выязджаць табе адгэтуль сапраўды не хочацца. Шкада пакідаць пачатую справу. Праўда на баку Лазавенкі. Што-ж, дапаможам табе застацца...»

Ён вышаў з-за кустоў. Сакавітаў убачыў яго і падняўся, каб прывітацца.

— А я вас цэлы дзень шукаю, Сяргей Паўлавіч.

— Мяне? — здзівіўся Сакавітаў. — Навошта я вам?

Макушэнка, не адказаўшы на пытанне, прапанаваў сесці, дастаў папяросу, закурыў.

— Прыгожае месца, Сяргей Паўлавіч,— кіўнуў сакратар за рэчку, дзе стаялі дубы і віднелася рунь пасеваў.

— Месца — нічога. Але я вось прышоў развітацца... Мая хвароба — хутка і моцна прывязваюся да добрых людзей і да прыгожых мясцін.

— Значыцца, выязджаеце? Калі?

— Паслязаўтра, — і злосна ляпнуўшы сябе па шчацэ, каб забіць камара, пачаў як-бы апраўдвацца. — Выязджаю. Не магу. Не мой гэта размах. Я такія плаціны за тыдзень будаваў, а тут... людзей знялі... Адзін Лазавенка толькі і думае аб будаўніцтве... Ды пры тым, уявіце сабе, якое маё становішча. Ні пэўнай пасады, ні акладу... Так сабе... інжынер-аматар, утрыманец калгаса... Гэта, ведаеце, проста... — ён паварушыў пальцамі, шукаючы патрэбнае слова і, відаць, не знайшоў.

— Та-ак, шкада, — працягнуў Макушэнка.

— Чаго — шкада?

— Шкада, што вы выязджаеце паслязаўтра. Першы сакратар абкома вельмі прасіў, каб вы заглянулі да яго...

— Я? Па якой справе?

— Дакладна не ведана.

— Хочаце затрымаць? Прызнайцеся шчыра. Але я на часовым уліку... Цяпер ніхто і нішто мяне ўжо не затрымае. Я — упарты і вырашаю адзін раз.

Макушэнка ўсміхнуўся.

— Далібог, нічога не ведаю, дарагі Сяргей Паўлавіч. Але шкада...

— Я магу затрымацца і з'ездзіць.

— Калі можаце — прашу вас... Я цераз вас пісьмо перадам Паўлу Сцяпанавічу...

Пасля гэтай размовы яны доўга яшчэ ляжалі і гутарылі аб розных іншых справах — аб сяўбе, аб міжнародным становішчы, абураліся супраць «дактрыны Трумэна» і крывавых дзеянняў фашыстаў у Грэцыі.

Разышліся, калі добра сцямнела.

Максім, адышоўшы ад сакратара райкома, накіраваўся да канюшні, хутка засядлаў стаенніка і сцежкай, паўз гароды, паехаў у Дабрадзееўку. Каля вёскі ехаў крокам, а ў полі пагнаў каня наўскок. У грудзях у яго кіпелі складаныя пачуцці: закранутае самалюбства, крыўда, злосць і ўпартасць і яшчэ нешта такое, чаму няма і азначэння.

«Дапамога. Нішто сабе дапамога! Дзесяць гектараў пасеюць, а пасля год пальцамі будуць тыцкаць: за вас Лазавенка пасеяў. Ну, дружбачок, не думаў, што ты хітрэйшы за самога чорта. Але на мне не пад'едзеш: дзе сядзеш — там і злезеш. Я сыты па горла ад тваёй ідэйнай дапамогі».

Ён ехаў з цвёрдай рашучасцю пагаварыць «начыстату» і ўсё выкажыць, што ён думае аб ім, Лазавенку, і не папрасіць, не, патрабаваць, каб той адмовіўся ад свайго намеру дапамагчы «Партызану» закончыць сяўбу.

Каля сельмага хлапчукі паведамілі яму, што старшыня толькі што прайшоў за рэчку, у поле.

Надыходзіла ноч, ужо даволі згусціўся змрок. Людзі даўно вярнуліся з работы, і Максім не разумеў, што спатрэбілася Васілю ў такі час у полі. Яго рашучасць пахіснулася і даволі моцна. А ці не будзе такая размова прыніжэннем сябе перад Лазавенкам? А ці разумна тое, што ён думае зрабіць? Ці не дасць гэта повад для новых насмешак і хітрыкаў з яго боку?

Ён павярнуў каня назад... Але, даехаўшы ў канец саду, перадумаў і паўз сад выехаў да рэчкі, пераехаў яе ўброд. Здалёк убачыў адзінокую постаць чалавека, што павольна ішоў па сцежцы, мільгаў аганёк цыгаркі.

Максім саскочыў з каня, павёў яго ў повадзе.

Лазавенка сустрэў яго радасна і без усялякага здзіўлення, нібы чакаў.

— Шкада, што ты цёмна прыехаў, а то я паказаў-бы табе нашы буракі. Цудоўна растуць. Дарэмна ты абмінаеш нас, мы ў гэтым годзе цікавыя эксперыменты праводзім. Ведаеш, вось зараз хадзіў і падлічыў, што за адны буракі і гародніну мы можам пакрыць нашы грашовыя выдаткі на гідрастанцыю. Так што можаш не турбавацца за фінансаванне. Вазьму на сябе, як абяцаў. Давайце толькі людзей. Раззлаваўся я на вас з Гайнай, калі вы сарвалі людзей з будаўніцтва. Эх, думаю, чорт з вамі!..

— І таму вырашыў дапамагчы мне сеяць?

— Але... Сяўбу вы зацягнулі. Трэба ўсе сілы мабілізаваць.

— Дык вось што. Дапамога твая мне не патрэбна!

— Не патрэбна? — Васіль нахіліўся бліжэй, каб разгледзець выраз яго твару. Але ў гэты момант недзе заіржалі коні, і стаеннік звонка адгукнуўся, рвануўшы повад. Максім павярнуўся, ляпнуў яго далоняй па мордзе і спрытна ўскочыў у сядло.

— Так што можаш не турбавацца. Пасеем без цябе.

Але Васіль схапіўся за повад, потым за стрэмя і прытрымаў каня.

— Чакай. Гэта твая асабістая думка, ці праўлення? Твая, вядома. Гонар і ўсё іншае... Дык слухай, што я скажу. Выкінь свой гонар і спытайся ў людзей, жадаюць яны, каб ім дапамаглі, ці не. Я ў сваіх калгаснікаў спытаў. Больш таго, партарганізацыя таксама ўхваліла маю прапанову... За калгас і за ўраджай не адзін ты адказваеш. Цяпер, безумоўна, слова за калгаснікамі «Партызана». І няхай іх старшыня не кіруецца ў такой справе нейкімі асабістымі матывамі. Бывай здароў, Лескавец!

Ён выпусціў повад. Максім, нічога не адказаўшы, павярнуў каня і паехаў, павольна, крокам. Васіль стаяў, глядзеў яму ўздагон і некаторы момант быў упэўнены, што ён вернецца. Яму вельмі хацелася, каб ён вярнуўся. Але хутка постаць каня і чалавека растала ў цемры. Васіль уздыхнуў.

## 11

Штораніцы, задоўга да ўсходу сонца, калі над рэчкай яшчэ стаіць туман і на кожнай травінцы, на кожным лісточку вісяць цяжкія

кроплі срэбранай расы, Васіль Лазавенка выходзіў у поле. Ішоў па разорах паміж пасевамі, па лугавых сцежках. І заўсёды ў яго была мэта. Шмат дзён ён хадзіў на папары і, як вучыць Вільямс, да ўсходу сонца аглядаў іх паверхню: поўзаў на каленях па мокрай зямлі і лічыў парасткі пустазелля на квадратным метры, якія з'явіліся за ноч. Так вызначаліся тэрміны апрацоўкі папару. Пасля, амаль такім-жа чынам, ён штораніцы аглядаў усходы ільну, потым — гарод, плошча якога ў гэтым годзе яшчэ больш павялічылася.

У апошнія дні ўвагу яго прыцягваў участак цукровых буракоў. Штодзень наведваўся ён сюды, пільна сачыў за іх ростам, запісваў у сшытак свае назіранні. Але ён ніколі не рабіў гэтага ўвечары і нават рэдка калі ў такі позні час выходзіў у поле. У той вечар яго проста пацягнула пагуляць, пабыць аднаму, памарыць, і на балоце ён апынуўся зусім выпадкова.

Сустрэча і размова з Лескаўцом чамусьці прыемна ўзбудзіла яго і зрабіла і без таго добры настрой яшчэ лепшым, узнёслым. Між іншым у калгасе ўсе заўважылі (ды і сам ён адчуваў гэта), як паступова змяняўся яго характар. Калі год назад Васіль быў маўклівы, пануры, здавалася, акрамя працы і клопатаў аб гаспадарцы больш нічога не ведаў і не хацеў ведаць, то цяпер стаў больш гаваркі, любіў пажартаваць, асабліва з жанчынамі і дзяўчатамі. Гэта дало жанчынам падставу зрабіць адзінадушны вывад:

— Ну, старшыня наш хутка жаніцца будзе. Не прамаргайце, дзяўчаты.

... Да гэтага ў яго часам узнікалі сумненні наконт добрага ўраджаю буракоў. Але пасля таго, што сказаў ён Лескаўцу, для сумненняў не засталося месца: гэтая каштоўная культура павінна апраўдаць усе яго надзеі! Васіль ажно не стрымаўся — павярнуў назад і пайшоў на ўчастак, хоць было ўжо зусім цёмна. Вёска ўтульна свяцілася электраагнямі, зоркамі ляцелі ў яснае неба іскры з трубы «сілавой». А на балоце моцна пахла вільготным торфам.

Васіль ішоў і думаў. Ідэя аб вырошчванні буракоў нарадзілася ў яго яшчэ тады, калі ён упершыню наведаўся да Гайнай. Суседзі-украінцы вырошчвалі іх ужо шмат год, атрымлівалі даволі добрыя для паўночнага раёна ўраджаі. Буракі давалі вялікі грашовы прыбытак, і хітрая Тайная любіла пры выпадку пахваліцца імі. Яна з года ў год павялічвала плошчу іх пасеву. Васіль адразу рашыў пераняць вопыт суседзяў. Члены праўлення сустрэлі яго прапанову без асаблівага энтузіязму. Праўда, не пярэчылі (яны звычайна не пярэчылі, калі ён прапаноўваў што-небудзь новае), але аднесліся неяк абыякава.

— Можна пасеяць для спробы... Але ці-ж у нас украінскі чарназём, Васіль Мінавіч?

Васіль абурыўся:

— За сем кілометраў ад нас растуць цудоўныя буракі... Дык няўжо ў нас не тая зямля, не той клімат... не тыя ўмовы?..

Ён цвёрда вырашыў даказаць і Тайнай, і сваім членам праўлення, і ўсім, хто сумняваецца, што буракі з поспехам будуць расці і на зямлі «Волі».

Яго задуму падтрымалі Ладынін і Шышкоў, асабліва горача — аграном. Яны разам на працягу ўсёй зімы перачыталі дзесяткі кніг аб агратэхніцы цукровых буракоў, наведаліся разы два ва украінскі калгас, пагаварылі там з лепшымі майстрамі па вырошчванню буракоў.

З надыходам вясны пачалі думаць аб падборы людзей. Васілю хацелася паставіць на чале гэтай справы такога чалавека, які змог-бы загарэцца гэтай ідэяй так, як ён, зацікавіць людзей, зрабіць вырошчванне цукровых буракоў прафесіяй і, калі не ў гэтым годзе, то цераз год, цераз два вырасціць такі ўраджай, які прынёе-бы славу ўсяму калгасу. Такі чалавек быў, ён думаў аб ім з самага пачатку. Насця! Але пасля выпадку ў полі з агароджай для снегазатрымання яму было цяжка гаварыць з ёй. Нарэшце, адкінуўшы прэч гонар і ўсё іншае, ён аднойчы ўвечары ў сакавіцкую завіруху дзедам-марозам уваліўся ў яе хату. І вельмі напалохаў і самую Насцю і яе бацькоў: ім здалося чамусьці, што ён прышоў у сваты. А таму, калі ён пачаў гаварыць зусім аб іншым — аб нейкіх там бураках, — яго сустрэлі даволі няветліва. І слухаць не захацелі — ні Насця, ні яе бацька, Іван Рагін, старшыня калгаснай рэвізійнай камісіі.

Насця, здавалася, гатова была кінуцца на яго з кулакамі, твар яе то бляднеў, то чырванеў ад гнеўнай узрушанасці.

— А жыта?

— Ды такі ўраджай жыта, які паабяцалі вы, мы павінны вырасціць ва ўсім калгасе.

— Павінны! Хто гэта яго вырасціць? Сам ты ці што? Не загаварвай мне зубы! Я цябе наскрозь бачу. Ты даўно марыш, каб усё, што зрабіла я, аддаць іншым. Разумнік вельмі!..

«А што ты зрабіла, чортава лялька?» — Васіль ледзь стрымаўся, каб са злосцю не спытаць гэтак.

Яе нетактоўнасць абурыла бацьку. Стары сярдзіта стукнуў далоняй па стале.

— Насця! Не забывай, з кім гаворыш!

— Не забываю! З жаніхом сваім, — з злоснай іроніяй прамовіла яна і, засмяяўшыся штучным смехам, хутка вышла з хаты.

Дзёрзкасць яе збянтэжыла і Васіля і старога Івана. Васіля ў дадатак яна яшчэ і абразіла. Гэта быў амаль адзіны выпадак, калі з ім, з аўтарытэтным і патрабавальным старшынёй, так размаўлялі. І ніхто яшчэ так не адмаўляўся ад работы, якую ён прапаноўваў. Усведамленне таго, што дамагчыся, настояць на сваім яму не дапамогуць у гэтым выпадку ні пастанова праўлення, ні спагнанне, яшчэ больш узлавала яго.

Вылаяўшы сябе дурнем за гэтае недарэчнае наведванне, ён ветліва развітаўся з Рапным, але ў душы яго была завіруха. «Жаніх! Няхай на табе чорт жэніцца, дурніца!»

Шышкоў да слёз рагатаў, калі Васіль у той-жа вечар шчыра расказаў яму аб сваёй размове з Насцяй.

— Ведаеш што? Дазволь мне пагутарыць з ёй, — весела прапанаваў ён.

— Чаму я павінен дазваляць? Калі ласка.

— А раптам будзеш раўнаваць?

— Ну-ну, адчапіся хоць ты!

Дні праз два Шышкоў правёў Насцю з кіно, і яны доўга прастаялі каля яе дома, не гледзячы на халодны, вільготны сакавіцкі вецер. Назаўтра ўсе бабы каля калодзежаў гаварылі ў адзін голас аб гэтай навіне: «Аграном заляцаецца да Насці».

А праз тыдзень Шышкоў сказаў Лазавенку, што ён мае намер з'ездзіць да вядомых буракаводаў на Кіеўшчыну.

— Хачу пераняць найлепшы вопыт.

— Цудоўна! — узрадаваўся Васіль. — Пазваню Макушэнку і паеду разам з табой.

— І думаеш мне будзе вельмі прыемна ехаць з табой?

Васіль здзівіўся.

— У мяне больш прыемны напарнік ёсць, — Шышкоў нібы збянтэжыўся.

— Насця!?

— Чаму ты так здзівіўся? Ажно пабялеў. Я, брат, ведаю, чым яе можна сагітаваць.

— Пачынаю верыць, што ты сагітуеш яе не толькі буракі вырошчваць...Што-ж, жадаю поспеху.

Пасля паездкі, Насця сама падала заяву ў праўленне аб пераводзе яе на ўчастак буракоў.

Дзяўчаты пачалі працаваць з такім запалам, што старшыня калгаса толькі цешыўся, назіраючы за імі, і нават стараўся не надта ўмешвацца, даручыўшы агранамічнае кіраўніцтва Шышкову.

...Апанаваны ўспамінамі і думкамі, Васіль непрыкметна наблізіўся да ўчастка буракоў. Тарфяная сцежка была мяккая, як дыванная дарожка, ісці па ёй было прыемна, не перашкаджалі думкам крокі. Лёгка было дыхаць вільготным прахладным паветрам. Кантраст паміж электраагнямі вёскі і гэтай глухаманню балота з дзікімі начнымі гукамі ўздымаў яго настрой, напаўняў сэрца нейкім урачыстым захапленнем. Каб выпрабаваць сябе, Васіль падумаў аб Машы. Ад такой думкі яму заўсёды рабілася сумна. Але зараз гэтага не здарылася. Наадварот, у душы запалілася яшчэ адна ясная і цёплая зорка.

Неўзабаве ён убачыў перад сабой белую постаць, яна рухалася яму насустрач. Ён здзівіўся: «Жанчына! Якое ліха яе носіць у такі час! І не баіцца. Смелыя парабіліся за вайну. Блукае, як прывід. Забабоннага чалавека спалохаць магла-б», — і ў яго на момант з'явілася гарэзлівае жаданне: легчы ў разору і напалохаць гэтую смелую жанчыну. Але ён адагнаў такую несур'ёзную думку:

«Можа ў каго карова ад стада адстала».

Жанчына не магла ўжо не бачыць яго, аднак моўчкі, не сцішаючы крокаў, набліжалася. Васіль пазнаў Насцю і здзівіўся яшчэ больш.

— Насця?! Ты што тут робіш?

— А ты?

— Я? Я — гуляю.

— І я гуляю.

— Але-е... Не зусім зручнае месца ты выбрала для прагулкі.

— Можа каму і не зручнае, а для мяне — лепшага няма! Тут — мая слава пасеяна.

Васіль непрыязна падумаў:

«Ну, здаецца, ты звіхнулася на славе».

Насця пайшла побач, па сцежцы, адціснуўшы яго плячом на раллю. Яна зразумела, што гэта не зусім яму спадабалася і з іроніяй сказала аб іншым:

— Ты, бедны, удзень часу не маеш да нас зайсці, дык уначы ходзіш. Ты ўдзень прыдзі і паглядзі, якое мы цуда росцім.

— Прыходзіў, бачыў.

— Ну і што? — яна павярнулася, штурхнуўшы яго плячом.

— Здаецца, нішто павінны быць бурачкі.

— Здаецца!.. Нішто!.. — перапыніла яго Насця, хмыкнуўшы. — Я ўжо колькі разоў употайкі бегала глядзець у гайнаўцаў. Нашы куды лепшыя!

— Аднак куранят лічаць увосень.

— А я зараз лічу. І не памылюся! — упэўнена заявіла яна і, памаўчаўшы, ужо другім, лагодным і ласкавым, голасам дадала: — Вось заваюю славу сабе і табе...

— Мне слава не трэба, Насця.

— Не трэба? — яна шчыра здзівілася. — А што табе трэба?

Васіль на момант сумеўся, але не таму, што не ведаў, што адказаць ёй. я проста раздумваў, як адказаць: сур'ёзна ні жартам. Адказаў сур'ёзна:

— Што мне трэба? Вельмі мала і ў той-жа час многа. Каб з кожным годам багацеў наш калгас, шчаслівей жылі людзі... Тады і маё жыццё...

Насця зноў перапыніла яго:

— Ты мне гэта гаворыш так, быццам я дык не жадаю гэтага, а толькі пра сябе думаю...

— Амаль угадала... Калі ты столькі думаеш аб сваёй славе...

— А ты не думаеш? Хлусіш!.. Не паверу!

Падышлі да сенажаці. Трава была высокая і ўжо росная, а сцеліка вузкая, і ён адстаў, пайшоў за Насцяй.

— Я не раз кідаўся з гранатамі на фашысцкія танкі і, можаш верыць, ні разу не думаў аб славе. А вось аб жыцці я думаў і перад боем і пасля бою і нават тады, калі мяне прашыла навылёт куля...

Яна змаўчала, толькі ледзь чутна ўздыхнула.

Васіль адчуваў, што гэтая размова і ўспаміны аб вайне пачынаюць псаваць яму настрой і ўзлаваўся на Насцю: «Што ёй трэба было?» Яна ішла павольна, аббіваючы рукой расу з высокіх сцебляў травы.

— Ідзі, калі ласка, хутчэй. Мяне дома вячэраць чакаюць.

Яна адразу пайшла вельмі шпарка і, прайшоўшы крокаў пяцьдзесят, раптам засмяялася, ціха і неяк дзіўна, як смяецца толькі чалавек з самога сябе.

Яны вышлі за грэблю, перайшлі мост. З рэчкі глядзелі зоркі і, здавалася, што яны плёскаліся ў вадзе. У сажалках пявуча туркацелі лягушкі. А на краі вёскі адзінока і сумна дрынчэла балалайка. Да самай вёскі яны не сказалі больш адзін аднаму ні слова. Каля школы Насця спынілася, павярнулася да Васіля.

— Так нічога ты мне і не сказаў?

Ён паціснуў плячыма:

— А што я павінен быў сказаць?

— Гексахларан да гэтага часу не прывезлі. Колькі разоў гаварыць трэба? Зноў драцянік з'явіўся, — яна гаварыла гэта злосна, ахрыплым голасам. Ён не бачыў выразу яе твару, але па тым, як яна дыхала —

перарывіста, глыбока, — адчуваў, што яна хутка не вытрымае і скажа нешта абразлівае. І не памыліўся. Яна раптам нахілілася і прашаптала, сцяўшы зубы:

— Бессаромныя твае вочы, Васіль!.. Эх ты!.. — і пасля нядоўгага маўчання кінула:—Перадай гэтаму свайму... «намесніку»... Няхай не думае і не спадзяецца. На халеру ён мне здаўся, аднарукі...

— А навошта абражаць чалавека?

— А пайшлі вы к чорту ўсе! — яна павярнулася і ўподбег кінулася цераз дарогу ў сад.

Васіль упершыню адчуў, што яму стала шкада гэтай няўрымслівай дзяўчыны.

12

Кожны вечар Васіль прасіў маці, каб яна разбудзіла яго як мага раней. Але ёй ні разу не давялося выканаць гэтага даручэння сына непасрэдна. На досвітку яна падыходзіла да яго, любоўна глядзела, як ён смачна спіць, і шкадавала, як і ў той далёкі час, калі ён, малы, пасвіў кароў, ці хадзіў у школу.

«Няхай яшчэ трошачкі паспіць. Што рабіць у такую рань?» Аднак, тут-жа будзіла незнарок. Васіль спаў у двары пад павеццю. За сцяной, у хляве стаяла карова. Яе ўздыхі і нават рыканне ніколі не будзілі яго, але звон першага-ж струменю малака аб дно дайніцы будзіў нязменна, незалежна ад таго, калі-б ён ні лёг і як моцна-б ні спаў. Падаіўшы карову, маці выходзіла з хлява і здзіўлялася: сын каля ганку абліваўся халоднай вадой, пырскаючы ва ўсе бакі.

Яна цяжка ўздыхала.

— Не спіцца табе, сынок. Замучае яна цябе, такая работа. Вунь аграном як спіць! (Сапраўды, Шышкоў любіў паспаць.) А ты... хаця-б разок добра выспаўся.

Яна гаварыла так кожны раз, і Васіль у адказ толькі ўсміхаўся. Але ў тую незвычайную майскую раніцу з хаты, праз адчыненае акно, адгукнуўся бацька:

— Гэй, старая! Не збівай ты яго з толку. Яму спаць доўга не дазволена — ён гаспадар.

— Гаспадар! Другі гаспадар яшчэ больш спіць, — нездаволена бурчэла маці.

— Дрэнны той гаспадар! — не сунімаўся Міна Лазавенка, высунуўшы з акна галаву. Гэта быў яшчэ даволі дзябёлы стары з акуратнай, белай, як у вучонага, бародкай. У першую сусветную вайну ён таксама быў паранены і, як сам казаў, ледзь не аддаў богу душу ў нейкім царскім шпіталі. Зварот дамоў, да сям'і, праца на зямлі, якую

ён атрымаў пасля рэвалюцыі, пасля — радасная праца ў калгасе вылечылі яго. Не гледзячы на свае шэсцьдзесят год, ён быў лепшым у вёсцы касцом, аратым, нястомным падавальшчыкам каля малатарні; гэтую апошнюю работу ён асабліва любіў і ўборкі ўраджаю чакаў, як свята.

Васіль заўсёды быў удзячны бацьку за тое, што ён ніколі не выказваў жалю, не выціраў слёз, як маці, калі бачыў глыбокія шрамы на грудзях і спіне сына, не прымушаў лішне адпачываць.

Наадварот, гаспадарскімі парадамі, калючымі заўвагамі, калі штонебудзь было зроблена не так, ён нібы падзадорваў сына, прымушаў працаваць лепш.

Васіль меў намер прайсці яшчэ раз папярэдзіць брыгадзіраў, каб яны не пазніліся з выездам брыгад на працу ў Лядцы. Напярэдадні было дамоўлена, што рабочы дзень яны пачнуць там не пазней, чым у сябе, а то нават і раней.

Але, убачыўшы бацьку, ён зразумеў, што папярэджваць нікога не патрэбна, тым больш, што раней ён ніколі гэтага не рабіў, і брыгадзіры, якія ўсё выконваюць амаль з вайсковай дакладнасцю, могуць проста пакрыўдзіцца. Вось бацька ўжо даўно сабраўся і, як відаць, з вялікай ахвотай.

П'ючы з салдацкай кружкі сырадой, стары Лазавенка хітра ўхмыльнуўся.

— Ну, сёння мы пакажам лядцаўскім гультаям, як трэба працаваць.

Васіля ажно перасмыкнула ўсяго ад гэтых яго слоў. Ён успомніў размову ў Ладыніна — папрок Ліды і словы Ігната Андрэевіча: «Улічы, што асобныя калгаснікі ў цябе таксама пачынаюць зазнавацца».

— Ты ведаеш, бацька, як гэта называецца?

— Што?

— Што ты зараз сказаў. Зазнайствам.

Стары выцер далоняй вусы і бараду, потым змёў у гэтую далонь са стала хлебныя крошкі, укінуў іх у рот.

— Як хочаш называй, а мы сваю справу зробім.

Паснедаўшы сырадоем з хлебам, Васіль вышаў на гарод (ён пазбягаў хадзіць па вуліцы ў такі ранні час). Па сцежцы паміж гародамі і поплавам ён прайшоў у другі канец вёскі, назіраючы ажыўленне, якое панавала ўжо ў калгасным двары і на вуліцы.

Настрой са ўчарашняга дня ў яго быў незвычайны, усё такі-ж светлы, вясёлы. Хацелася з кім-небудзь пагаварыць. Добра было-б з якім-небудзь жартаўніком, накшталт Прымака.

На адным з крайніх гародаў ён убачыў схіленую постаць жанчыны. Пазнаў старую Гарбыліху.

«Рана бабка свае градкі калупае»,— падумаў ён і, успомніўшы адзін выпадак, які адбыўся са старой, засмяяўся. Было гэта ў той час, калі ўстанавілі лакамабіль і пачалі праводзіць электрычнасць у хаты калгаснікаў. Старая жыве адна, сын яе загінуў на фронце, нявестка працуе на чыгунцы правадніцай, а адзіны ўнук вучыцца ў горадзе. Святло ёй правялі ў першы дзень. Хлопцы зрабілі ўсё, як мае быць, увінцілі добрую лямпачку і, пакінулі бабку радавацца, што больш не давядзецца паліць газнічку, ад якой у яе заўсёды балела галава. Надышоў вечар. Ненагружаная яшчэ электрастанцыя дала такое святло, што ў маленькай хаце стала відаць кожная павуцінка і пылінка. Бабка спачатку парадавалася, але потым адчула, што ад такога нязвыклага святла ў яе пачынаюць слязіцца вочы, яна ледзь начысціла чыгунок бульбы. Нарэшце ў яе разбалеліся не толькі вочы, але і галава, горш, чым ад той газнічкі. Бабуля з вялікім жалем, праўда, рашыла патушыць гэтую дзівосную лямпу і зноў запаліць сваю газнічку. Але як патушыць? Калгасныя электрыкі не паставілі выключацеля і не растлумачылі ёй, што ў такім выпадку трэба рабіць. Яна крыху ўяўляла, што для гэтага трэба выкруціць лямпачку. Паспрабавала, але лямпачка была такая гарачая, што нельга было дакрануцца рукой і зусім не хацела адвінчвацца. Бабуля доўга блукала па хаце, нацягнуўшы на вочы хустку, уздыхала і охала, лаючы і старшыню і ўсіх «асвяціцеляў». А галава яе трашчэла і, здавалася ёй, вось-вось лопне ад гэтага бязлітаснага напору святла. «Божачка мой, ды гэтулькі святла на ўсю вёску хапіла-б. А каб на вас ліха... Гаспадары неразумныя... Мабыць, знарок, чортавы дзеці, зрабілі, каб пасмяяцца з старой... Хоць разбівай гэты пузыр ваш». Нарэшце, пасля доўгіх пакут, надумала: схапіла гладышку, асцярожна падсунула яе пад лямпачку. Эфект атрымаўся нечаканы. Апушчаная ў гладышку лямпачка, давала святло толькі ўгару, утвараючы на столі яркі круг. Усё іншае ў хаце было ў цені, ахутанае мяккім поўзмрокам. Бабуля ад задавальнення ажно засмяялася і неадкладна прывязала гладышку ў такім стане да шнура. Раніцой прышла ў хату суседка, а ў бабулі замест лямпачкі гладышка пасярод хаты вісіць. На тыдзень хапіла смеху для ўсёй вёскі.

... Васіль прыгадаў гэты выпадак таму, што, убачыўшы старую, успомніў сваю ўчарашнюю размову з Дзянісам Гоманам, галоўным механікам і электрыкам калгаса. Гоман паскардзіўся, што хто-ні-хто з калгаснікаў пачаў карыстацца ўпотайкі рознымі электрычнымі пры-

борамі: пліткамі, прасамі, кіпяцільнікамі. Ён назваў прозвішчы і, у ліку іх, Гарбыліху. Васіль здзівіўся:

— Гарбыліха? — і засмяяўся. — Ну, брат, калі Гарбыліха поўмесяца ў печы не паліць, як ты кажаш, а ўсё гатуе на плітцы, дык нам з табой толькі радавацца трэба.

— Невялікая радасць. Васіль Мінавіч. Самі ведаеце, нехапае яе, энергіі. Задыхаемся. Акрамя таго, не ўсе ўмеюць карыстацца, замыкаюць часта. А гэта Гарбыліха ўключыць плітку, а сама на вуліцы з бабамі балабоніць, або карову доіць. Таго і глядзі, што пажар зробіць... Трэба покуль што забараніць, Васіль Мінавіч. Вось пабудуем гідрастанцыю — тады, калі ласка... Навучым усіх карыстацца і паліце на здароўе...

Васіль паабяцаў ужыць меры.

І вось яна — «першая парушальніца грамадскага парадку», як называў іх Гоман.

— Добрай раніцы, бабка Аксіння.

Яна павольна выпрамілася, паглядзела на яго, прыставіўшы да ілба сухую, запэцканую ў мокрую зямлю далонь.

— А-а, Васілёк, саколік, няхай табе бог здароўечка дае.

Яны перакінуліся некалькімі агульнымі словамі. А калі бабуля зноў нахілілася над сваімі бурачкамі, Васіль нечакана пажартаваў:

— Бабка Аксіння! А плітку? Плітку забыла выключыць?

Бабуля надзвычай борзда выпрамілася, пляснула далонямі і ўподбег рушыла дахаты.

— Ах, божачка! Зноў скіпіць!

Але крокаў праз пяць павярнулася і пагразіла яму пальцам.

— Э-э, не жартуй, сынок, я сёння яшчэ не ўтыркала яе, — і сумелася.

Васіль ад душы зарагатаў.

— Выдала ты сябе, бабуля. Сёння-ж аднясі плітку Дзянісу Гоману, ён захавае яе да пары, да часу.

— А можа мне можна, Васілёк? Старая я, цяжка мне галлё з сасонніку насіць...

— Дроў мы табе прывязем, бабуля. У любы час і колькі хочаш...

## 13

Падыходзячы да ўрачэбнага ўчастка, Васіль яшчэ здалёк убачыў Мяцельскага. Дырэктар школы меў вельмі дзіўны выгляд. Босы, у адной споднай кашулі і ў штанах ад найлепшага гарнітура, ён узрушана таптаўся каля палісадніку. Ускалмачаныя валасы, бледны твар з адзнакай спалоху і разгубленасці, нецярплівыя рухі — усё выдавала

яго вялікую ўсхваляванасць. Ён пазіраў то на вокны кватэры Ладыніна, то на школу. Больш нічога навокал не заўважаў. І на Васіля зірнуў толькі тады, калі той гучна і весела прывітаўся.

Мяцельскі хутка паімкнуўся да яго, схапіў за рукі.

— Лазавенка!.. Не, ты падумай, што гэта такое... Чорт ведае, што робіцца!.. Я не знаходжу слоў... Так можа паводзіць сябе толькі ўрач з чорствай душой, бюракрат... Там — чалавек... можа, нават... А ён столькі часу збіраецца... Займаецца фіззарадкай, чысціць зубы... У-у... А ў гэты час, — Мяцельскі ажно застагнаў і, наблізіўшыся да акна, паклікаў дрыжачым голасам: — Ігнат Андрэевіч!..

Васіль нічога не разумеў. Яму было дзіўна, што Мяцельскі, які так моцна паважаў Ладыніна, раптам гаворыць аб ім з такім абурэннем.

— Што здарылася? Які чалавек?

— Ніна Аляксееўна... Ніначка, — у роспачы прашаптаў ён і раптам прыслухаўся. — Цішэй вы!.. — на ілбе яго выступілі буйныя кроплі поту. — Крычыць?

— А што з ёй? — усё яшчэ не мог уцяміць Васіль.

Мяцельскі знішчыў яго позіркам, поўным пагарды і зняваті.

— Ро-оды!..

Дзіўнае слова гэтае электрычным токам ударыла ў сэрца. Васіль адчуў, як яно моцна забілася, як раптоўна хваляванне Мяцельскага перадалася яму.

«Роды», — і ён ужо сам асуджаў Ладыніна за тое, што той так злачынна марудзіць з дапамогай жанчыне, якая праз некалькі хвілін павінна стаць маці. Ён быў памкнуўся пайсці ў дом і сказаць аб гэтым Ладыніну. «Нельга-ж так, на самай справе... Крытыкаваць і падганяць іншых ён умее, а сам... Чысціць зубы, калі побач...»

Але ў гэты момант Ладынін з'явіўся ў адчыненых дзвярах. Быў ён у белым халаце, з-пад якога выглядаў сіні гальштук і светлаблакітная сарочка. На вуснах яго іграла вясёлая ўсмешка. Мяцельскі кінуўся да яго.

— Таварыш Ладынін!..

Ігнат Андрэевіч абняў яго за плечы.

— Рыгор Усцінавіч, крый божа, каб цябе ўбачылі зараз твае вучні. У такім выглядзе! А што, уласна кажучы, здарылася? Нічога асаблівага. Добрай раніцы, Мінавіч. Ты што, дапамагаеш Мяцельскаму хвалявацца, што глядзіш на мяне такімі страшнымі вачыма? Безумоўна, падзея вялікая. Нараджаецца новы чалавек. Але навошта-ж так хвалявацца, дарагі Рыгор Усцінавіч? Усё ідзе вельмі добра. Бо калі-б што-небудзь ды было не так, Ірына Аркадзеўна даўно паклікала-б мяне, і я быў-бы там, як кажуць, на адной назе. А ты раптам не

давяраеш такой спрактыкаванай бабцы... Ты ведаеш, колькі яна прыняла родаў за час сваёй работы?.. Каля двух тысяч, дарагі мой. Вось! — у голасе Ігната Андрэевіча была гордасць за жонку.

Васілю стала ніякавата ад таго, што ён, забыўшыся пра Ірыну Аркадзеўну, так блага падумаў пра Ладыніна.

— Дай закурыць, Мінавіч.

Але Мяцельскага, відаць, не пераканалі спакойныя словы Ігната Андрэевіча. Пачуўшы аб яго жаданні закурыць, будучы бацька ўвесь устрапянуўся і скіраваў на Ладыніна такі ўпрашальны позірк, што доктар ураз здаўся.

— Ну ідзем, ідзем... Што з табой зробіш! Вучыся, Мінавіч, хвалявацца за жонку. Калі-небудзь прыдзецца.

Васіль пайшоў следам за імі, бо быў у палоне новага і надзвычай складанага пачуцця, якое апанавала яго. Толькі пасля таго, як Ладынін схаваўся за дзвярыма дырэктарскай кватэры, а яны з Мяцельскім засталіся стаяць пад акном, ён падумаў аб тым, што яму не зусім ёмка стаяць тут і, перайшоўшы вуліцу, накіраваўся ў калгасны сад.

Але пад ліпамі ён спыніўся, невядомая сіла прыцягвала яго да школы, да Мяцельскага, які хадзіў каля ганка, падымаўся на ўсходцы, на момант заміраў у нерухомай позе, відаць, прыслухоўваючыся. Магчыма, у любы другі час Васіль пасмяяўся-б з такой усхваляванасці звычайна вельмі спакойнага, флегматычнага дырэктара школы. Але цяпер у яго самога неяк дзіўна білася сэрца — трывожна і радасна.

Узыходзіла сонца. Па небе плылі маленькія пазалочаныя хмаркі, і можна было падумаць, што іх гналі першыя сонечныя праменні, бо ветру на зямлі не было. Панавала цішыня. Дыяментам блішчэла раса на нерухомых лісточках яблынь, на траве, на маладым бульбяніку. Толькі ліпа ледзь-ледзь чутна шалясцела, але, магчыма, таму, што ў гушчары яе лісцяў жыла птушыная сям'я. Над дарогай лёталі ластаўкі.

Васіль усёй сваёй істотай адчуваў нястрымную сілу жыцця, ён бачыў і чуў, як прагна цягнецца ўсё да святла, да сонца, як нараджаецца новае жыццё. Не проста жыццё... У гэты міг нараджаецца новы чалавек — уладар і творца ўсяго гэтага хараства зямлі, усіх яе багаццяў. Ад гэтага ў яго сэрцы, быццам песня, расла светлая ўрачыстасць. «З'яўляйся, жыві, радуйся, таварыш новы Мяцельскі! Усё гэта — для цябе!» — ён абвёў позіркам наваколле і ўбачыў не толькі тое, што было перад вачыма, — убачыў, уявіў усё: густое жыта за садамі і цукровыя буракі за рэчкай, штабялі бярвення для гідрастанцыі ў Лядцах, бяскрайнае мора пасеваў, новыя гарады, палацы і школы, усю краіну з усім яе незлічоным багаццем і няспынным рухам уперад, да вяршыняў чалавечага шчасця.

І раптам позірк яго, нібы дайшоўшы да нейкай мяжы, спыніўся і... убачыў мінулае. Адзін выпадак, адзін эпізод з таго часу, калі ішло вялікае змаганне сіл жыцця з сіламі смерці. Шмат ён бачыў за гады вайны: спаленыя вёскі і гарады, смерць блізкіх сяброў, горы трупаў закатаваных фашыстамі людзей, страшныя печы Майданека — але гэты маленькі эпізод чамусьці ўсплываў у памяці часцей, чым усё іншае. Было гэта ў сорак чацвёртым, вось у такую-ж ясную сонечную раніцу. Толькі пара была — пазнейшая. Васіль помніць: жыта, цераз якое яны ішлі, было пераспелае, пачарнеўшае і вытаптанае. На досвітку яго рота выйшла на ўзлесак. За які кілометр гарэла невялічкая літоўская вёсачка — хат пяць. Гарэлі адразу ўсе будынкі, полымя шугала ў неба, а дым падаў і плыў над зямлёй, чорны і горкі, засцілаў сонца. Каля пажару не было відаць ніводнага чалавека, але фашысцкая артылерыя працягвала з нейкай страшнай метадычнасцю і злосцю абстрэльваць гэтае месца. Снарады раскідвалі полымя, трушчылі дрэвы, выварочвалі зямлю. Васіль з групай байцоў кінуўся туды. Нідзе — ні душы, ніякіх дзотаў, ніякіх прыкмет, што тут наогул былі салдаты. І раптам ён убачыў тое, што ўразіла яго на ўсё жыццё. На дарозе, паміж двума спаленымі хатамі, ляжала дзяўчынка год пяці, босенькая, у адной сарочцы. Адарваная асколкам снарада ручка яе была адкінута ўбок, і пасінелыя пальчыкі сціскалі чаравічак. Цела дзяўчынкі былі яшчэ цёплае. Васіль помніць, як ён сядзеў на зямлі каля яе і плакаў, не саромячыся перад салдатамі слёз сваіх. А пасля, калі яе хавалі, на ўсё жыццё запомніліся яму словы сябра і намесніка па палітчасці Сяргея Варанкова, які дзён праз колькі пасля гэтага памёр у яго на руках, смяртэльна паранены ў баі на прускай граніцы:

— Паклянёмся, таварышы, што, заваяваўшы мір, мы нікому не дазволім адняць яго ў нашых дзяцей...

... Васіль стаяў, абапёршыся грудзьмі на галіну яблыні, і выразна чуў голас Варанкова.

Цяжкі ўспамін зацямніў тую светлую ўрачыстасць, якая было апанавала яго. Некалькі хвілін штуршкі сэрца былі балючыя і гулкія, думкі суровыя. Але прадаўжалася гэта нядоўга. На ганак школы вышаў Ладынін. Нешта сказаў, засмяяўся. Мяцельскі кінуўся да яго, абняў і хутка шмыгануў у дзверы.

Васіль з палёгкай уздыхнуў, і рушыў цераз сад у бок Лядцаў.

14

У Лядцах яшчэ ніводнага чалавека не было на калгасным двары, калі з'явіліся калгаснікі «Волі». Яны прыехалі арганізавана — калонай, на чале якой паважна ішоў уладар поля — «Наці». Побач з тракта-

рыстам сядзеў Міхайла Прымак. З кіраўнікоў «Волі» нікога не было ні наперадзе калоны, ні ў канцы яе.

Дабрадзееўцы сціпла, без выгукаў і жартаў, праехалі цераз усю вёску і спыніліся каля двара трэцяй брыгады.

Збоку здавалася, што гэтае незвычайнае здарэнне нікога не ўсхвалявала і не ўстрывожыла — усё засталося на сваім месцы, як было і дагэтуль, у любы дзень у такі ранні час. Але на самай справе ў Лядцах нібы выбухнула бомба.

Амаль усе мужчыны, кожны ў сваёй хаце, раптам абурыліся на жонак за тое, што тыя так позна поркаюцца каля печаў, і паспешліва, абпальваючыся гарачай бульбай і дранікамі,канчалі снеданне. Жанчыны адстаўлялі з печаў гаршкі, будзілі старэйшых дзяцей, давалі ім гаспадарчыя наказы.

— А ты куды, мама?

— На работу! Куды-ж яшчэ!

Бегалі адна да адной, пазычалі вілы, кошыкі. Неўзабаве на вуліцы пачалі збірацца першыя групы гатовых да працы людзей. Сустракаліся, каротка віталіся і адводзілі позіркі, нібы былі вінаватыя адзін перад адным і цяпер няёмка сябе адчувалі.

Перамаўляліся стрымана, часам злосна.

— Мабыць, апоўначы збіраліся, каб у такую рань з'явіцца.

— Хіба не ведаеш дабрадзееўцаў? Адвечныя задавакі.

— Не крывіце душой. Усе мы добра ведаем, што ў сябе яны выходзяць на работу не пазней.

— Мы таксама не пазніліся. Раса не спадала, як на полі былі.

— Ну, чыя, як кажуць, крычала-б, а ваша маўчала-б. Ці не ў цябе, цётка, старшыня хацеў у печы заліць?

— Хацеў ды не заліў. А цябе, паганец, у час работы соннага за куст прывязалі.

Максіма Лескаўца прыезд дабрадзееўцаў таксама захапіў зняняцку. Праўда, ён не спаў і не снедаў. Ён купаўся ў рэчцы недалёка ад маста. Гурчэнне трактара прымусіла яго вылезці на бераг. Ён убачыў калону і хутка пачаў апранацца. Рукі яго пасля халоднай вады дрыжэлі, і ён доўга не мог зашпіліць гімнасцёрку. Абыякавасць, з якой ён вырашыў быў, пасля размовы з Лазавенкам, сустрэць дапамогу, — знікла. Ён адчуў, што хвалюецца, і зноў у думках лаяў Лазавенку, мяркуючы, што той знарок арганізаваў гэты «парад», каб «насаліць» яму, Лескаўцу.

Згаджаючыся прыняць дапамогу, калгаснікі «Партызана» кіраваліся адным добрым жаданнем: хутчэй скончыць сяўбу. Мабыць, ніхто

не ўгледжваў і не шукаў у гэтай дапамозе нейкіх іншых матываў і хітрых намераў з боку суседзяў.

Інакш усё ўяўлялася Максіму, ён наперад ведаў, што дабрадзееўцы пакажуць большую арганізаванасць і дысцыпліну ў працы, павысяць нормы выпрацоўкі, якія існуюць у «Партызане», лепш апрацуюць глебу. І ўсё гэта Лазавенка выкарыстае, каб на прыкладзе даказаць, які ён, Лескавец, няздольны кіраўнік. Максім быў цвёрда перакананы, што паміж прыездам у калгас сакратара райкома і гэтай дапамогай ёсць пэўная сувязь. Чаму сакратар прыехаў іменна да яго? І прыехаў не так, як звычайна прыязджалі ўсе іншыя кіраўнікі, а размясціўся так, нібы думае жыць у калгасе невядома колькі часу. Хутчэй за ўсё, што гэта таксама справа Лазавенкі. І вось ён выкарыстоўвае гэты прыезд. Бо чаму ён усю вясну маўчаў і нават пазбягаў сустрэчы, на будаўнічую пляцоўку хадзіў не цераз вёску, а па беразе?

У Максіма кіпела на душы.

... На вуліцы ён спаткаўся з Макушэнкам.

Сакратар райкома ішоў у канец вёскі, дзе спыніліся дабрадзееўцы.

Угледзеўшы яго і, відаць, саромячыся спаткацца з ім на вуліцы ці прыйсці пазней, мужчыны і жанчыны цераз гароды спяшаліся на калгасны двор. Максім разумеў іх, бо і сам разгубіўся: падумае сакратар, што ён дагэтуль спаў. Але прывітаўшыся, Макушэнка проста спытаў:

— Выкупаліся? Кожную раніцу так? Зайздрошчу. Ну, ідзёмце, дайце людзям работу. Выкарыстайце на тых участках, дзе ў вас прарыў.

У Максіма зноў успыхнула абурэнне, і ён, не хаваючы злосці, адказаў:

— У нас усюды прарыў. Толькі і жывем, што з дапамогі добрага суседа...

Сакратар дакорліва паківаў галавой:

— Эх, Лескавец, Лескавец!

Максім пачырванеў.

— Адкуль у цябе гэтая хвароба? Усё табе здаецца благім. Лазавенка цябе падседжвае, «топіць»... Ладынін яму дапамагае... Сакратар райкома прыехаў у калгас — табе таксама здалося алах ведае што... Схамяніся, дружа!..

Вельмі ўражаны тым, што сакратар нібы прачытаў яго думкі аб сваім прыездзе, Максім не знайшоў што адказаць. А незвычайна простыя і цёплыя словы яго «Схамяніся, дружа», — упалі на сэрца залатымі зернятамі, якім належала хораша ўзыйсці там, даць багаты ўраджай.

... У першы вечар Макушэнка зайшоў да Лескаўца. Уласна кажучы ішоў ён не да Максіма, бо з ім толькі што гаварыў каля рэчкі — ішоў

да Сынклеты Лукічны, бо лічыў сваім чалавечым абавязкам наведаць жонку свайго партызанскага друга.

Сынклета Лукічна была на гародзе — варыла вячэру. У вёсцы быў звычай — вячэру ўлетку гатаваць на агні, дзе-небудзь у садзе ці ў канцы гароду, каб не паліць нанач у печы. Хутчэй, прыемней і нават смачней, бо часта тут-жа пры агні і вячэралі.

Убачыўшы сакратара, Сынклета Лукічна і разгубілася і ўзрадавалася адначасова.

— Прабачце, Пракоп Пракопавіч, частаваць вас буду тут, у зямлянку запрашаць не буду.

Макушэнка сеў збоку на траву. Сынклета Лукічна хуценька пайшла да зямлянкі. Цямнела. Заціхаў вячэрні вясковы гоман.

Макушэнка задуменна глядзеў на маленькія язычкі полымя, якія асцярожна лізалі чыгунок. Два хлапчукі прынеслі стол і дзве табурэткі. Макушэнка папрасіў іх:

— Перадайце цётцы Сылі, каб яна не турбавалася. Нічога не трэба.

— Добра. Перададзім. Але яна не турбуецца, яна настойку цэдзіць з гэткай вось бутэлі, — адзін хлапчук развёў рукамі.

Сакратар, усміхнуўшыся з іх непасрэднасці, паглядзеў у бок зямлянкі. У вочы кінулася чорная пройма дзвярэй у белым зрубе, ён адчуў сябе вінаватым, што дагэтуль сям'я Антона Лескаўца жыве ў зямлянцы. Недаравальна, што ён не ўмяшаўся ў гэта больш дзейсна. Яму расказвалі, чаму Максім зняў цесляроў. Наогул калгаснікі, як ён пераканаўся, выказваліся аб сваім старшыні станоўча і нават тыя, хто скардзіўся на яго за грубасць ці яшчэ за што-небудзь, рабілі гэта без асаблівага абурэння, з агаворкамі, са скідкай на маладосць.

— Калі-ж наваселле? — спытаў Макушэнка, як толькі Сынклета Лукічна вярнулася. Яна ўздыхнула. Ён памаўчаў, назіраючы, як спрытна яна рэзала сала, потым нечакана спытаў:

— Ёсць чым заплаціць?

— Ды заплаціць-то ёсць чым, але...

— Заўтра я выклічу такую брыгаду, якая за тры дні здасць гатовы дом.

Ён вырашыў зняць частку брыгады з будаўніцтва будынка райкома.

«Калі мы які тыдзень пабудзем у старым памяшканні — нічога страшнага, а тут — жывыя людзі, сям'я партызана-героя», — разважыў ён.

— Вам і так гэтулькі клапот, Пракоп Пракопавіч, а вы яшчэ будзеце нам цесляроў шукаць, — для прыліку сказала Сынклета Лукічна, але ад яго не захавалася, што яна ўзрадавана.

Шумна сіпела сала, злосна затрашчэла і запырскалася тукам, калі гаспадыня ўліла на патэльню яйкі. Бялок адразу стаў белым, узняўся бурбалкамі. Яешня апетытна запахла. Сынклета Лукічна, схіліўшыся, падкладвала пад трыножкі трэскі, яны загараліся адразу жарка і светла. Макушэнка не адводзіў ад агеньчыка вачэй. Любіў ён пасядзець пры ім, бо заўсёды ў такія моманты яго апаноўвалі партызанскія ўспаміны. Вось і зараз ён бачыў перад сабой Антона Лескаўца, чуў яго прастуджаны, але бадзёры голас: «Добра мы працавалі да вайны, Пракопавіч, але пасля яе, думаецца мне, народ будзе працаваць яшчэ лепш. Вось я, напрыклад... Ды мяне зараз дапусці да мірнай працы — горы перавярну. Хіба я так цяпер кіраваў-бы калгасам! Ды я такое-б жыццё ў ім стварыў, што люба паглядзець было-б! За вайну мы яе, нашу Савецкую ўладу, яшчэ мацней палюбілі, сэрцам і розумам адчулі, як многа яна нам дала, а таму хочацца і ёй усё аддаць, што можаш...»

Макушэнка амаль дакладна помніў гэтыя словы. Антон Лескавец гаварыў іх у летні вечар вось пры такім невялічкім агеньчыку. Хораша ён умеў марыць аб будучым жыцці!

Сынклета Лукічна бачыла, што сакратар задумаўся і, нібы здагадваючыся, аб чым ён думае, маўчала, каб не перашкодзіць.

«Трэба Максіму сказаць гэтыя словы. Наогул трэба будзе расказаць яму пра бацьку, ён, відаць, мала ведае аб яго рабоце. Дарэчы было-б вось тут, за чаркай настойкі»...

— Дзе-ж гэта гаспадар так забавіўся?

— Сядайце да стала, Пракоп Пракопавіч, не дачакаемся мы яго. Часта ён так — вячэрай снедае.

— Што-ж, справа маладая...

Сынклета Лукічна ўздыхнула.

— Што так цяжка, Лукічна?

Не адказваючы, яна наліла ў чаркі настойку, падсунула гасцю бліжэй патэльню з яешняй, талерку з хлебам.

— Частуйцеся, Пракоп Пракопавіч, а то нахадзіліся за дзень...

— Не буду ні піць, ні есці, покуль вы не сядзеце вось тут, каля мяне, — ён падсунуў бліжэй другі табурэт.

Жанчына села, крыху адпіла з чаркі і, выцершы вусны рогам хусткі, падперла далоняй шчаку і загаварыла:

— Даўно мне хацелася пагаварыць з вамі, Пракоп Пракопавіч. Вось вы пытаеце, чаму я так цяжка ўздыхаю... Ды хіба-ж я ўздыхала-б, каб ён, як вы кажаце, з дзяўчынай ночкі праводзіў... Для матчынага сэрца гэта радасць якая! Глядзіш, хутка і нявестка ў доме была-б... Засумавала я адна... Але няма ў яго дзяўчыны... Не з ёй ён хо-

дзіць... Адзін блукае па полі, або ў Шаройкі сядзіць, прыяцеля знайшоў!.. Выпівае з ім. Неспакойна ў яго на душы, а ад чаго — не зразумею. Бачу я, гарыць ён на рабоце, баліць яго сэрцайка, каб зрабіць так, як у Васіля, зайздросціць ён Васілю, хочацца яму, каб і наш такі калгас быў. Але нядобра неяк зайздросціць... Васіля ледзь не ворагам лічыць, Ігната Андрэевіча пазбягае, у райком баіцца лішні раз заглянуць, параіцца, баіцца, мабыць, каб не падумалі там, што ён сам нічога не ведае, ні на што не здатны. А хіба-ж так можна? Я-ж ведаю, як бацька яго кіраваў. Райком для яго быў радней дома роднага. Ледзь у чым сумняваўся — адразу ў райком ехаў.

Сынклета Лукічна змоўкла, прыслухоўваючыся да шпаркага конскага тупату па грэблі і па мосце. Радасна заіржаў стаеннік. За рэчкай на яго іржанне адгукнуўся ўвесь табун.

— Максім прыехаў, — амаль шэптам, нібы сама сабе, прамовіла маці, але ў голасе ў яе была радасць. — «Арла» на пашу павёў.

Вёска ўжо даўно заснула. Здавалася, што ўсё жывое перамясцілася туды, на балота: там было шумна — крычалі дзеркачы, ржалі коні, і недзе далёка на ўзгорку, пад сасоннікам, гарэў вялікі агонь. У яго святле час-ад-часу з'яўляліся постаці.

Было ціха, не варушыўся ніводзін лісток на ігрушы, пад якой стаяў стол, але полымя свечкі, якую запаліла Сынклета Лукічна, трапяталася, нібы спалоханае, кідалася ва ўсе бакі.

Макушэнка моўчкі слухаў, зрэдку адкусваючы хлеб і кідаючы відэльцам у рот маленькія кавалачкі яешні.

— Дапамажыце вы яму, Пракоп Пракопавіч! — раптам, нахіліўшыся да яго, горача і хутка прашаптала Сынклета Лукічна, быццам спалохаўшыся, што нехта, перашкодзіць ёй выказаць тое самае галоўнае, дзеля чаго яна і пачала гэтую сардэчную размову.

Сакратар райкома ўспомніў сваю размову з Ладыніным. Усё тое, што яму сказала маці пра сына, гаварыў сакратар партарганізацыі.

Ладынін расказваў, што робіць партарганізацыя, каб кіпучую энергію гэтага маладога і няўрымслівага комуніста накіраваць па правільнаму шляху.

— Мы зрабілі нямала ўжо, — гаварыў Ігнат Андрэевіч. — Здаецца мне, што цяпер даволі нейкага аднаго нечаканага ўдару, аднаго выпадку, каб ён сам зразумеў адразу ўсе свае памылкі. А мы дапаможам яму.

Макушэнка цвёрда верыў у поспех работы старога большэвіка Ладыніна і таму ўпэўнена адказаў маці:

— Дапаможам, Сынклета Лукічна.

Яна не падзякавала, нічога не адказала на яго словы, а раптам пачала расказваць пра мужа, спакойна і проста.

— Антон мой. нябожчык, таксама ў моладасці гарачую галаву меў. Неспакойны чалавек быў!.. Як успомню, дык ажно не верыцца. Кіпела ў яго ў душы, сіла лішняя была, а прылажыць яе не было куды. Дык ён і бунтаваў. Што ён толькі не вырабляў! Першы забіяка быў на ўсё наваколле. Першы завадатар усіх боек быў. У царскія часы ў нас тут па святах вёска на вёску сцяной ішла, на кулачны бой. Дабрадзееўка на Лядцы, а часцей за ўсё разам нашы і іх ішлі «хахлоў» біць — на кісялёўцаў ці гайнаўцаў. Божачка мой, што тварылася! — Сынклета Лукічна, уявіўшы, што тады рабілася, ажно пляснула далонямі. — А Антон мой заўсёды першы ішоў... Хлопцам ён тады быў яшчэ... Аднойчы яго ледзь жывога вынеслі, жывога месца на целе не было. Не стрымалася я тады, кінулася да яго, пачала да сінякоў снег ды лёд прыкладваць. А ён апрытомнеў, смяецца... З таго часу ў нас і пачалося... Цераз год ён сватоў прыслаў. Зімой жаніўся, а вясной на заробкі паехаў, у каменшчыкі. Вярнуўся адтуль — не тым чалавекам стаў... Кніжкі пачаў чытаць...

Макушэнка разумеў яе. Маці вельмі хацелася апраўдаць характар сына, даказаць, што і ён можа быць такім-жа добрым і разумным, якім быў яго бацька.

А сын у гэты час быў недалёка. Прышоўшы дахаты, ён убачыў у садзе пад грушай агеньчык, пачуў голас маці і Макушэнкі і не захацеў ці не адважыўся (ён і сам не разумеў) падыйсці. Цішком залез на вышкі сваёй новай недабудаванай хаты, дзе начаваў, як толькі стала цёпла, і ляжаў там, утаропіўшы позірк у шчыліну для коміна, праз якую на яго глядзелі тры далёкія зоркі.

15

Цесляры з'явіліся нечакана і дружна ўзяліся за працу. Максім нічога не ведаў аб іх прыходзе, і покуль вярнуўся з поля, зруб набыў усе рысы дома, нехапала хіба аднаго коміна. Цесляры нібы знарок у першую чаргу падагналі падаконнікі, вушакі, уставілі новенькія рамы, навесілі дзверы. Здалёк нялёгка было заўважыць адсутнасць шыбаў, а на комін мала хто звяртаў увагі, — і дом выглядаў зусім скончаным.

Максім, убачыўшы гэта, так здзівіўся, што, наблізіўшыся да зямлянкі, не адважыўся зайсці ў дом, две гаманілі людзі, стукалі сякеры, свісталі фуганкі. З коміна зямлянкі цягнуўся ў неба празрысты бялёсы дымок. Маці расчырванелая, у новай хустцы, сустрэла яго на парозе.

— Што гэта такое, мама? — спытаў ён.

— Пракоп Пракопавіч выклікаў брыгаду, што райком будавала.

«Выпрасіла», — хацеў было дакарыць ён яе, але стрымаўся, убачыўшы на яе твары задавальненне, і пабаяўся пакрыўдзіць старую.

— А дошкі? — кіўнуў ён галавой на дошкі, што ляжалі каля дзвярэй.

У яго нехапала матэрыялу на падлогу і ён, не жадаючы звяртацца да Лазавенкі, не раз думаў, дзе, акрамя «Волі», можна распілаваць бярвенні.

— Васіль пазычыў, сам прывёз на машыне. А бярвенні забраў. Распілуе.

Максім не тое, каб узлаваўся, яму стала неяк няёмка. Раней маці нічога не рабіла, не параіўшыся з ім. І раптам... Ён зразумеў гэта, як своеасаблівы пратэст, бунт супраць яго. Стала крыўдна і балюча.

— Трэба гліны, Максімка, прывезці. Заўтра пячнік прыдзе, — ласкава сказала маці, з трывогай назіраючы, як бляднее яго твар. Але ніякая ласкавасць ужо не магла стрымаць яго.

— У мяне ўсе коні на сяўбе. І мне не да гліны!

Маці дакорліва паківала галавой і не пашкадавала яго, хоць ведала, што яму цяжка.

— Тады я Васіля папрашу. Няхай табе сорамна будзе, — яна павярнулася і пайшла ў зямлянку. — Думаеш табе аўтарытэту будзе больш, што ты гліны сабе не прывязеш і ў зямлянцы будзеш жыць?

Максім, нічога не адказаўшы, таксама павярнуўся і пайшоў назад, у поле. Усё пераблыталася ў яго галаве за гэтыя гарачыя дні, спляліся ў нейкі клубок усе пачуцці. З насцярожанасцю сустрэў ён прыезд у калгас Макушэнкі, думаў, што той прыехаў рэвізаваць яго работу, адшукваць яго памылкі. З абурэннем сустрэў ён дапамогу Лазавенкі, звязваючы яе з прыездам сакратара райкома. Але ішоў трэці дзень і ніякага «падкопу» не было і ні ў чым не мог ён яго ўгледзець. А ўсё, што рабілася, рабілася на карысць калгасу, а значыцца — у дапамогу яму, старшыні. Сакратар райкома нават не ўмешваўся ў яго штодзённыя абавязкі. Ён больш хадзіў адзін, знаёміўся з гаспадаркай, проста і шчыра гутарыў з людзьмі ў полі, на ферме, заходзіў да калгаснікаў у хаты, сядзеў на ўроках у школе. На трэці вечар зрабіў даклад аб міжнародным становішчы, скончыў яго спакойнай размовай аб справах у калгасе, заклікаў хутчэй будаваць гідрастанцыю і падумаць аб меліярацыі балота.

Даведаўшыся, што ў краме няма солі, і жанчыны мусяць бегаць у Дабрадзееўку, Макушэнка на досвітку выклікаў заспанага спалоханага Гольдзіна. Цераз дзве гадзіны ў краме ўсё з'явілася. Лазавенка паказаўся толькі адзін раз, — у першы дзень дапамогі. Быў ён пры-

ветлівы, вясёлы, моцна, па-сяброўску, паціснуў руку на развітанне. Калгаснікі яго сеялі і апрацоўвалі глебу, як на сваім уласным полі — добрасумленна, старанна. Максім не мог не бачыць, што гэтая незвычайная дапамога, прыклад дабрадзееўцаў у працы, прабыванне сакратара райкома, яго гутаркі з калгаснікамі, спаборніцтва паміж брыгадамі стварылі такі працоўны ўздым, аб якім ён раней і не марыў. Здавалася, што працавалі не тыя людзі. Гэта нават Шаройка ўбачыў і растлумачыў па-свойму, па-шаройкаўску:

— Хітры наш народ, Максім Антонавіч. Хітры, брат, ой, хітры. Глядзі, як стараюцца пры сакратары. Працуюць, як чэрці. Пры такой рабоце брыгадзіру няма чаго рабіць, не трэба ў шыбы стукаць...

Максім нічога не адказаў.

Хутка набліжаўся канец сяўбы. Усё гэта і радавала яго і чамусьці трывожыла. У той дзень неспакой гэты быў крыху заглох, але нечаканыя цесляры, размова з маці зноў паднялі ў душы завіруху.

Як яму трэба ставіцца да ўсяго гэтага? Не звярнуць увагі на чуласць сакратара райкома, на шчодрасць Лазавенкі? Зрабіць выгляд, што гэта яго не датычыцца і мала цікавіць, што ўсё гэта зроблена імі для яго маці, жонкі партызанскага камандзіра Антона Лескаўца, які сваёй гераічнай смерцю заслужыў такія адносіны да сваёй сям'і, якая засталася?

Але Максім разумеў, што гэта было-б больш чым недарэчна, — аддзяліць сябе ад сям'і, у якой па-сутнасці застанецца тады адна маці, ад светлай памяці бацькі. Недарэчна і няшчыра. Няшчыра таму, што ў сэрцы яго, не гледзячы ні на што, цяплілася ўдзячнасць.

Яму даволі ўжо абрыдла жыццё ў зямлянцы. Ён нават пазбягаў туды заходзіць і зайздросціў, калі наведваўся ў добрыя ўтульныя хаты. Думкі аб сваёй няскончанай хаце часта не давалі яму заснуць да раніцы. І раптам усё вырашаецца так проста і хутка. Цераз некалькі дзён ён будзе ва ўласнай хаце, і ніхто не папракне яго, што ён збудаваў яе, выкарыстаўшы сваё становішча старшыні (ён вельмі баяўся такога папроку). Так, ён не можа не быць удзячны і Макушэнку і Васілю. Але выказаць гэтую ўдзячнасць словамі ён, безумоўна, не мог.

...Узяўшы з канюшні рыдлёўку, Максім непрыкметна прабраўся ў кар'ер, каля старога млына, дзе з даўніх часоў бралі гліну, залез там у глыбейшую яму і за якую гадзіну-дзве выкінуў на паверхню гліны не на адну, а на добрыя тры печы. Прывёз яе дахаты ўвечары, калі ўжо добра сцямнела.

Макушэнка і Ладынін вырашылі ў апошні дзень сяўбы правесці мітынг. Няхай людзі абодвух калгасаў скажуць на ім добрыя, цёплыя словы аб дружбе, аб узаемадапамозе, а яны, кіраўнікі, накіруюць іх увагу на вырашэнне новых задач і, у першую чаргу, на тое, каб поўным ходам разгарнуць будаўніцтва гідрастанцыі.

Ладынін раніцой з'явіўся ў «Партызане» і ўсю першую палавіну дня займаўся сваімі ўрачэбнымі справамі.

Апоўдні ён, Макушэнка і Максім вышлі з вёскі ў поле. Пайшлі за рэчку — там працавала большасць людзей. Дзень быў спякотны, паліла, як у ліпені. І зямля была такая-ж сухая, як сярод лета. Пыл на дарозе быў, што прысак, ногі танулі ў ім. На торны гарнітур Макушэнкі і на боты Лескаўца лёг светлашэры налёт.

Макушэнка паглядзеў у дымнае неба, дзе не было ніводнай хмурынкі.

— Эх, дожджык-бы!

— Сёння павінен быць абавязкова, — запэўніў Ладынін!. — Я заўсёды беспамылкова вызначаў яго набліжэнне. Ные рана. Гудзяць ногі.

Каля маста — стойла. На беразе — чорны квадрат выбітай жывёлай зямлі. На ім цесна ляжалі і стаялі каровы, некаторыя з іх зайшлі ў рэчку і махалі хвастамі, хоць не было яшчэ ні мух, ні аваднёў, а камары пахаваліся ад спякоты.

Сярод статку хадзілі з дайніцамі жанчыны, кожная знаходзіла сваю карову, падымала і адганяла ўбок. Крыху воддаль пад вербамі каля агароджы, якая адгароджвала стойла ад пасеваў, даілі калгасных кароў. Даяркі былі ў белых касынках і белых фартухах. На самым беразе сядзела загадчыца фермы Клаўдзя Хацкевіч, перад ёй, да паловы пагружаныя ў ваду, стаялі бідоны.

— Які дзённы надой? — павярнуўся Макушэнка да Максіма, у змаршчынках пад яго вачыма хавалася хітраватая ўсмешка. Максім сумеўся: усе фермаўскія лічбы пераблыталіся ў яго галаве, хоць Клаўдзя штодзень бамбардзіравала імі. Можа таму яны і не запаміналіся, што занадта многа яна гаварыла гэтых лічбаў. Як разыйдзецца на паседжанні праўлення, дык адным залпам паведаміць усё: і колькі малака давалі каровы да вайны, і колькі мелі-б гэтага малака, каб выканалі ўсе яе, Клаўдзіяй, патрабаванні, і кожны раз аб суседзях — аб надоях у «Дружбе» і ў «Волі».

Макушэнка дакорліва паківаў галавой.

— Старшыні сорамна не ведаць такія рэчы. Запомні, што гэта — не дробязь — малако. У калгасе няма дробязей... Ты павінен ведаць прадукцыйнасць кожнай каровы, не толькі што... Інакш кіраваць не-

льга. А ўяві сабе той блізкі час, калі ў цябе будзе сто... дзвесце дойных кароў. Што тады?

«Вось яно... пачынаецца», — Максім уздыхнуў і выцер з ілба пот. Макушэнка прапанаваў зайсці на стойла.

«Ну, зараз яна натарахторыць — толькі слухай, — падумаў Максім аб Клаўдзі, з неахвотай збягаючы следам за Макушэнкам з насыпу грэблі ўніз на поплаў. — Усё на мяне зваліць, чортава ляскаўка».

Ён успомніў, як хітра і ўпарта ўгаварваў яго Шаройка замяніць Клаўдзю другім чалавекам. Рабіў ён гэта заўсёды пасля таго, як Клаўдзя даводзіла старшыню да кіпення. У такія хвіліны Максім згаджаўся са сваім дарадчыкам, але потым, астыўшы, супакоіўшыся, разумеў, што лепшага загадчыка фермы знайсці цяжка. Пачуццё справядлівасці перамагала ўсе іншыя пачуцці.

Клаўдзя спакойна паднялася, скруціла ў трубку самаробны сшытак з сіняй паперы, сунула яго ў кішэню. На вуснах яе пакінуў даволі прыкметны след хімічны аловак, і гэтая фіялетавая плямка таксама, як і кароткі, не па росту, белы халацік, неяк маладзілі яе, рабілі падобнай на дзяўчыну-падлетка. Але рукі яна паціснула ўсім смела, проста і не па-жаночаму моцна. А Максіму ўпотайкі задзірыста падміргнула: «Пачакай, вось тут я табе задам». І сапраўды, як заўжды, адразу павяла наступленне:

— Надоі? Павышаем, таварыш сакратар. Дзень і ноч дзяўчаты мае кормяць іх, — яна кіўнула ў бок калгасных кароў, перад кожнай з якіх сапраўды ляжалі кучкі свежаік травы.— Усе ўзмежкі паабскубвалі... Але цяжка нам... Паша дрэнная, каровы галодныя... А старшыня вось наш лічыць, што ферма — гэта так сабе... Ён аб адных конях клапоціцца.

— Калі гэта я так лічыў? — узлаваўся Максім.

— Увесь час... Колькі табе даказвала, што ў каровы малако на языку...

— Як у цябе хлусня!

— Лескавец! — абурыўся Ладынін.

— І прасіла і патрабавала, каб для падкормкі кароў было пасеяна што-колечы, як вунь у «Волі». Няхай да «зялёнага канвеера» мы яшчэ не дараслі, але можна было хоць чвэрць канвеера гэтага зрабіць...

Макушэнка з ухвалаю ківаў галавой і ўсміхаўся. Усміхнуўся з чвэрць канвеера і Ладынін. Але Клаўдзя сказала ўсё гэта зусім сур'ёзна, без цені ўсмешкі.

Даяркі стаялі з вёдрамі малака каля кароў, прыслухоўваліся да гутаркі, саромячыся падыйсці. Каровы таксама паварочвалі галовы,

вялікімі вільготнымі вачыма глядзелі на незнаёмых людзей, на сваю гаспадыню і, нібы разумеючы, што яна абараняе іх, уздыхалі.

— Ты, Максім, па дзедаўскіх законах усё яшчэ хочаш жыць. Снег — з поля, жывёлу — у поле, і ўсім клопатам канец. Некалі бацька мой так рабіў, дык помню, маючы двух кароў, ніколі свежага малака не піў, а смятаны і ў вочы не бачыў ні сам, ні мы, малыя. Колькі я табе гаварыла, каб аддзяліць калгасных кароў ад агульнага статку! А ты Шаройку слухаешся...

— Можна падумаць, што Шаройка ў цябе цяля з'еў, — ужо спакайней заўважыў Максім, не зусім удала перавярнуўшы прымаўку.

— Маім цялём ён-бы падавіўся, а вось калгаснага не аднаго з'еў. Таму і ферма малая.

Максім ведаў, што Клаўдзю лепей не чапаць, бо на кожнае слова яна адкажа дзесяццю, і таму адвярнуўся, заглянуў у бідоны.

— Ні ў адным калгасе так не адносяцца да фермы...

Гэтага ён не мог больш трываць і, каб хоць чым-небудзь адпомсціць гэтай уедлівай жанчыне, сказаў нібы між іншым:

— Ты лепей бідоны пачысціла-б. Брудныя.

Клаўдзя захлынулася на поўслове. Заўвага гэтая ў прысутнасці доктара была для яе самай страшнай абразай.

— Брудныя?

— Эх, дзевачкі! Старшыня гаворыць — бідоны брудныя!— праспяваў ззаду зычны голас Гашы, яго стрыечнай сястры, і ў момант усе тры даяркі апынуліся каля Максіма. Закрычалі ў адзін голас:

— Пакажы хоць кроплю бруду! Дзе ён, бруд той?

Разгубіўшыся ад такога націску, Максім злосна махнуў рукой.

— А ну вас!.. — і шпарка пайшоў цераз статак на шлях, зганяючы з месца кароў.

Ладынін хацеў быў вярнуць яго, але, убачыўшы, што Макушэнка з натугай стрымлівае смех, засмяяўся сам.

А дзяўчаты ўсё яшчэ абураліся:

— Нас на малочным заводзе ў прыклад ставяць, а ён — бруд... Каня, нябось, не даў, мы на воліку возім, і ў нас малако ні разу не скісла.

Адышоўшы, Макушэнка і Ладынін пераглянуліся І засмяяліся, зразумеўшы адзін аднаго.

Максім чакаў іх на шляху; абапёршыся плячом аб камель старой пахіленай вярбы, курыў, прагна зацягваючыся дымам.

— Не паважаеш ты крытыку, Лескавец, — сказаў Макушэнка, наблізіўшыся.

— Якая гэта да ліха крытыка!

— А цікава, якой ты яе ўяўляеш, крытыку? — хітра прыжмурыўся Ладынін.

— Раз'елася на ферме, дык зыкуе, як карова... Ёй...— ён асекся, убачыўшы, як нахмурыўся сакратар райкома.

У Ладыніна сышліся ў адну лінію бровы, ён павярнуўся да Максіма і сурова сказаў:

— Ты чаго паклёпнічаеш на людзей? Слухаць агідна! Ды пасля такіх тваіх слоў цябе не толькі адна яна не будзе паважаць, — уся вёска адвернецца...

Максім пачырванеў і маўчаў.

— У яе душа баліць за даручаную справу і гэта трэба ўмець цаніць, падтрымліваць, а не ставіць свой гонар, сваё самалюбства вышэй за справу.

Ладынін абурана перайшоў на другі бок дарогі і неразборліва нешта бурчэў. Макушэнка ўпотайкі назіраў за Максімам і, пасля працяглага маўчання, прадоўжыў сваю думку:

— Але-е, баішся крытыкі. І ў гэтым тваё няшчасце. Баішся крытыкі — значыцца баішся людзей. Баішся добрых людзей, якія клапоцяцца за калгас не менш за цябе і шчыра жадаюць дапамагчы табе... Забываеш, што ты не проста кіраўнік, гаспадарнік, адміністратар, ты — комуніст, выхавальнік. І сіла твая, як і сіла ўсёй нашай партыі, у сувязі з людзьмі, з народам. А якая можа быць сувязь, калі ты баішся людзей? Возьмем самае галоўнае— соцспаборніцтва. Па адносінах да гэтай выключнай з'явы нашага савецкага жыцця правяраюцца ўсе людзі і, у першую чаргу, кіраўнікі... Я ведаю, ты заклікаў людзей спаборнічаць, спрабаваў неяк арганізаваць яго, каб выканаць пастановы партыйных сходаў. Але ці было яно арганізавана ў калгасе? Не, не было яго, сапраўднага спаборніцтва. Не было таму, што не было крытыкі, не было выкрыцця таго старога, гнілога, што перашкаджае росту новага. І раптам без шуму, без мітусні спаборніцтва разгарнулася ў той дзень, калі прыехалі дабрадзееўцы. Што здарылася? Здарылася простае. Сваёй работай, жывым прыкладам яны раскрытыкавалі ў вас і арганізацыю працы і адносіны да яе, і нормы, і кіраўніцтва, у тым ліку і тваё. Так, так, і тваё. І гэта быў нібы выбух... І вось яны — вынікі сапраўднага спаборніцтва. Бачыш? — ён паказаў на засеянае поле. — Вось аб гэтым мы і павінны зараз пагутарыць з людзьмі. Добра пагутарыць... Бо нічога мы з табой не будзем варты, калі з ад'ездам дабрадзееўцаў усё гэта спадзе... Зразумей гэта!

Лескаўцу прапанавалі выступіць першаму, ён стрымана падзякаваў суседзям за дапамогу і пачаў гаварыць аб тым, аб чым якую гадзіну назад гаварыў яму сакратар райкома, — аб сацыялістычным спаборніцтве. Ладынін насцярожыўся, падумаў: «Шчыра, ці крывіць душой?» Але, слухаючы далей, пераконваўся, што прамова старшыні «Партызана» шчырая. Бо нельга гаварыць няшчыра з такім запалам, з такім натхненнем, з такой верай, што словы твае ўзыйдуць у чалавечых сэрцах, як добрыя зерні пасля дажджу. А па ўсім было відаць, што Лескавец верыў у гэта. І Ладынін узрадаваўся, бо адчуў, што гэта новая рыса ў яго характары.

Няшчадна пякло сонца. Сасоннік, на ўскрайку якога адбываўся сход, дыхаў гарачым смольным водырам. Калгаснікі сядзелі, ляжалі ніцма, на баку, абапёршыся на локці, у рэдкім цені маладых сасонак. Запыленыя з ног да выгараўшых валасоў баранавальшчыкі — усе маладыя хлопцы — былі падобны да шахцёраў, якія здабывалі нейкі незвычайны па колеру вугаль. Вочы ў хлопцаў гарэлі вясёлымі агеньчыкамі і зыркалі па баках, шукаючы каго-б штурхнуць, з каго-б пажартаваць. Аднак гэта не перашкаджала ім уважліва слухаць. Прысутнасць сакратара райкома стрымлівала іх. Больш спакойна і паважна сядзелі мужчыны — аратыя і сейбіты. Запылены яны былі не так бязлітасна, у многіх на галавах былі палінялыя вайсковыя фуражкі. Зусім ціха, сціпла, у баку ад хлопцаў, сядзелі дзяўчаты. Жанчын было мала, быў палудзень, і яны пайшлі дахаты, каб накарміць дзяцей, падаіць кароў. Дзяўчаты сядзелі гуртам, прытуліўшыся адна да адной, закрыўшы падоламі сукенак запыленыя ногі.

Але толькі з першага позірку здавалася, што яны спакойныя. А калі паназіраць за іх вачыма, можна было ўбачыць, што пад доўгімі сарамліва апушчанымі вейкамі свяціліся такія-ж гарэзлівыя агеньчыкі, як і ў хлопцаў.

У сасонніку фыркалі коні. Яны схаваліся ад спякоты і, нібы па камандзе, махалі галовамі. Толькі асобныя, найбольш прагныя да ежы, хадзілі па полі і скублі траву. На дарозе стаялі фурманкі, ляжалі перакуленыя ўгару зубцамі бароны, адлюстроўвалі вясёлых зайчыкаў адшліфаваныя зямлёй лемяхі плугоў.

Людзі расселіся неяк так, што прамоўцам Трэба было стаяць на сонцапёку. Васіль Лазавенка пажартаваў з гэтай прычыны:

— Не, сёння аматары доўгіх прамоў не змогуць злоўжываць цярпеннем. Часцей-бы іх на такую трыбуну выстаўляць.

Аднак сход зацягваўся. Гаварылі не падоўгу, але жадаючых выступіць было нямала.

Цёпла, пранікнёна гаварыў Лазавенка аб умацаванні дружбы паміж калгасамі, аб тым, каб, зліўшы намаганні, зрабіць абодва калгасы-суседзі перадавымі.

— Калгасы нашы невялікія, і кожны паасобку ніколі не змог-бы ажыццявіць, напрыклад, будаўніцтва гідрастанцыі. А агульнымі сіламі мы пабудуем яе! Ёсць не мала мерапрыемстваў, звязаных з электрыфікацыяй і механізацыяй гаспадарак, з уздымам ураджайнасці, якія можна зрабіць толькі разам. Напрыклад, асушка Голага балота...

Гэта была яго новая прапанова, ён падрабязна расказаў, як лепей арганізаваць гэтую справу, якія патрабуюцца сродкі — у яго ўсё ўжо было дакладна падлічана — і якія выгоды атрымаюць калгасы пасля меліярацыі. Слухалі яго ўважліва. Максім, які быў упэўнены, што Лазавенка будзе гаварыць галоўным чынам пра гідрастанцыю, папракаць за зрыў работы на будаўніцтве, здзівіўся, Васіль, наадварот, выказаў упэўненасць, што станцыя будзе збудавана ў тэрмін.

Самую кароткую прамову сказаў Міхей Вячэра.

— Дарагія таварышы калгаснікі калгаса «Партызан», дазвольце вам пажадаць, каб вы надалей увесь час працавалі так, як вы працавалі гэтыя тры дні.

— Лепш будзем працаваць! — выгукнуў аднекуль з сасонніку малады голас. — Не пад'язджай, стары хітрун!

— Мы вас яшчэ на буксір возьмем!

— Яшчэ вам дапамагаць прыедзем!

Вячэра пакланіўся.

— Калі ласка. Сустрэнем з дарагой душой.

Доўга гаварыў Шаройка, але яго не перапынялі — слухалі моўчкі, здавалася нават уважліва.

Шаройка моцна пацеў і раз-по-разу выціраў твар вялікай бруднай хусткай. Адзін з хлопцаў, Лёша Прымак, старэйшы сын брыгадзіра трактарнай брыгады, падняўся і паднёс да Шаройкі вялікую дубовую біклагу, у якой змяшчалася не менш вядра вады.

— Калі ласка, таварыш прамоўца, вадзічкі, — не маргнуўшы вокам, сур'ёзна прапанаваў Лёша.

Шаройка разгубіўся. На нейкі момант усталявалася цішыня, а потым грымнуў такі выбух смеху, што з нерухомых сасонак паляцелі ігліцы і спалохана захраплі бліжэйшыя коні.

Недзе далёка за сасоннікам глуха загрымела.

— Гром!— радасна выгукнуў нехта з хлопцаў.

Прыслухаліся.

— У вушах у вас гром! На станцыі грукоча нешта.

Але ў наступную мінуту ўсе зразумелі, што сапраўды грыміць гром. Некалькі чалавек шпарка пабеглі ў поле, далей ад сасонніку, каб паглядзець, што робіцца на даляглядзе.

— Хмара! — пачуліся іх радасныя галасы.

Калгаснікі захваляваліся.

— Цішэй, таварышы! — прасіў Лескавец. — Давайце скончым наш сход. Слова мае таварыш Ладынін.

— Я коратка, таварышы.

— Чаму коратка? Гаварыце даўжэй, Ігнат Андрэевіч. Хіба мы дажджу баімся? Чакаем!

Неўзабаве хмара паказалася і з другога боку, над далёкім лесам, што сінеў гам, куды адыходзіла шырокая пойма рэчкі.

— Вось каб яны сустрэліся над намі, — перамаўляліся калгаснікі, пазіраючы ў бок лесу, — ды лінулі добра.

— Нічога не будзе. Дождж будзе над лесам. Дрэвы прыцягваюць вільгаць, — даказвалі «тэарэтыкі».

А хмара ўсё расла і расла.

Спачатку іх было дзве, верхняя і ніжняя. Верхняя, белая, з роўным краем, спакойна, але хутка плыла, падымалася ўсё вышэй па небасхіле. Ніжняя, цёмнасіняя, ажно чорная пры зямлі, здавалася, падымалася з самага лесу, злівалася з ім і нейкі момант нібы зачапілася за яго, не мела сілы адарвацца. З краёў яна віхрылася дзівоснымі сінімі клубамі, рвалася ўперад і гнеўна кідала ў лес звілістыя, як змеі, бліскавіцы. Але вось пасля адной такой незвычайнай бліскавіцы, што пракацілася вогненным колам пры самай зямлі, хмара імкліва рванулася ўперад і неўзабаве дагнала сваю верхнюю сястру, закрыла яе. Да зямлі працягнуліся доўгія, касыя ніткі дажджу, асветленыя праменнямі сонца.

Людзі ўздыхнулі. За сасоннікам, набліжаючыся, нязлосна грымела другая хмара.

Калгаснікі не спяшаліся запрагаць коней. Яны стаялі і сачылі за дзіўнай ігрой хмар. Вось тая, што плыла з захаду, закрыла сонца. Адразу-ж пасля гэтага зашумелі сасонкі, пракацілася сіняя хваля па руні ячменю ў нізіне.

Упалі першыя буйныя кроплі, глыбока прабілі зямлю. Па дарозе нібы прабеглі дзіўныя невядомыя звяркі і пакінулі маленькія круглыя слядочкі. Людзі сціхлі, прагна ўглядаючыся ў неба. Там, сустрэўшыся, бязладна таўкліся хмары. Мацнеў вецер. На момант кроплі пераксталі падаць.

— Разгоніць, — выдыхнуў нехта з мужчын. Але кроплі пачалі падаць зноў. І раптам бліснула маланка, аглушальна ўдарыў гром і ўдар гэты нібы разарваў хмары: яны хлынулі ліўнем.

З крыкам, з галёканнем запрагалі коней, ускаквалі на вазы — хто на які паспеў.

Маша з групай дзяўчат выпадкова апынулася на возе ў Васіля. Ён сам трымаў лейцы, весела гукаў, і адкормлены стаеннік у момант абагнаў усе іншыя фурманкі. А дождж усё мацнеў. За яго густой заслонай не было відаць ужо ні сасонніку, ні дубоў каля рэчкі, ні вёскі. Дзяўчаты накрываліся кошыкамі, прыціскаліся адна да адной. Але праз некалькі хвілін сукенкі іх прыліплі да цела.

Калі пад'язджалі да вёскі, гром ужо не ляскаў, а зморана бурчэў у далечыні. Дождж крыху сціх, стаў раўнейшы, але быў яшчэ даволі спорны.

Дзяўчаты саскочылі з воза на краю вёскі і цераз гароды пабеглі кожная да сваёй хаты. Машу Васіль падвёз пад самы ганак.

— Бяжым у хату, Вася, — прапанавала яна.

Ён закінуў лейцы за слупок палісадніка і хутка ўскочыў на ганак, нібы дождж толькі яшчэ пачынаўся і ён спяшаўся схавацца. Але на абодвух іх ужо не было, як кажуць, сухога рубца, і вада сцякала струмянямі.

Маша засмяялася.

— Не глядзі на мяне.

Яна адмыкала хату.

Васіль павярнуўся тварам да вуліцы.

— Ах, як хораша замачылі заканчэнне сяўбы! Якое багацце падае, Маша!

— Гэта на маё шчасце,— зноў засмяялася яна і знікла ў калідоры.

Ён зняў шапку, выкруціў яе. Правёў далонямі па грудзях. Гімнасцёрка стала нібы скураная, ажно барабаніла, а сподняя кашуля прыліпла да плячэй. Аднак непрыемнага адчування не было. наадварот, цела поўнілася, бадзёрасцю. Ён прагна ўдыхаў напоўненае азонам паветра і радасна ўсміхаўся, любуючыся дажджом. Па вуліцы цяклі раўчакі. З двароў выскаквалі хлапчукі з падкасанымі штанінамі, бегалі па вадзе, галёкаючы і прыпяваючы:

— Дожджык, дожджык, прыпусці!
Як у полі тры кусты...

Васіль не разумеў сэнсу апошніх слоў, хоць некалі ў дзяцінстве не раз паўтараў іх. Але першы радок і яму хацелася выгукнуць — папрасіць дождж, каб ён быў мацнейшы і ішоў даўжэй.

— Заходзь у хату, Вася.

Ён павярнуўся. Маша стаяла ў сухім плацці з распушчанымі мокрымі валасамі.

— Трэба пачакаць Ігната Андрэевіча.

— Хіба ён не пазнае твайго каня?

Васіль паслухмяна пайшоў за ёй. Прайшоў цераз кухню ў пакой і збянтэжыўся, убачыўшы, што пакідае на чыста вымытай падлозе мокрыя сляды.

— Хочаш, Вася, я дам табе сухую сарочку, Пецеву.

— Ну, што ты!.. Я, зараз паеду.

— А чаго табе спяшацца? Пасядзі. Ты-ж першы раз у нас у гасцях.

Яна гаварыла гэта проста, як вельмі блізкаму чалавеку, і ён ажно разгубіўся і не ведаў, што рабіць: адмовіцца, ці прыняць прапанову.

А Маша тымчасам дастала са скрыні чорную сацінавую сарочку, падала яму, і ў яго нехапіла рашучасці адмовіцца.

Ён вышаў на кухню, каб пераапрануцца. Сарочка была крыху цесная, з кароткімі рукавамі, і Васіль адчуў сябе ў ёй зусім юнаком. Калі ён вярнуўся, Маша прыветліва ўсміхнулася.

— Ну вось, які ты маладзенькі! Пачакай мяне хвіліначку.

Яна накіравалася на кухню. Там загрымелі начоўкі, вядро, палілася вада. Ён адчыніў дзверы.

— Што ты робіш?

— Выпалашчу тваю гімнасцёрку і кашулю.

У яго загарэліся вушы.

— Ну, што ты!.. — ён памкнуўся быў не даць ёй зрабіць гэтага, але яна рашучым рухам адхіліла яго.

Неўзнарок позірк яго спыніўся на яе нагах, стройных, прыгожых, па калені бронзавых ад загару. Яму стала сорамна, і ён хутка вярнуўся ў пакой, стаў каля акна. Сэрца яго моцна білася. Па другім баку вуліцы прайшлі Макушэнка і Ладынін. Ён правёў іх позіркам і схамянуўся толькі тады, калі яны зайшлі ў двор да Яўмена Лескаўца: яму трэба было паклікаць іх. Не пачуў ён таксама, калі Маша зайшла.

— Ах, які дождж! Проста радасць!

Яна стаяла амаль побач, глядзела ў акно і спрытнымі рукамі заплятала касу.

— Каб ты ведаў, які ў мяне настрой! Чаму ты хмурышся?

— Я? Наадварот, — ён засмяяўся. — У мяне таксама незвычайны настрой.

— Ты добра гаварыў на сходзе. Аб балоце і аб новых культурах. Як там Насця?

— Паклялася, што ляжа касцямі, а сабярэ не менш, як па пяцьсот цэнтнераў буракоў, — адказаў ён.

— Сабярэ, — сур'ёзна запэўніла Маша і, хвіліну памаўчаўшы, спытала крыху трывожна і сумна: — А колькі вось я сабяру?

— Чаго?

— Усяго.

— А-а... Будуцьісці вось такія дажджы...

— А калі не будуць?

— У нас не Сальскі стэп, Маша, а Палессе.

— А мінулае лета?

— Такія леты ў нас бываюць раз у дваццаць год. Вунь як ён лінуў. Суткі пройдзе... на месяц вільгаці хопіць.

— Ты суцяшаеш мяне так, быццам я не чытала Вільямса і не чула, што сам-жа ты гаварыў на занятках...

Ён павярнуўся і, забыўшыся на ўсе іншыя пачуцці, па-сяброўску ўзяў яе за плечы, заглянуў у вочы:

— Мілая Маша! Не ўсё адразу. Каб дамагчыся таго, пра што піша Вільямс, трэба многа-многа працаваць яшчэ. І табе і мне... І ўсім нам... Лёгка сказаць: асвоіць севазвароты... Але нялёгка зрабіць гэта...

— Нялёгка... Асабліва ў нас... — яна ўздыхнула і адышла да стала. Дастала з паліцы тоўстую кніжку, разгарнула.

— Чаму — асабліва ў вас?.. Гэта дарэмна... З Лескаўца будзе добры гаспадар... Сёння ён цікава гаварыў пра спаборніцтва. Урэшце...

Ён хацеў быў сказаць: «Відаць, яго перавыхаванне залежыць ад цябе»,— але стрымаўся, прыкусіў язык. Ён даўно ўжо не цікавіўся іх адносінамі і добра не ведаў, у які бок яны зрушыліся пасля яго размовы з Машай.

Маша маўчала, утаропіўшы позірк у кнігу. Ён таксама змоўк. Яна ўзяла з разгорнутай кнігі аркуш паперы, глянула на Васіля, няўпэўнена прамовіла:

— Вось... хачу паказаць табе... першаму...

Ён узяў, прачытаў, і вочы яго загарэліся.

— Малайчына!.. Даўно пара. Праўда, напісаць можна было-б карацей.

— Што ты! Хіба можна карацей! У мяне і так усё вельмі каротка. Глядзі, якая аўтабіяграфія. Два дні пісала і вось колечкі напісала. Сорам паказваць такую аўтабіяграфію.

— Глупства! Справа не ў памеры, Маша. Ёсць біяграфіі доўгія ды з плямамі. А твая, што кропля вось гэтай дажджавой вады. Без парушынкі. Сёння-ж перадай усё Ладыніну.

Маша ўздыхнула.

— Баюся.

— Чаго?

— А калі не апраўдаю? Уяві сабе, дадуць мне людзі рэкамендацыі, я вось у заяве слова партыі дала, як клятву, а пасля...

Васіль сеў за стол, пільна паглядзеў на яе і ціха спытаў:

— У каго ты прасіла рэкамендацыі?

— Ні ў каго яшчэ.

— Я першы паручаюся за цябе. Дай паперу,— ён узяў Алесін сшытак, акуратна вырваў з яго чысты аркуш.

Маша стаяла з другога боку стала, як вучаніца на экзаменах, і не адводзіла позірку з яго рукі, якая старанна выводзіла простыя, але хвалюючыя словы:

«Ведаю Кацуба Марыю Паўлаўну...»

Васіль падняў галаву.

— З якога часу я цябе, Маша, ведаю?

У хату шумна зайшоў Пеця, з парога закрычаў:

— Маша! Сухое! — але ўбачыў Васіля — змоўк, толькі здзіўлена нахмурыўся, пазнаўшы на Васілю сваю сарочку. [1]

Маша адышла да скрыні і пачала шукаць яму бялізну. Пеця заняў яе месца каля стала і бесцырымонна зазірнуў, што Лазавенка піша. Прачытаўшы першыя словы, моўчкі павярнуўся і, узяўшы бялізну, на цыпачках накіраваўся ў кухню.

Дождж не сціхаў. Усё неба было заслана хмарай.

Напісаўшы рэкамендацыю і аддаўшы яе Машы, Васіль падняўся, пажартаваў:

— Добра ў гасцях, але дома лепей. Пайду шукаць Ладыніна.

Маша правяла яго ў сенцы, трымаючы рэкамендацыю ў руках. На ганак яна не выйшла. Прытуліўшыся да хатніх дзвярэй, глядзела, як ён адвязаў каня. як спрытна ўскочыў на воз і шпарка пераехаў цераз вуліцу. І раптам яна адчула, што ў яе не так, як звычайна, б'ецца сэрца — часцей і гучней — і гарыць шчокі. А калі вярнулася ў хату, ёй чамусьці ўспомніліся словы, якія некалі сказала яна Сынклеце Лукічне:

«Ён горды, а я, па-вашаму, не гордая? Не, цётка Сынклета, я таксама гордая»...

У полі паміж Лядцамі і Дабрадзееўкай яны сустрэлі Сакавітава. Інжынер меў такі выгляд, быццам толькі што вылез з рэчкі, але ішоў, не надта спяшаючыся. Убачыў на возе Макушэнку — засмяяўся і закрычаў:

— Буду лаяцца з вамі, Пракоп Пракопавіч! Хітры вы чалавек!

— Што здарылася? — І ўсе трое прыкінуліся здзіўленымі, хоць і Ладынін і Лазавенка ўжо ведалі, з якой мэтай сакратар райкома накіраваў Сакавітава ў абком.

— Не хітрыце, браткі. Ведаю, што ўсе вы ведалі ўсё раней за мяне. — І жартаўліва прадставіўся: — Галоўны інжынер абласной канторы «Сельэлектра» Сакавітаў, Сяргей Паўлавіч.

— З чым вас сардэчна і віншуем, — з усмешкай паціснуў яму руку Макушэнка.

18

Два чалавекі гналі па шляху валоў. Валы былі прывязаны адзін да аднаго і ішлі, панурыўшы галовы, нібы ведалі, што гэта — апошні іх шлях пад сонцам. Пагоншчыкі, наадварот, былі надзвычай вясёлыя і жыццерадасныя — весела перамаўляліся, жартавалі, хоць аднаму з іх было год шэсцьдзесят, а другому — не было і дваццаці. Многа ўсялякага люду за дзень праходзіць і праязджае па гэтым бойкім шляху, міма ўрачэбнага пункта. Але гэтыя двое чамусьці звярнулі ўвагу Ладыніна, які ў гэты час ускопваў градку. Можа таму, што ён пазнаў у іх нарыхтоўшчыкаў райспажыўсаюза, ці таму, што вол адзін — чорны прыгажун, з магутнымі, падпілаванымі рагамі — здаўся яму знаёмым.

— Адкуль валы, сябры?

Пагоншчыкі прыпыніліся, ветліва прывіталіся. .

— Вы пытаеце, адкуль гэтыя валы? Гэтыя валы з гэтага калгаса, — кіўнуў старэйшы галавой у бок Лядцаў.

— З «Партызана»?

— А скуль ім больш быць, я ў вас спытаюся? Там такі смелы старшыня.

Малады хіхікнуў.

Ігната Андрэевіча ажно перасмыкнула ўсяго ад такіх слоў і гэтага недарэчнага смеху.

«Лескавец прадаў валоў, калі ў калгасе нехапае цягла, не ўкамплектавана ферма? Гэтага яшчэ нехапала! Трэба заўтра-ж высветліць».

Хвілін колькі пасля гэтага Ігнат Андрэевіч старанна працаваў рыдлёўкай, намагаючыся забыцца на валоў і на ўсё іншае, акрамя градак. Была нядзеля, і яму хацелася ўрэшце па-сапраўднаму адпачыць.

Але думкі назойліва лезлі ў галаву — аб валах і аб гэтых незразумелых словах старэйшага нарыхтоўшчыка. «Там такі смелы старшыня!»

«Падвыпілі, чэрці, замачылі пакупку. І, безумоўна, не за свой кошт. Трэба сказаць Башлыку, каб прасачыў за гэтымі нарыхтоўшчыкамі сваімі. Нячыстыя, відаць, людзі. Аднак, алах з імі! Што мне пра іх думаць! Хапае сваіх клопатаў», — але думка пра тое, што з імі мог быць Лескавец, мог выпіваць таксама за нейкія там недаплочаныя ці пераплочаныя грошы, не давала магчымасці супакоіцца.

Непакоіла і яшчэ адна акалічнасць. Лазавенка заўсёды раіцца з ім, сакратаром партарганізацыі, перад тым, як прыняць якое-небудзь важнае рашэнне. Гэты-ж упарты Лескавец яшчэ ні разу не прышоў, каб параіцца.

282

Ладынін быў нездаволены сабой.

«Усё-ткі занадта доўга я не магу заваяваць яго давер, знайсці подступаў да яго душы, — ён абапёрся на рыдлёўку, задумаўся, потым аглянуўся — ці не бачыў хто, як ён па-старэчаму доўга стаяў у нерухомасці. — Але гэта заўтра, а сёння адпачынак — і ніякіх размоў!»

Аднак праз хвіліну ён успомніў, што рыхтуецца пытанне на бюро райкома аб развіцці жывёлагадоўлі ў іх сельсовеце. Праўда, будуць слухацца справаздачы Лазавенкі і Радніка — старшынь перадавога і адстаючага калгасаў. Але хіба не будуць гаварыць аб «Партызане»? І раптам — гэтыя два валы...

Ладынін рашуча кінуў рыдлёўку ў разору і хутка пайшоў у кватэру. На парозе сустрэў Ліду.

— Шукай сабе, дачка, другога кампаньёна на рыбу. Я не іду.

— Чаму?

— Іду ў Лядцы.

— Хворы?

— Але, хварэе там адзін чалавек, якога я ніяк не магу вылечыць.

Ліда адразу здагадалася, пра каго ідзе гутарка. Усміхнулася.

— Які там у яго чарговы прыступ?

Бацька расказаў ёй пра валоў і пра сваю гутарку з нарыхтоўшчыкамі райспажыўсаюза.

— Тады і я пайду з табой. Дапамагу насценную газету выпусціць, я абяцала ім.

Максіма яны нечакана сустрэлі на вуліцы. Ён вышаў з крамы, калі яны падыходзілі да яе. Кішэні яго армейскіх штаноў былі адтапыраны. Убачыўшы Ладыніна і Ліду, ён прыкметна збянтэжыўся, прыкрыў кішэні рукамі.

— Добры дзень, таварыш Ладынін. Добры дзень, Ліда Ігнатаўна. Вось дарэчы, што вы прышлі... Вы прабачце мне, Ігнат Андрэевіч, — ён быў, як ніколі раней, ветлівым, і гэта здалося Ладыніну падазроным: ці не адчувае сапраўды чалавек за сабой віну?

— Сёння ў мяне незвычайны дзень. Учора ўвечары перабраўся ў хату, а сёння разбурыў зямлянку... Ведаеце, з радасцю... Сам разламаў.

— Што-ж, з наваселлем вас, — павіншавала Ліда, з цікавасцю назіраючы, як ён чырванее.

— Дзякую. Праўда, святкаваць наваселле думаў крыху пазней, калі ў хаце усё да ладу будзе прыведзена... Безумоўна, вас, Ігнат Андрэевіч, першага запрашу...
— А мяне? — пажартавала Ліда.
Максім павярнуўся да яе.
— Вас, Лідзія Ігнатаўна, я ніколі не адлучаю ад вашага бацькі. Дзе ён — там абавязкова вы.
— Зусім не абавязкова, — засмяялася Ліда.
— Аднак, што мы стаім? — зноў замітусіўся Максім. — Прашу да мяне. Я проста рад, што сустрэў вас. Планы планамі, але сёння да мяне зайшлі Байкоў, Прымак, і мы рашылі папярэдне спырснуць вуглы, каб не рассохліся, — ён дакрануўся рукой да адтапыранай кішэні. — Калі ласка, не адмоўцеся...
Ладынін завагаўся. Адмовіцца, не пайсці — значыцца ўзвесці новую сцяну, бо гэта, безумоўна, закране хваравітае самалюбства Лескаўца і дасць яму падставы і ў будучым трымацца аддалена. Пайсці?.. Але яму карціць спытать аб валах. Дзеля гэтага ён ішоў сюды. Спытацца там, у яго хаце, за сталом?.. А калі што не так? Ён зноў-такі не зможа стрымацца і тады сапсуе ўсё свята не толькі яму аднаму, Лескаўцу... Лепш тут...
— Скажыце, Лескавец, для якой патрэбы вы прадалі валоў?
— Валоў? — Максім насцярожыўся і стаў звычайным— такім, якім заўсёды быў перад сакратаром партарганізацыі,— падцягнутым, афіцыйна-стрыманым, ён зразумеў, што Ладынін з'явіўся ў Лядцах невыпадкова і не да хворага прышоў. — Валоў прадалі па пастанове праўлення, каб купіць машыну...
— Якую?
— Аўтамашыну.
— Дзе?
— А гэта наша справа, абы мы купілі...
Ладынін нахмурыўся. Максім зразумеў, што адказаў нетактоўна і растлумачыў больш лагодна:
— Паведамілі нам, што ў адной арганізацыі ёсць. Туды яшчэ пазаўчора намеснік мой паехаў і даў тэлеграму.
— А вы падумалі, колькі ў вас нехапае галоў на ферме?
— А што мне за карысць з валоў? Малака з іх надоіш ці што? А рабіць... дык машына дваццаць такіх валоў заменіць.
Ладынін добра ведаў, як неабходна калгасу аўтамашына і разумеў, якую вялікую карысць яна прынесла-б. А таму за такое гарачае жаданне набыць яе мог-бы даравацъ Лескаўцу любую камерцыю. Але яго непрыемна ўразіў тон, якім Максім адказваў — дзёрзка, з выклікам.

Уразіў і нават пакрыўдзіў, хоць Ігнат Андрэевіч і не быў чалавекам крыўдлівым.

Ліда таксама пакрыўдзілася за бацьку і, кінуўшы на Лескаўца зняважлівы позірк, адышла да крамы.

Ладыніну хацелася добра, па-бацькоўску прабраць яго за гэты дзёрзкі тон, але ён разумеў, што рабіць, гэта на вуліцы няёмка. Таму ён шчыра ўзрадаваўся, калі да іх падышла Маша.

— Вось дарэчы... Мне трэба пагутарыць з табой, Маша.

— То прашу да нас у хату.

Тады зноў разгубіўся і збянтэжыўся Максім: як цяпер будзе з яго запрашэннем? Ліда нечакана знікла (ён нават не заўважыў калі), а замест яе з'явілася Маша. Цяпер трэба запрашаць і яе. Ён ажно спацеў ад гэтай думкі і пачуў, як моцна закалацілася сэрца. Усю мінулую ноч ён амаль не спаў: у новай хаце апанавалі думкі, якіх не было ўжо даўно. Думаў пра Машу, добра думаў. І вельмі хацелася яму ўбачыць яе за сталом у сваёй новай хаце, пасядзець і пагутарыць шчыра, па-сяброўску не аб адных толькі справах калгасных, аб якіх яны дагэтуль гутарылі заўсёды з пачуццём узаемнай няпрыязь. Але як запрасіць пасля ўсяго, што адбылося паміж імі? Як яна зразумее гэта? А раптам адмовіцца?

Ён так задумаўся, што да яго нават не адразу дайшло пытанне Ладыніна.

— Дарэчы, Лескавец, вы выканалі пастанову партыйнага сходу — абмералі сядзібы?

— А-а?.. абмералі.

— Чаму-ж маўчыце дагэтуль! Якія вынікі? Ёсць парушэнні?

— Асаблівых няма. Так, некалькі сотак...

— А ў Шаройкі? — спытала Маша.

— У Шаройкі нешта сотак пяць, дакладна не помню.

— А можа пяцьдзесят, Максім? Прыпомні, — іранічна заўважыла Маша.

Шчокі і шыя Максіма наліліся чырванню.

— Мне няма чаго прыпамінаць. Не верыш — правер.

— Не веру і перамераю, бо мне сорамна за цябе, Максім, — спакойна, з сумам у голасе адказала яна. — Ты паслухаў-бы, што людзі кажуць. Ты палічыў нізкім для сябе займацца такой работай і даручыў яе... Шаройку. Больш ты нікога не знайшоў? Кату даручыў сала. Ды гэта-ж проста здзек над сумленнымі калгаснікамі! Як ты не разумееш гэтага? Да якога часу ты будзеш такім сляпым і глухім?..

Максім натужліва ўсміхнуўся.

— Давай, давай, валі… бі… да ручкі! Я прывык… — ён сказаў гэта, здалося, спакойна, нават быццам жартам, але Ладынін бачыў, якіх намаганняў каштуе яму гэтая знешняя спакойнасць.

— Ідземце ў хату і там пагаворым… Разбярэмся, у чым справа.

— Я не маю часу разбіраць бабскія плёткі, таварыш Ладынін! Гэта — ваш занятак, — злосна адказаў Максім і, крута павярнуўшыся, шпарка пайшоў у напрамку свайго дома.

Маша ажно аслупянела. Яна глядзела яму ўслед і, бляднеючы, шаптала:

— Які нахабнік!

Ладынін зразумеў яе і спакойна сказаў:

— Нічога, Маша! Не звяртайце ўвагі. Ён абразіў сам сябе, а не мяне.

Праз гадзіну Маша склікала комсамольскі сход. Пасля сходу комсамольцы абмералі ўсе сядзібы. У Шаройкі і ў шмат каго з тых, хто яго падтрымліваў, выявілі многа незаконна захопленай грамадскай зямлі. На другі дзень па патрабаванню Ладыніна Лескавец інфармаваў аб гэтым праўленне.

Гаварыў ён коратка і ціха, не падымаючы ад паперы вачэй. За ўвесь час ні разу не глянуў на Ладыніна, але скончыў яго словамі:

— Незаконны захоп зямлі — цяжкае злачынства перад калгасам.

Праўленне зняла Шаройку з пасады брыгадзіра.

Пасля паседжання, калі ўсе разышліся, Лескавец напрасіў сакратара:

— Прашу, таварыш Ладынін, паставіць пытанне аб перавыбарах старшыні. Я не магу больш. Я сыты па горла… Хопіць!..

Ігнат Андрэевіч па-сяброўску абняў яго за плечы.

— Не гарачыся, Максім Антонавіч. Паспрабуй папрацаваць без Шаройкі, без яго парад… А перавыбраць цябе… гэта ніколі не будзе позна. Толькі, брат, дызертырства ёсць дызертырства… Інакш гэтага не зразумеюць ні калгаснікі, ні партарганізацыя.

А вярнуўшыся ў Дабрадзееўку, Ладынін у той-жа вечар пазваніў Макушэнку.

— Выкліч ты, Пракоп Пракопавіч нас з ім на бюро і добра пагутарце, каб ён адчуў… Здаецца, у яго пачынаецца крызіс. Трэба дапамагчы яму… ачуняць…

## 19

— Хвалюешся?

— Хвалююся, Алеся. Во, — Маша прыціснула далонь да сэрца, нібы жадаючы такім чынам выказаць сілу свайго хвалявання.

— Я разумею. Як перад экзаменам. Я перад першым вось так хвалявалася.

— Гэта куды адказнейшы экзамен, Алеся! Гэта экзамен на самае вялікае званне, якое толькі ёсць на свеце.

Экзамен! Яна не раз задумвалася над тым, чым для яе будзе прыём у партыю. І вось, Алеся падказала ёй гэтае кароткае і амаль дакладнае вызначэнне:

«Вялікі экзамен!»

А ці падрыхтавана яна, як належыць, да яго? Ці мае права яна трымаць такі пачэсны экзамен? Ці заслужыла яна, каб насіць такое званне? Яна паглядзела на партрэты Леніна і Сталіна, што віселі на сцяне.

«Член Усесаюзнай Камуністычнай партыі (большэвікоў). Не, спачатку кандыдат, — падумала. — Спачатку праверка на рабоце, у жыцці. З заўтрашняга вечара пачнецца гэты вялікі экзамен». Перад ёй ляжала «Гісторыя ВКП (б)». Ужо шмат дзён яна чытала гэтую кнігу. На працягу ўсёй зімы яна вывучала гісторыю партыі з комсамольцамі, кіравала гуртком. Яе слухачы, асабліва дзяўчаты (хлопцы былі больш стрыманыя) не раз захапляліся яе ведамі, ды і сама яна тады была ўпэўнена, што ведае ўсё і зможа адказаць на любое пытанне па кароткаму курсу. Цяпер-жа ёй здавалася, што яна нічога не ведае. За колькі дзён яна прачытала толькі палавіну кнігі. Засталася яшчэ амаль такая-ж палавіна і ў дадатак тая, якую яна чытала даўно, некалі яшчэ ў дні фашысцкай акупацыі. Тады яна хавала гэтую дарагую кнігу на гары, пад комінам-лежаком.

Покуль канчалі сяўбу, амаль не заставалася часу на тое, каб пачытаць. А ў гэты апошні вечар яна амаль нічога не запамінала. Іншыя думкі лезлі ў галаву. Яна напружвала памяць, каб успомніць тую ці іншую дату, падзею, ленінскае выказванне. Па некалькі разоў прачытвала адно і тое-ж месца. А то раптам ёй здавалася, што забылася абавязкі члена партыі, і яна ўпотайкі заглядвала ў Статут.

Вакол лямпы лёталі матылі, біліся аб гарачае шкло і таксама перашкаджалі, адцягвалі ўвагу.

Уздыхала Алеся, рашаючы задачы,— рыхтавалася да пісьмовага экзамена па алгебры.

Маша злавалася. Чаго ёй уздыхаць? Усёадно, калі сама і не рашыць, дык заўтра спытае Паўла, ды і на экзамене не пасаромеецца заглянуць у чужы сшытак. Бестурботны характар у сястры. Лёгкае будзе ў яе жыццё.

«Хіба радасць у тым, каб лёгка жылося? — задумвалася яна. — Маё жыццё было нялёгкім. Ды і Алесіна таксама, дарэмна я паклёпнічаю

на яе... Колькі мы перанеслі гора!.. Да рэвалюцыі такія жабракамі рабіліся. А мы вось... Алеся кончыць дзесяць класаў, паедзе ў Маскву... — ёй на момант нават стала зайздросна, але яна з пяшчотай паглядзела на сястру і па-мацярынску ласкава падумала: — Прыгожая яна ў мяне».

На вуліцы спявалі дзяў-аты.

Маша шчыльней зачыніла акно, расправіла фіранку, але песня ўсёадно залятала ў хату:

Па-а-сею-ю гу-уроо-очкі
Блі-ізка на-ад вадо-ою...

і мелодыя яе рабілася навязчывай, абуджала непераадольнае жаданне заспяваць самой. Алеся ўжо напявала без слоў, ціха і пяшчотна.

Маша ў думках паўтарала за ёй:

Сама буду паліваці
дробнаю слязою...

Словы гэтыя схамянулі яе: вельмі-ж ужо не гарманіравалі яны з яе настроем, з яе думкамі.

— Алеся!

— Не буду, Машанька!

Маша пакратала рукой кнігу, падняла вялікім пальцам тую частку, якую трэба было яшчэ прачытаць.

— Калі я прачытаю?

— А ты прымусь сябе не думаць ні аб чым другім, — параіла Алеся, нібы ведала ўсе яе думкі. — Каб не перашкаджаць табе, я лягу спаць.

Сціхла песня.

Маша пачала чытаць раздзел аб дыскусіі ў партыі, аб ноевай эканамічнай палітыцы і новым паражэнні ворагаў партыі — трацкістаў. І раптам ёй здалося, што яна чытае гэта ўпершыню — перад ёй разгортваліся старонкі вялікай пераможнай барацьбы партыі за шчасце простых людзей, за яе, Машына шчасце. З трыбуны дзесятага, адзінаццатага з'ездаў Ленін бачыў сённешні дзень, будучыню вялікага народа, яго сусветную перамогу.

Ні адна пабочная думка больш не з'яўлялася. Яна так захапілася, што нічога больш не чула і не адчувала нават сваёй зморанасці. Ніхто не магло ўжо адарваць яе ад кнігі — ні варочанне на ложку Алесі, ні галасы хлопцаў на вуліцы, ні крокі Пеці, які вярнуўся з гулянкі і лез на вышкі спаць.

Толькі, калі яна дачытала да месца, дзе гаварылася аб смерці Ільіча, то ўбачыла, што на старонку капнулі слёзы. Яна асцярожна выцерла іх далоняй і чытала далей.

Заключны раздзел...

«Чаму вучыць нас гісторыя ВКП (б)?»

Маша стала каленьмі на табурэт, заціснула галаву ў далоні. «Гісторыя партыі вучыць...»

Апошняя старонка. Яна чытае і ўяўляе: Геркулес адрывае Антэн ад маці яго — зямлі.

«Я думаю, што большэвікі напамінаюць нам героя грэчаскай міфалогіі Антэя. Яны, таксама, як і Антэй, модны тым, што трымаюць сувязь з сваёй маці, з масамі, каторыя нарадзілі, выкармілі і выхавалі іх. І покуль яны трымаюць сувязь з сваёй маці, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб застацца непераможнымі».

Апошні радок, але Маша не можа адарвацца ад кнігі. Перад яе вачыма — увесь гэты слаўны шлях партыі, аб якім яна толькі што прачытала: нэп, барацьба супраць трацкістаў, смерць вялікага Леніна, клятва Сталіна над труною Ільіча, разгром трацкістаў і бухарынцаў, будаўніцтва гігантаў прамысловасці, калектывізацыя...

Калектывізацыя... Думка яе затрымалася на выказванні Сталіна пра калгасы. Яна адгарнула поўсотню старонак назад і знайшла гэтыя словы. Прачытала яшчэ раз.

«Каб стаць калгаснікам заможнымі, для гэтага патрабуецца цяпер толькі адно — працаваць у калгасе сумленна, правільна выкарыстоўваць трактары і машыны, правільна выкарыстоўваць рабочую жывёлу, правільна апрацоўваць зямлю, берагчы калгасную ўласнасць».

«А ці правільна я ўсё выкарыстала?» — яна перанеслася ў думках на палі сваёй брыгады, пераходзіла з участка на ўчастак, любавалася маладою рунню. Пасля дажджоў пасевы цешылі вока. На душы ў яе стала лёгка і светла. Яна падняла галаву ад кнігі і здзівілася. На двары было ўжо зусім светла, а на стале ўсё яшчэ гарэла лямпа. Яна патушыла яе, падышла да акна, адчыніўшы яго, прагна ўдыхнула халаднаватае паветра.

Усё адбылося значна прасцей, чым яна ўяўляла. Але ў гэтай прастаце, як яна зразумела пасля, і была ўся веліч і ўрачыстасць прыёму ў партыю.

Ігнат Андрэевіч спакойным, але крыху незвычайным голасам прачытаў яе заяву і анкету.

— Пытанні? — коратка спытаў Мяцельскі, які вёў сход.

— Біяграфію, — адгукнуўся Косця Раднік, якога самага толькі нядаўна прымалі ў члены партыі.

Маша паднялася. Але з ёю падняўся Міхей Вячэра:

— Не трэба, Маша. Ведаем мы ўсю тваю біяграфію, на нашых вачах вырасла, — і, звяртаючыся да ўсіх, прадоўжыў: — Усё жыццё яе, што на далоні ў мяне. Я на яе радзінах быў. Мы з Паўлам Кацубам

дружбакі былі, разам грамадзянскую прайшлі, разам дамоў вярнуліся. Трое нас — Антон Лескавец, — Міхей паглядзеў на Максіма,— і мы. Першыя і калгасы арганізоўвалі; яны з Лескаўцом у Лядцах, а мы з Фадзеем Гоманам тут, у нас.

Вячэра хвіліну памаўчаў, абвёў усіх позіркам, нібы спытаў: а ці тое ён гаворыць, што патрэбна? Але ўбачыўшы, што слухаюць яго ўважліва, моўчкі, прадоўжыў:

— Усё помню... Помню, як маці яе памерла... Прышлі мы з могілак, на памінкі, як вядзецца... Выцерла яна слёзы і... гаспадыня ў хаце... Шмат хто тады... — хацеў было ён нешта ўспамінаць яшчэ, але махнуў рукою і пачаў пра другое: — Або возьмем сорак першы год... Помню, сядзім з Пракопам Пракопавічам, раімся, каго сувязнымі нашымі зрабіць у вёсках. І яе, Машу, Антон Лескавец першую назваў. А цераз месяц яна да нас першыя звесткі прынесла... Прышла босая, а ўначы холад ударыў, сняжок пацярусіў... Я раніцою ботаў ёй па лагеры шукаў...

Маша, як паднялася, так і стаяла, прытуліўшыся плячом да сцяны. Слухала і адчувала, што ўсё раўней і раўней б'ецца яе сэрца.

— Адным словам, я з радасцю даў ёй рэкамендацыю, я першы і прапаную — прыняць аднагалосна, — нечакана скончыў Міхей.

Ладынін усміхнуўся з гэтага «прыняць аднагалосна», але больш, відаць, ніхто абмоўкі не заўважыў, бо ні ў каго, мабыць, і думкі не было, што можна не галасаваць за яе прыём.

— Сядай, Маша. Чаму ты стаіш? — ласкава сказаў Ладынін.

Выступіў Васіль Лазавенка. Ён гаварыў аб яе рабоце ў калгасе ў пасляваенны час і асабліва ў апошнюю, вясну, аб яе клопатах за ўраджай, за ўздым калгаснай гаспадаркі, аб яе агратэхнічнай вучобе. Маша слухала і здзіўлялася, скуль ён ведае такія падрабязнасці аб яе брыгадзе.

Калі ён скончыў гаварыць, інструктар райкома спытаў:

— З Статутам партыі пазнаёміліся?

Яна зноў паднялася, як на экзамене, адказала коратка:

— Так, — але падумаўшы, папраўілася. — Вывучыла.

— Можа старшыня хоча сказаць? — кіўнуў Мяцельскі Максіму Лескаўцу.

Ён падняўся, зрабіў паўзу, кашлянуў, быццам рыхтаваўся да доўгай прамовы, а сказаў усяго тры словы:

— Падтрымліваю поўнасцю. Вартая.

Больш не ведаў, што сказаць. На яго моцнае ўражанне зрабіла выступленне Вячэры. Ён адчуў раптам, што ў яго знікла злосць на

Машу, якую ён непрыемным цяжарам насіў апошні тыдзень, пасля выпадку з сядзібамі.

Машы нават крыху крыўдна стала, што ніхто не спытаў, не задаў пытанне з гісторыі партыі або Статута, нават не папрасілі расказаць абавязкі члена партыі.

Калі галасавалі, яна не падымала галавы. Ёй здавалася, што глядзець няёмка: а раптам хто не пажадае падняць рукі?

— Прынята аднагалосна!— абвясціў Мяцельскі, і Маша ўздрыгнула ад нечаканых воплескаў, і зноў закалацілася яе сэрца, загарэліся шчокі. Яна не ведала, што рабіць у такіх выпадках і яшчэ ніжэй апусціла галаву.

Пасля прыёму слухалі Гольдзіна. Ён гаварыў доўга і хітра: больш аб чужых сельпо, чым аб сваім, — каб давесці, што ў яго справы не горш, чым у другіх. На самай справе, непаладкаў у яго рабоце было няшмала. Таму Ладынін і вырашыў паслухаць яго, як комуніста, на закрытым партыйным сходзе.

Ніякія хітрыкі Гольдзіна не дапамаглі — крытыкавалі яго моцна. Абмеркаванне праходзіла весела: Вячэра, Косця Раднік, Лазавенка і Лескавец расказалі нямала цікавых выпадкаў. Гольдзін выціраў пот, ёрзаў, занатоўваў нешта ў блакнот і раптам перапыняў таго, хто выступаў:

— Чакай! Зусім гэта не так. Што ты мне расказваеш! Любі праўду! — і сур'ёзна дапаўняў такія дэталі, якія выклікалі агульны смех. Толькі Ладынін у такіх выпадках хмурыўся: ён угледжваў у гэтым чарговую хітрасць Гольдзіна — жартачкамі адхіліць ад сябе крытыку.

Машы таксама вельмі хацелася сказаць аб рабоце сельпо і асабліва крамы ў Лядцах, але яна не адважылася.

Максім быў на кані, і таму адразу пасля сканчэння сходу вышаў, ускочыў у сядло і паехаў, нічога ёй не сказаўшы.

Мурашкі ў той вечар на сходзе не было. І Маша нават узрадавалася, што будзе ісці дамоў адна; ёй хацелася пасля такой незвычайнай падзеі пабыць адной, каб даць прастор сваім пачуццям і марам. Яе не палохала, што была ўжо гадзіна ночы. Каб ніхто не запрасіў паначаваць ці не прапанаваў правесці, яна непрыкметна, пакуль комуністы тоўпіліся вакол стала, вырашаючы з Ладыніным і Байковым розныя бягучыя пытанні, вышла і амаль уподбег, цераз сад рушыла ў бок Лядцаў.

20

Яна выходзіла ўжо з саду, калі яе дагнаў і прымусіў уздрыгнуць ціхі голас:

— Маша!

Яна павярнулася.

— Васіль!

Ён падышоў і адразу моцна пацісную руку.

— Віншую, Маша. Ад шчырага сэрца. Ведаеш, я двойчы перажыў гэтую радасць калі самога мяне прымалі і сёння... за цябе...

— Дзякую, Вася.

Дзіўна, але ў яе раптам знікла жаданне пабыць адной. Наадварот, цяпер захацелася прайсці разам з ім, расказаць яму пра свае пачуцці, падзяліцца вялікай радасцю.

Яна ціха засмяялася.

— Ведаеш, я вышла, і мне здалося, што ў мяне выраслі крыллі, і я ўзнялася і паляцела... Як ты толькі дагнаў мяне?

Ён адказаў жартам:

— Мусіць, у мяне таксама крыллі выраслі.

Хвіліну прайшлі моўчкі, відаць, кожны чакаў, што

скажа другі.

— А гэта ты цудоўна сказала — аб крыллях. Уступіўшы ў партыю, сапраўды нібы набываеш крыллі для арлінага ўзлёту. Скажы, ты думаеш аб нашым заўтрашнім дні?

— Думаю.

— Сёння мы з Ігнатам Андрэевічам хадзілі і марылі, якімі стануць нашы палі праз некалькі год. Якія ўраджаі ў нас будуць!

Яны вышлі ў поле. Пасля добрых дажджоў, якія ішлі апошні тыдзень, забуяла ярына, паднялося ледзь не ў рост чалавека жыта. Яны ішлі якраз міма жыта. Высокімі сценамі сціскала яно вузкую дарогу. Удзень прайшоў дождж, і зямля пад нагамі была вільготная і мяккая. Паветра было насычана ап'яняючым водырам жытнёвага поля. На небе начавалі нізкія мяккія воблакі, дзе-ні-дзе разарваныя; праз прасветы заглядалі на зямлю цікаўныя зоркі. Ноч была бязросная, ціхая і таксама нейкая мяккая, як зямля і неба.

— Ах, якое ў вас жыта, Васіль! — Маша правяла рукой па каласах, і яны ледзь чутна зашамацелі. — Люба паглядзець!

— Жыта добрае. Але прызнаюся табе, больш за ўсё я ганаруся цукровымі буракамі. Дарэмна ты не зойдзеш да нас. Многа цікавага пабачыша-б.

— Насці баюся, — засмяялася Маша.

Ён таксама засмяяўся.

— Здаецца. апрача буракоў, для яе зараз нічога не існуе... Страшэнна хоча Гераіняй стаць...

Маша ўздыхнула. Васіль здзіўлена павярнуўся да яе, але, агледзеўшыся, зразумеў, у чым справа. Яны перайшлі мяжу, якая раздзяляла землі іх калгасаў.

На зямлі «Партызана» таксама расло жыта, але нават уначы была прыкметна розніца паміж гэтым і тым жытам, якое яны толькі што прайшлі.

Васіль сказаў пасля кароткай паўзы:

— Баюся, што наша жыта пагоніць у салому, а колас можа быць дрэнны.

Маша зразумела яго жаданне неяк суцешыць яе, даказаць, што жыта іх калгаса (гэта быў участак не яе брыгады) таксама неблагое. Безумоўна, значна лепшае, чым у мінулым годзе, — яна сама гэта бачыла. Але-ж не такое, як у «Волі».

— Чаму гэта можа здарыцца? — спытала яна.

— Баюся, што мы тут гною перабольшылі. — і Васіль раптам пачаў расказваць, якія працэсы адбываюцца зараз у зямлі ў сувязі з дажджамі і наогул у такі час. Аб усім гэтым ён заўсёды ўмеў расказваць цікава — і на занятках і ў прыватнай гутарцы. Маша моўчкі слухала яго, але мала што даходзіла да яе свядомасці: іншыя, зусім далёкія ад агранаміі думкі, апанавалі яе, і яна чула толькі яго ціхі прыемны голас. У яе радасць уліўся нейкі лёгкі і светлы смутак.

Так непрыкметна яны дайшлі да Лядцаў і не пайшлі ў вуліцу, а, не змаўляючыся, павярнулі на сцежку, што вяла па-за гародамі. Са сцежкі звярнулі на новую дарогу і зноў вышлі ў поле, дзе на вялікай плошчы была пасеяна бульба, а ў нізіне — капуста. Пасля яны гаварылі пра сенакос, што павінен пачацца неўзабаве, потым — пра будаўніцтва гідрастанцыі, пра Сакавітава, які ў той дзень пераехаў у абласны цэнтр. Але ні слова не сказалі яны аб сваіх пачуццях і сваіх адносінах. Маша нават і не думала пра гэта. Яна так звыклася з думкаю, што Васіль — добры сябра, з якім заўсёды можна шчыра пагутарыць, параіцца, што гэтая начная прагулка іх здавалася ёй зусім натуральнай.

Яна толькі заўважыла, што Васіль увесь час пазбягае гаварыць пра Максіма.

«Баіцца зрабіць мне балюча, — падумала яна. — Добры мой сябра, я да ўсяго ўжо прывыкла, і ў мяне, здаецца, ужо ўсе раны ў душы загаіліся. Усё, што ты ні скажаш аб ім, — добрае ці дрэннае, не кране мяне».

Так нічога іншага і не падумала яна да таго часу, покуль не развіталася з Васілём каля свайго гароду.

Ён першы паказаў ёй на светлую паласу на ўсходзе.

— Пара спаць, Маша.

Тады яна ўспомніла, што і мінулую ноч амаль не спала.

— Пара.

— Добрай ночы. Маша.

— Добрай раніцы, Васіль, — засмяялася яна.

Ён затрымаў яе руку, мацней сціснуў.

— Маша, сустрэнемся зноў?

— Заўтра?

— Але. Давай тут-жа... У адзінаццаць гадзін. Добра?

— Добра.

— Да заўтра, Маша, — ён выпусціў яе руку і шпарка пайшоў.

Яна нерухома стаяла і доўга-доўга глядзела яму ўслед, ажно покуль постаць яго не растала ў змроку ночы. Глядзела амаль бяздумна.

«Сустрэнемся заўтра... Тут... Добра? Добра», — успомніла яго словы, свой нечаканы адказ, і раптам бліснула думка — такая светлая, што адразу асвяціла ўсё. Маша ўсё зразумела і весела падумала:

«Здаецца прышоў канец майму дзявочаму жыццю». Але тут-жа спалохалася гэтай думкі. Аглянулася: раптам падслухаў хто? Чамусьці ажно памлелі ногі. Яна зрабіла крок і прытулілася грудзьмі да агароджы.

«Сустрэнемся заўтра... Добра».

А ці мае яна права на гэтую сустрэчу? Што скажуць людзі. Максім?.. Максім?.. А што можа сказаць ён? Якое права мае ён штонебудзь сказаць?

Яна прыслухалася, нібы хацела пачуць нейкі патаемны голас душы Але было ціха, як бывае толькі на досвітку. Не, вось ён гэты голас. «Ён горды, а я, па-вашаму, не гордая? Не, я таксама гордая». Дык што-ж тады было на працягу тых шасці год? Як назваць тыя яе пачуцці? Няўжо, сапраўды, ад іх нічога не засталося? Яна зноў прыслухалася.

«Я прыду... У адзінаццаць гадзін... Добра?».

Вось што цяпер засталося! і словы гэтыя напаўняюць усю яе істоту.

На момант ёй здаецца, што ўсё гэта яна сніць.

Не, гэта не сон! Але якая дзіўная ноч! Колькі падзей адбылося ў яе жыцці за адны толькі суткі! А можа гэта апошняе і не падзея яшчэ? Можа яму проста хочацца вось так, па-сяброўску пагутарыць? Не. Не проста пагутарыць яму хочацца, і не проста так ён дагнаў яе сёння. Яна добра памятае словы, якія сказаў ён увосень, калі яны ў галалёдзіцу сустрэліся на жыце: «Усё-такі я кахаў цябе... і пачуццё гэта даўняе. Я зразумеў яго яшчэ на фронце... Я ўспамінаў цябе і было лягчэй». Але чаму гады гэтыя словы яго нічога не выклікалі ў яе душы?

І чаму цяпер?.. Ці ёсць што-небудзь у яе сэрцы, ці з'явілася там новае пачуццё?

Пакутліва доўга цягнуўся дзень. Здавалася, што не будзе яму канца. Маша зрабіла на працягу яго ў тры разы больш работы, чым звычайна, — і ўсёадно нічога не дапамагала, нічога не прысьпяшала час. Сустракаючыся з мужчынамі, у якіх — ведала — былі гадзіннікі, яна пыталася, каторая гадзіна. Раней яна амаль ніколі не рабіла гэтага. Таму намеснік старшыні Бірыла, да якога яна, забыўшыся, звярнулася з гэтым пытаннем двойчы, пажартаваў:

— Чакаеш вечара, Маша?

Яна ўспыхнула, як дзяўчынка. Не ведала, куды схаваць твар і вочы. Добра, што яны былі толькі адны. Стары, нібы чытаючы яе думкі, заўважыў:

— Нічога, нічога, Маша. У жыцці ўсё здараецца.

Яна жахнулася: няўжо ведае, няўжо хто бачыў іх

уначы? Да вечара непакоіла яе гэтая думка. А калі змерклася, яна забылася на яе і праз гарод ішла смела, не аглядаючыся нават. А сустрэўшыся з Васілём, прапанавала пайсці далёка ў поле.

Колькі яны выхадзілі за гэтую ноч! Амаль што абышлі ўсе палі абодвух калгасаў, усе звілістыя сцежкі і дарожкі. Як юнакі, яны саромеліся прапанаваць адзін аднаму сесці і ўсё хадзілі і хадзілі, бо не адчувалі зморанасці, не прыкмячалі, куды заходзілі, і бадай, ніхто з іх пасля не змог-бы дакладна расказаць, дзе яны за ноч пабывалі. Яны гаварылі няспынна. Гаварылі аб усім, успаміналі мінулае, даваеннае і ваеннае, вясёлае і сумнае, марылі аб будучым, прыгожа марылі аб жыцці людзей, усіх савецкіх людзей, і, у першую чаргу, сваіх аднавяскоўцаў.

Але не марылі аб сваім уласным жыцці. А гаворачы пра знаёмых і блізкіх, пазбягалі ўспамінаць двух чалавек — Максіма і Насцю.

Аб гэтым Маша ўспомніла зноў толькі пасля таго, як яны развіталіся на досвітку.

Развіталіся яны на тым-жа самым месцы. Васіль зноў затрымаў яе руку ў сваёй і зноў спытаў, як у першы раз:

— Сустрэнемся заўтра, Маша?

Яна пажартавала:

— Сёння, Вася.

Ён засмяяўся.

— Сапраўды, сёння...

Была нядзеля, тэрміновай работы не было, і яна вырашыла выспацца за ўсе тры ночы. Праўда, не гледзячы на зморанасць, —

Маша цяпер толькі адчула яе, — яна доўга не магла заснуць. А калі, урэшце, заснула, то спала амаль да абеду.

Алеся дакорліва паківала галавой, калі сястра прачнулася.

— Дзе ты была? Зноў на сходзе? Састараюць яны цябе, гэтыя сходы. Як я не люблю гэтых доўгіх паседжанняў!

Маша шчасліва засмяялася. Яна. адчула раптам сябе на шмат год маладзейшай. І раніцою, перад сном, і цяпер яна думала аб тым, што спатканні гэтыя — нібы другая маладосць. Ды нават і тады, шмат год назад, не было ў яе такіх спатканняў. Максім амаль ніколі не прызначаў іх. Звычайна сустракаліся на гулянцы, танцавалі, а потым адыходзілі. Заўсёды намагаліся пайсці непрыкметна, употайкі, але гэта амаль ніколі не ўдавалася. Іх даганялі жарты хлопцаў і дзяўчат. Яны ішлі на край вёскі і садзіліся дзе-небудзь у куточку на лавачцы паміж палісаднікам і парканам. Сядзелі, гутарылі аб розных дробязях, рэдка — аб вучобе, часцей — аб хлопцах і дзяўчатах — хто з кім гуляе. Часам былі такія моманты, калі яны не ведалі, пра што гаварыць, не знаходзілі слоў і тады сядзелі моўчкі, глядзелі на зоркі, на месяц, слухалі, як спяваюць дзяўчаты, і ціха шуміць вярба ці куст чаромхі.

Праўда, зрэдку Максім цалаваў яе. Яна сарамліва адварочвалася і ціха прасіла:

— Не трэба, Максім.

А аднойчы жартаўніца цётка Параска абліла іх цераз паркан вадой, крыкнуўшы:

— Не перашкаджайце спаць, ухажоры саплівыя!

У другі раз хлопцы-падлеткі падслухалі іх сардэчную размову і пасля колькі дзён не давалі прайсці па вуліцы.

Аднак нішто не бянтэжыла іх, пачуцці рабіліся ўсё больш смелымі; у апошні год яны не сароміліся паказацца ўдвух на людзі, ужо і ў клубе, калі глядзелі спектакль ці кінокарціну, садзіліся побач, і размовы сталі больш сталыя і цікавыя. Толькі ў поле не хадзілі. Ні разу не вышлі вось так і не блукалі да раніцы.

... Як даўно гэта было! Маша ўздыхнула.

І ці было тое, ранейшае, сапраўдным каханнем? Ці не ўпершыню яно з'яўляецца толькі цяпер?

## 21

У тую ноч яны не пайшлі далёка ў поле: з кожным новым спатканнем у іх паступова знікла жаданне быць далей ад людскога цікаўнага вока.

Яны абышлі вёску і выпілі на будаўнічую пляцоўку. Работы на гідрастанцыі пасля пасяўной аднавіліся і цяпер ішлі поўным ходам.

Навакол прыемна пахла нагрэтай за дзень сасной і свежанакапанай зямлёй.

Яны селі на. бервяно, што адзінока ляжала над абрывам.

Непрыкметна Маша паклала сваю руку на яго, ласкава сціснула яго пальцы.

У рэчцы калыхаліся зоркі, быццам гулялі залатыя рыбкі; у калгасным садзе заліваўся салавей.

Нечакана Васіль моцна абняў яе за плечы.

— Вось так, Машанька.

Яна ўздрыгнула ад нечаканасці, адчула, як горача забілася сэрца, і, каб неяк супакоіцца, ціха прапанавала, не вызваляючыся з абдымкаў:

— Пройдзем, Вася.

Ён адразу згадзіўся, падняўся.

— Але... Пройдзем.

Яны вышлі на грэблю, пастаялі на мосце, абапершыся на парэнчы.

Нешта не наладжвалася ў іх добрая размова — такая, якая была папярэднія разы. І гэтая акалічнасць пачала хваляваць Машу.

З боку хвойніку пачуліся маладыя галасы.

Васіль з Машай сышлі з грэблі ўніз, дзе над самай вадой раслі вербы, сталі ў іх цені. Юныя, маладыя галасы набліжаліся.

— Алеся! — пазнаў Васіль.

Сапраўды ішлі Алеся і Павел са школы з раённага цэнтра, пасля чарговага экзамена.

— ... я не разумею цябе, ды, упэўнены, што і сама ты не разумееш сябе. Начыталася раманаў і граеш чэхаўскую гераіню, — голас хлопца быў пакрыўджаны і разгублены.

Алеся засмяялася.

— У Маскву! У Маскву, Паша!— вымавіла яна гэтыя словы прыгожа з незвычайным душэўным уздымам і зусім без тэатральнасці — натуральна і проста. — А табе перад экзаменам, паважаны Архімед, варта ведаць, што Антон Паўлавіч ніколі не пісаў раманаў.

Хлопец не здаваўся.

— У Маскву! — перадражніў ён. — Многа там такіх, як ты. Правалішся — тады паскачаш...

Алеся спынілася, і ў голасе яе пачуліся гнеўныя ноткі.

— Праходзь! Не жадаю з табой ісці пасля гэтага!

— Алеся! — голас хлопца задрыжэў, і гэта, відаць, расчуліла дзяўчыну, яна зрушыла з месца.

— Правалішся! А я тваю праціўную матэматыку і здаваць не буду. Я на літфак пайду.

— Быццам у Мінскім універсітэце няма літфака.

— Дарагі мой Архімед! Зразумей раз і назаўсёды... Алеся яшчэ нешта гаварыла, нешта адказваў ёй Павел, але разабраць было ўжо нельга.

Маша ціха і радасна засмяялася і неяк зусім нечакана, несвядома прыціснулася шчакой да Васілёвага пляча.

Ён імкліва абняў яе, прытуліў.

— У Маскву! Колькі шчаслівых надзей у яе словах!

— І ўпэўненасці... Машанька, любая!.. Васіль моцна пацалаваў яе ў вусны. Маша падняла рукі, абхапіла яго за шыю.

— Вася!..

Яны сядзелі на ўзлеску бярозавага гаю. За спіной і над галавой ледзь чутна шалясцелі лісцем маладыя бярозкі, а наперадзе — працягні руку і дастанеш — стаяла высокая і нерухомая сцяна жыта. Па небе павольна плыў няпоўны месяц, зрэдку нырaў за белаватыя воблакі і зноў з'яўляўся, задаволена і хітра ўсміхаўся, нібы гаварыў: «Ну не, ад мяне вы нідзе не схаваецеся». А ў гаі заліваліся салаўі. Не дарэмна ў вёсках гэты белы гаёк жартаўліва называлі «салаўіным». Іх тут быў цэлы ансамбль, і яны то зладжана, нібы пад палачку дырыжора, выводзілі свае трэлі, то раптам заліваліся паасобку, спаборнічаючы, паказваючы свой спрыт і сваю здольнасць і, магчыма, яшчэ нешта большае. Даўно ўжо Маша не слухала салаўінага спеву з такім захапленнем, заваражаная, аглушаная гэтай простай, знаёмай і ў той-жа час такой чароўнай мелодыяй.

Гэты спеў — нібы гімн яе каханню, яе шчасцю. Ён напаўняў яе сэрца, і здавалася, што яно расло, павялічвалася ў грудзях, ажно рабілася цяжка дыхаць ад радасці і захаплення. Яна баялася ўздыхнуць, паварушыцца: галава Васіля ляжала ў яе на каленях. Яна ведала, што ён не спіць, але ў яго заплюшчаны вочы, ён, відаць, таксама заваражаны салаўіным спевам і тымі пачуццямі, што напоўнілі іх сэрцы.

Пры святле месяца яна выразна бачыць рысы яго твару. Якія яны дарагія цяпер для яе, гэтыя рысы! Якія прывабныя, разумныя зморшчынкі ў яго на ілбе! Вось яно сапраўднае каханне — магутнае пачуццё, якому няма перашкод, якое ўсё перамагае на сваім шляху. Такога пачуцця яшчэ не было ў яе. А што было?

Сапраўды, што было на працягу шасці год? Але цяпер ужо ўсёадно. Цяпер ужо яе нічога не хвалюе і не бянтэжыць, нават тое, што скажуць людзі, жанчыны, якія так сурова асуджалі Максіма. Ды, урэшце, што яны могуць сказаць? Яна знайшла сваё шчасце... Не, шчасце знайшло яе...

«Маё шчасце!» — яна не ўтрымалася — нахілілася і пацалавала зморшчынкі на ілбе Васіля. Ён абняў яе, прыціснуўся сваёй калючай шчакой да яе шчакі.

— Маша! Заўтра?

— Дай апомніцца, Вася.

— Не дам. Я занадта доўга чакаў гэтага дня.

22

Яе ўзрушанасць, яе хваляванне заўважылі жанчыны, калі яна давала нарад на работу. Як заўсёды вясёлыя, шумныя, яны жартавалі, кпілі адна з аднае, з яе, свайго брыгадзіра, а больш усяго — з мужчын і маладых хлопцаў, якія трымаліся асобна, «стралялі» адзін у аднаго закурыць і рабілі выгляд, што не звяртаюць аніякай увагі на бабскія кпіны. У Машы палалі шчокі і калацілася сэрца. Яна забывалася, што гаварыла хвіліну назад.

— Нечым брыгадзір наш выбіты з каляіны, бабы, — заўважыла адна жанчына.

Другія пераглянуліся.

«Ведаюць, безумоўна, — падумала Маша, — не можа быць, каб за цэлы тыдзень ніхто не бачыў нас. Але чаму маўчаць? Хай-бы лепей смяяліся, кпілі — тады было-б вядома, што яны думаюць».

— Ты нездарова, Машанька?

У Машы дрогнула сэрца... Ніколі яшчэ яна не хлусіла Сынклеце Лукічне, якая была для яе, як родная маці.

— Нешта баліць галава.

— Дык пайшла-б паляжала. Не абавязкова табе ўвесь час бегаць па полі. І так у нашай брыгадзе ўсё ідзе добра, ды і ў другіх, дзякуй богу, наладжваецца.

Маша пайшла дадому. Ёй хацелася толькі аднаго, каб Алесі ўжо не было, бо, калі пачаць збірацца пры сястры, — не пазбегнуць размовы.

На дзвярах вісеў замок.

Яна хутка зайшла ў хату, старанна памылася, апранула найлепшае плацце. Але тут-жа перадумала, скінула яго і апранула, праўда, лепшае, але такое, у якім улад не раз бачылі яе ў звычайны рабочы дзень.

Васіль спаткаў яе каля саду свайго калгаса. На ім быў светлы гарнітур, зусім новы — Маша яшчэ ні разу не бачыла яго, — беласнежная сарочка і надзвычай прыгожы блакітна-сіні гальштук. Ён апрануўся, як на вялікае свята, і ўвесь свяціўся, як гэты сонечны ранак. Машы стала сорамна, што з-за нейкага недарэчнага пачуцця яна апранула не самае лепшае, што ў яе ёсць. Але Васіль не звярнуў

увагі на яе адзенне. Ён моцна сціснуў яе рукі, потым, аглянуўшыся, пацалаваў іх.

— А я вочы прагледзеў. Быў міг, калі я падумаў: а раптам не прыдзеш?

— Ну, што ты, Вася, — вінавата ўсміхнулася яна.

— Ідзем хутчэй, а то Байкоў можа куды збегчы, хоць я і папрасіў яго пачакаць.

Маша пайшла побач з ім, плячо ў плячо, цераз сад. Яна раптам адчула, што тое пакутлівае хваляванне, якое не давала супакою ўсю раніцу, знікла, нібы яго і не было. Ёй зрабілася весела.

Сакратар сельсовета Галя Бондар, убачыўшы іх, разявіла рот і ад здзіўлення не адказала на прывітанне. Маша засмяялася. Тады і Галя зарагатала.

— Каб вы ведалі, што я пра вас падумала зараз, вы-б забілі мяне.

— Навошта нам цябе забіваць, калі ты нам зараз патрэбна, — адказаў Васіль. — Ты правільна падумала.

— Правільна? — у дзяўчыны ашкланелі вочы і выцягнуўся твар.

Васіль моцна пастукаў у дзверы кабінета старшыні.

— Заходзьце! Чаго там!..

Байкоў стаяў пасярод пакоя, задаволена паціраў кантужаную руку.

— Мяне, старога вераб'я, не правядзеш. Я глянуў у акно і ўсё зразумеў. З такімі тварамі ідуць толькі адзін раз у жыцці і толькі ў сельсовет. Ну-у, віншую і жадаю вам такога шчасця і жыцця, якога вы самі жадаеце сабе...

Ён абняў Васіля, пацалаваў Машу і раптам адвярнуўся, плечы яго ўздрыгнулі.

Васіль і Маша пераглянуліся і зразумелі. Дачка Сяргея Іванавіча Валя, якую забілі фашысты, была аднагодкай і сяброўкай Машы.

Хвіліну цягнулася цішыня.

Байкоў падышоў да стала, павярнуўся.

— Прабачце старому, — і, выцершы вочы пальцамі, гукнуў: — Галя! Давай кніжку! Я сам запішу вас. І на вяселлі вашым пагуляю, як не гуляў ужо даўно. Эх, і пагуляю!

Не было больш і цені пачуцця сарамлівасці, не было хвалявання і той ніякаватасці перад людзьмі, якую адчувала Маша ўсю раніцу. Калі вышлі з сельсовета, з'явілася новае пачуццё — лёгкі, прыемны смутак, быццам шкада было ўсяго таго, што засталося там, недзе ва ўчарашнім дні. Такое адчуванне бывае, калі чалавек пераступае нейкую мяжу і пачынае новае жыццё. Машы нават здалося, што і ўсё

навакольнае стала крышачку інакшым, чым было яно колькі хвілін назад.

— Цяпер давай маці здзівім, — сказаў Васіль, і Маша моўчкі згадзілася з прапановай ісці да яго. Ды інакш і нельга было — яна гэта разумела. Цяпер было-б ужо смешным і недарэчным хавацца ад людзей. Цяпер ёй і самой хацелася ісці побач з ім, ісці з гордасцю за яго і за сябе. Няхай глядзяць і радуюцца разам з ёй усе, хто зычыць ім шчасця. Няхай злуюцца і асуджаюць тыя, каму гэта не падабаецца.

Яны ішлі, гутарылі і смяяліся. Але ў канцы саду Маша раптам спынілася, нібы наскочыла на нейкую перашкоду.

— Вася! Ладынін!

Да любой сустрэчы яна-б аднеслася зараз абыякава, нават, здавалася, каб раптам спаткаў іх Максім... Але Ладынін... А раптам сакратар не ўхваліць яе ў гэтую светлую, незабыўную хвіліну? Ён можа зрабіць гэта не словамі — адным позіркам.

Ладынін ішоў па сцежцы паўз агароджу.

— Ну, дык што, што Ладынін? — і, зразумеўшы яе, Васіль усміхнуўся. — Ён ведае. Я сказаў яму... Яшчэ ўчора...

Ладынін убачыў іх і, спыніўшыся, чакаў.

Бровы яго сышліся ў адну лінію, утварыўшы зморшчынкі на ілбе. Позірк у яго быў суровы, і ў Машы спалохана ёкнула сэрца. Але праз момант яна зразумела: такім чынам Ігнат Андрэевіч намагаўся схаваць усмешку. І не здолеў. Яна пырснула раптоўна,— добрая, ласкавая, асвятліла яго твар. Ён працягнуў Машы руку і сказаў адно толькі слова, простае і шчырае:

— Віншую.

А паціскаючы руку Васілю, дадаў:

— Ад шчырага сэрца.

Васіль кіўнуў галавой у бок свайго дома:

— Зойдземце, Ігнат Андрэевіч?

— Не, не. Я ведаю, калі трэба зайсці. Не турбуйся. Апрача таго, мне трэба ехаць... Чакаю Лескаўца... Калі ласка, — ён з павагай саступіў са сцежкі, і яны, адышоўшы, адчувалі на сабе яго добры позірк, і сэрцы іх усё больш і больш напаўняліся адчуваннем шчасця.

Старая Кацярына палола грады і, як заўсёды, думала пра сына, уздыхала. Слаўны яе сын, паважаны на ўвесь раён. Але для поўнага матчынага шчасця нехапала аднаго... Сапраўды, няўжо няма для яго дзяўчыны? Падабаецца яму доктарава дачка — сватаўся-б да яе, не цягнуў-бы. Старая ўпэўнена, што выйсці замуж за такога чалавека, як яе сын, найвялікшае шчасце нават і для доктаравай прыгажуні. Праўда, у душы яна за тое, каб сын жаніўся на прасцейшай

дзяўчыне. Але хіба яму ўкажаш? Ды, урэшце, Ліда таксама дзяўчына неблагая. Яна і грады палоць умее не горш за любую вясковую, і карову падоіць... А выйдзе замуж — дык, вядома, кіне з хлапчукамі на каньках бегаць, ды ў мяча гуляць...

— Мама, ідзі сюды!

Яна выпрамілася і ўбачыла сына: ён стаяў каля паркана. Побач з ім стаяла Маша. Але, убачыўшы яе, Кацярына нічога не падумала, бо ці мала цяпер ходзіць людзей, і старых і маладых, да яе сына, тым больш, што ў хаце калгасная канцылярыя. І яна спытала:

— А навошта я табе?

— Ідзі, ідзі хутчэй.

Яна падышла.

— Мый, мама, рукі і жар яешню — частуй нявестку,— Васіль сказаў гэта проста, з гарэзнай усмешкай, і маці спачатку падумала, што ён жартуе. Але, зірнуўшы на Машу і ўбачыўшы сарамлівы румянец на яе твары, ахнула, ажно прысела і не ведала, што рабіць са сваімі запэцканымі ў вільготную зямлю рукамі. Потым хуценька выцерла іх аб фартух, кінулася да Машы, абняла.

— Машачка, родная мая! Не дарма я цябе ў сне сёння бачыла, — і заплакала.

— Не трэба, мама, — цалуючы яе, сказала Маша і ўздрыгнула. «Мама!» — слова гэтае кранула самыя найлепшыя пачуцці ў душы. Восем год яна не мела каму сказаць гэтае самае дарагое слова і толькі, успамінаючы маці, шаптала яго, часцей за ўсё ў хвіліны роспачы і гора. І вось яна прамовіла гэтае слова ў радасці, звяртаючыся да жывога чалавека. Ад гэтага яшчэ больш светлым зрабілася яе шчасце, і яна адчула, што шчокі яе мокрыя ад слёз.

Нядоўга Маша затрымалася ў свякрухі — толькі паснедалі. Але гэтай нейкай гадзіны — не больш — было дастаткова, каб навіна маланкай абляцела і Дабрадзееўку і Лядцы.

Жанчыны яе брыгады палолі лён каля самых гародаў, у баку ад дарогі. Убачыўшы Машу яшчэ каля сасонніку, яны ўсе, як адна, пасталі і, засланіўшыся далонямі ад сонца, глядзелі на яе. Маша зразумела, што яны ўсё ведаюць, і рушыла да іх. Дзяўчаты кінуліся ёй насустрач. Падбеглі, абхапілі дзесяткам пар рук, павіслі на шыі, потым амаль панеслі.

— Віншуем, Машанька!

— Не віншаваць, а біць трэба! Гэта-ж сказаць: такое ад сяброўак хавала!

— А я ведала, — адгукнулася Дуня.

— Ведала?

— Ведала, але маўчала.
— Усёадно не даруем Машы!
— На каго ты нас пакінеш?
— Не пусцім мы цябе ў «Волю»!
— Не пусцім, дзяўчаты!
— Няхай Васіль да нас ідзе!
Да гэтага часу Маша ні разу не падумала, дзе, сапраўды, яна павінна жыць, як будзе з яе брыгадзірствам. І Васіль ні слова не сказаў пра гэта.
— Я нікуды не пайду!
Але на словы яе не звярнулі ўвагі. Толькі нехта з жанчын адгукнуўся:
— Расказвай! Ведаем мы! На крылах паляціш!
Жанчыны паводзілі сябе больш стрымана — не абнімалі, не цалавалі, нават асабліва не віншавалі, толькі добра, ласкава ўсміхаліся, прыязна ківаючы галовамі. Ухвалялі практычна, разважліва.
— Малайчына, Маша! Васіль — залаты чалавек.
— За такім будзеш жыць, што за цёплай печкай.
— Ён і на чужыя спадніцы не заглядвае...
— Хай цяпер паскача певень гэты!
— Добрую ты яму дулю паднесла...
Словы гэтыя неяк непрыемна ўразілі Машу. Яна аглянулася і ўбачыла Сынклету Лукічну. Старая стаяла воддаль, у баку ад усіх. Позіркі іх сустрэліся. Сынклета Лукічна глядзела сурова, закусіўшы губу; позірк яе гаварыў (так здалося Машы):
«Не Максіма, а мяне пакрыўдзіла ты на ўсё жыццё».
Нібы цень лёг на светлую Машыну радасць, трывожна застукала сэрца. Было шкада гэтай шчырай жанчыны. Захацелася падыйсці, сказаць ёй такія добрыя, ласкавыя словы, каб ад крыўды яе нічога не засталося, каб паміж імі зноў усталяваліся тыя цёплыя сяброўскія адносіны, якія былі ўвесь час. Але Сынклета Лукічна, быццам зразумеўшы яе намер, раптам павярнулася і пайшла ў бок вёскі, згорбленая, адзінокая.
Гэта ўбачылі жанчыны і ўраз прыціхлі, засароміліся саміх сябе, сваёй нястрыманасці.
Нехта ўздыхнуў.
— Шкада цёткі Сылі!..
Ганна Акуліч па сваёй душэўнай прастаце дадала:
— Яна цябе, Маша, за нявестку ўжо лічыла.

Маша ўзлавалася: чаму яны па-бабску сунуцца ў чужыя справы? Але стрымалася. Нахілілася і пачала палоць. Жанчыны таксама моўчкі ўзяліся за работу...

Дзіўна і шумна рэагавала Алеся. Вярнуўшыся са школы і даведаўшыся, што сястра выйшла замуж, яна пабегла і знайшла яе на лузе. Здалёк закрычала:

— Ну, што ты нарабіла?

Маша ажно спалохалася.

— А што?

— Не магла пачакаць пяць дзён!

— Навошта? — здзівілася Маша.

— Покуль я здам апошні экзамен. А цяпер я правалю.

— Чаму?

— Пра цябе буду думаць.

Маша падышла і абняла яе.

— Якраз цяпер табе і не трэба думаць пра мяне.

Многа ў той дзень у Лядцах было гаворак аб гэтым нечаканым шлюбе. Гаварылі пры Машы і без яе. Адзін толькі чалавек маўчаў — Пеця. Ён не прышоў абедаць, а, з'явіўшыся ўвечары, не сказаў ні слова. Хадзіў маўклівы, злосны, усё перакульваў на сваім шляху, разбіў талерку. Дарэмна Алеся намагалася выклікаць яго на гутарку, на спрэчку, на лаянку. Хлопец хадзіў, быццам вады ў рот набраўшы.

Маша разумела пачуцці брата і шкадавала яго.

## 23

Дзвесце грамаў гарэлкі, якія Максім выпіў у раённай чайной, не ўзнялі настрою. На душы было вельмі неспакойна. Гэта была не крыўда, не злосць, а пакутлівае і цяжкае пачуццё. Няхай-бы яго лаялі, няхай-бы, урэшце, далі спагнанне — было-б, здавалася, лягчэй, бо ён падрыхтаваў сябе да гэтага, як толькі даведаўся, што яго будуць слухаць на паседжанні бюро райкома. Ён чакаў самай суровай «разноснай» крытыкі. Крытыка была, але нейкая дзіўная. Дзве гадзіны члены бюро гаварылі пра яго недахопы, гаварылі спакойна, разважліва, нібы агітавалі, і кожны з іх, кранаючы тое ці іншае пытанне, абавязкова параўноўваў «Партызан» з «Воляй», кіраўніцтва Лескаўца з работай Лазавенкі. Для Максіма гэта было самае цяжкае, бо ўсё, што ні гаварылі, было суровай праўдай, якая калола вочы. І яшчэ няёмка і цяжка было ад таго, што на паседжанні прысутнічаў сакратар абкома Павел Сцяпанавіч, які да вайны быў сакратаром іх райкома і шмат год працаваў разам з бацькам, сябраваў з ім. Ён таксама выступіў і пачаў сваё выступленне з успамінаў аб Антоне Лескаўцы, аб яго

рабоце на пасадзе старшыні, аб яго геройчнай смерці ў барацьбе з ворагамі.

— ... Прызнаюся, таварышы, што я проста ўзрадаваўся, калі мне сказалі, што старшынёй «Партызана» абраны сын Антона Лескаўца. У гэтым сэнс нашай барацьбы за пабудову комунізма. Дзеці становяцца на месца бацькоў і дастойна прадаўжаюць іх справу, узнімаюць яе на вышэйшую ступень. Такі закон нашага жыцця. А таму мне балюча і крыўдна было слухаць сёння ўсё тое, што гаварылі тут пра таварыша Лескаўца. Балюча, Максім Антонавіч!

Максім не падымаў вачэй, але адчуваў на сабе дакорлівы і запытальны позірк сакратара абкома.

«Зараз задасць тон», — падумаў ён. Але сакратар абкома нечакана скончыў сваё выступленне тым, што паабяцаў дапамагчы калгасу набыць аўтамашыну. Гэта яшчэ больш зблытала і ўскладніла думкі, якія з'явіліся ў Максіма пасля выступленняў членаў бюро.

Стомлены, пануры, душэўна разбіты вяртаўся ён дамоў позна ўвечары. У дадатак разбалелася галава, мабыць, ад таго, што амаль нічым не закусіў, калі выпіў.

Здаўшы стаенніка конюху, ён адразу цераз гароды, каб не сустрэцца ні з кім, накіраваўся дахаты. У двары спыніўся, здзіўлены. У доме гарэла занадта яркае святло і палілася ў печы: водбліскі полымя ігралі на шыбах. Але задумвацца не стаў, з якой гэта прычыны.

Адчыніў дзверы і здзівіўся яшчэ больш. Каля печы з чапялой у руках стаяла высокая прыгожая жанчына.

Максім разгубіўся. Яна ўсміхнулася па-прыяцельску, ціха спытала:

— Максім? — і, не чакаючы адказу, павярнулася і гукнула:

— Лёша! Сустракай!

Максім, забыўшыся на ўсё, абмінуў жанчыну і імкліва кінуўся ў пярэдні пакой.

Брат! Аляксей! Сем год не бачыліся!

Ад ложка адвярнуўся нізкі каранасты чалавек з паголенай загарэлай галавой, у расшпіленай шоўкавай кашулі, шырока растапырыў рукі.

— Максім! Малодшы чорт!

Яны моцна абняліся, закружылі адзін аднаго па пакоі.

Потым Аляксей адштурхнуў Максіма ад сябе, сам зрабіў крок назад.

— Чакай! Дай разгледжу, які ты стаў! Ну-у, брат! Дуб! Жэня, Жэня! Ідзі знаёмся!

На ложку вылез з-пад коўдры хлапчук года паўтара, працягнуў ручкі, закрычаў:

— Мама! Папа! На! На! На!..

— І ты хочаш знаёміцца? Давай, давай, — бацька падхапіў хлапчука на рукі.

Паціскаючы руку жонцы брата, Максім акінуў хуткім мужчынскім позіркам усю яе ладную постаць. Не без зайздрасці падумаў:

«Прыгожую жонку адхапіў, д'ябал куцы».

Жэня, нібы прачытаўшы яго думку, жартаўліва сказала:

— А я думала вы, як мой муж, а вы вунь які...

— Цяпер пляменніка на, цалуй, — Аляксей перадаў сына Максіму,— Ігар Аляксеевіч Лескавец. Прашу любіць і ўсё іншае...

Хлопчык абхапіў Максіма за шыю, па-дзіцячаму смешна цмокнуў у скроню. Малому не хацелася лажыцца спаць, і ён быў рады, што бацька ўзяў яго з ложка і аддаў дзядзьку, які, па ўсім відаць, зусім не намераны прымушаць яго спаць.

— Прабачце. У мяне блінец у печы.

Жэня вярнулася ў кухню.

Браты засталіся адны, калі не лічыць Ігара, які паводзіў сябе зусім па-свойску на. руках у дзядзькі: бесцырымонна залазіў у кішэні гімнасцёркі, дастаў самапіску, выцягваў шматлікія квітанцыі і нататкі і кідаў іх на падлогу. Максім, які амаль упершыню трымаў такога малога, адчуваў сябе значна горш, не ведаючы, што рабіць з ім. Спроба бацькі забраць яго з рук Максіма сустрэла рашучы пратэст хлопчыка.

— Пусці. Няхай бяжыць да маці. Разбойнік гэткі. У дзядзьку, мабыць, пайшоў.

Жэня паклікала малога, і ён умомант забыўся на Максімавы кішэні, слізгануў з рук на падлогу і затупаў да маці.

Браты яшчэ раз агледзелі адзін аднаго.

Потым Аляксей сеў за стол, абаперся на яго грудзьмі, пацёр далонямі бліскучую галаву. Позірк яго стаў інакшы — нейкі халаднейшы, з твару знікла ўсмешка.

— Значыцца, слухалі на бюро?

Максім ураз насцярожыўся, зразумеўшы, што брату шмат аб чым ужо расказалі.

— Так, слухалі.

— Ну, і што?

— Вядома, што. Прапясочылі, як мае быць.

Аляксей крутнуў галавой.

— Прапясочылі... Значыцца было за што.

— У нашай рабоце заўсёды будзе за што... Гэта — не ў вас...

— Вось як! — здзівіўся Аляксей і, падняўшыся, прайшоўся па пакоі, шырока, па-матроску, расстаўляючы ногі, нібы падлога гойдалася пад ім. Спыніўся перад Максімам, рэзка спытаў:

— Спагнанне далі?

— Не. Абмежаваліся размовай, — Максім адчуваў, што пачынае злавацца і намагаўся гаварыць як мага спакайней, лагодней, звесці гэтую, як здалося яму, недарэчную ў такі час размову на жарт.

— Дарэмна. Варта было даць за ўсё тое, што мне тут расказалі пра цябе.

— Хто?

— Хто — усёадно. А што — ты ведаеш, — Аляксей зноў прайшоўся.

Максім падумаў ужо даволі няпрыязна, з абурэннем:

«Таксама ў духоўныя настаўнікі лезе. Без цябе мала... Хаця-б тактоўнасць захоўваў... У першую хвіліну».

Аляксей ўздыхнуў.

— Та-ак... Адным словам, атрымліваецца ерунда, дарагі брат... Народ выбраў цябе... І выбраў не таму —зразумей гэта! — што ты, як калець, зоркі з неба хапаў... Не!.. Выбраў з надзеяй, што сын будзе варты бацькі...

Максім пабялеў.

— ... І так-жа ўпэўнена, так разумна будзе весці калгас да багатага жыцця, да шчаслівага жыцця...

— І вяду!

— Ды не! Выходзіць, што дрэнна вядзеш... Не апраўдваеш давер'я народа.

Максім збялеў яшчэ больш, дрыжачымі пальцамі пачаў зашпільваць кішэню гімнасцёркі, якую расшпіліў Ігар.

— Табе проста напаклёпнічалі. Я за поўгода зрабіў для калгаса больш, чым да мяне зрабілі за чатыры гады... Я... Я не ведаю калгасніка, які быў-бы нездаволены мной...

— І ты лічыш заслугай, што табой задаволены таропка? Аднак ты самаўпэўнены! Ух ты! Усё гэта зрабіў ты? Без людзей, без дапамогі дзяржавы, партыі? Глупства!.. Блазняцкія разважанні... А мне даволі было аднаго факта, які мне расказалі, каб я ацаніў цябе... Калі ад чалавека адварочваецца дзяўчына, якая шэсць год чакала яго... Гэта, ведаеш... Гэта — ганьба!

Максім штучна засмяяўся, махнуўшы рукой.

— З гэтага ты і вывеў усю палітыку?.. Моцны палітык! Дык скажу табе, што дзяўчына можа заўтра так-жа хутка павярнуцца, як адвярнулася.

— О-х-х, — пачуўся ўздых за спіной.

На парозе стаяла маці і вельмі няласкава глядзела на малодшага сына. Максіма здзівіў яе суровы і асуджаючы позірк.

— Не, галубок мой, спазніўся ты... Не павернецца яна больш да цябе, — і ўзлавана дадала: — Чаго ўставіўся на мяне? Не ведаеш хіба? Маша выйшла замуж.

Максім ажно адхіснуўся.

— Маша? Замуж?

— Але! Маша. Замуж, — каротка і ўзлавана адказала маці.

Ён зрабіў крок назад.

— За каго?

— За Васіля Лазавенку.

Ён сеў на ўслон, але тут-жа падняўся. Аляксей употайкі, з іранічнай усмешкай, назіраў за ім.

— За Лазавенку? — і зноў сеў.

Сынклета Лукічна адвярнулася, ласкава загаварыла з нявесткай, з унукам. Хлопчык звонка засмяяўся. Аляксей прайшоў да дзвярэй, заглянуў на кухню, нешта сказаў. Усё гэта даходзіла да свядомасці Максіма, як праз туман, невыразна, нібы здалёк. У галаве з шалёнай хуткасцю круціліся словы: «Маша выйшла замуж. За Лазавенку. Маша выйшла». Нейкі момант у яго было такое адчуванне, што гэтыя словы сапраўды-такі круцяцца, нібы нешта матэрыяльнае, што мае вагу, што можна схапіць, спыніць... Ад гэтага іх кружэння мацнеў боль у галаве, нібы яны, словы гэтыя, стукалі ў скроні. Аляксей вярнуўся ад дзвярэй, стаў каля сцяны, на якой віселі фатаграфіі, доўга глядзеў на партрэт бацькі і ціха сказаў:

— Але-е, Максім, не так нам трэба ўшаноўваць памяць Антона Лескаўца.

Вельмі ціха сказаў, але словы гэтыя мацней за ўсё ўразілі Максіма. Ён усхапіўся, сціснуўшы кулакі, зрабіў крок да брата, скрыгатнуў зубамі.

— Ты-ы... Што ты мне душу пераварочваеш? З мяне бюро даволі! Эх-х, вы-ы! — і, павярнуўшыся, імкліва выбег з хаты, ледзь не збіўшы з ног малога.

Ужо ў двары, прабягаючы міма вокнаў, пачуў сярдзіты голас братавай жонкі.

— Алёша! Што гэта такое? Заўсёды ты! Зараз-жа вярні і памірыцеся!

— Нічога, няхай праветрыцца. Яму карысна. Ад яго, як з спіртзавода...

Гэтыя апошнія братавы словы яшчэ мацней абпяклі сэрца, абразілі. Максім ляпнуў калітkай. Наўскасяк перабег вуліцу і толькі на

другім баку схамянуўся, сустрэўшы нейкую жанчыну, якая прывіталася з ім. Ён сцішыў крок, аглянуўся на бакі, назад — ці не назірае хто за ім. Магчыма, зусім выпадкова позірк яго ўпаў на хату Кацубаў — ён быў якраз насупраць. Тое, што ўбачыў ён, прымусіла яго спыніцца ў цені рабін.

Акно на вуліцу было адчынена, і ён цераз фіранку ўбачыў Лазавенку. Той стаяў пасярод хаты, размахваў рукамі, відаць, нешта расказваў і, мабыць, вясёлае, бо звонка рагатала Алеся.

У Максіма пацямнела ў вачах і перахапіла дыханне. Магутная хваля злосці на Васіля захлынула ўсю яго істоту, усе іншыя пачуцці, і голас розуму спалохана прыціх. Цяжка дыхаючы, ён прытуліўся да паркана.

«Чаго так рагоча гэтая чортава лялька? Чаму ёй так весела?.. Маша выйшла замуж», — ён горка ўсміхнуўся. Злосць пачала паступова сціхаць, уступаючы месца іроніі да самога сябе.

«Гэта — ганьба!..»

І яму стала вельмі шкада сябе, так шкада, што ўпершыню за шмат гадоў салёны камяк захраснуў у горле. Ён сарваўся з месца і амаль пабег па зацямнёным баку вуліцы, паўз хаты.

Чаму? Чаму яму так не шанцуе ў жыцці? Чаму ўсё — людзі, падзеі — паварочваюцца супраць яго?

Няўжо ён менш, чым другія, чым Лазавенка, жадае, каб калгас зрабіўся багатым, моцным, каб шчаслівей пачалі жыць людзі ў ім? Якія ружовыя былі яго думкі ў той час, калі яго выбіралі за старшыню, і ён сам згадзіўся на гэтую пасаду! Згадзіўся таму, што хацеў даказаць, што і ён не горшы за Лазавенку, што і ён можа зрабіць у сваім калгасе тое, што зрабіў Лазавенка ў «Волі». Ён быў упэўнены, што досыць яму стаць за старшыню, як адразу калгас не толькі дагоніць, а можа нават і перагоніць «Волю». З гэтай упэўненасцю ён узяўся за работу. І хіба ён дрэнна працаваў увесь гэты час? Ён сам пілаваў бярвенні ў лесе, сам ішоў першую баразну, калі пачалася сяўба... Ён пазней другіх клаўся і раней падымаўся, забываўся ў час паабедаць, не звяртаў увагі на сваё асабістае жыццё... Дык чаму-ж няма іх, тых вынікаў, якія ёсць у «Волі»? Чаму ўсё ішло не так, як ён думаў? Якія сілы перашкаджалі яму?

Ён даўно ўжо вышаў з вёскі, ішоў у полі, па дарозе на Дабрадзееўку, ішоў шпарка, размахваў рукамі, уголас размаўляючы сам з сабой.

... Сапраўды, чаму ўсё супраць яго? Ён прадаў гэтых злашчасных валоў, аб якіх так многа гаварылі, з найлепшым намерам — купіць

аўтамашыну. Аднак няма ні валоў, ні аўтамашыны, і грошы разышліся на дробязі.

Ён хацеў быць добрым для калгаснікаў, хацеў, каб менш людзей крыўдзілася на яго, — і таму не пажадаў перамяраць сядзібы, лічыў, што гэта дробязь, калі чалавек пасее нейкіх пяць сотак лішніх; людзі пасля вайны бедна жылі, працадзень у калгасе не вельмі важкі... А вышла наадварот: самі калгаснікі абурыліся супраць незаконных захопаў грамадскай зямлі.

«У справе кіраўніцтва няма дробязяў», — нехта сказаў сёння на паседжанні бюро. Ён намагаўся ўспомніць, хто гэта сказаў і ў якой сувязі. Але набягалі новыя думкі, новыя пытанні...

Маша...

Ён ажно на момант прыпыніўся і выцер далоняй пот з ілба. Няўжо і гэта ён лічыў дробяззю?

Не! Не! Ён кахаў яе ўвесь час. Аднак сапраўды атрымліваецца так, што ён лічыў дробяззю той разлад, які быў паміж імі. Яму здавалася, што, калі ён палічыць патрэбным, калі будзе для гэтага час (сапраўды, не мог-жа ён жаніцца тады, калі зрывалася лесавывазка ці веснавая сяўба!), ён прыдзе, скажа Машы пра свой намер, і яна пойдзе за ім хоць на край свету... Не, ён не думаў так, проста так... Але часамі думаў пра іншых дзяўчат... Ліда Ладыніна... Афіцыянтка з раённай чайной... Ды і на Паліну Шаройка не раз пазіраў... Ён агледзеўся назад... Шаройка! А ці не яго гэта дыверсія? Успомніліся словы маці: «Ён цябе на дачцы сваёй жаніць хоча. Дык няхай не думае! На парог не пушчу!» Тады ён пасмяяўся. А цяпер... Сапраўды, уся гэтая Шаройкіна хэўра магла нямаведама чаго нагаварыць Машы аб яго наведваннях у дом Амелькі!

Не, глупства! Не ў Шаройку справа, хоць нагаварыць, безумоўна, маглі...

Лазавенка! Зноў Лазавенка!.. Зноў яго перамога. Ён кахаў Машу таксама. Не дарэмна маці яго сватала яе адразу-ж, як толькі сын вярнуўся з арміі. Ён, Максім, ведаў гэта і не звяртаў увагі, бо мераў усё па сабе... Ён не ведаў да сённяшняга дня цаны і сілы сапраўднага пачуцця. Ён толькі цяпер зразумеў гэтую сілу. Лазавенка!.. У-у!..

Ён хацеў вылаяць Васіля самымі моцнымі словамі, разварушыць у сваім сэрцы гнеў і нянавісць да яго. Але здарылася дзіўнае. Ён раптам адчуў, што ні гневу, ні нянавісці няма, і лаянка атрымалася кволая, нязлосная, нават паважлівая.

Максім спыніўся і разгублена агледзеўся.

Нечакана сціхла ўся гэтая страшна бязладная і пакутлівая завіруха думак, якая выгнала яго з хаты, з вёскі, прымусіла забыцца

на ўсю рэчаіснасць. Настала поўнае працверазейце. Не стукала балюча ў скроні кроў, не шумела ў галаве. Ён успомніў брата, яго прыгожую жонку, іх сына, і яму зрабілася сорамна за свае паводзіны, за лаянку. Аднак хацелася апраўдаць сябе:

«Сам вінаваты, чорт куцы! Адразу пачаў мараль чытаць, нібы без цябе няма каму зрабіць гэта. Калі ты такі свядомы, то павінен быў-бы зразумець, што ў чалавека на душы ў такую мінуту. Эх, Маша! — балюча сціснулася сэрца. — Відаць, не моцна ты кахала мяне... Але я дакажу, што не такі ўжо нікчэмны чалавек Максім Лескавец. Дакажу!».

24

Агляну ўшыся яшчэ раз, Максім убачыў, што стаіць каля саду «Волі». Трэба вяртацца дамоў. Але зноў успомнілася паседжанне бюро. Успомнілася, што Макушэнка многа гаварыў аб садзе, аб тым, што ў яго сад дрэнна дагледжаны, не вартуецца, што багаты ўраджай яблык, які мог-бы прынесці значны прыбытак, прападае без карысці. Параўнаў з садам «Волі». Максім ні разу не задумваўся і не прыглядаўся, у чым-жа розніца паміж садам у яго калгасе і тут, у «Волі».

Цяпер яму захацелася паглядзець на сад суседа. Ён ішоў, і яму ўспаміналіся другія выказванні на паседжанні бюро.

«Бунтар — адзіночка!» — жартаўліва кінуў з кутка суддзя Гарбуноў.

«... Самаўпэўнены чалавек, які жадае ўсё зрабіць сам, хоць для гэтага ў яго нехапае ні ведаў, ні вопыту, ні ўмення. Ні з кім не лічыцца, ні ў каго не пытае парады», — больш, чым хто-небудзь іншы, злосна і рэзка гаварыў загадчык зямельнага аддзела Шаўчук.

«... Уражанне такое, што таварыш Лескавец слаба разумее тыя вялікія задачы, якія ставіць партыя перад намі, сельскімі комуністамі, кіраўнікамі. А слаба разумее ён іх таму, што не знаходзіць часу для вучобы, не вучыцца. А таму не можа правільна зарыентавацца... Не заўсёды ўмее адрозніць тое новае, перадавое, што нараджаецца ў калгасе і што трэба ўсімі сіламі падтрымліваць, ад старога, гнілога, што маскіруецца пад новае і замінае нашаму развіццю. Не ўмее Лескавец прыслухоўвацца да голасу народа... Баіцца крытыкі... Адрываецца ад партыйнай арганізацыі... Разумее дапамогу яе, як жаданне «разнесці» яго, ці захапіць яго славу...»— такімі спакойнымі словамі заключаў абмеркаванне яго справаздачы Пракоп Пракопавіч Макушэнка.

Толькі цяпер задумаўся Максім над гэтымі словамі і, задумаўшыся, забыўся пра сад і не заўважыў, як дайшоў да магазіна. У

Дабрадзееўцы было ціха і цёмна: электрастанцыя спыніла работу. Але ў кватэры Ладыніна гарэла святло.

Невядомая сіла пацягнула Максіма на гэты агеньчык. Асцярожна, нібы крадучыся, прайшоў ён паўз сад у цені таполяў. Супраць урачэбнага пункта спыніўся. Праз адчыненае, насцеж акно ўбачыў Ладыніна. Доктар стаяў каля стала з лінейкай у руках і нахіляў галаву то ў адзін, то ў другі бок, нібы нацэльваўся. Потым зайшоў з другога боку, аблакаціўся на стол, нахіліўся.

«Чэрціць нешта, ці што?» — здзівіўся Максім і раптам адчуў моцнае жаданне пагутарыць з сакратаром, выказаць яму ўсё, аб чым толькі што перадумаў, паслухаць, што скажа ён.

Максім перайшоў дарогу, наблізіўся да будынка.

Ладынін сапраўды чарціў. Ледзь чутна гучэла прыгожая музыка — працаваў прыёмнік.

Максім стаў на лавачку і бясшумна пераскочыў цераз агароджу ў палісаднік. Абаперся локцямі на падаконнік. Ладынін стаяў бокам да яго.

— Ігнат Андрэевіч, — паклікаў ён шэптам, нясмела.

— А-а? — доктар не ўздрыгнуў, не падняў нават галавы адразу. Толькі тады, калі прачарціў алоўкам лінію на вялікім аркушы паперы, што быў прымацаваны кнопкамі да стала, павярнуўся.

— А-а... Ты што, толькі з раёна?..

— Так... Не-э, — сумеўся Максім. — Гуляю... Перашкодзіў я вам?..

— Не. Нічога! Я таксама адпачываю. Заходзь. Толькі — ша! — Ігнат Андрэевіч прылажыў палец да вуснаў і азірнуўся на дзверы, што вялі ў другі пакой. — Ведаеш што? Лезь лепей праз акно. Нічога! Давай дапамагу, — ён зрабіў крок да акна.

Але Максім, не чакаючы дапамогі, падцягнуўся на руках і ў адзін міг, надзвычай спрытна, апынуўся ў пакоі.

Ігнат Андрэевіч зайздросна, з ухвалай, кіўнуў галавой.

— Займаешся на турніку?

— Цяпер? Не. Куды там! Не да турніка!

— Дарэмна! На, сядай, — падаў крэсла, а сам накіраваўся на цыпачках да дзвярэй, зачыніў іх шчыльней.

Максім стаяў, сціскаючы рукамі спінку крэсла, збянтэжана апусціўшы галаву.

— Ігнат Андрэевіч!.. Даруйце, што я вас тады ў Лядцах... абразіў... І што сёння не пачакаў, каб разам ехаць...

Ладынін падышоў, пільна зазірнуў яму ў вочы і раптам працягнуў руку.

— Хто старое ўспамяне... Ведаеш?.. Забудзем! Ды я асабіста і не помніў, бо мяне ты не абразіў... Хутчэй сябе... Аднак... Сядай.

Ігнат Андрэевіч быў задаволены, нават узрадаваны. Ён уяўляў, што перажыў, передумаў Лескавец пасля паседжання бюро. І калі ён у выніку гэтых перажыванняў не запіў, не загуляў (а Ладынін крыху баяўся такога канца), а сярод ночы, цвярозы і ветлівы, з'явіўся да сакратара партарганізацыі, то гэта найвялікшая перамога і яго, Ладыніна, і ўсёй арганізацыі, якая выхоўвае гэтага няўрымслівага комуніста. Безумоўна, гэта — толькі пачатак пералому характару... Убачыўшы, што Максім спыніў зацікаўлены позірк на чарцяжы, Ладынін падышоў да стала, разгладзіў паперу рукой.

— Здзіўляешся? Урач і раптам — чарцёж! Ды бачыш, якая справа... Прачытаў я аднойчы артыкул, — ён узяў у рукі медыцынскі часопіс, што ляжаў на краі стала, разгарнуў. — Тут прапануецца праект сельскага ўрачэбнага пункта. Вось і чарцёж даюць... Прачытаў, ведаеш, і абурыўся. Аўтар жыве ўчарашнім днём, аб медыцынскім абслугоўванні вёскі ўяўляе, у лепшым выпадку, па апавяданнях Чэхава. Няма і маленькага, нават нясмелага позірку ў будучае, у наш заўтрашні дзень. Не ведае чалавек, якімі будуць Дабрадзееўка і Лядцы заўтра. Я напісаў у адказ артыкул і ў дадатак вырашыў паслаць ім свой праект — праект урача-практыка, які чвэрць стагоддзя працуе ў вёсцы. Дарэчы, чарчэнне — мой любімы занятак з маленства. Вось калі ласка, паглядзі. Усё ўлічыў. Нават рэнтгенаўскі кабінет.

Ён доўга і падрабязна расказваў аб сваім праекце, расказваў так, нібы вадзіў Лескаўца па пакоях толькі што скончанага будынка, у якіх яшчэ пахла фарбамі і стружкамі.

— Вось такі медпункт мы будзем будаваць у Дабрадзееўцы. Чаго ты здзіўляешся? Я ўжо зрабіў пэўныя захады, каб нам запланавалі такое будаўніцтва. Праз два-тры гады мы самі не пазнаем сваіх вёсак.

Ладынін забыўся, што ў суседнім пакоі спяць, і размаўляў на поўны голас. Максім убачыў, як ціха адчыніліся дзверы, і ў пакой заглянула Ліда. Спачатку яна зрабіла здзіўленыя вочы, потым падаравала Максіму ўсмешку, ад якой у яго на хвіліну пацяплела на сэрцы, і асцярожна зноў прычыніла дзверы. Максім употайкі вачыма паказаў Ладыніну на дзверы. Той адразу панізіў голас зноў да шэпту.

— Ведаеш, вельмі дарэчы, што ты зайшоў. Я сёння атрымаў пасылачку. Ад франтавога сябра, мы разам у шпіталі працавалі. Армянін Анастас Сабазян. Цудоўны ўрач і чалавек.

Доктар пакорпаўся ў шафачцы, што стаяла ў куце, і вярнуўся да стала з бутэлькай віна.

— Упэўнены, што ты такой рэчы не каштаваў ні разу ў жыцці. Анастас піша, што гэта найлепшае віно ў Арменіі. Хлусіць, безумоўна, але калі і палавіна праўды...

Сам Ігнат Андрэевіч таксама крыху маніў. Пасылку ён сапраўды атрымаў, але не ў той дзень, а некалькі месяцаў назад, яшчэ зімой. Вясёлы і дзівакаваты сябра яго высылаў яе к Новаму году, але яна дзён на дзесяць спазнілася, і Ладынін пакінуў гэтую каштоўную бутэльку для самага дарагога госця.

Яму хацелася пасядзець з Лескаўцом, пагутарыць шчыра, па-сяброўску, і ён успомніў аб бутэльцы. Віно, сапраўды, было добрае. Яны сядзелі адзін супраць аднаго, цераз стол, ціха чокаліся невялічкімі кілішкамі і яшчэ цішэй размаўлялі. Больш гаварыў Ладынін. Максім слухаў.

Ігнат Андрэевіч расказваў аб сваіх сябрах, аб перапісцы з імі. Дастаў з шуфляды стала пачак пісем.

— Вось з Масквы, ад Сяргеева. А гэта з сібірскай вёскі, ад Матушкіна. Малады хлопец, толькі перад вайной інстытут скончыў. Лятуценнік і паэт. Сам папрасіўся ў Сібір... Была ў нас у шпіталі Галачка Красіна. Маленькая, маўклівая... Раненыя яе звычайна за санітарку прымалі і, покуль не дазнаваліся, што яна ўрач, дзяўчынкай клікалі. Таксама старога не забыла... І што ты думаеш? Абараніла кандыдацкую дысертацыю... Ах, чорт, проста не верыцца, што Галачка — кандыдат, — Ладынін пацёр рукі і ціха засмяяўся.

Максім здзівіўся і пазайздросціў таму шчыраму захапленню, з якім Ладынін расказваў аб людзях. Расказваў і радаваўся за кожнага чалавека, за кожны поспех сваіх франтавых сяброў.

— Люблю атрымліваць пісьмы. І сам люблю пісаць. Гэта, ведаеш, прыемна...

«А я ні з кім не перапісваюся, хоць сяброў у мяне было нямала і спачатку я пісаў ім, — падумаў Максім і спалохаўся: а раптам Ладынін спытае ў яго аб гэтым? Схлусіць ён не здолее, і праўду сказаць таксама цяжка і непрыемна. — Чаму так здарылася, што я спыніў перапіску? Амаль усім не адказаў я. Так... Часу нехапае... А хіба ў доктара яго больш? Чаму-ж ён знаходзіць час?» — і ўзлаваўся — зноў гэтае пакутлівае «чаму»?

— А гэта ад сына.

— У вас — сын? — Максім раней ніколі не чуў, што ў Ладыніна ёсць сын, колькі вечароў ён быў у іх і ні раз аб ім у доме не гаварылі.

— Не здзіўляйцеся. Больш таго, двое ўнукаў маю. Сын — інжынер-авіятар, зараз недзе ў Германіі, жонка яго — у Маскве. Я, брат, рана жаніўся, у дзевятнаццаць год, — і ён раптам пачаў расказваць пра

сябе: пра сваё дзяцінства, пра вучобу, пра каханне да Ірыны Аркадзеўны. Аб гэтым ён гаварыў з вясёлым юмарам пажылога чалавека.

А ў Максіма зноў балюча ёкнула сэрца: напамінак аб каханні крануў свежую рану. І яму таксама захацелася расказаць аб сваім каханні, якое было, якое гарыць яшчэ ў сэрцы...

Але Ладынін усё расказваў, і ў Максіма нехапала рашучасці перапыніць яго. Нарэшце, доктар падняўся, падышоў да адчыненага акна, прагна ўдыхнуў халаднаватае паветра.

— Пачынае днець. Люблю ў такі час пагуляць у полі.

Нічога не адказаўшы на гэта, Максім узяў бутэльку,

выліў рэшткі віна ў кілішкі і, быццам апраўдваючы гэты свой учынак, ціха прамовіў:

— Цяжка мне, Ігнат Андрэевіч.

Ладынін вярнуўся на сваё месца, пільна паглядзеў на яго і ласкава адказаў:

— Разумею. Але ведаеш, гэта добра, што цяжка.

— Я кахаў яе...

Ладынін ледзь не пляснуў сябе па лбе. Вось ліха! Ён думаў толькі аб адным — аб паседжанні бюро райкома. Ён зусім забыўся, што Лескавец перажыў у гэты дзень і, відаць, пасля паседжання ўжо, яшчэ адзін удар.

Доктар нават крыху разгубіўся, бо не чакаў размовы на гэтую тэму, не чакаў такога прызнання.

— Ты абвінавачваеш Машу?

— Я? Не. Сябе.

Ладынін сумеўся яшчэ больш. Што адказаць яму пасля гэтага? Суцяшаць — недарэчна. Гаварыць аб тым, што жыццё адпомсціла яму за яго паводзіны, за яго характар — яшчэ раз біць па балючаму месцу. Ігнат Андрэевіч ніколі не рабіў так. Таму ён сказаў задуменна, быццам сам сабе:

— Але-е, Маша — цудоўны чалавек.

Максім горка ўсміхнуўся.

— Вы гаворыце гэта мне! — і раптам выпраміўся, махнуў галавой, закінуўшы назад валасы, якія рассыпаліся, падалі на лоб і прапанаваў, каб спыніць гэтую размову:— Давайце вып'ем, Ігнат Андрэевіч, за яе шчасце.

— І за тваё, Максім.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

Маша сасніла, што яна праспала статак, што пад акном мычыць Лыска — кліча гаспадыню. Адплюшчыўшы вочы, яна прыслухалася: сапраўды, па вуліцы ішлі каровы. Крычаў пастух:

— Красуля! Каб на цябе ваўкі! Мо-оця! Выганяй-яй! Праспала?

«Праспала», — спалохана падумала Маша, але, успомніўшы дзе яна, супакоілася. Не трэба ёй спяшацца, каб падаіць і выгнаць Лыску. Пасля вяселля яна можа паспаць пазней, чым звычайна, тым больш, што ляглі яны ўжо амаль на світанні.

Але супакаенне гэтага хапіла ненадоўга. Рупіла даведацца, як там дома. «Алеся, безумоўна, таксама праспала. Гэта-ж такая соня. Добра, што я папрасіла Клаўдзю, каб дагледзела. Аднак уставаць усёадно пара. Пакуль дайду да Лядцаў — і брыгада збярэцца, пара будзе нарад раздаваць», — яна глянула на ходзікі, што манатонна цікалі на сцяне, і асцярожна, каб не разбудзіць Васіля, паднялася, на цыпачках прайшла да акна, дзе на ўслоне ляжала плацце. Узяла яго і ўсміхнулася: прыйдзецца бегчы да Лядцаў у вясельным убранні.

«Хіба папрасіць Галю, каб сходзіла і прынесла?».

Яны начавалі ў хаце Васілёвай сястры, удавы, бо ў Васіля да самай раніцы прадаўжалася гулянка, і шмат хто з гасцей так і застаўся там, за сталамі, а хто-ні-хто, магчыма, і пад сталом.

Але Ганны не было: ні яна, ні яе дзесяцігадовая дачка не начавалі дома, відаць, прыладзіліся недзе ў суседзяў. Каб не плёскаць вадой, Маша асцярожна памачыла ручнік і выцерла твар. Спынілася перад невялікім люстэркам, што вісела на сцяне паміж шматлікіх фатаграфій у адмысловых рамках, пачала прычэсвацца.

Яна не бачыла, што Васіль прачнуўся таксама і ўпотайкі назіраў за ёй.

Машы ўспаміналіся падзеі вясельнага дня: вяселле было багатае і шумнае. Бацька Васіля, чалавек крыху ганарысты і дзівакаваты, хацеў паказаць, што жэніцца не абы хто, а старшыня лепшага ў раёне калгаса.

На лепшых конях, са званкамі на дугах, апавітых рознакаляровымі істужкамі і кветкамі, вязлі яе, Машу, з Лядцаў. Па патрабаванню маці маладых пасадзілі на покуце на кажух. Весела жартуючы, Васіль ахвотна выконваў дзівацтвы старых. А Машы было прыкра. Яна ўспомніла, як бянтэжылася і не ведала, куды схаваць вочы і рукі ад

цікаўных позіркаў. А позіркаў гэтых было безліч, бо людзей было поўна — і ў хаце, і на вуліцы, — пад адчыненымі вокнамі.

Быў нават момант, калі Машы хацелася заплакаць. Асабліва цяжка стала, калі яна пакідала родную хату і ўбачыла, як употайкі выцірала слёзы Алеся. А Пеця выпіў у пачатку шклянку гарэлкі і некуды сышоў і больш не паказваўся ўвесь дзень. Маша шкадавала яго.

Адчула яна сябе лепей, калі на вяселле прышлі Ладыніны, Мяцельскія, Байкоў. Яны прынеслі простую, непасрэдную весялосць, добрыя, шчырыя жарты. Ніна Аляксееўна прышла са сваім маленькім. Тулячы яго да грудзей і насцярожана, недаверліва пазіраючы на людзей, што мітусіліся вакол, — каб не штурхнулі выпадкам,— яна шчаслівая ўсміхалася.

Машу не пакідала думка: ці прыдзе на вяселле Максім? Васіль ездзіў знарок, каб запрасіць яго. Ён паабяцаў быць. Аднак не прышоў. Не прышла і Сынклета Лукічна.

«А можа і добра, што не было іх... Ніпто не нагадвала мне пра мінулае...»

Па прывычцы яна спляла валасы ў касу, але, успомніўшы пра стары народны звычай, раздзяліла касу на дзве і ўлажыла іх на галаве валікам. Нахілілася, каб узяць чаравікі і выйсці. Але ў гэты момант Васіль паклікаў яе:

— Маша!

Яна ўздрыгнула ад нечаканасці і хутка павярнулася.

— Ты куды? Ужо ўцякаеш ад мужа? Рана.

Яна на момант сумелася, потым адказала, таксама жартам:

— А ты думаеш, што бясконца будзе прадаўжацца вяселле?

— Але я і не за тое, каб яно было такім кароткім, — з твару яго знікла ўсмешка, ён прыпадняўся, абапершыся на локаць, пранікліва пагля дзеў на жонку. — Давай, Маша, разам памяркуем, ці трэба ён, гэты твой подзвіг? Сапраўды... Амаль да раніцы было вяселле. Яшчэ ніхто з гасцей, мабыць, не прачнуўся, а маладая ў вясельным плацці бяжыць на работу... А ці такая ўжо ў гэтым пільная патрэба? Гэта толькі ў кнігах часам апісваюць, што з-за працы няма часу героям ні адпачыць, ні жаніцца, пі паабедаць добра. Я вось нядаўна чытаў у аднаго пісьменніка... Вярнуўся ў яго герой з арміі і ў першы-ж вечар пайшоў на калгасны сход. А прышоўшы позна ўначы са сходу, зірнуў на жонку, якая спала на ложку, і лёг сам на ўслончыку, падлажыўшы па-франтавому шынельку пад галаву...

— Выдумаў, — засмяялася Маша.

— Не я — пісьменнік... Смешна, праўда? Сур'ёзна, Маша, я думаю, што нічога не здарыцца, калі ты не пойдзеш сёння. Управяцца без цябе. Там-жа такія людзі... Дуня, напрыклад...

— Добра табе, Вася, разважаць, калі ў цябе ўсё сена ў стагах ужо. А ў нас яшчэ палавіна — у пакосах. Сёння на Зарэчны луг трэба ехаць. А то раптам раздажджыцца...

— І ты маеш намер паехаць таксама. Я ведаю цябе... А ў хаце яшчэ поўна гасцей. Прачнуцца, пачнуць пахмяляцца, а маладой няма. Што скажуць мне? Уяві...

Маша падышла, села на край ложка, палажыла руку на яго галаву; пальцы яе патанулі ў яго ўскудлачаных валасах.

— Добра, Вася, я разумею.

Ён прыцягнуў яе да сябе, пацалаваў, патрымаў у абдымках, слухаючы частыя ўдары яе сэрца. Потым, закінуўшы за галаву рукі, доўга ляжаў моўчкі, задуменна ўставіўшы позірк у адну кропку на столі.

Маша назірала за выразам яго твару.

— Пра што ты думаеш, Вася?

— Пра тваю работу. Разумееш, гэта ўсё не так проста, як мы меркавалі... Я думаю пра маці... З хлебам-соллю сустрэла яна нявестку і ўпэўнена, што ты назаўсёды прыехала ў дом, як гэта вядзецца адвечна. І раптам... Паспрабуй цяпер, пераканай яе, старую, дакажы, што ты там, у чужым, як яна скажа, калгасе больш патрэбна, чым у сваім...

Маша паднялася, падышла да акна, доўга глядзела на вуліцу. Хаты на другім баку былі зверху да вокнаў заліты сонечным святлом. Дзені-дзе над комінамі ўздымаўся празрысты дымок. Каля калодзежа стаялі жанчыны з поўнымі вёдрамі і ніяк не маглі разысціся — усё гутарылі і гутарылі, кідаючы позіркі на Ганніну хату. Маша зразумела, што гаворка ідзе пра яе і адступіла ад акна, села на ўслончык каля стала, быццам прышла ў госці, павярнулася да мужа.

— Вася, а ты-ж абяцаў пагаварыць з маці раней. Не падабаюцца мне твае словы... Марылі, марылі мы з табой, планы розныя складалі, а калі да справы дайшло... дык, як часта гэта бывае, да вяселля — рулявыя мары, абяцанкі... А пасля — муж пачынае глядзець на жонку, як Шаройка на сваю сядзібу.

Твар Васіля заліўся чырванню. Маша не заўважала гэтага.

— Ты ведаеш, Вася... Не для сваёй карысці я застаюся ў «Партызане». Я слова дала, і я хачу стрымаць яго... не толькі перад адным табой...

Васіль цяжка ўздыхнуў.

— Ты крыўдзіш мяне, Маша. Ды хіба я супраць таго, каб ты працавала там... Я ўвесь час дапамагаю «Партызану». Адна ты ведаеш маю мару... І я ўпэўнены, што прыдзе час, калі гаспадаркі нашы аб'еднаюцца ў адну. Я гаварыў толькі пра маці. Цяжка ёй будзе зразумець... Ды і не адной маці...

— Зразумеюць, Вася, дарэмна ты думаеш так, — у Машы знікла трывожнае пачуццё, якое з'явілася было пасля яго слоў. Не дамовіцца, не зразумець адзін аднаго ў першы дзень, значыцца, не разумець адзін аднаго праз усё жыццё, значыцца, і не бачыць яго, таго жыцця, пра якое яны марылі перад вяселлем.

Не, Васіль добра разумее яе, і яна таксама разумее яго... Маша супакоілася.

У наступную раніцу яны прачнуліся адначасова ўжо ў сваёй хаце. Разам вышлі мыцца. Маці з дайніцай у руках сустрэла іх на ганку, ласкава папракнула сына:

— Звык падымацца ні свет, ні зара, і жонцы не даеш паспаць. Ты спала-б яшчэ, Машанька. Куды табе спяшацца?

Васіль пажартаваў:

— Хай не звыкае доўга спаць. Разлянуецца.

— А няўжо-ж па табе мусяць усе раўняцца?

Маці хацела абмінуць іх і пайсці ў хату, каб працадзіць малако, але Васіль прыпыніў яе.

— Слухай, мама... Да восені Маша застанецца брыгадзірам у «Партызане», і ты павінна зразумець... Так трэба для справы!

Кацярына паглядзела на нявестку і ўздыхнула.

— Што-ж, калі трэба, дык трэба... У вас, маладых, усё не так, як нам, старым, хочацца. Але вам відней, вы — цяпер гаспадары. Пачакай-жа, Машанька, я снеданне згатую.

Маша адразу адчула нешта накшталт расчаравання: не чакала яна, што свякруха так хутка ўсё зразумее і так проста пагадзіцца з тым, што нявестка будзе брыгадзірам у чужым калгасе і, безумоўна, не зможа быць добрай памочніцай ёй у хатніх справах.

Але ўслед за гэтым першым пачуццём хлынула цёплая хваля ўдзячнасці да гэтай шчырай жанчыны. Маша не ведала, як выказаць ёй гэтае пачуццё і таму толькі ціха сказала, сарамліва апусціўшы вочы:

— Дзякую, мама.

Але Кацярына зразумела яе словы па-свойму.

— Няма за што дзякаваць. Не ў чужых. Не ўздумай мне без снеданняў уцякаць. Мыйся і бяжы на грады, гуркоў выберы.

Стала радасна і светла на душы ад гэтай кароткай размовы, ад такога простага даручэння. Мыючыся, Маша смяялася, пырскалася вадой. Потым з вялікім задавальненнем хадзіла па росных градах, шукала гуркоў, выбірала самыя лепшыя — зялёныя, свежыя, халодныя ад расы — і адчувала сябе дзяўчынкай, як некалі ў маленстве, калі маці вось таксама пасылала яе на гарод.

Самыя прыемныя гэта хвіліны ў чалавека — калі ўспамінаецца дзяцінства! Але толькі хвіліны, бо ніколі пачуццё гэтае не застаецца надоўга. Міг — і ўсё знікае, рассыпаецца пад ударамі будзённых клопатаў, складаных перажыванняў, якія праз усё жыццё апаноўваюць дарослага чалавека. Так здарылася і ў Машы. Вярнулася яна ў хату, і Васіль, зусім не жадаючы гэтага, сапсаваў яе ўзнёслы настрой. Смеючыся, ён расказаў пра размову з маці.

Падаючы на стол, старая наіўна спытала ў сына:

— А як-жа ў Машы з працаднямі будзе, сынок?

Васіль засмяяўся.

— Ты, мама, відаць, хочаш, каб працадні ёй у нашым калгасе налічвалі?

— Ды ўжо-ж! Не параўнаць наш працадзень з іхнім!

Маша прыкметна змянілася з твару, хоць і намагалася не выдаць свайго хвалявання.

Васіль зразумеў, што яму няварта было расказваць аб гэтай размове.

— Не звяртай, Маша, увагі на такія дробязі! Хіба ты не ведаеш старых? Ім заўсёды хочацца, каб у іх уласных засеках і скрынях было як мага больш. Ці варта крыўдзіцца?

— Я не крыўджуся... Маці правільна думае... Мне проста балюча, што аб калгасе такая благая слава... А ты як-бы падтрымліваеш яе. Не разумею я цябе. Ты і дапамагаеш, ты і быццам радуешся, што мы адстаём... Пачакай, прыдзе час, калі мы перагонім вас...

Але ідучы да Лядцаў і аглядаючы па дарозе пасевы, Маша пераконвалася, што ўсё-ткі вынікі іх працы значна горшыя, і ўсё больш адчувала яна гонар за Васіля, упершыню гладзела на пасевы «Волі», як на свае.

Да калгаснага двара яна падыходзіла з нейкім дзіўным пачуццём баязлівасці. Яна не ведала, што адкажа, калі Максім выступіць супраць яе жадання застацца брыгадзірам. Ёй вельмі не хацелася ў такі дзень зноў лаяцца з ім.

Брыгада яе была амаль у поўным зборы; мужчыны і жанчыны, чакаючы нарадаў на двары, абмяркоўвалі падзеі мінулага дня, моладзь — мінулага вечара.

Дзяўчаты сустрэлі Машу прыветлівым шумам, хлопцы — цікаўнымі позіркамі, мужчыны — жартаўлівымі недамоўкамі. Маша прывіталася, прыкметна чырванеючы. Не адразу ўбачыла яна сярод мужчын Максіма, ён сядзеў на возе, курыў, нервова зацягваючыся дымам, і глядзеў на яе інакш, чым усе іншыя, усё было ў яго позірку: і любаванне ёю, і цікаўнасць, і захаваная рэўнасць.

Прывітаўся ён амаль апошні, калі ўбачыў, што Маша заўважыла яго.

— Добры дзень, маладуха. А я думаў, што ты і дарогу забудзеш да нас. Праўда, дзяўчаты твае ледзь не адлупцавалі мяне за гэта.

Маша, падрыхтаваўшы сябе да горшага, адказала афіцыйна, суха:

— Я, як працавала ў брыгадзе, таварыш Лескавец, так і маю намер працаваць.

— Правільна, Маша!

— Хвала нашаму брыгадзіру!

— Што, старшыня, не казалі табе?

Маша чакала, што Максім або проста абурыцца і скажа, што такі брыгадзір яму не патрэбны, або (гэтага яна чакала больш) пачне кпіць, насміхацца. Але ён саскочыў з воза, выбіў аб халяву бота люльку, старанна расцёр попел нагой і таксама суха адказаў:

— Працуй. Замяніць цябе сапраўды няма кім. Асабліва ў такі час... перад уборкай. Я сам кіраваў тваёй брыгадай, покуль ты замуж выходзіла.

Гэта ён сказаў здзекліва. Яна не была на працы ўсяго тры дні. Маша ўспыхнула. Але не змагла нічога адказаць, бо гаварыў Максім.

Ён не проста загадваў, ён камандаваў сурова, рашуча:

— Мужчын і дзяўчат — на луг, у першую чаргу... Жанчын на праполку бульбы! Я паеду на сенакос. Ты застанешся за мяне. Бірыла захварэў...

Маша хацела было заявіць, што яна таксама паедзе на луг. Аднак, глянуўшы на яго, зноў не адважылася. Ні разу ён не гаварыў яшчэ такім голасам і ніколі твар яго не быў такім суровым.

2

Атрад прабіраўся цераз балота.. Направа і налева, здавалася, без канца і краю, рассцілаўся роўны прастор рудой балотнай травы.

Балота было бязлеснае — без хмызнякоў і паасобных кустоў, дзені-дзе толькі на невялічкіх выспах віднеліся нізкарослыя, кволыя сасонкі, пераважна сухаверхія, нібы вогненны вецер абпаліў іх верхавіны. Толькі ў тым напрамку, куды ішоў гэты незвычайны атрад, узвышалася цёмнаеіняя сцяна вялікага лесу.

А атрад сапраўды быў незвычайны. Ішлі не геолагі, не даследчыкі недраў роднай зямлі, ішлі людзі ўсіх прафесій: геолагі і лётчыкі, інжынеры і батанікі, аграномы і паэты... Будучыя. Ішлі піянеры.

Першыя крочылі хлапчукі: то спрытна скакалі з купіны на купіну, то з цяжкасцю перасоўвалі ногі ў густой ліпучай дрыгве, часам глыбока правальваючыся. Дарогу пракладалі Валодзя Прымак і Косця Гоман; яны ішлі побач, плячо ў плячо, трымаючы ў руках доўгія палкі, якімі мацалі балотнае дно, каб часам не ўскочыць дзе-небудзь у «чортава вока». Дарэмныя былі намаганні сяброў, што ішлі следам, змяніць іх. Яны ўпарта не жадалі ўступіць каму-небудзь чэсць правесці атрад цераз гэтае непраходнае балота.

Ва ўсіх хлапчукоў за плячыма былі прыладжаны дарожныя мяшкі. І хоць паход набліжаўся да канца, мяшкі не былі больш пустымі, чым у першы дзень, калі яны

адыходзілі ад роднай школы. За час паходу яны напоўніліся рознастайнымі цікавымі рэчамі, сярод якіх былі самымі каштоўнымі два паедзеныя іржой аўтаматы і сатлелая сумка з патронамі.

За хлапчукамі ішлі дзяўчаткі. Іх было менш, але расцягнуліся яны значна даўжэйшым ланцужком, чым хлопцы, якія літаральна «наступалі на пяты» адзін аднаму. Апошнімі ішлі кіраўнікі атрада — Ліда Ладыніна і Алеся Кацуба.

Ідэя паходу і арганізацыя яго цалкам належала Лідзе. Яшчэ з зімы рыхтавала яна вучняў да гэтага цікавага падарожжа па вобласці. Не раз давялося ёй паспрачацца з загадчыкам райана, каб атрымаць патрэбныя сродкі.

З атрадам павінен быў ісці фізрук школы Патрубейка, але ў апошні дзень ён нечакана захварэў. Ліда добра ведала прычыну яго хваробы: яму вельмі не хацелася адыходзіць з дому ў такі час, калі хапала спраў каля сваёй гаспадаркі, а самае страшнае для яго было ісці ў далёкую дарогу пад яе, Лідзіным, кіраўніцтвам. Замест яго Ліда запрасіла Алесю. Яны здружыліся на вяселлі. Дагэтуль Алеся — вучаніца — не адважвалася прапанаваць свайго сяброўства настаўніцы, хоць даўно марыла аб такім збліжэнні; даўно Ліда падабалася ёй.

Але цяпер, калі яна вытрымала экзамен на атэстат сталасці, то адчула сябе зусім сталым чалавекам і пасмялела. Лідзе таксама спадабалася новая сяброўка — вясёлая, цікаўная, разумная. У іх характарах было многа агульнага.

...Няшчадна пякло сонца. Нерухома вісела густое, душнае і смуроднае ад балотных выпарэнняў паветра. Ісці было цяжка. Алеся расчырванелася, вочы яе гарэлі; яна перарывіста дыхала.

— Што з табой, Алеся? — спытала Ліда, якая ішла роўна, лёгка, нават не пацеючы.

— Успомніла — і расхваляваласяся. Брр... Ажно дзіўна зараз, як я прайшла тады. Вады было-о!.. Месцамі — па грудзі... І вада халодная, халодная... — Алеся ўздрыгнула. — І цяпер холадна робіцца, як успомню.

— Цераз год тут будзе торфзавод... Ты пра ўсё раскажы дзецям.

— Не ведаю, ці здолею... Цікава, што засталося ад лагера? Вернемся — трэба будзе дзядзьку Міхею расказаць, што мы тут былі.

Набліжаліся да лесу. Ужо добра можна было ўбачыць паасобныя дрэвы: сосны і магутныя дубы, што стаялі на самым узлеску.

— Ого-о-го! Хло-опцы! Рэ-эчка-а-а!—даляцеў здалёк радасны голас Валодзі Прымака.

Ланцуг адразу заварушыўся: хлапчукі пабеглі, спатыкаючыся на купіны, падаючы.

Пярэднія ўжо скідалі мяшкі, сцягвалі з сябе кашулі і кідаліся некуды ўніз.

— Ужо купаюцца, — занепакоілася Ліда. — Неглыбока?

— Не. Цяпер неглыбока. А тады вартавыя перавезлі мяне на нейкім бервяне.

— Аднак, спацелыя — і адразу ў ваду! А ўсё гэты Прымак! — Ліда пайшла так шпарка, што Алеся ледзь паспявала за ёй. Але покуль яны наблізіліся да рэчкі, усе хлопцы ўжо плёскаліся ў вадзе, весела пырскаючыся і крэкчучы ад задавальнення. Дзяўчаткі сядзелі на высокім сухім беразе, у засені дубоў, цярпліва чакаючы дазволу настаўніцы.

Ліда і Алеся адышліся ўбок і, знайшоўшы глыбейшае месца, таксама пачалі распранацца.

— Нічога не бачаць твае даследчыкі, — крыху расчаравана сказала Алеся і паказала на адным з дубоў незвычайнае гняздо з жэрдак, накрытых паіржавелай бляхай, — цэлы будан. — Назіральны пункт. Бачыш?

Калі ўсе добра выкупаліся ў сцюдзёнай вадзе лясной рэчкі, Ліда пастроіла атрад і павяла ў глыб лесу. З цяжкасцю пралезлі яны праз зараснік арэхавых кустоў і спыніліся на невялічкай паляне.

Піянеры радасна закрычалі:

— Лагер!

— Партызанскі лагер, Ліда Ігнатаўна!

Дзеці былі ў захапленні ад такога адкрыцця, ім здавалася, што натрапілі яны на лагер выпадкова.

Ліда загадала ім. сесці і паслухаць, што ім раскажуць. Хлопцы выканалі яе загад без асаблівага жадання, ім карцела хутчэй агледзець лагер, рэшткі .зямлянак, пашукаць зброі.

— Дзеці! Не думайце, што мы ішлі цераз балота без усялякай мэты і выпадкова прышлі ў гэты лагер. Не, я не выпадкова прапанавала вам гэты цяжкі маршрут. Справа ў тым, што пяць год назад цераз гэтае балота прайшла адна дзяўчынка, партызанская сувязная, якой у той час было якраз столькі год, колькі зараз шмат каму з вас. Прайшла яна цераз балота вясной, калі яно лічылася непраходным і калі вада была ледзяная...

Вучні павярнулі галовы ў бок Алесі, здагадаўшыся, хто тая дзяўчынка. Алеся збянтэжылася.

— Правільна, дзеці, гэта была Аляксандра Паўлаўна. Зараз яна аб усім раскажа вам сама.

Хлапчукі забылі на сваё жаданне, зацікаўленыя гераічным учынкам знаёмага чалавека.

Алеся расказала, як вясной сорак трэцяга года ім, сувязным — Машы і ёй, перадалі украінскія партызаны, што гітлераўцы рыхтуюць карную экспедыцыю. Маша была хворая, і вестку гэтую панесла ў атрад Алеся. Падышла, як звычайна, з боку лесу і натрапіла на немцаў; яны занялі ўсе подступы, усе дарогі. Тады дзяўчынка, не доўга думаючы, абышла гэтае вялікае балота і рушыла праз яго, па глыбокай ледзяной вадзе.

Расказвала яна проста, цікава і сціпла. Апавядаючы далей пра блакаду, пра тое, як выходзілі з яе атрады, як пераносілі цераз балота раненых, Алеся павяла піянераў па лагеры, паказвала рэшткі зямлянак, тлумачыла, дзе што размяшчалася: штаб, шпіталь, кухня, майстэрня па вырабу мін. Некаторыя зямлянкі добра захаваліся, асабліва тыя, сцены і столь якіх былі зроблены з бярвенняў; ад другіх засталіся толькі заваленыя ямы. У былы склад боепрыпасаў дзеці змаглі зайсці, і хлапчукі папоўнілі свае знаходкі гільзамі, паіржавелым аўтаматным дыскам і цынкавымі скрыначкамі ад патронаў.

Але самай цікавай знаходкай была гармата, што стаяла на краі лагера, каля рэчкі. Праўда, акрамя ствала і колаў, ад яе больш нічога не засталося, але ўсёадно хлапчукі ад яе былі ў захапленні.

Пасля, калі Ліда абвясціла працяглы прывал і піянеры з радасцю пачалі раскладваць вакол штабной зямлянкі кастры і варыць абед, уяўляючы сябе сапраўднымі партызанамі, — Алеся доўга яшчэ сама блукала па лагеры. На брустверы акопа, у траншэях раслі маладыя бярозкі і асіны; дрэўцы прагна цягнуліся да сонца. Алеся паказала іх Лідзе.

— Вось яна, сіла жыцця... Пройдзе яшчэ колькі год, і цяжка будзе пазнаць, што тут жылі людзі, якія аддавалі ўсё дзеля перамогі, дзеля шчасця народнага... Вырастуць дрэвы і будуць помнікам тым, хто загінуў у імя гэтай перамогі... Жывым помнікам...

Алеся стаяла, прытуліўшыся да старога дуба, як-бы прыкутая да яго, і глядзела на Ліду дзіўнымі вачыма. Потым, адарваўшыся ад дуба, нахіліўшыся, яна ціха спытала:

— Скажы, у цябе бывае так, калі адчуваеш, а расказаць аб гэтым не можаш?

Ліда падышла, ласкава абняла яе.

— Бывае.

— Праўда? — узрадавалася Алеся. — А Маша не верыла мне, даказвала, што ўсялякае пачуццё можна выказаць словамі, толькі не ўсе іх ведаюць... Глупства! Няўжо і я і ты не ведаем усіх слоў?

Ліда засмяялася.

— Мы з табой яшчэ шмат чаго не ведаем. Пойдзем, Алеся, абедаць.

Адпачыўшы, атрад рушыў далей. Кілометры тры ішлі па зарослых партызанскіх сцежках, праз някрануты гушчар. Выйшлі да хаты лесніка і адтуль па пратоpанай лясной дарозе з шырокімі і глыбокімі аўтамабільнымі каляінамі накіраваліся да помніка партызанам, што загінулі ў баях у гэтым лесе.

Помнік — высокі цэментавы абеліск — стаяў на ўскраіне старога бору, недалёка ад вёскі Клёны, якая праз увесь час акупацыі была партызанскай. Магутныя сосны-прыгажуні шумелі над помнікам, быццам расказвалі героям, якія назаўсёды заснулі, пра тое, што робіцца навокал. А высокім соснам далёка відаць прасторы роднай зямлі!

Піянеры, наблізіўшыся да помніка, прачыталі на мрамарнай пліце прозвішчы партызан. Першым было выбіта прозвішча чалавека, якога ўсе дзеці ведалі і помнілі:

ЛЕСКАВЕЦ АНТОН ЗАХАРАВІЧ

Дзяўчынкі пайшлі ў поле, збіралі ў разорах, на краі пасеваў кветкі і плялі вянкі, каб палажыць іх на магілу партызан. Хлопцы, якія, здавалася, раптам на шмат год пасталелі, — сталі паважныя і сур'ёзныя, — пачалі рамантаваць агароджу вакол помніка. Яны больш не шумелі, не смяяліся, нават перамаўляліся амаль шэптам.

Ліда і Алеся стаялі каля агароджы. Алеся доўга не зводзіла позірку з помніка, і прыкметны смутак стаіўся ў яе карых вачах.

— Цудоўны чалавек быў Антон Лескавец. З вялікім сэрцам. Шчыры чалавек... Помню, як ён узрадаваўся, калі я першы раз прыйшла ў лагер. Ажно слязу змахнуў, а потым засмяяўся. «Дык гэта ты, кажа,

тая самая малодшая Кацубіха, якую я летась зачыняў у свірне?» Быў гакі выпадак. Злавіў ён нас, траіх дзяўчынак, у калгасным садзе і зачыніў у свірне. Пагразіў, што і начаваць будзем там, з пацукамі. Каця Акуліч, помню, плача, а я смяюся і прыпеўкі спяваю. Хутка ён прышоў і доўга, як дарослым, расказваў нам, што такое калгасная маёмасць і як яе трэба шанаваць...

Алеся задуменна памаўчала і раптам спытала:

— Скажы, чаму дзеці часам бываюць не падобныя да бацькоў?

Ліда адразу зразумела, каго яна мае на ўвазе і адказала такім-жа нечаканым пытаннем:

— Значыцца, па-твойму, Максім дрэнны чалавек?

— Не ведаю. Але не люблю я яго, Ліда.

— За Машу?

— Не. Не за Машу, — але за што — не сказала.

Ліда таксама змаўчала, не стала больш распытваць.

Яны павярнуліся і пайшлі паўз лес. Але не прайшлі і сотні крокаў, як насустрач ім з маладога бярэзніку выехаў коннік. Убачыўшы іх, ён рыўком нацягнуў павады, ажно конь рвануўся ўбок. У той-жа момант і яны пазналі яго: Максім! Ліда зірнула на Алесю, але тая глядзела ўперад, на твары яе не было і цені здзіўлення, нібы яна даўно ўжо ведала аб тым, што Максім абавязкова з'явіцца тут.

— Лёгкі на ўспамін, — сказала Алеся спакойна, нават абыякава.

Конь хвіліну нецярпліва тупаў на месцы, быццам коннік раздумваў, ехаць яму ўперад ці вяртацца назад.

Яшчэ здалёк Максім спытаў:

— Што вы робіце тут? — пытанне прагучэла сурова і недарэчна, недарэчна таму, што ён не мог не бачыць, з якой мэтай прышлі яны на гэта ўзлессе.

— Добры дзень, Максім Антонавіч, — у адказ весела і жартаўліва прывіталася Ліда. — А нас цікавіць, як трапілі сюды вы?

Максім саскочыў з каня і пайшоў насустрач ім.

Алеся тузанула сяброўку за руку. Ліда агледзелася, сустрэла яе позірк і толькі ў гэты момант усё зразумела і ёй стала сорамна за сваю нездагадлівасць.

— Пойдзем, Ліда, а то дзяўчаткі нашы могуць заблудзіцца дзе-небудзь, — сказала Алеся.

— Але, — схамянулася Ліда. — Вы прабачце нам, Максім Антонавіч. Пачакайце нас тут хвіліначку.

Яны адышлі ў лес.

— Шкада, што мы сустрэліся. Няхай-бы адзін, без сведкаў, пабыў на магіле бацькі, падумаў... Можа, у галаве пасвятлела-б...

Ліда абняла сяброўку.

— Алеся, мілая, не трэба быць такой суровай.

Дзяўчына памаўчала, падумала і пакорліва згадзілася:

— Не трэба... Ведаеш, я многа даравала яму ў гэтую хвіліну, як убачыла яго тут. Я сама часта хаджу на магілу маці. Бацькі я не помню... Пастаю, часам паплачу... А пасля, як адыйду, на душы светла так робіцца і так хочацца жыць... І хочацца зрабіць як мага больш Для людзей, пражыць жыццё з карысцю... Помніш, як у Астроўскага?.. Жыццё — яно даецца толькі адзін раз, і пражыць яго трэба так... Помніш, безумоўна.

Максім моўчкі правёў дзяўчат позіркам. Ён узлаваўся і разгубіўся ад гэтай нечаканай сустрэчы. Яшчэ больш стала ніякавата, калі зразумеў, чаму яны так шпарка пайшлі ад яго, — здагадаліся пра ягоны намер.

Так, ён хацеў пабыць на магіле бацькі адзін, без сведкаў. Праўда, ён наведваў магілу раней: адразу пасля звароту з арміі прыязджаў разам з маці і старэйшай сястрой. Але каб пабыць аднаму — такое жаданне з'явілася ўпершыню, і з'явілася яно вельмі нечакана.

Брыгады калгаса канчалі ўборку сена на лузе каля ракі, кіламетраў за пяць адгэтуль. Зграбалі апошнія пакосы, кідалі апошнія стагі. Раптам наляцела хмарка, шуганула кароткім дажджом, і сапсавала не толькі працу, але і настрой старшыні. Сенаўборка зацягвалася, і Максім, як ніколі раней, перажываў гэтае адставанне ад іншых калгасаў, ад «Волі». А тут яшчэ гэты дождж... Заўсёды ляціць не туды, дзе просяць, а туды, дзе косяць...

Ён ляжаў у будане сам-на-сам са сваімі думкамі. Каля стога гутарылі мужчыны, успаміналі сенакос мінулых гадоў. Максім прыслухаўся і пачуў голас дзеда Яўмена:

— Нябожчык Антон от-жа мастак быў кідаць стагі.

Дзеду адказаў другі калгаснік:

— А на якую працу ён не мастак быў?

Словы гэтыя пра бацьку цёплай прыемнай хваляй захлынулі ўсе іншыя пачуцці. Ён успомніў, што магіла бацькі недалёка, і як-бы адчуў сябе вінаватым, што даўно не наведваўся да яе.

Ён ехаў праз лес. Ніколі яшчэ так сур'ёзна з такой глыбінёй ён не задумваўся над усімі, якія ён толькі ведаў, падзеямі бацькавага жыцця. Нялёгкае жыццё пражыў Антон Лескавец, але прыгожае, вялікае — заўсёды ў барацьбе. Максім падумаў пра гэта і раптам успомніў, як маці аднойчы сказала: «Лёгка табе жылося, Максім. Гадаваўся ты ў шчаслівыя гады, быў малодшы ў сям'і, усе цябе песцілі...»

Тады ён хацеў адказаць маці: «А вайна, фронт?..» Але змаўчаў, бо ўспомніў словы другога чалавека — Васіля Лазавенкі, які яшчэ пры першай сустрэчы, слухаючы яго расказы пра фронт, сказаў: «Лёгка ты праваяваў».

Тады яму здалося, што Васіль мае на ўвазе адно — раненні, і таму ён без крыўды адказаў: «Але, шанцавала».

Цяпер ён зноў успомніў словы маці і словы сябра і задумаўся над імі. «Лёгка пражыў, значыцца, слаба ведаю жыццё, людзей, самога сябе. А жыццё, яно не простае і нялёгкае, як часам здаецца... Не!»

Цяжкі гэта быў роздум над сваімі паводзінамі, учынкамі. Але паступова думкі яго святлелі. Ён зразумеў, што ўвесь гэты самааналіз, які пачаўся, калі ён прыехаў з бюро райкома і даведаўся пра замужаства Машы, ідзе на карысць. Многа ён перадумаў за гэтыя некалькі дзён. І цяпер адчуваў, што прыкметна перамяніўся. Перамяніліся яго погляды на жыццё, на людзей, нават адносіны да іх. Зніклі грубаватая нястрыманасць, самалюбная ўпартасць. Ён менш стаў лаяцца, «распякаць» брыгадзіраў, калгаснікаў. Стаў больш спакойны і ўроўнаважаны. Усё гэта ён заўважаў сам і нават спачатку спрабаваў супраціўляцца гэтай перамене, самалюбна жадаючы застацца такім, якім быў. Але цяпер, едучы да магілы бацькі, ён усё перадумаў, усё асэнсаваў па-новаму і ўзрадаваўся гэтым пераменам у сваім характары і ў сваіх паводзінах.

З жалобнымі, але. светлымі пачуццямі набліжаўся ён да знаёмага абеліска. І раптам гэтая сустрэча...

... Максім агледзеўся і ўбачыў вучняў. Хлапчукі стаялі крыху воддаль і не зводзілі з яго вачэй. Але дзеці не выклікалі ў яго таго нездавальнення нечаканай сустрэчай, якое выклікалі Алеся і Ліда. Ён прывітаўся з хлапчукамі і, узяўшы ў аднаго маленькую сякерку, прыбіў штакеціны на агароджы вакол помніка. Потым, адышоўшы ўбок, сеў на пень, закурыў, чамусьці ўпершыню не люльку, а папяросу, і сядзеў доўга, нахіліўшы галаву. Цыгарка стлела ў яго пальцах. Ніхто не перашкаджаў яго думкам...

Ён схамянуўся, пачуўшы галасы Ліды і Алесі. Яны выйшлі з лесу, за імі, невядома адкуль, высыпалі вучні, абкружылі каня.

— Чым дарэмна хадзіць — пайшлі-б дапамаглі сагрэбці сена. Заўтра скончым і паедзем разам, — хмура сказаў Максім, адразу-ж, як толькі яны наблізіліся да яго.

— Ходзім мы не дарэмна, Максім Антонавіч, а дапамагчы — калі ласка, дапаможам з радасцю... — адказала Ліда і звярнулася да вучняў:

— Праўда, рэбяты?

Яны адказалі дружна і гучна, як салдаты:

— Праў-да!

3

Ніколі ў жыцці Ліда не працавала з такой ахвотай, як у гэты раз, хоць да фізічнай працы бацька прывучыў яе з маленства. І ніколі раней праца не прыносіла ёй столькі задавальнення і радасці. Яна п'янела ад водыру сухога сена, у вушах яе звінела ад стракатання конікаў, ад дзявочага смеху, а сэрца напаўнялася незразумелым, неасэнсаваным, але прыемным пачуццём.

Яна працавала каля стога. Дзяўчаты падносілі на насілках копы, якія стаялі недалёка, больш далёкія падцягвалі коньмі. Ліда саграбала і падавала на стог расцярушанае сена. Зляжалыя копы падаваў Максім. Ён пракалваў капу амаль наскрозь віламі, лёгка, адным рыўком, падымаў яе ўгору, яшчэ лягчэй кідаў на стог, весела выгукваючы:

— О-оп! Прымай, дзед!

Працаваў ён таксама незвычайна — рытмічна, прыгожа, з натхненнем. Ліда мімаволі любавалася яго спрытнасцю, сілай і радавалася, што ён умее так працаваць. У зялёнай майцы, з загарэлымі тварам і рукамі, што блішчэлі ад поту, з ускудлачанымі валасамі, зацярушанымі сенам, ён здаваўся ёй прыгажэйшым, чым ў найлепшым сваім гарнітуры.

На стозе стаяў ва ўсім белым, як здань, дзед Яўмен Лескавец. Стары спрытна прымаў граблямі сена, роўнамерна раскладваў навокал сябе па краях стога, які хутка рос, узнімаўся ў неба. Спачатку дзед падбадзёрваў падавальшчыкаў:

— Так, так, дзеці! Спрытней давайце! Ах, люблю!.. Люблю такую работку!

Але хутка запратэставаў:

— Максіме, сыне, не бяры на пуп. Надарвешся, вужака, і мяне, старога, замучаеш.

Тады і Ліда сказала яму знарок сурова:

— Вы, Лескавец, відаць, выхваляецеся сваёй сілай. Пакіньце! Каму гэта трэба!

Ён на момант застыў з паднятымі віламі, не зводзячы з яе вачэй; пасля, апускаючы вілы, пакрыўджана і расчаравана выдыхнуў:

— Эх, Ліда Ігнатаўна!.. — і набраў сена яшчэ больш — ажно шыя налілася крывёю, калі падымаў.

— Табе, дзед, са стога відней, чым нам, што вунь за ракой хмары збіраюцца. Да вечара трэба скончыць.

Іх стог быў крайні, у рагу паміж ракой і лесам; у сене траплялася многа скошаных дубовых парасткаў. На поўдзень лес — алешнік і дубняк — усё далей і далей адыходзіў ад ракі і паміж імі рассцілаўся прастор заліўнога лугу. Дзе-ні-дзе на ім стаялі вартавымі адзінокія дубы, раскінуўшы густое галлё. У лагчынах і па берагах вузкага і доўгага «старыка», што пераразаў луг, раслі густыя лазнякі, чарэмха і крушына. Над імі ўзвышаліся стагі рознай формы і памеру — пузатыя і нізкія, з вострымі вяршынямі і прыплюснутыя, з бярозавымі і дубовымі вопаўзнямі. Стагоў было безліч, яны рассыпаліся на лузе, быццам войска, і адыходзілі ўдалеч на многа кіламетраў, як вокам кінуць, падпіраючы там небасхіл. На бліжэйшых ад «старыка» стагах паважна стаялі буслы, сачылі за буслянятамі, што ўнізе, на маладой атаве, вучыліся паляваць на жаб.

Там-сям мільгалі белыя постаці людзей. Больш за ўсё іх было пад лесам, на сенажаці «Партызана», дзе адначасова кідалі некалькі стагоў.

Але ўсе другія стагі раслі павольней, чым стог, каля якога працавалі Максім і Ліда. Дзед Яўмен стаяў ужо даволі высока, быццам бусел той, і пачынаў завершваць. Лідзе не было больш чаго рабіць каля стога — яе вілы не даставалі на такую вышыню і яна пайшла падграбаць сена на сцежках, па якіх насілі і цягалі копы.

Пасля работы купаліся. Жанчыны — за лазняком, дзе невялічкі ручэй, упадаючы ў раку, нанёс пяску і каля берага было мелка. Мужчыны распраналіся ў лесе, пад дубамі, і з высокага абрыву кідаліся ў ваду.

Ліда раней за ўсіх зайшла на глыбокае месца, акунулася і паплыла. На беразе закрычалі дзяўчаты:

— Лідзія Ігнатаўна!

— Лі-і-да-а!

— Там вір! Назад!

— Плыві назад! Занясе! Ліда! — настойліва гукала Алеся.

Сапраўды, на сярэдзіне яна адчула, што плынь, непрыкметная каля берагу, даволі хутка адносіць яе ад лазняку. Ёй на момант зрабілася страшна, успомніліся расказы аб сударгах у вадзе, аб вірах. Але яна хутка перамагла страх і, даручыўшыся плыні, лягла на спіну, каб адпачыць.

Угары было яснае вячэрняе неба, толькі на захадзе віднелася чарада ружовых хмарак. Яна загледзелася на гэтыя хмаркі і зусім забылася, што пад ёй глыбіня, што яна адна пасярод ракі, далёка ад людзей. Але раптам ззаду пачуліся ўсплёскі вады. Ліда прыпадняла галаву і ўбачыла плыўца, які хутка даганяў яе. Павярнуўшыся, яна

пазнала Максіма. Ён хутка набліжаўся, імкліва выкідваючы наперад рукі, але не пырскаючы, толькі дзьмуў на ваду, нібы яна была гарачая. Плыў ён так-жа лёгка і прыгожа, як і працаваў. Параўняўшыся з ёй, ён нерухома распластаўся на вадзе і, здавалася, не варушыў ніводным мускулам.

— Ты — што, у Чорнае мора захацела? Плыві да берага!

Лідзе не падабалася, што ён упершыню звярнуўся да яе на «ты», і яна, нічога не адказаўшы, паплыла далей.

— Ліда! — паклікаў Максім.

Яна не адгукнулася. Цяпер ёй не было страшна, калі побач быў такі плывец, і хацелася заплыць як мага далей, даказаць яму, што плавае яна не горш за яго. Гэта быў своеасаблівы, дзіцячы і смешны, але моцны задор, які штурхае чалавека на самыя незвычайныя ўчынкі, часам гераічныя, а часам недарэчныя і нікому не патрэбныя.

Яна зусім не адчувала стомы. Але плынь сама паднесла іх да берага ў тым месцы, дзе рака рабіла паварот. Тут быў сапраўдны вір, вада закружыла іх і паўз бераг пацягнула назад. Ліда першая выбралася на круты абрыў. Следам за ёй вылез Максім. Мокры купальнік шчыльна абцягваў яе прыгожую постаць.

— Лескавец! Адвярніцеся і бяжыце ўперадзе. Ну! — яна ўзлавалася і ступіла да абрыву. — Я зноў мушу лезці ў ваду. Бяжыце!

Ён нехаця павярнуўся і пакрочыў па пясчанай сцежцы над абрывам.

З ляснога гушчару асцярожна выпаўзаў змрок, поўз па кустах, паміж стагамі, абышоўшы бокам белы туман над «старыком». На беразе, каля дубоў, дзе размяшчаліся калгаснікі, гарэлі агні... За ракой у вёсцы мычэлі каровы, гагаталі гусі, і цягнула адтуль смачным дымком. Над дарогай, што вяла з вёскі ў далёкі лес, за якім зайшло сонца, вісела паласа пылу, відаць, прайшлі машыны ці статак.

З таго берага крычалі хлопцы, якія пераплылі туды, відаць, шукаючы іх.

— Ма-аксі-і-ім!

Крык ударaўся аб лес і ляцеў назад працяглым рэхам:

— і-і-ім!

Максім рупарам склаў далоні і адказаў надзвычай гучна:

— О-го-га!

Ліда дагнала яго.

— Не аглядайцеся, Лескавец. Бяжыце бягом! Холадна.

Наперадзе пачуліся галасы. Ліда пазнала голас

Алесі і зразумела, што дзяўчаты таксама ішлі іх шукаць. Максім звярнуў са сцежкі і пабег па пожні па-за стагамі і кустамі.

Павячэраўшы, Ліда і Алеся селі на беразе пад дубамі, воддаль ад агнёў, вакол якіх яшчэ весела шумелі хлопцы і дзяўчаты — жартавалі, штурхаліся, спявалі. Яны доўга сядзелі моўчкі, зачараваныя прыгажосцю вечара. З ракі на іх глядзелі зоркі, міргалі, калыхаліся. Унізе пад нагамі лашчылася да берага вада, шуршэў пясок. А над галавой ледзь чутна шамацела лісце дубоў. Ветру не было, але з-за ракі плыло цёплае духмянае паветра, прымешваючы да водыру сухога сена ледзь улоўны, але вельмі знаёмы водыр палёў і больш моцны пах вады, рыбы і ілу. За ракою свяціліся цьмяныя агеньчыкі вёскі, у якой паступова сціхаў вячэрні гоман.

На лузе гарэлі вялікія агні, у чырвоным святле іх мітусіліся дзівосныя постаці людзей. Лёталі кажаны, порскалі коні. Недзе ў «старыку» кракалі качкі.

— Якое хараство! Цішыня... Гукі... Цемра... Агні, — Алеся вымаўляла словы з вялікімі паўзамі і амаль шэптам, нават нейкім таямнічым шэптам.

Ліда не адказвала, ёй не хацелася гаварыць, не хацелася словамі парушаць той незвычайнай урачыстасці, якая напаўняла прыроду і пачуцці.

— У такі вечар, над такой ракою, па-мойму, кожны — паэт. Але хараство гэтае можна толькі адчуць і ўбачыць, напісаць і расказаць аб ім... — яна, відаць, хацела сказаць «нельга», але перадумала і пасля працяглага маўчання з жалем прамовіла: — напэўна, можна, — і ўздыхнула, а праз момант смачна пазяхнула.

Ліда ціхенька засмяялася.

— Чаго ты?

— Калі-небудзь ты будзеш паэтэсай.

— Чаму?

— Адчуваць так прыгажосць могуць толькі паэты.

Алеся зразумела жарт і пакрыўджана змаўчала.

Каля агнёў весела і гучна зарагаталі. На верхавіне дуба спалохана затрапятала сонная птушка. Ліда глядзела на зоркі ў вадзе і ўспамінала падзеі дня. Чаму яна згадзілася на Максімаву прапанову працаваць каля аднаго стога? Навошта плыла з ім побач і пасля разам бегла па беразе ў адным мокрым купальніку? Ад гэтых успамінаў зрабілася прыкра і сорамна.

Яна ўздрыгнула, калі Алеся раптам спытала:

— Скажы, ты змагла-б пакахаць такога чалавека, як Лескавец?

Ёй здалося, што яна сама задала сабе такое нечаканае і хітрае пытанне, а таму спалохалася.

— Чаму ты пра гэта пытаеш?

— Ён дамагаецца твайго кахання.

— Аднаго гэтага, Алеся, мала, ты ведаеш...

— Таму я пытаюся.

— Я думаю, што ніхто нікому не можа сказаць наперад, зможа ён ці не зможа пакахаць таго ці іншага чалавека. Ты, Алеся, не ўяўляеш, што такое каханне. — Ліда памаўчала, потым, нахіліўшыся да сяброўкі, шэптам сказала: — Я пакахала аднойчы... Калі-небудзь пазней я раскажу табе пра сваё каханне... А цяпер давай памаўчым, памарым кожны пра сваё. Такая ноч!

Яны зноў доўга сядзелі моўчкі. Потым Алеся зноў пазяхнула і, пацягнуўшыся, хутка паднялася.

— Пойдзем спаць, Ліда. Сёння добра папрацавалі.

— Ты ідзі, а я пасяджу яшчэ крыху. Мне не хочацца спаць.

Толькі Алеся адышла — з боку зашуршэла пад крокамі пасохлая трава і пясок.

— Дазвольце?

Максім апусціўся на месца, дзе хвіліну назад сядзела Алеся. Ліда маўчала. Ад гэтага ўпартага маўчання яму было ніякавата, як некалі зімой перад той прыкрай размовай, успаміны аб якой былі самымі непрыемнымі з усіх успамінаў яго жыцця. Ён збянтэжана кашлянуў раз, другі... Нарэшце, яна павярнулася да яго і суха спытала:

— Прызнайцеся шчыра, Лескавец, вы чакалі, покуль пойдзе Алеся?

— Чаму вы, Лідзія Ігнатаўна, заўсёды так блага думаеце пра мяне? — спытаў ён спакойна, нават жартаўліва.

— Вось бачыце, вы не можаце нават сказаць шчыра

Ён узлаваўся.

— Адкуль я мог ведаць, пойдзе яна, ваша Алеся, ці засне ў вас на прыполе?

Сапраўды, ён не мог ведаць і не мог спадзявацца, што Алеся пойдзе спаць адна, а яна, Ліда, застанецца на беразе. Ліда зразумела, што ён гаворыць шчыра, і даравала яму яго няпрошанае з'яўленне.

На рацэ нарастаў шум парахода; спачатку ён быў далёкі і невыразны, але цяпер заглушваў усе іншыя гукі ночы. Параход нечакана вынырнуў з-за павароткі, ярка асветлены. Агні яго ілюмінатараў пераліваліся ў вадзе і, здавалася, што пад вадой плыве нейкі казачны шматпавярховы карабель, значна большы за надводны, сапраўдны. Параход, абмінаючы буй, праплыў зусім

блізка ад берага, так блізка, што на палубе былі відаць людзі, чуўся іх смех.

Зашумелі хвалі, моцна і сярдзіта ўдарылі ў бераг. Шум парахода ўжо сціхаў, схаваліся яго агні, а рака ўсё яшчэ не магла супакоіцца.

Упершыню Максім адчуваў сябе так кепска ў прысутнасці дзяўчыны: збянтэжыўся і разгубіўся, як хлапчук, не мог знайсці і двух слоў, каб як-небудзь пачаць размову — абы толькі так недарэчна не маўчаць.

Раптоўна з глыбіні начной цішы ўзнялася і пераляцела раку дружная дзявочая песня — старая песня аб каханні, аб дзявочым смутку па каханым, які з'ехаў і «няма яго дый не будзе».

Спявалі недзе ў дальнім канцы вёскі. Спявалі зладжана, прыгожа, але асабліва паланіў адзін цудоўны голас. Ён падымаўся вышэй за ўсіх, цягнуў за сабой увесь хор, напаўняючы наваколле трапяткім срэбным звонам. Здавалася, ляцеў ён не з зямлі, а з зорнага неба, быццам спеў незвычайна галасістага жаўранка, які вісеў, трапятаўся ў паветры, ад чаго і голас яго дрыжэў і пераліваўся. Песня была знаёмая, але слоў Максім не помніў. Ён прыслухаўся і сказаў:

— Цудоўна спявае!

Ведаючы, што Ліда вялікая аматарка спеваў, ён спадзяваўся, што з гэтага пачнецца іх размова, скончыцца пакутлівае маўчанне.

Ліда нібы не чула яго слоў і раптам заспявала сама, ціха, напоўголаса, але выразна вымаўляючы словы:

Расла, расла дзяўчынэнька,
Расла-падрастала.
Ждала, ждала казачэньку,
Дай плакаці стала.

Максім насцярожыўся, уражаны глыбокім смуткам, што загучэў у яе голасе, калі яна праспявала апошнія словы. Голас яе задрыжэў, нібы песня гэтая была пра яе самую:

Плачце, вочы, плачце, кары,
Така ваша доля...

І яму здалося, што яна сапраўды заплакала. Ён ціха паклікаў:

— Ліда.

Яна не адгукнулася, прадаўжала спяваць, але ўжо без слоў, адну мелодыю, і нельга было зразумець, ці яна не ведае канца песні, ці словы пра тое, што маці абрала другога, не падабаліся ёй.

Змоўкла песня за ракой — змоўкла і Ліда.

Максім паклікаў яе зноў:

— Лідзія Ігнатаўна!

Яна хутка павярнулася.

— Слухайце, Лескавец, вы прабачце, але мне не спалася, і я чула вашу размову з бацькам.

— А-а, — разгублена працягнуў ён.

— Скажыце, вы сапраўды кахалі яе?

Максім адказаў не адразу.

— Кахаў.

— Дык чаму-ж так атрымалася?

— Не ведаю.

— Не ведаеце? Бедненькі... Усім вядома, аднаму яму не вядома. А зараз?..

— Што зараз? — голас яго стаў халодным і грубым.

— Кахаеце вы Машу?

Ён коратка хмыкнуў.

— Зараз для мяне застаўся адзін успамін...

— Так хутка?

Максім не адказаў. Ліда пачакала яго адказу і, не дачакаўшыся, іншым, хітра-ласкавым, голасам спытала:

— Што вы хацелі сказаць мне, Максім Антонавіч?

Але яго ўжо нельга было злавіць на слове. Ён надзвычай добра ведаў яе характар і яшчэ лепш помніў яе водпаведзь, якую яна дала за Машу зімой, а таму адказаў з іроніяй:

— Што ў вас цудоўны голас і вам больш падышла-б прафесія актрысы, чым настаўніцы.

— Дзякую, — Ліда паднялася. — Пара спаць. Добрай ночы, — і пайшла ў той бок, дзе ў цемры яшчэ тлела чырвонае вугалле вогнішча.

Максім застаўся сядзець на беразе.

4

На паседжанні праўлення павінен быў абмяркоўвацца план уборкі ўраджаю, і Машы захацелася паслухаць, як будзе вырашацца гэтае вельмі адказнае пытанне ў лепшым калгасе, каб пераняць вопыт і перанесці яго ў сваю брыгаду, у свой калгас.

Паседжанне было многалюднае, як наогул усе паседжанні і сходы ў «Волі». Людзі запоўнілі прасторнае памяшканне новай калгаснай канцылярыі, яшчэ не скончанай, з незашклёнымі рамамі, без дзвярэй у будучы кабінет старшыні, з дзіркамі ў столі і падлозе, дзе павінны стаць грубкі.

Да пачатку паседжання, покуль Лазавенка, Ладынін і Шышкоў пра нешта раіліся, нахіліўшыся над сталом, было шумна; так бывае заўсёды, калі збіраецца многа людзей, якія з'яднаны агульнай працай, агульнымі інтарэсамі, і ведаюць да драбніц штодзённае жыццё адзін аднаго.

Але як толькі Васіль падняўся з алоўкам у руцэ, адразу ўсталявалася цішыня. Маша з гонарам за яго падумала, што ў іх калгасе Лескаўцу заўсёды даводзіцца пакрычаць, каб супакоіць людзей у

пачатку сходу. Яна мімаволі залюбавалася мужам. Ён гаварыў спакойна і, відаць, знарок, нягучна — так, што тыя, хто стаяў каля дзвярэй, напружана выцягвалі шыі. Аднак ніхто не крыкнуў «гучней», як гэта звычайна бывае, калі ў прамоўцы нехапае голасу. Усе слухалі моўчкі. Голас Васіля паступова мацнеў, старыя адымалі далоні ад вушэй, ён прачытаў план падрыхтоўкі, зацверджаны на адным з мінулых паседжанняў, месяцы два назад, і каротка расказаў аб яго выкананні — аб рамонце конных жняярак, аб будаўніцтве крытых такоў, аб машынах МТС, якія будуць працаваць на ўборцы.

— Ураджай мы вырасцілі, таварышы, нядрэнны.

— Добры ўраджай, што там казаць! — перапыніў яго брыгадзір Вячэра. Васіль, азірнуўшыся на Ладыніна, усміхнуўся, кінуў Вячэры:

— У цябе, Міхей Пятровіч, тэндэнцыя к зазнайству.

Той у адказ засмяяўся, бо ведаў, чые гэта словы: іх сказаў аднойчы на закрытым партсходзе самому Лазавенку Ігнат Андрэевіч.

— Да добрага ўраджаю нам яшчэ далёка, таварышы.

— Далёка? Бач ты!.. А тое ты ведаеш, што бацькам нашым і не сніўся такі ўраджай, — абурыўся Міна Лазавенка. — Ты скажы, што не заўсёды год такі ўдаецца.

— Не перашкаджай, бацька... Вашым бацькам не сніўся, а нашы ўбачаць яшчэ не такі. І пры тым вырошчваць мы яго будзем у любы год. Але ўраджай наш гэтага года можа стаць у маштабе нашага раёна сапраўды добрым... — Васіль зрабіў паузу, аглядаючы калгаснікаў,— пасля таго, калі мы збярэм яго своечасова і без страт. Высокі ўраджай дабываецца не толькі добрай сяўбой, угнаеннямі, доглядам, але і добрай уборкай. Таварыш Сталін гаворыць, што ўборка — справа сезонная, убраў своечасова, — выйграў, спазніўся — прайграў. Слоў гэтых мы ні на адну хвіліну не павінны забываць. Ні на хвіліну, таварыш Гоман, — паўтарыў Васіль і павярнуўся да брыгадзіра будаўнічай брыгады. Той усхапіўся з месца, як абвараны.

— Зноў за Гомана! Усюды Гоман!

— Шум і гоман! — выгукнуў ад дзвярэй нейкі малады жартаўнік.

Выбухнуў рогат.

Васіль пастукаў па стале алоўкам.

— Адным словам, калі за два дні не будзе скончана будаўніцтва тока ў трэцяй брыгадзе, сапраўды будзе шум і гоман, паважаны Іван Іванавіч. Не забывай на папярэджанне, якое мы табе зрабілі...

— Дай яшчэ адзін дзянёк, Васіль Мінавіч, — выціраючы рукавом лысіну, плаксіва папрасіў Гоман.

Ад дзвярэй зноў пакаціўся дружны смех.

Пасля выступлення старшыні, рабілі справаздачы брыгадзіры.

Маша адразу-ж насцярожылася, як толькі пачаў гаварыць Міхей Вячэра. Усё, што ён гаварыў аб падрыхтоўцы брыгады да ўборкі, вельмі мала было падобна да тае справаздачы, якую рыхтавала яна для свайго праўлення.

Вячэра па сутнасці рабіў даклад. Пачаў ён з таго, што ахарактарызаваў брыгадны масіў цалкам, а затым і кожны ўчастак і культуру паасобку.

Усё ў яго было дакладна і навукова вызначана і падлічана. Не заглядваючы ў блакнот, ён называў лічбы ўраджайнасці і ш разу не ўжыў слова «прыкладна», нібы ўраджай гэты ўжо ляжаў у свірне, а не стаяў на полі. Ён упэўнена называў дні, калі можна будзе пачаць жаць жыта на Выгарах, ячмень на тарфяніках, пшаніцу — за сасоннікам. У адпаведнасці з гэтым у яго быў складзены план уборкі, у якім было ўсё разлічана да драбніц: затрата працадзён на кожную культуру і на кожны рабочы працэс, неабходная колькасць людзей, коней, жняярак, нават сярпоў, кос і грабляў.

Былы партызанскі камандзір расказваў пра ўборку, як пра наступленне, план якога складзены з улікам здольнасці кожнай баявой адзінкі, кожнага чалавека і машыны. Усё ў гэтым плане было прадугледжана — усялякая нечаканасць і выпадковасць.

Слухалі Вячэру ўважліва. Маша нават раўніва падумала, што больш уважліва, чым Васіля. Брыгадзір трэцяй брыгады Арцём Гарадзец, малады хлопец, з хваравітым тварам, нешта хуценька выпраўляў у сваім таўстым сшытку, шпарка перагортваючы старонкі. Ён слюніў хімічны аловак і на яго вуснах усё больш і больш расплывалася фіялетавая пляма. Машы таксама захацелася запісаць галоўнае з плана Вячэры, каб заўтра-ж па гэтых нататках скласці такі-ж план па сваёй брыгадзе. Яна дастала з кішэні маленькую запісную кніжку але, убачыўшы, што некалькі чалавек з незразумелымі ўсмешкамі пазіраюць на яе, засаромілася — пакруціла кніжачку ў руцэ — непрыкметна схавала яе ў рукаў.

«Няхай не палічаць, што я прышла вучыцца, — падумала яна, але тут-жа дакарыла сябе за гэтую думку: — А чаму і не павучыцца?»

Вячэра крытыкаваў будаўнікоў за недаробкі на таку, каваля — за рамонт конных жняярак, высоўваў патрабаванні да праўлення, прасіў дапамагчы людзьмі.

— Усё тут, — ён пастукаў пальцамі па вокладцы блакнота, — зроблена, так сказаць, з запасам магутнасцей, а вось разлік людзей — з максімальнай нагрузкай на кожнага чалавека. І калі што якое, захварэе, чалавек ці яшчэ што, і машына мая можа пачаць даваць перабоі, — звярнуўся ён да Васіля.

Выступілі са сваімі планамі і іншыя брыгадзіры.

Машы здавалася, што планы брыгадзіраў — беззаганныя, што пра іх нічога больш нельга сказаць, як толькі пахваліць, і таму яна здзівілася, калі іх пачалі крытыкаваць, выпраўляць.

Выступалі члены праўлення, калгаснікі, Байкоў. Тут-жа ўсё ўдакладнялі, рабілі пераразлікі, больш разумна расстаўлялі людзей і цягло.

З узгодненых брыгадных планаў нараджаўся агульнакалгасны план.

Васіль падводзіў вынікі.

— Планы мы склалі добрыя. Галоўнае цяпер — выканаць іх, а гэта цалкам залежыць ад нас саміх. Уборка — справа сезонная, а таму мы павінны мабілізаваць усю нашу рабочую сілу. Павінен працаваць кожны чалавек, хто жыве ў нас...

— Пабачым! — скептычна прагучэў сярод цішыні голас Наташы Гоман.

Васіль кінуў у яе бок здзіўлены позірк, не разумеючы яе рэплікі.

— Арганізуем вучняў і студэнтаў... Справу гэтую ўзяла на сябе Лідзія Ігнатаўна. Наша вясковая інтэлігенцыя дапаможа жывёлагадоўчай брыгадзе па прыфермскім участку... Нарэшце я згодзен на які тыдзень, не больш, таварышы, адарваць будаўнікоў...

— З гідрастанцыі?

— З гідрастанцыі таксама.

— На ўсю ўборачную трэба, Васіль Мінавіч.

— А то зноў адны мы будзем рабіць, бо кампаньёны нашы, безумоўна, сарвуць сваіх людзей...

— Справа праўлення, таварышы, але я буду супраць таго, каб зрываць брыгаду з гідрастанцыі на ўвесь час уборкі,—запярэчыў Васіль. — Добра, каб мы змаглі-б не чапаць іх зусім... Ну, калі такая справа, то ў самы гарачы час — на тыдзень... Не больш!.. Звяно па бураках Рэгінай будзе працаваць у трэцяй брыгадзе ў Крыніцах. Сядая са сваім звяном стане на вывазку збожжапаставак. Ганаровае заданне табе, Наталля Нікалаеўна!.. У самы кароткі тэрмін мы павінны разлічыцца з дзяржавай...

Васіль хацеў быў перайсці ўжо да абмеркавання іншых спраў, як нечакана паднялася Насця Рагіна.

— Дазвольце мне, — яна энергічным рухам паправіла сваю квяцістую хусцінку і сказала цвёрда, выдзяляючы кожнае слова:

— Маё звяно на ўборку не пойдзе!

Каб раптам загаварыў нямы Цімох, што прысутнічаў тут, то гэта, мабыць, здзівіла-б калгаснікаў менш, чым такая заява.

Усе павярнулі да яе галовы і разглядвалі так, нібы яна толькі што звалілася з неба. Насця пачырванела, разгубілася і села.

Калгаснікі загудзелі, хто — абурана, хто — насмешліва.

— Выказалася!

— Генерал дзявочага войска!

— Што ты схавалася? Гавары, выкладвай, што гэта за звяно ў цябе такое?

— Як буракі твае палоць, дык усім калгасам хадзілі.

— Я вас не прасіла! — яна зноў паднялася, ужо бледная, з ліхаманкавым бляскам у вачах.

— Мы цябе таксама не просім! Можа пакланіцца ў ножкі вам загадаеце, Анастасся Іванаўна? Яна не пойдзе! Бач ты яе! — абурыўся Міхей Вячэра.

— Не пайду! Няхай раней жонка старшыні пойдзе...

Людзі адразу сціхлі і павярнуліся ад яе да стала, за

якім стаяў Васіль Лазавенка, спакойна ўсміхаючыся. Хто-ні-хто затрымаў позірк на Машы, і яна адчула, што ёй раптам зрабілася душна.

— Жонка старшыні працуе, — заўважыў нехта.

— Дзе? Не бачым мы яе працы! — закрычала Наташа Гоман.

— Калі гэта было, каб выпіла калгасніца замуж і працавала не там, дзе муж, — пачуўся ад дзвярэй голас сталай жанчыны.

Але Наташа не давала гаварыць ні прыхільнікам сваім, ні ворагам.

— Добрая работа! Муж кожную раніцу на кані падвозіць, вечарам прывозіць, як пані тую...

— Выйдзі і ты за старшыню! Табе зайздросна?

Выбухнуў смех. Жартаўнікам і зубаскалам выпала магчымасць паказаць свой талент.

— А ты ведаеш, хто за каго замуж выходзіў? Можа ён за яе?

— Ведаем мы гэтыя хітрыкі. Выгадна быць адразу ў двух калгасах!.. Двух кароў даіць...

Словы гэтыя агнём апяклі сэрца Машы, зрабілася крыўдна да слёз. Яна глядзела на Васіля, чаму ён так спакойна і весела ўсміхаецца. Няўжо такі паклёп не кранае яго, не абражае?

Калі Наташа, нарэшце, сціхла, ён гарэзліва спытаў:

— Ну? Хто яшчэ жадае? Толькі давайце па парадку.

Умомант усталявалася такая цішыня, што стала чуваць, як б'юцца аб лямпачку матылі.

Падняўся Іван Рагін, бацька Насці, сурова паглядзеў на дачку.

— Усё, што настракаталі тут гэтыя сарокі, — глупства, канешне... І ты прабач, Васіль Мінавіч, і ты, Маша... Але тут справа такая... што

чуў я такія размовы і ад старэйшых, асабліва ад жанчын... Не разумеюць яны, чаму жонка твая, Васіль Мінавіч, працуе не ў сваім калгасе... Хіба нам самім не трэба такая работніца? Ці ў «Партызане» без яе ніяк не абыйдуцца? — ён аглянуўся, нібы шукаючы падтрымкі, і сеў.

Васіль павярнуўся да жонкі.

— Растлумач, Маша...

Але Ладынін перапыніў яго.

— Чакай. Я растлумачу, — ён падняўся, як заўсёды, крыху залішне хутка, але потым зрабіў працяглую паўзу, адышоў ад стала ўбок, праніклівым позіркам агледзеў людзей. — Я разумею вас... Закранута ваша самалюбства. Як гэта так: знайшоўся чалавек, які не пажадаў пайсці ў ваш, лепшы, калгас, а застаўся ў горшым. Але каму-ні-каму яшчэ цяжка зразумець гэта. Цяжка таму, што жывуць яны яшчэ па старой прымаўцы: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей. Не, таварышы, перадавы савецкі чалавек не шукае, дзе ляпей, а будуе яго, гэтае лепшае, там, дзе не ўсё яшчэ добра, змагаецца за лепшае жыццё не для сябе аднаго... Таварышы, відаць, забылі, што Марыя Паўлаўна — камуністка, і зрабіла яна, як належыць камуністу, засталася там, дзе яна, сапраўды, больш патрэбна. Партыйная арганізацыя ўхваляе яе рашэнне.

Старэйшыя сцвярджальна заківалі галовамі: разумеем, моў, дарагі Ігнат Андрэевіч.

Нехта выгукнуў:

— Правільна! Малайчына, Маша!

Насціна каманда маўчала. На іх насмешліва пазіралі, пачыналі кпіць. Наташа злосна агрызалася.

— Гэта — тлумачэнне тым, хто сапраўды не разумеў... Але я не паверу, што гэтага не разумелі нашы дзяўчаты... А таму выкрыкі іх, прызнаюся, шчыра здзівілі мяне. Мне сорамна за Рагіну, я лічыў яе сур'ёзным чалавекам...

## 5

Дзіўнымі былі адносіны Максіма да Машы.

Пасля таго цяжкага вечара, калі ён даведаўся пра яе замужаства, і пэсля размовы з Ладыніным, ён неяк адразу супакоіўся, шчыра зычыў ёй шчасця, не адчуваў ні рэўнасці, ні злосці на Васіля. Праўда, баючыся насмешак, шкадуючы сваё самалюбства, ён не пайшоў на вяселле, а знарок паехаў у той. дзень у госці да сястры. Нават да Машынага жадання застацца брыгадзірам ён спачатку аднёсся абыякава.

Але так прадаўжалася нядоўга.

Раптам балюча і трывожна заныла сэрца. Здарылася гэта пасля размовы з Лідай на лузе. Дзіўна раздваіліся яго пачуцці, дзіўна, незразумела і пакутліва: ён хацеў жыць думкамі, марамі аб Лідзе, а думалася пра Машу. Думкі гэтыя няспынна распальваліся размовамі, падзеямі жыцця. Некалькі разоў ён бачыў, як Васіль сустракае Машу пасля работы, як яны, абняўшыся, ідуць цераз поле, весела размаўляюць, смяюцца, і яму рабілася яшчэ больш балюча. Зноў успыхнула пачуццё рэўнасці.

Аднойчы ён пачуў размову жанчын:

— Маша ажно расквітнела. Люба паглядзець на маладзіцу!

Ён прыгледзеўся і сам заўважыў, што сапраўды Маша папрыгажэла, здаецца, нават памаладзела. Ён узлаваўся і вырашыў выжыць яе з калгаса, каб не бачыць, не сустракацца штодзень: можа тады ён хутчэй забыўся-б на яе. Але як зняць яе з пасады брыгадзіра, Максім не мог прыдумаць. Не было падстаў.

Сустрэўшыся неяк з Машай у полі, адзін-на-адзін, ён спытаў:

— Няўжо ты не разумееш, што нам цяжка працаваць разам?

— Цяжка? — з іроніяй спытала яна, і ён вінавата панурыў галаву. — А мне здаецца, што стала лягчэй. Было цяжка... Але я разумею цябе... Дык вось што... Супакойся і ведай: нікуды я з калгаса не пайду. А паспрабуеш выжыць — скажу Ладыніну, і табе прыдзецца даваць тлумачэнне на партсходзе...

Пагроза такая крыху ўтаймавала яго. Маша працавала добра. Магчыма, нават лепш, чым да замужаства: стала яшчэ больш актыўнай, настойлівай, смела папраўляла яго, старшыню, умешвалася ў работу іншых брыгад, і брыгадзіры слухаліся яе.

Пакутлівыя і абразлівыя пачуцці яго да Машы зніклі нечакана пасля адной размовы, аднаго выпадку, які адбыўся з ім неўзабаве.

Шаройка пасля таго, як яго знялі з брыгадзіраў, стаіўся, прыціх, нават на вуліцы рэдка паказваўся. На патрабаванне Машы ісці на калгасную працу ён прынёс спраўку ад урача раённай бальніцы аб тым, што ў яго сардэчная хвароба, і фізічна працаваць яму нельга. Між іншым, спраўка гэтая страшэнна абурыла Ладыніна. На чарговай нарадзе ў райздраве Ігнат Андрэевіч, выступаючы, сказаў урачу, які яе выдаў:

— Я не сумняваюся, Злотнікаў, ды і калгаснікі пра гэта гавораць, што даведачны моцна падмазана шаройкавым маслам. Глядзіце, каб масла; гэтае бруднымі плямамі не выступіла на вашым белым халаце. Скажу шчыра, калі мне ўдасца даказаць ваш брудны ўчынак юрыдычна, размова наша прадоўжыцца ў іншым месцы. Помніце гэта.

Злотнікаў крычаў, кляўся, пагражаў, што ён за абразу прыцягне Ладыніна да судовай адказнасці, але замест гэтага, праз тыдзень перавёўся ў другі раён.

...Шаройка вышаў на працу дакладна на другі дзень пасля таго, як даведаўся, што Маша выходзіць замуж за Лазавенку. Сустракаючы калгаснікаў, амаль кожнаму тлумачыў:

— Думалі Шаройка абібок які. Шаройка ніколі не быў і не будзе ў баку ад калгаса. Адчуў сябе крыху лепш — і вось, бачыце, адразу пацягнула на працу. І дакажу, што Шаройка не развучыўся працаваць. Не, не развучыўся... Не ра-азвучы-ыўся, я табе скажу...

Людзі хавалі ўсмешкі, употайкі хітра падміргваючы адзін аднаму. Сапраўды, Шаройка ўзяўся за работу, як належыць: на касьбе штодзень выконваў па дзве нормы, выклікаў на спаборніцтва маладых.

Максім задаволена жартаваў, ківаючы на яго:

— Аказваецца, што і Шаройку можна перавыхаваць, — і хоць не было ў яго ранейшай павагі да лепшага гаспадара ў вёсцы, але часам ён зноў раіўся з ім, тым больш, што цяпер ён нічога не адважваўся рабіць сам, без парад з боку.

Шаройка ліслівa дагаджаў старшыні і настойліва запрашаў яго да сябе. Максім цвёрда вырашыў не паддавацца ні на якія ўгаворы і не заходзіць. Некалькі разоў ён адмовіўся, але аднойчы позна ўвечары Шаройка спаткаў яго каля свайго дома і зацягнуў амаль сілком.

— Не крыўдзі старога, Максім Антонавіч. Справы справамі, а стары друг, як гэта кажуць... На адну хвіліначку... Пасядзім, пагутарым...

У Максіма быў дрэнны настрой, ён зноў бачыў, як ішлі цераз сад Васіль і Маша, і яму не хацелася ісці дамоў, дзе брат штовечар уцягваў яго ў складаныя філасофскія спрэчкі. Хацелася пасядзець ціха, спакойна.

У хаце нікога не было. Шаройка, запрасіўшы госця сесці, адразу падаў яму пісьмо.

— Пачытай, Максім Антонавіч. Ад сынка, ад Федзі. Шэсць лістоў накаціў, як паэт. Званне яму павысілі. Маёр! — ён радасна выгукнуў апошняе слова, выбег на кухню і ўжо за дзвярыма яшчэ раз паўтарыў:— Маёр!

Максім не прачытаў і адной старонкі, як з бакоўкі паважна выплыла Паліна, крыху заспаная ўжо, у прыгожым шоўкавым халаце японскага ўзору, з высокай, яўна паспешліва зробленай прычоскай. Яна ветліва і быццам сарамліва прывіталася і села насупраць на канапе.

— Прабач мне, Максім, што я так сустракаю гасця.

Ад яе пахла нейкімі моднымі духамі, У Максіма ад гэтых пахаў закружылася ў галаве і чамусьці зноў успомнілася Маша, уявілася, як абнімае яе і цалуе Васіль.

Крысо халата адвярнулася і агаліла прыгожае белае калена і карункі сарочкі. Максім зразумеў, што Паліна зрабіла гэта знарок, і ўзлаваўся, адчуў сябе зняважаным. Злосць мацнела, калі яна пачала гаварыць, то гарэзліва іграючы вачыма, то з сумнымі ўздыхамі. Ён ненавідзеў гэтае крыўлянне. І яе ненавідзеў з таго часу, калі пераканаўся, што папрок маці справядлівы. Сапраўды, Шаройка даўно марыў, каб жаніць яго на дачцы, і не раз пілаваў Паліну за нерашучасць: «Не маленькая, дзякуй богу. І не век сядзець табе ў дзеўках, хоць і настаўніца ты... Была-б ты пачварай, а то такая прыгажуня». Але тады Паліна марыла пра вялікае, шчырае каханне — такое, як у раманах, ды і Машу яна паважала, не дазваляла сумленне перашкодзіць яе шчасцю. Але цяпер, калі Маша замужам... Цяпер можна паспрабаваць прываражыць яго... Здараецца, што каханне прыходзіць пазней, пасля збліжэння...

...Максім не вытрымаў — падняўся і дэманстратыўна адышоў да акна, павярнуўся да яе спіной.

«Нахабная дурніца!.. На д'ябла ты мне здалася! За каго ты мяне лічыш, свіння ты гэткая?»

Шаройка ўскочыў у пакой з вялікай патэльняй у руках, на якой злосна сіпела і бурболіла яешня.

— Прашу да стала, Максім Антонавіч. Возьмем па маленькай...

— Дзякую. Я не п'ю, — адказаў Максім, павярнуўшыся ад акна.

Шаройка глянуў на дачку, убачыў яе збянтэжаны твар і ажно засіпеў, але кінуўся да Максіма, ліслíва абняў за плечы.

— Не, не, брат Максім, з маёй хаты так не выходзяць. Не пушчу! На парозе лягу!..

Паліна непрыкметна нырнула ў бакоўку. Яны селі за стол, забыўшыся пра яе. Разгаварыліся пра калгасныя справы, і Максім супакоіўся: размова была цікавая.

Гутарылі пра ўраджай, пра ўборку, да пачатку якой

заставаліся лічаныя дні. Але раптам Максім насцярожыўся зноў: Шаройка пачаў даваць знаёмыя парады.

— Але-е, ураджай мы вырасцілі. Нядрэнны ўраджай. Лета добрае. Залатое лета. Дзякуй богу, будзем з хлебам... Толькі, Максім Антонавіч, паслухай мяне, старога вераб'я... Не вельмі ты кідайся на гэтыя эмтэясаўскія машыны. Гавораць, ты лаяўся ў раёне, што камбайна не далі. Навошта ён табе? У нас сіл хапае... Калі нехапае іх — справа іншая... Я, браток, калі кіраваў, глядзеў уперад. Глядзеў, браток,

глядзеў... Сёння ў цябе больш конікаў, чым у праслаўленай «Волі». А гэта сіла пры жняярачках. Сярпок таксама не аджыў яшчэ сваё...

Максім палажыў на стол відэлец, выпраміўся, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў.

— Гнілыя твае парады, Амелька.

Шаройка ўздрыгнуў, быццам яго выцялі па спіне, уціснуў галаву ў плечы, крыва ўсміхнуўся.

— А-а? Гнілыя, кажаш? Што-ж, бывае... Бывае, браток, бывае. Відаць, сам пачынаю гніць.

— Відаць, пачынаеш.

Усмешка знікла з Шаройкавага твару, ён спахмурнеў прыкусіў губу, вочы яго загарэліся злоснымі агеньчыкамі. Чалавек сябелюбівы, ён быў помслівы і ніколі не даравоў крыўды.

А Максім, адчуўшы сваю сілу і перавагу, загарэўся жаданнем як мага больш нагаварыць яму непрыемнасцей.

— Але, гніеш, Амелька, — ён пацягнуў носам. — Смуроднае паветра вакол цябе.

— Эх, Максім, Максім, не твае гэта словы. Чужыя словы, — Шаройка цяжка ўздыхнуў, быццам яму вельмі шкада было Максіма. — Ды я не крыўджуся. Не крыўджуся, браток. Маладосць!.. Вып'ем? Не бойся, не смуродная, з магазіна...

— Вып'ю. Апошнюю... За тое, каб больш з табой ніколі не піць.

— Не плюй, кажуць, у стары калодзеж...

— З гнілога калодзежа не п'юць, Шаройка.

Гаспадар змоўк, зразумеўшы, што госця нічым улашчыць нельга. Са страхам убачыў ён перад сабой не Максіма, а яго бацьку — толькі Антон Лескавец гаварыў яму ў вочы такія пякучыя, як крапіва, страшныя словы.

Хуценька разліўшы гарэлку, ён падняў чарку, але Максім выпіў не чокнуўшыся.

Шаройка нахіліўся і спытаў лагодным голасам:

— Даўно хацеў спытаць у цябе... Кацубіха так увесь час і будзе ў нас?

— А табе — што? Не падабаецца?

— Мне? Мне — усёадно. — Шаройка адкусіў палавіну маласольнага гурка, гучна захрумстаў і, праглынуўшы, раптам загаварыў зусім іншым голасам — злосна, ажно засіпеў: — А наогул не падабаецца. Не! Бо не я загніваю, не я. Дарэмна ты паклёпнічаеш! У мяне душа баліць за калгас больш, чым, можа, у цябе. І бачу я больш. А цябе асляпілі. Ідзі паслухай, што людзі гавораць. Уся вёска звоніць, што калгасам

цяпер кіруеш не ты, а Кацубіха. Ну, а Кацубіха — значыцца Лазавенка. Вось яно як павярнулася! Хе-хе.

Максім спакойна падняўся, падышоў да акна, зняў з цвіка шапку, ударыў яе аб руку, каб выбіць пыл.

Шаройка таксама падняўся.

— Так людзі гавораць, Максім Антонавіч...

Лескавец ступіў да яго і выдыхнуў у твар:

— Так гаворыць толькі адзін сукін сын! — і хутка выгнаў, ляпнуўшы дзвярыма.

На вуліцы ён спыніўся, аглянуўся на вокны Шаройкавай хаты і засмяяўся. На душы было лёгка і светла, нібы ён раптам змыў увесь накіп. З гэтага вечара змяніліся яго адносіны да Машы, да Васіля. Апрача таго, знікла яго няўпэўненасць у сябе, у свае сілы і здольнасць кіраваць калгасам, якая з'явілася адзін час і якая была занепакоіла Ладыніна.

6

Алеся паехала ў Маскву здаваць экзамены ва універсітэт. Пецю праўленне адкамандыравала на курсы трактарыстаў і камбайнераў. Дом апусцеў, і Маша мусіла перабрацца ў Лядцы, каб прыглядзець за гаспадаркай, яе трэба было зберагчы для Пеці.

У першы вечар, правёўшы ўсхваляваную Алесю на станцыю, яна доўга хадзіла па прасторнай хаце, па двары, на гародзе і не ведала, за што ўзяцца. Зрабілася сумна. Яна з нецярплівасцю чакала Васіля. Ён прышоў, калі ўжо сцямнела, як заўсёды, узбуджаны, радасны. Моцна абняў яе, пацалаваў.

— Вось і разляцелася наша сям'я, — нявесела ўсміхнулася Маша. — Усе адразу.

— Сумна? — зразумеў яе Васіль.

— Сумна і радасна, Вася. Перад імі — такое жыццё!

— А перад намі?

— І перад намі, — яна ласкава прытулілася да яго.

— Ну, ідзем вячэраць. Вясёлае і ў нас з табой жыццё. Начаваць будзем у Лядцах, абедаць — у Дабрадзееўцы. Насця зноў тарарам падыме, што п'ем малачко ад двух кароў. Дзівачка!

Маша лёгка ўздыхнула.

— Табе смешна. А мяне гэта так тады ўразіла, што я і цяпер яшчэ супакоіцца не магу. Крыўдна, што не разумеюць людзі. У наш час... Нашы равеснікі...

— Нічога, Маша. Не рабі ты з глупства палітыкі. У яе былі свае прычыны, толькі яна нічога больш разумнага не магла прыдумаць. А

так пры ўсіх яе дзівацтвах яна слаўная дзяўчына. Не рэўнуеш? Я веру, што яна будзе першай гераіняй у нас.

Вокны былі адчынены, і ў пакой глядзелася цёмнымі цьмянымі зоркамі душная ноч. Пахла спелай збажынай — пах гэты плыў з палёў, — геранямі і ружамі, што раслі ў палісадніку.

Яны сядзелі за сталом насупраць адзін аднаго, стомленыя за дзень, але шчаслівыя, задаволеныя тым, што засталіся, нарэшце, адны. Не спяшаючыся, вячэралі, ціха размаўлялі. Ім хацелася прасядзець так як мага даўжэй. Час ляцеў непрыкметна. Даўно ўжо сціхла вёска, і нават не было чуваць галасоў моладзі.

— Усе спяць. Пара і нам, Маша. Заўтра мне трэба падняцца гадзін у чатыры, — Васіль накруціў будзільнік, каб не праспаць. — Трэба выйсці на жніво як можна раней, каб да абеду снапы падсохлі, а ў другой палавіне дня пусціць малатарню. А наогул прамахнуліся мы з гэтымі Расцярэбамі. Даравасць не магу сабе. Трэба было абавязкова ўвосень выкарчаваць пні... Цяпер пусцілі-б камбайн, жняяркі...

— Не ўсё адразу, Вася. Які ты прагны! Ніхто не ведаў, што там паспее раней...

— Вось гэта і дрэнна, Маша, што мы мала яшчэ ведаем. Павінны былі ведаць.

— Мы ў Глінішчы сеялі пазней, а паспела там раней. Вось табе і законы!

Маша паслала пасцель, ужо зачыніла вокны, калі раптам у дзверы пастукалі.

— Хто гэта так позна, — здзівіўся Васіль.

Маша пайшла адчыняць.

Зайшлі Лескавец і Міхайла Прымак.

Максім з дзіўнай цікавасцю, паспешліва і прагна, аглядаў хату. Потым, мабыць, адчуўшы недарэчнасць сваёй цікавасці, ён прыкметна збянтэжыўся і папрасіў прабачэння.

— Позна мы патурбавалі вас.

Міхайла Прымак залез за стол без запрашэння і ўсеўся, як дома. Гаспадароў гэта не здзівіла; яны ведалі, што толькі за сталом ён мог скруціць цыгарку адной рукой. Сапраўды, ён адразу выцягнуў капшук з махоркай, газету і даволі спрытна і хутка скруціў вялікую цыгарку. Васіль падаў яму запалку.

— Абасобіліся вы, хітрунцы, як на дачы. Во, Максім, пазайздросць каб ты спух ад злосці, калі не хацеў жаніцца... Жывуць, як графы ў сваёй загароднай віле. Усе ўмовы, каб штогод па дзіцяці, а то і па двое...

Маша абурылася:

— Пасароміўся-б, Міхайла! Ужо галава вунь сівая, а ты... чаўпеш нямаведама што.

Прымак не сунімаўся.

— У мяне душа маладая, Маша... Чакай... А чаму ты крычыш на мяне? Ты мне поўлітэрку павінна ставіць кожны раз, калі я зайду. Без мяне вы, ліхадзеі, яшчэ пяць год не пажаніліся-б. Скажыце дзякуй...

Васіль засмяяўся.

— Але і мастак ты хлусіць, Міша! Чужыя заслугі сабе прыпісваеш.

— Хо! Сказаў! А якая твая заслуга? Дурная справа, гаварыў мой бацька, няхітрая. Заслуга! Пачакай крыху... ты заслужыш... Як пачне цябе гэтая пілка штодзень пілаваць, дык ты ад усіх заслуг адмовішся... А яна, можа, брат. Культурна гэтак, з прыціскам, толькі тырса пасыплецца...

Васіль любіў гэтага чалавека, які жартаваў няспынна, у любых абставінах.

Машы хацелася сур'ёзна ўзлавацца на яго, але злосці не было. Аднак яна сярдзіта хмурылася.

Яна назірала за Максімам і бачыла, што яму непрыемна слухаць такія жарты, праўда, ён таксама ўсміхаўся, але ўсмешка была нейкая кіслая, робленая. Нарэшце, Максім не вытрымаў і сказаў сур'ёзна і патрабавальна:

— Давай аб справе, Аляксеевіч. Людзям спаць пара.

Прымак павярнуўся да яго з надзьмутымі шчакамі, пільна паглядзеў у вочы, потым шумна выпусціў з рота вялізны клуб дыму.

— Аб справе? Ну што-ж, давай аб справе...

Відаць, Максім чакаў, што гаварыць будзе Прымак, але брыгадзір падсунуў да сябе газету і пахіліўся над ёй.

Тады Максім павярнуўся да Лазавенкі:

— Слухай, Васіль, ты пачынаеш жаць на Расцярэбах... Камбайн там не пойдзе. А ў мяне гатова ў Глінішчы. Дай мне на першыя два дні камбайн.

Васіль паціснуў плячыма.

— Вы мяне здзіўляеце, хлопцы. Сядзіць, можна сказаць, непасрэдны гаспадар камбайна — брыгадзір МТС, а ты да мяне з такой просьбай... Я маю дачыненне да камбайна такое-ж, як і ты.

Прымак падняў ад газеты галаву і пагразіў яму кулаком.

— Вася, не прыкідвайся дзіцёнкам. Ты добра ведаеш, чаму мы прышлі да цябе. Самавольна я перакінуць не магу... Крыловіч у Мінску... Я гаварыў па тэлефону з Маслоўская яна падтрымлівае... Але толькі ўзгадніўшы з табой... Без тваёй згоды на гэта ніхто не адважваецца. Камбайн па графіку павінен працаваць у «Волі», убраць

твой багаты ўраджай. І, калі перакінуць без тваёй згоды, і раптам што якое, ты-ж загрызеш тады любога. Да абкома дойдзеш.

Васіль падняўся і задуменна прайшоўся па пакоі, Маша ўсхвалявана пазірала за ім. Што ён вырашыць? Што адкажа?

Безумоўна, ёй хацелася, каб камбайн папрацаваў у іх калгасе. Тады яны здолелі-б утрымацца ў ліку перадавых. Але яна разумела, што гэта можа даць магчымасць «Партызану» першаму пачаць здачу збожжа, атрымаць першы квіток. Пры ўсёй адданасці свайму калгасу яна не жадала такога пяршынства, бо гэта было-б, па яе разуменню, несправядліва. Такі гонар павінен належаць таму, хто заваяваў яго сваёй працай. Усе гавораць, што «Воля» павінна заняць у гэтым годзе першае месца ў раёне. Дык няхай будзе першай ва ўсім!

«Ці разумее гэта Вася? Ці думае аб гэтым?»

Ніколі яшчэ Маша не была ў такім недарэчным становішчы: за каго падаць ёй голас, за які калгас, калі абодва яны сталі блізкія ёй?

Васіль спыніўся перад Прымаком.

— А калі што якое, як ты кажаш?

— Што? Паломка? Ну, што ты! Новая машына. Сам ні на крок не адыйду. Мне не верыш?

— Глядзі! Сарвеш хоць адзін дзень уборкі — не трапляй на вочы.

— Го-о! Што, я не ведаю твайго характару!

Максім падняўся і працягнуў Васілю руку, моцна паціснуў.

— Дзякую, Вася.

— Участак падрыхтуеш?

— У тры гадзіны касцы выйдуць. Маша, дасі з тваёй брыгады чалавек трох... Трэба было-б сказаць ім зараз.

— Я скажу.

Развітваючыся, Максім яшчэ раз акінуў позіркам пакой. На твары яго адбілася складанае пачуццё. Адна Маша заўважыла гэта.

Васіль, правёўшы гасцей, стаяў пасярод хаты і задаволена ўсміхаўся. Маша падышла, заглянула яму ў вочы, быццам жадаючы адгадаць, пра што ён думае.

— Ты падумаў, што мы можам першыя пачаць здачу збожжа?

— Падумаў. Калі ласка, буду рад за вас.

— Вось як! — здзівілася яна. — Калі ты ўпэўнены, што нам не ўдасца перагнаць цябе, дык я сама вазьмуся за гэта і дакажу.

Ён засмяяўся.

— Давай, давай, Маша! Дапраўды, буду рады, — ён абняў яе і сказаў сур'ёзна: — Сёння я гатоў уступіць вам любое пяршынства. Ведаеш, мне радасна, што ён прышоў з такой мірнай і разумнай просьбай. Мне здаецца, што гэта пачатак нашай новай дружбы.

7

Дзень быў спякотны і ветраны. Хвалявалася жытнёвае мора. Хвалі набягалі адна на адну, разбіваліся ў нізіне, каля старой ігрушы, адступалі назад на ўзгорак, на нейкі момант нібы заміралі на адным месцы. Разам з хвалямі рухаліся па полі колеры, адценні. Нахілялася збажына, лалшўся колас на колас — цямнеў колер, на ўзгорку рабіўся цёмнавасковы, з шэрым адценнем, у нізіне — жоўта-зялёны: там азіміна яшчэ не зусім паспела. Прабягала хваля — выпрамлялася жыта, і колер яго адразу зменьваўся, набываў натуральныя вясёлыя летнія фарбы.

Максім, Ігнат Андрэевіч і Ліда вышлі па пясчанай дарожцы з сасонніку і спыніліся на ўзлессі, зачараваныя бяскрайнім прасторам высокага і густога жыта. Вецер гнаў з сасонніку гарачы водыр смалы і змешваў яго з хмельным пахам паспелай збажыны.

Яны наблізіліся да самага жыта, яно згіналася і ласкава шуршэла, нібы прасіла: «Ш-ж-жніце, ш-ш-ж-жніце!..» А над жытам шумелі маладыя сосны.

Ад зялёнай паласы ярыны, што віднелася далёка справа, паўз саснонік хутка бег цень хмаркі. Цень дабег да іх, хмарка на момант закрыла сонца, і ўраз пацямнелі фарбы, мацней шугануў вецер. Але за тое там, дзе цені не было, поле зрабілася яшчэ больш яркім, залатым.

Вецер даносіў з-за ўзгорку гудзенне трактара. Ладынін скінуў шапку, выцер хустачкай успацелы лоб, прагна ўдыхнуў пах жыта і сказаў, углядаючыся ўдалеч:

— У такую пару мне чамусьці заўсёды ўспамінаецца дзяцінства... Дзіўна, праўда? Дзяцінства, якое было ледзь не поўстагоддзя назад. Чаму іменна дзяцінства — не разумею. Але хораша гэта. Маладзееш неяк душой, забываешся на ўзрост. Хочацца прабегчы па разоры паміж жытам, праехаць верхам на кані...

Ліда сарвала некалькі каласоў і, абцерушыўшы іх, веяла зерне: перасыпала з далоні на далонь, дзьмухала.

— Дык можа давай наперагонкі, тата? — пажартавала яна.

У адказ Ігнат Андрэевіч уздыхнуў, але без жалю, хутчэй — ад захаплення навакольнай красою, бо тут-жа ўсхвалявана сказаў:

— Вось дзе сапраўдная паэзія! Я пазаўчора хадзіў з гэтым, з упаўнаважаным, і здзіўляўся. Малады чалавек, а такі... чыноўнік. Нічога яго не хвалюе, не радуе. Ніякага адчування прыгожага. У «Волі» ў жыце — а якое там жыта! люба глядзець! — толькі і ўбачыў два сляды — тыдзень назад пара коней прабегла... «Дрэнна вартуеце!» І ўзрадаваўся, што знайшоў за што прычапіцца. Адным толькі і занята галава чалавека, як-бы адшукаць больш недахопаў, памылак,

відаць, каб паказаць начальству, які ён старанны працаўнік. Дзіву даешся, якія яны жывучыя, гэтыя тыпы... Як думаеце, пры комунізме будуць такія экземпляры?

— У музеях, — засмяялася Ліда.

Максім стаяў збоку і глядзеў не на жыта (жыта гэтае ён бачыў штодзень), а на Ліду. Яна была сёння, як назнарок, асабліва прыгожай. І апранута была незвычайна: сукенка светлабэзавага колеру з вышытымі на рукавах і падоле васількамі і арнаментам надзвычай пасавала да яе.

Максіму вельмі хацелася застацца з ёй адзін-на-адзін. Яму здавалася, што цяпер, вызваліўшыся ад сваіх супярэчлівых пачуццяў, ён мае права сказаць ёй усё, чаго не мог сказаць раней, усё растлумачыць. Безумоўна, яна павінна зразумець яго. Гэтае бязлюднае месца, вецер, сонца, жыта і шумлівыя сосны як-бы надалі яму смеласці і рашучасці. Ён нават узлаваўся на Ігната Андрэевіча.

«Абавязкова і яму трэба ісці глядзець работу камбайна... Неспакойны які! За дзень абходзіць пешшу больш, чым я аб'язджаю на кані. Няхай-бы мы пайшлі самі...»

Апанаваны сваімі думкамі, Максім не дайшоў да сэнсу ўсяго, пра што гаварыў Ладынін. Але апошнія словы, адказ і смех Ліды насцярожылі яго: а ці не мае часам Ладынін на ўвазе і такія «экземпляры», як ён, Лескавец? У апошні час ён заўсёды насцярожваўся, калі ў яго прысутнасці пачыналі гаварыць аб перажытках.

— А заўваж, тата, амаль няма васількоў.

Яны пайшлі па дарожцы, што вяла цераз жыта.

— Але... Амаль няма. Знікае васілёк, як пустазелле.

— Толькі ў вас на плацці засталіся, Ліда, — пажартаваў Максім. — І ўпрыгожваюць яго цудоўна!

Ліда сказала:

— Калі ласка, старшыня калгаса — прыхільнік васількоў.

— Тых, якія не ў жыце.

Трактар за ўзгоркам набліжаўся. Цяпер ужо добра было чуваць, што там не толькі трактар, да яго прыглушанага гудзення далучаўся роўны гул і стракатанне камбайна «Сталінец-6». Неўзабаве з-за ўзгорку выплылі труба, пасля — верхняя частка камбайна, постаці двух чалавек на мастку і, нарэшце, — нізкі, запылены «ХТЗ».

Камбайн, як карабель, праплыў па ўзгорку, павярнуўся і пайшоў назад.

Ліда, Ігнат Андрэевіч і Максім з вяршыні ўзгорку глядзелі яму ўслед. Перад імі рассцілаўся шырокі іржэўнік, на ім роўнымі радамі ляжалі кучкі залатой на сонцы саломы і шэрыя, меншыя грудкі мякіны.

На другім канцы іржэўніку наўпрасцяк ехалі да камбайна тры бястаркі. У адной з іх стаяў малады хлопец і круціў над канём лейцамі, але конь, відаць, быў не надта рухавы і рэагаваў на гэта даволі спакойна: павольна махаў хвастом, адганяючы аваднёў.

Збоку, за паласой жыта, працавала жняярка-самаскідка. Граблі яе раз-по-разу ўзляталі ў паветра, бліскалі нейкай металічнай часткай. За жняяркай бялелі хусткі вязальшчыц.

— Малайцы! — стрымана пахваліў Ладынін, акінуўшы вокам зжатую плошчу. — Добры пачатак.

Максіму стала прыемна ад гэтай пахвалы, і ён задорна і крыху самаўпэўнена спытаў:

— Выходзіць, мы таксама ўмеем працаваць, Ігнат Андрэевіч?

— А хто сказаў, што вы не ўмееце?

— Вам, Лескавец, відаць, хочацца, каб асабіста вас пахвалілі, — Ліда сказала гэта як-бы між іншым, нават не павярнуўшыся да яго.

Але словы яе пакрыўдзілі Максіма. А чаму, урэшце, і не пахваліць яго? Ды і не пахвала яму дарага, а ласкавае, цёплае слова чалавека, якога ён любіць і паважае. Але ён нічога не сказаў і хутка пайшоў насустрач агрэгату, які развярнуўся і зноў набліжаўся да іх.

Параўняўшыся з камбайнам, Максім спрытна ўскочыў на ўсходцы, падняўся на масток, на якім стаяла камбайнерцы Вольга, малодшая дачка Міхея Вячэры.

Ладынін адчуў, што Максім зноў пакрыўдзіўся і лагодна дакарыў дачку:

— Нельга так, Лідуша. Часам чалавека карысна і пахваліць.

Ліда зморшчылася.

— Рысы дзіцячай псіхалогіі, тата, захоўваюцца ў людзей вельмі надоўга, у некаторых да старасці. Але тое, што прыемна ў дзіцяці, прыкра заўважаць у дарослага.

Яна пабегла да камбайна. Бацька паківаў галавой: нават ён не заўсёды разумеў словы і ўчынкі дачкі, часта яны былі нечаканыя, супярэчлівыя, дзіўныя.

Ліда таксама на хаду паднялася на прыступкі, прывіталася з Вольгай, аглянулася на жытнёвае мора, па якім каціліся зялёна-залатыя хвалі. Вецер рваў касынку з яе плячэй, жартаваў з сукенкай, Ліда прыцiснула яе каленямі да парэнчаў.

— Злазьце, Лескавец, я хачу паездзіць, павучыцца.

Максім паслухмяна спусціўся, яны размінуліся на ўсходцах, дакрануўшыся адзін да аднаго. Саскочыўшы на зямлю, ён доўга не мог адвесці вачэй ад прыгожай постаці дзяўчыны ў бэзавай сукенцы на мастку камбайна, які аддаляўся ад яго, плыў паўз сцяну жыта на

ўзгорак. Ігнат Андрэевіч употайкі назіраў за ім і ўпершыню ў ім нешта трывожна варухнулася ў сэрцы. Ніколі ён не ўмешваўся ў інтымныя справы сваіх дзяцей, цвёрда ўпэўнены, што, выхаваныя ім дзеці яго ва ўсіх выпадках жыцця будуць паводзіць сябе разумна. Ён не памыліўся ў адносінах сына і таму яшчэ больш спакойны быў за сваю любіміцу-дачку.

Але яе адносіны да Максіма чамусьці ўстрывожылі яго. Ліда была нейкая загадкавая, незразумелая ў гэтых адносінах.

Ладынін з Максімам наблізіліся да месца запраўкі агрэгата. Каля дарогі, пад старой бярозай, стаяў воз з бочкамі, каля яго была напята плашч-палатка, прымацаваная адным канцом да драбін воза, другім — да бярозы і жардзіны, уторкнутай у зямлю.

З-пад палаткі вылез Міхайла Прымак, на выгляд змораны, з пачырванелымі вачыма, але з вясёлымі іскрамі ў іх.

Быў ён у майцы, запылены, блішчэлі адны белыя зубы. Сустрэў іх жартаўлівым выгукам:

— Ліха з два з-за начальства паспіш! Ні спякота на вас не дзейнічае, нічога. Цэлую ноч не спаў і ўсю раніцу на агрэгаце прастаяў, покуль аб'ездзілі. Думаў адхапіць якую сотню хвілін. Дзе там! Поўгадзіны назад Крыловіч прыляцеў... Відаць, добра яму там, у Мінску, накруцілі, што проста з поезда ў брыгады паімчаўся. Чырвоны, злосны... Безумоўна, адразу на мяне... Чаму камбайн працуе не ў «Волі»? А я таксама злосны сёння. А што, па-вашаму, лепш, каб я стаяў? Першыя ў раёне, кажу, вышлі ў поле, гэта цаніць трэба! Схапіліся. Самавольнічаеце, крычыць. Праяўляю ініцыятыву, адказваю. Бачу, узлаваўся ён не на жарт. Я ад абароны ў наступ перайшоў. Кажу, сам Лазавенка прапанаваў перакінуць камбайн у «Партызан», бо ў яго паспела толькі па Расцярэбах. Чалавек, кажу, свядомы, з дзяржаўным розумам, не аб славе сваёй думае, не тое, што іншыя, на ўсё глядзяць толькі са сваёй званіцы. Астыў мой начальнік, мацюкнуўся, махнуў рукой і паехаў. За ім — Чурыла, як заўсёды, ніводнага слова не прамовіў, толькі люлькай надыміў на ўсё поле і цяпер яшчэ смярдзіць тытунём.

Максіму, хоць ён і пагадзіўся ўжо з агульнай думкай, што Лазавенка — найлепшы гаспадар, не спадабаліся апошнія словы. Прапанова аб тым, каб камбайн перакінуць у «Партызан», — яго, Прымака. Дык навошта і тут узвышаць Лазавенку?

Прымак прымасціўся каля воза і скручваў цыгарку. Ладынін назіраў за камбайнам, які спыніўся недалёка ад дарогі і разгружаў бункер. У скрынку бястаркі ліўся залаты струмень зерня.

— Гэты Чурыла толькі адзін раз разгаварыўся, калі я яго пакрытыкаваў на сходзе. Не любіць крытыкі, як Лескавец наш, — адвярнуўшыся, брыгадзір схаваў хітрую ўсмешку.

Максім не стрываў, нязлосна, але смачна вылаяўся:

— Пайшоў ты... Крытык!.. Крытыкуй сваіх трактарыстаў.

— Я і да цябе дабяруся. Калі ты казаў, што гаручае будзе? — Прымак дастаў з кішэні гадзіннік, паказаў Максіму. — Калі ласка. Няхай стане агрэгат з-за гаручага, — я з цябе ўсе струны выцягну...

— Будзе табе гаручае, — Максім падышоў і крануў на возе бочку, яна была пустая.

— Праверыў? — усміхнуўся Прымак.

— Зараз прывязуць, — Максім паглядзеў на дарогу і заспяшаўся.

— Ну, лезь, Міша, дасыпай сваіх сто хвілін. Работка ў цябе — не бі ляжачага.

Ідучы назад, затрымаліся каля вязальшчыц. Адна дзяўчына працавала без хусткі, з непакрытай галавой, і Ігнат Андрэевіч пачаў расказваць аб небяспецы сонечнага ўдару. Вязальшчыцы спынілі работу і ўважліва слухалі. Максім нецярпліва азіраўся, шукаў прычыны, каб перапыніць гутарку. І калі, нарэшце, яны пайшлі далей, сказаў не без іроніі:

— Мы не кабінетныя інтэлігенты. Мы з маленства прывыклі на сонцы пячыся, і я, колькі жыву, не помню сонечнага ўдару.

Ігнат Андрэевіч абурыўся:

— Глупства гародзіш! «Мы не інтэлігенты». А я па-твойму кабінетны інтэлігент? Ці толькі з Марса зваліўся? Дазволь мне думаць, што такія рэчы я ведаю лепей за цябе. За дваццаць пяць гадоў работы я пераканаўся, што гэта такое — папрацаваць дзень на такім вось сонцапёку з адкрытай галавой, ды яшчэ нагнуўшыся. Заўтра гэтая дзяўчынка страціла-б напалову працаздольнасць, або зусім не вышла-б на працу, пакутвала-б ад галаўнога болю. Аб здароўі чалавека трэба думаць не тады, калі ён хварэе. І нам з табой, комуністам, асабліва недаравальна забываць сталінскія словы аб людзях. Я даўно рыхтую сур'ёзную размову на партсходзе аб санітарных умовах працы нашых людзей. І, прабач, тут ужо дастанецца і табе, і Лазавенку, і Гольдзіну. Нельга так... Нельга забывацца пра чалавека ні на адну хвіліну. Бо які сэнс тады ўсёй нашай працы?

## 8

Каля калгаснага саду ўзвышалася доўгая павець — крыты ток. Вакол яго было падрыхтавана некалькі адкрытых пляцовак, залітых глінай — для сушкі збожжа. Максім здалёк убачыў аўтамашыну, што

стаяла каля тока, людзей і, аглянуўшыся на Ладыніна, закрочыў так шпарка, што Ладыгін ледзь паспяваў за ім.

— Што здарылася, Антонавіч?

— Не выехалі! Да гэтага часу! Калі ласка, таварыш Ладынін! Вось і паспрабуй выйсці ў перадавыя з такімі людзьмі. Я ведаю, чаму яна марудзіць... Кацуба... — і тут-жа паправіўся: — Лазавенка...

На двух пляцоўках пластамі было насыпана жыта. Маша з групай дзяўчат са сваёй брыгады пералапачвалі яго: падкідалі ўгору, і зерні падалі залатым дажджом.

Маша здалёк убачыла Максіма, усё зразумела, насцярожылася, але паводзіла сябе спакойна — абаперлася на лапату і чакала. Цяжка дыхаючы, Максім спыніўся воддаль, нібы баяўся падыйсці бліжэй.

— Чаму не павезлі? — спытаў ён, працэджваючы словы праз зубы.

Маша прывіталася з Ладынінам і яму-ж адказала:

— Не прымуць. Сырое.

Ігнат Андрэевіч зачэрпнуў жменю зярнят, перасыпаў з далоні на далоню, узяў адно зерне на зубы.

Максім падскочыў бліжэй, таксама схапіў жменю зярнят.

— Хто сказаў, што сырое?

— Я кажу. Не першы год здаю.

— У цябе — што? Лабараторыя ў кішэні? Скажы проста, па-партыйнаму: табе не хочацца, каб мы першымі былі... Скажы... Я-ж разумею цябе, мяне ты не перахітрыш, — ён паківаў галавой, голас яго быў роўны, здавалася, нават спакойны, але здзеклівы і напружаны — вось-вось сарвецца да крыку. І, відаць, сапраўды ён закрычаў-бы і нагаварыў нямаведама чаго, каб Ладынін не перапыніў яго.

— Ідзі, калі ласка, Максім Антонавіч, сюды, я скажу табе пару цёплых слоў, — нечакана і як-бы жартам запрасіў яго Ігнат Андрэевіч, адыходзячы ўбок. А калі яны адышлі за машыну і засталіся адзін-на-адзін, сурова сказаў: — Калі ты, неўгамонная твая душа, яшчэ хоць раз кінеш Машы вось такі папрок, буду гаварыць з табой інакш. Як не сорамна! Калі ты, нарэшце, навучышся разумець людзей?

— Пагарачыўся, — нечакана вінавата прызнаўся Максім.

— Пагарачыўся. Глядзі-ж!

Ладынін развітаўся і пайшоў у вёску да хворых. Максім хадзіў навокал тока, маўклівы, пануры, прыдзірліва ўсё аглядаў, потым пайшоў да свірна, што стаяў у садзе. Калі праз некалькі хвілін ён вярнуўся назад, дзяўчаты паспешліва насыпалі зярно ў мяшкі і грузілі на машыну.

— Я павязу, — спакойна сказала яму Маша.— Але калі не прымуць — наракай на сябе.

Збожжа не прынялі. На складзе «Заготзярно» жартавалі:

— Хацелі першыя. Дарэмна вы спяшаліся, ужо чатыры калгасы здалі.

Але сярод гэтых чатырох не было «Волі», і гэта ўразіла Машу больш, чым тое, што іх зярно не прынялі.

Яна пакінула дзяўчат дасушваць жыта на складзе, хоць у яе было злоснае жаданне прывезці яго назад — Лескаўцу. Перамагла гаспадарлівая разважлівасць. З цяжкім пачуццём вярталася яна дамоў. Яна разумела недарэчнасць сваіх перажыванняў: неабавязкова ва ўсім «Воля» павінна быць першай! Ды, урэшце, і сам Васіль казаў:

— Важна не тое, хто першы здасць нейкую тону. У сто разоў важней першаму здаць апошнюю тону.

Але ўсёадно Машы было крыўдна. «Чаму яны марудзяць? Што ў іх здарылася? Дарэмна ён аддаў камбайн».

І раптам з-за павароту дарогі вылецелі насустрач іх машыне тры грузавікі, напоўненыя мяшкамі. Над першым трапятаўся чырвоны сцяг. Яна пазнала машыну «Волі» і ў кабіне ўбачыла мужа. Шафёр звярнуў убок, даючы дарогу. Маша штурхнула яго.

— Не спыняйся!

Шафёр кінуў на яе здзіўлены позірк, рвануў машыну. Васіль таксама пазнаў яе, замахаў рукой, спыніў свой грузавік.

Яна чула, як Васіль крыкнуў «Маша!» і, аглянуўшыся, убачыла, што ён стаіць на дарозе і здзіўлена глядзіць услед. Тады яна зразумела, што Васілю будзе няёмка перад сваімі людзьмі, перад дзяўчатамі, якія, безумоўна, пазналі яе, і ўзлавалася на сябе, хацелася заплакаць ад роспачы.

«Як дзяўчынка... Сорам... Дабрадзееўцы нямаведама што падумаюць. Чаму я не спынілася?» Яна не разумела свайго ўчынку. Не разумела, чаму ёй стала сорамна сустрэцца з Васілём.

Шафёр — Сцяпан Лаўрыновіч, малады і маўклівы хлопец, які адносіўся да яе з вялікай павагай, праехаўшы некалькі кіламетраў, далікатна спытаў:

— Што, пасварыліся ўжо?

Маша адказала жартам:

— Не, думаю пасварыцца.

Сцяпан доўга маўчаў і толькі каля самых Лядцаў зрабіў глыбакадумны вывад:

— Вы ўсе такія... жанчыны... Незразумелыя.

«Незразумелыя... Сапраўды незразумелыя», — некалькі разоў у той дзень успамінала Маша гэтыя яго словы.

Яна не пайшла больш ні на ток, ні ў поле: у яе было дрэннае самаадчуванне. Яшчэ раніцой яна адчувала сябе блага і баялася, ці не захварэла часам. Удзень нібы стала лепш, і яна забылася на ўсё, захапіўшыся сушкай і падрыхтоўкай да здачы збожжа. Цяпер, пасля паездкі ў раён, зноў стала цяжка на сэрцы, разбалелася галава. Яна разумела, што гэта не толькі ад хвалявання. Было яшчэ нешта другое, што выклікала гэты неспакой, але што — яна не ведала. Яна паспрабавала заглушыць яго работай. Памыла бялізну, вышаравала падлогу, хоць зусім нядаўна мыла яе, падмяла ў двары, вычысціла кожны закутак, як перад святам. Але ніколі яна не вярталася дамоў так рана: ужо больш і працы не знаходзілася; а сонца яшчэ толькі зайшло за хаты. Праўда, заставалася яшчэ адна работа — згатаваць вячэру, але паліць у печы так рана. калі людзі яшчэ на 'працы, было няёмка. Маша вырашыла спячы блінцы. Раскрыла дзежку, удыхнула прыемны, кіслы пах рошчыны і раптам адчула, што ёй страшэнна хочацца... квасу. Халоднага, рэзкага хлебнага квасу. Яна доўга стаяла нерухома, з асалодай п'ючы ў думках гэтае цудоўнае пітво. Шчаслівая ўсмешка незвычайна асвятліла не толькі яе твар, а ўсю істоту, здавалася, што жанчына ўміг расцвіла, як тая кветка. А жаданне напіцца квасу не знікала. Яна напілася прастаквашы, расчыніла блінцы, а пах квасу, яго салодка-кіслы смак усё больш і больш раздражняў яе. Шукаючы работы, яна выйшла на гарод і ўбачыла здалёк Сынклету Лукічну. Старая корпалася на сваім гародзе. Пасля вяселля Маша неяк саромілася і пазбягала сустрэчы з ёй, ды і Сынклета Лукічна, выпадкова спаткаўшыся, віталася не вельмі прыветліва.

Маша доўга вагалася і, нарэшце, не вытрымала, бо добра ведала, што ў старой павінен быць квас. Яна неўпрыкметна падышла па сцежцы, нясмела прывіталася. Сынклета Лукічна з намаганнем выпраміла спіну (яна капала бульбу-скараспелку), пранікліва паглядзела на Машу, стаіла незразумелую ўсмешку — ледзь варухнуліся зморшчыш ў куточках рота, але на прывітанне адказала ласкава:

— Добры дзень, Машанька. Ты сёння нейкая... светленькая.

— Цётка Сыля, дайце кружку квасу, калі ёсць у вас, — папрасіла Маша і сама спалохалася: як усё нечакана атрымалася!

— Квасу? — Сынклета Лукічна спачатку нібы не зразумела, а потым раптам твар яе зрабіўся добрым, лагодным, мацярынскай ласкай запрамяніліся вочы. Яна замітусілася, хуценька аб фартух пачала выціраць рукі.— Квасу?.. Машанька, мілая... Пасядзі хвіліначку, пабягу прынясу. Сядай вось тут, на мех...

Яна прынесла поўны гладыш пахучага пеністага квасу. Маша піла нагбом з гладыша. Піла прагна, без перадышкі. Два бурштынавыя струмені ліліся па шчаках, па шыі, сцякалі за кофтачку.

— Хопіць, дурніца! — Сынклета Лукічна адабрала ў яе гладыш.

Маша засмяялася.

Сынклета Лукічна паставіла гладыш у разору і нечакана абняла яе, прытуліла да сябе.

— Слаўная ты мая!.. Шчаслівая...

Хвіліну яны, абняўшыся, моўчкі сядзелі на ўзмежку. Маша асцярожна вызвалілася з абдымкаў і спытала, заглядаючы старой у вочы:

— Вы на мяне не злуецеся, цётка Сыля?

— За што буду я на цябе злавацца? За тое, што ты шчасце сваё знайшла?

9

Поезд прыходзіў на досвітку, калі ледзь пачынала святлець палоска на ўсходзе. Не прасыпаўся яшчэ пасёлак каля станцыі, і нават у канторы «Заготзярно» было цёмна. Толькі каля склада — доўгай цаглянай будыніны, што выцягнулася ўздоўж пуці, і каля вагонаў, якія стаялі там, гаманілі людзі, і крыху далей разводзіў пары манеўровы паравоз. Алеся правяла вачыма чырвоны агеньчык апошняга вагона, аглянулася і ўбачыла, што яна сышла адна. На платформе больш нікога не было, толькі, ў напрамку будынка станцыі плыў зялёны агеньчык ліхтара дзяжурнага, постаць якога ледзь вырысоўвалася ў передранішнім змроку. Алеся на момант сумелася, раздумваючы, што рабіць — ісці ці пачакаць, покуль пачне днець. Але, глянуўшы на ўсход, потым чамусьці на (верхавіны высокіх тапаляў, што пікамі ўпіраліся ў неба, яна зачапіла хусткай чамадан, ускінула на плечы і рашуча перайшла чыгунку. І тут, каля гары шлаку, яна нечакана сустрэлася з Паўлам Кацубам. Убачыла яго — здзівілася.

— Ты таксама прыехаў гэтым цягніком?

— Не. Я прышоў сустрэць цябе.

— Мяне? А як ты даведаўся, што я сёння прыеду?

— Я прыходзіў учора і пазаўчора... Тры разы...

— Тры разы? — Алеся скінула чамадан з пляча, даволі моцна грукнуўшы ім аб зямлю, і імкліва працягнула яму абодве рукі, ціха і ласкава прывіталася:— Добрай раніцы, Паша.

Ён моцна сціснуў яе рукі.

— Добрай раніцы, Алеся. Здала?

— Здала. Здала, Паша! Здала, мой слаўны рыцар,— яна, не памятаючы сябе ад радасці, ад шчасця, якое не пакідала яе ўсю дарогу ад Масквы і яшчэ святлейшым, большым стала вось зараз, у гэты момант, сціснула далонямі галаву Паўла і моцна пацалавала ў вусны.І сама страшэнна збянтэжылася. І яго збянтэжыла. Забыўшыся на рэчы, яна хутка пайшла па сцежцы, кусаючы рог касынкі. Павел падняў чамадан, моўчкі панёс за ёй. Доўга Алеся не азіралася. Яна злавала на сябе і нават на яго, а за што — не ведала. Ёй хацелася паранейшаму смяяцца, жартаваць; раней яна ніколі не саромілася яго: кпіла, капрызна прымушала выконваць усе свае жаданні. Яна ведала, што ён кахае яе, і ў сваім сэрцы адчувала таксама нешта незвычайнае, але адносілася да гэтага бесклапотна, жартаўліва, нават несур'ёзна. І вось гэтая раніца, нечаканае з'яўленне Паўла, і яшчэ больш нечаканы пацалунак яе ўсё перайначылі. Алеся адчула, што больш яна не можа, не мае права адносіцца да яго так, як раней. І, магчыма, таму ўзлавалася.

Але паступова яна прыцішыла хаду, і, нарэшце, аглянулася, пачакала яго. Калі Павел наблізіўся, вінавата ўсміхнулася.

— Табе цяжка? Дай я пранясу.

— Ну, што ты! Ніколечкі не цяжка, — запярэчыў ён, хоць лоб яго быў мокры ад поту.

— Я там накупляла ўсяго... Дойдзем да хвойніку, выламаем кій і будзем несці ўдвух. Добра? Якія ў цябе навіны? Цябе залічылі без экзаменаў, безумоўна?

— Не, быў конкурс. Здавалі матэматыку. Я здаў на «выдатна», першы пісьмовую выканаў...

Яна з гонарам паглядзела на яго і таксама пахвалілася:

— І я добра вытрымала... Нават самой не верыцца, што я так многа ведаю.

Па шляху яны ішлі ўжо не адзін за адным, а побач.

Ішлі і адчувалі сябе няёмка ад таго, што не ведалі, пра што гаварыць. Ніколі раней гэтага не здаралася: заўсёды яны знаходзілі тэму для размовы на ўвесь шлях ад раённага. цэнтра да Лядцаў. Ужо ў сасонніку, калі яны сапраўды, па патрабаванню Алесі, выламалі кій і панеслі чамадан удвух, ён нясмела ні то спытаў, ні то сказаў:

— Алеся, мы будзем пісаць адзін аднаму?

Яна здзівілася і нават быццам абурылася: чаму ён задае такое недарэчнае пытанне?

— А як-жа інакш! Мы з дзяцінства дружылі...

— Буду пісаць табе штодзень.

Яна адказала не адразу, прайшлі добрых сотню метраў. Было душна. На сухой траве не было ні расінкі. Не варушылася лісце на бярозках, што раслі паўз дарогу і ўжо былі, як залатымі кроплямі, аздоблены першымі жоўтымі лісточкамі.

— У першы год Максім штодзень пісаў Машы, — стрымана, уздыхнуўшы, прамовіла Алеся, як-бы сама сабе.

Павел ажно прыпыніўся, уздрыгнуў, твар яго заліла чырвань.

— Я не Максім, Алеся! Ты мяне яшчэ дрэнна ведаеш. Я табе дакажу, які я! Ты пабачыш?!. — голас яго задрыжэў.

Алеся, зразумеўшы прычыну такога хвалявання сябра, ласкава папрасіла прабачэння:

— Прабач, Паша. Гэта я так... Машу ўспомніла, засумавала я па ёй.

Дзень наступаў рашуча, хутка. Ужо даўно развіднела, і ўсход гарэў агромністым пунсовым полымем.

У Дабрадзееўцы гудзела малатарня. Яны вышлі з сасонніку і ўбачылі за дабрадзееўскім садам высокі слуп пылу, крыху далей дыміла «сілавая».

Такі-ж слуп пылу падымаўся і над Лядцамі.

— І ўначы малоцяць? — апытала Алеся.

— Малоцяць, — адказаў Павел. — Дабрадзееўцы электрычнасцю малоцяць. Я ім учора электраматор дапамог адрамантаваць.

Дні стаялі спякотныя. Рэдка ў якое лета бывала такая гарачыня ў сярэдзіне жніўня. Нават уначы было душна, зусім не астывала вада ў рэчцы, не 'было раніцамі туманаў у нізінах.

Канчалі ўборку. Здавалі апошнія тоны збожжа дзяржаве. Па прапанове Машы малатарня працавала кругласутачна. У начную змену рабілі брыгады Машы, пераважна — хлопцы і дзяўчаты, не звязаныя з хатняй гаспадаркай. Прадавалі дружна, па-стаханаўску, адпачывалі ў кароткіх перапынках весела: жартавалі, дурэлі, хаваючыся ў саломе, найбольш смелыя хлопцы ўпотайкі цалавалі за сціртамі дзяўчат.

Але ў гэтую ноч перапынкаў такіх рабілі вельмі мала. Малацілі пшаніцу з найлепшага ўчастка. Участак гэты быў гонарам усёй брыгады і асабліва Машы. На ім брыгада даказала, колькі можа ўрадзіць іх звычайная зямля, калі на ёй ажыццявіць увесь комплекс агратэхнічных мерапрыемстваў. Але колькі дасць кожны гектар пшаніцы — вызначалі па-рознаму, а таму моладзі хацелася хутчэй скончыць малацьбу і даведацца дакладна. Ды не толькі таму працавалі так старанна і натхнёна: прыемна было малаціць такую пшаніцу. Залатое, незвычайна буйное пры жоўтым святле ліхтароў зерне сыпалася з

прыёмніка ў мяшкі няспынна. Дзяўчаты ледзь упраўляліся адносіць поўныя мяхі і падвешваць парожнія. Маша не вытрымала і ўсю ноч працавала сама. Спачатку падавала цяжкія снапы барабаншчыку: ёй хацелася ператрымаць іх усе ў сваіх руках. Але пасля перапынку Сынклета Лукічна (яна была адзіная пажылая жанчына сярод моладзі) прымусіла яе сыйсці з гэтай работы і стаць на больш лёгкую — адграбаць мякіну.

Роўна гула малатарня, праглынаючы сноп за снопам. Рытмічна пляскаў пас, што ішоў ад махавіка трактара. Трактарыст Адам Мігай, здавалася, быў адзіны чалавек, які працаваў у гэтую ноч без напружанасці, не праліваючы поту, як усе іншыя. Ён хадзіў ад трактара да малатарні, прыслухоўваўся да гулу матора і зрэдку камандаваў барабаншчыку:

— Не дагружаеш. Больш давай! — і калі той раптам перабольшваў порцыю і малатарня пачынала злосна раўсці, крычаў: — Не чуеш хіба?

— Чую, чую! Не першы год! — але голас яго даходзіў толькі да падавальшчыц, якія стаялі з двух бакоў мастка.

Барабаншчык — Рыгор Лескавец — узвышаўся над усімі, нібы капітан карабля. Быў ён не на многа год старэйшы за ўсіх хлопцаў, але працаваў на малатарні сапраўды не першы год. Заўвагі трактарыста яго крыўдзілі, хоць ён сам адчуваў, што часам збіваецца з рытма — ніколі яму яшчэ не прыходзілася мець справу з такой збажынай. Ён не хаваў свайго захаплення пшаніцай і, калі доўга Мігай не рабіў заўваг, весела выгукваў:

— Эх, і пшанічка!

Запрацаваліся так, што не заўважылі, як быў пададзены апошні сноп. Малатарня раптам, нібы вырваўшыся з-пад цяжару, загула лёгка, з металічным звонам.

Мігай хутка выключыў трактар. Усталявалася нязвыклая цішыня. За вёскай узыходзіла сонца. Яно паза лаціла ўжо верхавіны дубоў за рэчкай, старых ліп на вуліцы і бяроз на шляху. У вёсцы рыкалі каровы, рыпелі калодзежныя жураўлі, гаманілі гаспадыні.

— Скончана! — выгукнуў нехта, і гэта было нібы сігналам: усе раптам сышліся ў адно месца і, відаць, толькі цяпер, адчуўшы вялікую стомленасць, пападалі на салому. Аднак ніхто не забыў на галоўнае. Амаль у адзін голас закрычалі:

— Лёша! Вязі хутчэй!

— Ды скажы, каб ён хутчэй важыў, — гэта пра кладаўшчыка — Захарку Акуліча. — Людзі чакаюць.

— А то ён, мабыць, спіць у свірне.

— Не было калі яму спаць. Усё пытаў, ці хутка скончым.

У гэты момант да току падышлі Алеся і Павел. Прапанавала зайсці сюды Алеся, даведаўшыся, што працуе брыгада Машы. Павел крыху сароміўся, але цяпер ён гатоў быў ісці за ёй хоць на край свету.

Дзяўчаты ўбачылі Алесю, кінуліся да яе, шчыльна абкружылі, віталі. Маша ледзь дасгупілася да сястры, абняла.

Ніхто не пытаў, ці здала яна прыёмныя экзамены, ці паступіла ва універсітэт. Няварта было пытаць, бо ўсе зразумелі гэта так, як толькі ўбачылі Алесю. Яе віншавалі, абдымалі.

— Малайчына, Саша. Ты ў нас заўсёды наперадзе!

— Шчаслівая ты, Алеся, — зайздросна ўздыхалі сяброўкі, якія разам з ёй вучыліся ў сямігодцы.

Алесі хацелася ў гэтую незвычайную хвіліну падзякаваць за сваё шчасце Машы. Гэта Маша дала магчымасць ёй скончыць дзесяцігодку, гэта яна ледзь не сілком прымусіла яе прадаўжаць навучанне, калі ў адзін цяжкі год Алеся хацела кінуць школу. Але яна не ведала, як выказаць сваю ўдзячнасць сястры пры людзях, ёй не давалі сказаць слова, засыпаючы пытаннямі, ды і Маша стаяла воддаль, не зводзячы з яе вачэй і па-мацярынску ласкава ўсміхаючыся.

Павел нясмела наблізіўся да хлопцаў, усё яшчэ баючыся кпінаў і насмешак. Але толькі Грышка Грошык, самы злосны жартаўнік, ціха і быццам нават сур'ёзна сказаў:

— Пастаў, Паша, крыж на сваім каханні. У Маскве яна не такога знойдзе, як ты, ціхоня!

— У ціхім балоце чэрці водзяцца, — ні да каго не звяртаючыся, прамовіў Рыгор Лескавец, з асалодаю нюхаючы тытунь (на таку было забаронена курыць) і чыхаючы.

— Ціхая вадзічка грэблі рве, — па-сяброўску падміргнуў Паўлу звычайна маўклівы Федзя Лобан, высокі, няскладны хлапчына з вечна аблупленым носам, які ён умеў вельмі смешна моршчыць.

А дзяўчаты ў гэты час прадаўжалі наступаць на Алесю.

— Ды расказвай ты хутчэй. Чаго ты азіраешся, быццам не бачыла Лядцаў дзесяць гадоў?

— Ну, якая яна, Масква? Расказвай, калі ласка, усё-ўсё...

Алеся на хвіліну заплюшчыла вочы, нібы жадаючы яшчэ раз уявіць Маскву, успомніць усё, што бачыла яна там. Потым крутнула галавой, акінула ўсіх хуткім позіркам, засмяялася.

— Не магу, дзевачкі... Вось заплюшчу вочы, і стаіць яна ўся ў мяне перад вачыма: вуліцы, метро, Крэмль, Масква-рака, універсітэт наш... А расказаць не ўмею, з чаго пачаць — не ведаю.

— А ты па-парадку... Як прыехалі, куды хадзілі...

— Ну, прыехалі мы з Нінай Бяловай... У дзядзькі яе спыніліся... Да дзядзькі ў трамваі ехалі ад вакзала. Потым паехалі ва універсітэт... У метро... Ой, дзевачкі, каб вы ведалі, што гэта за цуд — метро!

Яна доўга, падрабязна, з дзіцячым захапленнем расказвала пра метро: пра кожную станцыю, пра эскалатарныя лесвіцы, пра адчуванне, якое ўзнікае, калі спускаешся ці падымаешся па ёй; пра паязды: «... едзеш — толькі агеньчыкі ў тунелі бліскаюць, тоўстыя правады паўз вокны ляцяць, а па вагону вецярок гуляе»...

Паднялося сонца, заліло золатам праменняў сцірты, людзей, і нібы схамянула Алесю, напомніла ёй больш значнае з таго, што яна бачыла ў сталіцы.

— Не, не... не з таго я пачала... Там усё прыгожа — і пад зямлёй і на зямлі... Пра ўсё і не раскажаш! Але, мабыць, на ўсё жыццё запамінаецца кожнаму чалавеку хвіліна, калі ён узыходзіць упершыню на Красную Плошчу... У мяне і зараз гэтае адчуванне ў сэрцы. Помню, вышлі мы з метро, павярнулі і адразу апынуліся каля крэмлёўскай сцяны. Я нават разгубілася ад нечаканасці, баюся далей ступіць.... Спынілася і думаю, што вось тут не адзін раз праходзіў Ленін, ходзіць таварыш Сталін... А падышлі да маўзалея, і ў мяне перад вачыма так яскрава, так яскрава паўстала жыццё Ільіча, уся гісторыя... Усё, што вучыла дзесяць год, што ўспрымала розумам, успрыняла я там сэрцам... Уявіла, як ішлі людзі к труне Леніна, як даваў клятву таварыш Сталін і... плачу... Слёзы засцілі ўсё, коцяцца па шчаках... Захапленне, шчасце... усё, адным словам, адразу напаўняе там сэрца...

У Алесі і зараз незвычайна прамяніліся вочы, палалі шчокі. Маша слухала, здзіўлялася і радавалася за сястру. Дагэтуль яна ведала Алесю адну — вясёлую жартаўніцу, летуценніцу, цяпер-жа перад ёй быў чалавек з вялікім сэрцам і сталым розумам. Яе непасрэднае шчырае апавяданне — пра Маскву і пра свае пачуцці, што апанавалі яе там, зацікавіла ўсіх. Нават хлапцы, якія спачатку аднесліся крыху скептычна да яе расказу, слухалі цяпер уважліва, сур'ёзна.

— ... Падняла я галаву, глянула вышэй маўзалея, вышэй крамлёўскай сцяны і... Ёкнула маё сэрца, дзевачкі. За сцяной — вялікі белы будынак. Вокны адчынены... Вецярок шторы хістае... І стаіць у адчыненым акне чалавек, на нас глядзіць...

Слухачы варухнуліся, нахіліліся да яе, баючыся прапусціць хоць адно слова.

— Сталін? — прашаптала Дуня Акуліч.

— Не, не Сталін, вядома. Але і мне гэтак здалося. І я пасля не магла адарваць вачэй ад гэтых вокан, усё думала: а раптам і ён, Сталін, працуе ў адным з гэтых пакояў і паглядзіць у акно, на Красную

Плошчу, і я ўбачу яго, пазнаю... Мы адышлі далей ад сцяны, каб больш было відаць паверхаў, і ўсё глядзелі. І ўсе людзі, колькі я іх не бачыла там, усе глядзелі на гэтыя вокны. Я добра разумела іх. Я пасля кожны дзень хадзіла туды... Здам экзамен і бягу. І з акна універсітэта вачэй не адводзіла ад Крамля.

— А з універсітэта відаць Крэмль? — спытала Маша.

— Відаць, Машанька. Гэта-ж зусім блізка, толькі з другога боку.

— Шчаслівая ты, Алеся, — зноў уздыхнула Дуня.

Падымалася сонца. Прыгналі коней з начлегу, і калгасны двор напоўніўся тупаннем і крыкамі. За садам пачуўся гучны голас Максіма — ён некага за нешта прабіраў.

Але і на гэта хлопцы — аматары з усяго пажартаваць — не звярнулі ўвагі, забылі яны і на сваю зморанасць, на цяжкую начную працу.

— ... А ў той дзень, калі здалі апошні экзамен, пайшлі мы на Красную Плошчу ўсёй групай, усе, хто разам здаваў. Увечары пайшлі, калі Масква была ўся ў агнях, а Красную Плошчу пражэктары асвятляюць... Стаім, узяўшыся за рукі, глядзім на асветленыя вокны крамлёўскага дома, уголас выказваем свае думкі: «Каб ведаць, у якім пакоі працуе таварыш Сталін?» Адна дзяўчына, з Кастрамы, прапануе: давайце, гаворыць, у лейтэнанта спытаем, можа, ён ведае. Лейтэнант з крамлёўскай варты каля маўзалея хадзіў. І ніхто не засмяяўся з яе наіўнай прапановы. А людзі ўсё ішлі і ішлі, больш, чым нават удзень... На Спаскай вежы цераз кожныя пятнаццаць мінут куранты б'юць... Помню, падышоў сівенькі стары, з вёскі, у цёплым пiджаку, у ботах, як дзед Кацуба... За руку дзяўчынку вядзе гадкоў сямі... Здалёк зняў шапку, а падышоў бліжэй, нізка пакланіўся маўзалею. Пасля падышла нейкая французская дэлегацыя... Адзін француз сказаў сваім сябрам: «Мы — дзеці Леніна». Адышоўшы, яны ціха, упоўголаса заспявалі «Мы — дзеці Леніна». Стаялі мы ў той вечар на Краснай Плошчы, ажно покуль куранты дванаццаць гадзін не прабілі... А потым мы па Маскве да самага світання гулялі...

Невядома, колькі часу расказвала-б яшчэ Алеся, каб раптам не прыехаў Алёша Прымак, які адвозіў пшаніцу ў свіран. Ён здалёк закрычаў:

— А ну, адгадайце, колькі?

І слухачы ўпершыню адвялі позіркі ад Алесі, пачалі гадаць, колькі даў кожны гектар гэтай незвычайнай пшаніцы, якую яны вырасцілі.

— Шаснаццаць.

— Дваццаць.

— Семнаццаць.

— Ніхто не ўгадаў. Дваццаць адзін і тры дзесятых. Во! на «ура» брыгадзірку! Такі загад старшыні!

Маша замахала рукамі, адступаючы да сцірты.

— Ну, ну, не дурэйце!

Алеся падхапілася, моцна абняла сястру.

10

Мінула лета — гарачая пара работ, мінулі дні, аб кожным з якіх гавораць, што дзень такі корміць год. На полі засталася адна бульба. Але за яе Лескавец не турбаваўся: капалі яе паспяхова, людзі працавалі старанна, дысцыпліна наладжвалася з кожным днём. Наогул, калгас, хоць павольна, але выходзіў у лік перадавых у раёне. Гэта радавала Максіма, а галоўнае — зрабіла яго больш разважлівым і самакрытычным. Ён канчаткова, урэшце, пераканаўся, што недастаткова адных яго добрых намераў, недастаткова працаваць аднаму, трэба ўмець мабілізаваць, арганізаваць людзей. А гэта таксама не па сіле аднаму. Яго яшчэ адна спроба — у час уборкі ўраджаю — любымі сродкамі перагнаць Лазавенку скончылася правалам. Ён не змог ні ўбраць раней за «Волі», ні здаць дзяржаве. «Партызан» вышаў у перадавыя па сяўбе азімых. У жніўні МТС атрымала новыя трактары, і ў калгасе цяпер працаваў магутны «Наці». Больш паловы плошчы азімых было паеерна трактарнай сеялкай. Адам Мігай, якому перадалі новы трактар, заняў першае месца ў МТС. А задаволены Міхайла Прымак паабяцаў:

— Я табе зараз, Антонавіч, уздзяру на зябліва ўсё, нават тыя пустыры, дзе не сеялася з сорак першага года. Засявай толькі потым, упраўляйся.

Сяўба азімых прайшла надзвычай гладка, асабліва калі забыцца на яго сутычкі з Машай з-за агратэхнікі — нормы высеву, угнаення. Аднойчы ў спрэчцы яны нагаварылі адзін аднаму непрыемнасцей. А потым неяк Маша спакойна сказала яму:

— Максім, калі хочаш сумленна кіраваць калгасам, пачытай літаратуру па агратэхніцы. Як сябру, раю табе. Нельга зараз кіраваць без гэтага, зразумеў, дзівак ты!

«Як сябру!» — гэта яго ўзлавала. — Знайшлася дарадчыца!.. Без цябе ведаю, але паспрабуй пачытаць, калі круцішся... Лёгка табе гаварыць!»

Але, супакоіўшыся, ён задумаўся над яе словамі. «А чаму лёгка ёй? Не, і ёй нялёгка. Аднак яна чытае, упраўляецца».

Дзён праз колькі пасля іх размовы пайшоў дождж. Доўгі і сумны асенні дождж. Ён ішоў тры дні, спыніў амаль усе работы, загнаў

людзей у хаты. Застаўшыся дома, Максім пачаў чытаць. Прачытаў газеты за шмат дзён, узяў Вільямса, прагледзеў некалькі раздзелаў і ўпершыню адчуў цікавасць да гэтай сумнай, як яму здавалася раней, літаратуры.

Сынклета Лукічна глядзела на сына, здзіўлялася і радавалася, па хаце хадзіла на цыпачках, каб не перашкаджаць яму. На чацверты дзень дождж сціх, зрэдку толькі асобныя хмары, якія ўсё яшчэ плылі няспынна і засцілалі ўсё неба, сеялі мігуч.

Максім пахадзіў па двары, пабыў у канюшнях, кароўніках, у свірне і ўпершыню ўбачыў там нямала недахопаў, парушэнняў, нібы дождж вымыў іх на паверхню. Гэта сапсавала яму настрой. Масла ў агонь падліла загадчыца фермы Клаўдзя Хацкевіч сваімі бясконцымі патрабаваннямі адно зрабіць, другое перарабіць, трэцяе дастаць, прывезці. Раней ён проста адмахваўся ад яе, але цяпер раптам убачыў, што ўсе яе патрабаванні справядлівыя, і ад гэтага ўзлаваўся яшчэ больш.

«Фермы — самы адсталы ўчастак. Разрыў паміж двума цэхамі, — успомніў ён Вільямса. — Трэба будзе сапраўды папрасіць у Гайнай, каб прадала пародзістых кароў».

Вярнуўся дамоў, паспрабаваў чытаць — не чыталася.

На двары разгуляўся вецер, і было чуваць, як шумелі ля вокан два маладыя клёны, ранялі долу прыгожыя жоўтыя лісты, вецер гнаў іх па вуліцы.

«Хутка выраслі, — падумаў Максім пра клёны. — Маці пасадзіла іх замест старых, што згарэлі ў сорак трэцім. Тыя садзіў бацька яшчэ юнаком, разам з дзедам, з прадзедам маім... Ляціць час...»

Успомніліся словы Клаўдзі: «Ты-б папытаў у людзей, як бацька твой ферму любіў... Якія ў нас каровы былі да вайны...»

З клёна зляцеў ліст, прыліп да шыбы.

«Амаль зялёны яшчэ, відаць, дажджом збіла».

Максім павярнуўся да акна спіной, каб не глядзець на вуліцу, на клёны. Усёадно не чыталася. Адарваўся ад думак пра гаспадарку — апанавалі другія: аб Лідзе, аб іх узаемаадносінах. Колькі прайшло часу, а ён нічога не ведае пра яе пачуцці і нават не адважыцца больш спытаць. Учора, калі ён увечары па дажджы прышоў да Ладыніных, Ліда сустрэла яго так холадна, з такой насмешкай, што ён палічыў самым разумным як мага хутчэй развітацца. На душы застаўся непрыемны асадак.

У двары прайшоў паўз вокны Шаройка.

Максім устрапянуўся, нездаволена падумаў: «Чорт яго нясе... і хвіліны нельга пабыць аднаму».

Сустрэў Шаройку не зусім ветліва, хоць той зайшоў жвава, весела, як заходзяць да добрага сябра.

Максім ураз збіў з яго гэтую жвавасць кароткім запытаннем:

— Вярнуўся?

Шаройкі доўга, нешта больш месяца, не было дома, ездзіў да сына ў Горкі.

— Вярнуўся, Антонавіч.

— Калі работа ў калгасе скончылася, так?

— Антонавіч! Два мінімума маю, нават з гакам, з гакам... Які можа быць папрок?

— Мінімумы! Калі брыгадзірам быў...

— І пасля працаваў, колькі здароўе дазваляла.

— Здароўе! Здароўя ў цябе на траіх хопіць.

Шаройка ненатуральна кашлянуў, нібы хацеў паказаць, што здароўе яго сапраўды слабае.

Ён сядзеў на табурэце насупраць стала, круціў цыгарку, рассыпаючы тытунь на падлогу.

— Крыўдзіш ты мяне, Антонавіч, — і цяжка ўздыхнуў. — Крыўдзіш, брат, а за што — не разумею... Што я зрабіў табе? Душа ў душу жылі. Хлеб-соль дзялілі...

У Максіма гэтыя словы перавярнулі ўсё нутро, ажно, здалося, заклякатала ў грудзях. Ён пачырванеў, падняўся з-за стала, утаропіўся ў Шаройку. Той апусціў вочы, слюнячы цыгарку, зрабіў выгляд, што не заўважае яго ўзрушанасці.

Максім стрымаў сябе.

— Па што прышоў?

Шаройка чыркнуў запалку, прыкурыў.

— Дазволь, Антонавіч, саломы ўзяць, капец накрыць.

— Днямі раздадзім на працадні.

— Бабы бульбу з хаты ў капец перанеслі, цяпер, разумееш, хоць назад нясі.

— Добра. Вазьмі. З недавершанай сцірты, — і падумаў: «Чорт з табой! Не дакучай толькі, без цябе нудна».

А калі Шаройка вышаў, Максім спахапіўся, вылаяў сябе.

«Колькі разоў мне ўжо даставалася за гэта. Нельга раздаваць калгаснае, як сваё ўласнае, як гэта Шаройка рабіў. Не выпісаўшы, не аформіўшы цераз бухгалтэрыю... «Вазьмі». А хто ведае, колькі такому прагнюку ўздумаецца ўзяць? Ён здольны воз перацягаць... А там яшчэ хто-небудзь пажадае, гледзячы на яго... Абавязкова скажуць: калі Шаройку можна, то чаму нам нельга? Трэба пайсці забараніць».

Аднак гонар, самалюбства не дазволілі зрабіць гэта, і настрой сапсаваўся яшчэ горш.

Шаройка паленаваўся скубці салому знізу і залез на сціртy, разгарнуў верхні мокры пласт. Ссунуць яго не адважыўся, і набраць сухой саломы аказалася нялёгкай справай, трэба было ўсёадно скубці па жмені.

Працаваў і бурчэў:

— Гаспадары! Не маглі завяршыць, поўсцірты прамачыла.

Ён не бачыў іншых, добра завершаных, сціртаў, парадку на таку, якога ніколі не было пры ім. Ён намагаўся ўбачыць толькі благое, і, калі знаходзіў, радаваўся: «Ага, нагаспадарылі без Шаройкі».

Унізе, пад сціртамі, хадзілі калгасныя гусі, паважна перавальваліся з нагі на нагу, шукалі зерне. Шаройка скінуў салому, і яны пачалі разграбаць яе. Ён замахаў рукамі, кінуў на іх саломай, але гусі толькі прыгожа выгіналі шыі і не адыходзілі.

Шаройка ўзлаваўся.

— Каб вас воўк падавіў, халеры! Гіля! Пайшлі прэч, д'яблы!

Гусі адказвалі зладжаным гогатам — усе адразу, нібы рагаталі з яго. Як на грэх, Шаройка ўбачыў у саломе палку — палавінку расколатай ручкі ад веялкі. Схапіў яе, шыбнуў з усёй сілы. Палка ўдарыла гуску па галаве, і тая ўпала, задрыгала нагамі. Астатнія, закрычаўшы, уподлет кінуліся ў сад, дзе пасвіўся ўвесь статак. Гуска не падымалася.

Шаройка спалохана аглянуўся. Навокал не было ні душы. Ён хутка саскочыў уніз, азіраючыся, як злодзей, засунуў забітую гуску пад сціртy, прытрусіў саломай. Сам звязаў лейцамі салому, ускінуў на плечы, прайшоў крокаў дзесяць, спыніўся, скінуў цяжкую ношку, зноў аглянуўся. «Загіне, калі ніхто не знойдзе. А цяжкая, тлустая, кілаграмаў пяць чыстага мяса будзе... А калі знойдуць?.. Шум падымуць... Дапытвацца пачнуць... Хто быў сёння на таку? Амелька быў...» Ён ажно успацеў ад гэтай думкі.

«Лепей, каб ніякіх слядоў. Покуль далічацца... Іх нешта больш за сотню развялося... Не пабяднее калгас з-за адной гускі... Усёадно не адну з'ядуць кіраўнічкі. Дзякуй богу, ведаем, як гэта робіцца...»

Забыўшыся, нарэшце, пра Шаройку, Лескавец вырашыў пагаліцца.

Яшчэ некалькі дзён назад у яго раптам з'явілася жаданне згаліць вусы, якімі ён некалі так ганарыўся. Праўда, выканаць гэты намер аказалася нялёгка: кожны раз, калі ён заглядваў у люстэрка, рабілася шкада вусоў, і ён усё адкладваў гэтую падзею. І вось цяпер ён

вырашыў цвёрда зрабіць гэта. Але толькі ён прыладзіўся і пачаў мыліць шчокі, як у хату, задыхаўшыся, ускочыў Федзя Прымак.

— Дзядзька Максім! Амелька забіў калгаснага гусака, схаваў у салому і нясе дамоў!

Максім аслупянеў ад нечаканасці і здзіўлення.

— Які Амелька?

— Шаройка! Давайце хутчэй, вы яго пярэймеце, ён цераз Кацубаў двор ідзе!..

Максім падхапіўся, на хаду выцер далонямі мыла і ў непадпяразанай гімнасцёрцы выскачыў следам за Федзем на вуліцу.

Шаройка вышаў з двара Кацубы і пераходзіў вуліцу з вялікай ношкай саломы за плячыма.

Максім уподбег дагнаў яго.

— Пачакай, Амелька!

Той павярнуўся, і твар яго адразу стаў белым.

— Развяжы салому!

У Шаройкі жаласліва перасмыкнуліся вусны, здалося, што ён вось-вось заплача.

— Максім Антонавіч...

— Развяжы салому, сукін сын! — закрычаў Лескавец і рвануў за лейцы, выхапіў ношку, труснуў яе так, што салома палящела па ветры, а гуска пляснулася на зямлю.

Максім нахіліўся, падняў яе за ногі, паднёс Шаройку пад самы твар.

— Што гэта такое, Амяльян Дзянісавіч, га?

Шаройка маўчаў. Нервова торгаліся яго вейкі і калаціліся рукі, і сам ён увесь згорбіўся, уміг пастарэў на многа год.

— Што гэта такое, я пытаюся? — павысіў голас Максім.

Хвіліну назад на вуліцы было пуста. Цяпер, нямаведама адкуль, з'явіліся людзі. Беглі дзеці, жанчыны, перагукваліся.

— Што там, Галя?

— Амельку злавілі!

— Каго?

— Гусака злавілі!

Рогат. Прарэзлівы свіст хлапчукоў, громкі крык:

— Гу-са-ак!

— Шаройка — гусак!

— А я думала, што гарыць дзе, — смяялася за спіной у Максіма Раіса, нявестка Яўмена Кацубы, — ажно не... Гэта дзядзька Амелька гусяцінкі захацеў...

— Чаго вам смешна, балаболкі? Чалавек можа даўно спрабаваў яе. Калі гэта яго са старшыні знялі!.. Разумець трэба. — Голас Грошыка, быццам сур'ёзны, спачувальны, а на самай справе самы здзеклівы і ўедлівы.

Шаройка не падымаў галавы, стаяў, утаропіўшы вочы ў раскіданую салому, якую варушыў пад нагамі вецер.

«Сапраўды смешна, — падумаў Максім. — Лепшы гаспадар у вёсцы, а да чаго дажыў!» — і яму таксама захацелася пажартаваць.

— Вось што, Амяльян Дзянісавіч, на, браце, твайго гусака і нясі яго ў канцылярыю. Там разбяромся.

Шаройка ўздрыгнуў усім целам, павярнуўся і паволі пасунуўся ў напрамку свайго дома, ледзь цягнучы ногі, нібы да іх прывесілі шматпудовыя гіры. Жонка яго, Ганна, выглянула з брамкі, наўсцяж адчыніла яе і схавалася, саромячыся паказацца на людзі.

За нейкую хвіліну ўсталявалася цішыня.

І раптам Федзя Прымак выгукнуў на ўсю вуліцу, склаўшы далоні рупарам:

— Гу-уса-ак!

11

— Пачакай, я доктару скажу. Ён з табой пагамоніць!

— А ты к доктару схадзі, ён табе ўсё растлумачыць, напіша, куды трэба.

Чалавека пабочнага маглі-б здзівіць такія пагрозы, парады, пачуць якія можна было надзвычай часта і ў Лядцах, і ў Дабрадзееўцы, і ў Радніках. Але свае ведалі, што доктар іх не проста доктар, ён — сакратар партыйнай арганізацыі. А таму ішлі да яго не толькі лячыць прастуды і фізічныя раны, але і раны душэўныя, ішлі са скаргай, прыходзілі за парадамі і проста за цёплым чалавечым словам. І ўсім Ігнат Андрэевіч дапамагаў; вырашаў розныя пытанні, развязваў самыя складаныя вузлы. І для ўсіх знаходзіў ён гэта цёплае слова. Траплялiся, безумоўна, просьбы, якія ён не мог выканаць сам. Тады ён даваў парады, куды звярнуцца, пісаў дэпутатам, у вышэйшыя органы. А, калі трэба было, шчыра і сурова казаў чалавеку, што скарга яго, патрабаванне ці прэтэнзія проста незаконная і не мае ніякай падставы. Часам і добра-ткі прабіраў гэткіх аматараў скардзіцца без належнай на тое прычыны.

Але вось з такімі дзіўнымі просьбамі да яго яшчэ не звярталіся ні разу.

Ён вёў амбулаторны прыём. Чаргі ў яго амаль ніколі не было — хварэлі людзі р'эдка. Ігнат Андрэевіч ганарыўся гэтым і, калі адзін

неразумны інспектар зрабіў яму заўвагу, што мала зарэгістравана на амбулаторны прыём, ён абурыўся страшэнна.

Прышла Насця Рагіна перавязаць палец на руцэ. Ігнат Андрэевіч хацеў быў даручыць гэтую работу сваёй памочніцы, фельчарыцы Раісе Васільеўне, але, глянуўшы на Насцю, зразумеў, што не з-за гэтай маленькай ранкі на пальцы прышла яна. Ён прамыў ёй палец, не спяшаючыся, перавязваў, спытаў, між іншым:

— Як капаюцца бурачкі?

У дзяўчыны заззяў твар.

— Капаем. Не ўпраўляюцца адвозіць. Учора Гайная была, здзіўлялася, вохала, узяўшыся за бакі, Лазавенку лаяла... казала, што нашы буракі лепшыя, чым у іх.

— Буракі ў вас добрыя. Гаварыў мне Макушэнка, што, здаецца, вы вырасцілі рэкордны ўраджай для Беларусі...

Насця сціпла ўсміхалася, не падымаючы вачэй.

— У будучым годзе лепшыя вырасцім!

— Інакш і нельга.

Дзяўчына паднялася, падзякавала за перавязку, аглянулася на фельчарыцу. Тая зразумела, што ў пацыенткі ёсць іншая размова да доктара і хутка выпіла ў суседні пакой. Не ўпершыню бачыць яна гэтыя позіркі!

— Ну, бывайце здаровы, Ігнат Андрэевіч, — развіталася Насця, адступіла на крок да дзвярэй, аднак не выходзіла, нерашуча камечыла ражок хусткі.

— Ты нешта хацела сказаць мне, Насця?

— Хацела, Ігнат Андрэевіч, — яна зрабіла крок да стала, панізіла голас амаль да шэпту: — Ігнат Андрэевіч, калі, можа быць, будуць на ордэн падаваць, вельмі прашу вас — не ўключайце мяне. Не трэба.

У Ладыніна ўзляцелі ўгору кашлатыя бровы.

— Чаму?

— Так. Не заслужыла я. Толькі не гаварыце нікому, што я прасіла. І яшчэ, Ігнат Андрэевіч, даруйце, што я тады так нагаварыла на праўленні на Лазавенку і на Машу. Не падумала я... Да пабачэння, Ігнат Андрэевіч, — і хуценька вышла. Даўно ўжо стары сельскі ўрач, які ведаў усе таямніцы вясковага жыцця і душу селяніна, як сваю ўласную, так не здзіўляўся, ён падхапіўся і, ускудлачыўшы пальцамі свае сівыя валасы, з дакорам падумаў:

«Гэта табе навука, таварыш Ладынін. Век жыві — век вучыся пазнаваць людзей. А ты на лепшую звеннявую рукой махнуў, паверыў, што яна «на славе звіхнулася». Не, не ў славе, відаць, справа... Як я не мог зразумець, што так працаваць, як працавала яна, можа толькі ча-

лавек, які сур'ёзна думае над вынікамі і сэнсам сваёй працы, над жыццём наогул. Аднак чым выклікана такая дзіўная просьба? Вось і паламай цяпер галаву, таварыш сакратар, калі прагледзеў чалавека!..»

Ладынін доўга не мог супакоіцца. Забыўся ён на Насцю і на яе просьбу толькі тады, калі ў амбулаторыю прывезлі цяжка хворага хлапчука з Раднікаў. Хлапчук курчыўся і стагнаў ад болю ў жываце. Ігнат Андрэевіч паставіў дыягназ — апендыцыт, і сам пайшоў да Лазавенкі, папрасіў машыну, каб хутчэй даставіць малога ў раённую бальніцу. Машына вазіла бульбу, і Васіль задуменна пачухаў патыліцу.

Ігнат Андрэевіч нахіліўся цераз стол, палажыў сваю руку на яго руку.

— Васіль Мінавіч, нельга, дарагі мой, задумвацца, калі размова ідзе аб жыцці чалавека. Калі баюся я пасылаць на кані — значыцца, выпадак сур'ёзны.

У гэты-ж дзень была да яго яшчэ адна дзіўная просьба, праўда не такая загадкавая, як Насціна.

Старая жанчына зайшла ў амбулаторыю рашуча, з ваяўнічым выразам на расчырванелым, відаць, ад хуткай хады, твары. Ладынін глянуў на яе і зразумеў, што гэтая таксама не хворая, і падумаў, што прышла яна, відаць, са скаргай на якога-небудзь фінагента.

Ігнат Андрэевіч, ветліва запрасіўшы яе сесці, спытаў:

— З Лядцаў?

— З Лядцаў, таварыш Ладынін... Івана Мурашкі маці буду.

Ігнат Андрэевіч паставіў на стол бутэлечку з лекамі, якую разглядаў, павярнуўся да жанчыны, узяўшы ў рукі фанендаскоп.

— Так. Слухаю вас. Дзе баліць?

— Не хворая я, доктар. Сэрца вось толькі баліць. Са скаргай да вас, таварыш Ладынін. Толькі вы можаце дапамагчы, бо ён-жа камуніст, Іван мой. Вас ён павінен паслухацца, нікога больш не слухае — ні маці, ні бацькі... Хоць ты яму кол на галаве пяшы... Прываражыла яна яго, не іначай, як прываражыла. У яе і маці варажбітка была...

— Пачакайце, — спыніў яе Ладынін. — Аб кім вы гаворыце?

— Ды Клаўдзя Хацкевіч, загадчыца фермы... Гэта-ж падумайце, што робіцца... Хлопец яшчэ дзіця, можна сказаць, толькі з арміі вярнуўся, адзіны сын у бацькоў. Уся надзея была, што жэніцца, добрую маладзіцу ў хату прывядзе... А яна? На шэсць гадоў старэйшая, у яе вунь дачка ўжо ў чацверты клас ходзіць... Хіба яна яму пара?.. Прываражыла, не іначай. Ды яшчэ і выхваляецца... Не пайду, кажа, да гэтай Калбучыхі, гэта мяне так называе... Ён да яе ў прымакі збіраецца, нібы сваёй хаты не мае... Гэта-ж ганьба якая, божачка мой.

Страшна падумаць! Дапамажыце, таварыш Ладынін, пагаварыце вы з ім добранька, прыгразіце па партыйнай лініі...

Ігнат Андрэевіч, з натугай стрымліваючы ўсмешку, глыбокадумна гладзіў наканечнікам фанендаскопа брыво. Просьба нават крыху збянтэжыла яго, ён не ведаў, што адказаць, каб супакоіць жанчыну.

— Пагутарыць я пагутару. Але калі яна яго сапраўды прываражыла... Баюся, што не дапаможа тады ніякая размова.

— Ды вы не толькі з ім, вы і з ёй пагаварыце. Пасаромце яе... Як ёй не сорамна жыццё хлопцу разбіваць? Падумала-б яна сваёй дурной галавой: хіба ён ёй пара? У яе дачка хутка нявестай будзе.

— Добра, скажу і ёй, — паабяцаў Ігнат Андрэевіч і, правёўшы жанчыну, засмяяўся, весела пацціраючы рукі.

«Дзіўная ты жанчына. З'явілася ты перада мной, як з мінулага стагоддзя, насмяшыла... Пагутару, але не так, як ты хочаш... Даведаюся, ці сур'ёзна гэта ў іх... І калі сур'ёзна — прабач мне, паважаная Калбучыха, ці як там цябе, не выканаю я тваёй просьбы...»

На другі дзень, прышоўшы ў Лядцы, Ладынін зайшоў да Клаўдзі ў хату. Пераступіў парог, прывітаўся і ажно на момант спыніўся, здзіўлены і прыемна ўражаны. У хаце было, як перад вялікім святам, — выбелена, вымыта, кожная рэч ззяла чысцінёй і стаяла на месцы. Гаспадыня таксама нейкая незвычайная, у святочным плацці, убачыўшы яго, замітусілася: схапіла чысты ручнік, выцерла ім да бляску вычышчаную і вымытую табурэтку.

— Праходзьце, Ігнат Андрэевіч, сядайце, — і пачырванела, як дзяўчынка.

Доктар змераў яе праніклівым позіркам. Яна апусціла вочы.

— Вось вы якая... Клаўдзя Іванаўна! А помніце нашу першую размову ў вашай хаце?

— Помню, Ігнат Андрэевіч.

— Вось я і гляджу. Не дарма, відаць, адна жанчына сказала мне, што вы варажбітка...

Клаўдзя рыўком узняла галаву, бліснула вачыма.

— Калбучыха? Прыходзіла, значыцца? І, вядома, нагаварыла на мяне?

— Не. Сказала толькі, што вы жыццё яе сыночку разбіваеце... што вы — бабулька, а ён — дзіця яшчэ зусім...

Клаўдзя бязгучна засмяялася: закалыхаліся пад шаўковай кофтачкай яе прыгожыя поўныя грудзі.

— Так і сказала — дзіця?

— Так і сказала: хлапчанё горкае.

Яна раптам села з другога боку стала, падперла шчаку далоняй і, сумна ўздыхнуўшы, прамовіла:

— Не ўлашчыць мне яе...

Ігнат Андрэевіч хвіліну памаўчаў, разглядаючы вазоны на вокнах і на ўслоне. Потым падняўся, палажыў далоню ёй на плячо.

— Паглядзіце на мяне, Клаўдзя Іванаўна, — і калі яна глянула яму ў вочы, ціха спытаў: — Кахаеш?

Яна адказала гучна, весела, задорна крутнуўшы галавой:

— А хіба-ж вы мяне таксама бабулькай лічыце? Я яшчэ так умею пакахаць!

— А ён?

— Ён? Ён першы сказаў мне...

— Сур'ёзна гэта? Верыш яму?

Яна зноў апусціла галаву, зноў пачырванела і доўга маўчала.

— Я сына яго пад сэрцам нашу... — сказала шэптам і, відаць, сама спалохалася: дагэтуль ніхто, акрамя іх дваіх, не ведаў тайны іх кахання. Ігнат Андрэевіч зразумеў гэта і таксама сумеўся: нахмурыў бровы, кашлянуў у кулак і ўзяў у рукі свой чамаданчык.

— Ну, калі так, то застаецца пажадаць вам шчасця. А Калбучыху як-небудзь улашчым... Прабачце, Клаўдзя Іванаўна, што ўмяшаўся ў ваша жыццё.

— Што вы, Ігнат Андрэевіч!.. Вы прабачце... Я рада, вы мяне проста супакоілі. Пасядзіце яшчэ, калі ласка... я вас бражкай пачастую, з мёдам...

— Не, не...

Яна правяла яго да парога і там ціха сказала:

— А за нас вы не турбуйцеся. Мы сёння ў сельсовет пойдзем. Чакаю вось... яго...

— Ну, у такім выпадку мне — дай бог ногі, а то яшчэ па шыі дастану, — пажартаваў Ладынін.

— Ну, як ён? — спытаў Ладынін, кіўнуўшы на дом Шаройкі, калі яны з Лескаўцом праходзілі міма яго.

— Гусак? — Максім засмяяўся. — Не вылазіць з хаты. Кажуць, хварэе. Сімуліруе, безумоўна. Суда баіцца. Хлопцы яму жыцця не даюць. Бачыце, мусіў раней часу ўнутраныя рамы паставіць, каб не было чуваць. А то які ні пройдзе міма — абавязкова гукне на ўсю вёску «Гусак!» А мне, прызнаюся вам шчыра, ужо прыкра і горка слухаць. Усё-ткі, што ні кажы, а Шаройка быў Шаройка... Лепшы гаспадар у вёсцы, бацька афіцэраў Совецкай Арміі, настаўніц... Проста не ўкладваецца ў галаве: чаму чалавек дайшоў да гэтага?..

Максім павярнуўся да сакратара, чакаючы, што адкажа ён, але Ігнат Андрэевіч толькі неазначальна працягнуў:

— М-да-а...

Пагаварылі — і забылі, заняўшыся другімі, больш важнымі і неадкладнымі, справамі. А спраў розных хапала і ў сакратара партарганізацыі і ў старшыні калгаса.

Напомніла ім зноў пра Шаройку Маша. Яна знайшла іх у канцылярыі праўлення і адразу паведаміла:

— Дрэнна Шаройку, Ігнат Андрэевіч. Гавораць, тры дні з ложка не ўстае. Сёння нейкага фельчара з Украіны прывозілі. Вас ён забараніў клікаць. Але, мабыць, вам трэба зайсці, Ігнат Андрэевіч...

— А па-мойму, нявarta, калі не хоча, — запярэчыў Максім. — Ліха яго не возьме! Такі хворы ўсіх нас на сто год перажыве!

— Ты, Максім, дрэнна ўяўляеш, які гэта для яго ўдар.

— Удар моцны, але каб такога дуба паваліць...

— Не, Максім Антонавіч, Маша правільна гаворыць... Як заўсёды! — Ігнат Андрэевіч накінуў на галаву сваю кепачку, схапіў чамаданчык, варухнуў калматымі брывамі.

— Пачакайце мяне хвілiначку.

... Ганна спалохалася, калі ён зайшоў, і не магла прамовіць слова. Ладынін заглянуў у бакоўку і нахмурыўся, Шаройку цяжка было пазнаць: за тыдзень твар яго зарос рудой шчацінай, страшна схуднеў, выцягнуўся, праваліліся вочы. Ён ляжаў з заплюшчанымі вачыма і, здавалася, не дыхаў. Расплюшчыў ён вочы, калі Ігнат Андрэевіч узяў яго руку, каб паслухаць пульс, пазнаў у поўзмроку Ладыніна і ўздрыгнуў, адхіснуўся. Доўга глядзеў на яго, як на прывід, потым хрыпла спытаў.

— Вы?

— Я. Што гэта вы ўздумалі хварэць? га?

Шаройка маўчаў.

— Падводзіце вы мяне. Я думаў, што вы самы здаровы чалавек у сельсовеце, што вам, як кажуць, зносу не будзе. А вы... Дазвольце, паслухаю маторчык, — ён расшпіліў кашулю, прылажыў экран фанендаскопа да сэрца, доўга слухаў. — Ну-у, нічога страшнага. Я баяўся горшага, глянуўшы на вас... Падняцца можаце?

Шаройка моўчкі сеў на ложку.

— Што вы акно заставілі? У вас-жа дыхаць нечым. Гаспадыня! Здыміце гэтую святломаскіроўку і адчыніце фортачку!

Ганна хутка сарвала з акна нейкую коўдру, і святло хлынула напорыстым патокам.

Шаройка знясілена паваліўся на падушку, утаропіўшы аслепленыя вочы ў столь і, пасля доўгай паўзы, спытаў:

— Будзеце судзіць?

Ладынін падняўся з табурэта і адказаў сурова, холадна:

— Вы самі сябе асудзілі, Шаройка.

— Асудзіў, — прашаптаў ён і раптам, закрыўшы далоняй твар, заплакаў, сударгава задрыжэлі яго шырокія валасатыя грудзі.

Ладынін выгнаў.

На двары было ціха і цёпла. Не па-асенняму ярка свяціла сонца. У палісадніку ў Шаройкі цвілі буйныя астры, а пад страхой полымем гарэлі гронкі рабіны. У блакіце неба плыла белая павуціна «бабінага лета». Павуціна вісела на рабіне, на ліпах, усцілала стрэхі. Паветра было, як шкло, празрыстае і звонкае. Далёка за вёскай былі чуваць галасы дзяцей: вярталіся з Дабрадзееўкі са школы вучні.

Ладынін ажно на момант спыніўся, залюбаваўшыся навакольным хараством.

Максім і Маша чакалі яго на вуліцы, сядзелі каля канцылярыі, гутарылі. Сядзелі яны на краях лаўкі, воддаль адзін ад аднаго, і Ладынін, падышоўшы, сеў пасярод, дастаў з кішэні пачак папярос.

— Псіхічная траўма... Нервовае патрасенне... Адным словам, канец Шаройкі...

— Памёр? — спалохана спытала Маша.

— Не. З якой рады! Жывы будзе. Канец Шаройкі — уласніка. Законамерны канец уласніка ў наш час. Ты, Антонавіч, здзіўляўся гадзіну назад: як мог дайсці да гэтага лепшы гаспадар, бацька настаўніц і гэтак далей?.. А я табе скажу: законамерна! І, каб мы з табой былі большыя дыялектыкі, мы павінны былі-б прадбачыць такі канец. Безумоўна, лепшы гаспадар гэты ніколі не зрабіў-бы нічога падобнага ў дачыненні да прыватнай уласнасці свайго суседа, да тваёй і маёй уласнасці. Дапусцім, што гэтую гуску ён забіў выпадкова, як кажа яго жонка. Але каб гэтая гуска была асабіста твая... Нават не гуска, якое-небудзь куранё няшчаснае!.. Запэўняю вас, ён прынёс-бы яго да цябе, папрасіў прабачэння, заплаціўшы, слова не сказаўшы. Але гэта была гуска калгасная, грамадская... А на калгаснае Шаройка глядзеў, як на нічыё, як некалі на лес глядзелі: «Дровы ўкрасці не грэх, гэта — божае». Шаройка не лічыў за кражу, беручы гэтых гусей і парасят, калі быў за старшыню, беручы збожжа — усё, што жадаў. Шаройка не палічыў за кражу захоп поўгектара калгаснай зямлі. А гэта было большае яго злачынства!.. Самае непрыемнае, што, па-сутнасці, і мы не палічылі гэта за кражу. Шаройку прышыў канец, яго, як кажуць, прыбілі да ганебнага слупа,

калі супраць яго чарговай кражы абурыліся ўсе калгаснікі, увесь калектыў...

Максім сядзеў нахіліўшыся і задумліва маляваў галінкай на пяску нейкія адмысловыя фігуры. Усё, што гаварыў Ладынін, было ў нейкай ступені папрокам яму, і ён разумеў гэта.

Ігнат Андрэевіч, нарэшце, прыкурыў папяроску, якую доўга камечыў у пальцах, забыўшыся на яе, смачна зацягнуўся.

12

Будаўніцтва гідрастанцыі ішло марудна. За лета была зроблена толькі палова таго, што планавалася зрабіць. Насыпалі частку земляной плаціны, пракапалі канал для адводу будаўнічых вод, поўнасцю нарыхтавалі лесаматэрыял; апошняе ўзяў на сябе Лазавенка і выканаў дакладна і ў тэрмін. Пачалі будаваць асноўную, драўляную, частку плаціны. Але гэта была самая цяжкая, самая неўладкаваная работа. Трэба было забіць сотні паляў, безліч шпунту, а тэхніка для гэтага была дзедаўская: ручная лябёдка і «баба». У дадатак для ўсяго адсутнічаў вопытны чалавек. Палі часта ламаліся, плюшчыліся, іх прыходзілася выцягваць назад. За дзень забівалі тры-чатыры палі: дзяўчаты (а іх прыходзіла большасць на будаўніцтва) не жадалі круціць лябёдку, людзі аднаго калгаса намагаліся хутчэй уступіць гэтую работу суседзям. На будаўніцтве не было ініцыятыўнай, ударнай групы. Лазавенка пасылаў туды лепшых людзей і лічыў, што яны павінны натхніць, пацягнуць за сабой усіх астатніх. Але ён памыляўся: калгаснікі «Волі» працавалі добрасумленна, нават старанна, як яны наогул прывыклі за два апошнія гады працаваць, але без аганьку, без парывання. Ладынін першы заўважыў гэта і сказаў Васілю:

— Слаба мы падрыхтавалі людзей маральна. Дабрадзееўцы, напрыклад, ведаеш, як разважаюць? У нас, моў, святло ёсць, цыркулярка працуе, ды і малатарню электрычнасцю цягнулі... Нам спяшацца няма куды. Няхай другія больш думаюць, ім больш патрэбна.

А другія думалі яшчэ менш. Флегматычны Раднік неяк сказаў: «Нічога, збудуем. Трывалей будзе стаяць, калі даўжэй будзе рабіцца».

Покуль ішлі летнія палявыя работы, асабліва ўборка багатага ўраджаю, Лазавенка яшчэ неяк мірыўся з такім тэмпам будаўніцтва. Добра яшчэ, што яно не спынілася зусім!

Толькі Машы часам скардзіўся:

— Зімой мне клуб спаць не даваў, а цяпер гідрастанцыя. Як паскорыць будаўніцтва? Парай мне, падкажы.

— Людзей мала, Вася, — ціха ўздыхала Маша.

Васіль злаваўся:

— Глупства! Ты таксама заражаешся настроямі Радніка. Я знайду людзей, няхай толькі скончыцца ўборка.

Сапраўды, адразу-ж, як толькі з поля звезлі апошні сноп, Лазавенка пачаў, як кажуць, «біць ва ўсе званы». Папрасіў Ладыніна паставіць пытанне аб будаўніцтве на партыйным сходзе, сам правёў ва ўсіх вёсках комсамольскія сходы, склікаў паседжанне міжкалгаснага совета.

Лескавец, слухаючы яго гнеўнае выступленне, пацісну ў плячыма.

— Даем табе, Вася, усё, што можам. Вышэй пупа не падскочыш.

Лазавенка абурыўся:

— У гэтым, відаць, і ўсё гора, што ты думаеш, што мне даеш, а не сам будуеш гідрастанцыю — для свайго калгаса, для сваёй вёскі. І, нарэшце, што ты даеш? Кожны дзень прысылаеш новых людзей. І якіх людзей? Лішніх, якім нехапіла работы ў калгасе. Звычайна гэта старыя, інваліды, а больш ходзяць гультаі — абы зарабіць працадзень. Работы там амаль ніхто не ўлічвае, нормаў людзі не ведаюць, што зрабіў — то і добра. Так далей нельга! Трэба пастаянныя брыгады, пастаянныя людзі на чале з брыгадзірам. Трэба добры агульны кіраўнік! Нарэшце, прапаную аб'явіць месячнік. Галоўнае, каб у часе месячніку працавалі на будаўніцтве аўтамашыны. Усе! «Волі», «Партызана», ваша, Кацярына Васільеўна! Сакавітаў абяцаў падкінуць адну машыну... Гэта дасць магчымасць да зімы скончыць земляныя работы.

На здзіўленне Васіля, першай яго падтрымала Гайная. Ён нават усумніўся ў шчырасці яе слоў.

«Дэмагогію разводзіць, старая хітруха».

Але на другі-ж дзень пераканаўся, што Гайная — гаспадыня сваіх слоў. Яна выканала ўсё, што паабяцала, і нават больш: прыслала пастаянную брыгаду, машыну, знайшла добрага майстра па забіванню паляў — старога будаўніка мастоў.

Лазавенка адчуў ранейшую павагу да гэтай жанчыны.

Маша была на паседжанні совета і пасля сказала Васілю:

— Я сама, Вася, падбяру і ўзначалю брыгаду. А то баюся, каб Лескавец не абмежаваўся абяцаннямі, якія ён даў. З ім і цяпер часам бывае гэта.

— Ты ўзначаліш брыгаду? А палявую?

— Я не за брыгадзіра буду... Не палохайся... Брыгадзір там будзе асобна. Я проста так, для каардынацыіі, як ты казаў.

Васіль адлажыў убок газету, якую чытаў, з ласкавым дакорам паглядзеў на жонку. Яна стаяла ў кухні насупраць адчыненых дзвярэй, выцірала рушніком талерку.

— Замест таго, каб вызваліцца зусім, ты нагружаеш сябе лішняй работай.

Яна падышла, паставіла талерку на стол, абаперлася на яго плячо, ціха спытала:

— Чаму табе раптам захацелася, каб я пакінула брыгаду? Ты ведаеш маё жаданне...

— Ведаю. Але падумай, што ў нас за жыццё. Дзе наш дом?

— Раней ты гаварыў наадварот — прыгожае жыццё.

— Прыгожае то прыгожае. Але як будзе, калі з'явіцца ён? Баюся, што ўсёадно табе прыдаецца кінуць, рана ці позна.

— Не бойся, Вася. Я не баюся. У мяне хопіць памочнікаў.

— Упартая ты.

— Не, не ўпартая. Звычайная, Вася.

На паседжанні праўлення Лескавец, прачытаўшы састаў будаўнічай брыгады, упэўнена заявіў:

— Я думаю зацвердзім. Усё ясна.

Але паднялася Маша і прапанавала зусім іншых людзей.

Максім ні то здзівіўся, ні то абурыўся.

— Лепшых работнікаў? Цікава. А хто будзе працаваць у калгасе?

— А будаўніцтва хіба не калгаснае? Вучыся выконваць свае абяцанні. Што ты зноў дзяўчатак пасылаеш? Дарэчы, у нас ніводзін мужчына не ходзіць бульбы капаць, а іншых работ у нас цяпер не так многа. І пры тым большасць людзей я прапаную з маёй брыгады.

Члены праўлення згадзіліся з Машай, прынялі яе прапанову.

Максім не пярэчыў надта, не настойваў, але сядзеў пасля хмурны, бесперапынна смактаў люльку. У душы ён згаджаўся з Машай, але ўсё-ж было непрыемна, што праўленцы падтрымалі яе, а не яго.

«Так дойдзе, што сапраўды яна хутка ўсім пачне кіраваць», — ён хацеў думаць аб Машы няпрыязна, але адчуваў, што не можа, у глыбіні душы было іншае — захапленне ёй побач з выразным пачуццём незадаволенасці сабой. Наогул, у апошні час Максім усё больш і больш быў незадаволены сабой.

13

Сакратар абкома Павел Сцяпанавіч і Макушэнка заехалі адразу на будаўніцтва гідрастанцыі. Доўга хадзілі па пляцоўцы, пераскакваючы цераз груды зямлі, цераз бярвенне, пераходзячы па хісткіх кладках рэчку і канал. Нявопытнаму воку здалося-б, што ўсё тут накідана і насыпана бязладна, што тут непачаты край работы. Але Павел Сцяпанавіч бачыў за сваё жыццё нямала будоўляў і добра ўмеў адрозніць рабочае награмаджэнне ад беспарадку. Будаўніцтва яму падабалася.

Канчаўся месячнік, які быў абвешчаны міжкалгасным советам. За гэты час было зроблена амаль столькі-ж, колькі за ўсё лета. Брыгады калгасаў спаборнічалі паміж сабой (Маша і Ліда Ладыніна, якая стала агітатарам на будоўлі, арганізавалі гэтае спаборніцтва) і працавалі дружна, зладжана. Ліда якраз была на будоўлі, калі яны прыехалі, і спалоханы нечаканым з'яўленнем начальства Дзяніс Гоман, якога пасля ад'езду Сакавітава назначылі прарабам, папрасіў яе сустрэць сакратароў і пагутарыць з імі. «А то я двух слоў не звяжу», — шчыра прызнаўся ён. Ліда сустрэла, як мае быць, прывіталася, не назваўшы сябе, і адразу пачала расказваць пра будаўніцтва, як добры экскурсавод, з экскурсамі ў мінулае і будучае. Дзяніс Гоман хадзіў следам і з ухвалайківаў галавой. Сакратар абкома паслухаў хвілін колькі, са здзіўленнем глянуў на Макушэнку, і раптам спытаў у Ліды:

— А вы, уласна кажучы, хто? Інжынер?

— Не. Настаўніца. Агітатар.

— Агітатар?

— Дачка Ладыніна — Лідзія Ігнатаўна, — пазнаёміў са спазненнем Макушэнка.

— То-та, я чую знаёмыя інтанацыі.

Ліда крыху збянтэжылася і, нібы ўзлаваўшыся, пачала гаварыць пра адмоўнае, што ёсць на будаўніцтве. У Дзяніса Гомана акругліліся вочы, ён пачаў падаваць ёй таямнічыя знакі, тузаў за рукаў: маўчы, моў, што ты робіш?

— ...Крыўдна, таварыш сакратар, глядзець на такую работу. У век атамнай энергіі мы забіваем палі вунь якой машынай, ёй карысталіся яшчэ старажытныя егіпцяне... Штодзень я чую і чытаю: «Сельэлектра», «Сельэлектра»... А што яна робіць гэтая арганізацыя, не разумею? Акрамя інжынераў, якія складалі праект, ды Сакавітава нашага нікога я не бачыла з гэтага «Сельэлектра»...

Павел Сцяпанавіч з павагай глянуў на дзяўчыну.

— Чуў я гэтую крытыку і нават не раз. Правільная крытыка. Нічога не скажаш. Смела адрасуйце яе абкому. Прызнаю, таварышы, дрэнная ў нас кантора «Сельэлекра», слаба мы забяспечылі яе механізмамі. Вы ведаеце колькі па вобласці мы будуем толькі гідрастанцый сельскіх? Восемнаццаць... Ды цеплавыя станцыі... Безумоўна, тым, хто будзе будаваць цераз год-два, будзе значна лягчэй... З'явяцца ў нас і бульдозеры, і экскаватары, і самазвалы. Усё будзе, таварышы! Ды і ў вас, гляджу, не так блага з механізацыяй — чатыры аўтамашыны працуюць...

Сакратара абкома абступілі калгаснікі, уважліва слухалі, задавалі пытанні. Доўга ён гутарыў з імі, расказваў, якую велізарную дапамогу

аказваюць калгасам рэспублікі Цэнтральны Камітэт, Саюзны ўрад, таварыш Сталін.

Лескаўцу паведамілі, што на будаўніцтве сакратар абкома, і ён, заглянуўшы дамоў і загадаўшы маці падрыхтаваць абед, скінуў ватоўку, надзеў новы шынель, падперазаўся па-вайсковаму туга рамнём і паспяшаўся на гідрастанцыю. Ніколі ён не губляўся, калі ў калгас прыязджалі раённыя ці абласныя кіраўнікі. Да іншых часам адносіўся з ірoніяй: ну што-ж, паглядзіце, запішыце, такая ваша работа, не вы першыя, не вы апошнія. А тут і разгубіўся і нават спалохаўся. Што скажа Павел Сцяпанавіч аб калгасе, аб ім самім? Па дарозе ён заскочыў да свайго намесніка Бірылы, загадаў яму неадкладна бегчы на калгасны двор і навесці там «ідэальны парадак».

На будаўніцтва ён з'явіўся ў той момант, калі сакратар абкома ўжо развітваўся з калгаснікамі.

— Што-ж, з'явіўся гаспадар — паглядзім усю гаспадарку, — сказаў Павел Сцяпанавіч, пацiскаючы яму руку. Максім так разгубіўся, што забыўся прывітацца з Лідай, якая стаяла крыху воддаль, каля дзяўчат. Яна не пакрыўдзілася, але, зразумеўшы яго душэўны стан, здзівілася і нават крыху расчаравалася.

Улучыўшы момант, калі ішлі паміж штабялёў бярвення і Максім адстаў, яна сказала яму:

— Ну, трымайцеся, таварыш Лескавец! Тут сказалі, што вы доўга зрывалі будаўніцтва, не давалі людзей.

— Хто сказаў?

— Я сказала, — і яна знікла за штабелем, ціха засмяяўшыся.

Хадзілі доўга. Агледзелі ўсё: сад, канюшні, кароўнікі, свіран, кузню, заходзілі ў хаты да калгаснікаў. Пазнаёміліся з бухгалтэрыяй, зазірнулі ў табелі выпрацоўкі працадзён. І ўсюды Павел Сцяпанавіч рабіў заўвагі, крытыкаваў і тут-жа раіў, як зрабіць лепш. Максіма здзіўляла яго ўменне ўбачыць усё адразу. Шмат што з таго, што ўбачыў сакратар, ён, старшыня, ніколі не заўважаў, хоць глядзеў на ўсё штодзень. Максім чырванеў, бянтэжыўся, покуль не пераканаўся, што ўвогуле Паўлу Сцяпанавічу калгас падабаецца. Гэтае адкрыццё ўзрадавала яго. Ён адразу пасмялеў, набыў ранейшую упэўненасць. Запрасіў сакратароў да сябе ў хату.

— Зойдзем. Абавязкова зойдзем. Як здароўе Сынклеты Лукічны? Чарнічная настойка і зараз, відаць, ёсць? Помню, яна заўсёды частавала ёй, у любы час года, — сказаў Павел Сцяпанавіч.

Макушэнка ўсміхнуўся, успомніўшы сваё.

Сынклета Лукічна праслязілася, вітаючыся з Паўлам Сцяпанавічам, — успомніла, як ён заходзіў разам з Антонам. Але тут-жа смутак

змяніўся радасцю: яна паглядзела на Максіма і ў ім убачыла бацьку яго — спакойнага, упэўненага гаспадара.

Павел Сцяпанавіч уважліва, з жартаўлівай прыдзірлівасцю, агледзеў хату і яшчэ з большай цікаўнасцю перагартаў кнігі, што ляжалі на стале, на падаконніках, на табурэце каля ложка.

— Чытаеш?

— Чытаю.

— Этажэрку трэба зрабіць, або паліцы. Да кнігі трэба адносіцца з павагай, — сакратар абкома яшчэ раз прайшоўся па хаце, спыніўся каля парога, акінуў усё позіркам. — Ну, што-ж, усё, як мае быць... Аднаго толькі нехапае.

Максім насцярожыўся. Маці таксама спынілася на поўдароз.е да стала з талеркай у руцэ. Вочы Паўла Сцяпанавіча смяяліся:

— Маладой гаспадыні нехапае.

Сынклета Лукічна ціхенька ўздыхнула і, паставіўшы талерку, хуценька вышла на кухню.

Максім пачырванеў і адказаў сур'ёзна:

— Будзе з цягам часу, Павел Сцяпанавіч.

Па дарозе з Лядцаў Макушэнка сказаў сакратару абкома:

— Усё-ткі, я думаю, Павел Сцяпанавіч, мы не памыліліся, парэкамендаваўшы яго...

— Лескаўца? Безумоўна, не.

Гаспадарку «Волі» аглядалі да вечара. Тут агляд набыў іншую форму і характар. Ініцыятыву адразу захапіў сам гаспадар, Лазавенка, і расказваў не пра тое, што зроблена, што было перад вачыма, а пра тое, што трэба зрабіць яшчэ, што недароблена, і нават пра тое, што зроблена не так, памылкова, не прадумана. Павел Сцяпанавіч надзвычай добра ведаў гэтага старшыню калгаса (Васіль не раз за два гады быў у абкоме), і яму заўсёды падабалася яго самакрытычнасць. Чалавек ніколі не скрываў сваіх памылак і гаварыў пра іх заўсёды смела і прынцыпова.

Павел Сцяпанавіч нават пажартаваў:

— Мне здаецца, Лазавенка, што ты хочаш паказаць нам не лепшае, што ёсць у калгасе, а ўсё горшае, усе памылкі.

Сакратару абкома амаль не было патрэбы рабіць заўвагі, крытыкаваць, як у «Партызане», ён толькі зрэдку занатоўваў у блакнот просьбы Лазавенкі. А просьбаў было многа. Васіль прасіў новую аўтамашыну, электраматоры, прасіў дапамагчы набыць ізалятары, дрот — усё, што ў той час яшчэ нялёгка было даставаць.

— МТС наша,练 Пракоп Пракопавіч,— звярнуўся Лазавенка да сакратара райкома,— ухіляецца ад дапамогі ў справе механізацыі работ

на фермах. Лічаць, што іх справа — араць ды сеяць. Прыдзецца зноў лаяцца з Крыловічам.

Макушэнка кіўнуў галавой:

— Уладзім, Мінавіч. Заслухаем Крыловіча на бюро.

Ужо ў прыцемках зайшлі ў клуб. Васіль накіраваў хлапчука ў «сілавую» і неўзабаве электрастанцыя дала святло. Загарэліся плафоны-шары пад столлю прасторнай залы. Удзень тут працавалі маляры, і ў клубе моцна пахла фарбамі. Лазавенка раз-по-разу папярэджваў.

— Асцярожна — пафарбавана!

Выходзячы з клуба, сакратар абкома спытаў у Васіля:

— Пра радыё думалі?

— Думаць думалі, але вырашылі адкласці на годзік-другі. Усё адразу не выцягнем, — адказаў Васіль.

— Дарэмна. Ведаеш народную прымаўку? Адклад не ідзе на лад. Раю вам пачаць радыёфікацыю. Дапаможам. Калі трэба, дамо крэдыт. Ёсць добрыя прыёмнікі. Кропак семсот пацягне.

— Нам такі не трэба. У нас усяго...

— А ты глядзі наперад, Васіль Мінавіч, у будучае заглядвай. Здаецца, сам-жа ты і выказваў мне цікавую думку. Помніш?

Васіль і да размовы з сакратаром абкома сапраўды думаў пра радыёфікацыю калгаса. Неяк аднойчы гаварылі яны пра гэта з Ладыніным. Уласна кажучы, Ігнат Андрэевіч першы і пачаў такую размову. Але гаспадарчыя выдаткі — набыццё машын, прадуктыўнай жывёлы, будаўніцтва — раслі хутчэй, чым грашовы даход калгаса, хоць і вырас ён за год ледзь не ў два разы. Таму Васіль надзвычай асцярожна выдаткаваў сродкі, лічачы кожную капейку. Размова з Паўлам Сцяпанавічам, з Макушэнкам акрыліла яго. Ён, як кажуць, загарэўся ідэяй і жадаў як мага хутчэй здзейсніць яе, ён не любіў адкладваць такія справы. Ужо ў той вечар Машы прыйшлося доўга чакаць яго. А ён чакаў Ладыніна (доктар быў на нарадзе ў райздраве і доўга не вяртаўся). Зайшоў да Ладыніных і праседзеў увесь вечар, разам з Лідай падлічваючы, колькі трэба будзе ўстанавіць кропак, колькі пойдзе на ўсё гэта дроту, слупоў, ізалятараў. Ліда захапілася і радавалася, як дзяўчынка, быццам радыё належала зрабіць нейкі незвычайны пераварот у яе жыцці.

Позна ўначы Васіль спяшаўся дамоў, у Лядцы. У полі было цёмна — хоць вока калі, прарэзліва свістаў асенні вецер, час-ад-часу біў у твар буйнымі кроплямі дажджу. Васіль не заўважаў ні дажджу, ні гразкай дарогі, яму хацелася як мага хутчэй расказаць пра ўсё Машы. Але яна ў першыя хвіліны крыху сапсавала яго светлы настрой. Выслухаўшы пра радыё, яна спакойна сказала:

— Вось і нам-бы ад вас правесці.

Яго закранула яе халодная, карыслівая разважлівасць.

— Каму гэта «нам»?

Маша здзівілася.

— Нашаму калгасу.

Васіль адчуў раптам нядобрае пачуццё пратэсту супраць таго, што яна ўпарта не хоча лічыць сваім калгасам яго калгас, якому ён аддае ўсе сілы і веды.

Такое пачуццё часам узнікала і раней; Васіль не разумеў яго, не разумеў прычын, якія яго выклікаюць. Ён заўсёды шчыра зычыў «Партызану» поспехаў, шчыра дапамагаў яму ўздымацца. Ён ганарыўся, што жонка яго працуе там брыгадзірам. Нарэшце, ён цвёрда быў перакананы, што ў будучым калгасы іх стануць адной гаспадаркай. Значыцца, і пачуццю такому не павінна быць месца ў яго сэрцы. Аднак яно час-ад-часу возьме і варухнецца, як перажытак нейкай чужой псіхалогіі. Вось і зараз... Ён успомніў словы сакратара абкома і яму стала сорамна за сваё недарэчнае пытанне і за гэтае пачуццё. Ён ласкава кіўнуў Машы галавой:

— А гэта як вы самі пажадаеце.

Маша, усміхнуўшыся, клапатліва падсунула бліжэй да яго скавародку са смажаным салам.

— Не, сур'ёзна, ты згодзен даць нам радыё?

— Зусім сур'ёзна. Дапамагу нават.

Цяпер і ён узрадаваўся магчымасці яшчэ раз дапамагчы «Партызану». Праўда, гэта была крыху самалюбівая радасць, але шчырая.

— Цудоўна, Вася. Цяпер мне застаецца толькі загітаваць Лескаўца. Баюся, што ён супраць будзе... Пачне даводзіць, што рана яшчэ, што эканоміка не дазваляе, грошай няма... Скупы ён стаў.

## 14

На здзіўленне Машы, Максім не проста адразу згадзіўся праводзіць радыё, а загарэўся гэтай ідэяй магчыма нават мацней, чым Васіль. Ён некалькі разоў перапытваў:

— Дык, кажаш, Лазавенка твой згодзен? Малайчына! — і ажно цёр ад задавальнення рукі, забыўся на сваю люльку, якая патухла на заплямленым чарнілам стале. Убачыў цераз акно хлапца, які бег паўз канцылярыю, гукнуў:

— Федзя! Запражы мне выязнога і падай сюды! — і, павярнуўшыся да Машы, растлумачыў: — Паеду да твайго Лазавенкі. Не хочаш са мной?

— Не, не хачу.

Яна пазбягала заставацца з ім адзін-на-адзін.

Ад Лазавенкі Максім паехаў у райвыканком, выпісаў лесу на слупы, папрасіў крэдыт на набыццё дроту і іншага абсталявання. Крэдыту яму не далі. Аднак гэта не астудзіла яго запалу. Вярнуўшыся дамоў, ён склікаў агульны сход і прапанаваў павялічыць адлічэнні ад грашовага прыбытку ў недзялімы фонд. Калгаснікі згадзіліся, пачуўшы пра радыё.

Ён сам паехаў v лес, як тады зімой, і працаваў там з лесарубамі, працаваў так, што ўсе слупы былі нарыхтаваны за нейкіх два дні. Ён мабілізаваў для перавозкі іх усё: машыну, коней, валоў. Ездзіў з машынай сам. Пасля абвясціў нядзельнік, каб паставіць слупы.

Дзень быў сухі і халодны. Уначы першы мароз абпаліў асеннія травы. Узышло сонца — прыкмета марозных дзён, адтала зямля, але падняўся сівер, праціна́ў холадам да касцей. Паветра было празрыстае, халоднае. Па небе ляцелі хмаркі, таксама на выгляд халодныя і непрыветлівыя. Злятала з прыдарожных бяроз апошняе лісце: ужо зусім голы стаяў алешнік каля лугу.

Пуста было ў полі — ні жывёлы, ні людзей. Толькі ўзвышаліся доўгія сцірты саломы, а ў лузе — высокія стагі. Пуста было з раніцы і на шляху паміж Лядцамі і Дабрадзееўкай. Сіратліва ляжалі паўз дарогі жоўтыя сасновыя слупы. Але крыху пазней ажыла дарога: высыпалі з Лядцаў людзі, расцягнуліся групамі ажно да Дабрадзееўкі. Ішлі з рыдлёўкамі за плячыма, з жардзінамі і лейцамі, заварушыліся каля слупоў. І вось неўзабаве падняўся з зямлі і стаў, як вартавы, першы слуп, за ім — другі, трэці...

Дзяўчаты і жанчыны капалі ямы, хлопцы ставілі слупы. Але першую яму, каля самага дабрадзееўскага саду, Максім капаў сам. Ён скінуў ватоўку, шапку і працаваў у адной гімнасцёрцы. У другіх месцах яшчэ, паразважыўшы і закурыўшы, мужчыны толькі выцягвалі з зямлі праектныя калкі, а ён ужо выкапаў яму, глыбейшую нават чым трэба. Кінуў рыдлёўку, скамандаваў хлопцам ставіць слуп, і сам першы схапіўся за яго, пэцкаючы ў смалу рукі, гімнасцёрку, штаны. Да наступнай, выкапанай дзяўчатамі ямы, ішоў такім крокам, што астатнія з яго брыгады ледзь паспявалі за ім бягом. Такі тэмп работы хутка перадаўся ўсім. Аднак усёадно дзяўчаты адставалі, і Максім зноў хапаўся за лапату.

Машы заўсёды падабалася бачыць яго ў працы: працаваў ён прыгожа, рытмічна, з вялікім натхненнем і ўвесь у гэтыя хвіліны неяк пераўтвараўся, аддаваўся працы, забываючыся на ўсё.

Калі стаялі ўжо амаль усе слупы, прыехала Гайная. Прыехала на бліскучым вараным стаенніку, у двуколцы. Сама трымала лейцы і

сядзела гордая, паважная, як на троне. Апранута яна была па-святочнаму: новае паліто, вялікая шарсцяная хустка.

Спынілася каля Максіма — засмяялася.

— Цябе не пазнаць, Антонавіч. А я вось бачыш, не вытрымала. Патурбавалы вы мае старыя косці. Сказалы мені, шчо вы стовпы ставіце, і не стала мне ні спакою, ні сну нядзельнага, ні яды. Што-ж цэ, думаю, таке — лінію праводзяць, а я нічагусенькі не ведаю. Ці не хочуць яны, бісавы дзеці, абдурыць мяне, старую жынку? Вам пальцы ў рот не лажы, асабліва дружбаку твайму, Лазавенку... З рукой адхопіць. Не, прыязджаю — радыё кажуць. Вы лепей кароў добрых купілі-б.

— Кароў, кароў! Табе, Кацярына Васільеўна, толькі каровы і сяняц-ца. Гэта — культура, прагрэс... А карова ёсць карова. Лазавенка купляў іх у цябе, дык ты запрасіла, як цыган за бацьку. За адну тваю карову гложна тры радыёвузлы збудаваць.

Максім абтрос з рук мокрую зямлю, прывітаўся і, абцёршыся на двуколку, пачаў набіваць люльку.

Гайная па-жаночаму выцерла далоняй твар, вусны, нібы хацела сцерці хітрую ўсмешку, што стаілася ў маршчынках пад вачыма.

— А ты як думаў? Лазавенка твой хацеў нізашта ўзяты, шчоб пасля пасмяяцца з мяне. Не прадам я яму! А ты, калі хочаш, прыязджай, падарую такіх двух цёлачак, якіх ты і ў Караваеве не дабудзеш.

— За колькі тысяч?

— Што ты адразу за тысячы? Не бойся, паладзім, як кажуць, свае людзі — злічымося.

— Не жартуеце, Кацярына Васільеўна?— сур'ёзна спытаў Максім, незаўважна перайшоўшы на «вы».

— Што-б я малодша була рокiв на дваццаць, то, мабуць, і пашуткавала-б.

— Дайце руку.

— На, будзь ласкаў. Толькі ў мяне да цябе таксама просьба. Дай на тыдзень машыну. Буракі на завод перавезці. А то на адной ніяк не ўпраўляюся.

Максім адхапіў руку, пачырванеў і злосна вылаяў сябе: «Дурань! Папаўся, як неразумны карась. Вакол пальца абвяла. Да завода семдзесят кіламетраў. Эх, чорт!»

Нічога ён не шкадаваў так, як аўтамашыны, якую ім выдалі па ўказанню сакратара абкома (Павел Сцяпанавіч дакладна выканаў сваё абяцанне). Такой машыны няма яшчэ ні ў адным з навакольных калгасаў. У многіх — інваліды вайны, а ў яго — такі прыгажун: но-

венькі апошняга выпуску «ЗІС-150». Максім прыдзірліва сачыў за спідометрам, шкадаваў праехаць лішні кілометр. І раптам — на тыдзень на такую адлегласць! Ды яна дзве тысячы накруціць! Гайная зразумела яго пачуцці і глядзела паверх яго галавы на людзей, што ставілі чарговы слуп.

— Гарна працуюць твае хлопцы! Люба паглядзець! Сёння, мабудзь, скончаце? Запрасі тады хоць музыку паслухаць.

Максім не дайшоў да сэнсу яе слоў. Даваць машыну было шкада, але і псаваць суседскія адносіны таксама не хацелася, ды і каровы ў яе калгасе сапраўды адменныя, няхай-бы нацешылася гэтая неспакойная Клаўдзя з пародзістых цёлак.

— На тры дні, Кацярына Васільеўна.

На больш машына ёй і не трэба была, але прасіла яна з «запасам», па сабе ведаючы, што даваць такія рэчы нялёгка.

— Скупы ты становішся, Антонавіч. У Лазавенкі вучышся. Той выдае сябе за шчодрага, а на справе скупей за мяне, грэшную жынку.

Манцёры раённага радыёвузла працавалі ў «Волі». Намаганні Максіма хутчэй працягнуць лінію да Лядцаў былі дарэмныя. Хлопцы былі нявопытныя, працавалі марудна, кінуць работу ў «Волі» баяліся — гаспадар радыёвузла быў Лазавенка.

Максім злаваўся, лаяў Васіля, успамінаў словы Гайнай:

«Эгаіст. Хапуга. Пра сябе толькі і думае».

У Дабрадзееўцы ўжо шмат у каго гаварыла радыё, і гэтая акалічнасць проста такі нервавала Лескаўца. Набліжаўся Кастрычнік, да вялікага свята заставаліся лічаныя дні. Далей чакаць было нельга.

Максім паехаў у абласны цэнтр, прывёз сваіх манцёраў, угаварыў іх працаваць ад цямна да цямна.

Нарэшце, лінія была праведзена. Увечары Максім вынес са сваёй хаты вулічны рэпрадуктар — вялізную белую трубу. Ніхто, акрамя калгаснага рахункавода, не ведаў, калі ён купіў гэтую рэч. Манцёры ўжо ў прыцемку ўмацавалі рэпрадуктар на слупе, што стаяў пасярод вёскі, каля крамы, недалёка ад яго, Максімавай, хаты. Неўзабаве вакол гэтага слупа сабраўся натоўп — спачатку збегліся дзеці, потым сышлася моладзь і, нарэшце, пачалі паважна падыходзіць дарослыя.

Жартавалі, смяяліся:

— Ну і труба!

— Дзе ён здабыў яе?

— Ці не ў Гомелі ты, Антонавіч, зняў яе? Я там на рагу бачыў такую.

— Зажывем, браткі, пад музыку.

— Да музыкі святло трэба.

— Будзе і святло. Не ўсё адразу.

— Такая рэч усіх баб разбудзіць раніцой.

— Бабы І так устаюць, гэта вас, гультаёў, будзіш — не дабудзішся.

— А ты думаеш, яна будзе моцна грымець? Гэта табе не ў горадзе. Тут, брат, энергія не тая. Можа, яна і зусім не загаворыць. Дзе старшыня? Чаго ты, Максім, дарэмна народ склікаў?

— Хто цябе клікаў? Навошта ты тут?

Максім моўчкі хадзіў вакол натоўпу, прыслухоўваўся да размоў, да жартаў, стрымліваў сябе, каб не «асадзіць» вось такога «тэарэтыка»-жартаўніка. Час ішоў, даўно была скончана ўся работа, злез са слупа манцёр, а рэпрадуктар маўчаў. Максім хваляваўся, ён паслаў у Дабрадзееўку верхам на кані Аляксея Прымака з запіскай Лазавенку — прасіў падключыць іх лінію. І вось няма ні пасыльнога, ні радыёгукаў.

Максім успомніў сваю размову з Ладыніным. Ён расказаў сакратару пра свой намер павесіць на вуліцы магутны рэпрадуктар. Ігнат Андрэевіч з незразумелай усмешкай паківаў галавой:

— А ці варта гэта рабіць? Людзям спаць не будзе даваць. Ёсць-жа магчымасць устанавіць кропку ў кожнай хаце. Лазавенка, напрыклад, супраць такіх рэпрадуктараў.

— Людзі прывыкнуць, — адказаў тады Максім і, ад таго, што Лазавенка супраць, цвёрда вырашыў здзейсніць свой намер.

Цяпер ён хваляваўся. «Няўжо не падключаць?»

І раптам у вышыні затрашчэла, з рэпрадуктара вылецеў нейкі дзіўны гук і ўсё сціхла зноў.

У натоўпе засмяяліся.

Але праз хвіліну нечакана, выразна і гучна загрымела музыка. Бас пачаў спяваць арыю Сусаніна (Максім любіў музыку і ведаў нямала арый). Людзі заварушыліся, загаманілі. Максім увайшоў у натоўп, каб паслухаць, як рэагуюць на гэта калгаснікі. Але аркестр і Сусанін заглушалі словы, ды і людзі змоўклі, з цікаўнасцю ўслухоўваючыся ў спеў.

Максім адышоў убок, да сваёй хаты. На адлегласці музыка здалася яшчэ больш выразнай і прыгожай.

Задаволены, радасна ўзрушаны, ён пайшоў яшчэ далей, на край вёскі. Спыніўся, калі рэпрадуктар раптам сціх. Насцярожыўся. Але праз момант пачалі тлумачыць лібрэта оперы, і ён з краю вёскі добра чуў кожнае слова. Яго апанавала дзіўнае захапленне. У гэты момант ён нагадваў хлапчука ў вялікай радасці: яму хацелася скакаць і куляцца цераз галаву... Але замест гэтага ён пайшоў далей у поле, па дарозе на Дабрадзееўку. Ноч была ядраная, злёгку марозіла. Неба

было густа ўсеяна яркімі зоркамі. Толькі там, дзе працякала туманная рака Млечнага шляху, зоркі былі цьмяныя і мільгалі не так яскрава. Над галавой у Максіма гулі правады, якія неслі з Дабрадзееўкі ў Лядцы гэтую цудоўную музыку.

Ён адышоў ужо далёка, а гукі радыё ўсё яшчэ даляталі да яго, ледзь прыкметна слабеючы. Спявала Антаніда — ляцелі ў наваколле яе сумныя словы жальбы па бацьку. На поўдарозе, каля сасонніку ён яшчэ добра разбіраў, што перадавалі. Скончыўся другі акт оперы, абвясцілі перапынак. Пачалі літаратурную перадачу. Максім доўга стаяў пасярод поля, слухаў апавяданне Чэхава, смяяўся, смачна зацягваючыся люлькай. Калі пачалі перадаваць трэці акт, не вытрымаў зноў — пайшоў далей, заціснуўшы пальцамі вушы. Шпарка дайшоў да дабрадзееўскага саду, адняў ад вушэй пальцы. Чуваць Невыразна, але чуваць! Засмяяўся і, павярнуўшыся ў бок Дабрадзееўкі, голасна сказаў:

— Слухай, таварыш Лазавенка!

15

Агляд клуба пачыналі з невялікага ўтульнага файе, упрыгожанага партрэтамі, плакатамі, святочнай насценнай газетай, што займала самы шырокі прасценак паміж вокнамі.

Моладзь тоўпілася перад, газетай, жартавала з трайных карыкатур на Івана Гомана, на Радніка, на Гольдзіна. Старэйшыя мужчыны мацалі падаконнікі, сцены, афарбаваныя маслянай фарбай, з ухвалайківалі галовамі. І ўсе, маладыя і старыя, з захапленнем спыняліся пры ўваходзе ў залу, залітую яркім святлом ад мноства лямпачак над сцэнай — лямпачкамі былі акаймаваны вялікія партрэты Леніна і Сталіна. З любоўю і ўдзячнасцю спыняліся позіркі калгаснікаў на гэтых дарагіх партрэтах.

Клуб адкрылі ў той-жа вечар. Упершыню ў ім збіраліся людзі. І хоць многія з іх былі тут штодзень у часе будаўніцтва, будавалі самі, аднак, разглядвалі тварэнне сваіх рук з цікавасцю і задавальненнем.

Косця Раднік, загадчык новага клуба, як гаспадар сустракаў гасцей і быў надзвычай ветлівы, як ніколі раней. Асабліва ён падкрэсліваў гэтую ветлівасць сваю ў адносінах да людзей з іншых вёсак.

У файе гаманілі, віталіся, віншавалі адзін аднаго з вялікім святам, а Косцю — з новым клубам. У залу заходзілі моўчкі, на цыпачках; там слухалі па радыё даклад Молатава.

Урачыстае паседжанне адкрыў Байкоў. Ён прыкметна хваляваўся, глядзеў у паперку, каб не зблытацца. Слухалі яго, стаіўшы дыханне,

быццам баяліся праслухаць нейкае надзвычайнае паведамленне. У зале было цесна, месца, нехапала, і шмат людзей стаяла ў праходзе.

Насцю Рагіну ўпершыню абралі ў прэзідыум. Яна ўзышла на сцэну ў ліку апошніх і мусіла сесці побач з Васілём у другім радзе, бо астатнія месцы былі ўжо заняты. Яна не ведала, як трымацца, куды схаваць рукі. Тысяча вачэй глядзела з залы, і ёй здавалася, што ўсе яны глядзяць на яе. У першым радзе сядзела Маша і таксама пазірала ў яе бок. Маша была ў прыгожым цёмназялёным шарсцяным плацці. Насця чула, як шапталіся перад паседжаннем жанчыны: «Васіль апрануў сваю, як каралеву». Сапраўды, Маша выглядзела, мабыць, прыгажэй за ўсіх. Але Насця не зайздросціла ёй, не было ў яе сэрцы больш пакутлівага пачуцця рэўнасці. Яна не адважвалася павярнуць галавы і глянуць на Васіля. А раптам Маша падумае, што яна знарок села побач? «Чаму яе не выбралі ў прэзідыум? Яна больш дастойная, чым я». Насці даўно хочацца сардэчна :і шчыра пагутарыць з Машай, расказаць, што яна пакахала другога чалавека, такога-ж разумнага і добрага, як Васіль, і што ён таксама кахае яе. Вунь ён сядзіць разам з мужчынамі, сціплы, непрыкметны, хоць на грудзях у яго тры баявыя ордэны і ведае ён, можа, не менш, чым доктар. Гэта ён, яе аграном, яе Павел, навучыў Насцю сціпласці, разумна высмеяўшы яе мары пра асабістую славу.

«Сапраўдны герой той, хто менш за ўсё думае пра сваю славу, а больш думае пра свой абавязак перад народам, перад Радзімай», — не адзін раз гаварыў ёй Павел на спатканнях. Цікава ён умее расказваць. Яго таксама дарэмна не абралі ў прэзідыум.

Да трыбуны падышоў Мяцельскі, прапанаваў ганаровы прэзідыум. Узнялася магутная людская хваля, ударыла громам воплескаў. Насця яшчэ лепей бачыла цяпер твары людзей, асветленых не толькі святлом лямпачак, але і святлом вялікай радасці і ўрачыстасці. Падняўшыся, людзі нібы наблізіліся да сцэны. Бліжэй за ўсіх да яе, Насці, была цяпер Маша. Яна апладыравала, высока падняўшы рукі. Позіркі іх сустрэліся, і Маша ўсміхнулася ёй добрай ласкавай усмешкай. Нібы гарачы струмень, змыла гэтая ўсмешка ўсё дробязнае з Насцінай душы, усе хістанні і сумненні. Сэрца яе напоўнілася захапленнем людзьмі, якія так горача вітаюць свайго настаўніка і правадыра.

Ладынін гаварыў пра сусветную перамогу Совецкага народа ў вайне, пра новыя велічныя перамогі на фронце мірнага змагання, на фронце сталінскай пяцігодкі. Гаварыў ён, як заўсёды, спакойна, пераканаўча, амаль не заглядваючы ў тэзісы, што ляжалі на трыбуне, падмацоўваў асобныя палажэнні прамовы жывымі і блізкімі прыкладамі. За тыдзень да свята Ігнат Андрэевіч наведаўся ў Мінск. Там ён не

толькі зрабіў сваю справу, але сустрэўся з многімі знаёмымі, сябрамі — урачамі, будаўнікамі, партыйнымі работнікамі, агледзеў усе новабудоўлі, пазнаёміўся з генеральным планам рэканструкцыі сталіцы. Чалавек дапытлівы і энергічны, ён цікавіўся ўсімі галінамі featureнастайнага багатага жыцця і вельмі добра ведаў, што робіцца ў краіне для ажыццяўлення сталінскай праграмы пабудовы комунізма. Пра ўсё гэта ён расказваў людзям. Голас яго гучэў крыху незвычайна — урачыста і ўсхвалявана.

— ...Паглядзім, таварышы, што даў Кастрычнік сялянству. Мы не будзем далёка хадзіць за прыкладамі. Мы паглядзім на жыццё нашага сельсовета, сваіх калгасаў, на наша ўласнае, таварышы, жыццё. Няхай старэйшыя, людзі майго ўзросту, успомняць мінулае, успомняць шлях ад Кастрычніка семнаццатага года да сённешняга дня. Гэта шлях ад паднявольнай рабскай працы на пана Ластоўскага да радаснай працы ў калгасе, ад галечы — да сапраўды чалавечага жыцця... Гэта шлях ад лучыны да вось такіх лямпачак, якія наш народ называе лямпачкамі Ільіча, бо запаліў іх для народа вялікі Ленін. Гэта шлях ад жабрацкай леры да радыё ў кожнай хаце, да рэпрадуктараў, што грымяць на ўсё наваколле... Шлях ад карчмы Залмана да вось гэтага светлага і прасторнага клуба...

Старыя ў зале пераглянуліся, паківалі галовамі: усё ведае, нават Залмана ўспомніў, на якога ўсе даўно забыліся.

Побач з Васілём, з другога боку, сядзеў Піліп Раднік, старшыня «Зоркі». Сеўшы ў прэзідыум, ён бесперапынна круціў ва ўсе бакі галавой, любаваўся клубам. Нарэшце павярнуўся да Васіля, прашаптаў:

— Але, Мінавіч, прыемна пасядзець у такім клубе. Праўда?

Васіль іранічна ўсміхнуўся.

— Безумоўна, прыемна, але яшчэ прыемней было будаваць яго.

— Тонкі намёк, га? Што, брат, зробіш? Несвядома людзіна, як кажа Гайная.

— Велізарныя разбурэнні прынесла нам вайна, фашысцкае нашэсце, — тымчасам прадаўжаў Ладынін. — З вас кожны помніць, што ўяўляла Дабрадзееўка пасля вызвалення. Папялішча. Сем хат засталося, якія не знішчыў пажар. А ці даўно гэта было? Не, папялішча помняць дзеці, якія ў гэтым годзе пайшлі ў першы клас. Многім здавалася тады, што спатрэбіцца нямаведама колькі часу, каб адбудаваць усё, што мелася да вайны. І вось сёння мы бачым, што зроблена больш, што сталі мы багацейшымі і культурнейшымі. І гэта зроблена ўсяго за нейкія тры гады... Нялёгкія, таварышы, гады, не будзем утойваць праўды... Зроблена гераічнай працай простых людзей, учарашніх салдат, удоў... Зроблена дзякуючы вялікай дапамозе партыі і Савецкай

улады. Без гэтай дапамогі доўга прышлося-б сядзець нам у зямлянках. Вось нашы гурткоўцы прынеслі адну рэч, — Ладынін нахіліўся і дастаў з-пад трыбуны капцілку са снараднай гільзы.

У зале засмяяліся.

— Бачыце, ужо смешна. А ці даўно гарэлі ў нас гэтыя «маргалкі»? Я прыехаў нядаўна, паўтара гады назад, а яшчэ бачыў іх у Дабрадзееўцы. І вось на іх ужо забыліся. Яны выклікаюць смех. Хутка забудуцца на гэтую «тэхніку» і ў Лядцах і ў Радніках — у тысячах другіх такіх-жа вёсак. Але электрычнасць заменіць не толькі лямпу!

Гаворачы пра дасягненні калгасаў, Ігнат Андрэевіч называў лепшых людзей: брыгадзіраў, звеннявых, радавых калгаснікаў — чыёй працай славяцца калгасы. Назваў Машу, Насцю Рагіну, Клаўдзю Хацкевіч, Івана Лескаўца, Гашу Лескавец, Ганну Лескавец... Многіх Лескаўцоў, многіх людзей з «Партызана».

Максім адчуў сябе пакрыўджаным: яго імя Ладынін не назваў.

«Упарты стары. У такі дзень, на такім сходзе і то паскупіўся добрае слова сказаць. Выходзіць, людзі працавалі, а старшыня гуляў».

Але Ладынін сказаў і пра іх — пра яго і Васіля, добра сказаў, цёпла, калі гаварыў аб росце ў вёсцы новай інтэлігенцыі, новай культурнай сілы.

Піліп Раднік, уздыхнуўшы, сказаў да Максіма:

— Значыцца, інтэлігент? Што-ж, з выгляду падыходзіш, — Раднік акінуў яго з галавы да ног крытычным позіркам. — Толькі лаешся ты здорава... Я аднойчы чуў, як ты хлопцаў сваіх крыў каля кустарнага. Люба паслухаць.

Максім спалохана агледзеўся — ці не чуе хто? Упершыню яму стала сорамна з-за таго, што ён часам у злосці ўжывае залішне моцныя слоўцы.

«Стары тхор! Заўсёды атруціць настрой... Аднак трэба прасачыць за сабой. Сапраўды няёмка...»

Раднік не сунімаўся:

— Жарт жартам, а дарога ў вас, хлопцы, шырокая. Ой, шырокая! Каб мне зараз вашы гады, я, можа, каго-небудзь і ззаду пакінуў, на буксір узяў-бы. Дарэмна вы выдумалі, што Раднік у кусты ад жыцця хаваецца.

Раднік не мог гаварыць шэптам і бубніў, быццам сыпаў боб. Байкоў павярнуўся, пагразіў яму алоўкам.

Ладынін панізіў голас.

— Таварышы! Не ўсе яшчэ раны вайны мы залячылі. Цяжэй за ўсё залечваюцца чалавечыя раны. Не высахлі яшчэ слёзы ўдоў і сірат, не загаіліся раны інвалідаў. А там, — голас яго загучэў з ранейшай сілай,

— за акіянам, магнаты Амерыкі рыхтуюць новую вайну. Там размахваюць атамнай бомбай, пагражаюць ёй нам. Выступаюць розныя сенатары... прапануюць скінуць гэтую бомбу на нас, на нашых матак і дзяцей, на нашу мірную працу. Але савецкіх людзей не запалохаюць гэтыя: пагрозы, мы супакоілі нямала падобных вар'ятаў. Мы не дазволім пачаць новую вайну. Не дазволім разбурыць мір, які мы заваявалі такой дарагой цаной для ўсяго чалавецтва.

На людзей у зале нібы ўпаў раптам цень — цень успамінаў: пацямнелі твары. Многія жанчыны паднеслі да вачэй хусткі.

Васіль на адзін міг заплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой забітую літоўскую дзяўчынку, пачуў голас Варанкова. Маша ў гэты час думала аб сваім будучым сыне: няўжо парушаць яго мірны сон, яго шчасце?

Не, гэтага не павінна ніколі здарыцца! Ніколі!

— ...З кожным днём расце дэмакратычны лагер, лагер міру і свабоды і з кожным днём слабее лагер імперыялістычны, лагер вайны, — скончыў свой даклад Ладынін. — Мы жывем у такі век, калі ўсе дарогі вядуць да камунізма. Народы свету з надзеяй і ўдзячнасцю глядзяць сёння на нас, савецкіх людзей, на таварыша Сталіна, вялікага сцяганосца міру!..

Выступалі школьнікі, паказвалі партызанскую п'есу. Ігралі падзіцячаму наіўна, з суфлёрам, які сядзеў за сцэнай і словы якога даляталі да гледачоў раней, чым іх паўтаралі акторы. Але прысутныя надзвычай бурна рэагавалі на падзеі, якія адбываліся ў п'есе: абураліся супраць фашыстаў і здрадніка, апладыравалі, радаснымі выгукамі сустракалі з'яўленне партызан — хлапчукоў і дзяўчат у дзіўнай, не па росту, вопратцы, з самаробнымі аўтаматамі на шыі і гранатамі збоку. Здавалася, што людзі не п'есу глядзяць, а перажываюць усё гэта ў сапраўднасці, як перажывалі некалькі год назад. У Міхея Вячэры нават слёзы стаялі ў вачах.

Малодшыя вучні дэкламавалі вершы аб Сталіне, аб Радзіме, аб героях вайны. У вуснах дзяцей кожнае слова верша набывала нейкую асаблівую прывабнасць, сілу ўздзеяння на пачуцці слухачоў.

Пасля выступаў калгасны хор пад кіраўніцтвам Ніны Мяцельскай. Праўда, на сцэне яна не дырыжыравала, а спявала разам з усімі. Прыгожы быў голас у жонкі дырэктара школы, але дарэмна Ліда ўгаварвала яе калі-небудзь выступіць з сольным спевам. З-за свае сарамлівасці Ніна Аляксееўна не магла адважыцца на гэта, хоць ёй і вельмі хацелася выпрабаваць свае здольнасці.

З сольнымі нумарамі выступалі Ліда і Наташа Гоман. Ніна Аляксееўна выявіла ў гэтай непрыгожай дзяўчыны незвычайныя вакальныя здольнасці.

Весела праходзіў гэты перадсвяточны вечар у новым клубе! Нават тады, калі пачаліся танцы, людзей не надта паменшала. Касцю Радніку прышлося прыкласці нямала намаганняў і вынаходства, каб вынесці і размясціць у файе лаўкі і ачысціць месца для танцаў. Старыя расселіся на сцэне паглядзець, як будзе танцаваць моладзь. Толькі Ладынін і Мяцельскі зніклі. Яны сядзелі ў бібліятэчным пакоі і змагаліся ў шахматы.

— Ну, добра, усё гэта добра, дарагі Ігнат Андрэевіч. Але далей што? — прымаўляў пасля кожнага ходу «праціўніка» дырэктар школы.

Ладынін ціхенька, без слоў, напяваў то вясёлую, то сумную мелодыю, у залежнасці ад таго, які рабіў ход «паважаны Рыгор Усцінавіч». Вакол іх століка тоўпілася чалавек дзесяць «балельшчыкаў», і кожны з іх лічыў сваім абавязкам падказаць аднаму з ігракоў, параіць.

Максім увесь вечар танцаваў з Лідай. Ён чуў, як аб іх з захапленнем шапталіся жанчыны. «Вось пара, дык пара. Быццам раслі адзін для аднаго!» — і любаваўся Лідай і сабой. У душы ў яго расло адчуванне, што вечар гэты будзе найшчаслівейшым у яго жыцці. Ліда, як ніколі, адносілася да яго прыветліва, ласкава, не кпіла, не насмешнічала, як звычайна. У часе танца размаўляла сур'ёзна і яму здавалася, што яна нечым як-бы засмучана.

Баяніст Косця Бульбешка нахіліў да баяна галаву, спрытна прабег пальцамі па ладах знізу ўгору, лена расцягнуў мех і зайграў нешта сумнае. Моладзь насцярожылася. Але баяніст раптам махнуў галавой, адкінуў свой бялявы чуб з ілба, тупнуў нагой і грымнуў вясёлую плясавую. На круг, галёкнуўшы, выскачыў Сашка Лазавенка. За ім, быццам дражнячы каго, выплыў камлюкаваты, крываногі трактарыст Яўмен Шукайла. Міхайла Прымак не стрываў, як ён крыўляецца, «паганіць механізатарскі род» і выскачыў на круг сам, выпіхнуў Яўмена плячом.

У маладосці Міхайла быў найлепшым танцорам у сельсовеце, актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці. Але цяжкія раны давалі сябе адчуваць, і ён, хутка змарыўшыся, пачаў выклікаць Машу. Яна паспрабавала схавацца за жанчын, але яе ветліва выштурхнулі на сярэдзіну. Яна прайшлася паўз сцяну людзей, шукаючы, перад кім спыніцца. Позірк яе ўпаў на Ліду. Тая ведала пра цяжарнасць Машы і адразу-ж змяніла яе. Але як толькі Ліда вышла, Сашка і Прымак схаваліся ў натоўпе, адзін — з-за юнацкай сарамлівасці, другі — баючыся, каб Ліда не выклікала яго на спаборніцтва. Косця Раднік закрычаў:

— Шырэй круг! Шырэй круг!

І круг расшырыўся, адступілі людзі, прыціснуліся да сцен.

Ліда выхапіла хустачку, узмахнула ёй над галавой, перакружылася раз, другі з надзвычайнай лёгкасцю і грацыёзнасцю, прайшлася па кругу і раптам працягнула руку з хустачкай да Максіма. Ён павольна расшпіліў каўнер кіцеля і, калі яна падышла ў другі раз, гучна тупнуў нагой, адкінуўшыся ўсім целам назад. Ліда гарэзліва адступала, нібы паддражняла, заманьвала яго: дагані! злаві! Ён скочыў, прысеў, двойчы перакружыўся вакол яе і пайшоў выбіваць такую чачотку, што зазвінелі шыбы. Шпарчэй заскакалі пальцы баяніста па перламутравых ладах, ніжэй схілілася яго галава, зноў упалі на лоб валасы.

Пачалося зацятае спаборніцтва трох упартых, моцных характараў. Хто — каго, хто здасца першы? Але ніхто не хацеў уступіць пяршынства. Навокал заахвочвалі іх:

— Максім! Глядзі, не паддайся! Пастой за мужчынскі гонар!

— Ай, малайчына, Ліда! Вось гэта дзяўчына! Што ваш Максім!

— Косця! Давай шпарчэй!

Баяніст ўсё набіраў і набіраў тэмп, «выціскаючы» з сябе і свайго інструмента ўсё, што мог; баян ажно захліпаўся ўжо. І ўсё шпарчэй і шпарчэй лётаў па кругу Максім, то прысядаючы, кружачыся на адной назе, то высока падскокваючы. Усё шпарчэй кружылася Ліда, уздымаючы плаццем вецер.

Людзі прыціхлі, зацікаўленыя і здзіўленыя, толькі заднія станавіліся на лаўкі, на падаконнікі, націскалі на пярэдніх; здавалася вось-вось разарвецца жывое кола, перашкодзіць танцорам. Але Максім лётаў з такой хуткасцю,. што страшна было ступіць за мяжу кругу, — зваліць з ног.

Праляцела хвіліна, другая, пяць хвілін... Т невядома колькі-б часу прадаўжаўся гэты шалёны танец, каб не Маша. У яе раптам закружылася ў галаве ад гэтага іх шалёнага кружэння, яна нахілілася і палажыла руку на мех баяна, загадала:

— Спыніцеся! Што вы робіце?

Баян змоўк.

Максім і Ліда спыніліся, разгублена аглянуліся. Яны не асабліва нават і задыхаліся. Ім апладыравалі. Максім падышоў, пакланіўся і... пацалаваў яе руку.

Жанчыны здзіўлена ахнулі. Нехта з маладых засмяяўся.

Ліда знікла. Максім доўга шукаў яе, покуль дзяўчаты не падказалі яму, што яна ў пакоі радыёвузла. Невялічкі пакойчык гэты першапачаткова прызначаўся для гурткоў і знаходзіўся за сцэнай. Звычайна Косця Раднік трымаў яго на замку і нікога не ўпускаў, нават на дзвярах вісела шыльдачка: «Пабочным уваход забаронены». Але ў гэты раз пакой быў адчынены, у замочнай шчыліне тырчэў ключ.

Ліда сядзела на табурэце, абапершыся локцямі на доўгі стол, на якім стаяў вялікі бліскучы прыёмнік. Яна задуменна глядзела на шкалу настройкі з мноствам надпісаў гарадоў і, відаць, не пачула, як Максім зайшоў. У пакоі было ціха, Косця выключыў дынамік.

Максім, п'яны ад танца, падышоў і ўзяў са стала яе рукі, сціснуў іх. Яна паднялася, стала перад ім, тварам у твар, папрасіла:

— Пусці рукі, Максім. Баліць.

— Баліць? А ў мяне сэрца баліць. Пра гэта ты ведаеш?

— Чаму ты гаворыш аб сваей хваробе мне? Я не доктар. Звярніся да бацькі, — аднак рук не адымала.

— Ліда! Гэтак нельга жартаваць!

— А як можна? — вочы яе зноў смяяліся, але не весела, як звычайна.

— Я не магу!.. Я хачу ведаць... Я павінен ведаць... Мы не дзеці, Ліда, мы — дарослыя людзі, мы мусім называць рэчы іх імёнамі. Я цябе кахаю, як не кахаў яшчэ ніколі ў жыцці...

— Ніколі ў жыцці?! — яна выхапіла свае рукі, схавала іх за спіну, адступіла на крок назад і прытулілася да цёплай грубкі. — Ніколі ў жыцці! Іменна таму, што я ўжо не дзіця, я не веру табе, калі ты гаворыш такія гучныя словы...

— Ліда!

— Не веру! Не магу паверыць... Я не разумею цябе, ды і сам ты, відаць, не разумееш сябе. Мне страшна падумаць... Я разумею Машу...

— Што страшна? — у Максіма задрыжэў голас, напамінак пра Машу ўзлаваў яго.

— Страшна быць з табой, — і Ліда хутка пайшла да дзвярэй, пакінуўшы яго, разгубленага. Але ён адразу схамянуўся, калі пачуў, як у дзвярах шчоўкнуў замок. Кінуўся да дзвярэй — яны былі зачынены. Гучна прашаптаў з просьбай і пагрозай:

— Ліда!

Яна прыглушана засмяялася. Па сцэне дробна застукалі яе каблучкі. Стук аддаліўся, зліўся з гоманам у зале, з шорахам ног, з галасістым спевам баяна.

Раз'юшаны Максім кідаўся па маленькім пакойчыку — тры крокі ад дзвярэй да сцяны, да адзінага акна з падвойнымі рамамі. Уявіўшы, як яму давядзецца тлумачыць усё Косці Радніну, ён застагнаў ад роспачы. Злосць, абраза, захлынулі ўсе іншыя пачуцці, увесь яго святочны настрой, надзею на шчаслівую размову з Лідай. Вось яна, шчаслівая размова! Ён мог стрываць усё, любыя яе словы, любую абразу, але такі недарэчны, такі дзіцячы жарт... Яму ажно смешна стала самому. Сапраўды, прыдумаць такі жарт магла толькі Ліда. Ён адчуў,

што ўвесь мокры ад поту, выцер хустачкай твар, аглянуўся. Убачыў на стале графін з вадой — зразумеў, чаму апынулася тут Ліда: папрасіла ў Косці ключ і прышла напіцца. Максім схапіў графін, нагбом выпіў усю ваду. П'ючы, успомніў, што Ліда ўпершыню гаварыла яму «ты». Ён зноў засмяяўся, ужо весялей. Вырашыў моўчкі дачакацца Косці, калі той прыдзе выключаць вузел, і расказаць яму ўсю праўду.

Дзівацтвы Лідзіны Косці вядомы і, калі яго добра папрасіць, ён нікому не раскажа пра гэты яе чарговы жарт. Абы толькі ён прышоў адзін!

16

Такой Ліду ведалі ў Дабрадзееўцы — вясёлай, жыццерадаснай, бестурботнай, здатнай на розныя выдумкі, на самыя нечаканыя жарты. Праўда, ведалі і іншае: свае жарты, сваю весялосць яна ўмее спалучаць з сур'ёзнай, добрасумленнай работай у школе, з абавязкамі ўдумлівага цікавага агітатара. Ведаючы яе, як дачку Ладыніна, ніхто ніколі не пацікавіўся, якое жыццё яна пражыла дагэтуль, а сама яна не любіла расказваць пра сваё мінулае.

І, безумоўна, ніхто не ведаў, якім складаным душэўным жыццём яна жыве, якія супярэчлівыя пачуцці і думкі часам апаноўваюць яе. Нават бацькі толькі здагадваліся пра гэта.

Эвакуіраваўшыся ў пачатку вайны з маці на Урал, Ліда адразу-ж пайшла на завод, каб дапамагаць фронту, дапамагаць разгрому ненавіснага ворага, які таптаў яе родную зямлю, спаліў вёску на Магілёўшчыне, дзе яны жылі, і школу, у якой яна правучылася дзевяць год. Але, калі надышоў верасень, маці і дзядзька, парторг ваеннага завода, прымусілі яе пайсці ў дзесяты клас. Яна вучылася і адначасова штодзень пасля школы працавала чатыры гадзіны на заводзе; больш працаваць вучням не дазвалялі. Пасля заканчэння школы яна цвёрда вырашыла паступіць на курсы медыцынскіх сясцёр, каб паехаць на фронт... Яна ажыццявіла сваё жаданне, не гледзячы на ўгаворы маці. Але пазаймалася яна на курсах толькі адзін месяц. Дачка ўрача, яна і раней добра ўмела зрабіць любую перавязку, любую лячэбную працэдуру, ведала лякарствы. Але з курсаў яе не паслалі на фронт, а накіравалі ў шпіталь, які знаходзіўся ў тым-жа уральскім горадзе і нават недалёка ад кватэры дзядзькі, у якога яны жылі. У гэты час з фронта на некалькі дзён прыехаў бацька. Ён проста, па-сяброўску, параіў ёй, не пакідаючы працы ў шпіталі, пайсці ў інстытут. «Ваюючы, мы думаем пра мір, пра мірную працу. Пасля вайны нам спатрэбіцца вельмі многа спецыялістаў, — гаварыў ён. — А ты марыла, помню, аб дзейнасці педагога. Высакародная прафесія!»

Яна паслухалася яго парады і пайшла ў педагагічны інстытут. Гэта была цяжкая восень. Геранчна змагаліся абаронцы Сталінграда. Раненых было многа. Замест таго, каб дзяжурыць уначы цераз суткі, ёй даводзілася дзяжурыць штоноч, а часам заставацца і на дзень. У інстытуце на лекцыях яна часта засынала, але ніхто з гэтага не смяяўся, не кпіў — ні студэнты, ні выкладчыкі. Не адна яна была такая, многія дзяўчаты працавалі на заводах, у шпіталях.

Там, у шпіталі, і прыйшло да яе першае каханне — каханне, якое не забываецца праз усё жыццё.

Капітана Сяргея Чарнышова раніла ў апошні дзень ліквідацыі Сталінградскай футроўкі. Куля прабіла яму навылёт грудзі, левае лёгкае недалёка ад сэрца. Разам з іншымі раненымі яго даставілі ў тылавы шпіталь на самалёце. Ліда дзяжурыла, калі яго прынеслі на насілках у палату, палажылі на ложак. Яна нахілілася над ім, папраўляючы коўдру, падушкі. Ён расплюшчыў вочы, доўга і пільна ўзіраўся ў яе твар і, раптам, радасна ўсміхнуўшыся, спытаў:

— Вы? — нібы яны былі знаёмы раней і, памаўчаўшы, дадаў: — Як ваша імя? Ліда? Ліда, — прашаптаў ён і заплюшчыў вочы.

Уначы яе разбудзіла маці. Званіла дзяжурная ўрач са шпіталю.

— Лідачка, ранены капітан вельмі просіць, каб ты прыйшла. Яму толькі што зрабілі аперацыю.

Гэта было не ўпершыню. У яе было ўжо некалькі такіх раненых, якія капрызліва патрабавалі, каб дзяжурыла толькі яна, каб толькі яна адна перавязвала іх, падавала лекі, ваду. Аднак ніколі ў яе не білася так моцна сэрца, як у гэты раз, калі яна, хуценька апрануўшыся, бегла па трыццаціградусным уральскім марозе ў шпіталь.

Чарнышоў ляжаў з адплюшчанымі вачыма і адразу павярнуў галаву, як толькі яна ўвайшла. На змучаным твары яго адбілася радасць. Яна села на край ложка, узяла яго рукі.

— Даруйце,— ледзь чутна прашаптаў ён,— мне пасля сказалі, што вы не дзяжурыце. Не палічыце гэта за капрыз. Я трэці раз у шпіталях і ведаю, я не капрызлівы... Мне проста захацелася пабачыць вас... Мне здалося, што я памру. Ніколі не думаў пра смерць, а тут раптам падумаў і спалохаўся. Дзіўна, праўда? Першы раз мяне раніла ў пачатку вайны, пад Барысавам, потым — пад Масквой... у першы дзень наступлення. А ў Сталінградзе я быў з першага дня абароны. З першага і да апошняга... У кастрычніку мой узвод быў абкружаны ў падвале дома, і мы трымаліся семнаццаць дзён. Нас было сорак чатыры, засталося восем... Побач ляжалі забітыя сябры... Аднак усёадно я ніколі не думаў пра смерць... Гэтаму цяжка паверыць — я разумею...

Голас яго быў слабы, хрыплы. Ліда схілілася над ім, каб чуць, каб разабраць усе словы. І раптам ён паведаміў ёй таямнічым шэптам:

— Я хачу жыць.

Яла ажно мімаволі аглянулася ад нечаканасці, але ранены зноў павысіў голас і нават загаварыў больш моцна, чым у пачатку:

— Напішыце маёй маме. Я ўжо тыдзень не пісаў ёй. Напішыце вясёлае гэткае пісьмо... Ад мяне... Што я жывы, здаровы... Што мы разграмілі ў Сталінградзе немцаў і адведзены ў тыл на адпачынак... Не, пачакайце... Адрас — на шпіталь?.. Я лёгка ранены... Зусім лёгка, — ён заплюшчыў вочы, і вусны яго варушыліся: ён дыктаваў пісьмо ў думках.

Стрымліваючыся, каб не заплакаць, Ліда пяшчотна гладзіла яго рукі.

Так непрыкметна прышло яно, яе каханне. Праз колькі дзён яна з нецярплівасцю чакала канца лекцый, чаго не было з ёй ніколі раней, і адразу-ж бегла ў шпіталь... У часе дзяжурства яна амаль не выходзіла з яго палаты. Іншыя раненыя нават пачалі скардзіцца на яе ўрачу. Але нішто не магло стрымаць, нішто не магло заглушыць яе магутнага пачуцця, якое расло з кожным днём.

Сяргею не дазвалялі многа размаўляць, і яна, каб ён толькі маўчаў, няспынна гаварыла сама: расказвала пра сваё дзяцінства, пра бацьку, пра сяброў, чытала яму вершы, часам ціхенька спявала, быццам калыханку маломү. Аднойчы ён пацалаваў яе руку, неяк нечакана, калі яна папраўляла падушку, і яна цэлы вечар насіла гэтую руку неяк асцярожна, адчуваючы на ёй цеплыню яго вуснаў.

Пра яе каханне даведалася маці — расказалі знаёмыя ўрачы. Пачалі жартаваць сяброўкі з інстытута. У адказ яна толькі радасна ўсміхалася: для яе было найвялікшым шчасцем, калі гаварылі пра яго.

Нядоўга цягнулася гэта шчасце — дзён дзесяць.

Аднойчы ўвечары яна прышла на дзяжурства, апранула халат і, як заўсёды, радасна бегла па калідору да знаёмай палаты, каб хутчэй убачыць яго, прывітацца. Яе спыніла дзяжурная ўрач, абняла і не вытрымала сама — заплакала.

У Ліды пахаладзела сэрца; яна адразу ўсё зразумела: Сяргей памёр. Падманным аказалася палепшанне яго здароўя ў апошнія два дні: гэта была апошняя барацьба арганізма са смерцю, апошняя ўспышка жыцця.

Яна не заплакала, толькі выказала крыўду ўрачам, сёстрам-сяброўкам, што яны не паклікалі яе. Выказала з нервовым абурэннем, злосна і пайшла выконваць свае абавязкі.

З могілак на другі дзень яна прышла хворая. Напружаная праца і гэтае нечаканае няшчасце надламалі яе здароўе. Рэнтген паказаў працэс у лёгкіх. Два месяцы ёй не дазвалялі ўставаць з ложка. Але яе ратавала не лячэнне, а яе моцная воля, яе прагнасць да жыцця. Яна перамагла хваробу. З надыходам вясны Ліда паднялася, пайшла ў інстытут і здала ўсе экзамены, але ў шпіталь больш не вярнулася.

Пасля летняга адпачынку яна зноў была такая-ж рухавая, жартаўлівая і вясёлая, як і раней, спявала, займалася спортам. Праўда, маці адносілася насцярожана да гэтай рухавасці, якая часамі пераходзіла ў нейкую нервовую ўзбуджанасць. Скончылася вайна, і гэта канчаткова вылечыла яе. Сям'я вярнулася ў родную Беларусь. За час жыцця ў Дабрадзееўцы Ліда ўзмужнела, пасталела і яшчэ больш папрыгажэла.

Яна не забывалася на сваё першае каханне, назаўсёды захаваўшы ў сэрцы светлы вобраз Сяргея, але гэта не замыкала яе жыццё ў кола ўспамінаў пра мінулае. Яна рвалася ў будучыню, марыла пра яе; ёй хацелася пакахаць такога-ж разумнага і мужнага чалавека, якім яна ўяўляла Сяргея, яна па-дзявочаму сумавала па такім шчырым каханні. Але чалавек такі не трапляўся. Аднойчы ёй здалося, што яна знайшла яго. Гэта было ў першыя дні жыцця ў Дабрадзееўцы. калі да іх пачаў часта заходзіць Васіль Лазавенка. Але хутка яна зразумела, што Васіль не той чалавек, якога яна чакала, пра якога марыла. Ды і наведваўся ён зусім не з-за яе, як ёй здалося спачатку. Неўзабаве яна даведалася, што ён кахае другую дзяўчыну.

Ліда прышла да акна, сціснуўшы далонямі скроні, прытулілася гарачым ілбом да абледзянелай шыбы. Мароз выткаў на шыбах дзівосныя карункавыя ўзоры. За акном гуляла завіруха, сыпаўся калючы снег, шуршэў па сцяне. Вецер скуголіў у коміне. Ранняя ў гэтым годзе зіма. Ранняя і суровая. Ужо больш месяца ляжыць снег, намяло высокія сумёты на вуліцы, на гародах.

Бацькі даўно ўжо спалі, даўно пагасла электрасвятло. Ліда пісала пры лямпе. На стале былі раскіданы спісаныя аркушы паперы. Нікому за пяць год яна не расказвала пра сваё каханне, пра смерць Сяргея. Упершыню яна робіць гэта ў пісьме да Алесі, выконваючы сваё абяцанне, якое дала некалі ў паходзе.

Ліда ўсё адкладвала гэты сумны расказ. Але ў апошнім пісьме Алеся пыталася, ці праўда тое, што пішуць ёй пра яе, Лідзіны, узаемаадносіны з Максімам. Ліда доўга нерухома стаяла каля акна. Успаміны ўсхвалявалі яе, разбалелася галава. Нарэшце, яна вярнулася да стала і парвала апошні аркуш, на якім пачала пісаць пра Васіля.

«Не трэба гэта, бо няпраўда, не было гэтага нічога, не думала я аб ім».

Пачала пісаць далей:

«...Спачатку я не верыла ў шчырасць яго кахання, мне здавалася, што такі чалавек, як Лескавец, не можа пакахаць па-сапраўднаму, на ўсё жыццё. Цяпер я веру, што ён пакахаў, на ўсё жыццё ці не на ўсё — невядома, але пакахаў моцна...

Але ты, мая слаўная сяброўка, пытаеш не аб ім, ты пытаеш: ці кахаю я яго? Прызнаюся табе шчыра, што гэта цяжкае пытанне для мяне, я і сама не раз задавала яго сабе. Ці кахаю я яго? Я бадай узненавідзела яго пасля таго, што ён зрабіў у дачыненні да Машы. Мяне гэта страшэнна абурыла і ўразіла. Шэсць год чакаць, шэсць лепшых год і, дачакаўшыся, сустрэць такую халодную абыякавасць! Ты помніш, я расказвала табе, як я літаральна выгнала яго з дому, як ён вышаў, згорбіўшыся, нібы чакаючы ўдару... Але калі я даведалася, што Машу доўга і шчыра кахае Васіль, і ікалі Маша вышла замуж, я зразумела (яшчэ раз), што жыццё шмат складаней, чым я ўяўляла, хоць я ніколі не ўяўляла яго простым. Я даравала Максіму ўсё, калі выпадкова пачула яго прызнанне майму бацьку ўвечары таго дня, калі Маша і Васіль запісаліся. «Я кахаў яе», — і ў гэтых яго словах было столькі добрага чалавечага смутку, што ажно ў мяне ўстрапянулася сэрца. Але я абурылася зноў, калі ён на лузе — помніш? — паспрабаваў мне гаварыць пра сваё каханне. Мінула ўсяго два тыдні пасля таго вечара, пасля яго добрых слоў аб Машы! Я не разумела яго. Я не зусім разумею яго і зараз, а таму баюся, сапраўды баюся яго кахання. Яшчэ больш баюся я прызнацца самой сабе, што і ў мяне нарадзіліся нейкія пачуцці: я не магу іх яшчэ азначыць, даць назву. Час зменьвае ўсё: пачуцці, мары, саміх людзей. Я прыглядаюся да Максіма і, як ні дзіўна, знаходжу ў ім многа станоўчага, нават тыя яго якасці, якія я раней асуджала, цяпер падабаюцца мне. Дзіўна ўсё гэта, мілая Алеся, дзіўна і надзвычай складана. Маё першае каханне ўспыхнула раптоўна і ў міг разгарэлася вялізным полымем, якое ледзь не спапяліла мяне самую. Яно з'явілася тады, калі я нічога яшчэ не ведала пра Сяргея, я проста ўбачыла мужнага чалавека. І нічога тады не цікавіла мяне, на ўсё я забывалася, калі была з ім. Пакутліва нараджаецца маё другое каханне. Я ўсё ўзважваю, усё ацэньваю, нібы раблю нейкі разлік. Ажно самой робіцца прыкра. Але я не магу інакш, калі думаю пра Максіма. Мне, напрыклад, цяжка было ведаць, што ён не вучыцца, мала чытае, і мала ведае і не жадае вучыцца. Неяк я сказала яму пра гэта, сказала насмешліва, здзекліва — такі ў мяне благі характар. Ён пакрыўдзіўся, упершыню загаварыў дзёрзка: «Безумоўна, куды мне,

калгасніку, калі паважаная Лідзія Ігнатаўна сніць паэта, прафесара». Няпраўда! Нічога я не сню і ні аб кім не мару. Я марыла, я жадала пакахаць чалавека разумнага, жыццерадаснага, вясёлага, з якім было-б лёгка і шчасліва ісці ў заўтрашні дзень, у светлы дзень нашай будучыні. Між іншым, мне расказвалі, што цяпер Максім дзень і ноч сядзіць пад кнігамі. Сапраўды, ён нават да нас наведваецца не так часта.

Аднак я распісалася, часу ў мяне многа, не тое, што ў цябе, нашай масквічкі. Зайздрошчу я табе і цвёрда вырашыла: на наступны год паеду ў аспірантуру, калі не ў Маскву, то ў Мінск.

Бачыш, як няскладна, як сумбурна я пішу: пачынаю пра адно, а канчаю пра другое. Напісала цэлы раман, а галоўнае і не сказала, не адказала на тваё пытанне. Ці кахаю я Максіма? Здаецца, кахаю...»

Ліда напісала гэтыя словы і, нібы спалохаўшыся, хутка паднялася, зноў падышла да акна, угледзелася ў марозны ўзор і раптам гучна і ўзлавана прашаптала:

— Не, не кахаю! Няпраўда!

Аднак таго, што напісала Алесі, не выкрасліла.

17

Васіль быў у Мінску на нарадзе старшынь калгасаў і дырэктароў МТС. Нарада, на якой абмяркоўваліся мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасці калгасных палёў, прадаўжалася другі дзень. Пасля даклада сакратара ЦК пачаліся выступленні.

Васіль таксама выступіў і даволі ўдала — абгрунтавана, прадумана, бо яшчэ дома рыхтаваўся. Некалькі разоў яго перапынялі апладысментамі. Ён гаварыў пра свой калгас, пра МТС, крытыкаваў работу раённых і абласных арганізацый, кінуў некалькі трапных закідаў у адрас Акадэміі навук і Міністэрства сельскай гаспадаркі. Скончыў ён сваю прамову прапановай абмеркаваць пытанне аб мэтазгоднасці аб'еднання дробных калгасаў у больш буйныя гаспадаркі.

— Дакладчык, таварыш сакратар ЦК, расказаў нам, як будзе расці з года ў год наш трактарны парк, як будзе нам дапамагаць дзяржава і партыя машынамі. Ды і цяпер іх ужо ў нас нямала розных машын. І ўжо бывае цяжка скарыстаць іх у дробных гаспадарках, на малых плошчах зямлі... Я вам прывяду прыклад, — ён хацеў быў сказаць пра свае калгасы — пра «Волю» і «Партызан», даказаць, якія выгоды можна было-б атрымаць, каб зліць гэтыя калгасы ў адзін, але ўспомніў, што ў зале сядзіць Максім Лескавец, сумеўся, падумаў, што той зноў можа не зразумець яго, і палічыў за лепшае прывесці ў прыклад другія калгасы свайго раёна. — Таварышы, гэта не толькі мая думка, гэта

думка многіх механізатараў, работнікаў МТС. Думаю, што і тут, на нарадзе, яны падтрымаюць мяне...

— Правільна! — выгукнулі з залы.

— Фантазія! — абурана прамовіў другі голас.

У зале зашумелі, заварушыліся.

Абвясцілі перапынак. Васіль, усхваляваны, дрыжачымі рукамі збіраў на трыбуне аркушы паперы з тэзісамі свайго выступлення. Сакратар ЦК, праходзячы міма, пацісвуў яго руку каля локця.

— Правільна, Лазавенка! Смела крытыкуй усіх, хто перашкаджае ўздымаць гаспадарку. І прапанова твая слушная. Над гэтым мы ўжо думалі.

У зале яго абкружылі старшыні, дырэктары МТС, пачалі выказваць свае меркаванні, спрачацца. Відаць, што многія ўжо думалі пра ўзбуйненне, пра больш рацыянальнае выкарыстанне машын.

Незнаёмы чалавек цераз галаву працягнуў яму паперку.

— Вам тэлеграма, Лазавенка. Даўно шукаю вас.

У Васіля ўздрыгнула сэрца: Маша!

На тэлеграме крыху незвычайны адрас: «Мінск, нарада старшынь калгасаў, Лазавенку».

Васіль баяўся разгарнуць яе тут, у прысутнасці людзей, і пачаў хутка прабівацца ў файе, дрэнна ўжо даходзячы да сэнсу пытанняў, неўпапад адказваючы на іх. У файе таксама было поўна народа.

Гаманілі, закурвалі, работніца тэатра прасіла:

— Таварышы, нельга курыць тут. Ёсць курылка. Ах, які несвядомы народ!

— Вунь ён, ваш Лазавенка, — сказаў нехта збоку.

Яго паклікалі:

— Васіль Мінавіч!

Ён не звярнуў увагі, хутчэй выскачыў на вуліцу. Спыніўся каля пад'езда, разгарнуў тэлеграму.

«Нарадзіўся сын. Віншую. Маша».

— Сын! — ён не заўважыў, што паўтарае гэта дарагое слова ўголас.

На яго глядзелі, відаць, разумеючы ў чым справа, усміхаліся.

Нарэшце, ён убачыў гэтыя цікаўныя позіркі, збянтэжыўся, хутка схаваў тэлеграму ў кішэню, перайшоў цераз вуліцу ў сквер. І тут уздыхнуў на поўныя грудзі, з асаблівай сілай адчуў вясну. Учора яшчэ было холадна, спрабаваў ісці мокры снег. А сёння ярка свяціла прыгожае сонца, высахла мінулагодняе лісце на дарожках, дзе-ні-дзе прабівалася першая зеляніна.

Угары, на голых ліпах, голасна і сварліва крычалі галкі. Каля фантана з хлопчыкам і лебедзем гулялі дзеці. Маладая жанчына сядзела на лаўцы і гойдала каляску. Васіль наблізіўся, заглянуў у каляску, там спаў ружовашчокі малы, трымаючы пульхнымі губамі чырвоную соску. Васіль залюбаваўся ім, усміхнуўся. Жанчына нахмурылася і падкаціла каляску бліжэй, потым паднялася, нібы намерваючыся загарадзіць сваё дзіця ад гэтага дзівакаватага незнаёмага. Васіль зразумеў яе пачуцці і нечакана сказаў, як добрай знаёмай:

— У мяне сёння нарадзіўся сын.

Жанчына засмяялася, прыгожа адкінуўшы галаву:

— Першы, безумоўна? Віншую вас.

Ён вышаў на Совецкую вуліцу. Яна нагадвала суцэльную будаўнічую пляцоўку: усё было разбурана, разрыта і ўсё будавалася нанова. Пераскакваючы цераз груды, пераходзячы па хісткіх кладках глыбокія канавы, няспынна снавалі людзі. На другім баку вуліцы працавалі два экскаватары, рылі катлаван для падмурка будучага дома. На вялізнай грудзе накапанай цэглы і пяску стаялі цікаўныя, любаваліся работай экскаватараў.

Васіль таксама пастаяў там, пацікавіўся, адчуваючы зайздрасць да гэтых машын: вось-бы ім такія на будаўніцтва гідрастанцыі! Снавалі аўтамашыны. Каля Камсамольскай вуліцы працаваў бетонаўкладчык. Вялікі коўш хадзіў па доўгай страле, у яго самазвалы высыпалі цэментавую масу, коўш кідаў яе ў зеў машыны, яна павольна рухалася і, прасуючы, укладвала густы раствор паміж двух рэек. На гэтым участку вырысоўвалася будучая вуліца — шырокая, роўная, велічная.

Васіль успомніў праекты, што былі развешаны ў файе Дома афіцэраў, дзе праходзіла нарада, праекты казачных будынкаў, план рэканструіраванай вуліцы.

Васіль уявіў гэтую вуліцу праз два-тры гады, забудаваную тымі дамамі, якія ён бачыў на праекце. Цудоўная будзе вуліца!

Паслаўшы ў адказ тэлеграму і вярнуўшыся на нараду, Васіль сеў на балкон: у залу не пускалі, хто спазніўся.

У наступны перапынак яго знайшоў Максім, таксама нечым узрушаны.

— Ты што — выступіў і драпануў? Цябе з прэзідыума шукалі.

Быў абвешчаны перапынак на абед, і яны, доўга прастаяўшы ў чарзе каля вешалкі, вышлі на вуліцу. Ішлі міма экскаватараў, бульдозераў. Васіль усё яшчэ прадаўжаў думаць пра Машу, пра сына і таму маўчаў, зрэдку толькі адказваў Максіму, якім, відаць, валодала жаданне пагутарыць.

— Вось дзе варочаюць, дык варочаюць! Нам-бы на наша будаўніцтва пару такіх машынак хоць на некалькі дзён.

— Павел Сцяпанавіч абяцаў даць экскаватар і адзін самазвал. Ты-ж ведаеш пастанову абкома, — адказаў Васіль, зноў аглядваючыся на жанчыну з дзіцем на руках.

— Але, брат, працуюць людзі. Будуюць комунізм. Паглядзіш — душа радуецца. Недарма там, — ён кіўнуў галавой у бок — на захад, — скуголяць ад злосці і бомбачкай сваёй махаюць. Між іншым, ты не чуў самага цікавага выступлення. Старшыня «Рассвета» Арлоўскі выступаў. Моцна гаварыў. Але, па-мойму, выхваляецца крыху...

— Чаму ты так скептычна настроены? Пра яго калгас напісалі цэлыя кнігі.

Максім хвіліну прайшоў моўчкі і зноў уздыхнуў:

— Але-е, працуюць людзі, — і хутка павярнуўся да Васіля. — Ведаеш, што я цвёрда вырашыў тут, на нарадзе? Паеду вучыцца.

— Вучыцца можна і дома. Я-ж вучуся завочна.

— Не магу. Я ў гэтым сэнсе неарганізаваны чалавек. Колькі я перачытаў за гэту зіму і — ніякай карысці...

— Гэта табе здаецца так.

— Не, сапраўды, нейкая каша ў галаве атрымалася. Агранамія пераблыталася з раманамі, хімія чорт ведае з чым. Мне трэба сістэма, штодзённы кантроль. Ты-ж помніш, я быў першы вучань у школе. Я ўпэўнены, што і цяпер у любой школе, на любых курсах я паказаў-бы на што здольны... Паеду! А то адчуваю — закісну, адстану. А адставаць я не хачу! — Максім прыпыніўся (ён крыху забег наперад), глянуў на Васіля — ці не ўсміхаецца той іранічна з яго самакрытычнага прызнання. Васіль не ўсміхаўся, але выгляд у яго быў нейкі незвычайны.

— Чаго гэта ты сёння выглядаеш, як імяніннік? — спытаў Максім.

— У мяне нарадзіўся сын, — ціха, як-бы таямніча, паведаміў Васіль.

Максім спыніўся, загарадзіўшы праход на кладку цераз траншэю, на твары яго адбілася нейкае складанае, супярэчлівае пачуццё, ён недарэчна спытаў:

— У Машы?

— А ў каго-ж яшчэ? Дзівак!

Максім нічога не адказаў, не павіншаваў нават.

Васіль прапанаваў:

— Давай заглянем куды-небудзь. Хочацца мне чарку ўзяць за здароўе майго сына.

— Дык там, у сталоўцы, калі ласка.

— Хлопцы гаварылі, што няма там нічога. Начальства пабаялася, што хто-ні-хто па прастаце сваёй душэўнай можа злоўжыць.

Максім зноў доўга не адказваў. Потым сказаў проста, весела і шчыра:

— Што-ж... за сына выпіць не грэх.

18

Першы раз пасля родаў Маша выйшла ў поле. Была ў разгары сяўба. Пасля сухіх сонечных дзён прайшлі цёплыя дажджы. На поўную сілу дыхала зямля, падыходзіла, як тое цеста, і дружна пакрывалася багатай зялянінай усходаў. Усё расло на вачах. Даволі было пастаяць гадзіну-другую і можна было ўбачыць, як чорная ралля раптам пачынала зелянець, нібы яе апырсквалі светлазялёнай фарбай. Пераліваліся пад подыхам ветру хвалямі густая азіміна, шаўковай рунню вабілі позірк бяскрайнія ўсходы ранніх культур.

Маша выбегла за сад «Волі», і ў душы яе пачало расці нейкае незвычайнае захапленне, нейкая дзіўная радасць. Не першую вясну яна сустракае. На ўсё жыццё застанецца ў яе памяці вясна мінулага года. Цяжкая была вясна. Маша ўспомніла, як па гэтай вось дарозе бегла яна к Ладыніну прасіць дапамогі... І вось мінуў год, толькі адзін год, і ўсё стала іншым. Справа не ў яе асабістым шчасці, змянілася не толькі яна і яе жыццё, змяніліся палі, іх вясновы выгляд. Маша нават спачатку не магла зразумець, у чым сутнасць гэтых змен. Яна спынілася, агледзелася навокал, глянула ў неба. Як заўсёды ў такі час, у блакіт было балюча глядзець, як заўсёды, там звінелі нябачныя жаўранкі. Сінеў у далечыні лес. Паранейшаму стаяла пасярод поля, каля дарогі, старая сухаверхая бяроза, крыху далей чарнеў высокі пень. Але не было год назад вось гэтых слупоў. Паўз дарогу яны — невысокія, светлыя, з двума ніткамі дратоў. А воддаль, бліжэй да рэчкі, цераз палі, цераз лядцаўскі сасоннік, па гародах размашыста крочаць высокія чорныя слупы. Гэта — лінія высокавольтнай перадачы ад гідрастанцыі ў Дабрадзееўку. За сасоннікам на слупе віднелася постаць чалавека: манцёры «Сельэлектра» цягнулі лінію; бліскчэлі на сонцы тоўстыя медныя правады.

Машу дагнаў на веласіпедзе Міхайла Прымак, ён спрытна руляваў адной рукой. Маша саступіла са сцежкі, але ён, параўняўшыся, затармазіў, саскочыў на зямлю.

— Сядай, Маша, падвязу.

— Што ты, Міхайла!

— Ты думаеш не павязу адной рукой? Дрэнна ты мяне ведаеш. Я і трактар ужо ваджу, не горш як да вайны, і матацыкл асвайваю. Хут-

ка буду лётаць, толькі пыл слупом... Чытала ў журнале? Аповесць там была змешчана аб сапраўдным чалавеку, аб лётчыку, які без абодвух ног лётаў і немцаў біў. Уся справа ў трэніроўцы. А я чалавек упарты. Значыцца, баішся ехаць?

— Баюся.

— Дарэмна. Цяпер табе не страшна. Чакай, колькі ўжо твайму «кручку»?

(«Кручок» была вулічная мянушка Васіля Лазавенкі, на якую аднак пасля вайны ўсе забыліся).

— Тры тыдні.

— Усяго? Рана ты выйшла ў поле. Каб я нарадзіў такога сына, поўгода адпачываў-бы... Не вытрымала?

Маша засмяялася.

— Не вытрымала.

Прымак папрасіў:

— Скруці, калі ласка, мне цыгарку, а то вецер...

Маша ўзяла ў яго паперу, кісет, няўмела пачала круціць, захіліўшыся ад ветру.

— Ты таксама не вытрымаў-бы, я ўпэўнена.

Цыгарка ў яе разарвалася, і махорка высыпалася на зямлю.

— Курыў-бы ты, Міхайла, папяросы.

Прымак з усмешкай паківаў галавой.

— Мой бацька быў самы скупы чалавек у вёсцы. Чула? Ды і жонка мая скупая. У яе на чарку не выпрасіш, не тое, што на папяросы.

Калі цыгарка, нарэшце, была гатова, Прымак згадзіўся з заўвагай Машы:

— Не вытрымаў-бы, ты правільна кажаш. Асабліва ў такую пару. Гадзіну цяжка ў хаце пасядзець. Ты ведаеш, як мы працуем? Бачыш? — ён паказаў на поле, на роўныя радочкі ўсходаў. — Мая брыгада ўзяла на сябе абавязацельства вырасціць у «Волі» і «Партызане» самы высокі ўраджай па раёну. Сеем толькі радковымі. Машынкі ў нас цяпер — во, — ён паказаў вялікі палец.

— Чуеш? Ва ўсіх чатырох баках свету гудзяць.

Сапраўды, паветра было напоўнена гудзеннем матораў. Недалёка за ўзгоркам на лядцаўскім полі працаваў трактар, а ззаду, за рэчкай, на балоце віднеўся другі, але яго тарахценне заглушалі іншыя машыны: вішчэла цыркулярка, пыхкаў лакамабіль.

Прымак услухаўся ў гэтыя гукі з асалодаю, як у цудоўную музыку. Неяк неўпрыкметку Маша палажыла руку на руль веласіпеда і цяпер вяла яго. Прымак ішоў з другога боку дарогі, курыў, размахваў рукой.

— Прыемна, Маша, працаваць, калі вось так усё наладжана. Брыгада абслугоўвае адзін сельсовет. Блізка, добра. Калі што якое — сабраліся, абмеркавалі. Пачне, да прыкладу, Лазавенка твой што-небудзь хітрыць-мудрыць — Ладыніну скажы, ён ураз правее яму мазгі. Але, на шчасце, усе ўзяліся за розум, як кажуць. Залатымі людзьмі пасталі. І Лескавец, і Раднік. Пра сваіх хлопцаў я і не гавару — арлы! Адзін Пеця твой чаго варты! За год назубок вывучыў камбайн і трактар. За ўсю вясну ніводнай аварыі. Па графіку працуюць, па паўтары нормы штодзень даюць, — Прымак дастаў з кішэні гадзіннік, — зойдзем? Зараз ён працуе.

— Зойдзем, безумоўна. Гэта-ж поле маёй брыгады.

— А ты думаеш так і застацца брыгадзірам?

— Думаю.

Міхайла з захапленнем паглядзеў на яе.

— Ну, ты больш упартая, чым я. Малайчына!

Зусім новы гусенічны трактар цягнуў сеялку. Сеялі ячмень. За сеялкай стаяў дзед Яўмен Лескавец. Больш за поўстагоддзе стары хадзіў па полі з сяўнёй, жменямі раскідваючы зерне, хрысціўся перад пачаткам сяўбы, прымаўляў на кожнай ніве словы, якія навучыўся яшчэ ад свайго дзеда. Т вось пад старасць ён стаў капітанам цэлага пасяўнога карабля. Ён сапраўды стаяў, як капітан, у белай кашулі. Вецярок кратаў яго сівыя валасы і бараду.

Каля дарогі, дзе стаялі бочкі з гаручым і вадой і ляжала куча мяхоў з насеннем, Пеця спыніў трактар.

Ён саскочыў з сядзення на зямлю, стрымана прывітаўся, як з чужымі і малазнаёмымі людзьмі, адвёў позірк убок. Пасля таго, як Маша выйшла замуж, Пеця наогул паводзіў сябе пры сустрэчах з ёй дзіўна: ні то саромеўся сястры, ні то крыўдзіўся на яе. Дарэмна Маша намагалася ласкавасцю, клопатамі аб ім аднавіць ранейшыя сяброўскія адносіны — Пецю, здавалася, нічога не кранала. Машы было балюча і крыўдна. Асабліва выразна яна адчула гэтую крыўду цяпер, пасля яго халоднага прывітання. Яна не ведала, пра што гаварыць з ім і спытала таксама, як толькі ў знаёмага:

— Як ты жывеш, Пеця?

Ён адказаў коратка, не гледзячы на яе:

— Жыву.

— Жыве! — падхапіў Прымак. — Яшчэ і як жыве! Хату сваю ператварыў у штаб-кватэру трактарыстаў. Жаніцца надумаў, але вочы ў яго разбегліся — не ведае, якую выбраць... Адным словам, не ў цябе ўдаўся, Маша...

— Але-ж, жаніцца! — зняважліва хмыкнуў Пеця, і сцершы далоняй зямлю з гусеніцы, палез на трактар.

— Чаму-ж ты ніколі не зойдзеш, Пеця?

— А што мне рабіць у вас?

— Пабачыў-бы пляменніка.

— Та-ак, Пеця, і не ўгледзеў, кажаш, браце, як дзядзькам стаў, — пажартаваў дзед Яўмен, які спачатку корпаўся ў сеялцы, а цяпер падышоў да іх.

— Не ўгледзіш, як і дзедам станеш, — дадаў Прымак. Пеця павярнуўся, глянуў на Машу з вышыні трактара, засмяяўшыся, спытаў:

— Добры хлопец, Маша?

— Добры, Пеця. Вочы ў яго на твае падобныя.

— Не слухай, Пеця, выліты Лазавенка, нічога кацубаўскага, — зноў адгукнуўся з-за трактара Прымак.

Пеця прадаўжаў глядзець на Машу з нейкай цікаўнасцю, але ў поглядзе гэтым была ранейшая цеплыня, братняя шчырасць, іскрылася хітраватая жартаўлівасць. Маша пасля доўгага перапынку ўбачыла брата такім, якім ведала яго з маленства, і надзвычай радасна стала ў яе на душы.

— Добра, зайду, хоць і не люблю я твайго Лазавенку.

Гэтае яго шчырае, па-дзіцячаму непасрэднае прызнанне ўсіх рассмяшыла, і сам ён засмяяўся. Маша не пакрыўдзілася.

Яшчэ некалі ўвосень гаварыў ёй пра гэта Васіль, здзіўляўся: «Наколькі паважае мяне твая сястра, настолькі не любіць брат. Не разумею, чаму такія крайнасці?»

Тады Маша даказвала, што ён памыляецца наконт Пеці, што хлопец проста сароміцца. Цяпер яна зразумела: Пеця маўчаў і пазбягаў яе, калі сапраўды ў яго былі з нейкай невядомай прычыны няпрыязныя пачуцці да Васіля. Але цяпер ён сказаў няпраўду. Цяпер, відаць, ад гэтых пачуццяў нічога не засталася, таму ён і прызнаўся і так узрадаваўся запрашэнню наведацца да іх.

Прымак уважліва агледзеў матор трактара. Засыпалі ў сеялку насенне. Маша хацела была дапамагчы дзеду Яўмену падняць мяшок, але нечакана падскочыў брат, адхіліў яе.

— Табе нельга, — і твар яго заліўся чырванню.

Калі Пеця завёў матор і пачаў разварачвацца, дзед
Яўмен сказаў Машы і Міхайлу:

— Вы, брыгадзіры, патурбаваліся-б, каб хлопцаў кармілі лепей. Па дзве нормы даюць. Хто, можа, думае, што гэта лёгка, а я вось паездзіў з імі, дык ведаю, што гэта такое — дзве нормы. А ўчора зайшоў да іх, паспытаў боршч, які яны елі, плюнуць хацеў. Назначыў старшыня

Вольгу Ладачку гатаваць ім, а яна ў сябе дома за ўсё жыццё смачнага баршча не зварыла. Бесталковая баба... Толькі добрыя харчы псуе...

— А чаму-ж яны самі маўчаць? — спытаў Прымак.

— Ды яны табе і не скажуць ніколі. Хлопцы. А твае дзе вочы? Ты — камандзір. Можа, таму баішся заглянуць у іх талерку, што Ладачка сваячка твая?

— Твая таксама, дзед.

— Я заглянуў і сказаў ёй. Так сказаў, што зарумзала ажно.

— Дзед Яўмен! Паехалі, — паклікаў Пеця.

— Іду, іду, Пеця. Глядзіце-ж, начальнікі, праверу зноў, — пагразіў дзед і жвава пабег да сеялкі.

Вёска таксама здалася Машы незвычайнай, быццам за месяц, які яна адсутнічала тут, усё перайначылася, абнавілася.

У сапраўднасці нічога асаблівага не адбылося, акрамя хіба таго, што тады пачынаў раставаць снег, а цяпер з палісаднікаў бялела чаромха, ды больш стала над галавой правадоў: працягнулі электралінію. На кожнай хаце, над вокнамі, цяпер ужо было па дзве пары ізалятараў — маленькія і вялікія. Магчыма, што іменна правады гэтыя і надавалі вёсцы новы выгляд, якога яна ніколі не мела з дня свайго заснавання. Маша зайшла на калгасны двор. Некалі яна часта спрачалася з конюхамі, з Максімам з-за беспарадку, які звычайна панаваў на двары. Але цяпер нішто не выклікала ў яе пачуцця незадавальнення, пратэсту; усё тут было прыведзена да ладу. Толькі двое саней усё яшчэ стаялі каля канюшні, палазамі на зямлі. Маша знайшла конюха і пасароміла яго за гэтыя сані, загадала зацягнуць іх на вышкі.

Каля кароўніка яе сустрэла Клаўдзя ў белым халаце, распаўнелая і непрыгожая. «Няўжо і я такая была?» — падумала Маша і, успомніўшы сына, шчасліва ўсміхнулася.

Клаўдзя абняла яе.

— Даруй, Машанька, што не зайшла праведаць. Запрацавалася зусім. Якая ты прыгожая стала! А ў мяне сёння шчаслівы дзень. «Ластаўка» двух цудоўных цёлачак падаравала. Ідзем паглядзім. Вось Гайная шкадаваць будзе, што прадала «Ластаўку». Гэта-ж проста скарб — дзве такія цёлачкі! — Клаўдзя гаварыла бесперапынна, ведучы Машу за плечы па доўгім пустым кароўніку. Гной увесь выбралі, і ад зямлі ў кароўніку было вільготна і прахладна.

— Гавораць, што твой Васіль ад радасці прывёз табе з Мінска поўны чамадан падарункаў. Праўда? Мой Мурашка не дадумаецца... скупы, як маці...

Заўсёды гаманкая і вясёлая, у гэты дзень Клаўдзя была нейкай асабліва ўзбуджанай і шчаслівай — ажно ззяла ўся.

Вышаўшы з кароўніка, яны сустрэлі Максіма.

Ён запрагаў стаенніка, каб ехаць у поле. Прывітаўшыся, перайшоў на другі бок каня, каб сцягнуць хамут, і адтуль спытаў:

— Аглядаеш, Маша? Давай, давай. Хутка ўсёй гаспадаркай будзеш кіраваць.

Машы не відаць быў яго твар, і яна не магла зразумець. сказаў ён гэта з іроніяй, з насмешкай ці сур'ёзна.

Але, каб яна нават бачыла выраз яго твару, то ўсёадно не паверыла-б, што ён гаворыць сур'ёзна. Яна з непакоем падумала, што, мабыць, у яго зноў нейкая непрыемнасць і ён, відаць, зноў лічыць, што вінавата ў гэтым яна або Васіль, інакш з якой рады яму гаварыць так...

— Што здарылася, Максім?

Ён выглянуў з-за каня, твар яго быў вясёлы і прыветлівы.

— Нічога не здарылася.

— А чаму ты гаворыш глупства?

— Ты яшчэ не прывыкла да таго, што я даўно пакінуў ужо рабіць і гаварыць глупствы? Скажы, калі ласка, Лазавенку, што экскаватар сёння канчае работу. Няхай пазвоніць, каб хутчэй забралі, а то давядзецца плаціць за лішні дзень. І няхай фарсіруе распілоўку. Нехапае дошак для насціла вадабоя.

Ён ускочыў на воз, але Маша затрымала яго.

— Трактарысты скардзяцца, што Вольга не смачна гатуе... Трэба даць другога чалавека.

— Скардзяцца, магчыма, і правільна, мне маці таксама гаварыла... Але ты ведаеш, шэф-повара ў нас няма.

— Зноў ты...

— Ну, ну!.. А каго, сапраўды, даць?

— Ведаеш што? Дазволь мне знайсці патрэбнага чалавека. Адзін з трактарыстаў мой брат, і я сама паклапачуся...

— Правільна. Калі ласка. Табе і карты ў рукі. Пачынай з маленькага...

Максім тузануў за лейцы, засвістаў нейкую незнаёмую мелодыю.

Маша доўга здзіўлена глядзела яму ўслед.

Сходзіўшы на поле, да капцоў, дзе жанчыны яе брыгады перабіралі бульбу, яна заглянула ў сваю хату, у кватэру трактарыстаў, прывяла там усё да ладу, вышаравала падлогу, памыла Пецеву кашулю. Перад тым, як пайсці ў Дабрадзееўку, забегла да Сынклеты Лукічны, да якой адчувала вялікую ўдзячнасць. Сынклета Лукічна першая з лядцаўскіх жанчын прышла яе адведаць пасля родаў, як самы блізкі, родны чалавек, і расчуліла Машу да слёз. Аднак ішла

Маша ў іх новую хату, дзе яшчэ ні разу не была, з нейкім дзіўным хваляваннем, быццам нечага баючыся, і супакоілася толькі тады, калі пераступіла парог і ўбачыла Сынклету Лукічну. Тая сядзела на ляжанцы і перабірала бураковае насенне. Убачыўшы Машу, яна лёгка саскочыла на падлогу, пайшла насустрач.

— Вось добра, што зайшла, Машанька. А я ўбачыла, як ты цераз гароды бегла, сяджу і думаю: няўжо не зойдзе? Бегаеш ужо? Не ўседзела?

— Хіба можна ўседзець у такі час?

— Але лаяць цябе, відаць, няма каму. Куды глядзела Кацярына, што адпусціла цябе так?

Маша здзівілася.

— А што такое? — і спалохана агледзела сябе.

— У адным плацці...

— Горача, цётка Сыля!

Старая ласкава павяла далоняй па яе поўных тугіх грудзях.

— «Горача!» Адразу застудзіш. Вецярок вясновы, здаецца, і цёплы, а на самай справе... адразу прахопіць. Тады паносішся. Я табе цёплую кофтачку дам, мне Жэня пакінула...

— Ну, што вы, цётка Сыля! Няёмка. Зусім цёпла!

Сынклета Лукічна правяла яе ў пярэдні пакой, усадзіла на канапе каля стала.

— Ты не слухай, калі расказваюць, што раней у полі раджалі, на другі дзень на работу ішлі і — нічога быццам, здаровыя былі. Ведаю я гэта. Сама Аляксея ў полі нарадзіла... У шаснаццатым годзе гэта было. Антон на вайне быў, на мне ўся гаспадарка была... Хоць колькі той гаспадаркі было!.. Дык што ты думаеш, так гэта і прайшло? Ледзь ачуняла пасля. Ды што гаварыць! Не дарма Савецкая ўлада так клапоціцца пра нас. Самі толькі мы не ўмеем берагчы сябе...

Яны гутарылі пра розныя жаночыя турботы, пра справы ў калгасе, пра людзей. Параіліся, каго папрасіць гатаваць страву для трактарыстаў і даглядаць за хатай і вырашылі ўзяць нявестку дзеда Яўмена.

— А я дапамагаць ёй буду, — паабяцала Сынклета Лукічна.

Маша спяшалася дамоў — пара было карміць малога. Гаспадыня выйшла разам з ёй на двор і тут, на ганку, затрымала нечаканым пытаннем. Маша яшчэ ў хаце зразумела, што яна хоча нешта сказаць ці спытаць, але не адважваецца.

Сынклета Лукічна ўзяла яе руку, заглянула ў вочы.

— Даўно, Машанька, хацела ў цябе спытаць. Ты бліжэй там... Скажы, будзь ласкава... Будзе ў іх што?.. Кахае яна яго?

Маша зразумела пра каго яна пытае, за каго так хвалюецца.

— Далібог, цётка Сыля, не ведаю. Алеся, на канікулах калі была, гаварыла, што кахае.

— А адкуль Алеся ведае?

— Яны сябруюць з Лідай. Пісьмы пішуць...

— Калі кахае, дык чаму яна так за нос яго водзіць? Не разумею я такога кахання. Нічога ў іх, відаць, не будзе. Ён-жа вырашыў вучыцца ехаць.

— Вучыцца? — здзівілася Маша.

— Рыхтуецца экзамены за дзесяцігодку здаць. Дзень і ноч сядзіць. Проста не пазнаю я яго, — яна ўздыхнула і тут-жа, нібы засароміўшыся сваёй слабасці, узняла галаву, горда сказала: — Ну, што-ж... няхай павучыцца.

## 19

У чэрвені адкрылі гідрастанцыю.

Надвячоркам у суботу пачалі сыходзіцца і з'язджацца калгаснікі з Дабрадзееўкі, з Раднікоў, з Гайнаўкі. Моладзь ішла групамі, з гармонікамі, з песнямі, па-святочнаму апранутая.

Вечар быў, як знарок заказаны. Раніцой прайшоў добры дождж, але к палудню распагодзілася, высахла раса на траве і дрэвах. Аднак не высахлі дарогі, не ўзнімаўся пыл. К вечару на небе не засталося ніводнай хмурынкі, яно было бяздонна-глыбокае, празрыста-блакітнае. Было крыху прахладна. Зусім сціхнуў вецер, нават не трапяталася лісце вярбы.

Сонца зайшло за дабрадзееўскія таполі, верхавіны якіх ледзь выглядалі з-за ўзгорку. Над ракою, над балоцістымі мясцінамі лугу збіраўся туман. Вузкая пасма яго павісла і ў дальнім канцы прадаўгаватага возера, што ўтварылася тут за два дні пасля таго, як закрылі апошнія застаўкі. Нерухомым люстрам, упіраючыся ў плаціну, ляжала гэтая водная гладзь, адлюстроўваючы неба і дубы, пад самыя корані якіх падышла вада. Час-ад-часу па вадзе разыходзіліся шырокія кругі: смялейшыя хлапчукі кідаліся ў возера з высокага пня ад вярбы, што стаяла некалі над самай рэчкай.

Дзед Піліп Мурашка, прызначаны за вартаўніка гідрастанцыі, пагражаў ім кіем. Але гэтая небяспека толькі больш заахвочвала хлапцоў.

Людзі падыходзілі да калгаснага двара па дарозе, ішлі па насыпу земляной плаціны, па мастку на другі бок, дзе пад дубамі на роўнай пляцоўцы была паспешліва збіта з дошчак трыбуна. Адгэтуль было відаць, як гараць яркай чырванню ад праменняў сонца шыбы шырокіх вокан будынка гідрастанцыі. Адной наіўнай бабульцы нават здалося, што там, у будынку, ужо гарыць «электрыка». З яе весела

пасмяяліся. Наогул на пляцоўцы з кожнай хвілінай усё прыбывала смеху, жартаў і проста шуму. Гарманісты з Раднікаў і Гайнаўкі гралі кожны сваё і перашкаджалі адзін аднаму.

Старэйшыя спыняліся на мастку, глядзелі цераз парэнчы ўніз на прасмалены насціл вадабоя, на шчэбень рысбермы, заглядвалі ў рабочую камеру.

— Рабілі, рабілі, а глядзець няма на што... Застаўкі ды невялічкая будынінка, — здзіўляўся Раднік.

— Хто не ведае, таму цяжка паверыць, што тут, пад намі, тысячы кубаметраў лесу, — заўважыў Васіль Лазавенка.

— Тысячы кубаметраў? — усумніўся нейкі стары з Гайнаўкі. — Невжэ тышча?

— А зямлі колькі! А шчэбеню! Цяжка і падлічыць, — паважна тлумачыў Дзяніс Гоман, начальнік станцыі, дастаючы з кішэні зашмальцаваную запісную кніжку, дзе ў яго ўсё было занатавана. Звычайна гэты чалавек хадзіў запэцканы, замаслены, а сёння выглядаў вельмі ўрачыста — у новым гарнітуры, з гальштукам, праўда, няўмела завязаным. Ён адчуваў сябе імяніннікам: будаўнік станцыі і будучы кіраўнік яе. А з лакамабілем справіцца яго сын, Цімох, якога ён за два гады навучыў гэтай найвышэйшай прафесіі — механіка і электрыка.

Гайная прыйшла пехатою, на чале вялікай групы дзяўчат.

Апранутая яна была, як і большасць дзяўчат, у белую вышываную кофтачку і ў сінюю спадніцу, з вышываным фартухом. І выглядала яна так значна маладзейшай, чым у звычайнай сваёй вопратцы.

Падышла і весела выгукнула:

— А ну, хлопцы, падывітэся на маіх дзяўчат. Вам такія красуні і не сніліся!

— Можна падумаць, што ты, Кацярына Васільеўна, не так дзяўчат сваіх хваліш, як самую сябе, — насмешліва прамовіў Васіль, які стаяў у гурце мужчын і якога яна спачатку не ўбачыла.

— А-а, Васілёк — калючы язычок. Здароў буў, шчоб ты да ста рокіў здаровы буў. А хіба я така лядашча, шчо і пахваліць не можна? Да мэне шчэ дужэ гарна людына сваталася ўчора.

Жартавалі, смяяліся.

Сапраўды, хлопцы з іншых вёсак, быццам па камандзе, ураз абкружылі украінак.

Гайная задаволена смяялася.

— А што, саколе, мой Васіле, не казала я табе, што мае дзяўчаты заваюють тваіх хлопцаў. Была-б і я рокіў на дваццаць малодшая, буўбы і ты ў маіх руках, як даражэнькі.

— У такіх выпадках кажуць: бабка на двое варажыла — або гэтак або так.

Сонца схавалася за ўзгоркам, пагаслі шыбы, толькі верхавіна дуба была яшчэ асветлена, ды палымнеў чырвоны сцяг над гідрастанцыяй. Цёмнасіняй зрабілася гладзь вады, спахмурнела, на сярэдзіне пакрылася дробнымі зморшчыкамі.

Прыехалі ў адкрытым «газіку» Макушэнка, Бялоў і Ладынін.

Мітынг адкрыў Васіль Лазавенка кароткай прамовай і падзякай партыі і ўраду за дапамогу, якую атрымалі калгасы ў будаўніцтве гідрастанцыі.

Дзяніс Гоман і Максім Лескавец у гэты момант працягнулі на мастку істужку.

Усіх, хто спазніўся, дзед Пііп не прапускаў, і яны мусілі пераходзіць рэчку ніжэй плаціны, дзе вада ледзь пакрывала дно рэчышча. Адзін Гольдзін угаварыў дзеда: яму трэба было тэрмінова арганізаваць буфет, і ён, разам з крамшчыцай Гашай, падлазячы пад істужку, насіў скрынкі з гарэлкай і закуссю. Бялоў употайкі пагразіў Гольдзіну кулаком, і той пакорліва зняў шапку і з нявінным выглядам пачаў слухаць прамоўцаў. Выступалі каротка нават тыя, хто звычайна любіў пагаварыць — усе прагнулі хутчэй убачыць вынікі сваёй працы.

Гайная скончыла сваю прамову нізкім паклонам:

— Спасыбі вам, сусідзі нашы дарагі, браты нашы рідны, за вашу міцну дружбу. Няхай світло цэ, шчо запалыцца зараз, освітыць нам шлях до комунізму!

Непрыкметна і хутка змяркалася. Хто выступаў апошнім, тым цяжка ўжо было чытаць свае нататкі.

Макушэнка абвясціў, што лічыць міжкалгасную гідрастанцыю адкрытай. Покуль грымелі апладысменты, ён спусціўся з трыбуны. Ліда падала яму нажніцы, ён накіраваўся да плаціны. Шчыльнай сцяной рушылі за ім усе прысутныя.

Сакратар райкома перарэзаў істужку і разам з Дзянісам Гоманам узяўся за ручкі калаўрота. Скрыпнула ў цішыні дрэва, бразганулі жалезныя ланцугі аб кручкі застаўкі. І раптам усё заглушыла вада, што напорна хлынула ў турбінную камеру. Дзяніс Гоман хутка ўскочыў у памяшканне, пакруціў штурвал. Глуха застукала турбіна, ляснуў пас, тонка заспяваў ненагружаны генератар.

Людзі з цікавасцю зазіралі праз адчыненыя дзверы і вокны ў змрок будынка. Макушэнка агляну ўся на іх і адчуў, што хвалюецца, хвалюецца разам з імі.

— Уключайце, Пракоп Пракопавіч!

Ён падышоў і апусціў рубільнік. Гоман у гэты міг шчоўкнуў уключацелем на сцяне. Святло ўдарыла ў вочы, на момант асляпіла. На вуліцы голасна закрычалі «ура». Дзеці з гэтым крыкам шпарка пабеглі па мосце ў бок вёскі, іх «ура» яшчэ доўга гучэла недзе там, на вуліцы.

Дрыжэў будынак ад работы турбіны. У вадзе адбіваліся ліхтары, што ярка асвятлялі ўсю пляцоўку, па якой разышліся калгаснікі — хто да баяністаў, хто да буфета.

Весела засвяціліся вокны лядцаўскіх хат. Далёкімі зоркамі мільгалі ў другім баку агні Гайнаўкі. Дабрадзееўкі і Раднікаў не было відаць за сасоннікам і ўзгоркамі.

— Радасна глядзець на такую карціну! — кіўнуў Бялоў на вёску.

Выгнаўшы з будынка гідрастанцыі, яны спыніліся на мосце і азіралі наваколле.

— Люблю святло, — ціха і задуменна гаварыў Макушэнка, разглядаючы, як калышацца ў вадзе адлюстраванне ліхтара.

Маша ўзяла Васіля пад руку, прыціснулася да яго пляча, ціха засмяялася і шэптам сказала:

— А я, здаецца, больш за ўсё на свеце люблю свайго Паўліка. Я паеду, Вася!

Васіль стаяў, глядзеў і думаў, што Лескавец залішне многа навешаў усюды ліхтароў. Сапраўды, уся вуліца была заліта святлом, шмат было лямпачак і на калгасным двары і нават у садзе.

— Навошта яму такая ілюмінацыя, скажы, калі ласка? Вось-жа любіць чалавек бліснуць! — Васіль паціснуў плячыма.— Пачакай хвілiначку. Паедзем разам.

— Нельга, Вася, табе ехаць, Максім пакрыўдзіцца. Я паеду з Нінай Аляксееўна!!

Шырокую трыбуну хутка перарабілі ў падмосткі. Выступаў харавы калектыў раённага дома культуры і хор калгаса «Дружба». Гайная ганарылася сваім хорам, які ездзіў нават у Кіеў на рэспубліканскі агляд самадзейнасці. Спявалі яе дзяўчаты сапраўды добра — зладжана, з вялікай цеплынёй, укладваючы ў кожную песню душу.

Гэта быў вечар песні. Адна за адной, то вясёлыя, шумныя, то працяглыя і шырокія, ліліся песні ў прастор, ляцелі над лугам, над палямі, дзе каласіліся жыты, прагна пілі пасля дажджу сокі зямлі.

Спявалі на трох братніх мовах. Беларусы з любоўю, з веданнем і густам, выконвалі украінскія народныя песні, украінцы з такім-жа захапленнем і такой-жа шчырасцю спявалі беларускія. А перад пачаткам выступленняў абодва хоры злілі свае галасы ў «Песне о Сталине» і ў «Песне о Родине» — песнях аб самым блізкім і дарагім,

што напаўняла сэрцы людзей у той вечар. Да іх далучаліся дзесяткі слухачоў, падхапіўшы любімыя песні.

Гайная, якая вельмі любіла спяваць сама, таксама падпявала і выцірала слёзы замілавання. Калі выступаў яе хор, яна ўсхвалявана выгукнула:

— Дзе гэты сухар Лазавенка? Няхай паслухае, тады, можа, ён пераканаецца, чый калгас лепшы.

Песні так захапілі ўсіх, што нават апусцела каля буфета. Гольдзін сядзеў на бервяне над самым абрывам, кідаў у ваду папяровыя пробкі і скардзіўся дзеду Піліпу:

— Усе патрабуюць: таварыш Гольдзін, давай твой фінансавы план. А паспрабуй, ідзі дай яго з гэткімі людзьмі. Такі дзень! У такі дзень павінна было быць выпіта гарэлкі столькі, колькі вады ў гэтым возеры. Але калі адзін разумны чалавек прапанаваў зрабіць банкет — дык што вы думаеце? Усе сказалі: не, будзем слухаць песні. І слухаюць. А ты, Гольдзін, выконвай свой план як хочаш. Цябе паклічуць і спытаюць...

Дзед Піліп спачувальна ўздыхаў.

## 20

Максім адшукаў у натоўпе Ліду і запрасіў зайсці да яго ў госці — адзначыць гэтую ўрачыстасць. Ён доўга дамагаўся, каб адкрыццё гідрастанцыі адсвяткаваць больш шырока — зрабіць агульны банкет, як звычайна паказваюць гэта ў фільмах, апісваюць у раманах. Ён нават падрыхтаваў месца ў садзе, загадаў манцёрам, як мага больш навешаць там ліхтароў. Але Лазавенка і Ладынін выступілі супраць гэтай яго задумы, іх падтрымала Гайная: дорага калгасам каштаваць будзе такая раскоша. Максім, урэшце, згадзіўся з імі, аднак усёадно лічыў сваім абавязкам зрабіць хоць невялікі пачастунак у сваёй хаце, за свае ўласныя сродкі. Дарэчы, гэта падказала яму маці: Сынклеце Лукічне вельмі хацелася, каб у такі незвычайны дзень сабраліся ў яе новым доме за святочным сталом дарагія ёй людзі — паплечнікі мужа, настаўнікі і сябры сына.

... Ліда сур'ёзна выслухала яго запрашэнне, падзякавала і, не адказаўшы ці прыдзе, прапанавала:

— Давай пройдземся, Максім, — і ўзяла яго руку, лёгка сціснула пальцы.

Токам ударыў у яго сэрца гэты раптоўны дотык. Ніколі яшчэ Ліда не была з ім такой уважлівай і ласкавай, заўсёды яна кпіла і жартавала. Ён нават спачатку ўсумніўся ў яе шчырасці і насцярожыўся — як-бы яна не выкінула яшчэ які-небудзь нечаканы жарт.

Яны пайшлі па сцежцы, што вяла ад гідрастанцыі на зарэчную дарогу. За імі паляцелі апладысменты. Гучны голас абвясціў:

— Ой, хмелю, мой хмелю!

Высока ў неба ўзнялася знаёмая мелодыя песні, запяваў адзін мужчынскі бас, паважны, спакойны:

Ой, хмелю, мой хме-е-е-лю
Хмелю ма-ла-дзе-е-енькі-і...

Дружна падхапіў хор, працягнуў апошнюю ноту запявала, тонка, галасіста:

— І-і-і-...
Дзе-ж ты, хмелю, зіму зімаваў
Тай не развіваўся?

— Я маю крыўду на цябе, Максім, — сказала Ліда, калі яны вышлі з асветленага круга ў белы змрок ночы.

— На мяне? Завошта?

— Усе ведаюць пра твой намер ехаць вучыцца, пра тваю заяву ў райком, адна я не ведаю. Хіба так робяць сапраўдныя сябры?

— Ліда! Вы павінны зразумець мяне...

— Максім, ты адважышся калі-небудзь гаварыць мне «ты»?

Ён захлынуўся ад радасці, не мог вымавіць ніводнага слова і, спыніўшыся, балюча сціснуў яе руку.

— Ты мядзведзь, Максім... Ідзем.

— Мяне маглі не адпусціць... — шэптам прамовіў ён.

— Цябе адпусцілі і будуць падтрымліваць...

— Ліда! — ён не ведаў, што рабіць, якія пачуцці выказваць перш за ўсё. Ён не мог зразумець, задаволена яна, што ён пойдзе вучыцца, ці не задаволена. Але ён зразумеў адно, самае галоўнае, самае радаснае для яго.

Шчасце, як і гора, часта прыходзіць нечакана.

Максім зусім разгубіўся.

— Я чула сёння размову бацькі з Макушэнкам і Бяловым. Бялоў выказаўся супраць, як толькі Макушэнка паказаў заяву. Ускіпеў, як заўсёды, закрычаў: «Лепшы старшыня, толькі чалавека на ногі паставілі... Здае за дзесяцігодку — слава яму і гонар, няхай і далей прадаўжае гэтак-жа, без адрыву ад вытворчасці... Дапаможам... Практычная работа — найлепшая школа...» Тады Макушэнка ў бацькі спытаў, як ён думае. Бацька адказаў: «Мы з табой, Пракоп Пракопавіч, інстытуты скончылі, дзякуючы партыі. А такім, як Лескавец, вайна перашкодзіла. А таму на яго жаданне мы можам адказаць толькі адно: у добры час, таварыш Лескавец!» Макушэнка адказаў: «Правільна, вучыцца кожны мае права. Але, кажа, вучыцца там, куды

просіцца Лескавец, — гэтае права трэба заваяваць...» Вось як! Ты заваяваў?

Максім яшчэ больш сумеўся ад гэтага нечаканага пытання, не ведаючы, што адказаць. Але, на шчасце, Ліда не чакала адказу:

— Адным словам, усё вырашана. Бялоў, праўда, пакрычаў трохі... «А каго, кажа, вы паставіце на месца яго?» «Лескавец сам прапанаваў кандыдатуру і кандыдатуру вельмі добрую:», — адказаў бацька... Сапраўды, Максім, ты сам прапанаваў Машу? — павярнулася да яго Ліда, дапытліва заглянула ў твар.

— Але... Я ўпэўнены, што яна будзе кіраваць калгасам лепей, чым я. І выберуць яе аднагалосна!

Ліда ўсміхнулася.

— Які ты самакрытычны стаў! Супраць Машы нават і Бялоў нічога не мог сказаць, толькі буркнуў: «Не люблю я кіраваць бабамі». Дзівак-чалавек!..

Максім усё яшчэ быў у палоне шчаслівых пачуццяў і прыемнай разгубленасці і ніяк не знаходзіў патрэбных слоў.

Ліда таксама змоўкла, задуменна ўзіраючыся ў дзівосныя постаці вербаў-прысад, залітых святлом месяца.

Яны вышлі на дарогу і, павярнуўшыся назад, спыніліся. Прыгожа адгэтуль, з узгорку, выглядалі Лядцы ў тую ясную чэрвеньскую ноч! Вісеў над вёскай няпоўны месяц, а пад ім зіхацелі электраагні. Самыя яркія былі каля гідрастанцыі, у яе шырокіх вокнах, на фоне якіх добра вырысоўваліся постаці людзей. Постаці мільгалі адна за адной, як на экране. Выступленне хораў скончылася і на пляцоўцы танцавала. Залівалася баяны. Дзявочы голас спяваў вясёлыя частушкі.

... Маўчанне рабілася няёмкім, і Максім сказаў:

— Вось зараз мне стала крыху шкада, што прыдаецца пакінуць гэта, — ён паказаў рукой у бок гідрастанцыі. — Вялікія магчымасці яна адкрывае. Цяпер, ведаеш, так здаецца, што і працаваць святлей стане, усе промахі будуць відаць...

Ліда хутка глянула на яго, бліснула зубамі; каб было святлей, ён убачыў-бы ў яе вачах гарэзлівыя агеньчыкі.

— А я шкадую, што не магу паехаць разам з табой.

Пасля гэтых яе слоў ён страціў уладу над сабой, над сваімі пачуццямі. Яна не ўправілася апомніцца, як ён падхапіў яе на рукі, моцна прыціснуў да грудзей, упіўшыся ў яе вусны. На міг Ліда абхапіла рукамі яго шыю, потым адкінула галаву, уперлася рукамі ў яго грудзі, сурова загадала:

— Пусці!

Ён асцярожна паставіў яе на зямлю.

Ліда сказала сур'ёзна, але зусім не злосна:

— Ты — вар'ят, Максім. У цябе вывіхнутыя думкі... Бацька кажа, што я слаба падрыхтавана для паступлення ў аспірантуру. Ты ведаеш, які ён патрабавальны...

— Разумны чалавек твой бацька... Не ўяўляю цябе вучонай. Але хочаш, я на руках данясу цябе да Мінска?

Яна адступіла ад яго і паківала галавой.

— Не, ты сапраўды хворы, — яна жартаўліва працягнула руку да яго ільба. Ён схапіў гэтую руку, зноў прыцягнуў дзяўчыну да сябе.

Не адымаючы рукі, Ліда сказала:

— Ты, мабыць, зусім забыўся, што цябе чакаюць госці?

Максім схамянуўся: сапраўды, ён забыўся на гэта,

— Але... Пойдзем.

— Ты ўсіх запрасіў ужо? Ну, дык ідзі проста па дарозе, а я пабягу танцаваць.

— Ліда, я прашу цябе...

— Я паважаю старых, але не люблю доўга быць у іх кампаніі. Сумна.

— Выходзіць, што і я стары?

— Не, ты — юнак, — яка зноў весела засмяялася.— Да сустрэчы, Максім! Чакаю цябе заўтра.

І, махнуўшы рукой, збегла з дарогі на сцежку, шпарка пайшла насустрач агням і музыцы.

Ён хацеў быў кінуцца за ёй, але стрымаўся і толькі з захапленнем і радасцю прашаптаў:

— Да сустрэчы, — і ўдыхнуў поўныя грудзі пахучага начнога паветра.

Сапраўды, госці чакалі гаспадара, і ўсхваляваная маці сустрэла яго папрокам. У яе даўно ўжо ўсё было падрыхтавана і пастаўлена на сталы, залітыя святлом двух стосвячовых лямпачак.

У адказ на яе папрок Максім ласкава абняў маці.

— Нічога, мама. Усё добра, што канчаецца добра.

Яна здзівілася і ўзрадавалася таксама, хоць і не ведала дакладна прычыны такой незвычайнай узрушанасці сына.

Ён папрасіў у гасцей прабачэння, але так, быццам быў надзвычай задаволены, што спазніўся і прымусіў іх чакаць.

Адны Ладыніны адразу зразумелі прычыну такога настрою Лескаўца. Ірына Аркадзеўна ўздыхнула. Ігнат Андрэевіч глянуў на жонку і нахмурыў свае калматыя бровы.

... Селі за стол.

— Ну, першы тост належыць старэйшаму сярод нас, — прапанаваў Макушэнка.

— Нікалай Лявонавіч? Не, Ігнат Андрэевіч.

Ладынін падняў руку, просячы ўвагі.

— Не, таварышы. Старэйшая сярод нас Сынклета Лукічна.

Яна збянтэжылася, спрабавала адмовіцца, але калі пераканалася, што ўсе настойліва жадаюць, каб іменна яна сказала першае слова, паднялася і перайшла з краю, дзе была прымасцілася, да сярэдзіны стала, спынілася каля сына. Падняла чарку, лёгка ўздыхнула, выцерла ражком хусткі куточкі вуснаў.

— Вып'ем, госці дарагія, за святло. За гэтае вось святло, — яна паказала на лямпачку, — і за ўсё святло жыцця нашага, якое даў нам родны наш таварыш Сталін. За здароўе яго!

Госці ўсталі, заапладыравалі, выпілі чаркі да дна.

Неўзабаве паднялі яшчэ некалькі тостаў, і ўсе такія значныя і шчырыя, што-не выпіць было нельга, нават таму, хто звычайна ў рот не браў віна.

Але ніхто не п'янеў, і размова не рабілася бязладнай, як гэта бывае часам, калі пасля трох-чатырох добрых чарак святочны стол ператвараецца ў вулей: кожны гудзіць пра сваё. У гэты вечар, калі пачыналася пра што размова, дык у ёй удзельнічалі ўсе. Гаварылі спакойна, памяркоўна, — па-гаспадарску пра будучы ўраджай і выкарыстанне электраэнергіі, пра знаёмых людзей і пра жыццё наогул, пра дзяцей і навучанне — пра ўсё, што хвалявала іх у той дзень.

Разышліся на світанні.

Макушэнка загадаў шафёру падвезці дадому Гайную, а дабрадзееўцам прапанаваў прайсціся пехатою. Максім пайшоў разам з імі.

Раніца была ціхая і прахладная. На траве, на пасевах ляжала густая раса. Днела — шырылася светлая паласа на ўсходзе. На захадзе, дзе яшчэ трымалася ноч і неба было цёмнае, згасалі апошнія зоркі.

Раптам у вышыні над Дабрадзееўкай загудзеў самалёт. Усе спыніліся, адшукалі вачыма тры зорачкі — чырвоную, зялёную і белую — і доўга сачылі за імі. Самалёт ляцеў на ўсход, і хутка на фоне пасвятлеўшага неба стаў відаць яго сілуэт.

— Пасажырскі, — прамовіла Ірына Аркадзеўна.

— А ведаеце, — звярнуўся да ўсіх Бялоў, — прыемна, калі вось так над тваёй галавой праплывае самалёт...

— Мірны самалёт, — падказаў Ладынін.

Васіль усхвалявана сарваў сцяблінку жыта, паднёс зялёны каласок да твару.

— А я зараз успомніў, што якраз у такі вось час, на світанні, мяне першы раз раніла. Наляцелі «юнкерсы», пікіроўшчыкі, павіслі ў такім-жа ясным небе... У такім-жа вось жыце, у разоры, я ляжаў...

Ірына Аркадзеўна дакранулася да яго рукі, ласкава папрасіла:

— Не трэба, Вася.

— Чаму не трэба? Не, наадварот, забываць гэтае не трэба, тады мы будзем мацней любіць і гэты мірны самалёт, і гэтае жыта... і ўсё... Усё, што створана нашымі рукамі... нашай працай.

— Правільна, забываць нельга, — падтрымаў яго Макушэнка, які дагэтуль маўчаў.— І мы не забываем, Васіль Мінавіч. І жыццё сваё, краіну сваю з кожным днём любім усё мацней! Але я, калі глядзеў на самалёт, адчуў яшчэ адно. Гордасць за чалавека, за чалавека — тварца, будаўніка... За нас з вамі. Нашым розумам, нашымі рукамі створаны і самалёт і тысячы іншых выдатных машын... Мы пакарылі прастору, вышыню, час, перамагаем смерць... У імя жыцця... У імя шчасця. Мы — ворагі смерці і разбурэння. І ў гэтым сіла наша!..

Зноў разгаварыліся — пра чалавека і яго справы, пра мір на зямлі. Адзін Максім маўчаў: ён няспынна думаў пра Ліду, пра сваё шчасце і сваю вучобу. За размовай не прыкмецілі, як зусім развіднела. Белая паласа на ўсходзе пачырванела, разгарэлася. Срэбрам заблішчэла раса. На травяністай дарозе заставаліся зялёныя сцежкі слядоў. У Дабрадзееўцы санліва замычэлі каровы, а ззаду, у Лядцах, глуха застукала турбіна. Пасля невялікага ў тую ноч перапынку, гідрастанцыя давала першы ток на вытворчыя патрэбы. У гэты момант Гайная, абкружаная даяркамі, выпрабоўвала на сваёй ферме першы электрадаільны апарат. З такімі-ж апаратамі падыходзілі да кароў даяркі ў «Волі».

Прачнулася і карміла свайго сына Маша, пяшчотна спяваючы яму калыханку.

Высока ў неба зазвінеў ранні жаўранак.

Пачынаўся новы дзень,-

# ЭПІЛОГ

Мінула два гады.

У ліпеньскі дзень з гасцініцы «Беларусь» вышаў Васіль Лазавенка. Спыніўся на ўсходцах, зажмурыўся ад сонца, па прывычцы глянуў на неба, падумаўшы, што ў калгасе канчаюць уборку сена. Надвор'е было спякотнае.

Васіль вышаў на Савецкую вуліцу; хацелася яму хутчэй глянуць на Мінск, у якім ён не быў ужо два гады.

Непазнавальна змяніўся горад за гэты час. Мала сказаць, што ён адбудаваўся, папрыгажэў. Не, гэта быў зусім новы Мінск, у цэнтры ў ім нічога не засталася ад мінулага, даваеннага горада. Шырокай роўнай магістраллю ішла далёка за Свіслач Совецкая вуліца. На ёй стаяла ўжо нямала новых шматпавярховых будынкаў, але яшчэ больш будавалася: адны камяніцы толькі падымаліся з-за дашчатых парканаў, другія мелі ўжо па чатыры-пяць паверхаў, трэція стаялі ў рыштаваннях, атынкоўваліся.

Кідаючы кароткія цені на асфальт, шумелі шматгадовыя ліпы. Васіль упершыню ўбачыў палівальную машыну. Яна павольна ішла пасярод вуліцы, выкідваючы ў два бакі вадзяныя фантаны, якія пераліваліся на сонцы, гарэлі вясёлкамі.

«Такая машына дарэчы і ў калгасе была-б», — падумаў Васіль, як заўсёды шукаючы, што можна выкарыстаць у сельскай гаспадарцы. Агледзеўшы горад, ён накіраваўся ў партыйную школу.

У вестыбюле школы было прахладна і пасля сонечнай вуліцы цёмна. Васіль на момант сумеўся, не ведаючы, куды ісці, у каго спытаць пра Лескаўца. Пайшоў туды, дзе было больш светла, і трапіў у прасторнае, прыгожае фае з калонамі. У ім размяшчаўся буфет, каля сцяны стаяў рад столікаў. За адным з іх сядзела чалавек пяць, перакусвалі, гарталі канспекты, кнігі, спрачаліся.

Васіль з усмешкай падумаў, што сталыя людзі, у якіх ужо, мабыць, дзеці вучацца ў інстытутах, паводзяць сябе перад экзаменамі, як звычайныя вучні, — гэтак-жа хвалююцца і гэтак-жа ліхаманкава, у апошні раз гартаюць, праглядаюць канспекты.

«Магчыма і ў шчылінку дзвярэй экзаменацыйнага пакоя заглядваюць».

За другім сталом сядзелі двое і спакойна пілі піва. Аднаго з гэтых дваіх нізкага, камлюкаватага, Васіль пазнаў: журналіст, работнік рэспубліканскай газеты. З год назад ён прыязджаў у калгас і пасля змясціў у часопісе вельмі няўдалы нарыс, у якім было многа наблытана,

пераўвялічана. Лазавенка напісаў тады пісьмо ў рэдакцыю, выказаў у ім агульнае абурэнне, якое выклікаў нарыс у калгаснікаў.

Журналіст агляянуўся і таксама пазнаў Васіля.

— Ба! Лазавенка! Калі ласка, просім. Знаёмцеся,— вядомы старшыня калгаса, пісьмо якога, — помніш? — грымела ў нас на рэдкалегіі. Мошна мне дасталося з-за вас, Лазавенка. Але я не крыўджуся. Наадварот, дзякую. Вось вучуся, упарта вучуся. А вы што, паступаць думаеце? Не? Ах, я забыўся. Вы-ж вучыліся завочна...

— У сельскагаспадарчым інстытуце, а вы напісалі ў тэхнікуме.

— Напісаў. Якога ліха я там не напісаў толькі! Выпіце піва.

— Хачу знайсці Лескаўца. Ведаеце?

— Ну! Хто не ведае вашага Лескаўца? — азваўся сябра журналіста.

Журналіст засмяяўся.

— Мне ад вас, а вось яму ад вашага сябра дасталося аднойчы. Ён быў членам партыйнага камітэта, і Лескавец яго на справаздачным сходзе так прапясочыў... Знойдзем вам Лескаўца. Ён, здаецца, здае сёння... Піце піва і расказвайце пра свой калгас.

... Неўзабаве Максім ускочыў у фае расчырванелы, узбуджаны. Сябры радасна прывіталіся. Максім сціснуў Васілёвы плечы, трасянуў яго.

— Загарэў. Здаровы, ліха на тваю душу! А я, бачыш, як схуднеў? Дзень і ноч сяджу над кнігамі. Але-ж затое і вынікі маю... Калі ласка! — ён выхапіў з кішэні і працянуў Васілю заліковую кніжку. — За два гады адна чацвёрка, а то ўсё выдатна. Бачыш? А ты не верыў у мае здольнасці!

— Верыў, Максім.

— Ну, давай пасядзім.

— Не, пойдзем. Я не адзін, з Машай.

— Дзе-ж яна?

— У гасцініцы чакае.

— Ну, як там мая Ліда? — спытаў Максім, калі яны вышлі на вуліцу і накіраваліся ў бок гасцініцы.

— Чакае цябе,

— Занудзіўся я за поўгода, прызнаюся. Расказвай, як аб'ядналіся. Як прайшло?

— О, брат, было спраў! З-за назвы калгаса ледзь за чубы не пабраліся. Лядцаўскія — «Партызан», дабрадзееўскія — «Воля». Ніяк не жадаюць адзін аднаму ўступаць. Разумееш, калгасы эканамічна амаль роўныя сталі і кожны хоча захаваць сваю ранейшую назву. Раднікаўцы, праўда, маўчалі. Нехта нават прапанаваў назваць «Воля партызана». І гэта падабалася большасці. Але Маша зрабіла прапанову, якую

падтрымалі ўсе... Эх, якая прыгажосць! — Васіль спыніўся перад бульварам на Комсамольскай вуліцы, зачараваны кветнікам, што падымаўся ў бок Совецкай вуліцы простай дарожка», вытканай незвычайнымі фарбамі кветак. — Прыгожа. Помніш, як тут было раскапана ўсё, калі мы былі на нарадзе?

— Дык як назвалі калгас? — спытаў Максім.

— Калгас імя Антона Лескаўца, — адказаў Васіль спакойна, звычайным голасам і рушыў далей па вуліцы.

Максім на крок адстаў і хвілін колькі маўчаў. Потым спытаў:

— Ну, а Маша дзе працуе?

— З-за Машы мне прышлося моцна паспрачацца з Бяловым. Прышло яму ў галаву зрабіць яе старшынёй узбуйненага калгаса ў Грабарах... Лепшы старшыня, ордэнаноска. Кадры, як ён кажа. Маша адмовілася. А Бялоў на мяне: гэта ты падгаварыў яе. Безумоўна, я. Бо што гэта за сямейнае жыццё за пятнаццаць кілометраў? Загадвае зараз фермай у нашым калгасе. Паабяцала, што праз год-два зробіць ферму лепшай, чым у Гайнай...

— Не лаецца гэтая неспакойная баба больш з-за энергіі? Помніш, як ёй здавалася, што мы крадзем яе энергію, адпускаем на яе падстанцыю менш, чым трэба. Узлавала яна мяне тады.

— Нічога, яна гаспадарлівая жанчына. Мы, як кажуць дыпламаты, нарэшце прызналі адзін аднаго дэ факто. Спаборнічаем. Аднак, што гэта я табе бясконца расказваю. Раскажы ты. Куды пасля школы? Ведаеш? Па партыйную работу, безумоўна?

— Не ведаю. На гутарцы ў сакратара ЦК я выказаў жаданне пайсці старшынёй узбуйненага калгаса. Думаю, што накіруюць. Ведаеш, хочацца мне паспрабаваць свае сілы. Адчуваю, брат, упэўненасць. Скажу табе шчыра, школа зрабіла мяне іншым чалавекам, сапраўдным сталым комуністам. Мне зараз самому смешна, які я быў блазнюк, ганарысты і ў той-жа час беспрынцыпны, нявытрыманы. Не ведаў ні жыццёвай практыкі, ні тэорыі. А вось, вывучыў тэорыю — і на жыццё інакш гляджу. Думаю, што цяпер нікому ўжо больш не давядзецца чырванець за мяне.

Васіль, сціснуў яго руку.

— Веру, Максім.

Наблізіліся да гасцініцы. Ужо на ўсходцах Максім спытаў:

— Прабач за цікаўнасць. Чаго вы прыехалі?

— Прычына, брат, такая, што няёмка і гаварыць. Ведаеш, непрывычна неяк яшчэ. За пакупкай адной.

Максім засмяяўся.

— «Пабеду»?

— Ну, што ты! — збянтэжыўся Васіль. — Хаця-б «Масквіча».

— Дарэмна. Я на тваім месцы купляў-бы «Пабеду».

Пуставатыя кішэні.

— Не гніся, Вася. Ты цяпер, мабыць, самы багаты чалавек у раёне, калі не ў вобласці...

У нумары гасцініцы Іх сустрэла Маша. Максім не бачыў яе год (калі ён прыязджаў на зімовыя канікулы, яна была на сесіі завочнікаў у тэхнікуме) і цяпер ледзь пазнаў, так яна змянілася — папаўнела і, здавалася, яшчэ больш папрыгажэла. Была яна ў зялёным, крыху цяжкаватым для такой спякоты, плацці, з ордэнам Працоўнага Чырвонага сцяга на грудзях.

Максім спыніўся ў дзвярах, зрабіў здзіўленыя вочы, развёў рукі. Яна крыху збянтэжылася, пачырванела, першая працягнула руку.

— Ну, пацалаваць цябе баюся — Лазавенка па шыі дасць... Але тваю працавітую, тваю залатую руку...

Маша зразумела яго намер, засмяялася.

— Я вось скажу Лідзе, чаму ты навучыўся тут, — і па-мужчынску моцна пацiснула яму руку.

Максім вышаў на сярэдзіну пакоя, агледзеўся, навокал.

— Я сёння здаваў гістарычны матэрыялізм, гаварыў Пра знікненне істотнай розніцы паміж горадам і вёскай. Адзін член камісіі папрасіў прывесці канкрэтны прыклад з нашага жыцця. Я прывёў, які вычытаў у кніжцы, але зараз не магу дараваць сабе, што не ўздумаў расказаць яму пра вас... Пра цябе, Васіль, — ён неяк непрыкметна палажыў руку на плячо Васіля, падвёў да яго жонкі, другой рукой абняў за плечы яе. — Пра цябе, Маша. Пра вас, дарагія мае сябры!

*1949-1952 гг.*